МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

# СЬЦЕЖКІ ДАРОЖКІ

РОМАН



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА МЕНСК 1928

МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ



# СЬЦЕЖКІ-ДАРОЖКІ

## Роман



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАУНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК——1928

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

ЛЯСЬНІЦКАМУ ўелася ў памяць, што ў той дзень, калі парасклеілі ў горадзе афішкі—маніфэсты цара Мікалая і вялікага князя Міхаіла Аляксандравіча, калі пачалося гэта трывожнае мятушэньне,—у той дзень сонца было яшчэ зусім зімовае—такое вятранае, халоднае, рэдкае. У той дзень быў ладны мароз—вуліцы ўкрыты былі вострай лядзянай грудай, а на панэлях, выцертых ветрам, было так сьлізка, што трудна было прайсьці.

Людзі марозу не баяліся і—цікавыя—цёрліся гурмай па вуліцах, нарастаючы купамі пры слупох, пры сьценах дамоў, дзе казыталі вочы вострай навізнай белыя паперкі—маніфэсты.

У той дзень у Лясьніцкага (гэта таксама доўга ён помніў) настрой быў раскіданы нейкі і лёгкі—такі бязгрунтоўны настрой. От невядома: ці то чаго хочацца, некуды цягне пайсьці, пабегчы, ці то сумна трошачку, ці можа ў сэрцы вальготнасьць расьце, гульлівасьць юнацкая—каб што зрабіць недарэчнае, сьмешнае...

Адно ясна: хочацца бесьперастанку хадзіць, шлындаць, цягацца без аніякае мэты, напрамку—так, куды вочы глядзяць.

Лясьніцкі ўжо колькі разоў прачытаў маніфэсты, помніў ужо слова ў слова, але ціснуўся ўсё-ткі, каб яшчэ прачытаць, бо на паперы словы былі жывей і важней:

„Божиею милостию, Мы, Николай Вторый, Император и Самодержец Всероссийский, Царь Польский, Великий Князь Финдляндский и пр. и пр. и пр...“

Да Лясьніцкага бокам прысунулася нейкая баба, закручаная ў нязьлічонае мноства адзежын і хустак, і прагамзіла з-пад пасінелага носу:

— Панічок! Аб чым гэта пішацца... Га? Што?.. Дрэнна чую я...

Лясьніцкі крыкнуў у падстаўленае вуха:

— Цара скінулі... Няма ўжо цара ў нас...

Старая глядзела колькі хвілін нярухомым поглядам некуды міма Лясьніцкага, перабірала сухімі вуснамі.

— Цара... скінулі... А хто-ж царом цяпер?..

— Ніхто! Няма зусім цара!—зноў крыкнуў Лясьніцкі...

— Няма...

І старая, адвярнуўшыся ад Лясьніцкага з недаверлівай мінай на твары, папаўзла чарапахай па вуліцы. Пэўна, ня ўцяміла, не разьдзяўбала старой галавой,у чым тут усё-ткі справа.

Лясьніцкі глядзеў ёй усьлед і сьмяяўся. Перавёў потым усьмешку на твар суседа, але сустрэў сівую бараду, кукарду, гузікі і напышліва-сур'ёзную міну.

— Малады чалавек, нельга над гэтым сьмяяцца... Цар— божы памазанік, і ня нам судзіць аб яго высокіх учынках...

У Лясьніцкага ў сэрцы закіпеў юнацкі задзёр. Хацеў адказаць нешта гарэзнае, але, пакуль надумаўся, было позна. Стары чыноўнік, навучальна кіўнуўшы яму галавой, ужо адвярнуўся і гаварыў з высокай салідной дамай. На Лясьніцкага з пагардлівай паблажкай зірнула колькі чалавек і сярод іх адна гімназістка. Пачырванеўшы ад нечаканага сораму, ён пасьпешна пакінуў гэтую купку людзей.

Праз колькі крокаў ён упёрся ў Халіму. Той раптам стаў яму на дарозе і прагудзеў сваім нутраным—глухаватым, але моцным голасам:

— Васілю... Шанаваньне...

Халіма цісьнуў руку з асаблівым фасонам—адрывіста неяк і аднэй толькі пясьцю свае медзьвядзёвае лапы. Быццам гэта пясьць яго недзе там цісьне, а ён і ня ведае, ён ня цікавіцца гэтым. Таму заўсёды выходзіла, што ад яго поціску ўсе раптоўна прысядалі і крывіліся.

— Ціху ты,—зморшчыўся ад болю Лясьніцкі.—Куды разагнаўся?

— Пойдзем хадзіць... Ты што робіш?

— Нічога.

— Я таксама... У кляс хадзіў?

— Дзе там!..

— І я... Ну, хадзем!..

Яны вышлі на Дняпроўскі проспэкт. Здавалася, што тут цяпер стоўпіўся ўвесь узрушаны горад і мятушыцца ў чаканьні нечага яшчэ яскравейшага, яшчэ цікавейшага, чымся было дагэтуль. Сярод агульнае цьмянае масы людзей на кожным кроку праразаліся бліскучыя постаці афіцэраў. Гэтыя ішлі ў большасьці шпарка, пасьпешна,быццам ім дужа некалі, быццам ідуць яны ў пэўнае месца, па пэўнай справе, быццам яны дык зусім добра ведаюць, у чым тут штука, чаго можна чакаць ад разьвіцьця далейшых падзей. А калі трапляўся дзе генэрал, дык яго важны напышаны твар выяўляў такую дзяржаўную мудрасьць і заклапочанасьць, што кожны сустрэчны ўпінаў у яго, як у нейкае дзіва, поўны страшэннай павагі погляд і пэўна сам сабе думаў:

„О, гэты ведае ўсё... Гэты—адтуль, мусіць, з самае стаўкі...“

Генэралам усе шырока давалі дарогу.

Абкружаныя нэрвовай сумятнёй гаварлівага натоўпу хлопцы дайшлі да канца проспэкту, дзе ў губарнатарскіх палацах зьмяшчалася царская стаўка. Там, як і раней, стаяла ўсё ў строгім спакоі, як і раней, не дазвалялі зьбірацца вялікімі гурмамі, далікатна прасілі ісьці сваёй дарогай. Стаялі салдаты-вартаўнікі, мільгалі сям-там дужыя фігуры асабовае царскае варты. Але чамусьці здавалася, што гэты парадак, гэты спакой толькі надворны, а там, унутры, пэўна бурліць усё-чыста, б'ецца ў сударгах вострай трывогі.

Халіма зьвярнуў увагу на двух цывільных, што круціліся недалёчка ад іх,—абодвы такія вяртлявыя, юркія.

— Бачыш... шпігі... Тут заўсёды іх поўна... Чуць што прымеціць—зараз на манжэту...

— Як на манжэту?

— Запісваюць, каб неўзаметку...

Лясьніцкі ўтаропіўся шырока расплюшчанымі вачмі ў нечакана раскрытых Халімам шпігоў і думаў, як гэта можна так запісаць, каб ніхто не заўважыў, і што ім тут трэба запісваць, гэтым хітрым пралазам.

У гэты момант адзін з іх, шапарнуўшы нешта таварышу, падаўся да хлопцаў. Лясьніцкі мімаволі адступіў з поўкрока назад, а Халіма нахабна выпяў уперад сваю грамоздную фігуру. Шпіг загаварыў лісьліва і разам з тым злосна:

— Дзівуецеся?

Халіма буркнуў:

— Глядзім...

— Ну й што-ж цікавага бачыце?

— Пакуль што нічога.

— А што чакаеце ўбачыць?

— Можа што ўбачым. Цяпер-жа ці мала цікавага робіцца...

— Ага... цікавага...

Шпіг раптам страціў сваю лісьлівасьць і зірнуў на хлопцаў з едкай падазронасьцю.

— Вы хто такія?

— Як бачыце, людзі.

— Якія людзі?

— Звычайныя.

Халіма сьмела нагрубіў шпігу, а той аж зелянеў ад злосьці. Кончылася гэта справа на тым, што шпіг палез ужо быў у кішэню за сваім жандарскім значком, маючы, як відаць, рашучы замер затрымаць назольлівых хлопцаў, але ў гэты момант нездалёк пачуўся шум аўтомобіля і ён рынуўся яму насустрэчу, сьцяміўшы, мусіць, што лепш паказацца лішні раз на вока начальству, чымся вантэжыцца з нейкімі нахабнікамі.

Хлопцы тады далі драла. Яны пайшлі на кватэру да Халімы, дзе разам з ім жыло яшчэ некалькі таварышоў. Сабралася цэлая кампанія. Усе дзяліліся сьвежымі ўражань-

нямі, усе апавядалі адзін аднаму пра новыя цікавыя падзеі. А потым знайшлі вясёлую забаву: пачалі дражніцца з гаспадыняй. На сьцяне вісеў царскі портрэт—яны перакручвалі яго дагары нагамі і клікалі за чым-небудзь гаспадыню. Маленькая істэрычная мяшчанка—багамольная і дабрачынная—з пенай на вуснах лаяла хлопцаў і папраўляла портрэт. А хлопцы моўчкі чакалі, пакуль яна выйдзе і з дружным рогатам браліся зноў за портрэт, зноў перакручвалі і зноў яе клікалі. Пасьля чацьвертага разу гаспадыня, нарэшце, даўмілася вынесьці з пакою портрэт, але лаяцца не пакінула— з кухні доўга яшчэ чуваць быў яе прарэзьліва-вісклівы голас.

Вясёлая кампанія адказвала на лаянку выбухамі гульлівага сьмеху.

УВЕЧАРЫ хлопцы сыйшліся на кватэры ў Лясьніцкага. Спачатку дражніліся з Нінай—гаспадарскай дачкой. Іначай ня можна з ёй, як не дражніцца. Так павялося даўно і ўвайшло ў абыкласьць.

Ніна наогул дзяўчына ня дрэнная. У яе дужа добрыя, троху хітраватыя вочы і дабрадушная ўсьмешка. Першае ўражаньне ад яе—ат, просьценькая дзяўчынка, ня вельмі разумная, але й ня дурная, будзе некаму некалі здатная жонка. Так тады ўсе і лічылі яе. Любілі з ёй часам пажартаваць, падражніцца, а сур'ёзна гутарыць з ёй не маглі, ці ня ўмелі—прынамсі ніхто ня ўмудрыўся. Казалі, нібы закахалася была яна ў Халіму. Над гэтым многа сьмяяліся. Наогул, у той час усё на сьмешкі прымалі: хлопцам было па якіх дваццаці меней гадоў—ня было ў іх дужа сур'ёзнасьці.

У пакоі ў Лясьніцкага было цесна. Сядзелі ўсе грудам на ложку, а хто на ляжанцы. Але была ў гэтым пакоі асаблівая такая халасьцяцкая прытульнасьць, якая ўзьнімала ўва ўсіх пачуцьцё таварыскай блізкасьці, рабіла ўсіх прыемнымі адзін аднаму.

Як вышла Ніна ў сваю палавіну і асталіся хлопцы адны, пайшлі анэкдоты, жарты, загрымеў здаровы малады сьмех. Потым, як Халіма расказаў анэкдот пра нейкага генэрала, а другі хлапец пра цара, неўзаметку перайшлі на сур'ёзную гутарку, загаварылі аб апошніх падзеях. Пачаліся спрэчкі.

Фактычна спрачаліся двое: Халіма і яшчэ адзін заўсёды дагэтуль ціхі нявідны хлапец у акулярах на маленькім кнопачкай носе, з поглядам глыбокім, уедлівым, якім ён нібы стараўся працяць усё, што трапляла на вочы. Калі гэты хлапец глядзеў проста, адкрыта ў твар каму-небудзь і калі ў яго акулярах наіўна бегалі іскрачкі бляску, тады яго вочы здаваліся старымі і добрымі. Тады нямінуча расла да яго ласка й сымпатыя. Звалі хлапца гэтага—Нікадзім Славін.

Ён гаварыў ціха й спакойна, але дрыжэньне голасу выдавала, што ён ўсё-ткі троху хвалюецца.

— Гэта насьпела даўно. Як вось вясной у рацэ... вада ўсё падымаецца, падымаецца, падымаецца, а потым і лёд крышыцца пачне... Можа, як гэтая рэчка, і сьлёзы народныя так... Вякамі зьбіраліся, цярпеў народ... Больш ужо некуды... вось і трашчыць... Ня можа так доўга цягнуцца, каб была такая няроўнасьць і зьдзек, каб людзі былі горш за скаціну...

Што да Халімы, дык той ня меў ніякага пэўнага погляду на тое, што дзеецца ў сьвеце, не адчуваў і пэўнае сымпатыі ні да старога ладу, ні да рэволюцыі. Таму ён нічога не гаварыў па сутнасьці Нікадзімавых слоў, а толькі ў нейкай дзікай, шалёнай злосьці біў кулаком па стале і лаяў жыдоў.

— Жыды вінаваты ўва ўсім, каб не яны, усё-б добра было... Біць іх трэба, у Палестыну гнаць... Тады й будзе парадак... У іх усе грошы, у іх улада ўся... Усіх купяць, сьцервы... Немцам Расію прадалі, акаянныя... Не, брат, мяне не ўгаворыш, не пераканаеш... Ня люблю, ненавіджу жыдоў, гатоў вось хоць зараз іх разарваць, вось дай мне яго... жывога... сюды... сволач пархатую...

І ён, крывячы твар у страшэнную міну, рабіў так рукамі, быццам рваў жывога жыда, і быццам жыд гэты быў, як кавалак паперы...

Хлопцы ўсе рагаталі, давольныя... Нікадзім зьлёгку ўсьміхаўся.

— Наіўны ты які... сьмешны... Да чаго тут жыды?.. Справа зусім у іншым... Лад такі ў нас цяжкі, што няможна трываць. А чаму ты ня любіш жыдоў, ты ня ведаеш, га? Таму, што гэта некаму трэба... А жыд такі чалавек, як і ты...

— Пайшоў к чорту!.. ня лезь! Ня люблю, цярпець не магу пархатых... Сваімі рукамі буду душыць...

Нехта крыкнуў:

— Бі жыдоў, ратуй Расію!..

І ўсе заліліся гульлівым рогатам. Зноў пасыпаліся жарты, анэкдоты.

Гадзіне а дзесятай частка хлопцаў разышлася, а частка асталася гуляць у дваццаць адно. Прышоў з начной работы, з чыгункі, сын гаспадара, Андрэй; таксама падсеў.

Лясьніцкі адразу пачаў хвалявацца. Ён ня можа спакойна гуляць. Ён заўсёды распаліцца, аж дрыжыць увесь, рызыкуе страшэнна, хапаецца. Таму й прайграе заўсёды.

Прыгожа гуляе Андрэй. Ніхто ніколі ня бачыў, каб ён хоць трошку ўзрушыўся. Ніхто ніколі ня бачыў, каб зьмяніўся яго твар, заўсёды аднакава цёплы і ветлы, заўсёды поўны нейкай мяккай сілы.

Лясьніцкі часта глядзіць на Андрэя і мімаволі зайздросьціць яму. Хочацца, каб і самому вось так: узяць нядбала карту, другую—аднэй рукой, не сьпяшаючыся—узяць, паляпаць задуменна аб стол, зірнуць праніклівым з тонкай хітрынкай поглядам на банкамёта і праказаць спакойна так, самаўпэўнена:

— Паспрабуй, набяры...

Тужыцца Лясьніцкі гэтак рабіць і колькі хвілін, здаецца, выходзіць. А тады забудзецца, і зноў тое самае: рукі дрыжаць, хапае, сьпяшаецца, выдае сам сябе банкамёту. Узрушэньне ў злосьць пераходзіць,—злуе тады страшэнна на ўсіх, нават на Ніну, якая сядзіць і глядзіць на яго, вочы прыплюшчыўшы... Можа сьмяецца ў думках над ім...

Лясьніцкі ўсё больш і больш рызыкуе, ставіць на кон апошнія грошы. Часамі ў распаленых тлумных мазгох прамігне поўны смутнага дакору твар бацькі, выплыве хата з усімі сваімі—небагатая сялянская хата, адкуль дасылаюць апошнія капейкі. Нутро тады сьцісьнецца, ахаладжае раптам ад скрухі. Але толькі на момант. Потым зноў закіпіць з яшчэ большым імпэтам.

Нарэшце, зьнік запал, зьнікла цікавасьць, застаўся адзін балючы тлум у мазгох, быццам заліў нехта іх растопленым волавам. Ахапіла нэрвовая вострая нецярплівасьць.

Каб хутчэй скончыць, хоць-бы й прайграць—усё роўна. Каб пайсьці легчы на ложак, прастудзіць гарачую галаву.

Ён падклаў пад карту, ня лічачы, усе грошы, якія яшчэ засталіся, праказаў зьніжаным зморамым голасам:

— На ўсё, што пад картай!..

Усе неяк змоўклі адразу. Устала ў пакоі напятасьць трывожная, банкамёт на твар напусьціў урачыстасьць і афіцыйную важнасьць.

— Яшчэ!..

— Калі ласка!..

— Яшчэ!..

— Можна...

— Многа... прайграў.

Сабраў усе сілы, каб ня ўвязнуць у мора ліпучага сораму, кінуў карты, грошы і ўстаў. Усьлед яму ўсе асьцярожна зірнулі, але не сьмяяліся, зналі, што чалавеку дрэнна, што цяпер цяжкай будзе яму насьмешка.

Лясьніцкі лёг на ложак.

Было такое адчуваньне, нібы адышоў ён ад нечага душнага, тлумнага і акунуўся ў сьвежы такі халадок. Звонка ў віскох білася кроў, але што далей заціхала—рабілася самотна й ціха, быццам быў адзін у пакоі. Тады цьвяроза падумаў аб тым, што зрабіў. Зразумеў, што ня будзе далей на што жыць, што прайграў апошнія грошы, бацькавы грошы.

Ад цьвярозае гэтае думкі заныла нутро. Заныла, засадніла—быццам яго хто падрапаў едкімі кіпцямі. Захацелася

забыцца на ўсё, ласкі нечае захацелася—ціхае, чыстае ласкі... як калісьці матка малога лашчыла... Каб можа Ніна падышла, слова якое сказала...

І, нібы ўгадаўшы яго пачуцьцё, устала Ніна, падышла і села каля яго на ложку. Хацела, здаецца, нешта сказаць, ужо ласкава вочы прыжмурыла. Але Лясьніцкі раптам схапянуўся, усклычыўся, быццам яго ўкалола тое, што яна падышла суцяшаць. Замест супакою злосьць узьнялася. Сказаў ёй груба, дасадліва:

— Я хочу спаць, не перашкаджайце.

Ніна пасьпешна ўстала і, не сказаўшы ні слова, вышла з пакою.

Неўзабаве і ўсе разышліся. Лясьніцкі разьдзеўся і лёг, з галавой накрыўшыся коўдрай.

У гэтую ноч давялося яму перажыць колькі гадзін вострага таменьня душы, перацерпець балючы прыбой пачуцьцёў, якія змучылі яго сваім нязвычайным ліхаманкавым чаргаваньнем.

Пачуцьці гэтыя былі настолькі яскравыя і моцныя, што прымалі зусім жывыя рэальныя формы. Яны напаўнялі стомленую сьвядомасьць Лясьніцкага то крывымі нейкімі страшнымі зданямі, то нечым мяккім, ружовым, што заспакойвала ўзьбітыя нэрвы, навявала цішу і ласку. У хвіліны, калі было гэта ружовае, гатоў быў Лясьніцкі заснуць, ужо апускалася ў цела цяжарная млявасьць, бясьсільле, ужо ў галаве пачынаў завівацца туман. Але праз момант зноў ужо нарастала ў нутры цяжкое і мулкае, зноў пачынала кроіць сьвядомасьць рэзкімі зданямі трывогі, адчаю.

З маладосьці заўсёды бывае так, што першая няўдача ў жыцьці абурае страшэнным душэўным змаганьнем, і здаецца, што ўжо клінам сышоўся сьвет, што ўжо надышло рашучае і важнае, што гэта—генэральны крызіс жыцьця. Тады некаторы час пануе ў нутры прыкрая блытаніна, некаторы час здаецца ўсё агідным і няцікавым. А потым самі сабой адшукаюцца неяк канцы, разблытаецца прыкры вузёл, і ўсё стане ясным і простым.

Заснуў быў Лясьніцкі тады блізка пад самае раньне, заснуў неяк няўмысьля зусім, нечакана, не знайшоўшы выйсьця з свае блытаніны, не заспакоіўшыся.

Але заснуў моцна і глуха.

БЫЛО ўжо блізка дванаццаці, калі Лясьніцкі прачнуўся. Разбудзіла яго Ніна—прыбірала ў пакоі і нешта скінула. Можа наўмысьля гэта зрабіла, каб ён прачнуўся, каб было весялей, бо адна была ў хаце.

Лясьніцкі зірнуў заспаным поглядам на яе і, сустрэўшы звычайны хітравата-цікуючы бляск яе дабрадушных вачэй, усьміхнуўся цягуча і сонна, поўны цёплай прыемнай млявасьці. Пачаў моўчкі разглядаць дзяўчыну. Яна адвярнулася, ня спускаючы з вуснаў таемнае ўсьмешкі.

Добрай яна здавалася цяпер Лясьніцкаму—простай зусім і ціхапрыветнай. Было ў ёй нешта агульнае з спакойным сьвятлом адлiжнага дня, што шырока прыпаў быў сваім бялясым тварам да вокан і глядзеў у хату з ласкавай хмурасьцю.

Ніна зноў зірнула на Лясьніцкага і зрабіла выгляд, што злуецца.

— Вы чаго на мяне ўтаропіліся?.. Чаму сьпіцё так позна, як вам ня сорамна... Усе ўжо добрыя людзі на працу пайшлі...

Лясьніцкі дэманстрацыйна пазяхнуў і праказаў няўважна так, лена:

— А я толькі думаю, чаго яна ў хаце таўчэцца... Усе добрыя людзі пайшлі...

— Ну, я працую... А вы лайдак... і картыжнік, да дзьвюх гадзін у карты гулялі...

І вось абдало тады раптам Лясьніцкага ўчорашнім, тлумным. Да гэтага часу неяк забыўся ён быў на тое, што ўчора было, што прайграўся зусім, без капейкі астаўся. А цяпер вось адразу ўсплыло і агарнула едкай турботай. Зрабілася прыкра, зьнікла прытульнасьць навокал, захацелася

некуды рушыцца, некуды йсьці, каб заглушыць турботу і злосьць. Ніна ўжо стала зусім няпрыгожай і няцікавай. Хваравіта-назольлівай плямай кінуўся ў вочы яе курносы, троху прыплюшчаны нос. І ўсьмешка яе зусім няпрыгожая, дакучлівая—сьмяецца вечна, а чаго—нямаведама.

— Я буду ўставаць... Калі ласка, выйдзеце вон...

— А можа далікатней троху папросіце?

— Выйдзеце вон!..

— Ну, што вы кажаце?..

— Ідзеце, а то я буду пры вас надзявацца...

— Паспрабуйце толькі...

— Ну, раз... два...

Яна пайшла з пакою... Каля самых дзьвярэй затрымалася і праказала троху пакрыўджаным голасам:

— Я ведаю, чаму вы злосны—у карты ўсе ґрошы ўчора прайгралі...

І вышла.

Лясьніцкі стаў надзявацца. Шчымела нутро, да ўсяго, што было, далучыўся яшчэ прыкры сорам. Гэта-ж яна сьмешкі строіць над ім. І ўсе пэўна будуць сьмяяцца, будуць дражніцца... І няма чаго есьці, трэба недзе шукаць, пазычаць.

Надзеўшыся, ён адразу вышаў з хаты. Нават ня мыўся, бо, каб памыцца, трэба было йсьці на кухню, дзе Ніна, а ён не хацеў цяпер бачыць яе.

На дварэ было цёпла. Мякка патыхала вясной, ужо чорна і тлуста блішчэлі абмытыя тротуары, ужо сьнег на вуліцах зрабіўся бурым і крохкім. І насіўся ў паветры мяккі пах мокрага дрэва і яшчэ чагосьці з вятраных прастораў, што напамінала вёску і казытала сэрца ні то ўспамінамі, ні то глухаватым нейкім шчымлівым імкненьнем.

Гэты веснавы павеў суцешыў Лясьніцкага і заспакоіў яго ўстурбаваныя нэрвы. Пад уплывам яго шырокае сьвежасьці адышла тая турбота некуды ў далеч і здалася ўжо другараднай, няважнай. Успомніў вёску Лясьніцкі—разам неяк успомніў усю яе, быццам прынёс гэты мяккі ветрык і ўліў адразу ў нутро ўсе малюнкі яе—смутна-ціхія.

І разам з гэтым паўстаў вобраз Макрыны—невялічкай і чорненькай, якую і замужжа не папсавала, толькі паклала на вусны пакутную ўсьмешку, можа й няпрыгожую—хто яе ведае. Але Лясьніцкі, як езьдзіў на каляды, дык калі заставаўся з ёю адзін-на-адзін (мужык пайшоў на вайну) любіў глядзець на гэтую горкую ўсьмешку і раз-за-разам цалаваць Макрыніны вусны. Ён тады адчуваў наплыў балючай і горкай пяшчоты, ад якой, здаецца, ірвалася сэрца, і быў шчасьлівы. Таму можа пасьля ён ня мог і ўявіць іначай Макрыну, як толькі з гэтай любай для яго ўсьмешкай, можа й няпрыгожай—хто яе ведае.

І цяпер яна такая-ж на памяць усплыла—разам з вёскай, з палямі ціхімі, з бярозавым гаем, з дзядулькай Дняпром і яшчэ маленькай рачулкай, што палахліва туліцца ў кучаравы хмызьняк.

Вёска й Макрына—палюбоўніцы горкія, крушынавая радасьць яго...

У гэты момант успомніў Лясьніцкі пра маніфэсты, пра адрачэньне цара, пра ўсё тое, што робіцца недзе ў Маскве ці яшчэ можа дзе-небудзь. Захацеў злучыць гэта з вёскай, з сялянскай хатай сваёй, гаспадаркай, каб праверыць, ці добра гэта, ці дрэнна. Але нічога ня вышла, бо ня ведаў ён нічога, не разумеў. Чамусьці толькі таўхануліся ў сэрца ўчорашнія словы Халімы, злосьць яго на жыдоў, таўхануліся нейкай несьвядомай апаскай, турботай.

Тым часам Лясьніцкі, сам таго ня прымеціўшы, прайшоў некалькі вуліц і апынуўся ў незнаёмым нейкім завулку, які праз крокаў сто раздаваўся ў пустыя прахоны гародаў. Тут зусім было падобна на вёску, і Лясьніцкі міжвольна спыніўся, канчаткова аддаўшыся жывым і сьвежым успамінам. Яго вывелі з задумённасьці галасы цэлае купы мужчын, што раптам зьявіліся на парозе дому, ля якога ён спыніўся. Лясьніцкаму стала прыкра, што яго заўважылі і можа падумалі нямаведама што. Ён завярнуўся і хацеў пайсьці, але раптам нехта з гэтае купы людзей гукнуў яго. Ён, здрыгануўшыся, азірнуўся і ўбачыў Андрэя, гаспадаровага сына.

Андрэй падышоў да яго сваёй плаўнай хадою—сам такі шчытны, крамяны, з прыгожым буйным тварам, з ветлай, але разам з тым самаўпэўненай усьмешкай.

— Ты чаго тут, Лясьніцкі?

Лясьніцкі ня ведаў, што адказаць. Рашыў лепш ня лгаць.

— А, ведаеш, проста йшоў так, задумаўся і неўзаметку затрапіў сюды...

— Да хаты цяпер?

— Усё роўна...

— Дык пойдзем разам.

Андрэй быў у добрым гумары—гэта адразу кідалася ў вочы. Усю дарогу ён апавядаў Лясьніцкаму пра палітычныя навіны, прычым выказваў такія думкі, якія вельмі дзівілі Лясьніцкага, бо былі для яго зусім новыя.

— Цяпер стаіць справа так... Рэволюцыя пачалася, прышоў такі момант, што далей няма куды йсьці... Дума хоча скомчыць усё, каб цягнуць тую-ж песьню... вайна каб ішла, каб нехта на ёй нажываўся... І ўрад такі падабралі, што лепш і ня трэба... Але ня выйдзе нічога, далібог-жа, ня выйдзе... Справу вырашыць народ, які цяпер пачуў сілу, які пазнаў свае патрэбы і свае правы... Ого, гэта ня хаханькі ім... Як ты думаеш, га?

Лясьніцкаму было сорамна, што нічога ня можа адказаць. Даў у думках сабе абяцаньне ўзяцца ў сур'ёз за палітыку, каб узнаць дасканала ўсе гэтыя справы. Зусім-жа стала яму не па сабе, калі раптам Андрэй запытаўся:

— А ты сам за якую партыю ідзеш?

Лясьніцкі чуў, што хвалілі кадэтаў. Ён дакладна ня ведаў, што яны хочуць, але раз хваляць іх, дык чаму-ж і ён ня можа ім спачуваць.

— Я так мяркую, што ўсё-ткі найбольш правільна робяць кадэты. Мне яны падабаюцца.

Андрэй моўчкі ўсьміхнуўся. У гэтай усьмешцы выяўна мігнуў цень жаласьлівае паблажкі—Лясьніцкі добра гэта заўважыў. Яшчэ горш сорамна стала яму, да злосьці, да болю. Прасачылася ў сэрца і варожая зайздрасьць да Андрэя.

Вось ён і ня вучыцца, бадай што малапісьменны, а ведае ўсё і, самае галоўнае, мае нешта сваё, сваю пэўную думку, свой інтарэс. І ён можа нешта рабіць, можа сам прымаць удзел у гэтых дзіўных незразумелых падзеях. Мо' ён і цяпер вось быў на сходзе якім, мо' ён ужо ў якую-небудзь партыю запісаўся... Хіба спытацца ў яго?

— Слухай, Андрэй... Дзе ты быў цяпер?

Той памаўчаў важна з хвіліну, быццам і не пачуў запытаньня, і праказаў потым адмыслова няўважным тонам, нібы гаварыў пра нейкае глупства:

— Так... Зьбіраліся там нашы хлопцы...

Лясьніцкі больш пытаць няважыўся. Ішлі некаторы час моўчкі. Як ужо падыходзілі к дому, Андрэй раптам спыніўся і сказаў Лясьніцкаму з нечаканай мяккасьцю і шчырасьцю:

— Ты, Лясьніцкі, учора прайграўся дашчэнту. Я выйграў усе твае грошы. На, я аддам табе іх.

Лясьніцкі загарэўся ад сораму, паспрабаваў адгаварвацца, але ня вышла нічога. Андрэй дастаў грошы і, рашуча спыніўшы яго адгаворы, паклаў іх яму ў руку.

Толькі тады, як прышлі ўжо дамоў, Лясьніцкі схапянуўся, што грошы браць зусім ня трэба было, што цяпер яшчэ горш яму сорамна, што ён цяпер блазен супроць Андрэя,— Андрэй паступіў з ім, як з маленькім дзіцём. Кінуўся быў адразу Лясьніцкі, каб аддаць назад гэтыя грошы, але падумаў, што выйдзе сьмех толькі з гэтага. Тады сьціснуў зубы і ледзь не заплакаў ад сораму й злосьці.

З Андрэем пасьля таго Лясьніцкі стараўся ня бачыцца, бо чуў да яго нейкую незразумелую тупую варожасьць.

РЭВОЛЮЦЫЯ ўціскалася ў горад замаруджана, туга. Багамольнае, манархічна настроенае гарадзкое мяшчанства чытала газэты, пускала розныя, часамі страшэнна недарэчныя, плёткі і, вохкаючы, жалячыся на дарагоўлю харчоў, чакала ўсё нечага, што мінуча прыдзе і зьнішчыць тую няпэў-

насьць, якая трывожна лунае ў паветры, верне зноў пад ногі знаёмы, абыклы грунт, пахіснуты лютаўскім паўстаньнем.

Цар, падпісаўшы адрачэньне, прыехаў у стаўку і сядзеў тут, абкружаны адданым спачуваньнем прыслужнікаў і ўсяго „благородного“ жыхарства. Ад яго нібы чагосьці чакалі, аб ім гаварылі ў кожнай „приличной“ хаце, гаварылі з жалем і скрухай, перадавалі ў розных варыянтах словы яго, поўныя царскага велікадушша і хрысьціянскай лагоднасьці, абкружалі яго орэолам сьвятой пакуты.

І адначасна йшла недзе неўзаметку, употайку, чорная работа, недалужная, брыдкая—работа брудных сіл старога жандарскага ладу. Часта чуваліся словы „жыд“, „жыдоўская ўлада“, хадзіў у цёмных мяшчанскіх масах прыдушаны злосны і пагражаючы шопат. Нехта нешта рабіў, рыхтаваў.

Аднойчы ўвечары, ужо блізка дзесятай гадзіны, да Лясьніцкага зайшоўся Халіма і прапанаваў яму некуды йсьці па сакрэтнай і вельмі цікавай справе. Халіма быў нязвычайна сур'ёзны, нахмураны, і яго грубы, быццам насьпех пакроены твар, выдаваў ад гэтага асабліва рэзкім. Ня было на ім ані сьледу той заўсёдашняй цені гумору, якая рабіла грубыя рысы троху мякчэйшымі, а часамі бадай што й прыгожымі.

Лясьніцкі спачатку толькі зьдзівіўся.

— Куды гэта так позна?

— Зьбірайся хутчэй, там убачыш. Толькі хутчэй. А ня хочаш, дык так і кажы. Аставайся сабе, можаш і на печ яшчэ ўзьлезьці.

Тон быў такі, што Лясьніцкі ня мог не пайсьці. Ён ураз сабраўся і яны вышлі.

Ноч была мокрая, чорная. Па завулку насіўся вільготны вецер—мяккі, густы, як воўна. Вецер закручваў іх сваім шумлівым крылом, атуляў шчыльна з усіх бакоў, быццам хаваў ад цікавае ночы. І тады здавалася, што яны адны, што ніхто іх ня можа ўгледзіць, што зусім не па завулку ідуць яны, а можа куды-небудзь у поле глухое, бяскрайнае перанясьліся і ідуць без дарогі, проста наперад, у самыя абнімкі шаўковага падатнага ветру. Прынамсі ў Лясьніцкага было

такое ўражаньне. Можа гэта таму, што ня бачыў нічога ён у мокрай цемры, а йшоў за Халімам, паклаўшыся на яго правадырства. І яшчэ чамусьці здавалася Лясьніцкаму, што гэта вецер наўмысьля шум уздымае, каб заглушыць тое, што дзеецца недзе там, угары. А там напэўна нешта цяпер разгулялася. Можа там мітусяцца акраўкі калматыя хмар, у перагонкі гуляюць па чорнаму небу? Можа там зьбіраецца чорны натоўп, каб зьвіснуць катлом над самай зямлёй, і, дачакаўшыся зручнага моманту, рынуць уніз шырокім, шумлівым дажджом?..

Хлопцы йшлі моўчкі. Халіма нырау у цемень з нейкай наўмыснай пасьпешнасьцю, быццам хацеў уцячы ад Лясьніцкага, або падражніцца, прымусіць прабегчы трушком, каб не астацца. Лясьніцкі часта трапляў нагой у нейкія лужыны і тады злаваўся на Халіму, што ён сігае так, не зважаючы на яго, нібы й забыўся зусім, што ён тут. Але злосьць зараз праходзіла, сьціралася пачуцьцём урачыстай таемнасьці, чаканьня нечага нязвычайнага, важнага.

Халіма спыніўся ў вузкім нейкім завулку каля старых пахіснутых варот.

— Тут... прышлі...

Голас яго быў сьцеражліва прыдушаны, нізкі. Лясьніцкі запытаў дрыжачым шопатам:

— А як увайсьці?

— Зараз.

Халіма паляпаў у фортку. Зараз-жа ім адчынілі і правялі праз брудны двор і брудную кухню ў цямнявы пакой, асьветлены невялікай газавай лямпай. Тут сядзела некалькі чалавек, сярод якіх з вялікім зьдзіўленьнем і радасьцю Лясьніцкі пазнаў трох сваіх аднаклясьнікаў і аднаго настаўніка. Рэшта былі нейкія незнаёмыя і падазроныя абшарпанцы з тварамі настолькі-ж сьмешнымі, наколькі сур'ёзнымі.

Лясьніцкі сеў на ложак. Ён з вялікай патугай трымаў на твары сур'ёзную міну, бо нутро яго проста ірвалася ад раптоўнага прыліву гульлівае весялосьці. Радасна было ад думкі, што вось і ён прышоў на нейкую справу, на важную справу, напэўна, бо чаго-ж бы іначай былі ўсе такія сур'ёзныя?

І ня страшна было, бо многа сваіх, нават настаўнік адзін прышоў. Толькі вось каб хутчэй, а то ня ўседзець проста ад нецярплівасьці.

Нарэшце, настаўнік, пашаптаўшыся троху з суседзямі і адкашляўшыся, пачаў урачыста і троху напышліва:

— Гаспада! Мы ня будзем доўга тут гутарыць... Усім, пэўна, вядома, чаго мы тут сабраліся... Я думаю, што кожны, хто даражыць нашай айчынай, хто... гм... каму ня ўсё роўна, хто будзе правіць вялікай Расіяй... гм... я, гаспада, пэвен, што наш вялікі абавязак паўстаць на абарону нашых сьвятынь ад антыхрыстаў, ад хрыстапрадаўцаў, ад...

Ён раптам ні з таго, ні з сяго распаліўся і закрычаў:

— Хто скінуў цара, монарха расійскага? Хто яго мучыць цяпер, зьдзекваецца над ім, як над апошнім злачынцам? Хто гэта кроў нашу п'е, га?.. Мы ведаем хто, мы бачым, чыіх рук гэта справа... За Расію, за айчыну сваю мы... мы кроў пралівалі, а яны...

Яго прамова рабіла відочны ўплыў. У вучняў гарэлі вочы, яны напружана глядзелі ў яго распалены твар, лавілі смагла кожнае слова. Троху сапсаваў справу адзін з абшарпанцаў, які, не дачакаўшыся канца прамовы, неяк кругла, спакойна стукнуў кулаком па сталу і аўторытэтна заявіў, матнуўшы галавою:

— Біць... ж-жыдоў...

Вышла дужа сьмешна і недарэчна. Адылі аказалася, што ён быў п'яны.

Як кончыў настаўнік, адгукнуўся з кутка нейкі мізэрны мешчанін у паддзёўцы, з кіёчкам у руках. Ён пачаў адразу, быццам гаварыў і дасюль, толькі яго перапынілі, быццам доўга ўжо ён гаварыў і доўга яшчэ будзе гаварыць, толькі хай слухаюць. Гаварыў ён салодзенька, тоненька й плаўна:

— Езьдзіў надовечы я ў Маскву, дык мой швагра, што на пачтамце служыць, казаў і дасканала тое засьведчыў, што ёсьць у Расіі такое жыдоўскае вобчаства, якое вядзе такую лінію, каб абвясьціць у Расіі жыдоўскае царства, а нас усіх праваслаўных забраць у палон і абрэзаць каторых,

а хто ня згодзен, паставіць на працу, каб на іх, значыць, на жыдоў, працавалі... І вось, значыць, у гэтага вобчаства ёсьць нязьлічоныя грошы, мільярды мільярдаў, якімі яны падкупаюць на свой бок начальства—міністраў усіх, генэралаў. А цара вось і не падкупілі. Давалі яму, кажуць, сорак вагонаў чыстага золата, а ён і ні-ні, гаварыць нават ня хоча.— Як, кажа, прадам я сваю Расію, народ свой верны, праваслаўны. За гэта жыды і ссадзілі яго, за гэта ён і пакуту нясе...

Апавядальніка перабіў зноў той п'яны, выцяўшы зноў кулаком па сталу і заявіўшы:

— Пабіць... усіх... жыдоў...

Пасьля таго гаварылі ўсе наперабой—кожны стараўся выказаць сваю нянавісьць, кожны стараўся як мага распаліць сябе і другіх.

Нарэшце, настаўнік зрабіў выгляд, што хоча яшчэ нешта сказаць, і ўсе паціхлі, бо чакалі самага важнага... У гэты раз настаўнік гаварыў ціха, паўшопатам, нахіліўшыся крута наперад сваім перахлябістым тулавам:

— У сераду будзе іхная маніфэстацыя... Я прапаную на гэты дзень склікаць народ і сустрэць іх дзе-небудзь... так, як патрэбна. Афішкі можна... хлопцы напішуць... Каб з аружжам, як мае быць... га?..

— Добра!

— Згодны!..

— Во, гэта дык так...

Чамусьці ўсе цяпер гаварылі шопатам і ўсе адзін да аднаго нахіляліся.

Назначылі месца, разьмеркавалі абавязкі і разышліся.

Лясьніцкі ішоў да хаты адзін. Шпарка, адважна сігаў па лужынах, махаў шырока рукамі і сьвідраваў цемру цьвёрдым напружаным зрокам. Адчуваў сябе поўным гэроем. Куды-ж там! Ён прымае ўдзел у цэлай змове, будзе кіраваць палітычным выступленьнем, яго могуць забіць і ён можа забіць каго-небудзь...

О, ён заб'е... Толькі дайце яму дабрацца да якога пархатага... У, як ён іх ненавідзіць!..

І, каб сапраўды распаліць у сабе нянавісьць, Лясьніцкі стараўся ўявіць самага злоснага, самага атрутнага жыда—крывога Пэйсіка, у якога ён купляе табаку. Пэйсіка ўявіць яму ўдавалася лёгка, але нянавісьці чамусьці ня было да яго анізкай. Гэта яго нэрвавала і ён пачынаў злавацца. Тады гэту беспрадметную злосьць ён накіроўваў на беднага Пэйсіка і лічыў, што ўсё-ткі і ён, ня менш за іншых, ненавідзіць жыдоў.

АД ГУСТОГА праменьня вясновага сонца палахліва ўцякаў ручаямі шумлівымі стары пабурэлы сьнег. Ручаі беглі наперасьпехі, засопшыся, змарыўшыся—яны поўнілі горад сьвежай імпэтнай музыкай, ад якой замірала сэрца ў салодкай млосьці і грудзі праглі паветра вольнага, ад якога хацелася жыць шырока, бяскрайна, як сіняе неба, як поўныя сонца прасторы.

Можа ад гэтай вясновай гульлівасьці стаяла над горадам урачыстасьць, можа таму ўсе хадзілі ў сьвяточным настроі, гатовыя ўраз загарэцца шалёнай радасьцю, аддацца бурліваму захапленьню.

Лясьніцкі доўга помніў гэты дзень, поўны шумлівай вясны, бо ён даў яму так многа новага і нечаканага, бо ён страсянуў нутро яго моцнымі перажываньнямі, сьлед ад якіх астаўся надоўга.

Перад гэтым днём Лясьніцкі ня спаў амаль што ўсю ноч. Уся ноч прайшла для яго ў трывожных думках, у сумятні пачуцьцёў, ліхаманкава ўзьбітых, узрушаных, у нейкім шалёным трызьненьні. Многа бывае гэткіх начэй у дні маладосьці, калі ў душы некранутая сьвежасьць, калі закіпае нутро ад кожнай, самай драбнюсенькай іскрачкі.

Заўтра будзе тое, на што змовіліся. Можа будзе штонебудзь страшное, можа заб'юць. Але—няхай сабе, ён не баіцца... Затое будзе ён заўтра гэроем, абавязкова будзе гэроем. Ён пакажа гэтаму хвальку Андрэю, што і ён не абы-што... Ён таксама ведае, што рабіць, таксама мае свой палітычны інтарэс...

І ўсьцяж цэлую ноч Лясьніцкі ўяўляў сабе беднага Пэйсіка, правяраючы на ім сваю нянавісьць, падбіраючы ў думках яму самую страшэнную крывавую расправу.

Назаўтрага, на прызначаным месцы ў прызначаны час пачаў зьбірацца „народ“. Прышоў першы Лясьніцкі, за ім Халіма і праз хвілін дзесяць яшчэ тры хлапцы. Настаўнік зусім ня прышоў. Затое праз дваццаць хвілін зьявіўся той флегматычны басяк, што калісьці на сходзе заяўляў аб канечнай патрэбе біць жыдоў. Ён быў сягодня ня менш п'яны, як і тады.

Увесь „народ“ адчуваў сябе зусім няёмка. Стаялі яны на рагу дзьвюх вуліц, што давала магчымасьць ім заходзіць то на тую, то на другую, каб не сустракацца з падарожнымі. Пераходы гэтыя рабіліся неяк самі сабой, мабыць зусім мімаволі. Кожнаму хацелася стуліцца, схавацца, зьнікнуць з вачэй, і таму інстынктыўна шворыўся кожны туды, адкуль менш відаць яго, дзе ня зьвернуць на яго ўвагі. Гаварыць не хацелася—стаялі больш моўчкі. Чагосьці чакалі яшчэ, а чаго, дык ня ведаў ніхто.

І вось раптам прыляцелі аднекуль абрыўкі музыкі, вырас глуха-настойлівы, мерны бой барабана. Яшчэ колькі хвілін—і разрасьліся абрыўныя гукі ў стройны звон марсэльезы, у магутна-гарэзную ўрачыстую гармонію.

З-за рогу, праз квартал ад хлапцоў, выліўся раптам натоўп і паплыў проста на іх. Над людзьмі чырванелі штандары, калыхаліся ў яскравым ад сонца паветры з нейкай сьвяточнай паважнасьцю, з млявою сілай. Гукі оркестру спляліся цяпер з дружна-імклівым хорам людзкіх галасоў, з пераблытаным гоманам—ні то магутным, ні то проста бязладным.

Не дайшоўшы з гоні да хлопцаў, маніфэстанты спыніліся. На бальконе зьявілася вятка людзей, адзін пачаў нешта крычаць, і народ то сьціхаў, то ірваў паветра гучным „гурра“.

Хлопцы пераглянуліся. Халіма насунуў шапку на лоб, чамусьці сярдзіта, адчайна паморшчыўся і рашуча сказаў:

— Хадзем!

Яны пайшлі да натоўпу. Пайшлі проста затым, каб паглядзець ды паслухаць, што дзеецца там. Але настрой быў такі, што й сапраўды ідуць насустрэчу нейкаму ворагу.

І вось тут якраз здарылася тое трагічнае і сьмешнае, чаго пэўна ніхто не чакаў.

Як падышлі хлопцы да самае гурмы людзей, раптам над сьціхшым у гэту хвіліну народам паплылі плаўныя гукі жалобнага маршу. Яго падхапіла некалькі істэрычна-напружаных галасоў, за імі ўпляліся другія, і памалу ахапіў усю масу гэты шырокі, спакойна-сумны напеў.

Да хлапцоў абярнуўся рабочы ў скураной аблезлай тужурцы, з чырвоным, урачыста распараным тварам:

— Шапкі далоў... Далоў шапкі...

Лясьніцкі шапкі ня зьдзеў выключна па свайму юнацкаму задзёру, але рабочы, мабыць, не зразумеўшы гэтага, зьдзеў яму шапку лёгкім ударам далоні па цемю.

Тут ужо дапамог п'яны абшарпанец, які ўсё яшчэ цёрся з хлапцамі. Вынырнуўшы аднекуль з-пад рукі ў Лясьніцкага, ён мэтодычна, разьмерана размахнуўся і звонка ёкнуў рабочаму ў твар.

Далей у вачох у Лясьніцкага так прамігнула: абшарпанец з задранымі ўгару нагамі, чырвоны твар, шмат яшчэ твараў і рук, і ўжо ў самым тумане—кнопачкай нос і акуляры на старых добрых вачох.

Паваліўся ён ад першага ўдару ў высок і яго больш ня біў. Таму праз якіх дзьве ці тры хвіліны ён ужо ачуняў і з вялікім зьдзіўленьнем азіраў чужы раскошны двор, абстаўлены высокімі камяніцамі.

Ён сядзеў на нейкіх прыступках, абкружаны таварышамі. Пад руку яго падтрымліваў Славін, а Халіма прыкладаў да віска брудны, набраклы конскім гноем, сьнег.

Нездалёк, усьпёршыся на адну руку, сядзеў яго абаронец і пляваў крывянай сьлюною. На твары ў басяка быў поўны спакой і нават нейкае асаблівае здаволеньне. Відаць, гэта была для яго звычайная справа.

Як ужо добра Лясьніцкі ахамянуўся, яго пад рукі вывелі са двара і павялі на кватэру да Славіна, бо той жыў тут недалёчка, усяго праз адзін квартал.

У Славіна пакойчык быў зусім нейкі бязладны. Здаецца, ня было тут ніводнае рэчы, каб яна была на тым месцы, дзе ёй прызначана быць. Ложак стаяў у яго ля вакна, у той час, як стол—каля цёмнае сьцяны, прычым абодвы стаялі коса, няроўна, быццам наругаліся гаспадару, дэмонстрацыйна паказвалі сваё няслухмянства. На ложку ў Славіна ляжаў цэлы груд кніг. Як прышлі, ён адразу пачаў іх прыбіраць, складваючы на крэслы, каб даць легчы Лясьніцкаму. Потым перакладаў іх з крэслаў на скрыню, каб даць сесьці іншым хлапцом.

У пакоі было цямнява—адно мізэрнае вакенца выходзіла ў двор. Ад таго, што быў такі рэдзенькі змрок і бязладзьдзе вакол, і хлопцы ўсе так далікатна, прыветна з ім абхадзіліся, і ў галаве балела зусім паціхеньку, нейкім салодзенькім болем,—стаў у Лясьніцкага прыемна-ўзьняты настрой, які бывае ў хворага, калі ён здаравее. Усё здаецца тады прыемным, быццам усё—сваё, роднае. Калі расказалі Лясьніцкаму пра тое, як яго ратаваў Славін, ён шчыра сьмяяўся. І скрозь сьмех у яго ледзь чутна зьвінелі сьлёзы радасьці і сымпатыі—любіў ён у гэту хвіліну Славіна з яго кнопачкай, з акулярамі, з яго бязладзьдзем дзівачлівым.

Праз поўгадзіны разышліся хлопцы. Астаўся толькі Халіма, які сядзеў у кутку і чамусьці ўпарта маўчаў. Славін сеў каля Лясьніцкага і пачаў ціха, нясьпешна яму гаварыць. Яго мяккі голас закалыхваў і разам з тым не даваў заснуць, Гэта быў асаблівы нейкі стан, нейкая салодкая ясная дрэма, праз якую зусім акрэсьлена праходзілі словы і думкі Славіна. Мабыць, блізкі да гэтага бывае стан пад гіпнозам.

Славін гаварыў пра рэволюцыю, пра гора народа, пра змаганьне, пра гібель у гэтым змаганьні дзесяткаў, соцень і тысяч лепшых людзей, пра імкненьне да сьветлае волі, да прыгожага шчасьця.

— Мы жывём у вялікія дні. Гэтыя дні будуць векапомнымі для нашай краіны, дый ня толькі для нашай—для

цэлага сьвету. Гэта—вялікае абуджэньне народнага духу, народнае волі, гэта—вялікае народнае ўваскрасеньне. Колькі было сьлёз, колькі нядолі, колькі бязьвіннай крыві!.. Ты падумай, Лясьніцкі, прыслухайся да музыкі гэтых слоў:—свабода, роўнасьць, братэрства... Ці чуеш ты, колькі хараства—гордага, высокага хараства ў гэтых словах... А што яны значаць? Ведаеш, Лясьніцкі, што яны значаць? Яны значаць тое, што твой бацька—мужык, лапцюжнік—ровен з вяльможам, з князём, з генэралам, з кім сабе хочаш... Усе—грамадзяне, усе—вольныя, роўныя, усе—браты... Нездарма-ж усе так рады, нездарма-ж такое сьвята ўва ўсіх... Бачыў, якое было захапленьне ў гэтых людзей, якая шчырая радасьць?.. Ведаеш, Лясьніцкі... рэволюцыя—гэта вялікае ўсеагульнае сьвята, гэта—самае ўрачыстае, самае сьвятое вялікадня... Я чуў, як сягодня хрыстосваліся. Адзін кажа:—Народ уваскрос! А другі адказвае:—Ваісьціну ўваскрос!.. Як многа ў гэтым поэзіі!..

Славін на хвіліну змоўк. І, нібы скарыстаўшы гэту маўчанку, устаў раптам Халіма, устаў нязграбна, з шумам, з грукатам, і, не сказаўшы ні слова, вышаў з пакою. Відаць, вышаў сярдзіты, узрушаны, бо моцна стукнуў дзьвярмі.

Славін няўцямна зірнуў на Лясьніцкага.

— Што гэта з ім?

Але Лясьніцкі ня ведаў і сам, што гэта значыць.

— Нешта выдумаў, пэўна. Гэта-ж ня вышла ў нас сёньня...

— Што ня вышла?

— А! Ты, праўда, ня ведаеш. Толькі, брат, пад вялікім сакрэтам...

І Лясьніцкі, саромячыся, расказаў яму ўсю гісторыю з іхным антысэміцкім выступленьнем, з яго романтычным пачаткам і трагі-комічным канцом.

Славін дабрадушна сьмяяўся, а разам з ім і Лясьніцкі. Гэты анэкдот Славін так растлумачыў:

— Трэ' працаваць. Рукі сьвярбяць, просяць нейкай сур'ёзнай дзейнасьці. Пачакайце, знойдзецца праца. Мы цяпер народу патрэбны...

Лясьніцкі сядзеў у Славіна аж да самага вечара. Пілі чай з ніколі нямытага чайніка, прычым абодва з аднае чашкі, па чарзе. Больш посуду ў Славіна ня было, а жыў ён адзін, самастойна, без гаспадарскае апекі.

А ўвечары Славін пацягнуў Лясьніцкага на мітынг.

У ДОСЫЦЬ раскошнай залі было ўжо поўна народу. Шукаючы месца, Лясьніцкі раптам убачыў Андрэя і Ніну. Ніна весела ўсьміхнулася і кіўнула галавой, каб лезьлі да іх. Хлопцы праціснуліся, і сапраўды там аказалася два месцы, на якіх яны й разьмясьціліся.

Як вітаўся Лясьніцкі з Андрэем, той працяжліва і ўпарта зірнуў яму ў вочы, быццам хацеў сказаць сваім поглядам, што паміж іх нешта ёсьць сваё, супольнае, што яны цяпер адзін аднаго разумеюць. Лясьніцкаму не здалося гэта занадта дзіўным, бо й сапраўды раптоўная сустрэча іх тут, на мітынгу, неяк зьбліжала іх, адкрывала аднаго перад адным. Гэта Лясьніцкаму было прыемна, і ён чуў, што пачуцьцё варожасьці да Андрэя, якое засела ў нутро яго колькі дзён таму назад, цяпер траціць вострасьць сваю, расплываецца, уступае месца пачуцьцю сымпатыі, дружбы.

Вось толькі ўсьмешка гэта Андрэева. Яна чамусьці прымушае Лясьніцкага недаверліва настарожвацца, чакаць нечага ад Андрэя. Здаецца—ведае нешта ён такое, чаго ніхто больш ня ведае, апрача яго, і што для ўсіх вельмі цікава. Ведае і наўмысьля маўчыць, не гаворыць. Скажа мо' калі-небудзь, ды толькі не цяпер, цяпер яшчэ рана, час ня прышоў...

Калі пачаўся мітынг, Андрэй тлумачыў Лясьніцкаму, хто гэта выступае, гаворыць, да якой ён належыць партыі, якое яго мінулае і г. д. Лясьніцкі дзівіўся, адкуль гэта ўсё так дасканала вядома яму. І з кожнай хвілінай рос аўторытэт Андрэя ў вачох Лясьніцкага.

Выступала на мітынгу многа прамоўцаў. Усе гаварылі бадай што адно, але слухаць усіх было цікава, бо гаварылі

яны тое, што поўніла ўсіх, хто сабраўся ў гэтай залі, што было яшчэ зусім сьвежае, што яшчэ адчувалася, як нешта яскравае, дзіўнае.

Лясьніцкі неяк зірнуў на Славіна і, ня гледзячы на ўрачыстую сур'ёзнасьць абставін, ня мог утрымацца ад міжвольнае ўсьмешкі. У таго твар, здавалася, быў адным згусьцелым адбіткам таго захапленьня, якое лунала ў залі. Лясьніцкаму ўспомніліся Нікадзімавы словы:

— Рэволюцыя—гэта агульнае сьвята...

І сапраўды, яго твар выяўляў гэта ўрачыстае сьвята. Быў ён падоўжаны нейкі цяпер, вашчана-чысты і масьлены. А добрыя старыя вочы яго так і плылі ў сьветлай радасьці, быццам хацелі мякка сагрэць усіх сваёй вясёлкавай цеплю. І сьмешным-сьмешным здаваўся ад урачыстасьці славінскі нос—мізэрная кнопачка.

Дайшло да апогэю агульнае захапленьне тады, калі на сцэне зьявіўся Матрунін, вядомы рэволюцыянэр, які, толькі што выпушчаны з турмы, вярнуўся ў свой родны горад.

Андрэй, адрэкомэндаваўшы яго Лясьніцкаму, зазначыў:

— Я яго ведаю добра, знаёмы з ім. Я й цябе пазнаёмлю.

Матрунін гаварыў ціха й расьцяжліва. Але ў слабым дрыжачым голасе было многа сьціснутай сілы, многа было пачуцьця. Словы яго ня ў розум ішлі, а неяк проста ў нутро і вялі за сабой настрой слухачоў, бралі ўсіх пад уладу сваю, што далей, то больш і больш напіналі агульную ўвагу, распасьціралі ў паветры нэрвовае напружаньне.

Прамоўца ўспамінаў турму, успамінаў тыя зьдзекі й мучэньні, якія яму давялося зазнаць, якія ўзгадавалі ў сэрцы яго вострую нянавісьць да царскага ладу. І, нарэшце, голас яго пачаў дрыжэць, пачаў сударгава перацінацца, ад чаго пайшоў па залі ўзрушаны рокат і з розных бакоў пачалі вылятаць рэзкія крыкі абурэньня. А скончыў Матрунін неяк ураз, нечакана, амаль на поўслове. Быццам гаварыў, гаварыў дый потым махнуў рукой.

— Ат, усё роўна ня выкажаш больш, чымся ўсе разумеюць і адчуваюць.

Яго праводзілі авацыяй. Білі ў ладкі, крычалі, нагамі стукалі, нехта лез на трыбуну, нехта стараўся нешта запець. Пад бокам у Лясьніцкага крычаў-высьцігаўся прарэзьлівым голасам Славін:

— Прашу слова!.. Слова!.. Прашу слова!..

Яго ніхто ня чуў і ня слухаў. Мабыць, і сам ён ня ведаў добра, нашто ён крычыць. Наўдачу, каб меў ён сур'ёзны замер выходзіць з прамовай.

І вось у гэты момант зноў прыкра ўелася ў вочы Лясьніцкаму Андрэева ўсьмешка. Няўжо ён не захапляецца гэтым усім? Ці можа ён так, каб схаваць хваляваньне, каб ня выявіць слабасьці? Трудна яго зразумець. Неяк заўсёды хавае ён шчырасьць сваю за гэтым мяккім выразам буйнага твару, за хітраватай усьмешкай.

Раптам Лясьніцкі аж здрыгануўся ад нечаканасьці. На трыбуне стаяў той чырвоны рабочы ў скуранай аблезлай тужурцы, з якім так нешчасьліва яны былі сёньня сустрэліся. Ён пачаў гаварыць гучна і мерна, выкідаючы па адным з сваіх магутных грудзей важкія шурпатыя словы, аброслыя мохам густой хрыпоты.

Рабочы гаварыў няпрыгожа. У прамове яго зусім мала было сьвяточных слоў аб рэволюцыі. Ён, пэўна, і мала іх ведаў. Чамусьці ён стаў гаварыць аб вайне, аб дарагоўлі, аб голадзе. Гэта ўсіх нібы пакарожыла. Быў нейкі захаваны дысонанс паміж гэтай прамовай і агульным настроем у залі. Таму халодна чакалі ўсе канца, не перапынялі прамоўцу, як раней, нецярпліва-бурнымі воплескамі. І Лясьніцкі заўважыў, што рабочы нібы дзівіцца такому прыёму, нібы пачынае хістацца тая грубая шчырая ўпэўненасьць, з якой ён пачаў гаварыць. Нечакана для самога Лясьніцкага шавальнуўся ў нутры яго прамень спачуваньня да гэтага простага нязграбнага чалавека, а разам з тым зьявілася злосьць на ўсіх, што так халодна сустракаюць яго шчырыя, хоць мо' і няпрыгожыя словы. Лясьніцкі наўмысьля нарыхтаваўся як мага мацней пляскаць у ладкі, як кончыць ён гаварыць.

Аднак, апошнія словы рабочага—заўчаныя рэволюцыйныя лёзунгі, выкрыкнутыя сіпатым змораным голасам, узварушылі троху народ. Праводзілі прамоўцу, як і ранейшых, дружнымі воплескамі, шалёным крыкам і грукатам ног.

Мітынг скончыўся позна. Змардаваны народ выходзіў з залі лена, спахваля, быццам нехаця. У дзьвярох ішла павольная таўханіна—з маруднай і млявай настойнасьцю людзі ўпіраліся ў дзьверы і сьціснутым комам стаялі, пакуль не прапіхаў іх новы людзкі напор. На вялікае дзіва Лясьніцкі, падышоўшы да самых дзьвярэй, раптам убачыў Халіму. Той стаяў, прыхінуўшыся да сьцяны,—змрочны, пануры, як чорная цень. Лясьніцкаму кінулася ў вочы, што правая рука ў яго перавязана нейкай, ня надта чыстай, ашмёткай, на якой відаць цёмныя плямы крыві.

Лясьніцкі падышоў да Халімы, поўны раптоўнай трывогі.

— Што ты тут робіш?.. Што ў цябе на руцэ?..

— Нічога...

Халіма моўчкі завярнуўся, каб ісьці разам з Лясьніцкім. Быццам ён для таго і стаяў тут, каб дачакацца і разам пайсьці. Як вышлі на вуліцу, Лясьніцкі запрасіў яго да сябе начаваць. Ён нічога не адказаў, але пайшоў разам з усімі. Славін таксама пайшоў у іх бок. Ён ішоў з Нінай і ўвесь час аб нечым горача ёй гаварыў. А Ніна маўчала. З таго моманту, як убачыла Халіму, Ніна стала сур'ёзная і смутная. Яшчэ там, у залі, Лясьніцкі заўважыў, як яе твар, устрапянуўшыся раптоўнай трывогай, пакрыўся ценем глыбокае думкі—развагі.

Халіма ішоў вялікімі наўмысна-размашыстымі крокамі. Кожны рух яго выяўляў зацятую змрочную злосьць. Маўчаньне яго было цяжкое, няпрыемнае. Здавалася—во-во разарвецца яно ў нейкі нечакана-дзікі ўчынак, у нешта нежаданае і дрэннае. Лясьніцкі ўвесь час пазіраў на яго настарожаным вокам, і чым дальш, тым больш працінаўся трывогай і страхам.

Аднак, кончылася ўсё адным сьмяхоцьцем. Як прайшлі ўжо яны з поўдарогі, Халіма раптам дагнаў захопленага гутаркай з Нінай Славіна, сярдзіта адпіхнуў яго ў бок ад дзяў-

чыны, моўчкі ўзяў яе падручку і—нібыта што—пасігаў далей сваёй нязграбнай хадою.

Андрэй таўхануў моўчкі пад бок Лясьніцкага і абодва ледзь стрымаліся, каб не зарагатаць на ўсю вуліцу. А зьбянтэжаны Славін так і стаяў на адным месцы, разважаючы пэўна, чаму на яго, а не на каго другога, выліў злосьць сваю Халіма. Хлопцы, сьмяючыся, пачалі яго суцяшаць. Тады і ён засьмяяўся—проста так, шчыра, нібы зусім не да яго датыкалася справа. Каб не дражніць Халіму, яны ўсе прыстоілі троху, пусьцілі таго з дзяўчынай наперад, а самі пайшлі зводдаль, жартуючы і сьмяючыся. На іхнае дзіва праз колькі хвілін Халіма раптам спыніўся і стаў іх чакаць.

— Ну, Нікадзім, беражыся,—пажартаваў Лясьніцкі.

І, як на сьмех, вышла, што Славіна-ткі Халіма й чакаў. Ён падпусьціў яго на крок да сябе і прабурчэў ні то пагрозна, ні то пагардліва:

— Рэволюцыя—сьвята гаворыш? Га?.. Сьвята?.. Сьвята?.. Вялікадня?.. Не пры-зна-ю!..

І, крута завярнуўшыся, пайшоў далей...

Славін цяпер ужо зусім асалапеў. Лясьніцкі тож нічагутка ня цяміў.Толькі Андрэй зразумеў, мабыць, нешта, бо зайшоўся раптам ад грубога давольнага рогату. Гэты сьмех не ўпадабаўся Лясьніцкаму. Нешта ў ім пачулася рэзкае, мэталічнае. Ад гэтага сьмеху зьлёгку прабеглі ў яго па скуры мурашкі.

Славін далей не пайшоў. Разьвітаўся ён з хлопцамі неяк пасьпешна і суха—пайшоў назад задумёнаы, пануры.

А Халіма пайшоў-ткі начаваць да Лясьніцкага. Там Ніна яму прамывала руку, ён дабрадушна лаяўся і апавядаў, як, невядома чаго раззлаваўшыся, ён пайшоў увечары ў школу і там—на адзіноце—выбіваў кулаком шыбы ў вокнах...

— Калі добра біць, нішто... А то неяк няладам ударыў, дык шкло і паўлазіла...

Ніна, робячы перавязку, вясёла сьмяялася, зазірала ў твар яму радаснымі вачмі. А Лясьніцкаму было троху няпрыемна, зайздросна. Нічога добрага вось не зрабіў, а такая ўвага яму, як гэрою ўсё роўна. І Андрэй глядзіць на яго

з асаблівай прыхільнасьцю, быццам сапраўды чалавек зрабіў нешта цікавае, важнае. А што Ніна, дык тая ня ведае, што ўжо й зрабіць, як дагадзіць. Такая яна няцікавая, гэтая Ніна... І няпрыгожая, зусім няпрыгожая...

Лясьніцкі нават нахмурыўся быў, стуліўся ў панурым маўчаньні. Настрой гатоў быў зусім сапсавацца. Але схапянуўся потым, зразумеў, што так нядобра, брыдка. Дый усё роўна трудна ўстрымацца было, гледзячы на груба-жартлівую міну Халімы, каб не засьмяяцца шчырым, вясёлым сьмехам.

Як кончылася работа з перавязкай, яшчэ з гадзіну сядзелі ўсе ўчатырох у пакоі Лясьніцкага, захопленыя дружнай гутаркай, жартамі.

Спаць ляглі позна.

ЛЯСЬНІЦКІ атрымаў з вёскі ліст, напісаны нязграбнай рукой меншага брата. У лісьце было пералічана блізка паўсотні паклонаў (у самым канцы быў і ад Макрыны, ад невялічкай, чорненькай) і было ў лісьце сказана, што прадалі цялушку на корм, што хлеба хапае і ёсьць скароміна, што ходзяць чуткі аб прыбаўцы зямлі, што вярнуўся сусед Аксэнта бязногі з вайны, а Рыгор здаровы туляецца, ня хоча йсьці на вайну, што трэба лесу шукаць—разбурылася пуня зусім, і г. д. Пыталіся, ці хутка будзе мір і які будзе новы парадак. А ў самым канцы, ад сябе ўжо, мусіць, брат прыпісаў, што пракруціў на гумнішчы тры бярозы і што бярозавік сёлета дужа салодкі, добра сабраць дзежку на квас. А Макрына асабліва прасіла перадаць паклон і яна дужа маркоціцца, чакае яго...

Ужо быў канец сакавіка. Стаяла ў горадзе вясна—мяккая і туманная, поўная вільготнага паху. Разьліўся Дняпро. Лясьніцкі штодня хадзіў глядзець, як у магутна-імпэтным спакоі сунецца веліч яго, як трэцца ён аб сьцены будынкаў і пагрозна бурчыць, глытаючы задзірлівыя постаці ледаколаў.

Дома, на вёсцы, Дняпро разьліваецца шырока-шырока, так што ня відаць зусім процілеглага боку. Тады дужа дзіўна тырчаць на вадзе адзінотныя дрэвы, быццам няўмысьля забеглі ў ваду і стаяць асалапелыя, ня ведаюць, што рабіць. Задзіраюць спалохана полы свае, баяцца змачыць набраклае жыцьцёвым сокам гальлё. А Дняпро жартуе, гарэзуе з імі, трэцца ў нагах, булькае ў гульліва-ласкавым захапленьні.

Дняпро адчувае сілу сваю ў вясновыя павадкі. З Дняпром тады жарцікі дрэнныя. Пра вясновыя штукі Дняпра трэба паслухаць вось апавяданьні старога перавозьніка Саўкі, які Лясьніцкаму нават даводзіцца нейкай раднёй. Ён, калі хочаце, пералічыць на сваіх карузлых, скручаных ад вясла пальцах, колькі праглынуў Дняпро чалавечых ахвяр за шэсьць дзесяткаў гадоў, якія жывуць ва ўёмістай памяці дзеда. Ой, не малая лічба зьбярэцца!..

Лясьніцкі хадзіў на Дняпро, каб у сьвежых павевах, у мяккім шолаху вадзяных прастораў пачуць прывітаньне далёкае вёскі, узьняць у душы квяцістую сетку ўспамінаў.

Але ці-ж гэта ўспаміны? Вось калі слухаеш, прыслухоўваешся да свайго сэрца і ў тон яго салодкім заміраньням плывуць у сьвядомасьці павольнай чаргой абрыўкі малюнкаў, асобныя рэчы, словы, напевы—да болю знаёмыя, родныя, калі няма ні думак, ні лятуценьняў, а толькі акорды глухіх адчуваньняў... Калі ўпінаецца зрок у адну якую-небудзь кропку на шырокай гладзі і потым нікне і кропка, і гладзь, і ўсё, што наўкола, і нібы засынаеш, укалыханы музыкай павадак і, нібы ў сьне, мільгаюць туманна, няясна абрыўкі балюча-знаёмага.

А часамі іначай бывае. Часамі Лясьніцкі ходзіць на Дняпро, каб цьвяроза падумаць, каб у спакоі зрабіць падрахунак таму, што дзеецца вокал, што шчыльней і шчыльней абкружае, што патрабуе пэўных адносін, што патрабуе актыўнага ўдзелу.

Доўга, часамі думае ён, да болю напружвае розум—і ня выходзіць нічога. Каб гэта знайсьці які пункт, апору якую, каб было вакол чаго снаваць разважаньні. Ато—адна бы-

таніна, адна няўцямнасьць. Так многа вакол яскравага, новага, а што ў гэтым новым, што нясе яно за сабой—невядома.

Прайшоў адзін месяц, а колькі падзей прамігнула, колькі ўбачыў, даведаўся такога, аб чым і ня думаў ніколі.

Было шмат сходаў, былі дэмонстрацыі. Усюды гаварылі ўрачыста й прыгожа. І прывык сам думаць аб вялікім, прыгожым, аб рэволюцыі, вызваленьні, аб шчасьці народа, аб шчасьці ўсяго чалавецтва. Прывык адчуваць сьвята, захапляцца ім да сьлёз, да шчымлівага болю ў сэрцы...

Але ня было сьвядомага разуменьня ўсяго, што бачыў наўкола. Ня было „пункту", ня было апоры для разважаньняў.

У горадзе ўсталявалася новае, новы парадак. Выехаў цар, зьявіліся партыі, адозвы, афішкі, пайшлі сходы, спрэчкі, прамовы, рэзолюцыі... Прыяжджалі міністры—яны яшчэ прыгажэй гаварылі, яны так горача заклікалі паўстаць на абарону вольнай айчыны, што закіпала адвага ў грудзёх і сапраўды хацелася рынуцца ў бой.

А з вёскі пішуць, што няма корму і бурыцца пуня. Пытаюцца, ці будзе мір, які будзе новы парадак. А што ён адкажа? Чаму няма корму і лесу на пуню, а лясы ёсьць, і зямлі ёсьць шмат, і лугоў, і ўсяго?.. Чаму трэба нейкі іншы парадак? Дзе знайсьці „пункт"? Дзе знайсьці разуменьне?

Коціцца пад нагамі стары пасівелы Дняпро, сьцеле шлях шырачэзны праз палі і лясы, сьцеле магутны шлях, які дыхае напорным поступам, у якім сіла зямлі, сіла жыцьця. Гэты шлях зачароўвае, цягне за сабою думкі і мары ў вольную далеч, у нязьведанае, у непазнанае. І вось, калі аддасіся ўплыву гэтага шырокага поступу, калі паляціш па бязьмежных прасторах сьмелымі марамі, тады можа зьнікнуць на час усё будзённае, дробнае, тады можна зьведаць чыстае пачуцьцё волі, тады загарэцца можа ў сэрцы радаснае імкненьне да нечага сьветлага, і гэтае сьветлае здасца магчымым і блізкім. І тады можна на момант пачуць, што нібы знойдзен „пункт", што нібы стала ўсё зразумела і проста.

Гэта—міраж. Гэта—самападман. Лясьніцкі даўно расчараваўся ў гэтым. Лясьніцкі ведае, чым гэта канчаецца.

Разьвеецца мара, выплыве зноў усё гэта будзённае, шэрае, і зноў—няўцямнасьць цяжкая, зноў няма „пункту“, няма апоры для думкі.

Аднаго разу Лясьніцкі хадзіў глядзець павадкі з Нінай. Ніна сама папрасілася з ім, як даведалася, што йдзе на Дняпро. Ён згадзіўся ахвотна.

Яны зайшлі аж за горад, дзе ў бязьлюдзьдзі глыбей адчуваўся подых вясны, дзе шырэй і вальней разьліліся павадкі і гусьцей пахла цёплай вясновай вільгацьцю. Там глядзелі яны, як на бязьмежжы вадзяных прастораў паміраe дзень, як засьцілаецца ён волкаю воўнай вячэрняга змроку. Там яны слухалі, як у прытоеным булькaньні хваль, як у поўным стрымленай моцы шолаху павадак родзіцца таемнасьць і жудасьць, родзяцца нейкія дзіўныя гукі—глухія і пагрозныя.

Спачатку яны жартавалі, Лясьніцкі дражніўся з Нінай, абое весела, зычна сьмяяліся. Але як патыхнула аднекуль вячэрняй жудасьцю, як пайшлі па вадзе таемныя змрокі, неяк міжвольна прыціхлі абое, загаварылі сур'ёзна і шчыра. Змрок снаваў паміж іх сяброўскую блізкасьць, хацелася аб нечым расказваць, успамінаць, адкрываць адно аднаму жыцьцё сваё, свае пачуцьці і настроі.

Таму, калі папрасіла Ніна сардэчна і ціха:

— Раскажыце што-небудзь! —

Лясьніцкі пачаў успамінаць і апавядаць ёй пра розныя зьявы з свайго жыцьця. Ніна ніколі ня бачыла вёскі. Яе цікавіла кожная дробязь. Яна моўчкі сядзела—нярухомая, ціхая—і ў наіўна-шырокіх вачох яе было поўна цікавасьці. Часамі яна аб чым-небудзь запытвала. Голас яе быў задуменны, працяжлівы, нібы гаварыла яна скрозь густую дрэму. Калі-ж Лясьніцкі змоўк быў на часіну, яна раптам сказала, гледзячы ў змрочную далеч:

— Мая маці з вёскі была... Яна любіла расказваць... і песьні пела вясковыя...

Лясьніцкі зірнуў на яе з здзіўленьнем. Дасюль ні разу Ніна не ўспамінала пра маці. Для далікатнасьці ён спытаўся:

— Калі памерла ваша маці?

— Чатыры гады ўжо прайшло... Яна была яшчэ зусім маладая. Але мы дрэнна жылі, у вечнай бядоце. Ёй трэба было добра карміцца і лячыцца таксама... А тады адзін бацька толькі зарабляў, Андрэй не хадзіў на работу, малы быў яшчэ. Яна з сухот памерла...

Лясьніцкі глядзеў на Ніну і не пазнаваў яе... Ён прывык бачыць яе заўсёды вясёлай, бязрупатнай. Ён ні разу з ёй не гаварыў усур'ёз, а толькі жартаваў ды дражніўся. Цяпер гэты голас яе—задуменны, журботны, твар яе строгі, ахутаны змрокам,—усё гэта рабіла яе нейкай новай, зусім незнаёмай.

А Ніна апавядала далей. Захацелася мусіць і ёй расказаць пра жыцьцё сваё, пра гароту.

— У нас тады быў яшчэ брат адзін, Уладзік. Ён быў малодшы за ўсіх. Дык Уладзік таксама памёр, праз год пасьля мамы. Яго аддалі былі ў вучні на гарбарню, а яму, мусіць, пашкодзіла праца... Уй, як там дрэнна было працаваць! Такое паветра там дрэннае, шкадлівае. І праца цяжкая была. Змарнеў ён ад гэтага... Добры быў такі хлопец... Усе хвалілі, казалі, што дужа разумны. А тады пайшоў на чыгунку Андрэй, пачаў зарабляць... Нішто, троху жылі. Цяпер ізноў дрэнна—дарагоўля такая, а грошай мала, бацька хварэць пачаў, кінуў работу.

Апошнія словы Ніна сказала глыбока-зьніжаным голасам, у якім пачулася Лясьніцкаму нэрвовае дрыжэньне. Страшна стала яму, каб не заплакала часам, бо ня ведаў-бы тады, што рабіць. Але Ніна толькі цяжка ўздыхнула і, адвярнуўшыся, моўчкі глядзела ў той бок, дзе ў густым змроку пагрозна і жудасна шасталі павадкі.

А Лясьніцкі напружна ўглядаўся ў яе, шукаў знаёмага ў ёй, звычайнага, што бачыў заўсёды, штодня. І не знаходзіў. Ніна была незнаёмая, новая. Нават твар яе, мяккі ад змроку, здаваўся зусім не такім, як заўсёды. З яго сьвіцілася нешта балючае, горкае, што надавала яму асаблівую, трагічную нейкую сталасьць.

І вось здалося яму, што некалі быў ужо якраз такі момант, як цяпер, што паўтарэньне гэта чагось прамінулага,

але моцна, глыбока асеўшага ў памяць. І тады постаць Ніны ахінулася раптам нязвычайнай сымпатыяй і ў твары яе ўбачыў Лясьніцкі балюча-знаёмае, роднае. Гэта ўжо быў ня Нінін твар, а другі—любы і блізкі. Гэта быў твар Макрыны—невялічкай, чорненькай, гэта была яе пакутная ўсьмешка. І здалося тады, што гэта кругом роднае поле, што зьлева сьцяной насуваецца лес, а справа ў Дняпро ўбягае рачулка. А за сьпіною на сотню-другую крокаў пачынаецца вёска, дзе трэцяя з правага боку стаіць яго хата.

У хаце цяпер рыхтуюць вячэру. Там бедна і брудна, але ёсьць асаблівая прытульнасьць, нязграбная нейкая, чорная. Зараз трэба ўжо йсьці туды, каб не чакалі. Трэба яшчэ схапіць колькі пацалункаў, трэба яшчэ ўглядзецца добра ў любую ўсьмешку. Яшчэ моцна-моцна прытуліць яе трэба—невялічкую, чорненькую... палюбоўніцу горкую, крушынавую радасьць яго...

У гэты момант абарачваецца Ніна і пытаецца звычайным сваім голасам:

— Можа пойдзем ужо? Нешта сьцюдзёна...

І нэрвова паводзіць плячмі, шчытней захутваецца ў сваё паліто.

Лясьніцкі яе пазнае, яна стала звычайная, як і заўсёды. Яшчэ момант—і засьмяецца, пачне жартаваць.

Але йсьці Лясьніцкаму яшчэ ня хочацца, у яго раджаюцца нейкія новыя ні то пачуцьці, ні то думкі, яму здаецца, што ясьней робіцца ўсё, аб чым думаў усе гэтыя дні, што намячаецца нейкае абагуленьне, нейкая стройнасьць, парадак. Нібы пачынае злучацца ў адно і шчырае апавяданьне Ніны, і тое, што там, на вёсцы, і Матрунін, што вярнуўся з турмы, і чырвоны рабочы ў аблезлай тужурцы—нязграбны і цьвёрды, як кавадла ў кузьні.

Потым мігаюць адно за адным: працяты ўздымнаю радасьцю твар Нікадзіма, буяныя парываньні Халімы, таемная ўсьмешка Андрэя. Але як успомніў Халіму, пачуў лёгкую няпрыязнасьць да Ніны, стала чамусьці прыкра. І наўмысьля запытаў, хоць ведаў, што не да-рэчы пра гэта пытаецца:

— Вы Халіму даўно ня бачылі?

А Ніна адказала зусім шчыра і проста:

— Чаму даўно? Ён-жа кожны дзень прыходзіць да нас.

І потым, нібы схапянуўшыся, дадала:

— Яны з Андрэем бадай што не разлучаюцца. Кожны вечар некуды ходзяць...

Лясьніцкаму яшчэ больш стала прыкра. Ён і сам бачыў што ў апошні час Андрэй з Халімам вельмі блізка сышліся сустракаюцца часта, многа аб нечым гавораць. І Ніна часта з імі бывае. А ён у баку неяк заўсёды, бо сам сваёй дружбай набівацца ня хоча, а яны таксама яе ня шукаюць. І яму няпрыемна бывае ад гэтага. Таму, калі Ніна няўмысьля напамянула пра гэта, Лясьніцкі зусім нахмурыўся і, памаўчаўшы хвіліну, грубавата й надута сказаў:

— Ну, пойдзем... Позна зусім ужо...

Ішлі яны моўчкі. Аж да самага гораду не пакідаў Лясьніцкага дрэнны настрой. У думках зноў бязладзьдзе было няпрыемнае, зноў апанавала цяжкая няўцямнасьць.

А Ніна сама сабе ціха ўсьміхалася...

АНДРЭЙ спраўдзіў сваё абяцаньне: ён пазнаёміў Лясьніцкага з Матруніным. Лясьніцкі ад гэтага быў у надзвычайным захапленьні. У першы момант, як падвёў яго Андрэй да гэтага славутага рэволюцыянэра, Лясьніцкі страшэнна ўзрушыўся. Ён забыўся на ўсё, нічога ня бачыў, апрача жывых і вострых вочак старога, нічога ня чуў, апрача слабога, троху пявучага голасу. Калі Матрунін нешта быў запытаў у яго, дык ён так сьмешна па-вучнёўску замятушыўся і ня ведаў як, якімі словамі яму адказаць. Выручыў Андрэй. Ён загаварыў аб нечым з Матруніным—проста так, стала, быццам з раўнёй, быццам з сваім звычайным таварышом.

Тады Лясьніцкі, троху адступіўшыся, пачаў разглядаць Матруніна. Ён яму дужа ўпадабаўся. У яго голеным, зусім маленькім твары Лясьніцкі ўбачыў нейкую пакутную

мяккасьць, нейкую бязьмежную самаахвярнасьць. Асабліва яна выглядала з яго тонкіх, нэрвова расьцягнутых вуснаў, абкружаных сеткай маршчынак. Здавалася, што куткі гэтых вуснаў няўпынна дрыжаць, што гэта—вынік глыбокага гора, вынік цяжкога напружаньня духа. І цяпер, здавалася, жыве ў нутры яго ўсё пераэкытае, сочыцца з сэрца, мяшаецца з сёньнешняй радасьцю. Таму й асабліва сымпатычным здаваўся гэты стары чалавек, што нібы заключыў у сабе ён сынтэз адвечнага гора і маладой, яшчэ няпэўнай і хісткай радасьці.

Разьвітваючыся з Лясьніцкім, Матрунін запрасіў яго да сябе.

— Заходзьце ўвечары, пагамонім аб тым, аб сім... Я моладзь люблю, я й сам яшчэ малады, дармо, што галава пасівела, хе-хе... Заходзьце, заходзьце...

Лясьніцкі ведаў ужо, што ў Матруніна часта зьбіраецца моладзь, што вакол яго ўтварыўся цэлы гурток прыхільнікаў, нібы вучні вакол настаўніка. Таму ён прыняў усур'ёз запрашаньне старога і пастанавіў абавязкова зайсьціся, а калі магчыма, дык і стаць пастаянным сябрам гуртка, які яго абкружае. І яшчэ ён надумаў узяць туды з сабой Славіна. Таму напэўна будзе прыемна пайсьці. А ўдваіх лепш. Пасьля абмяняцца думкамі, растлумачыць што адзін аднаму... І сьмялей неяк удваіх.

Дні праз два яны пайшлі да Матруніна. Яны лёгка знайшлі яго кватэру, бо на колькі кварталаў яе ведаў амаль што кожны жыхар. Жыў Матрунін у досыць багатай кватэры на адной з галоўных вуліц гораду. Толькі цяпер, прышоўшы да яго, Лясьніцкі даведаўся, што ён халасьцяк і ня мае ніякае радні. Жыве з ім толькі нейкая маўклівая, крута сагнутая бабулька—мабыць, яго ахмістрыня.

Лясьніцкаму зусім пышнай здалася кватэра Матруніна. Бадай першы раз ён быў у такой. Дываны на падлозе зьвязвалі яму ногі, ён ступаў так нязграбна, быццам ішоў па сьлізкаму лёду.

У гасьцінай весела, ясна тапілася грубка, разьлівала па пакоі цудоўную цёплую прытульнасьць. Каля грубкі

ў крэсьле сядзеў сам Матрунін, а вакол яго разьмясьцілася з дзесятак хлапцоў. Хто сядзеў, хто стаяў, хто хадзіў па пакоі—відаць, трымалі ўсе сябе вольна, як дома.

Матрунін пазнаў Лясьніцкага і ветла прывітаўся з ім. Славіна Лясьніцкі адразу прадставіў. Стары і таго сустрэў вельмі цёпла, быццам чакаў яго, і рад, што прышоў.

У мяккім хатнім гарнітуры, асьветлены гарэзьлівым бляскам групкі, Матрунін здаўся Лясьніцкаму яшчэ больш сымпатычным, чым той раз. Дый усё тут было сымпатычнае. Нават хлопцы—усе незнаёмыя, чужыя—здаліся такімі добрымі, слаўнымі, быццам былі гэта старыя таварышы і прыяцелі.

Як увайшлі Лясьніцкі і Славін, ужо вялася жвавая гутарка. Хлопцы селі ў куток і пачалі ўважна прыслухоўвацца. Спачатку трудна было ўявіць, аб чым ідзе гутарка. Часта паміналіся словы „народ“, „дэмакратыя“, „свабода“. Потым ясна стала, што гутарка йдзе аб сучаснасьці, аб рэволюцыі, яе лёсе, аб лёсе Расіі і г. д. Спрачаліся: ці павінна быць у Расіі дэмократычная рэспубліка, ці проста рэспубліка, ці канстытуцыйная монархія. Вышуквалі розныя спосабы для захаваньня моцнае арміі, для захаваньня парадку, для перамогі над немцамі.

У той час усе гаварылі аб гэтым, у той час наогул шмат гаварылі, пачынаючы з міністраў і канчаючы дробным гандляром з бакалейнае крамкі.

Матрунін глядзеў на моладзь і ўсьміхаўся пагадлівай усьмешкай. Ён зрэдку ўстаўляў сваю аўторытэтную рэпліку, але больш маўчаў і слухаў. Мабыць, чакаў, каб выгаварыліся ўсе колькі-хоця, каб вылілі свой юнацкі пыл.

Нарэшце, неяк само сабой вышла, што змоўклі ўсе, а пачаў гаварыць Матрунін. Гаварыў ён доўга, мабыць, гадзіны са дзьве, але не надакучыў нікому. Ні на хвіліну ня зьніжалася агульная ўвага, ні адным гукам ніхто не перапыніў яго.

Матрунін быў стары рэволюцыянэр-народнік. Ладную частку жыцьця ён правёў у турмах і высылцы. Мабыць, там

ён і выгадаваў у сабе нязвычайна прыгожы ідэал свабоды і шчасьця, які мог вырасьці толькі на глебе глыбокага асабістага гора, зьлітага з горам мільёнаў, з адвечнай народнай пакутай. Гэты ідэал, якім цалком прасякнута было ўсё жыцьцё старога Матруніна, яго ажыўляў, рабіў маладым, даваў яму здольнасьць уплываць на другіх, асабліва на моладзь.

Сёньня стары апавядаў пра мінулыя дні барацьбы, пра тое, як кахалі яны, старыя рэволюцыянэры, народ, як гатовы былі пайсьці за яго на пакуту і сьмерць, як адданы былі сваёй небясьпечнай, але прыгожай і слаўнай справе.

На Лясьніцкага словы Матруніна рабілі моцнае ўражаньне. Прад вачмі ў яго плылі поўныя цудоўнай романтыкі малюнкі. Яны захаплялі яго, поўнілі напружана-вострымі лятуценьнямі. Ён гатоў быў цяпер пайсьці на змаганьне, гатоў быў ахвяраваць нават жыцьцё...

За народ... За свабоду...

Вочы ў яго блішчэлі ясным агнём парываньня і неяк млосна, балюча сьціскалася сэрца.

Калі-ж потым Матрунін пачаў гаварыць аб сучасным, пачаў гаварыць аб абавязку кожнага з іх пайсьці на службу народу, Лясьніцкі зусім загарэўся. І тады яму стала надзвычайна радасна, бо здалося, што праясьніліся ўсе сумненьні яго, што сам сабою знайшоўся той „пункт", якога шукаў ён, без якога ня мог знайсьці месца ў жыцьці...

За народ... За свабоду...

Мігнула ў думках прыгожым туманам родная вёска... Сям'я... Макрына... І ўсё расплылося ў нечым шырокім, кажуховым, у любым такім, да чаго трэба ісьці, чаму трэба служыць...

Гэта—народ. Гэта—той „пункт", вакол якога павінна віцца жыцьцё, гэта апора імкненьняў, думак і лятуценьняў. Цяпер усё ясна, усё зразумела.

І Лясьніцкага ўсё больш і больш ахапляе вострая радасьць. Сэрца яго топіцца ў моры агнёвых жаданьняў—у бурным моры, ад якога ў сэрцы ўскіпае балючая слодыч. Ён ня бачыць нічога навокал, яго погляд увабраўся некуды у глыб,

ён сузірае, ён яскрава бачыць вобразы сваіх лятуценьняў, бо малюнак іх ясны й прыгожы.

Яму здаецца, што прад ім вольна раскрылася шырокае бязьмежнае поле. Гэта—жыцьцё. І ў гэтым полі-жыцьці пераблытанай сеткай віюцца сьцежкі-дарожкі. Іх многа бязьмерна, яны перасякаюць, пераганяюць адна адну і неяк пасьпешна, уцякаючы, губляюцца ў далечы, быццам хочуць завабіць туды, заманіць...

Ён выбірае адну сьцежку і йдзе—сьмела, адважна йдзе ў шырокае поле-жыцьцё. Сьцежка прыгожая—на ёй мякенькі жоўты пясочак, а па бакох сьвежыя кветкі. Ён цьвёрда ведае, куды яна прывядзе. Ён ужо бачыць там недзе далёка ў дыме сінявае смагі нявыразна-знаёмае, любае... Там—кажуховая вёска. Там—народ.

Ён сьпяшаецца, бо ведае, што там шмат сьлёз, шмат гароты. Там—горкая ўсьмешка Макрыніна расьцілаецца, топіць усё, пакрывае ўсё-чыста сваёй гаркатой.

Ён сьпяшаецца, бо йдзе на ратунак, бо йдзе, каб аддаць свае сілы, жыцьцё сваё нават—за долю народа. Ён чуе, ён назаўсёды запомніць гэтыя словы Матрунiна:

„Народ вякамі стагнаў пад прыгнётам. Народ прагна чакаў вызваленьня... Цяпер ён яго атрымаў. Цяпер ён другога чакае, другога ад нас патрабуе... Ён цёмны, ён хоча сьвету, хоча навукі. Ідзеце ўсе, вучэце народ, аддавайце яму свае веды, свае сілы... Помніце, што людзі паміралі за тое, каб вы—цяперашнія гаспадары жыцьця—убачылі волю, убачылі такую высокую радасьць. Працуйце-ж, каб працягнуць з гонарам справу бацькоў..."

Так, яны будуць працаваць, яны усё зробяць, што толькі будзе па сілах...

І як скончыў Матрунін сваю двухгадзінную гутарку, хлопцы азваліся дружным, бязладным выбухам гоману, у якім чутна было сапраўднае імкненьне да нечага вялікага, новага, да працы па дасягненьню гэтага новага. А Матрунін, зморaны, аслабелы, адкінуўся ў крэсла і сядзеў нярухома, гледзячы на хлопцаў з цёплай бацькаўскай усьмешкай.

Рад быў стары, што словы яго так запаляюць людзей, такі робяць уплыў на іх сэрцы.

Ад Матруніна Славін пацягнуў Лясьніцкага да сябе.

Вясновая ноч была цёплая, на вуліцы роілам біўся народ, было навокал пярэста і шумна. А як збочылі з галоўнае вуліцы ды прайшлі кварталы са два, там ужо спаў горад у ціхай цемры, было бязьлюдна і пуста.

З-за аднаго рогу наўпярэймы ім вышла купка нейкіх людзей. Яны завярнуліся і, голасна гамонячы, пасунуліся сьпераду ў хлапцоў.

Хлопцы прыціхлі й прыслухаліся. Гутарка людзей іх зацікавіла.

— Ён паручнікам служыць... грап нейкі знатны... багатыр...

— Сволач... вядома...

— Ну, дык што?

— Прыяжджаюць, заказваюць поезд—падарункі, значыць, салдатам на фронт...

— Трэба ім дужа... Усё на падман... каб не разьбегліся...

— Так... Дык вось поезд гатоў, прыяжджае гэты панок—фэртам такім, займае мяккі вагон, адпраўляецца поезд, усё як мае быць... А потым, бач, аказалася, што ў сумятні недзе сабачка яго тут, на вакзале, згубілася... Што-ж бы вы думалі? Дайшоў поезд да першага разьезда і—стоп... круці назад... Разьезд звоніць сюды—так і так, сабачка, значыць, у грапа прапала, дайце жазла... назад, значыць, ехаць... Дзяжурны туды-сюды... і прыняць поезд,—дык прапаў, і ня прыняць—тож прапаў, грап ня спусьціць...

— Ну, і як-жа вышла?..

— Ды так... знайшлі тую шчэнь ды на паравіку адправілі—гаспадара даганяць... Для сабачкі, значыць, паравік прадставілі... А на вакзале чакаюць адпраўкі сотні людзей, а мо' й тысячы...

Цёмную ціш прабіла некалькі ўзмахаў ядрана-злоснага мата.

— Сволачы, жывадзёры!..

— Раскашуюцца, чэрці, з чужога поту. Ім—што, сабачкі ў модзе, а людзі здыхаюць з голаду... Тыдзень працуеш, а на дзень не заробіш... Свабоду далі...

— Свабода, ды не табе...

— Свабода панскім сабачкам, ха-ха...

Зноў паляцела некалькі матаў. Потым яшчэ апавядаў той, што раней расказаў пра сабачку. Хлопцы ўжо не даслухалі, бо тыя зьвярнулі, пайшлі другой дарогай...

Лясьніцкі адчуваў сябе неяк няёмка. Цягнула пагаварыць зараз аб тым, што чулі, са Славіным, але чамусьці трудна было распачаць. А Славін таксама маўчаў, нешта думаў. Мабыць, і яму карцела пагутарыць, ды ня ведаў, як тут пачаць.

І пачуў Лясьніцкі, што гэты выпадак, гэтая няўмысьля падслуханая гутарка ўбілася мулкім ражном у той узьняты настрой, з якім ён пайшоў ад Матруніна. У тое ружовае, сьветлае—капнула кропля чорнай атруты, едкай гаркатой разбавіла чароўную слодыч.

Хацелася пазбыцца гэтага ўражаньня, хацелася аднавіць ранейшы настрой. Але ня ведаў, як гэтага дасягнуць. Каб далей не маўчаць, каб нарэшце завесьці аб гэтым гутарку, Лясьніцкі спытаўся:

— Славін! Хто гэта былі?

— Пэўна рабочыя... З чыгункі, мусіць...

І зноў змоўклі. Так і дайшлі моўчкі да кватэры Славіна. Толькі там, мабыць пад уплывам клясычнага бязладзьдзя Славінскага пакою, якое раджала нейкую вальготную расківанасьць і лёгкасьць настрою, сьцёрлася ў уяўленьні хлопцаў жывасьць усяго, што было ў гэты вечар. Сьмяючыся, жартуючы, яны гатавалі чай, пілі яго з чэрствым хлебам і сахарынай, чыталі потым вершы Ясінскага і чамусьці нязвычайна захапляліся імі.

А калі ўжо ляглі былі спаць, Славін раптам устаў, палез у скрыню, доўга поркаўся там і падышоў да Лясьніцкага, неяк вінавата бліскаючы сваімі акулярамі—сьмешны такі, недарэчны.

— Слухай, Васіль, я прачытаю табе адзін верш...

Ён чамусьці ўтупіўся і пачырванеў. Яшчэ шмаргануў сваім кнопачкай-носам. І тады ўжо Лясьніцкі ня вытрымаў—зарагатаў ва ўсё горла.

— Ха-ха-ха... Чаго ты так неяк?.. Мабыць, сам напісаў?..

— Ты паслухай.

Нечакана для Лясьніцкага верш аказаўся зусім ня дрэнны. Ахвяраваны нейкай дзяўчыне, верш быў напісан з пачуцьцём і захапляў сваім шчырым наіўным лірызмам.

Лясьніцкі выказаў свой погляд. Славін яшчэ больш засумяціўся.

— Гэта так... У мяне ёсьць яшчэ... Я пішу рэдка... для забавы...

І, паглядзеўшы на паперку, чамусьці ўздыхнуў...

У НАСТУПНЫЯ дні Лясьніцкі блізка што не разлучаўся з Славіным. Удзень яны разам сядзелі ў школе, а ўвечары абохадзілі да Матруніна, калі там зьбіраліся, або сядзелі разам у хаце, праводзячы час за чытаньнем ці проста за шчырай тварыскай гутаркай.

Гэтыя дні для Лясьніцкага прынесьлі яшчэ большы душэўны разлад, яшчэ большую нутраную барацьбу. Ён зноў ня бачыў прасьвету ў жыцьці, ня бачыў адказу на ўсё, што дзеецца вокал, зноў ня было таго „пункту“ для думак, якога ён шукаў ужо не малы час. Ён стараўся знайсьці яго, мучыўся—і не знаходзіў.

У Матруніна кожны раз набіраўся ён гарачага захапленьня, кожны раз выходзіў адтуль, як у чадзе, з усьпененым сэрцам, з гатоўнасьцю рабіць нешта вялікае, труднае, з радаснай упэўненасьцю, што цяпер можна рабіць, што адкрыты цяпер сьветлыя шляхі, шырокія прасторы. І тады сапраўды здавалася яму, што знайшоў ён тую сьцежку-дарожку, якая вывядзе на правільны шлях, што знайшоў той „пункт“, без якога так труднаісьці ў жыцьцё. Гутаркі з Славіным

падагравалі гэты настрой. Ім удваіх заўсёды ўдавалася адцягнуцца ад абыдзёншчыны і захапіцца высокімі, сьмелымі лятуценьнямі, у якіх расплываліся, раставалі ўсе непаразуменьні жыцьця, усе цяжкія пытаньні, якія яно ставіла перад іх юнацкім розумам.

А жыцьцё тым часам давала сябе адчуваць. Яно жорстка ўрывалася ў пабудаваны Лясьніцкім сьвет лятуценьняў, хістала яго, рабіла вялізныя шчыліны, праз якія нёсься ў нутро холад няпрыветнай будзёншчыны, ледзяніў гарачыя парываньні.

Да гэтага часу ўлёгся ўжо першы ўздым рэволюцыі, апала ўрачыстасьць перамогі. У горадзе жыцьцё ўвайшло ў сваю каляіну. Аголенае ветрам лютаўскае рэволюцыі, але не закранутае ў сваёй сутнасьці, яно ўсё ясьней ды ясьней паказвала свае хваравіта-агідныя і страшэнныя праявы, усё больш і больш выносіла наповерх свае глыбокія, нявыгойлівыя супярэчнасьці.

Расла дарагоўля, не ставала харчоў. Разам з тым расло нездаволеньне сярод мас гарадзкога жыхарства, асабліва сярод рабочых. Да гэтага далучалася агульнае абурэньне супроць вайны. Масы вайны не хацелі, бо яна несла голад і сьмерць. Чакалі міру, дамагаліся міру, паўтаралі ўсё часьцей ды галасьней лёзунг—„мір без анэксій і контрыбуцый“. Салдаты беглі з фронта, чыгункі былі забіты адпускнікамі і дэзэртырамі, было дэзэртыраў поўна і ў горадзе.

А ў гэты час афіцыйныя і неафіцыйныя агенты часовага ўраду крычалі аб абароне, аб узмацненьні арміі, праводзілі на кожным кроку добраахвотныя зборы на абарону, па вуліцах шпацыравалі розныя „ўдарныя“ батальёны, „жаночыя батальёны сьмерці“, якіх публіка праводзіла жартамі ды анэкдотамі; на пляцох ладзіліся ўрачыстыя парады, дзе таксама заклікалі да абароны, дзе салдаты гулка крычалі „ура“, каб потым, разышоўшыся, праклінаць тых, каму трэба вайна, і ладзіцца разьбегчыся па хатах.

Усе гэтыя падзеі не маглі прайсьці міма Лясьніцкага. Ён бачыў іх, бо яны кідаліся ў вочы. Яны паказвалі яму,

што нешта тут не ў парадку, што вакол яго змагаюцца нейкія сілы, што змаганьне гэта расьце з кожным днём, з кожным днём абвастраецца.

Зразумець усяго гэтага ён ня мог, бо ішло яно насуперач усяму яго мысьленьню, насуперач тым квяцістым марам, якімі ён сябе абкружыў.

І вось, як выхад з гэтага неўразуменьня, зьявіўся ў Лясьніцкага востры сум па вёсцы, моцнае жаданьне паехаць туды, каб пазбыцца ўсяго гэтага цяжкога, няпрыемнага, што робіцца тут, у горадзе. Свае мары злучаў ён цяпер толькі з вёскай—горад яму зьнялюбеў, як зьнялюбела ўсё тое, што наганяла на розум цяжар балючай няўцямнасьці.

Здавалася, што там, на вёсцы, на вольных прасторах палёў, дзе так проста, так ціха цячэ жыцьцё гарапашных сялян, там знойдзе ён прыгожае, новае, што прынесла з сабой рэволюцыя. Там знойдзе ён глебу для працы, там з захапленьнем, з радасьцю аддасьць свае сілы на служэньне народу.

І Лясьніцкі ня мог дачакацца таго недалёкага часу, калі скончыць школу і здолее ехаць дахаты. Думку аб хуткім ад'езьдзе на вёску ён ні на хвіліну не выпускаў з галавы. Усё, што-б ні рабілася вокал, усё, што-б ні ўсплывала ў нутры ў самога, ён злучаў з гэтай думкай. І яна давала спакой, пазбаўляла ад усіх сумненьняў, ад усяго няпрыемнага, што паўставала на жыцьцёвым шляху.

Сваім новым жаданьнем Лясьніцкі заразіў і Славіна. І вось пачаліся ў іх доўгія гутаркі-ўспаміны аб вёсцы, аб розных праявах вясковага жыцьця. Пачалі ўмаўляцца яны аб тым, што кожны на вёсцы будзе рабіць, аб тым, колькі лістоў у тыдзень будуць пісаць адзін аднаму і г. д.

А з Нінай Лясьніцкі дык пасварыўся нават праз гэта самае. Ён успомніў быў нешта, як калісьці хадзілі яны на Дняпро, як апавядаў ён пра вёску, як яна потым успомніла маці сваю, сказала, што маці таксама з вёскі была, што пела яна вясковыя песьні. І захацелася яму яшчэ з ёй так шчыра пагутарыць, захацелася і з ёй падзяліцца сваім новым настроем.

І вось, калі Лясьніцкі ўжо расказаў пра сваё замілаваньне да вёскі, пра сваю радасьць, злучаную з блізкім ад'ездам туды, пра свае шырокія пляны, калі ён ужо, як мог, нахваліў вёску і вясковае жыцьцё, Ніна раптам спыніла сваю работу (яна нешта шыла) і сур'ёзна яго запытала:

— Колькі ў вас зямлі?

Ён адказаў.

— Колькі вы зьбіраеце хлеба?

Ён адказаў таксама.

Потым пайшлі запытаньні: колькі коняй, кароў, авец, ці вялікая сям'я, ці ёсьць якія заробкі і г. д. Калі Лясьніцкі на ўсё адказаў, Ніна крыху падумала і потым аўторытэтна зазначыла:

— Так. Вы справядліва гаворыце... На вёсцы цяпер жыць куды выгадней...

Лясьніцкі разумеў, што яна наўмысьля, каб падражніцца, дала яго словам такое грубое матэрыяльнае тлумачэньне, але ўсё роўна горка стала і крыўдна. Ён хацеў быў перавесьці гэта на жарт, але замест гэтага вырваўся з вуснаў недалужны дакор:

— Ніна! Нашто вы так...

Тады схапянулася раптам яна і праказала ўжо сапраўды сур'ёзным, нават троху сярдзітым голасам, у якім таксама чувалася крыўда й дакор.

— А што вы мне казкі розныя расказваеце, калі ведаеце, што ў нас хлеба не заўсёды хапае, што бацьку на лякарства няма, што я чаравікаў ня маю зусім...

Лясьніцкаму тады страшэнна сорамна стала. Каб не паказаць гэтага, ён завярнуўся і, не сказаўшы нічога, вышаў з пакою.

Пасьля таго ён цэлы дзень з ёй не гаварыў і свае думкі затоіў глыбока ў нутры, не казаў аб іх больш нікому. Калі нешта Андрэй між іншага запытаў, ці скора іх пусьцяць дахаты, ён буркнуў скрозь надутыя вусны:

— Ня ведаю...

І больш ані слова. Здалося яму, што Андрэй нешта мае на ўме, можа хоча пасьмяяцца над ім. Андрэй больш яго не чапаў.

І пасьля таго з кожным днём Лясьніцкі ўсё глыбей затуляўся ў сябе, рабіўся ўсё больш пахмурым і дзікім. Ён бадай што ні з кім не гаварыў, ад усіх стараніўся, стараўся, каб быць аднаму. Толькі з Славіным яны часамі, як і раней, схадзіліся. Але і ў іх ня было ўжо ранейшае шчырасьці, ранейшага ўзаемнага разуменьня. Не маглі ўжо яны супольна снаваць свае мары, распаляць адзін у адным парываньні, імкненьні. Выходзіла ў іх неяк суха і штучна. І Лясьніцкага мала цягнула да Славіна, больш любіў ён быць у самоце,—яскравей і жывей былі тады лятуценьні, шыбчэй ляцеў час, шыбчэй набліжалася пара ад'езду.

І яшчэ палюбіў цяпер Лясьніцкі хадзіць туды, дзе шмат незнаёмых людзей, куды-небудзь у шумлівае зборышча, дзе так лёгка было загубіцца ў агульнай масе, дзе яшчэ глыбей адчуваў ён сваю адзіноту. Хадзіў ён у сад, на людныя вуліцы гораду, на вялікія сходы, мітынгі, дыспуты. Часамі прыглядаўся ўважліва да твараў, прыслухоўваўся да асобных гутарак, чамусьці стараўся ўсё гэта запомніць, а найчасьцей проста слухаў агульны шум-гоман, колектыўны голас натоўпу. І тады поўнілася галава роўным тлумам, прыемна круцілася. Хадзіў тады, як у поўсьне, закалыханы, нічога ня бачыў, нічога ня чуў, апроч таго тлумнага шуму.

Часамі прыходзілася сустракацца з знаёмымі. Гэта яму было няпрыемна, і ён па магчымасьці стараўся так зрабіць, каб яго не заўважылі.

Аднойчы, ужо за некалькі дзён да ад'езду, ён такім парадкам наткнуўся на Халіму. Хацеў быў міма прайсьці, але той заўважыў і пайшоў да яго.

— Здароў, Васіль... Чаго шлындаеш тут?..

— Здароў... А ты тут чаго?..

— Прышоў паглядзець, як дурань аслоў навучае...

Лясьніцкі міжвольна ўсьміхнуўся. Яны былі на лекцыі аднаго мясцовага кадэта, які лічыўся, і сам сябе пэўна лічыў, бадай што самым разумным чалавекам у горадзе...

— Пачакай!—пажартаваў Лясьніцкі.—Ты-ж і сябе рэкомэндуеш—таксама-ж слухаеш лекцыю.

Халіма ўрачыста падняў палец угару.

— Я—казёл... Я прышоў, каб зьбіць ілбом гэта пужала... Хочаш, Васіль, я зараз саб'ю яго?.. Хочаш—пайду і ня дам гаварыць?.. Хочаш?..

Тут Лясьніцкі з страхам заўважыў, што Халіма ладна выпіў. Ён ведаў, што ў такіх выпадках усяго ад яго дачакаешся...

— На ліха ён табе... Хадзем лепш пройдземся троху.

Халіма памкнуўся пярэчыць, але-ткі згадзіўся.

Яны вышлі на вуліцу. Халіма зьлёгку хістаўся і ўсё бурчэў з п'янай упартасьцю:

— Ты думаеш, можа, што я выпіўшы, га?.. Васіль... ты нешта злуешся на мяне... Я выпіў, бо не магу... У мяне гарыць кроў... Я хачу, каб нешта крышыць, ламаць... Я хачу, каб рабіць рэволюцыю... Васіль, ты думаеш, гэта—усё? Га?.. Хе-хе... Трасца... А рабочыя дзе, а? А сяляне дзе, а? А фабрыкі, заводы, зямля, а? Ха-ха-ха-а-а... Хітрунчыкі... А вайна нашто? Каму вайна трэба, ты ведаеш, Васіль?.. Ты на мяне ня злуйся... я ня люблю такіх, як ты... табе—каб гэта ціхенька, зладненька... А мне—рэволюцыю дай, я буду біцца!..

Ён, захапіўшыся, стаў амаль што крычаць. Лясьніцкі яго папрасіў:

— Халіма! Сьціхні... Я й так добра чую... І я на цябе не злуюся...

— То-то... Помніш, як мы супроць жыдоў выступалі... Я цябе запрасіў, я на цябе спадзяваўся... Праўда, мы ўсе былі дурні... я яшчэ вокны біў тады... помніш? А цяпер я—ого!—разумею... Стой... Пайду растлумачу...

Ён завярнуўся назад. Лясьніцкі хацеў яго затрымаць, але ён ня слухаў ужо.

— Я скажу... Я выкажу ўсё... Хай яны ведаюць...

І, не зважаючы на ўгаворы Лясьніцкага, ён рашуча падаўся назад, на лекцыю.

Лясьніцкі пайшоў сьледам за ім.

Як увайшлі яны ў памяшканьне, якраз толькі што скончылася лекцыя. Старшыня зьвярнуўся да публікі:

— Можа хто хоча выказацца?

І раптам Халіма раўнуў ад парога:

— Я хачу!..

Усе з цікавасьцю азірнуліся. Старшыня троху пагардліва перапытаў:

— Там нехта, здаецца, хацеў...

— Я хацеў!..

— Калі ласка...

Халіма папёрся на трыбуну, шырока расьпіхаючы публіку, грукаючы на хаду сваімі вялізнымі ботамі.

Усе сьціхлі.

— Таварышы! А ці ведаеце вы, што ўсё гэта хлусьня?.. Ня верце, таварышы!.. Зірнеце на наша жыцьцё... За што мы пакутуем?.. Голад, вайна, эксплёатацыя... Капіталісты...

Яго перабілі грукатам, шумам...

— Досыць! Досыць!.. Далоў!..

Ён колькі хвілін змагаўся з абязуліўшай публікай, выкрыкваючы эсобныя, відаць, нялюбыя для прысутных словы. Потым безнадзейна махануў рухой і пад агульны лямант спакойна пасунуўся к выхаду. Падышоўшы да Лясьніцкага, ён яшчэ раз махануў рукой, скорчыў пагардліва-няўцямную міну.

— Не разумеюць... Публіка... Фі-ці-фі... Бур-ржуазія... Пойдзем, Васіль, нам тут ня месца...

Як вышлі, Лясьніцкі запрасіў Халіму да сябе. Ён адмовіўся. Праводзіць яго таксама не дазволіў.

— Ня хочу... Што я п'яны, ці што... Бывай!..

І вось асталося ў Лясьніцкага ад гэтай сустрэчы нешта трывожна-няяснае... Нешта новае чуў ён ад Халімы, але дзе-ж разабрацца ў словах п'янога. Рашыў лепш ня думаць аб гэтым, каб не турбаваць галаву лішнімі сумненьнямі. Пачаў думаць ізноў аб хуткім ад'езьдзе, аб вёсцы, аддаўся зноў сваім лятуценьням.

Але ад гэтай сустрэчы асталося таксама ў Лясьніцкага пачуцьцё сымпатыі да Халімы, якое вымела з сэрца цень ранейшай бяспрычыннай няпрыязнасьці.

І ЛЯСЬНІЦКІ, і Халіма, і Славін ехалі ў адну дарогу. Згаварыліся паехаць разам, на адным поезьдзе, каб было весялей.

Лясьніцкі і Славін хадзілі на разьвітаньне к Матруніну. Стары разьвітаўся з імі, як бацька: прасіў іх бярэгчы сябе, свае сілы, здароўе, каб больш пражыць, каб як найболей зрабіць для народа; напамінаў аб ранейшых гутарках, аб іх абяцаньнях працягваць справу старых рэволюцыянэраў; перасьцярагаў ад магчымых спакус, ад магчымых нядобрых уплываў і г. д. Нарэшце, ён нават блаславіў іх і адвярнуўся ў бок, каб схаваць нечакана набегшыя сьлёзы. Хлопцы таксама расчуліліся. Ішлі назад моўчкі, нібы баяліся парушыць неасьцярожным словам урачысты настрой разьвітаньня. Толькі прайшоўшы ўжо з гоні, Славін паволі высмаркаўся і праказаў:

— Дарагі чалавек...

Лясьніцкі ўздыхнуў.

— Так... Ня многа гэткіх на сьвеце знойдзецца...

І тады зноў маўчалі, аддаўшыся салодкай журбе.

Потым таксама моўчкі з сумам разышліся, умовіўшыся сустрэцца на вакзале.

Поезд ішоў а восьмай гадзіне ўвечары. А ўжо гадзіне а шостай пачалі зьбірацца вучні. На вакзале было поўна народу. Паміж тугаваротнай масы салдацкіх шынэляў, паміж роіла клункаў і торбаў вучні шмыгалі, як юркія мышы, праразаючы мяккі застыглы гуд вакзалу сьвежым сьмехам і віскам.

На вакзале адзін з адным сустракаліся так, быццам паўгода ня бачыліся.

— А! Сьцёпка!..

— Мікола!..

— Білет узяў? Ты куды?.. Не даюць?

— Здароў, Ляксандра, браток ты мой родны!..

— Здароў, каб ты згарэў... Ты ўжо тут?..

Лясьніцкі прышоў раней за ўсіх сваіх падарожнікаў. Яго праводзілі Андрэй і Ніна. Білетаў яшчэ не давалі, і яны ўсе ўтраіх сталі каля праходу, каб лепей было заўважыць сваіх. Чакаць доўга не давялося. Праз хвіліну ўбачылі Славіна, які, не прымячаючы іх, заўзята цёрся скрозь публіку, адчайна абараняючы акуляры і клунак. Яны яго паклікалі, ён з хвіліну мацаў няўцямна навокал сваімі сьляпымі вачмі, потым заўважыў іх і рашуча зьмяніў напрамак. Падышоў запараны, змучаны, але з дабрадушна-ветлай усьмешкай на твары.

— Халімы няма?

— Не яшчэ...

Ён зайшоў за выступ сьцяны, выняў хусьцінку і пачаў старанна церці свае акуляры.

А яшчэ праз колькі хвілін і Халіма прысунуўся. У яго выгляд быў зусім паходны. Ён быў у нейкай куртузай паддзёўцы, падпяразанай салдацкім рэмнем, за плячмі ў яго тырчэла салдацкая паходная торба, а на баку задорна боўталася мэталічная фляшка,—напэўна пустая. Упацеў ён быў страшэнна, але трымаўся бадзёра і важна. Як прышоў, спачатку паволі прывітаўся з усімі, даведаўся пра поезд і потым ужо стаў зьдзіраць з плеч сваю торбу.

У Лясьніцкага быў вельмі добры настрой. Яму хацелася пець, крычаць, сьмяяцца, хацелася выкінуць якую-небудзь гарэзную штуку. І таму, што нічога такога ня можна было рабіць, стаўплялася ў грудзёх захапленьне, сьціскала горла нэрвовымі даўкімі спазмамі.

Яму ўсе здаваліся цяпер прыемнымі, слаўнымі. На Ніну, дык ён ня мог паглядзець, каб ня ўсьміхнуцца пяшчотнай сьветлай усьмешкай. Такая яна была любая ў гэту часіну. І хлопцы таксама... Толькі Андрэй троху нібы турбаваў сваёй нязьменнай тонкай усьмешкай. Стаіць, ледзь-ледзь нахіліўшы на бок галаву, зьлёгку падрыгвае нагой, разглядае ўсіх навокал сьмелым задорным поглядам і ціхенька сабе ўсьміхаецца. А чаго?—нямаведама.

Пачалі даваць білеты. У адзін момант вырасла ад касы даўжэзная чарга, канец якой махануў аж у другі пакой. Хлопцы цяпер толькі ўздумалі, што забыліся заняць сабе месца ў чарзе. Цяпер ня ведалі, што й рабіць. Але выручыў усіх Халіма. Ён чамусьці надзеў сваю торбу (мабыць, для большай важнасьці) і заявіў:

— Давай грошы!..

Праз хвіл н дзесяць—пятнаццаць ён вярнуўся, засопшыся, і раздаў усім білеты.

— На ўсё трэба практыка...

Усе радасна й дружна сьмяяліся.

Поезда яшчэ ня было, але рашылі выйсьці на пэрон, бо было душна ў вакзале.

Пэрон быў густа абліты крывяна-чырвоным бляскам: недзе далёка за горадам, за сілуэтамі цэркваў і фабрычных труб, памірала ў глыбокай чырвані сонца. І адтуль, з гэтай казачна-прыгожай далечы, веяла ціхай цеплю, вясной і спакоем.

Па пэрону слаўся тонкімі цурочкамі бэзавы пах: цьвіў бэз у станцыйных садох і паміраў пышнымі букетамі ў руках станцыйных красунь, што пярэстымі вяткамі гулялі па пэрону.

І сонца, і бэзавы пах, і аксамітная цепль вясновага надвячорку,—усё гэта ўліло ў сэрца Лясьніцкага ружовую слодыч, атуліла павевам дзівосна-мяккай пяшчоты. Захацелася цяпер быць ціхім-ціхім і пявучым, як арфа, каб вясна сваім квяцістым дыханьнем зайграла на сэрцы непазнана-чароўную песьню.

І было прыкра, што цяпер ён ня ўдвух і не на крутым беразе Дняпра, у люстраных водах якога так яскрава купаецца вячэрняе сонца і так звонка плёскае рыба.

Раптам замітусіўся народ, хлынуў бліжэй да пуцей.

Набліжаўся поезд. Узьнялася страшэнная сумятня. Толькі цяпер падумалі хлопцы, што могуць астацца. Пачалі пасьпешна разьвітвацца. Лясьніцкаму неяк кінулася ў вочы, што Ніна на момант затрымала руку Халімы і твар яе асьвяціўся променем сумнай адданасьці. А Халіма толькі нахмурыўся, вырваў руку і завярнуўся ісьці...

Лясьніцкаму чамусьці шкода стала Ніны.

Пачалася пасадка. Хлопцы на чале з Халімай убіліся неяк у вагон, але далей калідору не пралезьлі. Частка народу асталася.

Як крануўся поезд, на хлапцоў напала нейкае шаленства. Яны пачалі крычаць, скакаць, пець песьні, а Халіма знайшоў на вокнах драўляныя накладкі (каб ня біліся вокны) і ўрачыста пачаў іх адламваць. Балазе цёмна ў калідоры і цесна—ніякі кандуктар ня ўлезе. Потым пачалі прымашчвацца. Халіма неяк умудрыўся, пралез у вагон, Славін сеў тут-жа ў кутку, а Лясьніцкі астаўся стаяць ля вакна.

Ужо сьцямнела. За вакном толькі мітусіліся, лёталі іскры, ні то ладзілі нейкія дзіўныя адчайныя скокі, ні то ў перагонкі гулялі. Лясьніцкі, прыхінуўшыся тварам да шкла, дзіваваўся на іх і, калі доўга глядзеў, пачынала здавацца, што гэтыя іскрачкі жывыя, што, даганяючы, яны штурхаюць адна адну і некаторыя валяцца ўніз, а другія з пабедным імпэтам яшчэ вышэй узьнімаюцца. І ўсе імчацца, сьпяшаюцца некуды, баяцца, каб не астацца.

А калі яшчэ даўжэй углядаўся, тады наогул зьнікалі іскры, вязьлі ў глыбокай цемры. Але цемра ад гэтага рабілася яснай, бліскучай, і ў ёй уяўленьне малявала розныя казачна-прыгожыя малюнкі. Былі нейкія горы, палацы, мора, шырокія пясковыя наспы... Адно зьмяняла другое і потым зьнікала ўсё—скакалі зноў, мітусіліся іскры.

Нарэшце зьніклі і іскры—мабыць, зьвярнуў поезд ці вецер падзьмуў у другі бок. Асталася адна чорная засланка ночы.

Лясьніцкі ўсё глядзеў у вакно. Роўная цемра перад вачмі давала магчымасьць цяпер углыбіцца ў сябе, аддацца цалком пачуцьцям. І вось усплыла страчаная на момант у сумятні пасадкі ружовая радасьць. Сэрца салодка зайшлося, неяк зусім блізка падышло, агарнала адчуваньне хуткай сустрэчы. Усталі ў вачох жывыя вобразы блізкіх, знаёмых.

Неяк выяўна зусім адчувалася, як з кожнай хвілінкай, з кожным рытмічным перакатам каткоў далее горад, далее

яго сумятня і напружанасьць, яго загадкавыя супярэчнасьці. І адчуваньне гэта раджала ў нутры прыемную лёгкасьць, узьнятасьць, узмацняла пачуцьцё радаснага здаваленьня.

А там—вёска. Ён цяпер так выразна яе ўяўляе.

Вось ён упінае зрок у вакно, у бяздонную цемру, і бачыць там хату сваю, як на-яву.

Вунь стары бацька ўзьлёгся локцем на стол, падпёр бараду і зважна апавядае пра вясковыя навіны, пра гаспадарскія справы... Матка ад печкі яго папраўляе, устаўляе якую драбніцу. Робіць гэта такім тонам, нібы хоча сказаць:

— Ат, слухай ты яго... Што ён ведае. Але хай сабе гаворыць. Усё роўна заўтра паедзе на млын, дык я ўсё-чысьценька перакажу, ды пасвойму, ды ўсё да дробачкі, як палагаецца...

А вунь і брацяньнік малы... Той нібы троху сароміцца. Стаіць, утупіўшыся, ля полу, на руках з бязьвінным відам трымае трусянё або кацянёнка. Хітры хлапец! Стаіць—нібы-та што, а тым часам толькі таго й чакае, каб брат заўважыў яго аблюбенца. Наўмысьля-ж і ўзяў на рукі. А тады з захапленьнем раскажа, як кацянілася кошка, як аднаго пакінулі, а рэшту ўкінулі ў рэчку, як гэты добра гадуецца, якім стаў дуронікам і г. д.

А вось хата зьнікае і прад вачмі ўжо вясковая вуліца. Ён ідзе па вуліцы, сустракаецца з сябрукамі, радасна з імі вітаецца. Усе яго ведаюць і ён ведае ўсіх. Разам-жа гадаваліся, разам расьлі. Хлопцы троху яго стараняцца, але гэта толькі адразу. Праз два-тры дні зноў будзе так, як раней...

Ён ідзе далей, ён шукае вачмі. Няслухмянае сэрца пачынае біцца ў грудзёх, наганяе чырвань на твар. Ага, вунь на прызьбе сядзяць маладзіцы. І яна там... так, вунь яна... беленькі твар, чорныя вішанькі-вочкі. Ён вітаецца з усімі агульным уклонам і ня спыняецца. На яе толькі адзін няпрыметны погляд кідае. Яна так люба, прыгожа ўтупілася, пачырванела, здаецца. Але спадалба, як зьвярок, кінула вокам.

Колькі радасьці ў гэтых дарагіх вочках!

Любая Макрына!..

Любая вёска!..

І яшчэ малюе ўяўленьне Лясьніцкага нешта няяснае, туманнае, але шырокае і вялікае... Ні то нейкі сход, ні то працэсія нейкая, ніто проста прастор неабсяжны з кажуховымі нейкімі плямамі... І ён, Лясьніцкі, робіць вялікую слаўную справу, ён кладзе сілы свае, сваё жыцьцё на карысьць народу. Ён повен глыбокага адчуваньня сваёй самаахвярнасьці, свайго гэройства. Ён—як Матрунін, як усе старыя рэволюцыянэры...

Там, на вёсцы, ён знойдзе глебу для працы. Там ня так, як у горадзе. Там будзе ўсё яму зразумела, будзе ўсё ясна.

Эх вёска, любая вёска!..

І як прыемна, што з кожнай хвілінай, з кожным перакатам каткоў далее гэты зьнялюбелы горад!

Як прыемна, што так шпарка нясецца поезд, рэжацца ў чорную мякаць ночнае цемры...

Эх, каб яшчэ шпарчэй...

Каб—як птушка, як бліскавіца...

Вёска, вёска! Любая вёска...

---

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

ЗЯЛЕНІЧЫ, родная вёска Лясьніцкага, расьцягнулася шнурам усьцяж па Дняпру. За гумнамі, за няшырокай—крокаў у сто або дзьвесьце—палянкай, па якой разьбегліся, важка асеўшы ў зямлю, хмура-магутныя асілкі-дубы, залёг стары Дняпро ў мярлогу глыбокую і старожка затоіў у сівалюстранай гладзі свой напорна-імпэтны поступ, здрадлівы рух сваіх патаемных віроў.

З гэтага боку бераг Дняпра крута зрываецца высокай жоўтаю стромай, па якой сям-там раскіданы чорныя рэбры калматых карчоў. Тут Дняпро пагрозна хмурыцца цёмным прадоньнем. Тут ён, як хітры драпежнік, прыцішыў свой ход, прыкінуўся ціхенькім-ціхенькім і падцікаецца, гатовы праглынуць бяздонным зевам сваім неасьцярожную афяру. А ў пагодныя летнія дні прадоньне бывае шыза-празрыстае і зусім ласкавае, мяккае. Тады ясна відаць, як у цёплай вадзе мітусяцца жвавыя ўклейкі, як паміж іх шпацыруюць поўныя напышлівай грацыі маладыя яльцы й галавеньчыкі. Тады хочацца акунуцца ў гэта сагрэтае сонцам прадоньне, каб пазнаць яго чароўныя таямніцы, каб пагуляць, пагарэзваць з яго юркім, спрытным насельніцтвам.

А з процілеглага боку воды Дняпра хаваюцца пад нізка навіслае вецьце кучаравага лазьняку. Лазьняк атуліў той бераг шчытным радном зеляніва, бераг той нявысокі і роўны, быццам гэта адзін суцэльны куст, падстрыжаны руплівай рукой садоўніка. За тым зялёным роўным шнуром раскошна паслаўся аксамітны дыван заліўных сенажацяй. Там вырастае ўлетку трава ў рост чалавека, і тады раздольле бывае

гульліваму рачному ветрыку завіваць чупрыну гэтай травы ў мякка-разгонныя хвалі. А сонца тады пераліваецца ў травяных хвалях глыбокім смарагдавым бляскам.

Прыгожа ўлетку ў вёсцы Зяленічах!

Адзін канец вёскі амаль што губляецца ў лесе. Лес той цягнецца далёка-далёка ўніз па Дняпру, і чым далей, чым глыбей удацца ў нутро яго, тым шчыльней ахіне ён дыханьнем адвечнай дзікасьці, тым мацней зачаруе глухім звонам глыбокай сваёй цішыні.

У лесе ўлетку бывае шмат ягад, грыбоў. У сьвятошныя дні там шумліва блытаюцца песьні птушак з песьнямі шустрых дзяўчат, з віскам і сьмехам, з гулкім гойканьнем моладзі. Жыве тады лес пярэста-звонкім жыцьцём, і ў тым жыцьці—у зялёным, у сонечным—чуваць гармонія шчасьця, гармонія сьветлае радасьці.

А вечарамі, калі па вёсцы клапатліва задзынкаюць начныя жукі ды пачнуць моўчкі ныраць з-за вуглоў чорныя шаптуны-кажаны, калі на прызьбе ў бабылкі Хадоры ціха й рытмічна забрукуюць старыя жанчыны, а ў гуртку хлапцоў, што рыхтуюцца весьці на начлег, дзед Лявон засьпявае „Саву“, калі пранясецца над вёскай ціхамірны подых начнога спакою,—над Дняпром тады сакавіта пальлецца беларуская звонкая песьня, разальлецца ў працяжлівых ядраных гуках надрыўны сум беларускае вёскі.

Добра пайсьці тады ў лес аднаму, убіцца ў глухі хмызьняк над Дняпром і моўчкі слухаць, як у сівым кудлатым тумане над соннай вадой б'юцца прыгожыя гукі, як растаюць яны водгульлем недзе там, за Дняпром, дзе сьпяць сенажаці, дзе адгукаецца на песьню адзін аднастойна-рыпучы крык дзергача.

І яшчэ добра тады ўпарта ўглядзецца ў спавітыя туманам і змрокам воды Дняпра, увабраць у сябе іх таемнасьць маўклівую, сугучную чароўнаму маўчаньню чорнага лесу. Тады могуць паўстаць у душы цені дзівосных малюнкаў, дзівосных падзей, цені наіўных дзіцячых трызьненьняў. Тады можа здацца, што рассуваецца ціха туман над Дняпром,

раздаецца вада і ўсплывае наповерх цудоўнай красы дзяўчына. Яна асьцярожна наўкол азіраецца, яна, пэўна, хоча выйсьці на бераг, каб пагойтацца на гнуткім вецьці бяроз.

Мо' гэта русалка? А мо' гэта казачная Дзеўка-Палалянка, што ў моры з сонцам купаецца? Мо' недзе ўжо сочыць за ёй гарачым вокам шчасьлівы Іванька, каб злавіць яе зьнецікі, каб завезьці да злоснага пана?

А там, пад той бок, нешта раптам шчубоўкнула. Гэта пэўна ўдарыў са злосьці хвастом па вадзе страшэнны Цмок, гэта ён, пэўна, рыхтуецца ў бойку пайсьці з сьмелым, харобрым Іванькам?

І ўжо гэта не сава над галавой пераляцела з дрэва на дрэва,—гэта ляціць, сьпяшаецца да Йванькі стары мудрэц беларускіх лясоў—чорны Крумкач, нясе ваду гаючую, ваду жывучую.

І ўжо гэта не далёкая зорка праз туман прабілася, каб пакупацца ў чыстай сьцюдзёнай вадзе. Гэта блішчыць там пяро залатога Дра-Птаха, гэта ён згубіў яго, уцякаючы ад спрытнага Йванькі.

Эх, казкі, сьмешныя дзіцячыя казкі!..

Можа й гэта журботная песьня дзяўчат таксама казка? Мо' гэта сон залатога дзяцінства?..

Прыгожа ўлетку ў вёсцы Зяленічах!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У вольны ад працы час Лясьніцкі ідзе да перавозьніка Саўкі. Той дае яму чорную ад старасьці, страшэнна нязграбную лодку, і ён едзе катацца. Ён выганяе лодку на сярэдзіну рэчкі, кладзе вёслы, вальготна адкідаецца на сьпінку кармы і плыве ўніз, аддаўшыся спакойна-шырокай плыні Дняпра.

Ёсьць нейкая нявымоўная слодыч у гэткім павольным руху па блакітна-люстранаму ўлоньню Дняпра. Асабліва, калі пачнецца ўжо лес. Там—куды ні зірнеш—усё агарнута нязвычайнай, цудоўнай красой—ціхай, прыветнай, якая поўніць нутро глыбокім спакоем, якая ўсяго ахінае нейкай празрыстай ціхасьцю, аблівае зялёным ласкавым сонцам. Там на круты высокі бераг Дняпра ўзьбягаюць беланогай плоймай

красуні-бярозкі, каб паглядзецца ў яго чыстае люстра. І такая ў іх любая сьціпласьць, так бязьвінна і ясна кідаюць яны свой адбітак у сінюю глыб, што міжвольна здаецца, нібы яшчэ больш весялее дабрадушны Дняпро, нібы расплываецца ён у ласкавай старчай усьмешцы, нібы ўсё навакол пачынае радасна, ціха сьмяяцца.

І чалавеку таксама хочацца ціха сьмяяцца, хочацца быць вясёлым і радасным. І ў расчуленым сэрцы зьяўляецца тады вялікая любасьць да ўсяе гэтае красы, хочацца тады абняць магутныя грудзі старога Дняпра, абняць усё, што бачыш наўкола, што зьзяе чароўным такім хараством.

Аддаўшыся так спакойна-шырокай плыні Дняпра, Лясьніцкі звычайна любіў узьнімаць са дна душы ўспаміны аб мінулым. І ў тон агульнаму настрою прыроды ўспаміналася толькі прыгожае, сьветлае, што прайшло нібы чароўным сном у жыцьці, што абярнулася ў казку.

Успаміналіся далёкія гады дзяцінства. Яны так шчыльна зрасьліся з Дняпром, што, здаецца, ён на Дняпры толькі й жыў, што апроч Дняпра ня было больш нічога. Мо' таму й палюбіў ён так моцна старога дзядульку, мо' таму й знаходзіць у ім такую чароўную ўцеху...

У дзяцінстве добра было. Успамінаецца, як бегалі яны— малыя аторвы—па-над самай вадой, па-над самым прадоньнем, пэцкаліся з галавы да ног у шызы ліпучы глей—рыбу лавілі. Тады было толькі й клопату, што накапаць чарвей, мух налавіць ды знайсьці добрае месца, каб ніхто больш туды не затрапіў, каб налавіць больш за іншых. А колькі радасьці, шчасьця было, калі пасьля доўгага чаканьня, пасьля вострай і трывожнай напружнасьці заб'ецца, бывала, у руках срабрыстая плотка або растапырыць калючкі свае злы, як папоўскі сабака, ерш!

А ўжо ў самае лета хадзілі гурмай угару, за рачулку, што, прыкрыўшыся кусьцем, неўзаметку ўбягае ў Дняпро. Там Дняпро робіць вялікую луку, амаль на вярсту разганяецца ўбок, быццам забыўся, што трэба даведацца ў вёску, і потым, успомніўшы, вяртаецца раптам назад, амаль што

на старое месца. На гэтай луцэ берагі густа абрасьлі лазьняком, а сярод лазьняка заблыталіся кусты чорнай смуродзіны, распусьцілі свае цупкія лапы жавіны. І вось, калі пасьпявалі ягады, тады пачыналася хлопцам раскоша. Тады яны ня вылазілі з зарасьляў, рабілі там патаёмныя хады — жылі там цэлымі днямі, нявідныя звонку, нібы краты ў сваіх падземных норах. Траплялася часам, што каторы ў захапленьні шчубоўкне ў ваду, сарваўшыся з здрадлівае галіны — але было там ад берагу ня вельмі глыбока: вылазілі і сьмяяліся разам з усімі...

А яшчэ Лясьніцкаму ўспамінаецца восень. Восень абветрывала берагі, рабіла лазьняк пустым і празрыстым, агаляла дасюль схаваныя ў зяляніве карчы. І на той самай луцэ яны, пасучы коняй, раскладалі цяпло, плялі з гнуткай лазы сабе кошыкі, рабілі з алешыны піпкі і курылі ў іх сушаны на вогнішчы алехавы ліст. Яшчэ пяклі бульбу, боркаліся і сьпявалі песьні, якія самі-ж і выдумлялі.

Але Дняпро быў ужо дзікі тады, няпрыветны, заўсёды моршчыўся, дмуў на бераг пустым нейкім холадам. Быццам прыкра было яму, што турбуюць яго ў той час, калі ладзіцца ён заснуць, адпачнуць на колькі месяцаў, укрыўшыся цяжкай лядзянай коўдрай. І чулыя хлопцы баяліся тады Дняпра, не падыходзілі блізка к старому. Хто яго ведае, што ён надумаў, што ён хавае там пад цёмна-сівымі глыбокімі зморшчкамі.

Восень дала Лясьніцкаму яшчэ адзін незабытны малюнак, адзін чароўны сон, у якім так дзіўна перамяшалася была чорная горкасьць з нечаканай і палкай радасьцю. Гэта было ўжо пазьней, гэта зусім нядаўна было. З таго часу прайшло тры гады. Але й гэтых трох гадоў было досыць, каб выбраць горкасьць з чароўнага сну, каб пакінуць толькі ружовае.

Ён тады выпадкова прыехаў быў са школы. Ён ня помніць ужо дакладна, як гэта было. Мабыць, некалькі дзён было сьвята, дык надумаў даведацца ўдвор.

Была тады восень чыстая, сьветлая. Такая восень была, што не сядзелася ў хаце, што хацелася некуды йсьці — далёка

йсьці, у адзін бок, у адзін напрамак. Ён пайшоў тады ў лес, ішоў па беразе Дняпра, дзіваваўся на яго халодна-сярдзітую веліч, слухаў, аб чым пяе звонкі вецер, што прылятаў з таго боку, з голых пустых сенажацяй.

У лесе, пад разложыстай хвояй, карэньне якой аж даставала да берага і, вырваўшыся з зямлі, недалужна зьвісала над стромай, ён знайшоў быў Макрыну. Яна сядзела і плакала. Убачыўшы яго, яна схапянулася і хацела ўцячы. Ён ледзьве яе затрымаў.

І вось тады ўзьнялося было наповерх усё, што ў абоіх дасюль гадавалася ў сэрцы. Было тады многа гарачых слоў, было многа сьлёз. А потым былі й пацалункі.

Захліпваючыся сьлязьмі, яна расказала яму гора сваё.

Бедная! Ёй так не хацелася замуж ісьці! Яна ня ведала, што ёй рабіць. Усё было ў яе волі—яна магла не пайсьці. Але й так ня было ўжо жыцьця.

Лясьніцкі неяк яе суцяшаў, гаварыў нейкае глупства. Бадай што не разумеў ён тады ўсяе глыбіні яе гора. Ён проста любіў яе, яна плакала, і яму да болю было яе шкода. Ён ня помніць нават, ці гаварыў ёй замуж ісьці, ці ня йсьці. А мо, гаварыў і тое й другое. Але ёй прыемна было, што ён суцяшае, што ён яе ўгаварвае. Потым яна так бязрупатна сьмялялася, так вясёла блішчэла яшчэ мокрымі ад сьлёз вачмі.

А як ёй радасна стала, калі, заўважыўшы, што яна дрыжыць ад холаду ў сваім бедным адзеньні, ён захінуў яе ў полы сваёй вучнёўскай шынэлі. Яе, горкую наймітку, якую гаспадар гоніць з хаты!

Любая! Яна нясьмела кратала яго бліскучыя гузікі, яна забаўлялася імі, як дзіця новай прыгожай цацкай...

Гэта нядаўна было. Тры гады прайшло з таго часу. Але час ужо выбраў горкасьць усю, і ўспамінаецца яно, як салодкі сон, як чароўная казка.

Потым ён паехаў вучыцца, яна вышла за нялюбага замуж і год з ім жыла, пакуль яго не забралі ў салдаты. І гэты год замужжа паклаў ёй на вусны пячатку—пакутную, горкую ўсьмешку.

Эх, успаміны, успаміны! Як яны цудоўна фарбуюць падзеі мінуўшчыны, як ачышчаюць яны гэту мінуўшчыну ад чорнага бруду, ад прыкрага жыцьцёвага сьмецьця. Якім прыгожым у сьвеце ўспамінаў здаецца жыцьцё!..

І як прыемна ім аддавацца, плывучы па глыбока-блакітнай гладзі Дняпра, сярод чыстага бляску зеляніны і сонца, сярод пярэстага звону птушыных сьпеваў! Як ціха і соладка сьціскаецца тады чулае сэрца, як мякка поўняцца грудзі наплывам жывых адчуваньняў!

Успаміны звычайна прыводзяць Лясьніцкага да сучаснасьці. Але яны прыводзяць да яе неяк аднэй стараной — фарбаванай, квяцістай. Таму й сучаснасьць у такія хвіліны здаецца ружовай, таму й ня ўсплываюць у сьвядомасьці яе няпрыветныя зьявы, нібы забываецца на момант тое цяжкое, няўцямнае, што ёсьць заўсёды ў жыцьці, што ўлівае ў сэрца тупое зьнібеньне.

Неяк самі сабой, мімаволі ўюцца думкі вакол Макрыны, усплывае вобраз яе, поўны гарачай вабнасьці, узьнімае ў грудзёх добра знаёмае радасна-буянае хваляваньне.

Глыбока запаў у нутро першы вечар, які праводзіў ён з ёй пасьля прыезду на вёску. Потым ужо зьлілося ўсё ў адно палкае, тлумна-салодкае адчуваньне, якое закрыла сабой усё-чыста. А тады, у той незабытны вечар, была дзівосная сьвежасьць і квяцістасьць, адчуваньні былі шырокія, чыстыя.

У той вечар сьвяціў на небе чыста вымыты месяц, і над Дняпром пелі дзяўчаты. Лес ад месячнага сьвятла быў нейкі настарожаны, чулы. Здавалася, што сочыць ён, прыслухоўваецца. Міжвольна галасы іх рабіліся ціхімі-ціхімі, палахлівымі. Іншае слова дык проста ўгадвалі па руху абеленых месяцам вуснаў.

Пры бледным сьвятле месяца ён разглядаў яе твар, шукаў у ім зьмен, і адзначаў іх пяшчотнымі пацалункамі.

Ён казаў ёй:

— Вось гэтых маленькіх маршчынак на лбу ня было ў цябе... Адкуль узяліся яны?

І цалаваў яе лоб, цалаваў маленькія маршчынкі.

— А вочы твае былі ясьнейшыя. Цяпер яны глыбачэй сталі чамусьці і змрок у іх нейкі зьявіўся...

І цалаваў яе глыбокія чорныя вочы.

І глядзеў на вусны, пазнаваў тую горкую ўсьмешку. Цалуючы іх, гаварыў ёй ціхім-ціхім шопатам:

— Ты мая крушынавая радасьць...

Яна—сьветлая—ціха сьмяялася і пытала:

— Чаму крушынавая?..

І не чакала адказу, а чакала новага пацалунку.

Лес снаваў вакол іх белае чараўніцтва, атуляў іх цудоўнаю казкай. Лясьніцкі сьмехам пужаў яе, паказваў на абрыўкі туману, што дзыбата віхаліся над соннай вадой.

— Глядзі, вунь вылазяць тапельнікі з рэчкі... яны йдуць, каб зацягнуць нас да сябе. Бачыш, вунь Грышка, што летась утапіўся. Вунь ён выцягнуў рукі да нас, вунь набліжаецца ўжо...

Яна зноў сьветла сьмяялася.

— Гэта-ж туман паўзе над ракой...

І тулілася да яго—не ад страху, а ад каханьня...

Такіх вечароў нямнога бывае ў жыцьці. Таму й жывуць яны доўга ў сэрцы, каб часам усплысьці наповерх душы і кінуць ружовы прамень у будзёную шэрасьць жыцьця.

А праз дні тры пасьля гэтага вечару ў п'янай сьпякоце квяцістага дня было гарачае, палкае. І з таго часу зьвініць у галаве салодкі тлум, з таго часу жыцьцё стала новае, дзіўнае нейкае—ні то сонечна-прыгожае, ні то бруднае, мутнае, як дажджавая патока.

І калі ўспамінае Лясьніцкі пра гэта, калі вырастаюць у ўяўленьні спакусьлівыя палкія вобразы,—рвецца адразу лагодны настрой, ахапляе незразумелая рупнасьць, патрэбнасьць нешта рабіць, некуды рухацца. Тады ён сядае на вёслы і ў напружнай рабоце спрабуе разьвеяць гэты наплыў неспакойнай энэргіі.

Лодка разганяецца, птушкай бяжыць па гладзі Дняпра. Здаецца, усё ажывае наўкола, усё наліваецца нейкай турботай,

імклівасьцю. Бо сам повен гэтай імклівасьці, самому хочацца некуды гнацца, ляцець, хочацца шалёнага руху, шалёнай работы.

Але вось ужо ўплецены ў сьвежы сасоньнік на бераг насунуўся дзікі парк маёнтка Лоўчына.

Вярста. Цяпер трэба назад.

Лясьніцкі падплывае к берагу і пачынае памалу, чарапахавым ходам падымацца ў гару.

ПЕРАД сходам да Лясьніцкага ў хату прышла Макрына. Яму гэта не спадабалася. Ён ведаў, што матка ня любіць Макрыну—за яго ня любіць, бо адчувае, што паміж іх нешта ёсьць. А матка ў хаце была.

Макрына пастаяла хвілінку ў парозе, перакінулася словам-другім з маткай (тая парадчыла ў печы) і потым падыйшла да яго. Яна была ў звычайнай сваёй вопратцы—у вышыванай белай сарочцы; яна, як звычайна, была простая, ціхая, як звычайна наіўна міргала сваімі яснымі, як у дзіцяці, вачмі.

— Ты што—чытаеш?.. Я мо' перашкоджу табе?

— Не, нічога... сядай...

Ён ня ведаў, як з ёй абыйсьціся. Ні разу дасюль не даводзілася яму быць з ёй удвух пры людзях. Ён адчуваў, што чырванее. А яна села і моўчкі глядзела на яго. Потым узяла, пачала разглядаць яго кніжку. І ён маўчаў. У замяшаньні пазіраў скоса то на яе, то на матку.

Нарэшце, яна загаварыла аб справе:

— Ты, Васіль, можа-б прышоў таксама на сходку. Там, казалі, будуць гаварыць пра салдатак, дык можа-б сказаў слова якое... Усё-ткі цябе паслухаюць... А ты-ж сам ведаеш, якое жыцьцё ў мяне. Усе ўжо паадсяваліся, а ў мяне і не пачата... Што-ж тады есьці буду?.. Зноў у найміткі прыдзецца йсьці...

Яна пакрыўджана ўтупіла вочы і змоўкла. Быццам, пажаліўшыся яму, чакала, што ён зараз нешта для яе зробіць, што ён зараз пакарае ўсіх, хто прынёс ёй гэтую вялікую крыўду.

Лясьніцкаму шкода стала яе. І разам з тым яму падабалася, што вось у яго абароны шукаюць, што ён на маленькім можа пачаць тую вялікую справу, аб якой марыў, едучы ўдвор. Ён аўтарытэтна заспакоіў Макрыну:

— Я буду канечна на сходцы. Я зраблю ўсё, што толькі здолею...

У гэты час вышла некуды матка, і яны асталіся ўдвух. Атмосфэра адразу зьмянілася. І дзіўна неяк стала абоім, што вось момант назад гаварылі суха, сур'ёзна, быццам чужыя, а цяпер раптам сядзяць вока-на-вока і зноў блізкія, зноў, як раней. І невядома, ці цягнуць далей гутарку, ці неяк інакш абыйсьціся.

Лясьніцкі зірнуў на яе, шырока, адкрыта ўсьміхнуўшыся, і яна яму тож адказала сваёй любай усьмешкай. Тады Лясьніцкі к ёй нахіліўся і пацалаваў яе, нібы спадкрадня. І абое звонка зарагаталі.

Вышла Макрына заспакоеная, пэўная ў тым, што знайшла абарону.

Сходка была каля грамадзкага сьвірну, што стаяў край вёскі на нявысокім гладкім узгорку. Як прышоў Лясьніцкі, ужо сышлося троху народу. На ганках сядзелі старэйшыя пачэсныя гаспадары, а рэшта разьмясьціліся на бервяне пад сьцяной, на падмурку, а хто і проста на голай зямлі. Моладзі бадай што ня было—ня ў звычаі гэта, каб блазнота хадзіла на сходкі. Зьбіраліся ўсё барадатыя сталыя сяляне. Але як прышоў Лясьніцкі, яму, пасунуўшыся, далі месца на ганках. Усё-ткі вучоны, не абы-які хлопец. Ён у міжвольным замяшаньні заняў прапанаванае месца.

Пакуль не пачалася сходка, сяляне займаліся сваімі звычайнымі гутаркамі. Лясьніцкі заўважыў, што ўсе самі сабой падзяліліся на тры групы: на ганках сядзелі „пачэсныя"—яны вялі зважную гутарку аб надвор'і, аб жытох, аб пасевах; другая група сабралася вакол Рыгора, што сама-

вольна прыбег з вайны і звычайна туляўся, а сягодня чамусьці паказаўся адкрыта,—тыя гаварылі ў поўголаса, але Лясьніцкі ведаў аб чым: аб вайне, аб парадках, аб свабодзе, аб бальшавіках і г. д.; нарэшце, трэцяя група скупілася вакол Аўтуха—маленькага вясковага скамароха, у якога пісклявы голас, рухавая—з падскокам—фігура, кукішам твар і вечна разбарсаная абора. Аўтухова аўдыторыя ўбірала ў сябе найбольш індэфэрэнтную частку насельніцтва, прапісных вясковых скалазубаў.

Лясьніцкі ўважна разглядаў усіх і сам сабе думаў:

— Вось і народ... Вось і тое шырокае поле для працы—для вялікай і труднай працы, аб якой так прыгожа гаварыў Матрунін... Але як пачынаць? Як падыйсьці?.. Вось узяў газэты з сабой, каб пачытаць... а ці будзе хто слухаць, ці трэба яны тут каму?..

Ён моўчкі сядзеў сярод старых, не мяшаўся ў іхную гаворку і яны таксама яго не чапалі. Нарэшце, ад гэтага прыкра зрабілася. Тады ўстаў і падышоў да Аўтуха. Спачатку Аўтуховы жарты толькі дзівілі сваёй недарэчнасьцю, а потым пачалі захапляць, пачаў шчыра сьмяяцца разам з іншымі.

Праз хвіліны дзьве пачалася і сходка. Перш чыталі нейкія паперкі з воласьці ці з павету. Трудна было вызначыць, ці гэта загады, ці адозвы. Пісалася ў іх пра свабоду, пра абарону айчыны, пра ахвяры на армію, пра выдачу дэзэртыраў і г. д. Калі пачалі чытаць пра дэзэртыраў, усе з усьмешкай абярнуліся да Рыгора. Аўтух падкраўся адзаду і крыкнуў раптам у яго над вухам:

— Дзяржы!

Увесь сход дружна зарагатаў. А як троху сьціхлі, стараста сказаў, разьвёўшы рукамі:

— Ну й што вось з гэткім зробіш... Ты-б хоць, сукін сын, пабаяўся бога ды нас не падводзіў... Сядзеў бы ў запечны дзе-небудзь... А то—наце вам!—на сходку прыпёрся!..

Сяляне зноў рагаталі. Рыгор нешта крычаў, абарачваючыся ва ўсе бакі. Гэта быў высокі кашчавы мужчына з

дробным тварам, аброслым кароткай і цьвёрдай, як шчэць, рыжай бародкай. Твар яго быў рэзкі, і таму здаваўся няпрыгожым. Асабліва псавала яго хваравітая, поўная едкага сарказму, усьмешка. Яна выдавала ў ім злоснага задзіру, які нікому ня дасьць спуску. Гэта быў такі чалавек, якога добра трэба пазнаць, каб пазбыцца таго няпрыемнага ўражаньня, якое рабіў ён у першай сустрэчы.

Калі троху ўгамаваўся народ, Рыгор раптам высунуўся наперад і загаварыў высокім крыклівым голасам:

— Дык бярыце, калі хочаце, выдавайце... Прыслужэцеся, дык можа заробіце што... можа зямлі прыбавяць, лесу на хату дадуць... Паспрабуйце... А можа і ў лёкаі возьмуць да пана за службу... ха-ха...

Потым ён ураз зьмяніў тон — быццам гэта прадмова была, а цапер скажа ён самае галоўнае — і закрычаў прарэзьлівым, звонкім, як мэталь, голасам:

— А ты йдзі ды ваюй, калі маеш ахвоту. Ідзі барані „свабоду“... пакармі вошы, пасядзі па шыю ў вадзе, падстаў свой шчыры лоб пад нямецкую кулю... А каму гэта трэба, табе?.. За цябе гэта б'юцца, га? Вунь за каго! Вунь за таго, да каго ты на падзёншчыну ходзіш... а калі ня ходзіш, дык пойдзеш... вось паваюем яшчэ з паўгода... Дурань мужык, во што!.. Таму і езьдзіць на карку ў яго хто толькі хоця...

Больш ня чуваць было, што ён гаварыў. Гулкім выбухам агульнаму гоману сьцёрся яго тонкі прарэзьлівы голас. Загаварылі разам усе, як гэта заўсёды бывае на вясковых сходах. І ніяк ня можна было разабраць, аб чым ідзе гатарка. Толькі ня было ўжо сьмеху цяпер — гаварылі ўсе сур'ёзна, заўзята.

Лясьніцкі пастараўся разабраць што-небудзь у гэтым бязладным моры людзкіх галасоў, злавіць у ім хоць крушыначку яснасьці, каб зразумець настрой грамады. Ён прайшоўся праз натоўп і прыслухаўся. Адзін гаварыў пра зямлю, другі пра каня, трэці пра хату, чацьверты пра пуню і г. д. У кожнага было сваё маленькае, свая дробная нястача, дробнае гора. Але неяк само сабой, органічна злучалася ўсё

гэта дробнае ўместа, і тады было ўжо нешта буйнае, важнае, было агульнае вялікае гора і вялікая нястача.

Гэта быў голас народа.

Лясьніцкі чуў гэты голас і адчуваў сябе чамусьці маленькім-маленькім. Як дзіцячыя цацкі-піскунчыкі, спрабавалі ўзьнімацца аднекуль з глыбі тыя ружовыя мары, тыя сьмелыя ўзьлёты юнацкай фантазіі, з якімі прыехаў на вёску. А іх прыціскаў настойна, бязьлітасна гэты голас народа, гэты агульны ўзрушаны гоман.

І расла ў нутры тупая няўцямнасьць.

А ў гэты час зьбянтэжаны стараста стараўся ўціхаміраць народ. Ён нешта крычаў, нешта гаварыў і паўтараў за кожным словам:

— Грамадзяне! Грамадзяне!..

Нарэшце ўдалося яму навесьці парадак. Тады павялі далей сходку. Пытаньне было аб дапамозе салдаткам. Лясьніцкі раптам заўважыў, што ззаду, за мужчынамі, стаіць колькі жанчын і сярод іх Макрына. Чамусьці яму не ўпадабалася, што яна тут.

Стараста абвяшчаў:

— Дык вось, мужчынкі, наконт салдатак, што з імі рабіць... Тут ёсьць загад, дый самі мы тож не скаціна, штоякое ды разумеем... ізноў-жа ня можна й каб паздыхалі ня еўшы... ваююць-жа, кроў праліваюць, за айчыну, можна сказаць, за свабоду... (І ён сам засароміўся свайго няўмыснага красамоўства). Дык як, старычкі, га?..

Маўчалі. Нехта нясьмела і вельмі туманна азваўся:

— Дык што-ж?.. Яно няхай...

А другі падцьвердзіў:

— Вядомая рэч!..

Іншыя нібы-та й ня чулі нічога—цішком вялі паміж сабою сваю прыватную гутарку.

Загаварылі тады самі салдаткі. Яны гаварылі ўсе разам аднатонным, звыклым да пастаяннае скаргі, голасам, у якім выразна гучэла нотка недавер'я, безнадзейнасьці. Быццам гаварылі толькі таму, што звыкліся ўжо гаварыць усюды,

дзе толькі можна пажаліцца, дзе будуць слухаць, а тым часам думаюць самі сабе:

— Ат! Дажджэшся ад іх дапамогі. Усё роўна іначай неяк трэба выкручвацца.

Можа каторая меркавала ў гэту хвіліну, як-бы спрытней павярнуцца, як-бы ўдала павесьці брывёй, каб спазрыцца якому мужчыну—з багацейшых, з кім ёсьць рахуба пагуляць ды пацешыцца...

А мужчыны пачалі жартаваць, пасьміхвацца. Аўтух, прысьпеўшы да ладу, ужо семяніў дробным макам каля жанчын, бязглузда паўтараючы пісклявым сваім галаском:

— Бабы-бабы, бабачкі... Бабы-бабы, бабачкі...

Некаторыя з жанчын пачалі здавацца на сьмех, агрызацца на жарты мужчын. Але вышла наперад і загаварыла высокая, худая і доўганосая баба, мужа якой нядаўна забілі на фронце. Усе неяк нібы засароміліся, як яна пачала гаварыць. Было ў ёй нешта застыглае, нязграбна-трагічнае—у хваравіта-сінім рэзка акрэсьленым твары яе, у голасе—грубым і працяжлівым, поўным нейкага пагарадлівага дакору.

— Як гэта вам ня сорамна! А ’шчэ мужчыны, гаспадары... Які-жа тут сьмех? Ці-ж гэта мы вінаваты, што сіратамі асталіся... Пазабіралі, папастралялі, як авечак якіх... Што-ж нам цяпера рабіць астаецца, га?.. Які-жа тут сьмех?.. Каб пасобіць, дык яны ‘шчэ жарцікі строяць... А ў нас дзеткі можа хлеба ня бачаць, ня то што...

Сьледам за ёй загаварыла Макрына, пачала скардзіцца на сваю долю. Сур‘ёзнасьць і некаторая трагічнасьць моманту надала ёй сьмеласьці, экзальтавала яе. Лясьніцкі з прыкрай трывогай прымячаў, што голас яе ўсё больш пачынае дрыжэць, што вочы яе ўсё паўней ды паўней наліваюцца сьлязьмі.

І раптам яна заплакала. Не па-бабску, не загаласіла, а сьмешна неяк, няўмеючы, зарумзала, як дзіцянё.

Лясьніцкаму стала не па сабе. Ён чуў, што нешта трэба цяпер сказаць і хацеў гаварыць, бо страшэнна ўзрушылі яго

Макрыніны сьлёзы. Але баяўся, каб не сьмяяліся потым, каб не дражніліся, бо ўсе-ж троху ведалі або дагадваліся аб іхнай блізкасьці.

І Лясьніцкі маўчаў. Успамінаў сваё абяцаньне Макрыне, гарэў проста ад сораму, але сіл не хапала выступіць на яе абарону.

І раптам ізноў азваўся Рыгор. Лясьніцкі пачуў, як ён са злосьцю крыкнуў на Макрыну:

— Ціху, дурная! Ня румзай...

І потым зьвярнуўся да сходу, заверашчаў сваім прарэзьлівым голасам:

— Вось, усё сьмешкі ды сьмешкі... А за што бабы пакутуюць, за што пасірацілі дзяцей! А хай-бы цяпер дапамаглі, хай-бы прышлі вось ды поле засеялі... А? Дык усё каб мужык? Усё на яго карак? Нічога! Мужык дужы, ён панясець, ха-ха!.. А калі мужыку, дык фігу з маслам... На што-б яно што, о-го-го!.. У іх зямля, у іх багацьце, а ты гаруй ды йдзі памірай, ды сям'ю бяз хлеба кідай...

Яго перапыніў стараста.

— Не баламуць! Гавары, калі што да ладу, а не мялі языком...

Рыгор узлаваўся.

— А што, ты думаеш, я мялю языком дык і па тым?.. Нічога, брат, яшчэ невядома, хто што якое... А вось... Грамадзяне! Слухайце, што я скажу... Мужчыны! Вось трэба пасобіць салдаткам... У Макрыны вунь ні ражна не пасеяна... Дык я ёй засею ўсё-чыста, як сьлед. Толькі хай сход дасьць слова, што ніхто мяне не зачэпіць, што ніхто ня выкажа... Га? Як, згода? Пайду да Макрыны ў прыймы... Як ты, Макрына, згодна ці не?..

Макрына сьмяялася. Лясьніцкі кіпеў ад сораму перад ёй ды яшчэ ад нейкага едкага, як шчолак, пачуцьця. Стараста ня ведаў, як адчапіцца ад Рыгора. У мужчын узьнімалася весялосьць, але добрая, сяброўская, бяз жорсткіх кпін, без асьміхваньня.

Наконт прыймаў пусьцілі пару дабрадушных жартаў, нехта кіўнуў на Лясьніцкага, нехта ўспомніў пра мужа. Потым,

сур'ёзна пачалі абгаварваць справу і назначылі талаку. Салдаткі, давольныя, зычна сьмяяліся, каля іх ужо цёрліся спрытнейшыя мужчыны. Макрына нешта ў захапленьні гаварыла Рыгору. Твар яе быў асьветлены радасьцю, у ясных вачох гарэла павага і ўдзячнасьць.

Лясьніцкі пайшоў са сходу з цёмным настроем, з прыкрым зьнібеньнем у сэрцы. Пайшоў адразу, як скончыўся сход, хаця народ яшчэ аставаўся, яшчэ бавіўся гутаркай, жартамі. Макрына тож асталася яшчэ. Здалося Лясьніцкаму, што яна нават не азірнулася, не заўважыла, што ён пайшоў.

Было гэта ў нядзелю, і таму Лясьніцкі ня ведаў, як далей змарнаваць час. У хату йсьці не хацелася, не хацелася сустракацца з людзьмі. Трэба было пабыць аднаму, каб упарадкаваць троху свае думкі і пачуцьці. Ён пайшоў к Дняпру і там лёг пад шырокі алехавы куст, утаропіў погляд у ціхую глыб блакітнага неба.

Па небе лёгка плылі беленькія пярыстыя балачынкі. Ад іх спрытнага лёту мякка круцілася ў галаве, здавалася, што ляціш некуды сам, або гоўтаешся на нявідных, лёгкіх, як вецер, арэлях, нячутна, як цень, носішся ў празрыстым паветры.

І вось найшла тады на Лясьніцкага цудоўная ціхасьць, апала абурэньне, нібы адляцела некуды ўсё, што было там на сходцы, нібы ён сам адляцеў на лёгкіх нячутных арэлях ад усяго гэтага тлуму, пакінуў недзе далёка-далёка—цьмяным туманам—усё, што ўстае непаразуменьнем цяжкім прад сьвядомасьцю.

Але было так толькі хвіліну. Потым разам усё наплыло, агарнула—увесь сорам нядаўны, усё хваляваньне—і абярнулася ў агнявую пякучую крыўду. Крыўда сьціснула грудзі, аж зацяло дыханьне, а к горлу балючым комам падступілі сьлёзы. Тады лёг ніц, уткнуўся ў траву і заплакаў.

А чаго заплакаў—і сам бадай што добра ня ведаў. От здалося, што ён такі няздатны, нязграбны ў жыцьці, што ня можа да яго прыстасавацца, што ня можа рабіць так, як хоча, як імкнецца рабіць, што ад усіх ён нібы адарваўся, што адзін ён зусім на ўсім сьвеце, што ня любяць яго.

Лясьніцкі ў той час пачынаў толькі як сьлед сваё жыцьцё. А ў пачатку жыцьця, ой, многа бывае такіх пякучых затоеных сьлёз. У іх выліваецца патаемны рост душэўных эмоцый, у іх чалавек расьцьвітае. Потым сьмешна бывае і сорамна нават, а ў той час гэтыя мінуты бываюць поўныя сапраўднага—сьвежага і прыгожага трагізму.

Выплакаўшыся, Лясьніцкі зноў утаропіўся ў неба і пачаў думаць чыстай, асьвяжэўшай ад сьлёз галавой.

Усплыла на думкі Макрына. Як-то яна, ці пакрыўдзілася? Можа яна ўжо яго і за чалавека ня лічыць? Чужыя, старонбнія заступіліся... Рыгор гэты. А ён і слова ня вымавіў. Ён толькі ўзяць ад яе слодыч, уцеху, а больш—нашто яна яму... Хай памірае з голаду...

О, яна цяпер ведае, хто ён такі, што за птушка!

І шчымела сэрца ў Лясьніцкага ад непамернага сораму, ад пякучае скрухі і жалю. Захацелася ўбачыць Макрыну, пагаварыць з ёй. Не апраўдацца, бо гэта-ж недарэчна... А хоць-бы ўзнаць, як яна цяпер да яго, што яна думае.

Ён рашуча падняўся і пайшоў на вёску шукаць Макрыну. Але перш чымся знайсьці яе, ён наткнуўся на групу маладых і старых сялян, якія сабраліся каля Лявонавай хаты. У цэнтры гэтае групы сядзеў бязногі Аксэнта і гаварыў нешта—напэўна апавядаў пра свае баявыя прыгоды. А з боку кінуўся ў вочы Лясьніцкаму рэзкі твар дэзэртыра Рыгора, пакрыўлены звычайнай яго едкай усьмешкай.

Лясьніцкі рашыў падыйсьці, паслухаць. Рыгор, як убачыў яго, чамусьці пасунуўся і даў яму каля сябе месца на прызьбе. Лясьніцкі з няпрыемнасьцю заняў гэта месца.

— Вучышся ўсё, га?..

— Не ўжо, кончыў...

— Кончыў? Дык цяпер ужо будзеш станавіцца на службу?

— Не, думаю дома пакуль што астацца на гаспадарцы...

Рыгор дрэнна, прыкра так засьмяяўся.

— А што, выгадней цяпер, мусіць, на гаспадарцы?

— Ня ў тым, а... проста мне так падабаецца...

І ўспомнілася Лясьніцкаму, што калісьці Ніна яму такое самае запытаньне давала. Тая наўмысьля, каб падражніцца, ён добра ведае. А ў гэтага зайздрасьць, ня йначай. Няпрыемны ён чалавек!

А Рыгор зноў пытаецца:

— Казалі, газэтку выпісваеш? Каб так калі зайсьці пачытаць...

— Заходзь. Выпісваю...

— А якую?..

Лясьніцкі назваў.

— Нішто газэтка. У нас, на фронце, дык бальшавікі добрыя выпускалі газэткі. Там як прапішуць—ого!.. Так прабяруць, так прабяруць... І памешчыкаў, і буржуёў, і папоў... Любата!..

Нехта нецерпяліва яго перабіў:

— Кінь ты ўжо бальшавікоў сваіх... Носіцца з імі, як дурань з торбай... Знайшоў па сабе басатву.

Рыгору толькі гэтага й трэба было. З усім сваім злосным задзёрам ён накінуўся на таго небараку.

— Вот ты лепшы, ты разумнейшы... Ты ўсё растлумачыш, як што і дзе. Як гэта цябе дасюль у міністры не ўзялі?.. Эх ты, дурань набіты... Ці знаеш ты сам, што плявузгаеш... Заўчыў, што малпа: басатва, басатва, а ў толк не бярэш... Ну, скажы вось, разумнік, хто за тое, каб зямлю сялянам аддаць, га? Ай табе ня трэба зямлі, сваёй досыць, ха-ха!.. Ну, што, Керэнскі дасьць табе, га?

Той ужо ня рад быў, што й зачапіўся.

— Ат! Буду я ламаць галаву, хто ды за што...

— Дык паламай... калі галава няспрытная...

Сяляне спачувальна зарагаталі. Лясьніцкі ладзіўся быў сказаць сваю думку, але пабаяўся, каб не зацягнулася спрэчка, хацеў скарэй пайсьці да Макрыны. Адыходзячы ён зьвярнуўся да Рыгора:

— Дык заходзь калі, пачытаеш газэту.

— Добра, зайду.

І сказаў гэтыя словы Рыгор з нейкай нахабнай пагрозай, нібы сэнс іх быў такі:

— Ведаю, што ня хочаш, каб прышоў, што для прылікі толькі запрашаеш. Але вось наўмысьля прыду, вось каб табе сагразіць...

Лясьніцкаму крыўдна стала: ён запрашаў шчыра, бяз усякае захаванае думкі.

На вуліцы Макрыны ня відаць было, і ён рашыў зайсьціся да яе ў хату. Жыла яна адна (муж быў аддзяліўшыся ад бацькоў) у мізэрнай хацёнцы ў завулку. Таму Лясьніцкі сьмела пайшоў да яе—спадзяваўся, што ніхто не заўважыць. Хіба толькі ў яе хто будзе сядзець.

Макрына была ў хаце адна. Яна зьдзівілася, убачыўшы Лясьніцкага.

— А бач! Во хто гэта прышоў! А я думала—хто там такі?..

Яна стаяла над расчыненай скрыняй. На лаве было раскладзена рознае плацьце.

— Ты што — скрыню парадчыш? Замуж можа рыхтуешся?..

— За каго? За цябе?..

— Чаму? Знойдуцца лепшыя...

— За цябе, дык пайшла-б...

І яна хітравата ўсьміхнулася.

— Ды не. Проста часінку выбрала, каб навесьці парадак. Ну, сядай у мяне... рэдкі госьць...

Ён сеў на лаву. Яна пачала парадчыць у скрыні. У вакно зазірнула чырвонае з захаду сонца, лягло мякка-дрыготнымі плямамі на абрус. Сонца на абрусе—на белым, васьмітовым—зацяпліла ў хаце прытульнасьць сямейную, а ў сэрца Лясьніцкаму ўліло хвалю пяшчоты.

— Макрына! Ты на мяне злуешся, што я сягодня на сходзе нічога не сказаў?

— Ды не. Усё роўна-ж добра ўсё абышлося... Рыгор—во, маладзец... Добры ён чалавек. Каб ня ён, дык можа-б нічога й ня вышла. Пацукі гэтыя—ім хоць-бы што...

— Я не гаварыў затым, каб не сьмяяліся потым. Сказалі-б, што вось бароніць, заступаецца, бо... ну, ты сама ведаеш...

— Ат, глупства... Кіньма аб гэтым...

Яна замармытала нейкую песьню. Чырвоны прамень скаўзануўся ў яе па плячу і асьвяціў частку шчакі. Шчака зрабілася ружовай і празрыстай, і аксамітнай, як абрыкос.

— Макрына! Ты прыдзеш сягодня... туды?..

— Во... А чаму-ж не?..

Яна так проста і шчыра зьдзівілася. Лясьніцкі пачуў да яе вялікую любасьць і ўдзячнасьць. Ён падышоў да яе, але ня кратаў: стаў і моўчкі глядзеў, любаваўся. Яна прытулілася да яго, ускінула сваймі чыстымі вачмі.

— Ну, пацалуй!..

Ішоў Лясьніцкі ад Макрыны зусім заспакоены. Было ў нутры поўна здаволеньня, радасьці.

І недзе глыбока-глыбока, употайку, было трошачку расчараваньня.

ПРАЙШЛО пасьля таго тыдні са два. Плыло ў сонечнай яснасьці цёплае лета, рассыпала шчодра навокал пышнае сьпелае хараство. Прырода зьзяла багацьцем і збыткам. Зямля нібы раставала, растаплялася ў душна-салодкай млосьці; гэтая млосьць пераходзіла на людзей, на жывёлу, спавівала ўсіх-чыста мяккай плёнкай бясьсільля. Ішлі нязьменна адзін за адным бліскучыя дні, поўныя густога вязкага ваду.

Гэтыя дні дзіўна адпавядалі перажываньням Лясьніцкага—проста зьліваліся з тым агнёвым і палкім, у чым гарэла яго ўсхваляваная істота. Дні і ночы мяшаліся ў сонечным, ясным, забывалася ўсё, што навокал—была адна нейкая тлумная дрэма, было гарачае салодкае трызьненьне.

Знаў Лясьніцкі, што гэта—хворае, ненатуральнае. Наўмысьля сам сябе распаляў, наўмысьля ўвесь акунаўся ў мора вострых, агнёвых адчуваньняў, каб захлынуцца ў іх, каб жыць толькі ў іх, толькі імі. Бо цяжкім гнётам душыла няўцямнасьць, жыцьцё насядала чорнай камлыгай—ня было прасьвету, ня было разуменьня.

І пачынаў думаць Лясьніцкі, што гэта—шчасьце. І часамі дзівіўся такой прастаце, такой абычайнасьці. Успамінаў свае парываньні, мары свае нязбытныя, і ўсьміхаўся з горкай іроніяй.

— Дзіцячае гэта ўсё, нясур'ёзнае...

І стараўся ня думаць аб гэтым зусім, стараўся думаць аб адным—аб маленькай, адданай яму Макрыне, аб яе шчырых гарачых ласках.

Але прайшлі гэтыя два тыдні. І вось пачуў раптам Лясьніцкі, што проці яго волі пачынае разьвейвацца салодкі тлум, што ўсё часьцей ды часьцей расплываецца хваляй густой па істоце адчуваньне тупой пярэсыці, што прыглядзелася ўжо, стала абыклым тое, што раней распаляла магутным агнём, што абурала дзіка-прыгожым захапленьнем.

Стала тады страшна чамусьці. Страшна стала за сябе, за Макрыну, страшна стала за свой спакой, за тое, што ён назваў быў шчасьцем. З трывогай пачаў ён сачыць за сабой, за кожным рухам свайго пачуцьця, стараўся вярнуць ранейшае, штучна распаліць ранейшы агонь. Ад гэтага яшчэ мацней расла тупая пярэсыць, яшчэ хутчэй халаджала нутро.

Лясьніцкі пачаў тады шукаць адзіноты. Калі меў час ад працы, ён ішоў у лес, забіраўся ў самыя нетры і хадзіўхадзіў без канца, аж пакуль не пачынала круціцца галава, пакуль не нахадзіла глухое, як дрэва, бяздум'е. Было нешта хваравітае, ліхаманкавае ў гэтай хадзьбе. Быццам хацеў уцячы Лясьніцкі ад некага, хацеў заблытаць свае сьляды. Здаралася, што неўзаметку для самога сябе ён захадзіў у такое балота, адкуль нават цяжка было і выбрацца. І тады хадзіў, блудзіў, шукаючы выйсьця, давольны, што знайшоў забаўку, што знайшоў на што накіраваць назольлівыя думкі.

Аднойчы (было гэта зноў у нядзелю) зайшоў ён быў у сасоньнік, што мяжуецца з паркам маёнтка Лоўчына. Там стаяла мяккая цішыня, насычаная цёплым смаляным араматам. Здавалася, што маладыя хвойкі замерлі ў нейкім урачыстым маленьні, баяцца парушыць цішу нават ледзь

чутным шолахам, баяцца ступіць на мяккі і пышны маховы дыван. Стаяць—прыгожыя, сьціплыя,—застыглі ў сьвятой нярухомасьці.

Лясьніцкі несьвядома адчуў гэту ціхую ўрачыстасьць. Ён міжвольна прыпыніў ход, асьцярожна, паціху ступаў па пышнаму дывану, здрыгаўся, калі трэскала пад нагой сухая галінка. Веяла тут, у гэтым сасоньніку, у гэтай цёплай сонечнай цішыні, у напружаным паху сьвежай смалы нейкай жудасьцю—дзіўнай і недарэчнай сярод поўнага бляску гарачага летняга дня.

І раптам Лясьніцкі ўбачыў дзяўчыну. Ён адразу пазнаў яе. Ён часта бачыў, як пралятала яна праз вёску на сваім шыбкім, як віхор, іінаходцы. Гэта была паненка Раіса—дачка памешчыка Янава.

Дзяўчына яго не заўважыла. Яна была ў гэты час цалком захоплена сур'ёзным заняткам—прышпіляла да грудзей нейкую блакітную кветку, якую, відаць, толькі што тут знайшла. У яе нічога ня выходзіла, бо перашкаджаў кошык з грыбамі, які яна не дагадвалася чамусьці паставіць на дол—упарта трымала пад пахай.

Лясьніцкі і раней, калі сустракаў паненку, мімаволі дзівіўся яе нязвычайнай прыгожасьці. Але цяпер, у гэтых дзіўных абставінах, у гэтым урачыстым наўкольным харастве яна здалася яму нейкай чароўнай фэяй, цудоўнай багіняй гэтага хараства. Ён стаяў моўчкі і любаваўся.

Тымчасам фэя прышпіліла кветку і зрабіла рух, каб пайсьці, але, мабыць, таго толькі і чакаў кошык з грыбамі. Ён моўчкі высьлізнуў з-пад пахі і грыбы веерам рассыпаліся вакол яе ног. Яна інстынктыўна азірнулася наўкола і ўбачыла Лясьніцкага. На твары ў яе разам адбіўся спалох, зьдзіўленьне, сорам і злосьць.

А Лясьніцкі ўпарта глядзеў на яе і дабрадушна ўсьміхаўся. Ён заўважыў, як яна закусіла губу, каб схаваць сваё замяшаньне, напусьціла на твар пагардліва-гнеўную міну.

— Чаго глядзіцё? Зьбірайце грыбы!..

Яна гаварыла прыемным—сьмелым і звонкім контральто. Відаць, прывыкла, каб яе ўсе слухалі, выконвалі яе кожны капрыс. Стаяла і задорна глядзела на яго, зьвёўшы свае прыгожыя бровы—чакала, ці скора ён паслухае яе. А Лясьніцкі ўсё глядзеў ды ўсьміхаўся.

— Чуеце? Зьбярыце мне грыбы!..

Ён адказаў ёй наўмысьля расьцягнута, роўна, націскаючы на кожнае слова:

— Я чую, бо ня глухі... Але зьбіраць грыбы ня буду... Ня хочу...

— Грубіян!..

Тады загарэлася ў ім шалёная гарэзасьць. Захацелася зрабіць нешта нечакана-сьмелае, каб зьдзівіць яе, зьбянтэжыць. І вось ён пайшоў да яе шырокімі, мернымі крокамі, падышоў і, з усьмешкай гледзячы ёй проста ў вочы, наступіў нагой на рассыпаныя грыбы.

Яна адступіла з поўкрока. На твары яе ў першы момант выразна блісНуў спалох, але зараз-жа зьмяніўся на злосьць. Шырока раскрытыя зеленавата-блакітныя вочы бліснулі рэзкім агнём. Яна крута завярнулася і пайшла.

— Кошык вазьмеце!—крыкнуў Лясьніцкі.

Яна і не азірнулася—пайшла шпаркім узрушаным крокам—зграбная і прыгожая, як маладая сасонка. Лясьніцкі праводзіў яе вачмі аж пакуль ня мільгнула апошні раз у зяляніне дрэў яе павеўна-белая сукенка, падпяразаная празрыстым ружовым шалікам.

Лясьніцкі стаяў, ашаломлены гэтай кароткай, нечаканай сустрэчай. Яшчэ фізычна адчувалася яе прысутнасьць, быццам пакінула яна тут свой нявідны цень. Мо' гэта таму так здавалася, што яшчэ не растаў быў прыемны арамат яе парфумы, яшчэ не разбавіўся ў застойным моры смалянога паветра.

Потым Лясьніцкі давольна ўсьміхнуўся і сагнуўся, каб падняць кошык. І раптам ён загрымеў на ўвесь лес шалёным рогатам... Сярод грыбоў, набрадзеных паненкай, было палавіна валуёў, мыш'якоў, мухамораў і іншых неядомых

экзэмпляраў. Лясьніцкаму шкода стала, што ён раней гэтага не заўважыў. Ён-бы пасьмяяўся пры ёй, пры паненцы, ён-бы яшчэ горш зьбянтэжыў яе.

Забраўшы кошык, Лясьніцкі пайшоў дахаты. Было весела, усю дарогу ён высьвістваў нейкую задзёрыстую песеньку. Ён быў рад, што так абышоўся з паненкай, ён быў зусім давольны сабой. Хацелася толькі яшчэ падвесьці нейкі сталы грунт пад гэту мімавольную сварку, знайсьці ёй нейкае апраўданьне. Гэта было нятрудна зрабіць. У яго жыцьці было два выпадкі, калі ён быў пакрыўджаны ў яе прысутнасьці і нават пры яе ўдзеле. І вось ён цяпер памсьціўся. Яна, вядома, ня помніць тых выпадкаў, яна зусім і ня знае яго. Дзе яна запомніць нейкага сялянскага хлапчука, які прамігнуў калісь прад вачмі яе—шэры, няпрыметны, як адно з нязьлічоных дрэў у гэтым вялікім лесе.

Але затое Лясьніцкі добра помніць гэтыя выпадкі. Яны здарыліся тады, калі яму было яшчэ гадоў дзесяць ці мо' адзінаццаць. Першы раз ён сустрэў яе з губарнанткай у лесе. З імі былі два вялікіх страшных сабакі. Калі ён праходзіў міма, гэтыя сабакі кінуліся былі на яго, гатовыя яго разарваць. І вось, калі ён, абамлелы ад страху, адмахваўся ад іх тоненьнім сваім кіёчкам, яна сярдзіта крычала (голас і тады ў яе быў такі звонкі, задорны):

— Хлопчык! Ня бі Трэзора!.. Хлопчык, кінь палку... Чуеш?..

І другі раз ён таксама сустрэў яе ў лесе. Яна была тады з старэйшым братам—брат той вучыўся ў кадэцкім корпусе. Лясьніцкі зьбіраў у лесе суніцы, а гэта не дазвалялася. І вось калі кадэт ад нуды злавіў быў яго і адабраў ягады, яна скакала на адным месцы, пляскала ў ладкі і сьмяялася звонкім, вясёлым сьмехам. Ён тады трымаўся пры ёй, нават не прасіўся. А плакаў пасьля ўжо, як адышоўся з гоні, як ішоў панура дамоў бяз суніц і... бяз шапкі.

Пры ўспаміне аб шапцы Лясьніцкі міжвольна ўсьміхнуўся і паглядзеў на кошык. І прыемна стала, што кошык тут, што астаўся ў яго. Ён ня ведаў яшчэ, што будзе

рабіць з гэтым кошыкам, але знаў, што кошык дасьць магчымасьць яшчэ раз убачыцца з ёй. І яшчэ раз ён здолее з ёй падражніцца, пазьліць яе троху. . . .

Аб сваёй сустрэчы з паненкай Лясьніцкі ў той-жа вечар, сьмяючыся, расказаў Макрыне. Макрына, аднак, і ня ўсьміхнулася—выслухала яго з спакойнай сур'ёзнасьцю. Нават нейкае зьдзіўленьне прасьлізнула ў яе ціхіх вачох. Быццам хацела сказаць:

— Што-ж тут ёсьць сьмешнага?..

А як кончыў Лясьніцкі расказваць, Макрына задуменна спытала яго:

— Слухай, Васілёк... Ці будуць гэта цяпер паны, ці не?..

— Як гэта—ці будуць?..

— Ну цяпер-жа свабода нейкая...

Лясьніцкі пачаў ёй тлумачыць, што гэта невядома, што ўсё гэта вырашыць устаноўчы сойм, што цяпер трэба думаць аб тым, каб разьбіць праклятага немца, што правы цяпер роўныя ўсім—як панам, так мужыкам і г. д. Гаварыў ён шпарка, сьпяшаючыся, абы каб сказаць... Знаў, што ўсё роўна не зразумее яго Макрына. А яна слухала і нешта думала сваё, глыбокае, глядзела некуды ў прасьцяг, ня міргаючы, шырока-раскрытымі ціхімі вачмі. Як памянуў Лясьніцкі пра немцаў, яна спакойна зазначыла:

— У маёнтку палонныя немцы работалі. Такія добрыя мужчыны... Прыгожыя, ветлыя...

Лясьніцкі перапыніў яе:

— Ты, Макрына, не разумееш, у чым справа... Мала што добрыя, ветлыя... Тут дзяржаўныя меркаваньні... Ня можам мы паддацца Нямеччыне, бо мы тады экономічна загінем... А свабоды тады не застанецца й сьледу... Задушаць свабоду...

— Хто яго ведае...

І зноў яна нешта сваё, глыбокае думала, хацела дайсьці да нечага сваім нямудрым бабскім розумам. А праз колькі хвілін зноў яго запытала:

— Васілёк! Ці любіш ты паноў?

Ён усьміхнуўся.

— Як гэта—ці люблю? Гледзячы каго... Вось, напрыклад, паненку люблю, бо яна прыгожая...

Макрына быццам і не заўважыла яго жарту.

— А я дык дужа ня люблю паноў, баюся іх... Яны сьмяюцца, зьдзекваюцца над простым народам... Быццам яны нейкія асаблівыя, не такія людзі, як усе... Я-б, здаецца, ні за што не пакахала пана, хоць-бы які быў прыгожы... А нашы-ж бабы дык некаторыя ў Карлу пазакахаліся... Казалі, што Тэкля салдатка хадзіла да яго ў пакоі нанач, сама набілася... А яму што—баба хоць куды, такую пашукаць трэба...

І Макрына неяк наіўна, падзіцячаму засьмяялася. Сьмешна ёй стала, што бабы Карлу кахаюць, нанач да яго самі ідуць...

А цяпер Лясьніцкі ўжо не зразумеў яе сьмеху. Ён здаўся яму зусім недарэчным. Найшла з чаго сьмяяцца!..

І яшчэ не падабалася Лясьніцкаму, што Макрына зусім не зважае на яго словы пра паненку. Мабыць, наўмысьля, каб віду ня даць, каб паказаць, што гэта зусім яе ня цікавіць...

Лясьніцкаму захацелася яшчэ раз навесьці гутарку на гэту тэму, і ён загаварыў пра кошык.

— Што мне рабіць з ім... Хоця-ня-хоця, а прыдзецца неяк ёй перадаць. Што-ж, трэба будзе ўбачыць яе, нічога ня зробіш...

А Макрына ўжо клапацілася разам з ім.

— Можа табе, Васілёк, дужа ня хочацца, дык я магу перадаць... Я часамі хаджу ў маёнтак.

— Ты тут ні пры чым.

Лясьніцкі ўсур'ёз пачынаў злавацца. Макрына пачула гэта сваім жаночым інстынктам. Яна абвіла яго рукамі, шчыльна да яго прытулілася, зазірнула ў твар яму сьветлымі адданымі вачмі...

— Васілёк! Чаго ты сярдзіты? Ня злуйся, Васілёк... Ну, пацалуй мяне, любы...

Ён цалаваў яе з нейкай нэрвовай пасьпешнасьцю. Ён сам ня мог вызначыць, ці прыемна, ці няпрыемна яму ад гэтых пацалункаў. Сам ня знаў, ці гэта сьпяшаецца ён, каб больш атрымаць здавальненьня, ці каб скарэй адвязацца, здаволіць яе.

Быў такі двоісты нейкі настрой.

ДВА дні пасьля таго ня выходзіла з галавы ў Лясьніцкага паненка Раіса. Два дні ён ламаў галаву, думаў усё, як цяпер абыйсьціся, што зрабіць з гэтым няшчасным кошыкам. І, нарэшце, надумаўся.

На трэці дзень апаўдні ён узяў у перавозьніка лодку і паплыў уніз па Дняпру. Ён з напружанай энэргіяй працаваў вёсламі, і лодка няслася, як птушка, сьмела пераганяючы быструю плынь. Не прайшло й поўгадзіны, як засінеў на левым беразе густы і цёмны лоўчынскі парк.

Лясьніцкі прыстаў к берагу. Ён ледзь выбраў сярод навіслага над вадой лазовага вецьця мясьцінку, дзе-б можна было паставіць лодку, прымкнуў яе і праз пераблытаны гушчар палез на гару. Тут лазьняк быў шчытна пераплецены косамі хмелю, жавін і воўчых ягад, прыходзілася ірваць рукамі гэтую глухую заслону, каб праз яе прабрацца. Ды яшчэ не даваў як сьлед разгарнуцца пракляты кошык. Таму Лясьніцкі зусім затаміўся, пакуль выбраўся з берагу.

З боку Дняпра парк ня быў абгароджаны. Выбраўшыся з зарасьлі, Лясьніцкі адразу апынуўся ў пачатку роўнай шырокай алеі, якая другім канцом сваім выходзіла на дзядзінец поплеч з белым панскім домам. Алею шчытна сьціскалі з бакоў два рады таўшчэзных стогадовых ліп, якія сваімі хмурымі постацямі стваралі ўражаньне нечага змрочнага, векавога. Такое ўражаньне робяць старадаўныя, шчарнелыя ад часу портрэты, разьвешаныя ў строгім парадку дзе-небудзь у пыльнай закінутай салі.

Парк быў страшэнна запушчаны. Толькі на гэтай алеі прыметны былі сьляды сякога-такога дагляду. А ўжо за радамі ліп адразу пачыналася дзікая, непраходная гушчэча.

Лясьніцкі заўважыў на некалькі крокаў у бок ад алеі старую напоўразбураную альтанку. Калісь яна была абвіта жывой зелянінай дзікага вінаграду, бо й цяпер яшчэ па бакох недалужна зьвісала жоўтае сухое гальлё, а ў іншых мясьцінах нейкім дзівам яшчэ прычапілася пара-другая зялёных сьвежых лістоў.

Лясьніцкі накіраваўся ў гэту альтанку і сеў там на струхлелую паламаную лаўку. Ён наўмысьля выбраў такую позыцыю, каб было добра відаць яго ад алеі. Потым ён вынуў з кішэні кніжку і стаў чытаць.

Колькі хвілін Лясьніцкі і папраўдзе чытаў, нават разумеў прачытанае. Але хутка адарваліся думкі ад кнігі, залуналі ў іншым напрамку, завіліся вакол другога прадмета. Перш-на-перш ён цьвяроза і крытычна зірнуў на самога сябе, на свой учынак і схапянуўся, гатовы кінуцца на бераг і паплысьці назад, пакуль ня позна. І сапраўды: забраўся ў чужы парк, у чужую альтанку, ніхто яго тут ня ведае, убачаць—могуць падумаць нямаведама што... Могуць прагнаць, як злодзея. Яшчэ сабакамі зацкуюць...

Але тут-жа зьявілася ў Лясьніцкага нейкая ўпартая рашучасьць, нейкая дзіўная ўпэўненасьць, што ўсё кончыцца добра. Чамусьці ён быў перакананы, што ён тут сустрэне паненку, што сустрэне яе адну і, такім парадкам, будзе мець магчымасьць вольна з ёй пагутарыць. І, як на дзіва, яго разрахункі спраўдзіліся. Прайшло хвілін 40 (прайшлі яны ў вострым нэрвовым хваляваньні) і ў канцы алеі паказалася знаёмая постаць у белай сукенцы, у ружовым шаліку. Яна ішла шпаркай, зграбнай хадою, энэргічна, але няшырока махаючы правай рукой. У левай у яе відаць была кніжка, якую яна трымала, прыціснуўшы да грудзей.

Лясьніцкаму нешта заняло дыханьне, сэрца пачало балюча млосна зрывацца. Але гэта было адзін толькі момант. Потым зноў зацяплілася ў нутры ранейшая гарэзасьць, стала

лёгка й прыемна. Ён утупіў вочы ў кніжку і пачаў чакаць. Хутка пачуліся яе лёгкія крокі. Потым яны спыніліся. Значыцца — заўважыла. Ён яшчэ глыбей утупіўся у кніжку — нібы нічога ня чуў і ня бачыў, нібы суздром захапіўся чытаньнем. Прайшло так з поўхвіліны. І тады пачуўся яе сярдзіты раздражнёны голас:

— Вы што тут робіце?

Лясьніцкі спакойна зірнуў на яе, прывітаўся (яна гэтага быццам і не заўважыла) і адказаў з наўмыснай бязуважнасьцю:

— Чытаю брошуру „Монархія ці рэспубліка", але няцікавая... А вы што?

Яна, відаць, гэтага не чакала. З момант яна ня ведала, як адказаць. Потым сказала з яскрава падкрэсьленым сарказмам:

— Было-б куды больш арыгінальна, каб вы для гэтае мэты прышлі ў наш дом, калі там нікога няма...

— Дзякую... Я лепш уважаю цяністы халадок гэтага зьдзічэлага саду. Я першы раз у гэтым цудоўным куточку, і, шчыра скажу вам, шкадую, што ня знаў яго раней... А вам падабаецца тут?..

Яна азірнула яго многазначным упартым поглядам, які нібы гаварыў:

— Ён яшчэ разгаварвае... а?..

І сказала з сьмешнай дзяцінннай пагрозай:

— Слухайце. Я пайду зараз і скажу тату: ён загадае, вас вывесьці адсюль.

Лясьніцкі ўсьміхнуўся.

— Гэта будзе зусім лішні клопат. Пакуль вы дойдзеце да хаты, я ўжо буду пасярод Дняпра, бо ў кустох стаіць мая лодка. Але скажэце: няўжо вам так нясьцерпна мая прысутнасьць? Калі гэта так, дык я і бяз таты магу пазбавіць вас ад яе... Я прынёс вам кошык, які вы выпадкова згубілі ў лесе... Вазьмеце яго!

Ён устаў, рыхтуючыся пайсьці. Апошнія словы яго неяк самі сабой сказаліся шчырым, нават крыху ўзрушаным голасам, у якім празьвінела міжвольная нотка крыўды.

Яна спыніла яго:

— Я не ганю вас, можаце аставацца... А кошык вазьмеце сабе на ўспамін аб нашай сустрэчы і... аб вашай грубасьці...

Яна завярнулася і зрабіла некалькі крокаў у бок дома, але зараз-жа спынілася і праказала ўжо інакшым — лагодным, нават троху жартлівым тонам:

— Вы маё месца занялі... Я заўсёды чытаю ў гэтай альтанцы.

Ён зрабіў рух, каб уступіць ёй альтанку. Яна зноў спыніла яго:

— Не-не... Можаце не турбавацца—я не праганю вас...

Хвілінку яна нібы змагалася з сабой і потым сказала тонам вымушанай уступкі:

— Ну, што-ж... Я пасяджу разам з вамі... Нічога ня зробіш—ня гнаць-жа вас, калі вам так страшэнна тут падабаецца... Яшчэ заплачаце.

У дзьвярох альтанкі яна на момант спынілася.

— А грубіяніць больш ня будзеце? Так? Абяцаеце?..

— Я магу быць і далікатным, калі мяне добра папросяць.

— Прасіце зараз-жа прабачэньня! Чуеце? Наце, цалуйце...

Ён з радасным захапленьнем пацалаваў яе маленькую ручку.

— Ня буду больш... добра...

— Цяпер скажэце, хто вы такі, як вы сюды забраліся і дзе вы навучыліся вашай нязвычайнай далікатнасьці.

Лясьніцкі пачаў весела, жартліва рэкомэндавацца. Ён быў повен цяпер дзівоснай узьнятасьці, ён быў на-дзіва спрытны на словы, перасыпаў свае апавяданьні ўдалымі жартамі. Праз пяць хвілін Раіса Андрэеўна качалася ад сьмеху, весела, гульліва блішчэла сваймі прамяністымі зеленаватымі вачмі. А Лясьніцкі ўсё больш і больш расплываўся ў пачуцьці салодка-шчымлівага захапленьня. Ён ня зводзіў вачэй з сваёй суседкі, упіваўся яе сьвежым яскравым хараством. Яму проста ня верылася, што гэта ён сядзіць, размаўляе з красуняй-паненкай; яна яму здавалася нейкай асаблівай, недасяжнай.

І дзіўна: чым больш ён з ёю гаварыў, чым бліжэй яны адзін з адным знаёміліся, тым больш узмацнялася ў ім гэта пачуцьцё. Ён адчуваў яшчэ на вуснах мяккае прыткненьне яе рукі, ён глядзеў на гэту маленькую руку—кволую, як белая лілея — і ня верыў, што цалаваў яе, — здавалася гэта такім вялікім, немагчымым шчасьцем.

Прайшло з гадзіну, а можа й больш—Лясьніцкаму праміргнуў гэты час аднэй вясёлкава-яснай хвілінай. І раптам ён заўважыў, што Раіса зьбялела і неяк вінавата замятушылася, быццам хацела зьнікнуць, стаць няпрыметнай. Інстынктыўна ён азірнуўся і ўбачыў, што па алеі да іх сунецца высокая фігура мужчыны. Лясьніцкі пазнаў гэтага чалавека і міжвольна сам здрыгануўся. Нешта было ў гэтым чалавеку цяжкое і жорсткае, што раджала ўва ўсіх, хто з ім сустракаўся, незразумелую жудасьць.

Гэта быў славуты „Карла“ — Карл Іванавіч Шэмпель, брат нябожчыцы пані — маткі Раісы Андрэеўны. Лясьніцкі бачыў яго і раней, але толькі здалеку. З прагнай цікавасьцю ён пачаў цяпер яго разглядаць.

Карл Іванавіч быў надзвычайна прыгожы мужчына гадоў пад сорак. Ён меў буйную, дужую і разам з тым зграбную фігуру, твар яго, амаль што абсолютна правільны, быў працяты глыбокай і цьвёрдай мужнасьцю, а далёка запалыя вочы іскрыліся чорным агнём—глядзелі пільна і ўедліва.

Калі-ж зусім блізка ўбачыў яго Лясьніцкі, дык заўважыў у твары яго нешта такое, што ў першы момант зьнішчыла ўсякае ўражаньне хараства. Ён заўважыў, што на прыгожых рысах яго твару расплылася нейкая павучынная сінь, нейкае шызае адценьне хворасьці. Было гэта троху падобна на той сінявы налёт, які часамі бывае на маладых баравіках. І гэты налёт у яго быў на ўсім твары: былі сінявыя вусны, прабівалася сінь на шчоках, на носе, нават у вачох было нешта сінява-шызае.

І яшчэ кінуўся ў вочы лоб Карла Іванавіча. Ён быў густа пакрыты глыбокімі зморшчкамі, якія стваралі ўражаньне, быццам у яго страшэнна баліць галава.

Карл Іванавіч сунуўся па алеі роўна, павольна, як нейкая здань. Параўнаўшыся з альтанкай, ён марудна, быццам нехаця, павярнуў галаву і правёў па ёй цягучым змораным поглядам. Можна было падумаць, што ён і ня ўбачыў нікога, што проста зірнуў у прасьцяг пустымі, углыблёнымі ў нутро вачмі. Але Лясьніцкі заўважыў, што пад гэтым поглядам Раіса Андрэеўна неяк недалужна стулілася, зрабілася раптам маленькай і вінаватай. Гэта страшэнна зьдзівіла Лясьніцкага, стала прад ім вострай загадкай.

Тым часам Карл Іванавіч дайшоў да канца алеі і завярнуў па сьцежцы ўбок, у зарасьлі зьдзічэлага парку. Раіса Андрэеўна ўстала, затурбавалася.

— Ну, ідзіце ўжо. Я пайду дахаты... Бывайце!

Яна была нейкая дзіўная. Яна цяпер быццам не прымячала зусім Лясьніцкага—нешта трывожнае ўпарта займала цяпер яе думкі. Разьвітваючыся, Лясьніцкі хацеў пацалаваць ёй у руку — яна вырвала, паглядзела на яго з сярдзітым зьдзіўленьнем.

— Бывайце!

Яму стала сорамна. Ён нічога больш не сказаў, пайшоў моўчкі к берагу. У момант згінуў яго радасна-ўзьняты настрой, асела на сэрца нешта цяжкое, даўкае. Плывучы назад, ён з злоснай напружанасьцю працаваў вёсламі і з усіх сіл стараўся адагнаць цяжарныя думкі, якія назольлівым роем лезьлі ў мазгі. Хацеў і паненку Раісу выкінуць з думак, але нічога ня выходзіла. Яна стаяла ўваччу, як жывая, і поўніла сэрца нейкім трывожна-шчымлівым пачуцьцём. Было чамусьці сумна да сьлёз і троху крыўдна.

НАДЫХОДЗІЎ час сенакосу. Перад сялянамі вёскі Зяленічы ўставала пільная і турботная задача — даставаць сенажаці. Сваёй сенажаці вёска ня мела, з даўных пор купляла то ў памешчыка, то ў суседніх сялян. Усе апошнія гады зяленіцкія сяляне касілі панскую луку, якая была каля самае

вёскі. Прыходзілася, праўда, даражэй троху плаціць, але затое—тут, каля блізу: і прывезьці бліжэй, і лепш упільнуеш.

Сёлета таксама ладзіліся браць у памешчыка. Ужо меркавалі аб грашох, хацелі пасылаць сваіх выбарных да пана, каб троху збавіў цану, ужо раскладалі прыблізна, як падзяліць сенажаць між вяскоўцамі. І вось у гэты гарачы час раптам пайшла, разышлася па вёсцы дзіўная прачутка, якая ўскаланула сьвядомасьць сялян, абвастрыла іх пачуцьці і ўнесла карэнную зьмену ў справу з сенажацямі.

Пачалося гэта з бязногага Аксэнты. Ён нешта езьдзіў у горад (дахадзіў усё сабе пэнсіі) і, прыехаўшы адтуль, расказаў такую гісторыю. У горадзе, у заездным двары, сустрэў ён старога п'янчужку, які раней служыў у чыноўніках, а цяпер за капейкі пісаў „прашэньні" і заўсёды ўпарта шукаў якога-небудзь спосабу выпіць. Гэты п'янчужка пісаў і Аксэнту заяву, дзеля чаго яны дасталі былі троху ханжы і разам выпілі. І вось тады п'янчужка яму расказаў, што калісьці, гадоў мо' пяцьдзесят таму назад у губэрскім судзе разьбіралася справа памешчыка Янава з сялянамі вёскі Зяленічы, па якой памешчык Янаў адсудзіў у сялян трыццаць дзесяцін сенакосу, што знаходзіўся на луцэ, якую робіць Дняпро каля вёскі Зяленічы. І яшчэ расказаў стары п'янчужка, што справа гэта была цёмная, што тут нейкі быў зроблены фокус з плянамі і што недзе, у нейкай „управе", пашукаўшы, можна знайсьці сапраўдны старадаўны плян, па якому выходзіць, што лука належыць да сялянскай зямлі, а не да панскай.

Сяляне, выслухаўшы апавяданьне Аксэнты, з глыбокай скрухай уздыхнулі і ў сумнай роспачы паківалі галовамі. Старыя засьведчылі, што-ткі й сапраўды калісьці лука да вёскі належыла, а потым быў суд, цягнуўся ён доўга-доўга, мо' гадоў з дваццаць і, нарэшце, пан адсудзіў. А як там было, якія там „планты" былі, гэтага яны ўжо ня помняць— старыя ўжо сталі, многа чаго пазабываліся.

Вось паўздыхалі троху мужчыны дый кінулі гэтую гутарку. Толькі яшчэ буркнуў нехта пад нос сабе з дрэнна схаванай прагнасьцю:

— О, каб гэта лука... Ого-го!.. Нашто-б яно й што!..

А на другі дзень з самага ранку да Аксэнты прыбег адзін малады гаспадар і, сказаўшы для прылікі пару слоў аб надвор'і, завёў гутарку аб луцэ, аб учарашнім Аксэнтавым апавяданьні. Ня трудна было заўважыць, што селянін гэты правёў усю ноч у бяссоньні — такі быў у яго змардаваны выгляд. Разважаньні яго зьяяліся да наступнага.

— Раз калісьці сяляне карысталіся гэтай лукой, значыць тут нешта ня так. Ніколі пан свайго не перапусьціць, ніколі не памыліцца. Тут дзела яснае: сяляне касілі луку па-праву. Пан пазайздросьціў на добры, зыскоўны кавалак зямлі, нешта там змахляваў і адсудзіў яго.

Аксэнта важна выслухаў селяніна і з відам тонкага знаўцы гэтае справы зазначыў:

— Я-ж то й кажу... Ня мог чалавек ні з таго ні з сяго набрахаць. Пэўна, ёсьць нейкая тут закаключка...

Яны пагаманілі яшчэ колькі хвілін, і селянін пайшоў, цьвёрда пераканаваны ў справядлівасьці сваіх падазрэньняў і давольны сваёй спрытнасьцю ў такіх мудроных разважаньнях.

Не пасьпеў ён выйсьці, як да Аксэнты зьявіўся другі селянін, троху старэйшы, але ня менш дасьціпны за першага. І ў яго на твары выразна сінелі сьляды бяссоннай ночы і ён загаварыў аб сенажаці. Яго разважаньні былі такія:

— Ня можа быць, каб панская зямля аказалася нейкім адарваным кавалкам сярод сялянскай. Гэта-ж ня менш, як з вярсту ад лукі пачынаецца панская зямля, а тут навокал наша, вясковая. Значыць, дзела тут яснае: пан пагаліўся на добры кавалак зямлі і адсудзіў яго нейкім жульніцтвам...

Аксэнта ўжо сьмялей намякнуў на свае аўторытэтныя веды ў гэтай мудронай справе:

— Дык а як-жа!.. Ці-ж я-б гэта стаў так проста малоць языком, каб ня меў аргумэнту... Я, брат, тонка разумею гэту палітыку.

Трэці селянін (сьляды бяссоннай ночы, загаварыў адразу аб луцэ і г. д.) ніяк ня мог уразумець, як гэта цэлае „вобчаства" ня мае зусім сенакосу.

— У падліпаўцаў ёсьць, у парэчанцаў ёсьць, у Крыніцах—цэлыя абшары, у Падгэрцах—як вокам скінуць... Не, тут нешта ня так—цёмнае дзела. Ня йначай лука да вёскі па-праву належыла, пакуль хітры пан ня ўцяўся ды не адсудзіў. Дзіва—такі ласы кавалак...

З гэтым Аксэнта пайшоў яшчэ далей. Ён з хвіліну глядзеў на селяніна дапытлівым вокам, быццам вагаўся: ці сказаць яму, ці не сказаць. І потым выпаліў, многазначна нахіліўшыся да селяніна:

— Лука—наша. Гэта, брат, як дважды два... Каго ўжо каго, а мяне не паддурыш... я ўсе франты прайшоў ды жывым вярнуўся, хоць без нагі...

Селянін радасна падхапіў:

— Вот-жа й я тое... А то—ліха ведае... плоціш, плоціш чорту лысаму, а за што, за якую трасцу, каб хто спытаўся...

Той дзень Лясьніцкага ня было дома: ён езьдзіў на места. А дзеля таго, што з ім папрасілася пад'ехаць Макрына, вярнуўся ён, як ужо добра сьцямнела. Пад'яжджаючы да хаты, ён пачуў, што адтуль глуха вылятае густы мужчынскі гоман. У яскрава асьветленых вокнах (звычайна ўлетку цяпла ў хаце зусім не палілі) боўталіся калматымі карчамі сілуэты мужчынскіх галоў. Відаць, у хаце была цэлая сходка.

Лясьніцкі ўзьвёў каня на двор і, поўны вострай цікавасьці, увайшоў у хату. Адразу ён бадай што нічога ня мог разглядзець—так густа было накурана ў хаце. Яго спачатку тож не заўважылі—былі захоплены ўсе нейкай гарачай спрэчкай, у якой часта мільгалі словы „лука", „сенажаць".

— Ага! Сенажаць купляць зьбіраюцца...

Лясьніцкі гукнуў брата і паслаў распрагаць каня, а сам падышоў бліжэй да стала. Яго заўважылі—сьціхлі неяк скомчана, раптам. Нехта пасунуўся, даў яму месца на лаве, каля стала.

— Аб чым, дзядзькі, гамоніце?

Нехта безнадзейна крактануў, нехта выкінуў недаверліва й глуха:

— Ат!.. Глупства гэта адно...

А дзед Лявон панура сагнуў галаву, задуменна паляпаў па стале пальцамі і пачаў:

— Бачыш, Васіль, ты-ж, казаў той, чалавек пісьменны, навуку прайшоў там усякую... Ізноў-жа законы ведаеш, артыкулы... Тут вось якая гамонка...

І дзед пачаў апавядаць пра справу з лукой, пра дзіўную, нечаканую чутку. Усе моўчкі слухалі. Дзе-хто рабіў папраўкі, але ціхенька, для сябе. Толькі разы са два голасна і аўторытэтна паправіў апавядальніка Аксэнта—паправіў у нейкай драбніцы, мабыць выключна для таго, каб даць зразумець, што ён тут ёсьць першакрыніца гэтай гісторыі. А як кончыў стары гаварыць, усе дапытліва зірнулі на Лясьніцкага, чакалі яго слова.

Лясьніцкі абвёў поглядам прысутных. З усіх бакоў напружана ўтаропіліся ў яго барадатыя твары, у вачох у кожнага гарэла трывожнае чаканьне—нясьмелая надзея мяшалася з чорнай апаскай. Лясьніцкі адразу зразумеў, што ад яго чакаюць станоўчага адказу, чакаюць, каб ён, які нібы-та ведае ўсе „артыкулы", падцьвердзіў іхнае права, падтрымаў іхнюю ўпэўненасьць у справядлівасьці прывезенай Аксэнтам весткі. І разумеў Лясьніцкі, што калі ня зробіць ён таго, чаго ад яго чакаюць, будзе агульнае нездаволеньне, будуць на яго ўсе-чыста злавацца. Але, з другога боку, ён бачыў, што ўся гэта гісторыя пабудавана на вельмі нямоцным грунце, што толькі наіўнасьць сялянскае думкі ды 'шчэ нэрвовая распаленасьць пачуцьцёў маглі надаць столькі сур'ёзнасьці гэтай выпадковай неправеранай чутцы.

І Лясьніцкі рашыў шчыра перасьцярэгчы сялян ад залішняга захапленьня, накіраваць іх на шлях цьвярозых і грунтоўных разважаньняў. Ужо раскрыўшы рот, каб пачаць гаварыць, Лясьніцкі раптам убачыў вострыя, як голкі, вочы Рыгора, якога ён дасюль чамусьці не заўважыў. Рыгор, як і іншыя, дапытліва глядзеў на яго, але ў яго вачох Лясьніцкі заўважыў яшчэ едкі аганёк недавер'я, гатоўнасьць спрачацца, лаяцца, калі Лясьніцкі скажа ня так, як ён думае.

„Што-ж, паспрачаемся", падумаў Лясьніцкі.

— Вось што, дзядзькі,—зьвярнуўся ён да сялян:—я згодзен з тым, што гэта гісторыя можа й справядлівая, можа так і было, як вы кажаце. Але-ж тут ёсьць яшчэ і фармальны бок... Каб гэта ўзналі раней, каб быў час разабрацца ў гэтым, раскапаць што трэба, пашукаць тых дакумэнтаў—тады была-б іншая справа. А цяпер—што-ж... Праз тыдзень-другі сенакос, пан самохаць лукі не аддасьць—аб гэтым няма чаго й гаварыць. А бяз суда такую справу ня вырашаць... Прыдзецца чакаць даналецьця, а сёлета так-сяк даставаць за грошы...

Яго словы, як ён і чакаў, зрабілі на сялян цяжкое ўражаньне. Хвілінку ўсе халодна, напята маўчалі—кожны чакаў, каб пачаў нехта другі. Потым загаварыў Аксэнта. Загаварыў ён нейкім пакрыўджана-настойлівым і разам з тым падкрэсьлена-аўторытэтным тонам:

— А што мы на фронце біліся ды калекамі засталіся, дык гэта так сабе? А свабоду хто адваяваў, га?.. Суд... Мала што суд! У акопы дык бяз суда пасылалі, а цяпер—суд!.. Думай ты гэта...

І ён няўцямна разьвёў рукамі перад сялянамі. Тыя пакрылі яго словы здаволеным гудам. Як ня дзіўна, а гэтыя наіўныя, дзіцячыя аргумэнты Аксэнты зрабілі на сялян уражаньне куды большае, чымся цьвярозыя разважаньні Лясьніцкага. Кожны гатоў быў разам з Аксэнтам няўцямна развесьці рукамі, кожны гатоў быў разам з ім шчыра зьдзівіцца:

— Як-жа так? Як-жа можна? Ваявалі, здабывалі свабоду, а тут—суд!..

Аўторытэт Лясьніцкага пахіснуўся адразу. Калі ён хацеў сказаць яшчэ нешта, каб растлумачыць сваю думку, яго ўраз перапынілі, паднялі ўсе разам страшэнны гвалт—кожны сьпяшаўся з ім паспрачацца. У гэтым агульным узрушаным гомане Лясьніцкі, аднак, здолеў адрозьніць мэталічна-рэзкі голас Рыгора. Ён чуў толькі абрыўкі яго злосна-крыклівых сказаў, і таму здавалася, што Рыгор гаворыць нешта вар'яцкі недарэчнае, дзікае.

— Ваявалі... свабода... буржуі... зямля... бальшавікі... здраднікі... Керэнскі.

Лясьніцкі з нэрвовай напружнасьцю лавіў Рыгоравы словы, стараўся знайсьці іх сэнс. Яму здавалася, што ў тых словах ёсьць нешта нядобрае ў адносінах да яго; ён інстынктыўна чуў, што Рыгор супроць яго чамусьці абуран. Яму было ад гэтага няпрыемна і крыўдна.

Троху ўгамаваўшыся, сяляне пачалі стала абгаварваць, як што рабіць, з чаго пачынаць, якія ўжываць спосабы, каб-ткі дасягнуць справядлівасьці, каб адваяваць сваю законную сенажаць. Сышліся ўсе на тым, каб перш-на-перш схадзіў хто да пана: можа той самохаць аддасьць ім луку, можа ў ім прачнецца ўсё-ткі сумленьне.

Выбралі йсьці Аксэнту, Лявона й Лясьніцкага. Лясьніцкага папрасілі неяк глуха, няўпэўнена.

— Хоць ты й па-свойму гаворыш, ня згодзен з намі, старымі... Але-б добра, каб ты схадзіў... пагаварыць, ці што... усё граматны чалавек ня тое, што цёмны...

Лясьніцкі згадзіўся. Нават давольны быў, што сяляне ўсё-ткі яму давяраюць, пасылаюць сваім прадстаўніком.

А ўнутры ўжо сам сабой, міма сьвядомасьці, выплыў вобраз паненкі Раісы, ветла ўсьміхнуўся яскравым сваім хараством. „Можа ўбачу як-небудзь...“

Сяляне разышліся здаволеныя, поўныя ружовых надзей. Лясьніцкі вышаў за імі на вуліцу і сеў на прызьбе, каб прасьвяжыцца троху ад хатняй духаты. Але й на дварэ было мала чым халадней. Укрытая шчытнымі хмарамі ноч проста млела ў густой цяплыні. Нават ціхенькі ветрык, што патыхаў часамі аднекуль з палёў, і той не даваў прахалоды—быў ён нібы нагрэты і парны.

„Надвор'е зьменіцца“—падумаў Лясьніцкі.

Ляпнулі дзьверы. На вуліцу вышаў бацька. Ціхенька падышоў, намацаў сабе месца і сеў поплеч з ім на прызьбе. Ён у белай сарочцы, у белых штанах. Ён сядзіць нярухома, а ў цемры здаецца, што шэрая пляма яго сарочкі няўпынна віхаецца, быццам ён то адхінецца, то зноў прысунецца бліжэй.

Бацька сьперш моўчкі пачухаўся, потым пачаў гаварыць. Ён гаварыў ласкава—ціхім грудным голасам. Такім голасам могуць гаварыць толькі бацькі з сваімі дзяцьмі, і голас гэты заўсёды ўціхамірыць, заўсёды навее лагодны, трошачку смутны настрой.

— Хто іх разьбярэць—можа так, можа гэтак. Казалі старыя, што даўней сялянам належала гэта лука. Даўно ўжо я чуў пра гэта... Яшчэ так казалі, што нібы ў нашай вёсцы было многа дваровай чэлядзі. Як была аб‘яўлена воля, дык і яны ўзялі ў нашым вобчастве сабе надзелы. А потым кінулі, пайшлі зноў да пана служыць... Можа гэта праз іх і адсудзіў быў пан гэту луку... Хто іх ведае... Калі наслухаеш вось так сваіх, дык яно й выходзіць, як на паперы—наша, значыць, лука... Але раз няма дакумэнтаў, дык што-ж ты зробіш... Без дакумэнтаў, брат, ня ступіць... Такі ўжо час цяпер...

Лясьніцкі слухаў бацьку і ня мог вызначыць—ці той угаварвае яго, ці стараецца апраўдаць. Адно было ясна, што бацька—з імі, з сялянамі, што ён цалком падзяляе іх наіўную ўпэўненасьць, што ён разглядае сынавы словы, як памылку, якую, аднак, даруе яму па яго маладосьці. Але Лясьніцкага не раздражняў такі погляд бацькі. Спакойная, хоць і прымітыўная, бацькава мудрасьць і яго тактычны падход, наадварот, заспакойвалі яго, згладжвалі войстрасьць разыходжаньня. Адно толькі было няпрыемна Лясьніцкаму, што вось ня можа ён шчыра выказаць бацьку свае думкі, сумненьні, што каб і захацеў гэта зрабіць, дык не знашлося-б слоў такіх, не зразумелі-б адзін аднаго. І вось выходзіць, што сын на бацьку глядзіць з нейкай паблажкай, даруе яму яго міжвольную памылку, а бацька якраз таксама глядзіць на сына. Сын гэта бачыць, разумее, можа й бацька адчувае сэрцам—напэўна адчувае, а ні той, ні другі ня скажа. Слоў патрэбных ня знойдзецца.

І хоча сын хоць што-небудзь сказаць, каб было бацьку прыемна, каб пачуў ён сынаву блізкасьць. Ні з таго, ні з сяго ён заяўляе:

— Я, татка, буду старацца, буду рабіць усё, што змагу, каб адваяваць гэту сенажаць...

Бацьку не падабаецца, што сын так рэзка выкрыў яго тактыку. Ён стараецца захаваць сваю наіўную дыплёматыю.

— Ды я не пра тое... Я-ж кажу, што—хто іх тут разьбярэ. Можа так справядліва, а можа так справядліва... Закону няма, значыць—каюк...

А сын слухае ды моўчкі ўсьміхаецца. Ды думае сам сабе:

„Які ён добры і чулы! Колькі ў ім сырога землянога розуму, колькі гэтай сялянскай мудрасьці. А вось маўчыць заўсёды. Тыя крычаць, высьцігаюцца, а ён моўчкі нешта сам сабе думае... А разумней мо' за кожнага з тых... Забітасьць такая, ціхасьць. Вось і мяне прыўчыў быць такім сарамлівым, баяцца людзей... Нядобра так, пашкодзіць гэта ў жыцьці..."

На вёсцы запелі пеўні, пачалі сваю спрадвечную пераклічку. Бацька адразу ўсхапіўся.

— Спаць, спаць, сынок, ужо пеўні запелі.

І Лясьніцкі раптам пачуў, што вочы ў яго зьліпаюцца—страшэнна хочацца спаць. Ён ледзь дацягнуўся да ложка, кінуўся ніц, не разьдзеўшыся, і адразу заснуў, як забіты.

БЫЛО хмарна, але дажджу ня было. Дзень быў мяккі і цьмяны—нейкі мякінавы дзень. У такім надвор'і плавае звычайна ціхая задумёнасьць, атуляе чалавека, дзе-б ён ні быў—ці ў лесе, ці ў полі, ці ў падарожжы,—пачуцьцём ціхамірнай дамоўнасьці. У такое надвор'е ня бывае ў чалавека размаху ў далеч, у простор, ня бывае шырокай імклівасьці. Быццам прырода надзявае цьмяную вуаль, каб ня вабіць, не захапляць чалавека сваімі яснотамі. І чалавек неяк набліжаецца сам да сябе, сам да сябе прыглядаецца, сам сябе сузірае ў маўклівай ціхасьці. І яшчэ ў такія цьмяныя дні чалавек добра прымячае другога чалавека, нібы бачыць яго адзін-на-адзін у сваёй хаце, і лёгка зьбліжаецца з ім, лёгка знаходзіць мову таварыства.

Як ішлі выбарныя ад сялян вёскі Зяленічы ў маёнтак Лоўчын (лесам ішлі—ціхім, сьціпла прытоеным), дык гутарка ў іх была прасякнута сяброўскай мяккасьцю, згодай. Чула адзін аднаго разумелі, далікатна спачувалі адзін аднаму. Крывы Аксэнта, як за-звычай, апавядаў пра свае ваенныя прыгоды, а Лясьніцкі з дзядзькам Лявонам яму ахвотна падтаквалі, шчыра дзівіліся яго спрытнасьці й шчасьцю. Такая—на хаду—ціхамірная гутарка неяк падбадрывала, узьнімала настрой. Нават Лясьніцкі і той пачынаў верыць, што сапраўды можа выйсьці нейкі толк з гэтае іхнае справы.

На поўдарозе да Лоўчына яны раптам пачулі глухі перабор конскага тупату. Праз хвіліну наперадзе паказаліся два коньнікі, якія галёпам несьліся насустрэчу.

Яны праскачылі, як птушкі. Але часу досыць было, каб сэрца Лясьніцкага зайшлося ў раптоўным наплыве агнёвага хваляваньня: яшчэ здалёк ён пазнаў у першым коньніку паненку Раісу. Яна здалася яму нейкай казачнай прынцэсай—яна была сапраўды надзвычайна прыгожая. Распаленая шыбкай яздой, яна зьзяла здаровай чырваньню, у вачох у яе гарэў агонь гордай імклівасьці, агонь маладога дзявоцкага задору. Яна стройна і сьмела трымалася ў мужчынскім сядле, зьлёгку адкінуўшы назад галаву, быццам аддаўшыся ўсёй істотай сваёй буянай радасьці шпаркага лёту, быццам аддаўшыся з сьмелай рашучасьцю жорсткім абнімкам сустрэчнага ветру.

Лясьніцкі з момант стаяў аслупянелы. Ён ледзь ахамянуўся, каб прывітацца, ледзь пасьпеў нейкім нязграбным пасьпешным рухам зьняць сваю шапку. Яна адказала зусім няпрыметным кіўком галавы, не азірнулася, ня ўсьміхнулася, праляцела недасяжная, як чароўная здань, як дзіўны сон.

А за ёй чорным ценем прамігнуў „Карла". Ён на ўсім скаку неяк дзіўна, страшна нагінаўся разам з канём да самай зямлі і паднімаў з долу рассыпаныя Раісай шпількі. Лявон з Аксэнтам айкалі ад зьдзіўленьня і страху за сьмелага коньніка, а Лясьніцкі дрыжэў ад злосьці і зайздрасьці. Ён цяпер ненавідзеў гэтага сіняга хмурага „Карлу", ненавідзеў за тое,

што ён такі спрытны, што ён мае магчымасьць і ўмее прыгожа так ёй услужыць, што ён мае магчымасьць заўсёды быць разам з ёй. Ён зусім у гэты момант забыўся на тое, што Карла—родны дзядзька Раісы. Ён цяпер бачыў чамусьці ў ім шчасьлівага свайго супрацiўніка.

Коньнікі зьніклі з вачэй, Лявон яшчэ трохі паайкаў, і яны пайшлі далей. Ступілі колькі крокаў і Аксэнта раптам схапянуўся.

— Пастойце! Дык чаго-ж мы папромся? Карла-ж усім там кіруе ў маёнтку.

Пастаялі троху, падумалі. Лявон разважыў, што трэба йсьці.

— Раз пайшлі, дык пайшлі... А можа з старым панам скарэй што ўладзім, можа—бяз яго ён, бяз Карлы... Гэта-ж—выжыга, скнара...

— Праўда!—згадзіўся Аксэнта.

І яны пайшлі.

У маёнтку ім давялося чакаць хвілін дваццаць, пакуль вышаў да іх стары пан. Нарэшце, ён паказаўся ў дзьвярах сваіх белых пакояў—хударлявы, лёгенькі, з сівенькай бародкай, з рухавым пэнснэ на тонкім—у сьвежай чырвані—носе. Ён ня стаў нават гаварыць з сялянамі, адразу занекаў, з адчайнай катэгорычнасьцю замахаў сваімі маленькімі ручкамі.

— Не-не-не... Не-не-не... Я, стары, у гэтыя справы не мяшаюся... З Карлам Іванавічам, з Карлам Іванавічам... О-то-то, з Карлам Іванавічам... гэта з ім, так-так... А я галубочкі, нічога ня ведаю... Не-не-не... Гэта ўжо вы з Карлам Іванавічам... з ім... так-так... Ён зараз прыедзе, вы пачакайце, так-так...

І ён неяк раптам зьнік у дзьвярах, быццам уцёк, схаваўся. Сяляне пастаялі, пачухалі патыліцы.

— Што будзем рабіць?

Лясьніцкі рашуча быў за тое, каб пачакаць.

— Ня будзем-жа па некалькі раз хадзіць... Ды казаў-жа, што зараз прыедуць...

Пастанавілі чакаць. Адышліся ад ганкаў, падышлі к сьцяне нейкае пуні. Лявон з Аксэнтам селі на зямлю, а Лясьніцкі астаўся стаяць, прыхінуўся толькі плячмі да сьцяны. Ён ужо ня слухаў цяпер, што гаварылі сябры, ён ня мог цяпер слухаць, ня мог разумець нічагуткa. У яго ўяўленьні стаяў жывы вобраз Раісы—надзіва выразны, нібы ён зараз бачыў яе прад сабою. І шчымлівай трывогай поўніла сэрца ўпартая думка:

„Яна зараз прыедзе. Яна будзе тут прајжджаць, мо' пройдзе блізка зусім. Ці заўважыць, ці паглядзіць, ці скажа слова якое?..“

І ў яго распаленым уяўленьні рысаваліся розныя карціны іхнай сустрэчы, складаліся цэлыя дыалёгі, поўныя ўдалых зваротаў, поўныя глыбокай значнасьці. А далей мары разгортваліся шырокімі—у яскравых нязбытных фарбах—палотнамі. Ён ужо быў спрытным, сьмелым ездаком, ён рабіў перад ёй розныя фокусы, якіх і „Карла“ ня ўмее рабіць, яна захаплялася ім, усьміхалася яму такой чароўнай даверлівай усьмешкай, ад якой гарэла агнёвай радасьцю сэрца...

— ... дык мы замацуем яе ўжо назаўсёды... Як ты, Васіль?..

— Што?

— Калі згадзіцца Карла... Дык трэба ўжо нейкую форму завесьці, каб, значыцца, назаўсёды... каб ізноў не адабраў... га?..

Лясьніцкі няшчыра згадзіўся:

— Так, вядома. Як-жа іначай...

Словы старога пана спраўдзіліся. Неўзабаве пачуўся тупат, і з цёмных ліпавых прысад, што вядуць ад шляху ў маёнтак, паказаліся знаёмыя коньнікі. Яны праскакалі галёпам цераз дзядзінец і спыніліся недалёчка ад сялян. Тыя высунуліся наперад, каб заўважыў „Карла“, каб не чакаць яшчэ потым. Лясьніцкі ўпяў гарачы погляд у паненку, з ліхаманкавым хваляваньнем сачыў за кожным яе рухам.

„Карла“ памог ёй зьлезьці з каня. Яна з любай даверлівасьцю абаперлася аб яго плячо, саскочыла лёгка, спрытна, як козачка.

І прайшла міма Лясьніцкага, нават ня зірнуўшы ў той бок, дзе ён стаяў, папраўляючы на хаду сьцёртую яздой сукенку.

„Карла“ заўважыў сялян, спыніўся.

— Вы да мяне?..

І нават не абярнуўся як сьлед да іх, стаў неяк у поўзварота—сярдзіты, нахмураны...

Лявон пасьпешна зьдзеў шапку, пакланіўся нізенька-нізенька.

— Дзень добры, паночку! Да вашай міласьці...

І таўхае пад бок Лясьніцкага.

— Васіль, гавары... ну...

Лясьніцкі зрабіў поўкрока наперад і пачаў гаварыць. Гаварыў ён сьмела, вольна, быццам не прасіў, а тлумачыў проста цікавую нейкую штуку. Ён знаў, што сябрам, асабліва Лявону, гэта не ўпадабаецца, што па іх трэба прасіць, угаварваць, лашчыць панскае самалюбства. І калі ўспамінаў пра гэта, калі адчуваў, што Лявон ужо злуецца, ужо гатоў перапыніць яго, дык наўмысьля гаварыў яшчэ сьмялей, нават сярдзіта—хай сабе, думаў, злуюцца, хай потым лаюцца: досыць пагарды, досыць зьнявагі, цяпер усе роўныя...

„Карла“ выслухаў да канца ў той самай постаці—нярухомы, насуплены. Толькі зморшчкі на лбу то распускаліся, то зноў зьбіраліся густа-густа, як глыбокая ральля. Як кончыў Лясьніцкі, ён абярнуўся да яго, правёў па ім сваімі марудымі вачмі. Лясьніцкаму ўдалося блізка зусім зазірнуць у гэтыя вочы, і ён міжвольна задзівіўся іхнаму халоднаму хараству. Гэта была аксамітная чорная сталь, нібы патануўшая ў сваёй уласнай бяздоннай глыбіні. І ледзь прыметны шызы налёт не зьмяншаў хараства гэтых вачэй—ён ахінаў толькі іх лятуценнаю мяккасьцю. Дзіўнае злучэньне чорнай сталі і гэтай нечаканай мяккасьці надавала вачом хмурага „Карлы“ нейкую нязвычайную вабнасьць. Цяпер зразумеў Лясьніцкі, чаму пазакахаліся ў „Карлу“ вясковыя бабы, чаму набіваюцца самі к яму начаваць.

„Карла“ загаварыў нізкім, круглым і троху сіпаватым голасам. Слова ад слова ён адлучаў невялічкай, ледзь прыметнай паузай.

— Вы, здаецца, інтэлігентны чалавек, а гаворыце відочнае глупства... Вы страшэнна мяне насьмяшылі (а тымчасам на твары ані сьледу ўсьмешкі)... Вы хочаце, каб я аддаў кавалак зямлі толькі затым, што недзе нехта пусьціў на вецер ні на чым не ўзгрунтаваную чутку... Вы разумееце, як гэта недарэчна і сьмешна...

Ён нарыхтаваўся ісьці. Тады ня вытрымаў ужо стары Лявон.

— Паночку! Дык нам-жа ня змога ўжо... Кожны-ж год плоцім гэткія грошы...

— Я тут ні пры чым... Скажэце там сялянам, каб пасьпяшаліся з грашмі, бо да мяне купцы ўжо прыходзяць, я прадам каму-небудзь другому...

І пайшоў к сабе ў пакоі...

— Паночку!—справіўся крыкнуць яшчэ Лявон. Але той не зьвярнуў увагі.

Дзед Лявон моўчкі пачаў надзяваць шапку. На валасатым твары яго неяк сьмешна перамяшалася злосьць з тупым неўразуменьнем. Гледзячы некуды ў пусты прасьцяг, ён прагаварыў ціхім голасам, здушаным злосьцю, адчаем, дакорам, крыўдай—цэлаю плоймай раптам ахапіўшых яго пачуцьцёў:

— Трэба было прасіць... прасіць трэба было...

Лясьніцкі зразумеў, што гэта ў ягс бок закід, хацеў быў ужо спрачацца, але Аксэнта яго папярэдзіў.

— Што ты ўпросіш у гэткае сьцервы... Толькі сябе зьняважыш...

Лявон згадзіўся. Ён сказаў быў, відаць, толькі затым, каб на кім-небудзь спагнаць сваю злосьць. Потым, ідучы дамоў, ён ужо лаяў праклятага „Карлу“. Лаяў ён з смакам—сур'ёзна, станоўка, лаяў без перапынку, адно за адным навязваючы ў бесканцовы ланцуг самыя адборныя, самыя жорсткія словы. Лясьніцкі з Аксэнтам слухалі-слухалі, трывалі-

трывалі, але-ткі ня ўцерпелі—зарагаталі на ўвесь лес. І сам дзед Лявон міжвольна ўсьміхнуўся.

На вёсцы з нецярплівасьцю чакалі „дэлегатаў". І толькі ўбачылі—адразу ўцямілі, па выразу твараў дазналіся, што справа дрэнь. Але прымусілі расказаць усё да каліва, як, што было, як прыняў пан, як гаварылі і г. д. Потым усе ўзяліся лаяць паноў, і лаялі ня горш за Лявона. А тады нехта ўспомніў пра воласьць. За гэта ўхапіліся.

— У воласьць! Гайда ў воласьць! Можа там разьбяруць...

Лясьніцкі знаў, што ў воласьці будзе тое самае, што і ў пана. Але не хацеў уразацца ў агульны дружны настрой, не хацеў парываць тае блізкасьці, якая ўжо завязалася ў яго з сялянамі. Ён нават запрог свайго каня, і яны ўтрох паехалі зараз-жа ў воласьць.

Да воласьці было вёрст сем. Яны прыехалі туды гадзіне а першай. З гадзіну прышлося чакаць, бо ўсе валасныя былі на мітынгу. Яны таксама зайшлі ў школу і паслухалі, як нейкі плюгавы ў фрэнчы тлумачыў, якая розьніца паміж монархіяй і рэспублікай і што такое ўстаноўчы сойм. Кончыўшы гаварыць, ён чамусьці зьвярнуўся да прысутных з прапановай, каб хто-небудзь паўтарыў тое, што ён расказаў. Спачатку ўсе маўчалі, але потым нехта нясьмела азваўся:

— А ці скора кончыцца вайна?..

Плюгавы зазначыў, што гэта „не по существу", але адказаў, што трэба змагацца з ворагам, трэба падтрымліваць армію, што на фронце цяпер ідзе наступленьне і набліжаецца час перамогі.

Тады яшчэ спытаўся Аксэнта—проста так, відаць, для забавы:

— А як вот каторыя інваліды вайны, прышлі бяз ног ці бяз рук... Ці будзе якое спасобсьцьвіе?..

Плюгавы адказаў, што будзе. Яшчэ нешта гаварыў, але Аксэнта ўжо ня слухаў.

Пасьля мітынгу „дэлегаты" пайшлі ў воласьць. Там ім слова ў слова пераказалі тое самае, што і сказаў Карла: на чутках грунтавацца яны ня могуць, дакумэнтаў ці якіх іншых „даных" няма, ды наогул такія справы вырашаюцца

толькі судом. Калі-ж Аксэнта загаварыў пра заслугі на франтах, а Лявон прагамзіў нешта няяснае пра „свабоду“, дык ім прачыталі лекцыю аб барацьбе з анархіяй, аб грамадзянскай дысцыпліне і высокай волі ўстаноўчага сойму, на што яны вымушаны былі адказваць туманнымі словамі, якія, аднак, яскрава выяўлялі іх поўную лёйяльнасьць,—як напрыклад:

— Вядома... Ну хто-ж там што... Гэта само сабой... Ну, дык а як-жа... і інш.

На вёсцы зноў іх чакалі з турботнай нецярплівасьцю, зноў па тварах убачылі, што справа дрэнь, зноў выпытвалі ўсё да каліва. Потым лаяліся і пачыналі сталы абгавор справы. Гаварылі, спрачаліся аж да самага вечара, а ўвечары сабраліся зноў у Лясьніцкага ды зноў спрачаліся. Гаварыла ўся вёска аб адным, бабы паднялі гармідар большы яшчэ, як мужчыны, нават падшпаркі малыя і тыя сярод гульні-забавы раптам дзяліліся салодкімі марамі:

— Сьцёпка! А як наша лука будзе—во будзе добра!.. Тады і смуродзіна будзе наша—ніхто ня будзе ганяць, хоць і луг будзем таптаць—ведама, свой...

І вось у выніку гэтых гарачых абгавораў і спрэчак прынята была такая пастанова:

Ехаць Аксэнту, не марудзячы, у губэрню, знайсьці таго п'янчужку, купіць яму кварту ханжы—і няхай выручае. Адначасна праслухаць добра ў горадзе, што чуваць пра вайну, пра парадкі, ці астануцца паны, ці будзе якая прыбаўка зямлі і г. д. Патрэбныя на дарогу і на справу сродкі сабраць з усіх жыхароў вёскі.

І ляглі спаць у той вечар сяляне ўсё-ткі з цьвёрдай надзеяй на посьпех свае справядлівае справы.

АКСЭНТУ праводзілі да перавозу амаль што ўсёй вёскай. Ён ішоў сярод натоўпу з выглядам чалавека, які адважыўся на вельмі небясьпечны і вялікі ўчынак, і з самадавольнай важнасьцю, у якой чувалася нотка некаторай паблажкі, адказваў на бесканцовыя перасьцярогі і парады вяскоўцаў:

— Я ўжо ведаю добра—аб гэтым вы ня турбуйцеся... Ці-ж мне ўпяршыню? Нешта помню, паслалі былі мяне хлопцы—свая братва, салдаты—да самага енерал-енфантэра графа Пясоцкага—была скарга на несправядлівасьці розныя... Я прыходжу, дапускаюць мяне... Так і так, ваша высокаправасхадзіцельства...

Яго сяляне не перабівалі. Сёньня з павагай прыслухоўваліся да кожнага яго слова, мякка і далікатна яму падтаквалі. Ведама—чалавек „абчэсьцьвены", на вялікую справу едзе.

А тыя, хто йшоў зводдаль, каму ня выпаў гонар весьці гутарку з Аксэнтам,—тыя ўстаўлялі няўцямна вочы ў зямлю, задзіралі ў глыбокадумнасьці бровы, моршчылі лбы і задуменна цягнулі:

— Хм... Хто яго ведае... А можа што-небудзь і выйдзе...

На паром узышлі толькі чалавек з пяць—самыя заводцы—рэшта асталіся на беразе: крычалі нешта, некаторыя кідалі шапкі ўгару, а потым пайшлі гаварлівым натоўпам назад на вёску.

Сярод тых, якія праводзілі цераз раку, быў і Лясьніцкі. Увесь час ён маўчаў, толькі ўжо разьвітваючыся, калі дружна, пасяброўску сьціснулі адзін аднаму рукі, сказаў Аксэнту:

— Калі што—бі тэлеграму...

Гэта Аксэнту ўпадабалася. Ён многазначна кіўнуў галавой, быццам хацеў сказаць:

— Гэта само сабой, я ўжо ведаю... А яны—от, хай пагамоняць... Цёмны народ...

І пайшоў, пакавыляў памалу Аксэнта—падаўся шукаць для вёскі праўды і справядлівасьці.

Сяляне моўчкі пагналі назад паром. Чамусьці астаўся ўва ўсіх на душы ціхі смутак, быццам выправіў кожны свайго некага блізкага. Можа і таму яшчэ смутак гэты зьявіўся, што надвор'е было смуткам прасычана. Надвор'е было шэрае, цьмянае, і над Дняпром, нёсься чужы, няласкавы вецер. Здавалася, што прылятаў ён аднекуль з далёкіх краёў, з самай тэй халодна захмаранай далечы і—працавіты, сур'-

ёзны — ляцеў пасьпешна далей, захапіўшы на ляту верхавінкі чалавечых імкненьняў, памкнуўшы з сабой іх у невядомы прасьцяг. Таму і шчыміць у такое надвор'е чалавечае сэрца ціхім смуткам, таму і асядае ў нутро халодны цень невядомай разлукі, што растрасае пералётны вецер пачуцьці чалавека, цягне абрыўкі іх за сабой у далёкі сьцюдзёны палёт.

Па Дняпру заклапочаным роем мітусіліся хвалі. Яны былі сінява-чорныя з глухім мэталічным бляскам. Лясьніцкаму заманулася пакатацца цяпер у лодцы, пакалыхацца троху на гэтых непакойна-бурлівых хвалях. Ён астаўся на перавозе і, як адышліся сяляне, папрасіў у перавозьніка лодку. Аднак доўга катацца не давялося. Хвалі злосна штурхалі нязграбную лодку, яна цяжка варочалася на адным месцы, увесь час памыкаючыся стаць бокам пад вецер. Хвілін дзесяць Лясьніцкі змагаўся з яе натурлівым характарам, змарыўся зусім і, расчараваным, ледзь прыбіўся назад к парому.

— Лодка ў вас, дзядулька, як бервяно ўсё-роўна.

Перавозьнік Саўка флегматычна згадзіўся:

— Цяжкая лодка, нязручная...

Нос аднае лайбы, на якіх трымаўся паром, быў закрыт саламянай страхой. У гэтай прытульнай будачцы, схаваўшыся ад ветру, стары перавозьнік плёў сетку. Лясьніцкаму чамусьці не хацелася ісьці дахаты, ён рашыў пагутарыць троху з старым.

— Дзядулька! Ці можна да вас у будку?..

— Лезь, Васілёк, лезь! Пагрэйся троху—вецер сягодня такі заядлы, што проста бяда... Лезь, лезь—пагрэйся.

Перавозьнік Саўка любіў Лясьніцкага. Можа лашчыла старое сэрца думка, што вось вучоны, адукаваны хлапец, а ня чураецца яго, за радню прымае, з павагай заўсёды адносіцца. Любіў стары „пазюкаць“ з Лясьніцкім, расказаць байку якую або праўдзівую старую гісторыю. А многа, ой, многа знаў чаго Саўка! Не прайшлі бяз сьледу сем, а мо' і восем дзесяткаў гадоў жыцьця. Сабраўся ў старчай памяці

нязьмерны запас дзівосных успамінаў, у якіх перапляялася здаровая жыццёвая мудрасьць з густой сеткай спрадвечных забабонаў.

Цяпер Саўка зусім ужо стары, слабы чалавек. Старасьць яго пакрывіла, пагбала, зрабіла з яго сьмешную карыкатуру на чалавека. У яго, як у маладога кацянёнка, пазьліпаўшыся вочы — ён дрэнна, зусім дрэнна бачыць, — крыва сьцятыя вусны высунуліся далёка наперад—быццам надуўся стары ад нейкае крыўды,—расьліннасьць на твары купаватая, бедная. І фігура такая: адна нага тырчаком служыць, ня згінаецца ў калене, другая згінаецца, ды затое ступня падвярнуўшыся. Ідзе стары, дык толькі—кулдык, кулдык...

А з перавозам спраўляецца. Ды яшчэ рэдка хто так укіруе лодкай, як ён—дармо, што слабы.

Саўка запытаў у Лясьніцкага, куды гэта каго выпраўлялі. Лясьніцкі пастараўся яму растлумачыць. Стары безнадзейна матнуў галавой.

— Эх, сынок! Дрэнна з панам цягацца... Лепш сваё перапусьціць, каб толькі не занімацца. Дармо, што многа ў іх усяго, а зайздросьцяць, ой, зайздросьцяць на чужое дабро. Гатовы апошняе садраць з мужыка... Была, а як-жа, была ў сялян гэта лука... Я добра помню. І помню, як суд быў... Адсудзіў—ведама багаты, ды лаўчэйшы за нас, разумнейшы... Што ты зробіш з панам, калі ён усюды—свой, усюды прымаюць яго з чэсьцю, з гонарам... Ты будзеш у парозе стаяць, а яму з павагай дзьверы адчыняць, самы вялікі начальнік да сябе пакліча... Эх-хе-хе... Як пайшлі па сьвеце паны, згубілася праўда, зусім недзе загінула... А была-ж некалі..

— Дзядулька! Дык хіба быў такі час, калі паноў ня было?..

— Во... А як-жа! Мой ты даражэнкі, быў такі час, няўжо-ж не... Даўней і ня знalі, што гэта за пан. Усе працавалі, зямлі было досыць — ведама, людзей тады меней было—жылі ў згодзе, у раскошы, адзін аднаго паважалі, бога баяліся. А як-жа, сынок, быў такі час, быў, даражэнькі... Толькі ня ведалі тады гэтай навукі, бяз усякай мэханікі

людзі жылі... Працавалі ўсе роўна—як адзін, так і другі... Гэта-ж потым ужо стаў падмушчаць д'ябал людзей, каб жылі сваім розумам, а ня божай прамудрасьцю, пачаў навучаць розным хітрыкам. Дык тады, хто хітрэйшы-мудрэйшы, пачаў ужо ашукваць сваіх братоў, пачаў так лучыць, каб на іх шчот пажывіцца. Вось і пачалі тады слабейшыя ды прасьцейшыя на тых байбакоў працаваць, а самі ў нягодзе жыць ды страждаць. А тыя ўзялі сілу ды пачалі ўжо гвалтам гнаць гэтых к сабе на работу. Так і завяліся паны... Д'ябал-змусьціцель гэта падстроіў, ён падзяліў чалавечацкі род...

І, троху памаўчаўшы, дзед дадаў тонам дабраахвотнай уступкі:

— А можа й ня так. Вы-ж, маладзейшыя, ужо не прызнаіцё ні бога, казаў той, ні чорта... Можа і ня так, хто яго ведае...

— А як, дзед, будзе далей? Ці паны назаўсёды ўжо астануцца?

Саўка троху змаўчаў, паправіў сетку. Лясьніцкі знаў ужо, што зараз пачне стары нейкую байку баіць, ужо прыладзіўся слухаць.

— Хто яго ведае, даражэнькі... Трудна сказаць, як, якім бокам павернецца ўсё... Калісьці, даўно-даўно, можа ў дзяцінстве яшчэ, чуў я байку адну на гэты прадмет. Многа я знаў гэтых баек — пазабываўся ўжо... Дык вось байка гэта пра Іваньку-Прастачка. Было гэта якраз тады, як ужо завяліся паны, як пачалі ганяць яны мужыкоў к сабе на работу. Ходзяць мужыкі, працуюць на тых паноў— паны сабе выгалянтаюцца, пукаюцца ад жыру, а самі мужыкі галодныя, халодныя—ня бачаць жыцьця, ня бачаць прасьвету. І так ужо прызвычаіліся, што перасталі й думаць аб лепшым жыцьці—ні быццам яго ня было, ні быццам справедку так богам паложана. — Бацькі нашы так жылі, дзяды так жылі, дык і нам, відаць, так жыць накановала. Але вось нарадзіўся ў тым краі хлапчук. Назвалі яго Іванька-Прастачок. Быў ён чэзлы такі, слабенькі, рос сабе цішком, ніхто яго ня бачыў, ніхто не чапаў. Так і вырас, стала яму ўжо гадоў з дваццаць. Паны яго не чапаюць, на работу ня

гоняць—які ўжо з яго работнік. Вось так пойдзе ўся вёска да пана працаваць, а ён адзін застаецца, гуляе сабе з дзецьмі, забаўляецца. Але нешта прыходзяць у тую вёску старцы. Селі яны на прызьбе, хочаць закурыць, аж агня няма ні ў кога. Папрасілі яны Іваньку—той і прынёс ім жару з хаты.—Чаму-ж ты,—пытаюцца,—тут адзін, чаму нічога ня робіш?—А што я, кажа, буду рабіць, калі што не наробіш—усё на пана пойдзе. Усё заграбе, усё прысвоіць, усе жылы выцягне з мужыка. Вось тады тыя старцы ўзялі свае струманты і зайгралі. Першы раз зайгралі—Іваньку розум далі; другі раз зайгралі—язык Іваньку разьвязалі; трэці раз зайгралі—у сэрца жаласьці нагналі. Вось зьніклі тыя старцы, а Іванька давай майстраваць сабе дудку. Змайстраваў, ды як зайграе, ды так прыгожа, жаласна, што ня толькі людзі, а і зьвяры і птушкі сталі слухаць. Слухаюць усе, не наслухаюцца. Пайшоў тады Іванька-Прастачок па сьвету хадзіць ды ў тую дудку йграць. Як зайграе, дык у людзей нібы вочы адкрыюцца: бачаць яны, што вялікая крыўда ў жыцьці, што адны пануюць, а другія гаруюць. Слухаюць дудку, а самі розуму набіраюцца ды думаюць-гадаюць, як тут праўды дабіцца, як сваю долю знайсьці. Дайшла тая музыка і да панскіх палацаў. Спалохаліся паны ды й задумалі зьнішчожыць таго Іваньку. Сабралі яны вялікае войска, пайшлі. І вось зайграе дудка на ўсходзе, яны за ёй—туды, сюды, шаблямі зьвіняць, з гарматаў страляюць. Глядзь—а яна ўжо на захадзе йграе. Яны туды, а яна зноў у другім баку. Так з таго часу і ня маюць спакою паны—усё тую дудку ловяць. А дудка йграе сабе ды йграе. Ідзе ад яе водгульле, па ўсім сьвеце разносіцца, навучае людзей. Няма таму водгульлю загародак, не злавіць яго, не забіць. І кажуць, што быццам прыдзе час, калі пачуюць усе-чыста тую Іванькаву дудку, і ўсе разам падымуцца, каб за праўду пастаяць. Вось і стануць тады зноў усе людзі роўныя...

— Дык вось, Васілёк, якую чуў я некалі байку. А ці будзе так, як гаворыцца ў ёй, адзін бог сьвяты ведае.

Стары змоўк, пачаў адкусваць нітку. За бартом лайбы мэлёдычна хлюпалі хвалі, недзе на версе клапатліва сьві-

шчэў чужы пералётны вецер. Лясьніцкі ляжаў нярухома на мяккай саломе, аддаўшыся ціхаму пявучаму бяздум'ю.

Дзед паправіўся, пачаў ізноў гаварыць.

— Вось як, даражэнькі... А як на мяне—дык што мне паны! Яны мне ані ў голаве... Што ён мне зробіць каторы... Жыў бабылём, працягнуў неяк век, неяк і памерці патраплю... Як быў маладзейшы, дык часам і пакпіць спрабаваў... Аднойчы было нешта...

Стары недалужна зморшчыўся і прасіпеў. Гэта азначала, што ён засьмяяўся.

— Дык было... доўга тады сьмяяліся... Нешта зайшоўся я ў маёнтак, а пан убачыў мяне ды пытае:—Што, кажа, новага, Саўка? Дык я і сказаў. Кажу—у Мікалаеўцы сома ўлавілі. Дванаццаць пудоў адзін хвост... Дык яны пазапрагалі коняй, паехалі цэлым кагалам—гасьцей тады многа было. Па дарозе папа сустрэлі.—Куды гэта?—Сома глядзець. Ну і той да іх далучыўся... Паехалі, паднялі гармідар, а там таго сома і званьня ня было...

І ён зноў засьмяяўся сваім дзіўным сьмехам.

У гэты момант знадворку пачуўся стрымлены тупат каня. Нехта верхам пад'ехаў к парому. У Лясьніцкага чамусьці трывожна забілася сэрца. Ён спыніў старога:

— Ня турбуйцеся! Я перавязу...

І сам пасьпешна вылез з будкі.

Перад прыпарамкам зьлязала з каня паненка Раіса. Яна яго заўважыла, ветла ўсьміхнулася, заківала галавой. Ён адкінуў жардзіну, памог ёй узьвесьці каня на паром. Яна ў задзіўленьні яго запытала.

— Што вы тут робіце?

— Прышоў вось паслухаць дзедавы казкі. Цяпер замест дзеда буду вас перавазіць.

— Я сама.

Яна ўзялася за канат, пацягнула з усяе сілы, але паром і не крануўся з месца.

— Чаго-ж вы стаіцё, не памагаеце?..

— Вы казалі, што самі будзеце...

Яна зрабіла від, што злуецца.

— Вы зноў пачалі грубіяніць?

Неяк разам спіхнулі з месца паром, далей ён пашоў плаўна і лёгка. Лясьніцкі аднак не сьпяшаўся цягнуць— хацеў больш пабыць з паненкай. Ён моўчкі з ласкавай усьмешкай глядзеў на яе, а яна ўсё гаварыла:

— Вы любіце народныя казкі?.. Я таксама калісь любіла. Мне няня многа апавядала... І цяпер я таксама люблю... казкі, песьні...

Яна раптам змоўкла, быццам нешта ўспомніла, або нешта на-сьпех меркавала.

— Слухайце... як вас... як ваша імя і па бацьку...

— Васіль Данілавіч.

— Дык вось што, Васіль Данілавіч. Хутка будзе Купала... Так? Я хачу паслухаць, як сьпяваюць купальскія песьні... Я-б хацела, каб пайсьці разам з вамі... вы ўсё гэта... ведаеце... Добра?

— З ахвотай. Але як я сустрэну вас?..

— Прыдзеце... не, лепш ня так... Мы сустрэнемся з вамі—ведаеце дзе?—на нашым могільніку, каля капліцы... Добра? Вы не баіцёся?.. А якой гэта трэба гадзіне?..

— Як ужо добра сьцямнее...

— Ну, дык угавор?

— Угавор...

Паром прыстаў к берагу. Яна ўскочыла на каня, яшчэ раз з ветлай усьмешкай кіўнула яму і паскакала.

Лясьніцкі астаўся ашаломлены. Неяк вышла ўсё занадта раптоўна—мігнула, як ясны прамень, і зьнікла. А ў сэрцы астаўся ружовы чад—яно доўга яшчэ ня спыняла свой ліхаманкавы бой, напорна гнала ў галаву хвалі гарачай шумлівай крыві.

Ён колькі хвілін стаяў, як зачараваны, абапёршыся аб парэнджы парома, і вецер паслужна апаласкваў сваім халаднаватым павевам яго распалены твар. Потым з радасна-п'янаватай усьмешкай ён палез зноў у будку і ў нейкай нэрвовай млявасьці выпрастаўся на мяккай саломе.

— Паненка паехала?—ні то запытаў, ні то проста зазначыў стары.

— Ага.

Дзед памаўчаў. Потым чамусьці ўздыхнуў і ціхенька забубнеў, нібы гаварыў сам з сабой.

— Э-хе-хе... Чаго толькі не вычвараюць гэтыя паны, чаго ня выгадваюць... З распусты ўсё гэта, з таго, што волю чуюць—робяць, што толькі хочуць... А вось і расьце сіраціна... Прыдбаў... хе-хе... пяць тысяч каштуе.

Лясьніцкі страшэнна зацікавіўся.

— Пра каго вы, дзядулька, гаворыце?

— Ды пра яе-ж, пра паненку... Ат, можа й няпраўда гэта зусім. Мала што дзейкаюць людзі...

— Раскажэце, дзядулька!

— Казаў мне пра гэта адзін яўрэй—ён усё тады цёрся каля маёнтку... Стары пан удаўцом быў пасьля другой жонкі... Ну, і прыехаў у мястэчка немец-аптэкар. А ў таго немца ды была дужа прыгожая жонка... А я бачыў, дык нічога цікаўскага—баба, як баба... Тады стары пан упадабаў тую немцаву жонку. Ну, і купіў... пяць тысяч рублёў нібыццам убухаў...

— Як гэта—купіў?

— А проста. Прышоў дый кажа—прадай жонку. Ну той быў ласы на грошы—згадзіўся. Хто іх там ведае, ці яны разлуку ўзялі, ці так проста пайшла яна да пана. Але-ткі прыжыў пан з ёй дачку—во гэтую самую паненку... І неяк праз год ці два яна й памерла тая немка... Дык вось розна людзі казалі. Адны—што зьвёў ён яе са сьвету... ведама—надакучыла ўжо... А іншыя дзейкалі, што й цяпер яна недзе жыве, мо' ў Амэрыцы або Сібіры... Толькі ўпотайку, ня хоча пан, каб ведалі, што яна жывая... Так і расла бяз маткі... Ну, а ўжо ведама, якое шчасьце бяз маткі гадавацца... Але-ткі нешта было, мусіць, у пана з тэй немкай. Бо ўжо моцна загроб яго потым у рукі „Карла"... Братам ён немцы даводзіцца...

Лясьніцкі слухаў, заціяўшы дыханьне, каб не прапусьціць ніводнага слова. На яго гэта гісторыя зрабіла вялікае ўражаньне. Вобраз паненкі Раісы паўстаў у яго ўяўленьні

ў новым рамантычна-таемным асьвятленьні і ад гэтага набыў яшчэ большую прывабнасьць.

Дзед кончыў апавяданьне, бурчэў сам сабе нешта пра распусту, пра свавольле паноў. Лясьніцкаму гэта было ня цікава. Яму ўжо цяжка ўседзець было тут у будцы—яго нутро кіпела ад вострых уражаньняў, ад цэлай віхуры разнастайных пачуцьцёў. Хацелася цяпер пайсьці куды-небудзь, каб на адзіноце разважыць душэўную сумятню.

Ён перагнаў назад паром, разьвітаўся з дзедам і пайшоў па беразе на тую луку, аб якой так многа гаварылі ў апошнія дні. Ён зайшоў у самы канец, лёг у траву (трава там у рост чалавека) і даў поўную волю сваім лятуценьням.

У лазьняку сьвішчэў пералётны вецер, недзе задумённа плёскалі ў бераг маркотныя хвалі, над галавой мякка шумела трава.

Лясьніцкі ляжаў нярухома і слухаў, як пяе свае разгонна-вольныя песьні прастор, як кліча ён сэрца некуды ў нязьведаны край, у дзіўнае, чароўнае бязьмежжа.

А у ўяўленьні лёгка спляталіся з стройных імклівых мар палотны квяцістых малюнкаў, вабілі нязбытнай прыгожасьцю, прымушалі сэрца біцца ў нейкім трывожна-радасным прадчуваньні.

Вярнуўся дамоў Лясьніцкі ўжо надвячоркам. Дома чакала яго яшчэ новая вестка. Прышоў з гораду ліст ад Андрэя, у якім той пісаў, што праз некалькі дзён прыедзе да яго, да Лясьніцкага, каб закупіць на вёсцы харчоў. Пісаў, што ў горадзе ўсё надта дорага, што ўжо не хапае пэнсіі на пражытак, што прыходзіцца галадаваць.

Лясьніцкі недаверліва паківаў галавой. Дзіўным здавалася, неpraўдападобным, каб Андрэй за харчамі паехаў. Не з такіх ён, ня гэта цікавіць яго. Нешта другое тут ёсьць нешта ён у лісьце не даказвае.

Але доўга Лясьніцкі ня думаў над гэтым, ня тое было на ўме. Махануў няўважна рукой.

— Хай сабе... Там будзе відаць...

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ.

НА ПРЫКЛЕЦЬЦЕ прыляцеў з усходу густы прамень барвянага сонца і лёг яскравай плямай на вочы Лясьніцкаму. Лясьніцкі млява пажмурыўся і пачаў прачынацца. Тады ў яго сьвядомасьць, яшчэ спавітую пялёнкай цягучае дрэмы, уварвалася разам: самадавольнае сакатаньне курэй, клапатліважвавае ціўканьне на страсе вераб'ёў, далёкія—з поля—галасы, перамяшаныя з рыканьнем кароў і бляяньнем авец, і нейкі незразумелы рытмічны грукат на суседнім двары. Усё гэта, прасычанае сьвежым, ядраным пахам пагоднага раньня, узьняло ў нутры Лясьніцкага ціхую радаснасьць. Ён шчасна ўсьміхнуўся і ўспомніў, што сёньня ўвечары будзе купальскае сьвята.

Уставаць не хацелася—у галаве яшчэ плавалі цені нейкага прыгожага сну, яшчэ іскрыліся ў сэрцы пераліўныя ўсплёскі салодка забытых адчуваньняў. Ён пацягнуўся і зноў задрамаў з асьветленай сонцам усьмешкай на твары.

Канчаткова прачнуцца прымусіў Лясьніцкага стук хатніх дзьвярэй і гучныя галасы на двары. Адзін голас быў бацькаў, а другі невядома чый, але дзіўна-знаёмы і прыемны. Лясьніцкі расплюшчыў вочы і з цікавасьцю зірнуў на двор. Да яго йшоў сваёй мякка-развальнай хадою Андрэй. Ішоў і ўсьміхаўся—прыветна, ласкава.

— Яшчэ сьпіш?.. Здароў! Ці чакаў мяне, га?

Ён ускочыў на прыклецьце, сеў на ложак к Лясьніцкаму.

— Іш ты, як прыладзіўся... Добра тут спаць... А я толькі што з чыгункі. На станцыі сустрэў аднаго вашага, дык разам прышлі, паказаў, дзе ты жывеш...

— Бязногі?

— Так...

— Гэта наш выбарны, езьдзіў у горад па грамадзкіх справах...

— Я ведаю, ён усё расказаў мне па дарозе. Нічога ня вышла там у яго. Прыехаў злосны, як воўк—чыстым бальшавіком зрабіўся, ха-ха...

Сьмех у Андрэя астаўся такі, як і быў—мэталічны, рэзкі. І тая-ж таемная ўсьмешка блукала на вуснах. Але Лясьніцкаму чамусьці ён цяпер здаўся асабліва сымпатычным. Лясьніцкі шчыра ўзрадваўся гэтай сустрэчы—быццам убачыў некага блізкага, роднага. І ён з цёплым, чыста сваяцкім пачуцьцём любаваўся дужай фігурай Андрэя, яго буйным, выразна і разам з тым мякка акрэсьленым тварам.

Андрэй за гэты час многа пасталеў, набыў больш сур'ёзнасьці і глыбіні. Ад яго цяпер яшчэ шырэй веяла той мяккай сілай, той ласкавай мужнасьцю, якую заўважыў у ім Лясьніцкі раней.

Андрэй прывёз Лясьніцкаму подых сумятлівага гораду. Дасюль ён ні разу і ня ўспомніў пра горад—так далёка-далёка быў ён астаўся. А цяпер раптам пачуў яго, убачыў у таемнай усьмешцы Андрэевай, у яго хітравата-шчырых вачох. І закарцела ўзнаць, што там, у горадзе, робіцца, якой сумятнёй поўніцца ліхаманкавы вір гарадзкога жыцьця. На яго запытаньне Андрэй адказаў троху падумаўшы:

— Добра ўсё ў горадзе, лепш і ня трэба. У стаўцы зьбіраюцца крумкачы, пачынаецца чорны паход. Прыяжджае часта Керэнскі—заваёўвае букеты і жаночыя сэрцы. Ён дужа спрытна пяе арыю з опэры „Вайна да пабеды" і яму пляскаюць у ладкі... Ну, што-ж яшчэ... Цкуюць бальшавікоў, ціснуць рабочых, абяцаюць устаноўчы сойм і розныя палёгкі. Расьце галадоўля, масы галеюць... Словам—рэволюцыя разбухае. Чым горш—тым лепш, ха-ха... Разумееш?

— Ня зусім. Ты-ж ведаеш, я тут далёка адстаў ад апошніх падзей. А ты яшчэ гаворыш нейкімі загадкамі...

— Нішто... Будзе час, дык усё раскажу падрабязна. Чакай, табе-ж ліст ёсьць у мяне ад Халімы... І прывітаньне ад Ніны забыўся перадаць...

— Халіма хіба ў горадзе?

— Ужо скора месяц, як прыехаў. Паступіў на нейкую службу...

У лісьце было наведзгана нязграбнымі, як сам Халіма, літарамі:

„Васілю—шанаваньне!

Шкадую цябе, што брасьнееш у затоцы сваёй зяленіцкай будзёншчыны. Жыцьцё разварочваецца віхурна. Можна буяніць. Прыяжджай, калі хочаш, дык навучу выбіваць шыбы. Помніш?

Халіма“.

Лясьніцкі засьмяяўся. З гэтых радкоў выглядаў, як жывы, Халіма—любы, слаўны буян з даўгім носам і энэргічна-нязграбнай фігурай. Ён ужо знайшоў нейкі спосаб выліць сваю непакорна-бурлівую сілу, ужо гатоў буяніць, калаціць шыбы.

Лясьніцкі даў прачытаць ліст Андрэю. Пакуль той чытаў, ён з асалодай пацягнуўся на ложку і глыбока зірнуў у бязьмежны блакіт спакойнага неба. Стала на душы вальготна, радасна. Падумалася: вось недзе там ідзе калатня, нехта нечага дабіваецца, спрэчкі розныя, Халіма шыбы зьбіраецца біць, а тут так ціха і роўна цячэ жыцьцёвая плынь, тут так шырока сінее чыстае неба, так мілосна разьліваецца сонца, і недзе на полі бязрупатна сьпее ў плоднай цяжарнасьці жыта, і ярына ўсьміхаецца дзявоцка-чыстай вясёлай руньню.

— Затока, ха-ха!.. Гэта ён здорава...

Лясьніцкі сур'ёзна зазначыў:

— Так, у нас тут спакойна. У горадзе заўсёды бывае больш нэрвовасьці, чымся на вёсцы. Тут такі ідылічны спакой, такая патрыархальная ціхасьць. Добра, Андрэй, тут жыць... Цяпер, з рэволюцыяй, пачнецца новая праца, шырока пойдзе асьвета, селянін пачне культурна расьці... Па-мойму, будучыня ўсё-ткі за вёскай, а не за горадам... Як ты глядзіш на гэта?..

Андрэй адказаў тож сур'ёзна, нават без свае звычайнае ўсьмешкі:

— Вось табе пакажуць яшчэ і будучыню, і культуру і што толькі хочаш... Пачакай!..

Потым працягнуў задуменна:

— Затока, хм...

І задумаўся. Лясьніцкаму здалося, што ён нешта сам з сабой рахуе, нешта падлічвае. Ён яму не перашкаджаў, моўчкі сачыў за рухамі яго твару. Твар гэты быў сур'ёзны цяпер і глыбокі, нават звычайная мяккасьць яго неяк разьвеялася, агаліла цьвёрдую сілу буйных энэргічных рысаў.

Раптам Андрэй лэпнуў Лясьніцкага па плячу і праказаў поўным вясёлай надзеі голасам:

— Нічога, Васіль, не прападзём!.. Ускаланецца затока, і хвалі пойдуць... Ды яшчэ якія хвалі—ого!.. Многа чаго пазьмятаюць яны, многа чаго пазальлюць... Нічога, Васіль, пажывём—убачым.

Потым ён чамусьці нахіліўся бліжэй да Лясьніцкага і пачаў амаль-што шопатам пералічаць з нейкай дзіўнай зларадаснасьцю:

— У Пракудзіне сяляне высеклі дзесяць дзесяцін панскага лесу і забілі двух стражнікаў... У Хадулёх сяляне самавольна падзялілі панскую зямлю і спалілі панскія сьвірны... У Аўсянішчы сяляне, абураныя жывадзёрствам памешчыцы, спалілі да-шчэнту маёнтак і разабралі ўсё панскае збожжа. Спалены маёнткі Шчамялёва, Гонкі, Лісічына, Лавы... Пачынаецца, Васілёк, чуеш, га?..

І ён закаціўся сваім мэталічным рогатам. Лясьніцкаму не па сабе неяк стала.

— Слухай, Андрэй, гэта-ж анархія? Гэта-ж пагібель наша? Гэта-ж пагібель рэволюцыі, свабоды, пагібель усяго, што мы да гэтага часу прыдбалі...

Андрэй зноў стаў сур'ёзны.

— А ці ведаеш ты, Васіль, што значыць анархія? Ці ведаеш ты, што анархія—гэта й ёсьць рэволюцыя, што толькі з анархіі, толькі з непарадку, з разбурэньня ўсіх законаў і норм можа

вырасьці новы парадак?.. Гэта я сьмяюся, жартую, што—чым горш, тым лепш... Але так яно й выходзіць—такі закон гістарычнага разьвіцьця... Ну, але аб гэтым мы справімся яшчэ пагутарыць... Вось яшчэ... Як ты глядзіш на гэтую вашу справу з сенажацьцю? Ці ня думаеш ты, што тут таксама ўжо ёсьць зародак гэтае твае „анархіі", га?..

Лясьніцкі замятушыўся.

— Так, так... я гэта ведаю. І я зрабіў быў усё, што мог, каб ня даць разгарэцца дрэнным інстынктам сялян. Так, ты праўду кажаш—іх лёгка было распаліць...

— А цяпер, ты думаеш, усё добра? Ха, ха... Ты дужа наіўны... Але досыць ужо. Надзявайся ды пойдзем на вёску—там пэўна ўжо пачалося...

Лясьніцкі з трывогай зірнуў на Андрэя.

— Слухай, Андрэй. Я буду ўсё рабіць, каб ня даць сялянам дайсьці да якога-небудзь непарадку. Я спадзяюся, што й ты мне паможаш.

Андрэй засьмяяўся.

— Ха-ха-ха!.. Чым горш—тым лепш!.. Надзявайся...

Андрэй сказаў праўду. Калі яны, пасьнедаўшы, вышлі на вуліцу і падаліся пад другі канец вёскі, яны зараз-жа ўбачылі гурму народу, які сабраўся каля Аксэнтавай хаты. Адтуль нёсься прыглушаны далячынёй гоман, у якім, аднак, выразна чуваць была нэрвовая ўзьнятасьць і ажыўленьне.

У Андрэя заблішчэлі вочы гульлівай давольнасьцю, на вуснах зайграла ўсьмешка.

— Бачыш, Васіль? А ты думаў, што ўсё абышлося. Угаварыў, ха-ха...

Каля Аксэнтавай хаты сыйшлася бадай-што ўся вёска.

Праз напята расчыненыя хатнія дзьверы то ўваходзілі, то выходзілі сяляне. Самога Аксэнты на вуліцы ня было.

— Пэўна яшчэ сьнедае,—падумаў Лясьніцкі.

Народ разьмясьціўся навокал у самых разнастайных паставах. Адны сядзелі на ганках, другія на прызьбе, трэція на траве, чацьвертыя стаялі, пятыя ляжалі. Іншыя ня мелі пэўнага месца, хадзілі ад адных да другіх, дзе-ні-дзе ўстаў-

ляючы да ладу ці не да ладу сваё слова. Аўтух з сваёй кампаніяй скалазубаў прытарнаваўся да плоту—вакол яго, як заўсёды, грымеў бязупынны раскатны рогат.

Ужо кожны ведаў, чым скончылася паездка Аксэнты, але чакалі, хацелі паслухаць самога. Ды яшчэ кожны чуў, што на гэтым не абыйдзецца, што яшчэ нешта трэба будзе рабіць, меркаваць. А пакуль што адны распальвалі сябе, без канца выказваючы ўсім, хто толькі слухаў, сваё абурэньне, другія, больш разважныя, „зюкалі" ціхамірна—спакойна загадвалі на тое, чым кончыцца ўся гэта справа.

Аксэнта вышаў на ганкі, зважна абцёр вусы, паглядзеў, прыплюшчыўшы вока, на сонца і сышоў уніз з такім відам, быццам ён і ня ведае зусім, што яго тут чакаюць, быццам проста вышаў прайсьціся. Калі-ж яго абкружылі, абсыпалі з усіх бакоў запытаньнямі, ён моўчкі пайшоў да прызбы, сеў, закурыў і тады ўжо пачаў апавядаць. Вакол яго ўраз вырасла шчытнае, роўнае кола застыглых у вострай цікавасьці сялян.

— Ну, дык, браткі, слухайце, што я вам скажу. Езьдзіў я ў горад, кідаўся ва ўсе ўстановы, у якіх толькі для мяне былі адчынены дзьверы, знайшоў быў і таго заштатнага „асэсара", з якім раней была гутарка, ну і прыехаў з тым, з чым паехаў. Хто тут праў, а хто вінават—глядзіце ўжо самі, браткі,—я раскажу ўсё па парадку...

І палілася доўгая аднастайна-цягучая гісторыя Аксэнтавых прыгод у губэрскім горадзе. З кожнага слова гэтае гісторыі веяла безнадзейнай крыўдай і глыбокім неўразуменьнем. Быццам паехаў чалавек, каб знайсьці нейкую праўду, таўхануўся туды, дзе спадзяваўся знайсьці яе, і ўпёрся ў глухую сьцяну—пастукаў, паляпаў у яе, пахадзіў троху туды ды сюды і, не дастаўшы адказу, пайшоў назад—асалапелы, зьбянтэжаны...

З кожным словам Аксэнты ўсё пахмурней ды пахмурней рабіліся твары сялян. Усё гусьцей ды цямней зьбіваўся настрой грамады—расло агульнае пачуцьцё крыўды, нездаволеньня, якое кожную хвіліну магло прарвацца хваляй бязь-

межнага абурэньня. Трэба быў нейкі прахон для гэтае хвалі, і яго шукалі ўсе ў словах Аксэнты, напружана чакалі ад яго нечага іншага, апрача скаргі і нараканьняў на гарадзкое начальства. Таму, калі кончыў ён, стаялі ўсе ў замяшаньні, не глядзелі адзін на аднаго, ніхто не хацеў пачынаць першы гаворку. Быццам усе перакананы былі, што яшчэ нешта ёсьць у Аксэнты, што ня ўсё ён сказаў, што павінен сказаць яшчэ самае галоўнае.

Нехта нясьмела запытаў:

— Ну, а што там чуваць яшчэ... так... аб усім?..

Фактычна ў кожнага было на ўме гэта пытаньне. Таму, як выказаў яго нехта, па ўсім натоўпу прайшла нэрвовая хваля, усе бліжэй прысунуліся, каб не прапусьціць часам якога слова.

Аксэнта хвіліну многазначна маўчаў, і настрой натоўпу напружыўся да апогэю.

— Што-ж чуваць?.. Усяго, браткі, цяпер начуешся. А каму верыць, дык ліха ведае...

Ён яшчэ змоўк на адзін момант і потым выпаліў рашуча і рэзка:

— Во што чуваць... Каб гэта на разумнейшых людзей ды каб гэта дружна ўзяліся — ніякае трасцы й пытацца ня трэба: пайшоў ды касі...

Яшчэ момант да болю напружанага маўчаньня і—прарвала, рынула ў раптам адкрыты прахон стрымленая хваля абурэньня.

Крычалі, спрачаліся, пагражалі, успаміналі даўнейшыя крыўды, лаялі некага. Вочы ўва ўсіх загарэліся адным прагавіта-злосным агнём. Была ў гэты момант паміж сялян нейкая жалезная, жорсткая згода, была ўва ўсіх адна воля, адно імкненьне.

І вось у гэта разбушаванае мора людзкога абурэньня кінуўся Лясьніцкі з словамі ўгавору, памкнуўся ўціхамірыць, спыніць злосна-разьюшаныя хвалі. Ён ня думаў цяпер аб тым, чым можа кончыцца яго сьмелы замер, ён проста ня мог устрымацца, бо чуў у хваляваньні натоўпу цяжкую па-

грозу, бачыў у распаленых, ліхаманкава-бліскучых вачох чорную здань гвалтаваньня, пажараў, жудаснай дзікай анархіі. Ён павінен быў нешта зрабіць, гэта быў яго грамадзянскі абавязак.

І Лясьніцкі, сам мала ўсьведамляючы, што ён робіць, ускочыў на прызбу, крыкнуў нейкім рэзкім экзальтаваным голасам, які прымусіў усіх зьвярнуць на яго ўвагу:

— Грамадзяне! Дайце сказаць некалькі слоў! Паслухайце, грамадзяне!

Натоўп неяк нясьмела, недаверліва скомчыў свой гоман, гатовы зараз-жа ўзьняць яго, калі толькі прамоўца хоць на крушыначку адпусьціць нітку цікавасьці, на якой прыцягнуў ён агульную ўвагу. Лясьніцкі чуў гэта і як мага напружваў волю, каб ня выпусьціць гэтае ніткі, каб да канца выказаць тое, што трэба было сказаць. Ён гаварыў далей ціхім, але поўным нутраной сілы, шчырым і праканалым голасам:

— Браты! Вы мяне добра ведаеце, вы не падумаеце, што я гавару гэта з нейкай асабовай мэтай. Мне сенажаць патрэбна ня менш, як вам, я не багацей за вас, я такі самы селянін, як і вы. Але паслухайце, я добра ведаю, да чаго можа давесьці гэтая справа. Ці-ж вы думаеце, што пан ня знойдзе сабе абароны, што ён так сабе папусьціць, каб забіралі яго дабро...

Нехта крыкнуў:

— Дзе-ж гэта яго?

— Хай сабе, усё роўна... Яно за ім лічыцца, на яго баку закон... І папомніце мае словы—ня кончыцца гэта дабром... Знойдзе пан абарону, знойдзе сілу, каб задушыць непарадак...

Дзе-хто з натоўпу пачаў гаварыць. Пракацілася першая хваля гоману. Лясьніцкі напяў усе сілы, закрычаў з адчайнай патугай:

— А вы ведаеце, што гэта значыць? Вы падумалі, да чаго гэта давядзе, га?..

Ён прыпыніўся на момант, і сяляне зноў змоўклі, прыслухаліся.

— А во што гэта... Сягоньня мы забяром у пана луку, а заўтра мы ўбачым, што ў Мяльляна ёсьць добры кавалак

пахаты—забяром гэты кавалак, а тады ўбачым, што ў Ляксандры карова лішняя—тож забяром, а тады пойдзем па засеках мацаць... Га? Вы пра гэта падумалі?..

Гэтыя апошнія словы зрабілі нечаканы ўплыў. У гомане, які за імі ўзьняўся, ня чуваць было ўжо дружнага аднадумства—пайшло па натоўпу блытанае замяшаньне.

А ў гэты час Андрэй жвава аб нечым шаптаўся з Аксэнтам. Ёе нешта даводзіў яму, і той, згаджаючыся, энэргічна ківаў галавой. Потым Андрэй адышоўся, а Аксэнта ўстаў і зважна, адным рухам рукі ўціхамірыў сялян. Яго адразу паслухалі, бо чакалі, што ён яшчэ раскажа што-небудзь з уражаньняў ад паездкі.

— Хлопцы, давайце неяк гэта парадкам... Вось паслухаем, што аб'ясьніць нам чалавек—ён са мной разам прыехаў з гораду... Свой брат, рабочы...

Усе ўважна прыслухаліся. Андрэй зьлёгку ўсьміхнуўся, зірнуў неяк скоса, згары, і праказаў тонам пагадлівай уступкі:

— Што-ж... Тут хочаш—так, хочаш—гэтак... Паны зямлі дарма не аддадуць, а судзіцца—чорт з яго высудзіць... Некаторыя спрабуюць...

І ён—спакойненька, ціхенька—пералічыў тыя выпадкі, аб якіх ужо казаў Лясьніцкаму. Сяляне слухалі з напружанай увагай. Некаторыя здаволена падтаквалі, некаторыя круцілі галавой з недаверліва-злоснай усьмешкай. Адзін—чырвоны ўвесь, з сьцюдзяністымі вачмі—перабіў Андрэя:

— Ага... Значыць—бяры, хапай, дзе толькі можна... Значыць—і ў сваіх тож можна... Іш ты які...

Андрэй зусім спакойна адказаў:

— Калі ў сваіх задужа, дык чаму-ж не, можна й сваіх абрэзаць...

Падняўся страшэнны гармідар. Грамада падзялілася на дзьве часткі і гэтыя дзьве часткі завялі паміж сабой гарачую, злосную спрэчку. Яшчэ гаварыў нешта Лясьніцкі, крычаў аб анархіі, аб непарадках і яго адна частка падтрымлівала. Другая частка групавалася вакол Андрэя і Аксэнты. Неўза-

баве зьявіўся яшчэ і Рыгор—тож рашуча да іх далучыўся. У часе спрэчкі нехта крыкнуў на іх:

— Бальшавікі! Баламуты!..

Тады Андрэй з мяккай, кацячай лёгкасьцю ўскочыў на прызбу, пастаяў хвілінку моўчкі, гледзячы ў натоўп з адкрытай усьмешкай, і, калі троху ўгамаваліся людзі, заявіў з сьмелай, шчырай прастатой...

— Так, мы бальшавікі!.. Я—член бальшавіцкае партыі...

Усе раптам змоўклі, утаропіліся ў яго, вытрашчыўшы вочы. А ён стаяў і ўсьміхаўся—моцны, прыгожы, адкрыты—чараваў усіх сваёй дзіўнай ласкавай сілай.

— Наша партыя—ня вораг працоўнаму люду... Бальшавікі—не басякі і ня шпігі, як вам пэўна ня раз гаварылі. Бальшавікі бароняць сялян і рабочых. Мы супроць вайны, бо вайна ня трэба ні селяніну, ні рабочаму. Вы бачыце, што дае селяніну вайна (ён паказаў на Аксэнту). Мы супроць памешчыкаў, бо яны жывуць з чужой працы, з чужога поту. Мы гаворым: зямля—сялянству. Мы супроць фабрыкантаў, бо яны таксама жывуць чужым потам. Мы кажам: фабрыкі—рабочым...

Усе слухалі яго, зацяўшы дыханьне. А ён гаварыў спакойна, роўна, нібы якую байку баяў. У яго словах была нязвычайная прастата—таму яны гладка і станоўка клаліся ў мужычыя галовы, зрасталіся жывым целам з іх абычайнымі думкамі, уплятаўіся непарыўным вузлом у штодзённы кірунак іхнай сьвядомасьці. Каб каторы і не захацеў слухаць, каб наўмысьля адпіхваў гэтыя словы, дык-бы ўсё роўна ўлезьлі яны ў галаву. А тады ўжо прапала: не разьбярэш, ці гэта прамоўца сказаў, ці гэта свая старадаўная думка—улежаная, абветраная глыбока-таемнымі віхрамі надзей і расчараваньняў.

Добра ўмеў гаварыць Андрэй, знаў, як дадзець да нутра. І напасьледак ён так заўладаў усіхным настроем, што, здаецца, каб узьняў ён голас ды крыкнуў—гайда на пана!—дык-бы й рынуліся ўсе, як адзін. Як кончыў ён гаварыць, зноў у грамадзе была дружная згода, зноў была адна воля, адно імкненьне. Толькі некалькі чалавек на чале з Лясьніцкім яшчэ трымалі сваю пазыцыю. Лясьніцкі паспрабаваў быў

яшчэ выступіць, нешта сказаць, дык Андрэй кінуў яму насустрэчу лёгкі, вясёлы жарт, і яго абсьмяялі.

Аксэнта ўзяўся зноў навадзіць парадак.

— Дзядзькі! Якую-ж пастанову будзем рабіць, га? Трэба неяк формальна. Дзе стараста?..

Але старасты не знайшлі. Дзеля ўсякага выпадку ён ужо ўцёк. За ім падаліся вяткай яшчэ колькі сялян з багацейшых. Іх праводзілі вясёлымі жартамі.

— Ну, дык якую-ж пастанову?

— Касіць!

— Што-ж там яшчэ!..

— Касіць! Касіць!..

Нехта сьцеражліва зазначыў:

— Толькі каб усёй вёскай, каб усім разам адказваць, калі што-якое...

Пастанавілі заўтра-ж пачаць касьбу, пры чым сенажаць касіць разам, а дзяліць ужо потым, у копах.

Пасьля гэтага частка людзей разышліся, частка абкружылі Андрэя, засыпалі рознымі запытаньнямі. Ён усім ахвотна адказваў, а потым дастаў з кішэні газэту, некалькі брошур і пачаў чытаць. Лясьніцкі сказаў яму, каб прыходзіў палуднаваць, а сам пайшоў дахаты—не захацелася тут аставацца. Быў страшэнна дрэнны настрой—мучыў сорам, нездаволеньне і прадчуваньне нечага нядобрага. Яго не пераканалі былі словы Андрэя, ён ня верыў яму. Ранішняя гутарка застрала ў мазгох цяжкім неўразуменьнем, з галавы ня выходзілі туманныя незразумелыя словы, якія палохалі сваёй навізной, сваёй нязвычайнасьцю.

На вуліцы Лясьніцкі сустрэў Макрыну—яна йшла ад калодзежа з поўнымі вёдрамі вады. Яшчэ здалеку ўбачыла яго, ветла ўсьміхнулася.

— З поўным цябе сустракаю. Пашчасьціць у нечым.

Лясьніцкі чамусьці ўспомніў пра спатканьне з паненкай. Мо' там пашчасьціць?

Як ужо разьмінуліся, Макрына раптам паставіла вёдры, аклікнула яго:

— Васіль! Хадзі-тку сюды, нешта скажу...

Ён вярнуўся. Макрына ў нейкім замяшаньні зірнула на яго спадылба, сарамліва ўсьміхнулася.

— Ты, Васіль, можа сёньня пойдзеш да дзяўчат? Сёньня-ж Купала... сёньня усе будуць гуляць...

Лясьніцкі міжвольна пачырванеў. Ён дагадаўся: Макрына з ім хоча правесьці купальскую ноч. Што-ж ёй сказаць?

— Я буду заняты сягодня. Я табе потым скажу, дзе я буду. Да дзяўчат я—не, не пайду.

У Макрыны ў вачох застыгла расчараваньне.

— Заняты?.. А можа прыдзеш... я буду ў хаце, не пайду нікуды.

— Не, Макрына, сёньня я буду заняты. Я пасьля ўсё раскажу табе... Бывай!

Яна пайшла задуменная, смутная.

ДЗЯЎЧАТЫ на вуліцы заклікалі на Купальскае сьвята. Іх песьні, пераплеценыя з абрыўкамі сьмеху і крыку, зьвінелі сьмелым задорам, сапраўды заклікалі да сябе, абяцалі цэлае мора гульлівае весялосьці.

...А хто ня йдзе на вуліцу,
Ой, рана на Йвана.
Няхай ляжыць калодаю,
Ой, рана на Йвана.
Калодаю дубоваю,
Ой, рана на Йвана.
Дзеткі яго цяльпушкамі,
Ой, рана на Йвана.
Няхай яго лянок зарасьцець,
Ой, рана на Йвана.
Макрыцаю, павіліцаю,
Ой, рана на Йвана.

Тэй травою, што ў балоце,

Ой, рана на Йвана.

Тым асотам, што ў гародзе.

Ой, рана на Йвана...

Ну дзе-ж там ня пойдзе хто, калі так настойна зьвіняць дзявочыя галасы, калі так моцна вабяць яны сваім глыбокім, як зорнае неба, лірызмам і сьвежасьцю, калі абяцаюць яны, што сягодня ў мяккім змроку начы, разбаўленым барвістым сьветам агней, адбудзецца вясёлае набажэнства, у якім малельнымі гімнамі будуць дзявочыя сьвежыя песьні, у якім замест пакутнае скрухі будзе радасьць і сьмех, будзе шырокі размах маладосьці. Купала—гэта-ж такое любае бязбожнае сьвята, у ім так многа дзікай поэзіі, у ім з паганскай вольнасьцю разгортваецца чалавечая істота, шукае волі і радасьці, хоча зьліцца з чароўным сонечным богам—Прыродай, бо гэты бог—сама воля і радасьць.

А колькі поэзіі ў гэтых наіўных варожбах, у ахінутым палахлівай тайнасьцю шуканьні кветкі шчасьця, якая таму й вабіць да сябе, што ніколі не знаходзіцца. У гэтых варожбах цудоўна ўваскрасае дзяцінства чалавечага роду, апавітае густой сеткай забабон і чараўніцтва, у гэтых варожбах уваскрасае першабытны чалавек—дзіця магутнага й страшнога дзіва—Прыроды.

Час уважліва й шчыра пераглядзеў спадчыну даўных вякоў, зрабіў у ёй свае глыбокія няўхільныя зьмены. І цяпер усе гэтыя фантастычныя дзівы-варожбы толькі наіўная казка, поўная сваеасаблівае поэзіі, поўная радасьці жыцьця, ружовых сьмелых надзей і каханьня.

Дзяўчаты заклікалі на Купальскае сьвята. У гэту ноч ніхто з моладзі не павінен спаць—пойдуць усе ў жыты або на бераг Дняпра, там загарацца зырка агні—будуць карагоды і скокі, будуць сакавітыя песьні і малады сярэбраны сьмех. І там, у ціхім змроку начы, так радасна будзе кахаць такімі любымі стануць дзяўчаты, і пацалункі будуць саладзей за мёду, гарачэй за агня.

Бо сягоньня Купала—любае, вясёлае, бязбожнае сьвята.

Зазыўныя песьні дзяўчат падганялі Лясьніцкага. У лесе ўжо густа расплыўся змрок, апрануў у цёмна-шэрае ціхія постаці дрэў, пусьціў наўкола чорныя цені таемнасьці. Лясьніцкі сьпяшаўся—баяўся, каб не спазьніцца. Яго затрымаў быў Андрэй, ён ледзь адарваўся ад бесканцовых гутарак, спрэчак, у якіх прайшоў блізка што цэлы дзень. Ён не сказаў, куды ён пойдзе—ого, каб сказаў! Па Андрэеву гэта-ж напэўна—злачынства, гэта—здрада; паны-ж—ворагі, з імі трэба змагацца. Значыць, і паненка Раіса—тож вораг. Заўтра вёска пойдзе адбіраць у яе сенажаць, і ён сам можа пойдзе, бо нельга паўстаць супроць цэлае вёскі. А сягодня ён з ёй сустрэнецца, будзе гаварыць, як з прыяцелем нават ня скажа, што будзе заўтра. Значыць, і тут—таксама здрада.

А можа сказаць ёй аб усім, што было сёньня на вёсцы?

Андрэй казаў, што нібы ён, Лясьніцкі, на сходзе абараняў багатыроў, вёў іхную лінію. Гэта ён наўмысьля. Ён вялікі дэмагог, гэты Андрэй. Ён умее весьці за сабой людзей, умее граць на самых тонкіх струнах іх псыхікі. Ён нейкі д'ябал, чорны гэні руйнаваньня.

Але што яму тут трэба? Чаго ён хоча тут дасягнуць? Чаго ён прыехаў сюды?

Страшны ён чалавек, гэты Андрэй. І няўжо гэта ўсе такія бальшавікі? Чаго яны хочуць, чаго дамагаюцца?

Лясьніцкі добра праслухаў быў сёньня словы Андрэя. І потым многа яны гаварылі ўдвух. Андрэй чаруе сваёй прастатой, прастатой праграмы свае, сваіх дамаганьняў. А Лясьніцкі таму й баіцца ўсяго гэтага, што яно занадта проста—да дзікасьці проста, да недарэчнасьці. Лясьніцкаму прастата гэта здаецца дэмагогіяй, ён ёй ня верыць, ён чуе тут нейкі ліхамысны падкоп. О, ён не паддасца гэтай спакусе, ён будзе цьвёрда трымаць сваю лінію!

Пры думцы аб „лініі" Лясьніцкага ахапляе няпрыемнае замяшаньне. Лініі якраз і няма, лініі ён не знайшоў. Яшчэ да гэтага часу пануе ў сьвядомасьці глухая няўцямнасьць—невядома, куды падацца, за што ўхапіцца. Паслаліся перад

вачмі бязьмежныя сьцежкі-дарожкі, перапляліся пераплётам заклятым—не згадаць, па якой трэба пайсьці, каб патрапіць на правільны шлях.

Не, лепш ня думаць зусім.

Каб адагнаць дакучныя думкі, Лясьніцкі як мага напінае слых, ловіць тонкія гукі прыціхшага лесу. Яшчэ далятае нявыразна-музычным водгульлем лілёва-смутны напеў купальскае песьні. Ён неяк дзіўна блытаецца сярод апавітых змрокам і ціхім шолахам дрэў, і пачынае здавацца, што гэта ня з вёскі лятуць лілёвыя гукі, а недзе тут у лёгкім вецьці сасонак грае нявідная арфа, пацяшае чароўных насельнікаў цёмнага лесу. Мо' таму й гэты мяккі павеўны шолах наўкола, што пад музыку ціхае арфы скачуць па ветках карагоды лёгкіх русалак? Мо' яны вышлі ўжо з глыбокіх вод Дняпра, каб пасвойму, парусалаччу адзначыць вялікае Купальскае сьвята?

Лясьніцкаму робіцца троху шорахна і разам з тым вальготна, лёгка. Ён сьпяшаецца, ідзе шырокімі шпаркімі крокамі, але хочацца ісьці яшчэ шыбчэй, хочацца пабегчы—жвава, з падскокам, так, як калісьці ў дзяцінстве. І яшчэ страшэнна хочацца крыкнуць, або пісьнуць на ўвесь лес. Ад гэтага хаценьня Лясьніцкі ня можа ўтрымацца. Ён на момант спыняецца і крычыць, як хапае сілы:

— Го-го-го!..

І дзіўна. Нехта адказвае з глыбіні лесу, аднекуль здалеку-здалеку:

— Го-го-го!..

Гэта ня водгук. Водгук ня бывае такі выразны. Гэта сапраўды нехта адгукаецца. Значыць, пачынае ўжо жыць глухі лес сваім таемным купальскім жыцьцём.

Вось ужо й сьцежка, па якой на-цянькі можна прайсьці на панскія могілкі. Лясьніцкі зварочвае і йдзе амаль што вобмацкам, натыкаецца на дрэвы, спатыкаецца на нейкія карчы. Нібы наўмысьля выпаўзла ўсё гэта на сьцежку, каб загарадзіць яму дарогу, каб затрымаць. Ён пачынае злавацца і яшчэ часьцей натыкаецца на перашкоды.

Але вось замітусіўся ў цемры белы расплыўчасты цень. Гэта—капліца. Лясьніцкі асьцярожна абходзіць бокам, каб ня ўзьбіцца на жалезную агароду, і ўваходзіць у шырокія вароты. Падыходзіць да капліцы. Пуста, нікога няма, толькі ўвушшу шаломным звонам зьвініць цішыня.

Няўжо пайшла? А мо' яшчэ ня прыходзіла?

„Як ужо добра сьцямнее"... Пэўна яшчэ ня прыходзіла. А мо' і зусім ня прыдзе?..

Лясьніцкі сядае на ганкі, пачынае чакаць. Памалу ў нутро ўплывае золкая жудасьць. Здаецца, нехта падцікаецца ззаду, становіцца за сьпіной, робіць нейкія страшныя рухі, мо' ладзіцца ўхапіць халоднымі кіпцюрамі за горла. А азірнуцца ня можна—страшна. Страшна нават паварушыцца, здаецца—во-во наткнешся на нешта страшэннае, дзікае.

І як прыемна, радасна стала, калі ў ночнай цішы лёгка зашамацелі асьцярожныя крокі. У варотах віхнуўся дрыготнай плямай шэры расплыўчасты цень. Чамусьці спыніўся.

— Хто тут?

— Добры вечар, Раіса Андрееўна!

— А, гэта вы?

Ён ідзе ёй насустрач, знаходзіць у цемры руку яе і доўга цалуе ў нейкім парыўчатым захапленьні. Яна ціхенька сьмяецца.

— Узрадваўся... Вы даўно чакаеце?..

— Што вы! Каб я пачакаў больш, як дзесяць хвілін, вы-б наўдачу знайшлі мяне тут жывога.

— Баіцёся?.. Як вам ня сорамна... Ну, дык пойдзем. Наце руку, вядзіце, куды хочаце... Я здаюся сёньня на ваша кіраўніцтва.

Яны вышлі на дарогу, пайшлі пад вёску. Чым бліжэй падыходзілі, тым выразьней чуваць былі песьні, а потым пачалі далятаць і выбухі сьмеху, тлумнай гамонкі. Раіса спынілася.

— Я ня хочу ісьці туды, да іх... Мы пасядзім дзе-небудзь воддаль, паслухаем.

Лясьніцкі прапанаваў пайсьці на бераг Дняпра. Яна згадзілася.

Яны ўдаліся ў лес. Было цёмна, хоць вока выкалі. Раіса даверліва абапёрлася на руку Лясьніцкага, ён ціха вёў

яе праз цёмны натоўп хмурых дрэў, расхінаючы вольнай рукой вецьце кустоў, якія траплялiся па дарозе. Часамі ён спыняўся, нібы затым, каб разгледзець дарогу,—тады моўчкі браў руку яе і цалаваў з глыбокай пяшчотай, і сам ціха сьмяяўся, поўны нейкай дзіўнай радасьці й шчасьця.

Яны вышлі на бераг Дняпра ў самым канцы леса, адкуль быў зусім выяўна чуваць гоман і сьмех вясковае моладзі. Лясьніцкі адразу ніяк ня мог разабраць, дзе сабралася моладзь, пакуль ня блiснуў агоньчык на палянцы, між Дняпром і вясковымі гумнамі.

Так. Тут зьбіраюцца блізка што кожнае лета.

Яны выбралі мясьцінку і селі над самай кручай Дняпра, заплыўшай чорнай, як дзёгаць, цямнотай.

— Ну, цяпер раскажэце што-небудзь. Скажэце, што яны будуць там рабіць?

— Раскладуць агні, будуць пець, вадзіць карагоды, скакаць праз агонь. Потым пачнуць варажыць, пускаць вянкі на ваду... Вось, слухайце...

Там запелі працяжліва-звонкую песьню, якая асабліва падабалася Лясьніцкаму. У гэтай песьні неяк трагічна перапляталася радасьць з смуткам—быццам нехта сьмяяўся скрозь слёзы, або плакаў ад нязвыклае, занадта вялікае радасьці. Асабліва падабаліся Лясьніцкаму канчаткі песьні—такія халодныя, гонкія, як восенскі вецер, і разам з тым шчымліва-радасныя. Лясьніцкаму ад іх чамусьці ўспаміналася дзяцінства. Успаміналася, як у халодным восенскім полі капалі бульбу, як ужо ўвечары, калі марозна барвянілася зара на захадзе, бацька накладаў мяшкі на калёсы, а ён скакаў навакол, рады, што зараз паедуць удвор, і ён добра-добра адагрэецца на гарачай печы.

Лясьніцкі расказаў пра гэта Раісе і вельмі зьдзівіўся, калі яна зразумела яго.

— Так, у гэтай песьні чуваць нейкі бязьмежны холад і цёплая надзея на саграваньне. Мне тож падабаецца гэтая песьня.

Яны моўчкі слухалі, пакуль не заціх апошні акорд. Потым ён пачаў гаварыць аб народных песьнях, абрадах, аб

іх гісторыі і значэньні. Яна слухала ўважна, бо ён дзівосна мяшаў рэальныя факты з казачным выдумствам, і выходзіла прыгожа, занятна.

— Ужо тысячу гадоў, як на Беларусі ідзе паядынак багоў. Спачатку была агульная завіруха: прышлі з Грэцыі няпрошаныя госьці—чужыя, незнаёмыя багі і пачалі выганяць нашых добрых старых Пяруноў, Стрыбогаў, Дажбогаў і г. д. Аднак нашы паганскія багі не захацелі самохаць здавацца, ушчарэпіліся за свае боскія пасады і рашылі прыняць бой. Прышляцы тады заключылі саюз з князямі, дагаварыліся адзін аднаму памагаць. Убачылі паганскія багі, што справа дрэнь, што ня ўстоіць супроць дружын князёўскіх, і пусьціліся на хітрыкі. Яны зрабілі від, нібы здаюцца, а тымчасам пахаваліся і доўгі час жылі спакойна за сьпіной простага люду, які іх паважаў і шанаваў. Але грэцкія багі заўважылі гэтыя хітрыкі і зноў пачалі барацьбу. Толькі цяпер ужо яны ня кідаліся разам на ўсіх, а схапіліся паадным, наладзілі паядынкі. Так, Ільля схапіўся з Пяруном, Аўлас з Вялесам і г. д. Яны б'юцца аж да гэтага дня і бадай што ніхто нікога не перамагае. А добры беларускі народ усё стараецца іх памірыць і па сваёй шчырасьці гатоў верыць і ў тых і ў другіх, і тым і другім гатоў маліцца... Я дужа люблю Купалу. Кажуць, што гэта бог каханьня. Мо' таму ён і дасягнуў большай, як хто другі, перамогі над сваім супраціўнікам. Я добра ўяўляю сабе Івана Хрысьціцеля. Гэта— высокі хударлявы пустэльнік, перахлябаны ад доўгага посту— у яго й твар посны, быццам ня кроў у ім, а аліва. Ну дзе-ж яму саўладаць з чырвонашчокім Купалам, з сонечным богам, які ўвабраны вянкамі і кветкамі, ад аднаго погляду якога загараецца ўсё весялосьцю і смагай каханьня, які любіць песьні і радасны сьмех, які дазваляе чалавеку ўсе ўцехі жыцьця і не патрабуе ні за які грэх пакуты і каяньня...

І Лясьніцкі гатоў быў бясконца цягнуць свае дыфірамбы паганскаму богу Купалу, але Раіса раптам схапіла яго за руку і паказала на Дняпро.

— Глядзіце, глядзіце! Як прыгожа!..

Сапраўды, гэта была цудоўная карціна. Адтуль, дзе гуляла моладзь, па Дняпру плыла цэлая плойма маленькіх, дрыжачых аганькоў, якія то збліжаліся, то разыходзіліся, адзін аднаго даганялі, пераганялі. У іх асьцярожнай гульні была нейкая напружная ўрачыстая важнасьць, быццам яны адчувалі, што за імі сочаць з затоенай трывогай і страхам, што нехта чакае ад іх вырашэньня сваё долі.

А з берагу плыла на ваду стройная песьня, працятая трывожным смуткам, настойнай мальбой. Здавалася, што гэта песьня даганяе чароўныя аганькі, лунае над імі і просіць-моліць іх аб долі тых, хто пусьціў гэтыя вяночкі. У гэтай песьні-маленьні, у гэтых аганьках, у чорным маўчаньні прытоенай ночы сапраўды адчуваўся павеў чагосьці старадаўнага, паганскага.

Аганькі падплывалі, набліжалася песьня. Раіса ўстрывожылася.

— Яны йдуць сюды. Я ня хочу, каб нас тут заўважылі...

Але турбота была дарэмная. Аганькі, не даплыўшы з гоні да іх, адзін за адным зьніклі ў чорнай процьме Дняпра. Дзяўчаты з тлумным сьмехам і гоманам вярнуліся на старое месца—адтуль зноў прыляцелі гукі карагодных песень, рогат хлапцоў і дзявочы віск.

— Васіль Данілавіч! Я хочу паваражыць. Скажэце, як гэта зрабіць?

— У мяне ёсьць дзьве сьвечкі. Мы можам таксама пусьціць вянкі. Я знаю месца, дзе лёгка сыйсьці к вадзе.

— А вянкі?

— Вянкі можна зьвіць з папараці—яна заменіць нам кветкі. Тым больш, што яна сама па сабе мае цудадзейную сілу і вартасьць.

Яны, сьмяючыся, нарвалі цэлы ахапак папараці. Раіса пачала віць вянок, а ён расказваў фантастычныя байкі аб тым, як сьмелыя людзі хадзілі ў Купальскую ноч шукаць кветку папараці, чароўную „кветку шчасьця", як знаходзілі гэтую кветку і пагібалі потым пад злоснай навалай нячыстае сілы.

Вянкі вышлі страшныя, нязграбныя. Раіса паказала яму, наіўна спытала:

— Ці можна такія пускаць?

У яе голасе гучэлі ноткі любай дзяцінай няўпэўненасьці, яна нібы крыўдавала на самую сябе, што ня можа лепей зрабіць, што такая яна няўмека. Лясьніцкі ў знак сваёй аўторытэтнай ухвалы пацалаваў па некалькі раз кожную яе руку, за што яна з сьмехам надзела на галаву яму абодвы вянкі.

Па добра знаёмай Лясьніцкаму сьцежцы яны спусьціліся ў чорную процьму абрыва. Там глуха, нездаволена хлюпала вада, быццам сварылася на іх за несваячасныя жарты. Ад Дняпра веяла халоднай няпрытульнасьцю, глуха-затоенай злосьцю. І ад таго, што была навакол такая цёмная жудасьць, ад таго, што Дняпро бурчэў пагрозна і гнеўна,—згінуў раптам у абоіх жартлівы настрой, працяліся абое глыбокай, трывожнай сур'ёзнасьцю. Калі Лясьніцкі запаліў сьвечкі і зірнуў на асьветлены дрыжачым сьвятлом твар Раісы, ён зьдзівіўся выразу яго. Яе вочы былі цяпер глыбокія і зусім чорныя, у іх было нешта далёкае, балючае, нешта ахінутае жудаснай трывогай.

Раіса заўважыла, што ён глядзіць на яе, нібы схапянулася і засьпяшыла яго:

— Давайце хутчэй...

Ён даў ёй вянкі.

— Пускайце разам. Загадайце на каго-небудзь. Калі сыйдуцца, значыць... і вы сыйдзецеся, а калі разыйдуцца, значыць...

Яна пусьціла вянкі на ваду. Лясьніцкі заўважыў, што ў яе дрыжэлі рукі. Ён зьдзівіўся.

„Няўжо яна сапраўды верыць гэтым варожбам?"

І мімаволі самаго агарнула нейкая ліпучая жудасьць, сам пачаў з шчырай трывогай сачыць за вянкамі.

Вянкі адплылі на аршын ад берагу і раптам—ці то затым, што былі зьвіты няўдала, ці мо' свечкі былі няўдала прывязаны,—але неяк разам, у адзін момант абодвы аганькі пагасьлі.

Здалося, што цемра цяпер стала яшчэ гусьцей, яшчэ чарней, чымся была дагэтуль. І яшчэ больш стала жудасна, страшна навокал. Хвіліну яны стаялі моўчкі. Потым яна спытала нейкім чужым палахліва-дрыжачым голасам:

— Што гэта значыць?

Ён ня ведаў, што адказаць. Паспрабаваў абыйсьціся жартам.

— Гэта значыць, што вы астанецеся ў ранейшых адносінах: ня сыйдзецеся і не разыйдзецеся.

Вышла недарэчна, суха. І раптам яна схапіла яго за руку, затармашыла, зашаптала парыўчата, захліпваючыся:

— Я баюся... Васіль Данілавіч... Мне страшна, страшна... Пойдзем хутчэй... Васіль Данілавіч...

І працятая нейкім хваравітым жахам яна кінулася ад вады, пачала першая пасьпешна лезьці ўгару, на кожным кроку спатыкаючыся, абрываючыся з крутой сьцежкі, якая ўзьбягала наўскось па абрыву. Лясьніцкі як сіла кінуўся ўсьлед за ёй і якраз упару дагнаў. Яшчэ момант, і яна-б, сарваўшыся з незнаёмае сьцежкі, паляцела ў Дняпро.

Яна сударгава схапілася за яго і ўсё гаварыла, прасіла:

— Скарэй, скарэй... Я баюся... Васіль Данілавіч...

Тады ён узяў яе на рукі і вынес на бераг. Там пасадзіў на траву, сам сеў поплеч, не адпускаючы яе з сваіх абнімкаў, пачаў угаварваць.

— Раіса Андрэеўна... Раіса... Чаго вы... Супакойцеся...

Яна дрыжэла, тулілася да яго і гаварыла вінаватым узрушаным голасам, нібы хацела апраўдацца ці заспакоіць Лясьніцкага.

— Я страшэнна нэрвовая... я нэрвовая... Мне здалося нешта—я сама ня ведаю... Чаму гэта сьвечкі пагасьлі? Вы ня ведаеце, Васіль Данілавіч?..

Ён ёй тлумачыў, што гэта зусім натуральна, што вянкі былі зьвіты няўдала, што сьвечкі ён слаба прыладзіў. Яна згаджалася, сама знаходзіла розныя прычыны, нібы разам з Лясьніцкім і сама старалася сябе ўгаварыць. І потым, калі ўжо, здаецца, зусім супакоілася, раптам прытулілася да гру-

дзей Лясьніцкага і заплакала. Лясьніцкі, поўны глыбокай пяшчоты, гладзіў яе дрыжачыя плечы, браў яе рукі і цалаваў іх, гатовы сам заплакаць ад жаласьці. І не ўгаварваў, а прасіў, маліў яе, каб перастала.

А яна нібы й ня чула яго, нібы й забылася на яго прысутнасьць—плакала ўсё і гаварыла скрозь сьлёзы нешта дзіўнае, незразумелае.

— За што гэта мучэньне... я ня хочу, я не прашу нічога... Нашто гэта страшное, дзікае... Божа мой... што я раблю... Я ня хочу каханьня... мне ня трэба... Нашто гэта? Нашто?..

Ён слухаў яе няскладныя словы, яны гнялі яго сваёй дзікай незразумеласьцю. Здавалася, каб знаў ён, у чым тут справа, каб знаў яе гора, дык-бы здолеў разважыць яго, здолеў-бы яе суцешыць. Каб толькі знаць, у чым тут справа!..

— Раіса Андрэеўна! Раскажыце мне, аб чым вы плачаце... Раіса Андрэеўна!..

Яна раптам змоўкла, падняла галаву. Нібы толькі цяпер заўважыла, што плача ў яго на грудзёх, што ён абнімае, лашчыць яе. Яна моўчкі адхінулася, толькі пакінула сваю руку ў яго руцэ. Так сядзелі колькі хвілін у маўчаньні. Потым яна палягчона ўздыхнула і загаварыла сваім звычайным голасам:

— Я вам многа турботы нарабіла, Васіль Данілавіч. Вы мяне выбачце—я такая дурная, хворая...

Потым, памаўчаўшы троху, весела засьмяялася.

— Сьмешны вы які... Скажыце, Васіль Данілавіч, вы кахалі каго, ці не?..

Ён замяшаўся.

— Як вам сказаць... Я кахаў... Я кахаю, праўда, адну... жанчыну... Я кахаю ўжо некалькі год яе.

— Пакахайце мяне... Добра?..

У яе голасе гучэў ужо звычайны гульлівы задор.

— Я хачу, каб хто пакахаў мяне... Але ведаеце, як я хачу, каб мяне кахалі? Ведаеце?.. Каб той, хто мяне пакахае, забыўся на ўсё, што ёсьць у яго ў жыцьці, апрача мяне, каб ён маліўся на мяне, чакаў, як міласьці, аднае мае ўсьмешкі,

каб ён хадзіў за мной, як цень... Я-б зьдзеквалася над ім, я-б яго мучыла, катавала... О, я-б загубіла яго, я-б атруціла яму ўсё жыцьцё, я-б выдумала яму самую страшэнную, самую дзікую кару... Я-б яго ненавідзела, як толькі можа ненавідзець жанчына...

Яна гаварыла гэта з гарачай злосьцю, і ў яе голасе было так многа шчырасьці, што здавалася, нібы ўсе гэтыя пагрозы яна накіроўвае на пэўную асобу, што яна хоча памсьціцца за нейкую крыўду, якую зрабілі ёй самой. Калі кончыла пералічаць яна ўсе кары таму невядомаму нешчасьліўцу, які ў яе закахаецца, яна зноў гульліва засьмяялася, зьвярнулася да Лясьніцкага:

— Ну, як, Васіль Данілавіч, ці згодны вы мяне пакахаць?

І, відаць, дужа зьдзівілася, калі Лясьніцкі раптам адказаў зусім сур'ёзна і шчыра:

— Згодзен, Раіса Андрэеўна.

— Згодны?

— Так, згодзен.

Яна часінку падумала. Потым зьдзіўлена ўсьміхнулася, яшчэ раз сказала:

— Сьмешны вы, Васіль Данілавіч!

У гэты момант запелі пеўні на вёсцы, абвясьцілі поўнач. Там, дзе гуляла вясковая моладзь, цяпер ясна гарэлі агні, грымеў сьмех і вясёлы гоман. Песень ужо ня чуваць было: відаць, патаміліся дзявочыя галасы.

Лясьніцкі загаварыў у нейкай цягучай задуменнасьці:

— Дванаццаць гадзін. Цяпер расьцьвітае агнёвым цьветам папараць. Для аховы гэтае кветкі зьбіраюцца ў лесе ведзьмы, русалкі, чарцяняты. Стары Лясун у іх правадыром, ён тут самы старэйшы. Калі сарве чалавек гэтую заклятую кветку, вакол падымецца страшэнны гвалт, з усіх бакоў пацягнуцца страшныя чарцячыя лапы, таго чалавека заскубуць, затурхаюць, прымусяць выпусьціць кветку. І тады пойдзе па лесе страшэнны д'ябальскі рогат—узрадуецца нячыстая сіла, што не дапусьціла чалавеку заўладаць шчасьцем. Во, чуеце? Чуеце сьмех?.. Чуеце віск?... Ха-ха!..

Раіса яго нецярпліва перапыніла.

— Кіньце чмурыць... Я не такая наіўная, каб не пазнаць, як крычыць сава.

На Дняпры плесканулася нейкая рыбіна.

— Чуеце, Раіса Андрэеўна, гэта рыба ловіць вашы няшчасьлівыя вянкі.

Яна засьмяялася.

— Слухайце! Ніколі не ўспамінайце мне пра гэтыя вянкі. Добра?..

Ён згадзіўся. На колькі хвілін запанавала маўчанка. Потым Раіса раптам зьвярнулася да яго, сказала зусім сур'ёзным, нават нейкім сярдзітым тонам:

— Васіль Данілавіч! Пацалуйце мяне!..

Лясьніцкі асалапеў ад нечаканасьці. Але неяк нязграбна прыцягнуў яе да сябе, пацалаваў у шчаку. Яна нібы раззлавалася.

— Ня так вы, ня ўмееце... Во так трэба, во... во...

І яна пачала цалаваць яго ў вусны, у вочы гарачымі моцнымі пацалункамі.

— Во так... Любы, дарагі... сонца маё... мучыцель... бог мой...

Лясьніцкі ня ведаў, што рабіць. Потым забунтавалася кроў, затуліў галаву пякучы салодкі туман—ён памкнуўся абняць яе, прыгарнуць да сябе. Яна заўважыла, сярдзіта яго адпіхнула.

— Пусьціце, няўмека... Я ўжо пайду дахаты...

Ён праводзіў яе, поўны вострага захапленьня—ён адчуваў сябе глыбока шчасьлівым. У сэрцы прыемна расквітала пачуцьцё бязьмежнай адданасьці гэтай чароўнай дзяўчыне. Ён гатоў быў так пакахаць яе, як яна гаварыла.

Дарогай усплыло было на думкі тое, што павінна адбыцца ўраньні, і стала страшэнна прыкра. Тады ён рашыў расказаць ёй аб тым, што было на вёсцы, што надумалі зрабіць узбушлаваныя сяляне. Яна спачатку слухала зусім няўважна, а потым зацікавілася, пачала сама ўсё падрабязна распытваць. Потым падзякавала. Лясьніцкага неяк балюча

кальнуў тон гэтай падзякі. Вышла так, што нібы ён набіўся ёй, як паненцы, сваімі паслугамі, што ганебна даказаў на сваіх вяскоўцаў. Але гэта ўражаньне хутка зацёрлася, і Лясьніцкі вярнуўся дахаты ў добрым, шчасьлівым настроі.

ЯК ВЫШЛА ядранай роснай раніцай рацъ дзябёлых касцоў—больш, як сто чалавек, куды!—ды як уцялі ўва ўсю шырыню панскае лукі—ад Дняпра да Дняпра,—эх, закіпела вясёлая, дружная праца, разгарнулася магутным махам сіла сялянская—заложная, цяглая.

Ад берага да берага расьцягнуўся пярэсты ланцуг—ідуць адзін за адным станоўка, упорыста, падганяе ліхі, маладзецкі задор.

— Эй, беражыся, пяткі падрэжу!

Вострыя косы ў сялян—самі ўпіваюцца, хрумсаюць смагла залітую мядовай расой траву—толькі спраўляйся махаць усьлед ды адварачваць цяжкія неўвароткія гурбы. Але вастрэй за кос, вастрэй за сталі вясёлыя жарты сялян, званчэй за барвянай зары іх вольны раскатны сьмех. Пад жарты, пад сьмех спарней ідзе праца, ганчэй разьвінаюцца дужыя плечы, шчырэй завіхаюцца рукі. І вось ужо даганяюць, ужо падганяюць адзін аднаго.

— Эй, беражыся, пяткі падрэжу!

Трывожыцца глухая нечапаная сенажаць. Палахліва туліцца травіна да травіны, кветкі, красуні дзікія, з адчайным неўразуменьнем ківаюць галоўкамі—што за бяда, што за насланьне!—дзе-ні-дзе ўзьляціць асалапелая перапёлка, ёй у сьлед—ату! го-го-го!—а над галавой даўно ўжо вяжа кругі хітрая чайка—прыкінулася казанскай сіратой—кі-гі! кі-гі!—быццам во ўжо ўспораць гняздо, во ўжо загінуць яе пісклянягы. А тымчасам гняздо тое мо' з паўвярсты, мо' нават за Дняпром дзе-небудзь. Ой, хітрая птушка гэтая чайка!

Трывожыцца сенажаць, бярэцца дзень сумятлівы, тлумны, ня будзе спакою нікому. Мышы, жабы, птушаняты

малыя, падлёткі—тыя ўцякаюць, забіраюцца ў глыб, у някранутыя нетры травы. Як будуць дакоскі—во будзе пацехі! Апошні лапік няскошанай сенажаці будзе заолёгічны сад, там зьбяруцца, ратуючыся ад касы, усе прадстаўнікі лугавога насельніцтва. Прыдуць тады малыя хлопцы і завядуць на іх паляваньне.

А горш за ўсіх шчамялям. Абы толькі пачуў каторы касец іх недалужна-завязлае ў траве, тонкае, як валасіна, зьвіненьне, адразу кідае касу, шукае саломінкі і—прапала шчамялёвая праца. Смачны мёд шчамяліны, хоць і ёсьць там яго—адзін сьмех!

А што толькі робіцца з скачкамі, з кабылкамі, з рознымі лугавымі казюлькамі!

Трывожыцца сенажаць, бярэцца дзень сумятлівы, тлумны. І ад гэтай жывой сумятні, ад гэтае агульнае панікі яшчэ весялей працуецца, яшчэ бурней закіпае энэргія, хочацца так разгарнуцца, каб зрабіць больш за ўсіх, каб усіх перагнаць.

— Эй, беражыся, пяткі падрэжу!..

Андрэй ня ўмее касіць зусім. Ён нязграбна порыць касой, клыча траву, сам увапрэў чыста-ўвесь, а ладу ніякага. Над ім сяляне ласкава падсьміхваюцца, ён і сам шчыра сьмяецца і сур'ёзна баіцца, каб не падрэзалі пяткі—з сьмешнай гатоўнасьцю пераступае чаргу кожнаму касцу. А выйсьці з шэрагу ня хоча, пнецца, як сілы хапае, каб вышла што-небудзь, каб налаўчыцца.

Каб не пайшоў быў Андрэй, дык можа-б і Лясьніцкі астаўся ў двары. А так ужо неяк было не пайсьці.

Спачатку да болю было няпрыемна. Мучыла сьвядомасьць, што гэта супроць яго думкі, супроць яго волі, гняло настойнае прадчуваньне, што дрэнна кончыцца гэтая справа. Ды яшчэ не даваў спакою назольлівы ўспамінак аб тым, што ўсё расказаў паненцы. Гэта-ж фактычна ён даказаў на сялян, зрабіў дрэнны шпігоўскі ўчынак. І цяпер—нібыта-што—астаецца сярод іх, робіць сам тое, што яны робяць, аб чым паслужна паведаміў паноў. У гэтым была вялікая подласьць—ён гэта ведаў і гэта страшэнна яго турбавала.

Але напружна-разгонная праца, вясёласьць навокал, сьмех, жарты сялян паступова заглушылі гэтае пачуцьцё, вярнулі спакой. Працавалася добра. Ад бяссоннай ночы ва ўсім целе адчувалася млосьць, але не хваравітая, не цяжкая—такая, ад якой хочацца пацягнуцца, магутна распрастаць усе костачкі, зрабіць нейкую напружную патугу. Таму праца сягодня ня толькі была не цяжкая, а давала прыемную слодыч, дзіўна здавальняла патрэбнасьць істоты.

Праз гадзіну ці паўтары пасьля пачатку работы, калі ўжо далёка ў глыб лукі закаціліся густыя пракосы, на сенажаці зьявіўся „Карла". Ён прыскакаў верхам на сваім шалёным стаеньніку, сьперш пагарцаваў па скошаным, потым пад'ехаў да сялян, спыніўся ля іх—пануры і грозны, як хмара. Ён правёў разы са два сваім марудным цяжкім поглядам па шэрагу касцоў, потым запытаў ціхім нізкім голасам:

— Хто вам дазволіў касіць?..

Усе маўчалі, утупіўшыся ў зямлю, заўзята махалі косамі.

— Хто дазволіў касіць?..

Голас яго ўжо ўзьняўся, набыў мэталічную рэзкасьць.

Нехта азваўся, буркнуў нібы сам сабе:

— Ніхто не дазваляў, самі дазволілі...

Тады яшчэ колькі чалавек падхапілі:

— Вядома, што самі. Хто-ж нам дазволіць? Пайшлі ўсё дый зачалі.

„Карла" відаць пачуў у галасох сялян нотку абдуманай, загадзя падрыхтаванай упартасьці. Ён зноў панізіў тон.

— Хто ў вас старэйшы?..

— Усе старэйшыя... Усе... Усе...

— З кім я магу гаварыць?..

— Усе ўмеем, можна з усімі...

Раптам з пракосу вышаў Андрэй і падышоў да „Карлы". Ён прыняў наўмысна пакорны, сьмяхотна-далікатны выгляд, падышоў, жартліва пакланіўся.

— Паночку! Калі будзе на тое вашая ласка—я магу добра з вамі пагутарыць. Я ня ўмею касіць—бачыце, колькі барод?—гэта ўсё я нарабіў,—але гаварыць я—мастак. У мяне,

як і на касе, лапатуха на лапатусе, таму ён можа брынчэць, хоць цэлы дзень. Скажэце толькі, што цікавіць вашу мосьць, я далажу аб усім.

„Карла“ туга ўпяў у яго свой хмуры погляд, быццам хацеў працяць яго наскрозь, каб разглядзець, што гэта за чалавек. Андрэй і вокам ня міргнуў—адкрыта глядзеў у яго чыстымі, поўнымі вясёлай павагі вачмі. „Карла“ паўтарыў яму сваё запытаньне:

— Хто дазволіў касіць сенажаць?..

— Э, паночку! Вы-б лепей спыталі, хто дазволіў расьці гэтай траве, хто дазволіў дажджу яе паліваць, сонцу саграваць, ветру разнасіць яе насеньне... А скасіць—гэта й без дазволу ня трудна... А калі хочаце ведаць, хто нам дазволіў, дык слухайце: атрымалі дазвол мы здалёку, прынёс яго нам лёгкі вецер, перадаў і строга-строга заказаў, каб нікому не гаварылі, адкуль прышоў гэты дазвол. Асабліва, каб не казалі старому пану і яго маладзейшым падпанкам...

Пры гэтых словах нехта сярод сялян пырснуў са сьмеху. За ім другі, трэці, і нарэшце зарагаталі ўсе зычным сьмелым рогатам.

„Карла“ пасінеў ад злосьці. Твар яго сударгава перакасіўся, ён крануў каня і падаўся на Андрэя, пагрозна ўзмахнуўшы бізуном. Андрэй і не зварухнуўся, толькі загарэліся вочы ды з твару зьбегла мяккасьць, асталася напружная цьвёрдая сіла. Ён адну руку выставіў перад сабой, нібы спыняючы панскую прыць, а другой многазначна паказаў на касу, што поплеч з ім была ўторкнута ў дол. На „Карлу“ гэты жэст зрабіў патрэбны ўплыў. Ён ураз асадзіў каня, крута яго завярнуў і паскакаў прэч пад агульны рогат касцоў.

— Ату! Го-го-го!.. Ату!..

Сяляне пацяшаліся, як мага крычалі, тукалі, аж пакуль ён не схаваўся з вачэй. Тады пачалі жвава абгаварваць становішча. Ніхто не сумняваўся, што пачнецца цяпер барацьба, што возьмецца „Карла“ як сьлед. Але ўсе былі за тое, каб цьвёрда—што-б там ні было—стаяць да канца на сваім. Ды яшчэ парашылі як сіла сьпяшацца, каб папярэдзіць панскія захады.

Так у гутарцы, у меркаваньнях прайшло з поўгадзіны. І вось раптам нехта закрычаў:

— Глядзіце, глядзіце-тку! Вун ён куды паляцеў!..

Ніхто ня прымеціў, як „Карла“, ужо мабыць пабыўшы ў маёнтку, пераплыў на пароме цераз Дняпро і скакаў цяпер па тым баку—у напрамку пад станцыю.

— Паляцеў біць тэлеграму некуды. Іш ты, узяўся.

— Набегаецца, накідаецца...

— А мы тымчасам пакосім дый прыбяром. Тады—на, пасьвішчы...

Раптам некаму прышла ў галаву гульлівая, дзівачлівая думка.

— Што, каб яго цяпер ня пусьціць з таго боку. Узяць ды затрымаць тут паром—хай пакрычыць.

Думка ўсім спадабалася. Усе сустрэлі яе дружным рогатам. Зараз-жа вылучылася некалькі чалавек для перамаўленьняў з перавозьнікам Саўкам.

Дзед, калі яму расказалі пра задуманы плян і папрасілі яго дапамогі, здаволена зморшчыўся, засіпеў і скрозь гэты свой недарэчны сьмех праказаў:

— А я засну... Улезу ў будку і буду спаць... Ого, калі я засну... Мяне сам чорт тады не даб'ецца.

Пасланцы пакаціліся ад радаснага сьмеху.

— Пастарайся, дзядулька. Мы табе за гэта табакі купім.

Дзед махаў рукой.

— Што вы! Што вы!.. Я сам сазнаю... Ого, некалі я любіў падстроіць. Мне—што паны, а ні ў голаве...

І ён, размаўляючы нешта сам з сабой, палез на паром, у сваю будку. Сяляне вярнуліся на луку, пачалі ў нецярплівасьці чакаць, ці скора вернецца „Карла“. Той доўга не забавіўся. Праз якую гадзіну ён ужо пад'яжджаў к парому. Сяляне настаражыліся, прыслухаліся. Пакаціліся ўсе со-сьмеху, калі пачулі яго нецярплівы крык:

— Паром! Давай паром! Паром!..

— Нічога. Пакрычы, пакрычы, ня трэсьнеш...

Нехта прапанаваў.

— Гайда бліжэй—паглядзім, як ён будзе там захадзіцца.

Усе пакідалі пракосы, пайшлі, пабраўшы косы на плечы, к парому. Падышлі і пачалі жартаваць, сьмяяцца. Той небарака круціўся ўсё на сваім стаеньніку, усё гукаў:

— Паром! Паром!..

А тут спакойна назіралі і, сьмяючыся, рабілі заўвагі.

— Іш, высьцігаецца...

— А голас у яго няхвацкі...

— Вось каб яму нашага Сёмкі голас... Во, гэта голас!..

— Глядзіце, глядзіце, зараз закрычыць...

— А ты адкуль ведаеш?

— Сакунды тыя прышлі...

Але-ткі даўміўся „Карла" нарэшце, у чым тут штука. Ён адразу завярнуўся, паехаў назад, але, праехаўшы троху, вярнуўся зноў—не заманулася ехаць за пяць ці шэсьць вёрст на другі паром. Ён у нерашучасьці пакруціўся яшчэ з хвіліну на беразе, потым з усяе сілы хляснуў бізуном па каню і з маху ўскочыў у Дняпро.

Адразу сярод сялян сьмех як ветрам здула. Ня гледзячы на тое, што гэта быў вораг, што мажа-б кожны рад быў яго пагібелі,—у гэты момант усе мімаволі працяліся павагай. Трэба было мець асаблівую адвагу і спрытнасьць, каб пусьціцца ўплынь праз Дняпро, асабліва ў гэтым глыбокім і быстрым месцы. І мімаволі кожны ўдалы рух ездака сустракалі спачувальнымі ўскрыкамі і цяжка заціналі дыханьне, калі той ледзь-ледзь трымаўся супроць зганяўшай яго ўніз плыні.

Калі-ж „Карла" нарэшце пераплыў і выехаў на бераг—увесь мокры, завэдзганы—зноў зайскрыўся сьмех у натоўпе, зноў узьвіліся вясёлыя спрытныя жарты.

Тымчасам „Карла", у лютасьці б'ючы з усяе сілы каня, паскакаў к парому. Сяляне ў момант сьцямілі, у чым тут справа, захваляваліся.

— Трэба выручыць...

— Не дазволім біць!

— Што-ж ён вінават?

— Гайда к парому!

Але турбота іх была дарэмная. Пакуль яны падыш да парома, „Карла“ ўжо справіўся зьлезьці з каня, узыйсьці на паром, агледзіць кожную шчылінку і, нікога ня ўбачыўшы, зноў узьлез на каня і праскачыў каля іх страшным разьлютаваным д‘яблам.

Сяляне няўцямна глядзелі на паром.

— А дзе-ж Саўка?

Але стары не забавіўся разьвеяць агульнае неўразуменьне. Ён вытыркнуў з будкі сваю калматую галаву і ўвесь аддаўся свайму дзікаму сьмеху-сіпеньню.

— Дзе-ж ты быў, дзядуля?..

— А я... а я... у саломе... х-х-х... чорту вер, яшчэ дасьць бізуна... дык я... схаваўся... х-х-х...

І здаволены сваёй спрытнасьцю дзед качаўся ад нястрыманага сьмеху.

Сяляне пачалі закурваць.

У ТОЙ ДЗЕНЬ палажылі большую палавіну лукі. А назаўтрага, як толькі выцерла сонца сваімі шаўковымі ручнікамі наплаканую начным туманам расу, запярэсьціўся луг морам рознакалёрных істужак—высыпалі з усяе вёскі маладзіцы, дзяўчаты, хлапцы-падшпаркі сушыць сьвежае мурожнае сена.

Вось калі ажыў, апавіўся гульлівым тлумам сонечны луг. Вось калі загрымеў, рассыпаўся ў ясным паветры звонкі сярэбраны сьмех, палілася шумлівай плыньню рознагалосая гутарка. Ведама, баба, калі лапоча языком, дык удвая больш наробіць. А прымусь яе моўчкі рабіць, дык і рукі апусьцяцца ў небараке.

Мужчынам сёньня не балазе. Апанавалі бабы, прыціснулі плоймай крыклівай—ня зыйсьці проста з пракосу. Бо пападзіся адзін у іх стан—заклююць, заскубуць—хоць трэсьні,

дык не адбрэшашся. Абсьмяюць з усіх бакоў, аблаюць— няма куды дзецца. Такая ўжо задзірлівая парода бабская.

К паўдню кончылі мужчыны касьбу. Папалуднаваўшы, узяліся разам з бабамі за сена. Праца пайшла яшчэ спарней, бо адны адных падганялі. Мужчыны падсьміхваліся над бабамі, над іх дробным, няспорным завіханьнем, тыя стараліся ўцяцца, каб мужчын перагнаць, каб асароміць іх, пасьмяяцца над імі. Жарты, заліцаньні хлапцоў да дзяўчат, сяброўская лаянка, сварка—гэта не перашкаджала ў працы, толькі больш распаляла энэргію.

Пачуў сябе вольна цяпер і Андрэй. Цяпер ён быў ужо роўнапраўны з усімі, бо, каб грабці, ня трэба было асаблівае мудрасьці—ня то, што касіць. Ён укладаў у работу ўсю сілу, быў рады, здаволены, як дзіця. Нешта сышоўшыся з Лясьніцкім, ён крыкнуў яму ў глыбокім шчырым захапленьні:

— Васіль, браточак! Каб так век працаваць... Гэта ня праца, а нейкая шырокая прыгожая забава!..

Лясьніцкі зірнуў на яго і мімаволі залюбаваўся. Ён распарыўся ўвесь, расчырванеўся, ад яго веяла гарачым здароўем, сьвежаю сілай, ён, здавалася, быў увасабленьнем гэтае шырокае, магутнае, як прырода, працы-забавы, гэтага радасна-тлумнага квяцістага дня. А на твары ў яго сьветла іскрылася любая дзяціная радасьць, яснае шчасьце. Гледзячы на гэты твар, хацелася глыбока, добра так засьмяяцца, хацелася нешта зрабіць ласкавае, прыемнае.

Андрэю спазрылася Макрына, і ён жартам пачаў каля яе ўвінацца. Ён усё стараўся дагнаць яе і, калі ўдавалася, рабіў від, што хоча заграбці яе разам з сенам, пагрозна ўзмахваў граблямі. Яна ўцякала з давольным сьмехам і яшчэ доўга сьмяялася здалеку, гарэзьліва бліскаючы сваімі прамяністымі, як чорны топаз, вачанятамі.

Ён жартам гразіў ёй.

— У-у-у, цыганё... Вот зараз я цябе заграбу...

А Макрына і сапраўды была чыстае цыганё. Яна загарэла, засмылела на сонцы, яе звычайны беленькі твар быў

цяпер смуглы зусім і больш, як звычайна, было на ім здаровае чырвані. Лясьніцкі спадкрадня да яе прыглядаўся, і бачыў, што яна не паблажэла ні-ні, можа нават і папрыгажэла, але была не такая, як раней, не такая, якая яму падабалася. Ён знайшоў прычыну гэтага ў тым, што яна загарэла, што няма ў ёй ранейшае кволасьці, што цяпер у ёй поўна сытога здароўя, што гэта здароўе і сьвежасьць надае ёй нейкую грубаватую абычайнасьць, робіць яе падобнай на ўсіх іншых вясковых жанчын.

Калі ён глядзеў на яе, калі прад вачмі спакусьліва мільгала яе зграбная, прыемна-поўненькая фігурка, у яго загаралася знаёмае палкае пачуцьцё, набягала ў сэрца гарачая хваля пяшчоты. Але гэта ня было ўжо тое, ранейшае. Гэта мінаецца зараз-жа, як толькі яна зьнікала куды-небудзь з вачэй. І калі бачыў Лясьніцкі, што з ёй жартуе Андрэй, што і яна з ім абыходзіцца ласкава, яму ані-ні ня было прыкра. Ён з спакойным сэрцам глядзеў на іх, любаваўся іх яскравым сьвежым здароўем і нават з усьмешкай думаў:

— Вось была-б добрая парачка.

К вечару прыбралі палавіну лукі. На чыстай, гладкай, як яйцо, палянцы ў прыгожым парадку выстраіліся роўныя зграбныя копы, быццам нарыхтаваліся, каб пачаць нейкую гульню, быццам во-во гатовы сарвацца і пабегчы па чыстаму, гладкаму, замітусіцца ў лёгкіх павеўных скоках.

Шэрай гадзінай сяляне вярталіся ў вёску. Дзяўчаты бусьпявалі песьні, хлопцы круціліся каля іх, нахабна ім бунтавалі, старэйшыя вялі зладную, давольную гутарку.

У той вечар на вёсцы доўга ня спалі—не даваў спаць узьняты дружны настрой, які астаўся ад дзянной працы, не хацелася расхадзіцца па хатах, хацелася быць разам, укучы. Некаторыя паляглі аж калі пеўні запелі. Ляглі, каб праз якіх дзьве-тры гадзіны падняцца і зноў распачаць цяжкую сялянскую працу.

На другі дзень кончылі ўсё. Надвячоркам хадзілі паміж коп, любаваліся ўдалым, зялёным, як мурог, сенам і меркавалі, як-бы спрытней і скарэй падзяліць, каб заўтра

ўжо можна было звазіць у пуні. І, прышоўшы на вёску, доўга яшчэ гаманілі аб гэтым, нават сабралі формальную сходку. На сходцы выбралі пяць надзейных чалавек, якім далі поўную волю падзяліць так, як яны знойдуць патрэбным і справядлівым.

А назаўтрага зранку прыехалі з павету салдаты і агітатар. Агітатар сабраў сход і паспрабаваў зацягнуць песьню аб небясьпецы свабодзе і рэволюцыі, аб анархіі і бальшавіках, аб непарушным праве ўласнасьці, аб устаноўчым сойме і г. д. Ён гаварыў хвілін пяць, а потым яго прагналі. З салдатамі-ж справа вышла горшая. Іх прагнаць было трудна, бо ў іх былі вінтоўкі. А салдаты самі прагналі ўсіх-чыста з лукі, і потым надта блізка не падпускалі.

З паўдня прыехалі панскія падводы і пачалі забіраць гатовае сена. Бясьсільныя супроць узброенай сілы хадзілі вакол зьбянтэжанай гурмай сяляне і з горкай дасадай глядзелі, як звозяць у праклятЫ маёнтак плады іх трохдзённае працы. З кожным зьвезеным возам расло ў сялянскіх грудзёх абурэньне, закіпала сэрца агнёвай злосьцю—гатовы былі кінуцца ў бойку, учапіцца хоць за гэта апошняе, што яшчэ асталося. Але што-ж зробіш з голымі рукамі супроць салдацкіх вінтовак? Прабавалі пагаварыць з імі падобраму, падыходзілі, завадзілі сяброўскую гутарку, распытвалі пра іх несамавітае салдацкае жыцьцё. Тыя абыходзіліся ласкава, ахвотна гаманілі з сялянамі, але кожны раз, як толькі закідвалі сяляне ў бок таго, каб як-небудзь неўспадзеў дапусьціць іх да сена,—салдаты нязьменна прымалі сур'ёзны выгляд і з паважнай таемнасьцюківалі галовамі:

— Э не... Цяпер у нас строга. За гэта нам будзе—ведаеце што?.. Ну дык і не кажыце нават...

Па луцэ гарцаваў на дзіка-ўсьпененым стаеньніку „Карла". На яго хмурым твары густа застыгнуў быў цень трывожнай руплівасьці—ён нібы ня бачыў ні сялян, ні салдат, нічога навокал, аддаўся цалком распарадкаваньню падвод, якія нязьлічонай плоймай усё наяжджалі на луг. Знаў хітры „Карла", што калі ня возьме за дзень, дык—памінай, чым

звалі. Пад аховай ночнае цемры лягчэй распаляюцца пачуцьці, глыбей ахапляе адчай і адважнасьць. Уначы і салдаты могуць астацца бясьсільнымі.

Нібы пад павевам якога заклятага ветра, агалялася гладка лука. І гэтая чыстая гладзь, гэты быстры разгон зялёнай роўнядзі, які звычайна робіць уражаньне нечага прытульнага, пасьвяточнаму прыбранага,—цяпер раздаваўся халоднай пустэчай, невясёла, нудна блішчэў голай лысінай. І крышылася сэрца сялянскае ад вострай роспачы, ад турботнае думкі пра нямінучую бяскорміцу, пра заклятую спрадвечную нястачу. А разам з роспаччу разбухаў у сялянскіх грудзёх магутны, заложны гнеў—ня хвілінны выбух разьюшанай злосьці, а сапраўдны гнеў, корні якога ў даўнай, як сьвет, нянавісьці, захаванай глыбока-глыбока ў сялянскіх сэрцах.

„Карла“ свайго дабіўся. К заходу сонца не асталося на сенажаці ні жменькі сена—чыста было, як падмецена.

На вёсцы ішла замятуха. Хадзілі ўсе злосныя, раздражнёныя, у гутарках ня было ранейшае зладнасьці, усе гатовы былі адзін з адным грызьціся, завадзіць бяспрычынную сварку. Павылазілі цяпер з сваіх мярлог багатыры ды іх падлізы-прысьпешнікі, што былі супроць памыканьня на панскую ўласнасьць, хадзілі цяпер, здаволена пазадзіраўшы насы, зларадасна выгаварвалі:

— А што? Пайшлі супроць закону, супроць парадку? Папрацавалі тры дні на пана, а ён і дзякуй не сказаў...

Лясьніцкі адчуваў, што ён з большым правам, чым хто другі, можа напамянуць аб правільнасьці сваіх развmember разважаньняў, аб перасьцярогах сваіх, якія поўнасьцю спраўдзіліся, але тактоўнасьць не дазваляла яму раскалупваць сьвежую больку сялян. І, апрача таго, як гэта ні дзіўна, а цяпер, калі ўсё ўжо кончылася, ён ані-ні не адчуваў свае перамогі, свае, здаецца, зусім бясспрэчнае справядлівасьці. Наадварот, цяпер чамусьці пачынала здавацца яму, што інакай і быць не магло, што ўсё гэта павінна было стацца, што ўсутнасьці ня было тут ніякай памылкі. І яшчэ адчувалася—

глуха, інстынктам, — што гэта не канец, што будзе, павінен быць яшчэ нейкі працяг гэтае справы.

А сярод сялян пад уплывам злосна-насьмешлівых дапіканьняў багатыроў расло цёмнае, нядобрае нездаволеньне. Пачыналі загаварваць аб тым, што нехта зьвёў, што нехта наўмысьля падбухторыў на гэту дрэнную справу, што каб ня тыя заводцы, дык-бы спакойна купілі ў пана луку, потым-бы раскапалі, суд завялі, калі сапраўды ёсьць якія матар'ялы. Спачатку нездавольненьне гэта бурліла глуха, затоена, потым высьлізнула раптам на поверх і загарэлася агнём вострага абурэньня. Асабліва моцна ўзьнялося абурэньне назаўтрага ўраньні, калі за бяссонную ноч выела нутро сялян пякучая дасада, дакраю змучыла сэрца бясплоднае едкае каяньне. Ураньні абурэньне ўвабралася ў пэўную форму і знайшло сабе об'ектаў. Гэтымі об'ектамі аказаліся Аксэнта, Рыгор і Андрэй. Асабліва расла злосьць супроць Андрэя — мабыць таму, што чужы ён, наездны, што ня мае нічога супольнага з вясковай сялянскай сям'ёй.

Раніцай прышоў да Лясьніцкага Аксэнта. Па яго важнаму, урачыста-трывожнаму выгляду Лясьніцкі адразу ўцяміў, што нешта здарылася, або можа здарыцца. Аксэнта чамусьці пачаў распытваць у Андрэя, што ён яшчэ мяціць тут, на вёсцы, зрабіць, калі рыхтуецца ехаць у горад, ці многа ў яго з сабой рэчаў. Калі, нарэшце, Андрэй, зьбіты з панталыку гэтымі дзіўнымі распытваньнямі, проста, адкрыта запытаў у яго, чаго ён хоча, к чаму вядзе гэту гутарку, дык Аксэнта дасадліва зморшчыўся, зрабіў від, што яму дужа-б не хацелася пра гэта казаць, і наўмысна бязуважным тонам зазначыў:

— Там нешта гавораць мужчыны... сабраліся туды, пад той канец... Хто іх ведае, каб чаго ня было... дужа злосныя ўсе, на мяне тож плятуць нямаведама што, але я не баюся, мяне не крануць... Больш за цябе, Андрэй, зачапіліся... Дык я — каб ня вышла чаго нядобрага...

Андрэй ураз сьцяміў, у чым справа. Ён спакойна ўсьміхнуўся, быццам ня прымеціў тут нічога важнага, быццам для яго гэта — глупства адно. Але Лясьніцкі заўважыў, што

ўсьмешка гэта пустая, надворная, што за ёй рэзка цямнее сур'ёзная напружна-пасьпешная думка. Дзіўныя сталі вочы Андрэевы—быццам чужыя, далёкія, адцятыя ад усяго выразу твара, ад гэтае спакойнае бязуважнае ўсьмешкі. У іх і ўбачыў Лясьніцкі агоньчык трывожнае думкі.

— Можа, Васіль, пройдзем туды, ці што?..

Аксэнта спалохана замахаў рукамі.

— Што ты? Ня лезь, калі цябе яшчэ не чапаюць... Ого, пайсьці туды...

Перасьцярог і бацька Лясьніцкага:

— Чорт ім вер... Народ такі, што ў злосьці зробіць што-хоця... Народ цяпер стаў дужа гняўлівы.

Андрэй устаў, пахадзіў нэрвова па хаце. Потым падышоў да Лясьніцкага, зірнуў у твар яму дзіўна ўглыблёнымі некуды ў нутро вачмі. І ўсьміхнуўся.

— Ну як, Васіль, ты пойдзеш са мной туды?.. Калі пойдзеш, дык—гайда...

Аксэнта з бацькам яшчэ браліся ўгаварваць. Лясьніцкі моўчкі надзеў шапку—чуў, што цяпер не ўгаворыш Андрэя. Аксэнта тады таксама пасунуўся ўсьлед.

Сяляне сустрэлі іх злосна-напятым маўчаньнем. Гэта было самае горшае, бо ставіла ў нейкае тупа-недарэчнае становішча. Невядома, што яны думаюць, аб чым толькі што была гутарка і як, за што зачапіцца, каб не стаяць у прыкрым бязглуздым маўчаньні.

Сяляне скупіліся былі каля нечае хаты. Галоўныя заводцы сядзелі на прызьбе, а рэшта стаялі наўкола бязладнай гурмай. Як убачылі іх, неяк самі па сабе раздаліся, так што адкрыўся вольны прахон да самае прызьбы. І вось тут вышла нечаканае, дзіўнае. У той час, як Лясьніцкі, поўны трывогі і страха, прыцёрся з крайку да сялянскага натоўпу, Андрэй сваёй сьмелай, развальнай хадою прайшоў праз адкрыты прахон, падышоў да прызьбы і моўчкі, адным знакам рукі, папрасіў пасунуцца, даць яму месца. Гэта вышла так неспадзявана, што яму сапраўды далі месца, нават некаторы ўстаў, каб зволіць яго. Андрэй сеў пасярод, азірнуў

усіх строгім, сур'ёзным поглядам і загаварыў зусім проста, абычайна, быццам гэта тут ішла ціхая гутарка пра надвор'е, пра ўраджай і ён між іншага выказваў свой погляд. Па тону яго голаса ніяк ня можна было падумаць, што гэта ён гаворыць пра сябе, што гаворыць у вочы злосна абуранай грамадзе, якая можа гатова разарваць яго на шкумацьце. І яшчэ было поўна ў гэтым голасе глыбокай, упартай праканаласьці, якая неяк гвалтам прымушала кожнага на хвіліну заняць сваё пачуцьцё і цьвяроза, бесстаронна падумаць.

Ён сказаў:

— Я зусім не вінават, што так вышла. Вы мяне спыталі, і я расказаў пра тое, што знаў. Так? Калі-б і цяпер спыталі, я сказаў-бы тое самае... Я ў гэта веру ўва ўсё, пераканаyы ў гэтым... Вось, падумайце...

Тут ён зрабіў невялічкую—на адзін момант—паузу і кончыў зусім ціха, задуменна гледзячы некуды ў бок, быццам гаварыў не сялянам, а сам з сабой меркаваў...

— Каб на адзін дзень пасьпяшыліся, усё-б абышлося добра... Папярэдзіў, сьцерва... даў тэлеграму... Не дагадаўся ніхто—можна было паехаць каму, падняць там гармідар, затрымаць на які дзень... Каб адзін толькі дзень...

Хвіліну сяляне маўчалі. Нявідны, нячутны ішоў пералом у іхнай сьвядомасьці, пераключаўся ток нэрвовай напружнасьці ў новы, адкрыты Андрэем, напрамак. Пачалася разрадка нявыразнымі бурклівымі праклёнамі, невядома куды, на каго скіраванымі.

— Во, каб на яго ліха...

— Ах ты, чортава хара...

— Каб цябе агні...

Нехта замацаваў нечакана-гучным і таму на дзіва ўдалым матам. І тады разьлілося, расплылося ў злосна-ўзрушаную, густа-перамяшаную з лаянкай гутарку людзкое абурэньне. Было два асноўных напрамкі ў гэтай гутарцы: жалкаваньне аб тым, што ня справіліся парой прыбраць, што не ўцяліся так, каб зьвесьці ў той дзень, як саграблі, і другі—гнеўныя праклёны, злосная лаянка па адрасу пана. Андрэй ужо быў

асяродкам ажыўленьня, ужо сяляне забыліся на нядаўны гнеў, ужо прыслухоўваліся да яго з даверлівай павагай. І невядома: ці то само па сабе так вышла, ці то Андрэй спрытна ўзьвёў на гэта сьвядомасьць сялян, але сярод іх радзілася і буйна ўзрасла нейкая фатальная ўпэўненасьць, што гэта не канец, што яшчэ будзе працяг—сур'ёзны, грозны працяг, што яшчэ стрэнуцца з панам, яшчэ скрыжуюцца іхныя шляхі.

А пакуль што, выгаварыўшыся, разышліся сяляне, пацягнуліся—панурыя, злосныя—касіць свае худыя аборкі ды думаць, ламаць галаву, як выкручвацца сёлета з кормам, як пражывіць сваю небагатую скаціну.

ЗАВІЛАСЯ чорнай жудаснай хмарай трывога. Адкуль узьнялася яна, хто нанёс яе ў глухія ціхія вёскі—невядома, але з кожным днём, з кожнай гадзінай гусьцела чорная хмара, і цень яе слаўся наўкола глухім хваляваньнем, разьбягаўся ва ўсе бакі дзіўнымі, часам зусім недарэчнымі чуткамі-пагалоскамі. І трудна было нават пазнаць, чаго больш у гэтай трывожнай сумятні, у глухім хваляваньні сялянскіх думак: ці грубых, напоўмістычных надзей на нейкае вялікае палягчэньне, на нейкую вялікую зьмену, якая адкрые прасьвет у сялянскім жыцьці, прынясе сялянам доўгачаканае шчасьце, ці чорных прадчуваньняў чагось нядобрага, страшнага, што насуваецца аднекуль грузнай навалай, што яшчэ больш зацямрыць і без таго поўнае мроку жыцьцё селяніна. Бадай што было больш другога, бо дахадзілі да вёсак страшныя чуткі-вястункі, якія глушылі ўсе ружовыя надзеі, давалі багатую страву чорным прадчуваньням.

На фронце ішло ўва ўсю руйнаваньне расійскае арміі. Ужо дало свае вынікі бязглузда абвешчанае Керанскім наступленьне. Немцы прарвалі фронт, зноў пацякла кроў, зноў паляглі тысячы перапранутых у вайсковыя шынэлі сялян і рабочых. Пайшлі чуткі аб магчымым вялікім наступленьні немцаў, аб забраньні ўсяе Беларусі, аб падрыхтоўцы да эвакуацыі.

У Ленінградзе крывавай зданьню прайшлі славутыя Ліпеньскія дні, усьлед за імі разгарнуўся дзікі разгром рабочых, якія ішлі за бальшавікамі, самых бальшавікоў. Пайшлі нязьлічоныя арышты, ператрускі, цкаваньне, разьвінулі сваю крывавую жандарскую работу разьюшаныя юнкяры. Контррэволюцыя відочна расла, узмацнялася, пагражала захлынуць, задушыць усе дасягненьні лютаўскай рэволюцыі. У адказ на гэта па гарадох расло абурэньне рабочых, яны ўсё больш і больш праціналіся рэволюцыйнымі настроямі, якія кожны момант маглі пераліцца ў грозную крывавую чыннасьць.

Усё гэта даходзіла ў вёску ў перакручаным выглядзе, аброслае карой фантастычных выдумак, перавялічэньняў, усё гэта сыціла тую трывогу, якая зьвінулася, навісла над сялянамі чорнай жудаснай хмарай.

У Зяленічах не затуплялася вострасьць абурэньня, узьнятага выпадкам з лукой. Новыя чуткі, новыя весткі няўпынна яго падагравалі, не давалі забыцца на цяжкую, нясьцерпную крыўду. І дзейкалі ўсё, пагаварвалі сяляне аб нечым неадступна-турбуючым, аб нечым няскончаным і пільна патрэбным.

Андрэй усё яшчэ жыў у Лясьніцкага. Але з Лясьніцкім ён бачыўся рэдка і мала зусім гаварыў з ім. Ён блізка што ня стыкаўся ў хаце, усё лётаў недзе—вечна рухавы, спакойна-руплівы, вечна вясёлы. Нязьменным яго спадарожнікам быў цяпер Рыгор. Яны з ім езьдзілі некуды па суседніх вёсках, нешта рыхтавалі, нешта заварвалі. Рыгор цяпер менш задаўся, чым раней, менш было ў ім ужо той едкай крыклівасьці, таго наўмысна-раздутага сарказму. Затое цяпер зьявіўся ў яго новы гатунак амбіцыі: ён напусьціў на сябе таемную, глуха зацятую сур'ёзнасьць і насіў яе на твары з нейкім асаблівым фасонам—задраўшы нос, на ўсіх паглядаючы з лёгкай паблажкай.

Аднаго разу Лясьніцкі жартам запытаў у Андрэя:

— Ну як у цябе з харчамі? Ці многа ўжо закупіў?..

Андрэй весела засьмяяўся, адказаў, хітра міргнуўшы вокам:

— Я, брат, усё збожжа, якое купляю, тут-жа і сею— не магу трымаць пры сабе, такі ўжо характар.

А наогул Лясьніцкі ня вельмі стараўся выведаць у Андрэя, што ён робіць, дзе шалаецца,—у Лясьніцкага было досыць свайго клопату. Апошнія падзеі ўзьнялі ў ім новы магутны віхор душэўнае сумятні, паставілі перад сьвядомасьцю тую знаёмую—глухую, як сьцяна—няўцямнасьць.

Лясьніцкі адчуваў рост наўкола чорнай трывогі, яна й да яго датыкнулася сваім поўным незразумелае жудасьці ценем. Ён чуў, што нешта расьце, паўстае, узьнімаюцца нейкія сілы, набліжаецца новая грозная барацьба, чуў, што жыцьцё цяпер неяк трагічна стала на мёртвы пункт, з якога павінна сыйсьці, пакаціцца—туды ці туды. Але ў гэтым росьце сіл, у набліжэньні нечага нямінуча-магутнага ня бачыў Лясьніцкі яснасьці і—самае страшное—ня бачыў сабе месца.

Каб ня знаць гэтага, каб ішло ўсё глуха, цёмна, каб не прымячаць свайго трагічнага становішча! А то-ж чуваць, ясна чуваць, што нешта ідзе, набліжаецца, што гатоў зашумець бурлівы, можа крывавы баль, і ён ня будзе ў ліку запрошаных, ён можа будзе стаяць і глядзець пад вокнамі.

Андрэй будзе запрошан. Той сам наб'ецца, той гатоў ужо сам запрашаць на гэты наступны баль. Можа будзе запрошан і Рыгор. І Аксэнта, напэўна. Яны ўсе маюць месца, бо ўсе цямяць сэнс таго, што разьвінаецца: Андрэй—разуменьнем, а тыя—сваёй прастатой, інстынктам.

Здаецца, чаго-ж яшчэ прасьцей: калі ня знаеш, ідзі ды спытай. Падыйсьці да Андрэя ды запытаць:

— Скажы мне, браток, як ты знайшоў сабе месца, і ў чым сэнс таго, што вакол робіцца?

Андрэй раскажа, і будзе ўсё ясна, і ня будзе няўцямнасьці, і тады ўссадзіць на лоб, як той Рыгор, фасон наіўнаважнай амбіцыі і хадзіць, нос задраўшы.

Але Лясьніцкі ня можа спытацца, не дазваляе прыроднае самалюбства, замкнёнасьць. Ды ўсё роўна, хоць-бы і спытаўся, хоць-бы і расказаў Андрэй ці хто-небудзь—усё-роўна веры ня йме—не здаволіць тое простае, яснае, што здаво-

ліла Аксэнту й Рыгора, а ў чужых мудраваньнях ніколі не знайсьці адказу на глыбокія, у самой істоце закладзеныя запытаньні.

І мучыцца Лясьніцкі ў нязбыўных сумненьнях, згрызотах, і гняце, прыціскае глухая, як сьцяна, няўцямнасьць.

А да ўсяго гэтага яшчэ далучылася другое, сардэчнае. І тут пайшло неразборнае заблытаньне, і тут стаў прад зачарованым раздарожжам.

У апошнія дні ўстрасянулася тое застыглае, закаржэлае, што было з Макрынай. Растапілася ад раптоўнае хвалі гарачага жалю і, здалося, уваскросла ў поўнай ранейшай глыбокасьці, у ранейшай сьвежасьці і хараstве. І пераблыталася ў дзіўны клубок з тым шчымлівым, трывожна-радасным, з тым, што ўзьняла ў сэрцы паненка Раіса.

Лясьніцкі нешта рабіў на гумне, калі прыбегла Макрына—бурна радая, усхваляваная. Яна, небарака, ад радасьці зусім забылася, што не ў абычайнасьці гэта—скакаць, весяліцца, калі прышла такая жалобная вестка.

Макрына пабыла ўжо ў Лясьніцкага ў хаце—яна першна-перш да яго кінулася—і ўжо адтуль прыбегла на гумно. Яна адразу хацела павіснуць у яго на шыі, але ўбачыла, што ён сур'ёзны (ведама—думкі ўсё, разважаньні), дык яна ўтупілася і, як магла, скомчыла сваю радасьць. Нават надала свайму голасу троху жаласнасьці, ма'быць успомніла-ткі, якога гатунку гэта нечаканая вестка.

— Васіль... ці чуў ты... Забілі-ж майго, прышла сёньня карта...

І замоўкла. І ён маўчаў, ня ведаў, ці яму радавацца, ці не. І наогул ня ведаў, што цяпер трэба рабіць, бо было гэта зусім нечакана. Першая думка ў яго была такая: чаму гэта раней ён ніколі не падумаў аб гэтым, хоць гэта можна было чакаць, гэта заўсёды магло здарыцца. Потым ён чамусьці палічыў патрэбным спытацца:

— Дзе забілі?

Яна шчыра і проста адказала:

— А хто яго ведае.

І зноў маўчалі. Потым Макрына сьцеражліва азірнулася наўкола і сказала яму таемным шопатам:

— Я дык дужа рада—ай-яй!.. А трэба паказваць від усім, што жалкую—я ведаю... А то засьмяюць!

Лясьніцкі неяк няўважна і сумна ўсьміхнуўся. Ён напружна думаў, меркаваў, ці добра, ці дрэнна гэта яму, што так здарылася. Усё выходзіла неяк, што дрэнна. Расло ў нутры пачуцьцё нейкай зьвязанасьці, няволі, і тады чамусьці мільгаў у ваччу вобраз паненкі Раісы—рабілася страшэнна прыкра, і шкода чагосьці, і—нямаведама што...

А Макрына пастаяла-пастаяла ды зноў зазначыла—на гэты раз у нейкім задуменным захапленьні:

— Цяпер-жа я зноў, як дзяўчына... Як гэта хвацка!.. Вольная, як птушка ўсё-роўна... Буду рабіць, што хачу. і ніхто мне слова ня скажа.

Лясьніцкі дасадліва яе перабіў:

— Ат, знайшла чаго радавацца...

Ён сказаў гэта проста таму, што быў заняты думкамі, і яна бунтавала яму. А на Макрыну гэтыя словы зрабілі вялікае ўражаньне. Яна палахліва зірнула на яго шырокімі, поўнымі балючага неўразуменьня вачмі і ціха спытала:

— Васілёк! А ці ты ня рад?..

Ён яе супакоіў, але вышла суха, няшчыра.

— Чаму ня рад. І я рад—ня менш за цябе. Але нашто-ж гаварыць аб гэтым?..

— А чаму не сказаць? Хіба нам трэба адзін перад адным хавацца...

Яго кальнуў гэты няўмысны дакор. І яшчэ больш напяў нейкую брыдкую ўпартасьць, што мімаволі стаўплялася ў нутры. Хацелася спрачацца—дасадліва, раздражнёна, каб укалоць, памучыць.

— Не заўсёды трэба крычаць аб тым, што адчуваеш. Часамі гэта бывае дзіка і не да рэчы... Разумееш?..

Замест адказу яна зноў зьдзіўлена і палахліва зірнула на яго.

— Чаго ты злуешся, Васілёк?

Ён сабраў усе сілы, пастараўся ласкава, ветла ўсьміхнуцца.

— Гэта я так... Настрой у мяне такі нядобры. Давай вось сядзем тут, пагамонім.

Яны селі на таўстую калоду, што ляжала пад сьцяной гумна, у цяні старой разложыстай бярэзіны. Макрына пачала наіўна лапатаць аб сваім далейшым жыцьці, будаваць розныя пляны. Ён няўважна, суха падтакваў, а сам думаў сваё—прыводзіў да ладу свае меркаваньні, усё стараўся ўсьвядоміць тое, што адбылося, унітаваць яго ў звычайны ход свайго душэўнага жыцьця.

А Макрына ўсё больш і больш ажыўлялася, сама захапляючыся сваёй гаворкай.

— А праз год пайду замуж... Можа-ж хто знойдзецца, каб узяць... мо' яшчэ спазруся каму...

Яна на хвіліну змоўкла і зірнула на яго з хітраватай усьмешкай. Яна была пэўная, што ён разумее яе, што ён так, як і яна, з непасрэднай прастатой вырашыў ужо пытаньне далейшых іх узаемаадносін, што і для яго цяпер справа толькі ў тым: калі, праз колькі часу.

Ён пасьпяшыў згадзіцца:

— Так, так... Бязумоўна...

— А пайду я замуж за добрага, за прыгожага... А кахаць я буду яго—у-ю-юй!.. А ён мяне можа ня будзе кахаць...

— Так, так... бязумоўна...

Яна зьдзіўлена ўтаропілася ў яго.

— Як ты кажаш? Ня будзе?..

Ён сьцяміў, што не патрапіў. Напружыў памяць і па чыста мэханічных адбітках гукаў дабраўся да сутнасьці таго, што яна сказала. Каб супакоіць яе, моўчкі абняў за плечы, прытуліў да сябе і пацалаваў у галаву. А сам з жахам думаў:

„Гэта-ж я няшчыра... Гэта-ж я сьвядома яе падманьваю...“

Рабілася страшэнна прыкра, няёмка. І чым больш думаў аб гэтым, чым больш крытычна глядзеў на свае пачуцьці, тым глыбей адчуваў халоднасьць да Макрыны, тым мацней

урастала ў сьвядомасьць пераконаньне, што ўсё кончана, што няма больш пачуцьця, няма пяшчоты. А ў той самы час нечым яшчэ глыбейшым, яшчэ больш об'ектыўным сачыў за гэтым пераконаньнем і здавалася, што ўсё тут выключна ад думак крытычных, што ён сам штучна стварае гэтае пераконаньне, што каб здолеў зірнуць на яе непасрэдна, без мудраваньняў, без загадзя нарыхтаванае крытычнае меркі, дык і было-б, як раней, вярнулася-б пачуцьцёвая сьвежасьць.

Тымчасам Макрына лапатала-лапатала ды раптам змоўкла. Лясьніцкі, інстынктыўна заўважыўшы гэта маўчаньне, зірнуў на яе і здрыгануўся.

Макрына ўпарта глядзела на яго, быццам пільна-пільна прыглядалася, быццам не пазнавала. Вочы яе—шырокія, цёмныя—раскрыліся чорным прадоньнем, і ў гэтым прадоньні застыгнуў дзікі адчайны спалох. Быццам яна, захопленая сваёй гутаркай, сваімі лятуценьнямі, не заўважыла, як да яе набліжалася нешта страшное, жудаснае, і толькі тады, як ужо падышло, як стала перад самымі вачмі,—толькі тады ўбачыла і скамянела ад раптоўната жаху.

Лясьніцкі ўстрывожыўся.

— Чаго ты, Макрына, слухай?..

Яна яшчэ момант маўчала, быццам убірала ў сябе да канца тое новае, страшное, што раптам паўстала прад яе сьвядомасьцю. І потым, нічога не адказаўшы яму, адвярнулася і заплакала цяжкім сударгавым плачам.

Лясьніцкі дагадаўся: гэта яна зразумела нарэшце, пачула інстынктам сваім, што дарэмны яе лятуценьні, што тое, у чым яна так шчыра была ўпэўнена, што лічыла ўжо канчаткова вырашаным, што яно цяпер далей, чымся было калі-небудзь, што адкрылася новае—сухое і жорсткае.

І вось тут Лясьніцкі раптам убачыў яе—непасрэдна, проста, як бачыў некалі раней, убачыў яе—любую, слаўную, так глыбока і проста, падзяцінаму адданую яму, і стала страшэнна шкода яе, захлынулася нутро хваляй агнёвага сораму, пачуў усю глыбіню, усю горкасьць крыўды, якую гатоў быў зрабіць ёй. І вось тады ўваскросла тое ранейшае,

агарнула грудзі магутным агнём,—зноў кахаў яе, зноў поўніўся глыбокай, сьвежай пяшчотай.

Ён забыўся на ўсё-чыста, забыўся, што іх тут могуць убачыць, што потым будуць сьмяяцца—у гарачым экстазе стаў перад ёй на калені, узяў яе грубаватыя запрацаваныя рукі і цалаваў іх бясконца, абнімаў, цалаваў калены яе, і гаварыў у нейкім салодка-балючым забыцьці:

— Я пакрыўдзіў цябе... родная... я вінаваты, ну я ведаю, што вінаваты... любая, я пакрыўдзіў цябе... я цябе люблю, да-душы люблю... ты—добрая... ну, даруй... я буду дужа-дужа любіць... дарагая...

Яна спалохана вырывала рукі, адхілялася ад яго, быццам баялася яго прыткненьняў, і ледзь выгаварвала скрозь спазмы сударгавага плачу:

— Не-не... Я-ж... ня ведала... Я думала... так... як было... Я гаварыла... А ты... ты ня слухаў... ня любіш... хай сябе... ня трэба...

А праз колькі хвілін, заспакоіўшыся ў пяшчотных абнімках Лясьніцкага, яна раз-по-раз усхліпвала і гаварыла ўжо другім—глыбокім ад шчасьця, млява-цягучым голасам...

— Ты ня кідай мяне, Васілёк... я прывыкла так... мне ўжо здаецца, што ты—мой, родны... Нашто нам кідаць адзін аднаго? Ці-ж нам дрэнна ўдвух... Га? Ці дрэнна?.. Ну, вось... Дык і будзем так... кахаць адзін аднаго... Ну, пацалуй мяне... яшчэ пацалуй...

Потым яны пайшлі к Дняпру, к старому вернаму сьведку свайго каханьня, селі над кручай, над сівым, разагрэтым ад сонца прадоньнем і вялі ціхамірную гутарку, снавалі ціхія ўзоры шчаснае будучыні. Лясьніцкі ўсё абарачваў да сябе яе твар і глядзеў у яго, прыглядаўся. І пазнаваў яе—сваю ранейшую Макрыну, дзівіўся, як гэта яму здалося было, што яна зьмянілася, стала не такая, якая яму падабаецца. А Макрына была рада, што ён глядзіць на яе, любуецца яе харраством,—яна ўвесь час здаволена, ціха сьмяялася.

У гэты час было Лясьніцкаму ўсё зусім простым і ясным. А блытаніна пачалася ўначы, калі ў тлумным бяссоньні бяс-

концым калаўротам закруціліся ліхаманкава-яскравыя вобразы, калі агарнулі яны нутро цяжкім замяшаньнем.

Паўстаў тады ў уяўленьні Лясьніцкага вобраз паненкі Раісы і сьмела ўварваўся ў тое зладнае, добрае, што было зацяплілася ўдзень. Усю ноч у яскрава-тлумным трызьненьні мітусіўся гэты сьмела-прыгожы вобраз поплеч з вобразам ціхай Макрыны, а часам сплятаўся з ім, урастаў у яго, так што не пазнаць было, ці гэта лунае ў ваччу любая ўсьмешка Макрыны, ці гэта ўжо сьмела, задорна ўсьміхаецца гордая паненка. А то дык у глыбокіх чорных вачох, так прыгожа налітых чыстай сьлязой, раптам загарыцца, засьвеціцца нешта зялёнае, вострае—і ўжо ня чорныя ціхія вочы, а гарэзна-бліскучыя вочы паненкі Раісы—і цягнуць да сябе, зачароўваюць сваім магутным зьмяіным агнём. І зьвініць у вушшу звонкае, поўнае насьмешлівага задору контральто:

— Палюбіце мяне... Добра?.. Ну як, ці згодны вы мяне палюбіць?..

І баляць салодкім болем на вуснах тыя гарачыя, палкія пацалункі.

Усю гэту ноч правёў быў Лясьніцкі ў ліхаманкавай сумятні, і асталася гэта сумятня на доўгі час, пераплялася шчытным, неразьвязным вузлом з ранейшай трывогай, зьлілася ў адну глухую, як сьцяна, няўцямнасьць.

ЗДАРЫЛАСЯ гэта напярэдадні нейкага сьвята. Ніхто не чакаў гэтага, ніхто мо' і ня думаў, што так абернецца справа, але чамусьці і ня зьдзівіўся ніхто, быццам было гэта зусім натуральнае зьвяно ў ланцугу тых падзей, якія настойна вялі да нечага неадступнага, новага, якія сваім фатальна-прысьпешаным чаргаваньнем фактычна й зьвівалі чорную хмару агульнай трывогі.

У той дзень Андрэй з паўдня быў дома. Ён бесьперастаньня хадзіў то ўзад, то ўперад па хаце, аб нечым думаў з ліхаманкавым напружаньнем і відочна хваляваўся. Часамі

ён спыняўся, стаяў некаторы час на адным месцы, быццам разважаючы нешта, потым рашуча ўзмахваў рукамі і нэрвова прысьпяшаў ход, захоплены нейкім незразумелым імкненьнем.

Перад змрокам ён раптам узяў і пачаў парадчыць свой невялічкі чамадан. Лясьніцкі ўбачыў, зьдзіўлена запытаў:

— Што ты?

— Заўтра ўраньні крануся. Досыць ужо—нагуляўся, час узяцца за працу.

— А харчы як—багажом?..

Андрэй ударыў сябе па лбу.

— А ты праўду сказаў, Васіль... Як-жа гэта так...

Ён зараз-жа кінуў чамадан, пабег на вёску і праз поўгадзіны прыцягнуў некалькі кавалкаў сала, чарапок масла і яшчэ нечага ў мокрай і ня зусім чыстай шмотцы.

— Вось і гатова... Гэта будзе Ніне гасьцінец... Яна-ж у нас стала заўзятай гаспадыняй... Як то цяпер там яны з Халімам выкручваюцца...

— Чаму з Халімам?

— Во... Дык ці я табе не казаў, што ён у нас стаў на кватэры. Заняў твой пакой. Але ты, калі ўздумаеш часам прыехаць у горад, дык таксама да нас—у нас комуна вясёлая, табе ўпадабаецца напэўна.

Потым, як ужо ўпакаваўся, Андрэй сказаў Лясьніцкаму ў нейкім неабычайным для яго замяшаньні:

— Я падгаварыў Макрыну паехаць разам са мной. Там ёй лягчэй будзе дайсьці сабе, як удаве салдата, дапамогі. Мы наладзім так, што адтуль проста дадуць загад у павет або ў воласьць.

— Што-ж, гэта добра.

Чым бліжэй к начы, тым больш ахапляла Андрэя нейкая дзікая нэрвовая нецярплівасьць. Ён усё хадзіў, ня мог хвіліны ўседзець на месцы. Калі хто зьвяртаўся да яго з якім запытаньнем, ён спыняўся і з хвіліну глядзеў на таго, тупа выпяўшы вочы, потым пытаўся:

— Што?

І яшчэ хвіліну моўчкі глядзеў. Толькі пасьля трэцяга разу разумеў, у чым справа, і з вінаватай усьмешкай адказваў. Лясьніцкі, нарэшце, ня ўцерпеў, запытаў яго, што з ім такое сталася. Ён дасадліва адмахнуўся:

— Не чапай. Потым сам узнаеш...

Як паклаліся спаць, Андрэй спачатку сядзеў за сталом, чытаючы нешта пры сьвятле мізэрнай лямпачкі, потым устаў і зноў пачаў хадзіць узад і ўперад. Лясьніцкі ляжаў на лаўцы, сачыў за яго аднамерна-нуднымі рухамі. Чамусьці спаць ісьці не хацелася, прыемна было ляжаць так—у глухім цягучым аслупяненьні, слухаць звон у галаве, ды сачыць за віханьнем шчытнай Андрэевай фігуры. І ня прымеціў Лясьніцкі, як пачалі зьліпацца вочы, як фігура Андрэева разьлілася ў суцэльную—на ўсю хату—шэрую пляму, як зьявіўся ў хаце Халіма і пачаў рабіць нейкія мудроныя фокусы, навучаючы яго, Лясьніцкага, па новых правілах біць шыбы. Потым прышла Ніна і пачала пець: „Ах, зачем эта ночь“, а Макрына паказвала на яе пальцам і неяк нахабна, дзіка сьмяялася, як звар'яцелая. А далей пайшоў ужо розны недарэчны тлум, якім звычайна поўніцца ўзбушлаваны дзяннай сумятнёй сон чалавека.

Андрэй будзіў яго з нейкай сярдзітай жорсткай пасьпешнасьцю.

— Уставай... Пойдзем... Ну, хутчэй, а то спозьнімся... Уставай.

Тое самае дрыготнае сьвятло лямпачкі, тая самая ціхая шэрая хата. На печы, на палу чуваць напружана-спакойнае соннае дыханьне. І цыркун у запеччы...

Куды пойдзем? Куды ён кліча? Чаму ён ня сьпіць?..

— Уставай-жа, Васіль... Пойдзем хутчэй...

— Куды?..

Замест адказу Андрэй падымае палец угару, застыгае ў нейкай таемнай нярухомасьці, як страшны варажбіт.

— Чуеш?

Лясьніцкі цяпер толькі пачуў—дасюль мяшалася з цішынёй—недзе плыў у адчайным разгоне трывожны голас

глухога звону, ліў у прасторы вялікую магутную жудасьць, прасіў, маліў аб нечым прасторы, галасіў, поўны густога жалезнага суму.

Лясьніцкі ўраз ускочыў, нэрвова схапіўся за шапку.

І чамусьці—па нейкай дзіўнай асоцыяцыі—у галаве перш паўстаў вобраз Макрыны і некалькі хвілін упарта стаяў у ваччу, не даваў успомніць таго, патрэбнага. А потым ужо выплыў у рэзкай яскравасьці вобраз паненкі Раісы, працяты глыбокай роспаччу, так, як тады, на купальскую ноч. І стала ўсё зразумела—і хваляваньне Андрэя, і яго раптоўныя зборы ў дарогу, і яго ранейшая клапатлівая сумятня. Нечым назольліва-лішнім, непатрэбным убіліся ў вушы поўныя вясёлай усхваляванасьці крыкі на вуліцы:

— Маёнтак гарыць!.. Паны загарэліся!.. Гайда ў маёнтак!..

Хлопцы беглі, як мага, абганялі з нецярплівай пасьпешнасьцю гурмы сялян, якія ўжо загацілі глухую чорную дарогу. Лясьніцкі ўсё паўтараў, як няпрытомны:

— Скарэй, Андрэй... Скарэй, скарэй...

І парываўся ўперад, поўны нейкай нэрвовай імклівасьці.

Над лесам злавесна крывянілася неба. Было ў гэтым жудасным сьвятле нешта крыважэрнае і разам з тым урачыста-шырокае, напружана-пышнае. Быццам у гэтым наўмысна распаленым бляску самадавольна прымала неба страшэнную агнявую ахвяру. А як убеглі ў лес, згінула зарава, агарнула непарушна-ціхая цемра, і толькі нэрвова-ўзьнятыя галасы па дарозе падтрымлівалі трывожны настрой.

Потым нібы парадзеў чорны мрок, разбавіўся нечым дрыготна-бялясым. А яшчэ далей бялясае перайшло ў ружовае, пачало гусьцець, чырванець, і нарэшце ў прахонах паміж дрэў бліснуў чырвоны, дзіка разьюшаны агонь пажару.

Ужо цалком былі ахоплены полымем дваровыя будынкі і неяк нехаця, спакваля загараліся абтанкаваныя знадворку панскія пакоі.

У маёнтку было поўна народу. Вакол пакояў сяляне пасталі роўнай, шчытнай сьцяной і моўчкі глядзелі, як з

шумам і з трэскам, з нейкім глухім жудасным гудам уядаўся разьлютаваны агонь у непадатны будынак.

Лясьніцкі з Андрэем, нэрвова расьпіхаючы натоўп, пралезьлі наперад. На пляцоўцы, якая засталася паміж сьцяной людзкога натоўпу і домам, у зыркім сьвятле яскравага полымя недалужна кідалася ўва ўсе бакі невялічкая купка панскіх парабкоў, стараючыся пагасіць яшчэ не набраўшы вялікай моцы агонь. Сярод іх цёмным сілуэтам сноўдаўся „Карла", аддаючы загады грубым асіплым голасам. Гэтыя загады не рабілі бадай што ніякага ўплыву, бо іх больш слухалі, чым выконвалі. Відаць было, што парабкі толькі спраўляюць свой службовы абавязак, што яны ані-ні не зацікаўлены ў выніках свае працы.

А сяляне стаялі грузнай нярухомай сьцяной і спакойна глядзелі на сьмяротную гульню крыважэрнага полымя. Яны, вядома, бачылі, разумелі, што яшчэ можна ратаваць будынак, што для гэтага досыць шчыра ўзяцца дзесятку-другому чалавек. Але вось бачылі і разумелі, а стаялі моўчкі, ніхто ня крануўся з месца.

Перад натоўпам лётаў зьбянтэжаны стары пан, кідаўся ад аднаго к аднаму, неяк сьмешна, з нязграбна-лісьлівым нязвыклым для яго прыніжэньнем прасіў, маліў, каб памаглі тушыць.

— Браточкі, родныя... Я прашу вас, зрабіце ласку... Браточкі... Ну ня стойце-ж так, вазьміцеся... Я заплачу... Памажэце, родныя, даражэнькія...

Потым ён адбягаў, бег да агню, там мітусіўся троху, нешта крычаў парабкам, кідаўся туды-сюды і зноў вяртаўся да сялян, зноў пачынаў іх прасіць.

Сяляне не сьмяяліся, хоць і было поўна комізму ў раструшанай сухарлява-лёгенькай фігурцы старога пана, апранутай у нейкі сьмешны куртаты халацік. Сяляне не сьмяяліся— жыцьцё навучыла іх быць сур'ёзнымі перад тварам грознай магутнай стыхіі. Сяляне маўчалі хмура, напружана, быццам глядзелі на нейкае дзікае, поўнае ўрачыстай велічы, набажэнства.

Лясьніцкі ўсё гэта бачыў, і яго ахапляла тупая, чорная жудасьць. Ён азіраўся па бакох, ліхаманкава шукаў, каб убачыць хоць адзін твар, асьветлены спачуваньнем, і ўсюды бачыў адну страшэнную бясслоўную змову, адусюль выглядаў цень маўклівае помсты. Адчувалася, што ўсе ўпарта сочаць адзін за адным, што ўсе адзін аднаго адчуваюць, што ўсе зьліты ў адно каменнае, грознае. І гора таму, хто-б памкнуўся пераступіць гэты бясслоўны зговар, хто-б памкнуўся парушыць нявідны, але цьвёрда, жорстка ўстаноўлены закон грамады!..

Гэта была стыхія—ня менш магутная, ня менш грозная за тае, што. глытала цяпер сваім бяздоным агнёвым зевам панскі маёнтак. Лясьніцкі адчуваў гэта і міжвольна працінаўся жудаснай павагай і страхам перад гэтай стыхіяй, перад каменна-зьлітай сьцяной людзкой нянавісьці. Але скрозь павагу і страх вырывалася аднекуль з падсьвядомай глыбі другое пачуцьцё—вострае, сьмелае—пачуцьцё жывога чалавечага протэсту супроць дзікай стыхіі, супроць зьвярынае жорсткасьці. Гэтае пачуцьцё ўзмацнялася з кожнай хвілінай, ад яго неяк дзіўна здрыгалася ўся істота, захлыналіся грудзі хваляй гарачай нэрвовай энэргіі. І расла, разбухала ў грудзёх шалёная адвага, гатова была прарваць цяжарны пласт даўкага страху, выліцца ў нейкі злосна-рашучы ўчынак. Паўстаць супроць гэтай глуха-замкнёнай сьцяны, прабіць гэтую нечалавечую змову, паказаць, што гэта пазьвярынаму дзіка і жорстка!

І чуў Лясьніцкі, што яшчэ адна кропля, адзін маленькі штуршок—і ён пойдзе ў разрэз з грамадой, сьмела паўстане супроць маўклівага закону яе, разарве яе магутную згоду. Хай там будзе, што будзе!

Гэты штуршок дала паненка Раіса. Ён нечакана заўважыў яе збоку, пад маладой клянінай, дзіўна афарбаванай дрыжачай крывянай чырваньню. Яна была ў лёгкай белай сукенцы, насьпех накінутай, непадперазанай, валасы яе былі бязладна распушчаны, яна ўся была прасякнута трывогай і дзікім, балючым неўразуменьнем. Яна ня зводзіла вачэй з натоўпу сялян, дзе недалужна семяніў яе бацька, і ў гэтых

дзіўна-прыгожых вачох, увабраўшых, здаецца, у сябе ўвесь бляск пажару, Лясьніцкі ўбачыў маўклівую мальбу, перамяшаную з палкім нечалавечым болем. Трудна было зразумець, аб чым больш баліць яе сэрца: ці аб тым, што гіне ў агні ўсё тое, з чым яна пражыла жыцьцё, з чым зраднілася, звыклася, што ніхто ня хочаісьці ратаваць, ці аб тым, што так няпрыгожа, так ганебна прыніжаецца яе бацька. Яна напружна падалася наперад, да натоўпу, і востра блішчэла вачмі, гатовая кінуцца туды, да бацькі, гатовая сама прасіць, маліць—мо' для таго толькі, каб падзяліць з бацькам яго прыніжэньне, каб не глядзець з боку, не гарэць ад нясьцерпнае мукі.

Лясьніцкі ня мог адвесьці вачэй ад Раісы. І чым больш глядзеў, тым больш адчуваў яе душэўную муку, і сам мучыўся разам з ёй, сам адчуваў у сэрцы агнёвы боль. І ад гэтага болю, ад гэтае нязьмернае жаласьці яшчэ больш узяў сілы голас протэсту, яшчэ вастрэй усьпеніў нутро буянай адвагай, сьмеласьцю.

А Раіса нарэшце ня вытрымала. Лясьніцкі бачыў, як пыхнуў у яе вачох апошні агоньчык душэўнае барацьбы, як яна ірванулася наперад, потым нібы сунялася і ціха пайшла к натоўпу, палахліва, няпэўна ступаючы па траве босымі ненатуральна бледымі нагамі. Яна зусім блізка падышла да Лясьніцкага, і ён добра заўважыў, з якім сьціснутым болем яна зьвярнулася да сялян.

— Грамадзяне!..

Яна спынілася—ня ведала, што гаварыць, ці мо' не магла—і неяк глыбока павяла па натоўпу шырока раскрытымі поўнымі хваляваньня вачмі. Потым, мабыць сустрэўшы нечую ўсьмешку, жахліва замятушылася, быццам убачыла нешта дужа-дужа страшное і ўжо гатова была пайсьці назад, але ў гэты момант убачыла Лясьніцкага. У вачох яе бліснула надзея. Яна парыўчата кінулася да яго.

— Васіль Данілавіч!.. Памажэце мне!..

У гэтым ускрыку яе была і радасьць ратунку, і палкі агонь нутранога болю, і даверлівая надзея.

Лясьніцкі азірнуўся наўкола. Усё—свае, знаёмыя твары. І ўсё—чужыя, бо такіх ён ніколі ня бачыў на вёсцы. Глядзяць, усьміхаюцца. Ня ўсьміхаюцца, а неяк дзіка зларадасна шчэрацца, быццам гавораць бяз слоў:

— А ну, паспрабуй, галубок! Паспрабуй пайсьці супроць нас, супроць нашае волі.

А Раіса стаіць перад ім дзіўна-прыгожая ў сваім гарачым хваляваньні—глядзіць поўнымі маўклівай просьбы вачмі, чакае. І цяпер ужо выразна ўбачыў Лясьніцкі ў яе любых прамяністых вачох сьветлыя іскрынкі балюча-стрымленых сьлёз.

Тады Лясьніцкі адважыўся. Хай будзе, што будзе! Ён сьмела, рашуча ступіў наперад, упарта зірнуў у натоўп і крыкнуў:

— Хлопцы! Ня можна так! Гэта—зьвярынства! Хадзем, паможам!..

Яму адказалі маўчаньнем. Некаторыя едка ўсьміхнуліся. Чалавекі тры памкнуліся выйсьці наперад, але іх зараз-жа ўцягнулі назад упартыя пагляды сялян. Тады Лясьніцкі крыкнуў у нейкім злосным адчаі:

— Дык я адзін... Хто хоча—за мной!..

Апошняе, што застрала ў яго вачох—гэта пагардлівая, крывая нейкая ўсьмешка Андрэя. І чамусьці мігнула ў думках:

— Ну што-ж... Прапала ўсё, дык прапала...

Ён кінуўся к агню, туды, дзе поркаліся парабкі, схапіў нейкае вядро, некуды ліў ваду—нашто і сам добра ня ведаў, бо замуцілася ўсё ў галаве гарачым ліхаманкавым тлумам—дрэнна разьбіраў, што дзеецца вокал.

Пажару спыніць не ўдалося. Ён набіраў усё большую моц, гудзеў з кожнай хвілінай усё з большай злавеснасьцю, з большай гразою. З магутным трэскам вырываліся ўгару слупы злосна-імклівага полымя, гналі перад сабой вялізныя ахапкі сумятлівых іскр. А там, дзе яшчэ не прарваўся агонь, дзе ён тачыўся яшчэ ў сярэдзіне, употайку, там шырокімі разложыстымі клубамі зважна лез у неба чорны дым—густы, як ноч, і цяжкі, як хмара.

Калі ўжо ахапіў агонь увесь будынак, калі з аднаго боку ўжо абвалілася з трэскам страха, раптам прабегла па натоўпу шпаркая, як маланка, вестка:

— Сьвірны б'юць... Панскія сьвірны б'юць парэчанцы...

І вось кінуліся ўсе туды, дзе стаялі на водшыбе панскія сьвірны, дзе за моцнымі замкамі, у вялізных дубовых засеках ляжалі запасы панскага дабра.

У гэты час Лясьніцкі—змардаваны, зьняможаны фізычнымі патугамі і душэўнай бурай—адышоўся ад агня і ўбачыў: на апусьцелай пляцоўцы, дзе раней была сьцяна людзкога натоўпу, стаіць Андрэй, злажыўшы на грудзёх рукі, і глядзіць у вагонь з задуменна-гордай давольнай усьмешкай. Як убачыў Лясьніцкага, перамяніў усьмешку на тую пагардлівую, крывую.

Лясьніцкі загарэўся шалёным гневам. Ён падышоў да Андрэя, амаль што ўпёрся ў яго, і прагаварыў нейкім нечаканым для самога сіпучым здушаным голасам:

— Ты... гэта зьвярынства... гэта... дзікая крыважэрнасьць... ты—разбойнік...

Андрэй спакойна глядзеў на яго, не крануўся нават, толькі ўсьмешка стала пустой, халоднай.

— І ты палічыў патрэбным зьмяніць гэта на рыцарскую далікатнасьць і паслужнасьць?

Лясьніцкі яшчэ горш загарэўся. Хацеў нешта сказаць, але злосьць здушыла горла. Тады Андрэй зусім весела засьмяяўся.

— Ты можа біцца хочаш? Калі ласка... Але-ж гэта не адпавядае высока-культурным уласьцівасьцям твайго характару...

Лясьніцкі нічога не адказаў, моўчкі адышоўся прэч. Ён ня так ужо й пэўна адчуваў сваю справядлівасьць. Гэты выбух шалёнага гневу быў больш інстынктыўнай маскіроўкай таго няпрыемнага пачуцьця, якое чорным комам пачало зьвівацца ўнутры на глебе нядаўнага непаразуменьня з сялянамі. Цяпер, калі прайшоў запал гарачага моманту, зьніклі ўсе тыя разважаньні, якімі апраўдваў свой учынак. Як ён ні стараўся навесьці на іх свае разбушлаваныя думкі,—нічога

ня выходзіла. Замест гэтага тупа расла цяжкая сьвядомасьць, што зроблена непапраўная памылка, што цяпер глыбачэнная прорва лягла паміж ім і вяскоўцамі, што цяпер ён чужы для вёскі, вораг яе.

Яму страшэнна не хацелася больш аставацца тут, не хацелася сустракацца сёньня з вяскоўцамі. Ён гатоў ужо быў пайсьці дамоў ці так куды-небудзь, але зьявілася раптам настойнае бажаньне ўбачыць Раісу. Ён заўважыў яе пад той самай маладой клянінай. Яна сядзела на нейкай скрынцы і плакала, прыхінуўшыся да дрэва. Каля яе мітусіўся стары пан і мізэрная бабулька—мабыць нянька яе. Абое нешта горача ёй гаварылі—пэўна стараліся супакоіць.

Лясьніцкі не адважыўся падыйсьці—не хацелася з ёй сустракацца пры бацьку. Колькі хвілін ён глядзеў на яе здалеку, працяты бязьмерным жалем, лашчыў яе ціхім, поўным адданай пяшчоты поглядам, выбіраў у думках і паўтараў бясконца самыя добрыя, самыя ласкавыя словы спачуваньня. Потым рашуча завярнуўся і пайшоў пасьпешнымі крокамі прэч ад маёнтку. Ужо вышаўшы на шлях, ён раптам убачыў новы агонь троху воддаль ад згарэўшых пакояў: гэта сяляне падпалілі абрабаваныя панскія сьвірны.

Лясьніцкі адразу дамоў не пайшоў. Трэба было неяк разважыць той натоўп пачуцьцёў, які сьціснуў, здушыў глухой пятлёй усю істоту. Ён збочыў на першую сьцежку, якая трапілася па дарозе, і ўглыбіўся ў вільготную, шэрую ад цьмянага зараньня гушчэчу.

А вярнуўся дамоў Лясьніцкі тады, як усплыло ўжо на небе сьвежа-барвянае сонца, як разьліло па роснай зямлі густую сваю пазалоту. У хаце ўжо былі ўстаўшы. Матка затапляла печку, а бацька поркаўся недзе на двары. Брат яшчэ не вярнуўся з начлегу.

У хаце чакаў Лясьніцкага Андрэй, зусім гатовы ў дарогу. Лясьніцкі глуха яго запытаў:

— Ужо сабраўся?..

— Так... Макрына пайшла наперад, я астаўся, каб разьвітацца з табой.

Лясьніцкі зразумеў, што Андрэй наўмысьля паслаў Макрыну наперад, каб пабыць адзін на адзін з ім—не хацеў ехаць так, не разважыўшы таго непаразуменьня, з якім разышліся ў маёнтку. І замест ранейшага гнева цяпер зацяплілася ў сэрцы ў Лясьніцкага сымпатыя да Андрэя, вярнулася тое цёплае, сваяцкае пачуцьцё, якое было ў першы момант іхнай сустрэчы тут, на вёсцы.

— Я пайду разам з табой на вакзал... калі хочаш...

Андрэй гэтага і чакаў.

— Вядома... Я буду рад... Ну, дык пайшлі...

Аднак яшчэ затрымала іх матка—прымусіла на дарогу пасьнедаць.

ПАМЫЎШЫСЯ ў чыстай расе, сонца пабялела, павесялела—яго праменьні разьвеялі ўжо сваю густа-чырвоную хмурасьць і пачалі заводзіць з квяцістай, млявай ад нядаўнага сну зямлёй палкія любоўныя пяшчоты. Але зусім яшчэ не расплыўся холад маўклівага прасынаньня.

Над Дняпром бесканцовым кругазваротам плаваў туман, быццам круціўся, тупаў на месцы, набіраючы сіл, каб нарэшце ўзьняцца ўгару, выбрацца з прытульнага логава свайго начлегу. А Дняпро ані-ні не зважаў на яго турбацыю. Ён ішоў праз яго ў магутным люстраным спакоі, моўчкі ўбіраў у сваё сьцюдзёнае ўлоньне мяккі, ужо троху сагрэты блакіт глыбокага неба.

Над Дняпром стаяла празрыстая ціхасьць, насычаная шопатна-клапатлівым ледзь чутным шуматам імклівае плыні. Яе парушала нейкае асьцярожнае, мэлёдычнае, як ціхі ўспамінак, хлюпаньне ды сьмела-шумлівае, рэзкае чоханьне вады, якую выліваў з лодкі перавозьнік Саўка.

Дзед вытыркнуў сваю ўсклычаную галаву, запытаў з з ласкавым зьдзіўленьнем:

— Ты куды-ж гэта, Васіль, выпраўляешся?..

— Нікуды, дзядулька, праводжу вось таварыша...

— А, таварыша...

Ён кінуў на Андрэя няўважна-абеглы погляд і з пачціва-ласкавай буркатнёй завінуўся каля парому.

— Яшчэ пасьпееце, дзеткі... Ого, заранньня выбраліся. Яшчэ балаголы ня ехалі...

За Дняпром перад хлопцамі гонка расхінуліся глыбока-зялёныя росныя сенажаці, на якіх ужо паволі шаваліліся завязлыя па пояс у траве касцы. Косы чыркалі здалеку квола, прыглушана, і здавалася, што гэта недзе зусім блізка верашчаць скачкі, а косы ходзяць бясшумна і лёгка, як у пустым паветры.

Над сенажацьцю жаласна плакалі чайкі і, нібы ў насьмешку над імі, рассыпаліся тонка-срабрыстымі гарэзьлівымі званочкамі высокія, як неба, жаўранкі. У паветры востра мільгалі рознакалёрныя стрэлкі, на кветкі буркліва прымашчываліся вечныя поркалы-шчамялі, скачкі рэзалі паветра моцным—як мага—верашчаньнем. Дзень уставаў поўны, раздольны, да краю прасычаны яскравым жыцьцём.

Андрэй спыніўся, паставіў на дол чамадан і глыбока, шчасьліва ўздыхнуў, акінуўшы вокам разгонна-зялёную далеч.

— Васіль! Ці хочацца табе абняць во гэта жыцьцё, га?.. Або кінуцца долу, распрастацца бязьмежна, каб аж дасягнуць вун да таго ляску, што схаваўся ў смагу, каб застыгнуць навек у нявымоўнай слодычы адчуваньня гэтага хараства... Ты, Васіль, не глядзі на мяне так зьдзіўлена, я ўмею любіць хараство і разумею яго. Для гэтага ня трэба мець нейкага нязвычайнага таленту. Я страшэнна люблю жыцьцё, люблю кожнае яго стварэньне ўсьцяж да самае малюпасенькае казюлькі, во да гэтага жучка, што сеў мне на грудзі... Гэты жучок падскаквае, калі яго пакласьці на сьпінку... Во, бачыш? Глядзі, Васіль? Бачыш? Во, во...

І ён, як дзіця, забаўляўся з жучком. Потым пяшчотна пусьціў яго поўзаць па руцэ, цярпліва чакаў, пакуль той паляціць.

Лясьніцкі хітравата ўсьміхнуўся.

— А чалавека ты любіш?

— О, больш за ўсё...

Потым ён заўважыў усьмешку Лясьніцкага, дагадаўся, што ён меў на ўвазе...

— А, ведаю, куды ты закідаеш... Ха-ха!.. Тут, брат, трэба разабрацца глыбока... Мо' я затым і не жалею некаторых людзей, што люблю чалавека. Ха-ха!.. Іш—ты куды...

Сьмяючыся, ён расьперазаў рэмень, зачапіў на яго чамадан, перакінуў за плечы і пайшоў, перавальваючыся на хаду з нейкай грубавата-вольнай сілай.

Ён пачаў нешта расказваць—вясёлае, сьмешнае—з свайго жыцьця. Расказваў паволі, расьцяжліва, як звычайна расказваюць звыклыя да далёкіх дарог хадакі. Лясьніцкі слухаў уважна, але з нейкай дасадлівай нецярплівасьцю. І чым далей ішлі, тым больш расла гэтая нецярплівасьць. Баяўся, што не астанецца часу пагутарыць аб больш важным, сур'ёзным, аб чым так рупіла пагаварыць.

Прайшлі сенажаць, увайшлі ў лёгкі барок. Тут патыхнула смалістай, пахучай цеплю, агарнула сьветлая цішыня, якая бывае звычайна ў сонечны дзень у маладым сасновым ляску.

Лясьніцкі ведаў, што адсюль асталося ўсяго вярсты паўтары. Нецярплівасьць перайшла ў трывогу. Няўжо так дойдуць да станцыі і ня ўсплыве тое важнае? І ён рашыў першы пачаць гутарку.

— Слухай, Андрэй, я хачу аб нечым з табой пагаварыць...

— Давай... Ну, пачынай, аб чым ты там хочаш...

Лясьніцкі троху падумаў—шукаў лепшага пачатку.

— Во што. Перш за ўсё—калі, вядома, ты мне давяраеш—скажы, гэта-ж ты наладзіў гэты пажар і рабунак?..

— Я накіраваў толькі тое нутранае абурэньне, якое ўсё роўна неяк-бы вылілася. Ну, не спалілі, дык-бы забілі, абакралі, акалечылі... Мала як магло абярнуцца...

— Ну, так, я разумею... Але-ж нашто гэта? Нашто гэты агонь, гэты разбой, нашто тая кроў, якая, ты сам кажаш, магла быць і якая можа яшчэ будзе? Нашто? Каму гэта трэба?..

Андрэй зьдзіўлена зірнуў на яго, нават спыніўся.

— А бач! Што ты гэта пытаеш, Васіль?.. Ты нешта ня так, ня тое пытаеш... Можа ты хацеў спытаць—чаму? Чаму ўсё гэта робіцца? Дык, мне здаецца, ты павінен ведаць гэта больш, як я. Адказ зусім лёгка знайсьці на гэта запытаньне— досыць прыгледзіцца да сялянскага жыцьця, да яго чорных гаротных праяў, да бядоты, да вечнае крыўды... Вось і адказ... Разумееш?..

Лясьніцкі ўсьміхнуўся.

— У цябе гэта проста выходзіць, да жаху проста. Усё-ткі ня тое... Я хачу знаць—нашто? Ці трэба гэта? Мо' гэта нічога ня дасьць, толькі разбудзіць дзікія інстынкты? Можа гэта трэба неяк стрымліваць, шукаць іншых спосабаў, іншага шляху...

Андрэй чамусьці зарагатаў.

— Стрымліваць, ха-ха!.. Іш ты, як гэта гуманна!..

Потым ураз стаў сур'ёзны, спыніўся, узяў за руку Лясьніцкага.

— Давай сядзем тут, адпачнём.

Яны сышлі з дарогі, селі на дол.

— Слухай, Васіль. Калі ў тым доме, які ўвесь дыміцца, гатовы ў кожную хвіліну пыхнуць вялікім магутным агнём, які ўжо загараецца, які ўжо смагла ліжуць языкі полымя, калі ў гэтым доме хадзіць са шмоткай і заціраць асобныя дробныя іскрачкі,—ці будзе гэта разумна, га?.. Ці будзе ў гэтым сэнс які-небудзь?.. Дык вось, Васіль, усё гэта—іскрачкі. А сапраўдны агонь яшчэ будзе, ён выбухне разам, і гэтыя іскрачкі растануць у ім, увальлюцца ў яго. Ён ідзе, гэты агонь, набліжаецца. Гэты агонь будзе страшны—у ім будуць і стогны, і кроў, у ім будзе чорная сьмерць, у ім будзе вялікае руйнаваньне. Ён таму й будзе жыватворчы, гэты агонь, што скалане ўсё магутным ударам свайго зьністажэньня, разбудзіць сьвежыя сокі зямлі, дасьць балючы, але патрэбны штуршок застыгламу ў аледзянелых формах жыцьцю... Пажар набліжаецца... Ха-ха!.. Пажар будзе не такі, які ты бачыў сёньня, гэта толькі прэлюдыя, толькі падрыхтоўка...

Ужо відаць зарава, ружавее на ўкрытым чорнымі хмарамі небе... Жыцьцё, Васілёк, разьвінаецца, жыцьцё будзе цікавае, дзіўна-прыгожае... будзе агонь, а з агня родзіцца новае, нябачанае...

Андрэй гаварыў у нейкім гарачым захапленьні. Яго вочы дзіўна пацямнелі, страцілі мяккасьць сваю, загарэліся чорным вострым агнём. Ён быў падобны на нейкага таемнага вяшчуна, на прарока. Ён фанатычна верыў у тое, што гаварыў.

Лясьніцкаму рабілася страшна. Ён верыў Андрэю, чуў у словах яго нямінучае, чуў жорсткую, жудасную праўду. У гэтых словах, у ліхаманкавым бляску вачэй, у жудасным вешчаваньні Андрэевым лунаў чорны цень той трывогі, што зьвілася ў апошні час, навісла цяжарнай хмарай, прыдушыла глухой няўцямнасьцю.

Не заспакоіў Андрэй Лясьніцкага, ня даў яму таго, што-б пагадзіла яго з гэтым неадступным, страшным, што-б разьвеяла трывогу. Толькі больш жудасьці, страху набыў ён ад гэтае гутаркі.

Далей ішлі моўчкі—кожны думаў сваё. Не даходзячы гоняў з двое да станцыі, убачылі Макрыну. Яна сядзела каля дарогі і весела сьмяялася ім насустрэчу.

— Во, якія яны... Я чакаю-чакаю...

— Чаго-ж ты сядзіш тут?

— А што я там буду... Ня люблю, дзе многа народу... Ды ўсё чужыя...

Раптам Андрэй утаропіўся ў яе, з жартлівым адчаем разьвёў рукамі:

— А бач! Яна ўжо й разуцца пасьпела... Ну што-ж мне рабіць з табой?.. Гэта-ж ты чаго добрага і ў горадзе так прылаўчышся.

Макрына вінавата сьмяялася.

— Калі-ж ня звыкла я. Улетку ды ў чаравіках...

Яна нехаця набулася, і яны пайшлі на станцыю—там Андрэй узяў білеты, яны патаўкліся троху сярод густога натоўпу падарожных і потым вышлі на залітую сонцам пляцформу.

Тут сустрэла Лясьніцкага дзіўная нечаканасьць. На краю пляцформы, дзе пачынаюцца рэйкі, стаяла паненка Раіса і пільна ўглядалася ў той бок, адкуль павінен быў прыйсьці поезд. Яна страшэнна зьмянілася—вочы глыбока запалі, суха гарэлі ліхаманкавым агнём, твар пакрыўся густой хваравітай цьмянасьцю. Яна пачула іх крокі і інстынктыўна перавяла на іх марудны зmораны погляд.

Лясьніцкі прывітаўся. Яна заўважыла, радасна ўсхапянулася і пайшла да яго з сумна-прыветнай усьмешкай.

Мусіць нешта вельмі яскрава адбілася ў гэты момант на твары Лясьніцкага, бо Макрына, якая сачыла за ім, раптам працялася тым адчайным спалохам, які ўжо бачыў Лясьніцкі ў яе ў час іхнае гутаркі пасьля весткі аб сьмерці мужа. Яна шырока раскрыла вочы, быццам убачыла нешта нечаканастрашное, дзікае, і недалужна схапілася за руку Андрэя, прытулілася да яе, нібы шукаючы абароны. Гэта заняло ўсяго адзін момант і, апрача Лясьніцкага, бадай што ніхто гэтага не заўважыў.

Раіса падышла, запытала:

— Вы едзеце, Васіль Данілавіч?..

— Не, я ня еду. Я праводжу свайго таварыша. Вось, будзьце знаёмы...

На яго дзіва Раіса адказала з едкай усьмешкай, за якой хавалася трывожнае хваляваньне.

— Мы сустракаліся. Мы знаёмы... Добры дзень...

Яна наўмысьля падкрэсьліла сваё прывітаньне, каб паказаць на яго недалікатнасьць. А ён адказаў зусім спакойна, нібыта-што:

— Добры дзень!

— Куды вы едзеце?

Андрэй адказаў. Яна хвіліну маўчала, нібы разважаючы нешта, нібы хацела нешта сказаць, ды ня важылася. Потым загаварыла з наўмыснай рэзкасьцю.

— Я таксама еду туды... адна. Я даўно ня езьдзіла і баюся цяпер... Я-б хацела, каб ехаць разам з вамі...

Андрэй з нейкай загадкавай усьмешкай разглядаў мысок свайго бота.

— Што-ж, паедзем разам... Вось таксама падарожніца... Пазнаёмцеся.

Ён паказаў на Макрыну. Паненка з пасьпешнай гатоўнасьцю падала ёй руку. Лясьніцкі заўважыў, як ледзь-ледзь крануліся куточкі яе вуснаў, як прасьлізнуў па твары ў яе цень грэблівай грымасы. А Макрына нясьмела ўзяла пешчаную панскую руку, нязграбна яе патрымала і неяк скоранька, палахліва выпусьціла, быццам ня рука была гэта, а страшная гадзюка.

У гэты час аднекуль зьявіўся бацька Раісы. Яна яму весела крыкнула:

— Вось я найшла сабе падарожнікаў!

Пан падазронна азірнуў іхную несамавітую кампанію, але—што зробіш?—прышлося ветла саладжава ўсьміхнуцца.

— Так-так... гэта добра... я дужа рад...

Праз хвіліны тры прышоў паўнютка набіты поезд. Андрэй неяк упіхнуў адну за аднэй сваіх падарожніц, і толькі ўскочыў сам, як заядла сьвіснуў кондуктар, захрыпеў асіплы ад зморы паравік, і поезд крануўся.

Лясьніцкі астаўся адзін. Ён стаяў на пляцформе аж пакуль, закрыўшыся клубком белага дыму, ня зьнік поезд за далёкім лясістым заваротам. Тады прайшоўся яшчэ разы са два па пляцформе, быццам баяўся, каб чаго тут не забыцца, быццам што ўспамінаў, і—пануры—пабрыў са станцыі.

І вось агарнуў яго цяжкі беспрасьветны сум. Пачуў ён сябе адзінотным, усімі пакінутым. Успомніў вёску—не захацелася ісьці туды, палохала там нешта варожае, чорнае.

Андрэй разумее. Андрэй тож быў злосны тады, яшчэ так пагардліва, дрэнна ўсьміхаўся. А потым-жа зразумеў, нават першы захацеў гаварыць з ім. А вёска гэтага не даруе. Там іначай, там проста: з намі, ці не...

Лясьніцкі дайшоў да ляска, забраўся ў густыя кусты алешніку і лёг там, глыбока аддаўшыся свайму шчымліваму суму. Неяк жыва, выразна паўсталі ў ваччу твары Андрэя, Макрыны,

Раісы—ахінуліся смутнай прыветнасьцю, сяброўскай ласкай. Усе былі цяпер аднакава любыя, усе былі блізкія, родныя.

Макрына, дарагое дзіця... Што яна думае цяпер пра яго? Яна нават ня ўсьміхнулася на разьвітаньне, толькі зірнула глыбока так, жаласна. І гэты адчайны спалох—ён астаўся ў любых ясных вачох—у чорным маўклівым прадоньні.

Што цяпер рабіць? Куды падацца? Дзе знайсьці прытулак азьнібеламу сэрцу, дзе разьвеяць чорную жудасьць, трывогу?..

А вакол так пярэста зьзяе жыцьцё, так цудоўна зьвініць бязрупатная весялосьць, шырокая радасьць. Міма, міма йдзе гэта жыцьцё—з сонцам, з чыстым срэбрам жаўранкі, з ціха-пявучым блакітам—пакідае яго самотнага, хворага, пакідае на зьежу чорнаму суму.

Што рабіць? Куды падацца?

І доўга, мо' колькі гадзін ляжаў так Лясьніцкі—адзінотны, пакінуты—і ў бязьмежнай роспачы прыслухоўваўся да болю свайго, да мукі. Калі-ж сонца пад паўдзён падабралася, калі застыгла ў паветры душна-яскравая сьпякота, тады ўзяла сілу фізычная змора—заснуў цяжкім ліхаманкавым сном.

У той дзень увечары, прышоўшы да хаты, Лясьніцкі пісаў ліст Нікадзіму Славіну. Вось пачатак таго ліста:

„Любы мой, дарагі друг!

Пашкадуй мяне, бо мне страшэнна цяжка. Жыцьцё ўстала глухой, непрагляднай сьцяной, агарнула ўсяго цемра і жудасьць. Ня ведаю, куды падацца, дзе знайсьці сабе месца. Чую, нешта йдзе, набліжаецца—нешта страшное, і дрыжу, баюся, гатоў, як той стравус, зарыцца ў адчаі галавой кудынебудзь, каб нічога ня чуць, ня бачыць. Адзінота... Добры мой Нікадзім! Ці зазнаў ты калі цяжар беспрасьветнай адзіноты?.. Гэта такая нясьцерпная мука, калі адзін, абсолютна адзін, калі няма каму слова сказаць. Сягодня я ўспомніў нашы апошнія дні ў горадзе. Ці помніш ты іх? Ці помніш нашы бяссонныя ночы, лятуценьні нашы—такія непазбыўна-прыгожыя, такія сьветлыя? Помніш вечары ў Матруніна?.. Я знаю, ты не забыўся на гэта на ўсё. Ты-ж яшчэ большы

романтык, як я, ты сьмялей, паўней умееш аддацца лятункам. І вось—слухай, Нікадзім,—усё-ж гэта паляцела, разбурылася, адзін-жа попел астаўся, брудная шума. Няма таго радасна-сьветлага—чорна ў жыцьці, страшна і жудасна. Ня ведаю, што рабіць, баюся, дрыжу, гатоў зрабіць з сабой што-небудзь нядобрае. Ратуй мяне, Нікадзім, скажы такое слова, каб супакоіць мяне—я цябе зразумею—дай падтрыманьне. Хоць тое вярні, што было тады, каб зноў забыцца на жыцьцё, каб зноў было радасна-сьветлае, нязбытна-прыгожае, каб былі лятуценьні. Пашкадуй мяне, родны, бо цяжка мне, дужа-дужа цяжка...“

І яшчэ ў той вечар хадзіў Лясьніцкі на прыгуменьне і плакаў там пад старой разложыстай бярэзінай.

---

## ЧАСТКА ЧАЦЬВЕРТАЯ

ВОСЬ ЦІХІ бярозавы шлях, абвеяны задуменнымі вятрамі, абвеяны бязьмежна-цягучымі думкамі самотных падарожнікаў,—вось ён у млявым жнівеньскім сонцы, у ціхавейным паху блізкае восені. Старэнькі бярозавы шлях дыхае нечым сумна-далёкім і спакойна-імклівым. От ён цягнецца, клыпае сабе памаленьку, як старавечны, але жывучы дзядок, паглядзіць навакол, пажмурыцца на белае сонца, усьміхнецца ў сівую сваю бараду дый пайшоў, дый пайшоў. І няма, здаецца, яму ні канца ні пачатку, бязьмежны ён, як сьвет, як жыцьцё, і вечны ў сваёй маўклівай старасьці.

Славін ідзе, недалужна згарбаціўшыся пад цяжарам свае нязграбнае клумкі, і ён страшэнна падобны на адну з тых карузлых бярэзін, што крыва ўкланіліся абапал дарогі. Сьмешна чамусьці, што ён у аднэй мультавай сарочцы (здаецца, прасьцей-бы яму ў нечым даўгім і раскошным, што-б хавала худую фігуру яго), сьмешна, што сарочку ён нізка-нізка перацягнуў тонкім рамнём, і яна вісіць карыкатурна пакрыўленым ад фігуры простакутнікам. А вочы яго, як той шлях—старэнькія і ціха-бязьмежныя, і троху сумныя, добрыя.

Славін, ідучы, філёзофствуе. Ён старанна зморшчыў лоб, забыўся на ўсё-чыста ў сьвеце і з патугай формулюе сваю наіўную тэорыю „залатой адлегласьці“. Тэорыя дзяцінная, сьмешная, але Лясьніцкаму люба слухаць, бо ён чуе тут сьляды тых самых сумненьняў, тых душэўных трывог, якія мучаць самога. Калі чалавека гняце што-небудзь, дык яму бывае куды спакайней ад таго, што й другога гняце тое-самае. Лясьніцкі для прылікі ўсьміхаецца, але за ўсьмешкай

уцішку хавае дапытлівую сур'ёзнасьць. Ён нават гатоў і паверыць. Ён шчыра жадае паверыць—таму і пільнуе напружна за словамі Славіна, з надзеяй іх аглядае, абмацвае, каб не прапусьціць у каторым залатой крупачкі праўды.

Ад патугі ў Славіна зьбягаюць зморшчкі з ілба аж на пераносьсе і кнопачка-носік лезе ўгару, быццам меціць, дуронік, каб выскачыць з-пад акуляраў і самому ўсьсесьці на іх—досыць ужо панасіў!—або зусім сарвацца і паляцець угару, да сонца.

— Ну вось... можна іначай назваць—справа ня ў назьве... Дон-Кіхот быў сьмешны, бо ён ня знаў меры... У кожнага чалавека ёсьць частка Дон-Кіхота—кожны хоць раз у жыцьці паспрабуе змагацца з ветракамі. А сьмешным астаецца той, хто ня знае меры, хто пераступіць „адлегласьць". Я даўно думаю аб гэтым. Усё лета насілася гэта прада мной такім нейкім разьбеглым туманам. А потым акрэсьлілася і стала ясна. Кожная рэч здаецца прыгожай на пэўнай адлегласьці. Абсолютна прыгожага няма. Ёсьць мяжа ўсякага хараства. Калі адыйдзешся далей, чым трэба, расплывецца яно ў нявыразным тумане, калі занадта блізка падыйдзеш—стануць адны пустыя, часам брыдкія формы... Я быў у садзе... Тады было дзіўнае яскравае надвор'е, і ў садзе быў чысты рай: кветкі, птушкі розныя, аромат... Я хадзіў, аглядаў свае кветкі (ты-ж бачыў, колькі іх у мяне?), ну і, ведаеш, думаў чамусьці аб тым, на якой яблынцы лепш за ўсё было-б засіліцца. Раптам я заўважыў на дрэве шэры камок, неяк дзіўна ўціснуты паміж сучкоў. Я зацікавіўся, падышоў троху бліжэй і аслупянеў. Камок раптам зайскрыўся яскрава-бліскучымі пералівамі, у якіх мігцелі, здаецца, усе колеры, якія толькі ёсьць у сьвеце. Я ўжо падумаў быў, ці ня рэдкі гэта камень-самацвет, ці ня трапіўся мне дарагі скарб, якому мо' няма й цаны... Ну, падышоў бліжэй—і аказалася, што гэта трупік сіўкі-варонкі, ужо добра загнілы, у якім капашылася брудная куча мух і чарвей, ад якога ўжо нёсься агідны пах трухляціны. Ты разумееш? Вось тут і адкрылася ўсё, і я зразумеў ісьціну залатой адлегласьці..."

Тут Славін з выглядам зморанага пераможніка зьдзеў акуляры і пачаў выціраць густа спацелы твар. Без акуляраў вочы яго былі нейкія лысыя і вялыя, як шмотка. Ён недалужна плюскаў імі, змагаючыся з назольліва-сьмелым праменьнем сонца.

Лясьніцкі запытаў з усьмешкай:

— Які-ж сэнс твае гэтае „адлегласьці"? Дзе-ж яе філёзофская сутнасьць?

Славін хітравата ўсьміхнуўся, хвіліну змоўчыў і загаварыў зноў наўмысна разьмераным, расьцяжлівым голасам:

— А вось які сэнс... Выходзіць, што няма нічога няпрыгожага, агіднага, што ўсё-чыста мае сваё хараство і справа ў тым толькі, каб знайсьці пункт, з якога відаць гэта хараство, справа ўся ў адлегласьці. Самую брыдкую рэч можна так паставіць, на такую далячынь, што яна здасца нязвычайна прыгожай... І наадварот: вазьмі найпрыгажэйшую статую або карціну, падыйдзі да яе да самае, дык убачыш толькі фарбу, або гліну ці яшчэ што. Адыйдзіся далей, чым трэба, будзе ізноў звычайная шэрая пляма... Цяпер разумееш?..

— Яшчэ ня зусім.

Славін аж спыніўся, узьняў угару палец і выпаліў з радаснай важнасьцю.

— Усё жыцьцё прыгожае. Няма нічога дрэннага ў жыцьці—усё добрае. Справа толькі ў адлегласьці... Разумееш?.. Вось я раблю цяпер псыхічную трэніроўку. Ты бачыў калі, як сьвеціць прожэктар? Яго косы можна спыняць на любой адлегласьці. Вось ідзе такая сьветлая, белая каса, а потым — стоп, і далей ужо цёмна. Можна яе караціць, даўжыць—як-хоця. Вось нешта падобнае, я адчуваю, трэба прызвычаіцца рабіць з сваёй псыхікай, і тады будзеш бачыць ува ўсім толькі радасьць і хараство. Кожнае зьявішча ў жыцьці можа быць прыгожым, калі толькі знайсьці для яго патрэбную „адлегласьць". Часамі яна выпадкова сама знаходзіцца. Помніш, як мы ехалі з гораду?.. Нам тады было ўсё прыгожа ў жыцьці, бо мы глядзелі на яго з „залатой

адлегласьці". А тады ты паглядзеў на яго бліжэй, чым трэба— і спалохаўся, і расчараваўся. Ня трэба было блізка глядзець. Зблізу ўсё страшэнна агіднае...

— Дык, значыць, патвойму трэба зусім адыйсьці ад жыцьця, глядзець на яго збоку, здалеку?..

Славін нібы спалохаўся яго безнадзейнай някемкасьці.

— Што ты? Нашто адыходзіць? Псыхіку трэба трэніраваць. Ты будзь у самай гушчы жыцьця, працуй, змагайся, усё што хочаш. Толькі глядзець умей правільна. І на сябе таксама, ня толькі на тое, што навокал. Ну вось... прыклад табе. Мяне неяк былі арыштавалі (за што—я ня ведаю), я сядзеў два дні ў халоднай. Дык я настроіў так сябе, што быў страшэнна рад і здаволен. Пры ўсёй нявыгодзе гэтае седні (мне амаль што не давалі есьці) я адчуваў сябе добра, бо знайшоў „залатую адлегласьць" і глядзеў на ўсё гэта, як на прыгожую рамантычную прыгоду.

Лясьніцкі ня стрымаўся, зарагатаў.

— Дзівак ты, Нікадзім! Дон-Кіхот ты дваццатага веку! Стравус ты палахлівы!.. Думаеш, схаваўся, уцёк? Галаву толькі схаваў, дый то ня ўсю, ха-ха!.. Адлегласьць ты недарэчная!..

Славін няўцямна і вінавата плюскаў вачмі.

— Дон-Кіхот ня знаў меры. Ён адышоўся занадта далёка. Хараства рэчаў ён ня бачыў, ён бачыў толькі туманныя плямы, і ўжо сам ствараў з іх тое, што патрабавала яго хворая сьвядомасьць. Не, тут ня так... Я ня стравус, я не хаваюся... Я хачу, каб было прыгожа і добра... Вось ты сам казаў, што баішся гэтае завірухі, што сяляне паляць, руйнуюць маёнткі, што дзікасьць, зьвярынства страшэннае... А можа гэта прыгожа? Можа гэта не зьвярынства, а сьвяты, справядлівы гнеў? Ты вось ад вёскі ўцёк, табе здалося гэта агідным, страшным, ты паўстаў супроць гэтага... А можа ты паўстаў супроць хараства?.. Гледзячы—як, адкуль паглядзець...

Лясьніцкі нецярпліва перапыніў яго:

— Годзе! Давай адпачнём. Ужо вёрст дзесяць адмахалі без адпачынку.

Яны сышлі з дарогі, ляглі ў засені, пад калматай прысядзістай бярэзінай. Абое чамусьці змоўклі, кожны ўглыбіўся ў свае асобныя думкі.

Лясьніцкі лёг на сьпіну, упяў погляд у халаднаваты блакіт і млява сачыў за празрыстым ныраньнем балачынак—лёгкіх і наіўных, як філёзофія Славіна. Разам з гэтымі балачынкамі паплылі ў ваччу нядаўныя малюнкі-ўспаміны, выплыла вёска—з чорным абурэньнем, з цяжкой блытанінай, нясьмела вызірнуў смутны твар Макрыны, ахінуты тым няясным, загадкавым, што прывязла яна з гораду. Потым у яскравай вабнасьці сьмела паўстаў, быццам вырас у вецьці бярозы вобраз паненкі Раісы, пасуліў нейкую нявыразнашчымлівую радасьць.

„Пэўна, сустрэну там...“

У раптоўным незразумелым узрушэньні Лясьніцкі абярнуўся да Славіна і жартліва, весела крыкнуў:

— Ну вось, філёзоф, парай, што мне рабіць. Я кахаю адразу дзьвюх жанчын—гэта страшэнна мучыць мяне... Скажы, з якой зірнуць мне адлегласьці, каб разьлюбіць каторую, або як-небудзь іначай пазбыцца гэтае мукі?..

Славін радасна ўсхапіўся.

— Ага! Вось—жанчына... Во-во, нашто табе й што... Паспрабуй вось тут без адлегласьці... Вось табе прыклад, дзе наша псыхіка сама знаходзіць патрэбны пункт, з якога мы й глядзім на даную рэч. Тут сама прырода так робіць... Вось мы часам захапляемся харастввом жаночага цела. Каб не псаваць табе настрою, я ня буду гаварыць аб фізыолёгіі гэтага цела, аб тым, з чаго яно складаецца—ты сам разумееш... А вось кахаеш, захапляешся харастввом... А паспрабуй адыйсьці занадта далёка, каб зусім ня было ўжо фізыолёгіі—і зноў будзе дрэнь. Ёсьць такі пункт, такая адлегласьць, якую ў гэтым выпадку становіць сама прырода. Вось так трэба і ўва ўсім, трэба тэхніка, трэба псыхічная трэніроўка.

— Добра. Але-ж ты адкажы на маё запытаньне: што мне рабіць?..

Славін трошку падумаў і потым здаволена засьмяяўся.

— Ха-ха! Дык нічога-ж табе й рабіць ня трэба. Нашто табе разьлюбляць? Нашто табе збываць сваю муку? Ты знайдзі „залатую адлегласьць“ і адтуль зірні на сябе, на свой настрой, на сваю гэту „муку“. І тады сама ў сабе мука здасца табе нечым прыгожым і шчасным, ты знойдзеш у ёй асалоду.

Лясьніцкі тож засьмяяўся.

— Іш ты, хітрунчык, выкруціўся...

Яшчэ паляжаўшы троху, Лясьніцкі запытаў:

— Слухай, Нікадзім... А скажы, як у цябе справа з адлегласьцю ад жанчыны?..

Ён запытаў гэта жартам і сам зьдзівіўся, калі раптам па твары Славіна расплыўся цень смутнай сур'ёзнасьці. Хвіліну Славін маўчаў, быццам апанавала яго зьнецікі цэлая плойма назольлівых успамінаў—не адчапіцца ад іх,—потым глыбока ўздыхнуў і сказаў ціха-ціха:

— Можа тая жанчына й сама ведаць ня будзе, якую я пакахаю...

Потым ён лёг на сьпіну і пачаў гаварыць у цягучай задуме, паволі выстаўляючы слова за словам:

— Люблю я вось так ісьці куды-небудзь па старым прытульным шляху... увосень, калі павучына плыве над іржышчам і хмызьняк чужы стаў, няпрыветны, замкнёны такі... У траве жоўтыя лісты—пялёсткі восенскага суму... а жаўранак нейкі мінулы, даўны, як чутая калісьці ў дзяцінстве песьня за рэчкай... Каб так пайсьці бяз мэты, бяз пэўнага напрамку, міма старых бабулек-бяроз, у далёкі сьвет. Там стаіць недзе вясёлая вёска з фарбаванымі ганкамі, з садкамі сукрыстымі. Каля вёскі прыгожыя дзяўчаты сьцеляць лён і сьпяваюць песьні. Там адна мая дзяўчына—у яе крамянае цела, сьмелыя формы і ўсьмешка, якая абяцае бяздоннае шчасьце. Яна пазірае на далёка адкрыты стары шлях, на бабулькі-бярозкі, яна глядзіць, ці ня йдзе яе суджаны. І тады па яе твары праходзяць маршчынкі балючага суму і яна ўздыхае так глыбока, што сарочка ледзь стрымлівае ўздым яе белых грудзей...

Тут Славін і сам уздыхнуў. Скарыстаўшы гэты перапынак, Лясьніцкі пачаў гаварыць далей яму ў тон:

— І вось ідзе яе суджаны—зграбны, прыгожы гэрой Нікадзім Славін. Яго акуляры блïскаюць, як сонца, сам ён, як чыстая зорка, як комэта, а за сьпіной у яго астралябія—ён ходзіць па сьвеце і мерыць адлегласьць, і шукае, дзе-б прымасьціцца, адкуль зірнуць, каб убачыць усё хараство свае аблюбёнае...

Тут абое весела зарагаталі. Ідучы далей, яны яшчэ доўга строілі жарты вакол мітычнага вандраваньня Славіна і яго сустрэчы з чароўнай дзяўчынай, пакуль усур'ёз не захапіліся думкай аб такім бязмэтным, вольным падарожжы, поўным нечаканых прыгод і бясконца-сьвежых уражаньняў. Кончылі на тым, што шчыра, дружна ўмовіліся (нават у захапленьні адзін аднаму рукі пацiснулі), каб налета пайсьці разам у сьвет і, вандруючы, сузіраць жыцьцё, вывучаць яго пярэстыя праявы.

Гэтая гутарка Лясьніцкага з Славіным адбылася была ў самым канцы жніўеня месяца, калі яны з славінскае сялібы выправіліся ў горад шукаць самастойнага месца ў жыцьці. А перад гэтым два тыдні Лясьніцкі жыў у Славіна—ён уцёк быў к яму ад навалы жыцьцёвых нягод, ад балючае блытаніны, у якой недалужна біўся ўвесь час пасьля ад'езду Андрэя. Два тыдні прайшлі ў шчырых таварыскіх гутарках, дзе былі і ўспаміны, і лятуценьні, і змрокі чорнай роспачы. і смелыя ўзьлёты надзей. Два тыдні гэтыя Лясьніцкага троху заспакоілі. Не таму, што далі адказ на сумненьні яго, а таму, што ня было адзіноты—кожную чорную думку можна было растапіць у агні глыбокае дружбы.

Ад вёскі Славіна да чыгуначнай станцыі было дваццаць пяць вёрст.

ГОРАД сустрэў хлапцоў глухім алавяным раньнем. Яшчэ едучы па чыгунцы, яны даведаліся аб паўстаньні Карнілава, аб тым, што горад абвешчан на асадным становішчы, што

разгортваецца сур'ёзная рашучая барацьба. Таму ў ціхім бязьлюдным раньні чулі хлопцы цьвёрда затоеную трывогу, чулі паходную салдацкую напружанасьць. І ўва ўсім, што траплялася па дарозе, яны гатовы былі бачыць нешта нязвычайнае, небясьпечнае. Калі сустракалася якая група салдатаў, яны ўжо інстынктыўна туліліся адзін да аднаго, чакалі, што вось іх затрымаюць, павядуць куды-небудзь, будуць дапытваць, мо' за шпігоў за якіх улічаць. А ў кожным аўтомобілі, які з сярдзіта-пасьпешным гурчэньнем пралятаў міма іх, здаваўся ім сам „глаўковерх“ Карнілаў, або хто-небудзь з яго талоўных прысьпешнікаў. Кожны аўтомобіль яны праводзілі асьцярожнымі заўвагамі:

— Во тут, мусіць, нейкі дужа важны генэрал паехаў— вокны й то пазавешаны...

— А вунь кулямёты брэзэнтам накрыты, бачыш? Па форме відаць...

— Вось санітарны, на гэткім раненых возяць... І сястра сядзіць... бачыў?

Ужо ў самым цэнтры яны сустрэлі досыць вялікі атрад узброеных салдатаў. Салдаты ішлі ў стройных шэрагах і бязьлюдная ціхасьць вуліцы неяк асабліва выразна і рэзка падкрэсьлівала іх дружныя крокі. У кожнага на рукаве была сіняя перавязка, на якой намаляваны быў чалавечы чэрап і надпіс—„карнілаўцы“. Лясьніцкі першы заўважыў гэтыя перавязкі і таўхануў пад бок Славіна.

— Во... во... карнілаўцы...

Яны несьвядома спыніліся і з нейкім палахлівым задзіўленьнем глядзелі на салдат, аж пакуль не прайшоў міма апошні шэраг. Мабыць быў у салдат такі ўрачыста-баявы пагрозны выгляд, а мо' й тут проста быў вінават трывожны настрой хлапцоў, толькі пачулі раптам абодвы лёгкі павеў напружанае жудасьці, жывы подых крывавае барацьбы. Быццам гэтыя хмурыя салдаты во-во гатовы былі спыніцца, рассыпацца і пачаць стралянину, абсыпаць свінцовай сьмерцю нявіднага ворага.

Пад уплывам гэтага настрою Славін неяк зябка ўздрыгнуўся і прабурчэў скрозь зубы:

— Ня люблю вайны... У ей ёсьць нешта стыхійна-халоднае, бязьлітаснае, неўгаворнае... Жалезам ад яе пахне...

Лясьніцкі, каб разьвеяць цяжкое ўражаньне, пажартаваў:

— Ты паспрабуй зірнуць на вайну з „залатой адлегласьці“, можа здасца прыгожай.

А Славін прыняў гэтыя словы ўсур'ёз і з настойнай пасьпешнасьцю заспрачаўся:

— Так. Натрэніраваўшыся, можна. Шмат хто й глядзіць на вайну, як на нешта прыгожае. Поэты абпяваюць войны самымі пекнымі песьнямі, народы складаюць аб іх няўмірушчыя легэнды, для цэлай групы людзей і цяпер яшчэ вайна—родная стыхія... А я яшчэ ня ўмею знаходзіць патрэбнага пункту, з якога глядзець,—мне вайна не падабаецца...

Яны сышлі з цэнтральнае вуліцы, пайшлі к Андрэю—там рашылі яны спыніцца.

Як падыходзілі к Андрэевай хаце, Лясьніцкі пачуў лёгкае і прыемнае хваляваньне, быццам ішоў на сустрэчу старому, даўно нябачанаму другу. З нечаканай рэзкасьцю выбіліся ў уяўленьні твары Андрэя, Ніны, Халімы і нават старога хворага бацькі. Потым, калі ўжо ўваходзілі ў фортку, апанавала прыкрае замяшаньне—яно заўсёды зьяўляецца, калі пасьля доўгага растаньня ўваходзіш у блізка знаёмы дом.

На кухні сустрэла іх Ніна, шырока адтапырыўшы запэцканыя ў сажу рукі (затапляла печку) і ня менш шырока і ветла ўсьміхаючыся сваймі сяброўскімі шэрымі вачмі.

— А! Нечаканыя госьці!.. Ну, давайце вітацца... Хто першы?

Яна пагрозна выставіла свае чорныя рукі. Тым часам Лясьніцкі абхадзіў яе кругам, аглядаў з усіх бакоў з жартлівай уважнасьцю.

— Падабрэла, папрыгажэла... зусім на дзяўчыну стала падобна... Пакажэцеся к сьвету, ну-ну... Эгэ! І вас жыцьцё закранула...

Сапраўды, яму кінулася ў вочы, што пад бясьпечна-ўсьмешлівым выразам Нінінага твару лягла ўжо сетка турботнай сур'ёзнасьці і ў куточках вуснаў упарта застралі ледзь прыметныя сьлядкі задуменнага болю.

— Ну, досыць ужо разглядаць, а то абмажу сажай... Ідзіце туды, у пакой...

— А Халіма дома?

Па яе твару прабег цень трывожнай руплівасьці. Яна раптам стала сур'ёзнай і задуменнай.

— Халіма дома... Ён сьпіць, бо ўчора позна прышоў... Ідзіце туды, разбудзіце... Ён сам вам раскажа ўсё... Вы ўбачыце, што гэта за ўпарты чалавек...

Хлопцы, зацікаўленыя, увайшлі ў Халімаў пакой. Халіма спаў, шырока раскінуўшыся на ложку—вялікі і цяжкі, як дубовая калода. На крэсьле, а часткаю на стале і на ляжанцы была раскінута салдацкая вопратка і розная вайсковая амуніцыя. На сьцяне вісела шабля.

— Глядзі-тку! Гэта-ж ён ужо ў войску!..

І неяк сьмешна стала абодвым, што Халіма, з якім зусім нядаўна сядзелі разам на вучнёўскай лаўцы, ужо вайсковы, мае аружжа, форму. Здалося, што гэта новы нейкі Халіма, ня той, што быў там, у школе.

Яны пачалі яго паціху будзіць. Гэта аказалася досыць труднай работай, бо Халіма толькі тады рашыў прачнуцца, калі яны сьцягнулі ўжо з ложку абедзьве яго нагі. Тады ён сеў і пачаў церці кулакамі вочы. Потым пазнаў іх і чамусьці сур'ёзна і заўзята загвалтаваў:

— Здарова, хлопцы!..

А тады зноў узяўся за вочы, забурчэў сонным сіпаватым голасам скрозь магутнае пазяханьне:

— Я думаў—прышлі ўжо... аж гэта вы... Ну, малайцы, хлопцы... А я... зьбіраюся арыштавацца... мяне арыштаваць... як гэта... ну, так—мяне зьбіраюцца арыштаваць...

Патугі гэтае формуліроўкі канчаткова яго адарвалі ад сну... Ён раптам зірнуў на хлопцаў чыстымі энэргічнымі вачмі і запытаў:

— Андрэй дома?

— Не, здаецца, няма...

— А Ніна?

— Тут.

Ён з нейкай сьмешнай сьцеражлівасьцю зірнуў на дзьверы і загаварыў зьніжаным голасам:

— Яны ўгаварваюць мяне ўцячы... гэта лёгка зусім, нясцікава... Я ня хочу—хай сабе забяруць, не прападу... Я-ж яшчэ не сядзеў ні разу. А палявым судом не засудзяць—брэшуць яны, пужаюць, каб уцёк... А я ня хочу—і ўсё... Пасьпею яшчэ, наўцякаюся... Ну, добра... Сядайце, дзе хто хоча... Малая! Малая!..

У пакой увайшла Ніна. Яна сарамліва ўсьміхалася:

— Я зусім не малая... Выдумаў... Што табе трэба?

— Хто сягодня дзяжурны?

— Андрэй.

— А дзе ён?

— Пайшоў некуды...

— Дык а хто самавар наставіць? Як-жа гэта?

І ён утаропіўся ў Ніну з глыбокім шчырым неўразуменьнем. Тая пагадліва засьмяялася.

— Добра ўжо, я настаўлю. Потым залічым...

Лясьніцкі ўспомніў, як Андрэй называў—„наша комуна“. Ён міжвольна ўсьміхнуўся і запытаў:

— У вас усё па чарзе робіцца?

Ніна адказала, жартліва крыўдуючы:

— Ого, усё... Печку я таплю, полудзень я вару, харчы я купляю, усё я раблю... Бо я беспрацоўная... А дзяжурны толькі самавар ставіць ды хату мяцець... Во, як у нас...

Як яна вышла, Халіма пачаў надзявацца і апавядаць пра свае злыя прыгоды.

— У нас тут бяда... контр-рэволюцыя, ваўкі ие рэж... Карнілаў... чулі?.. Ну, вось... Было добра, а то—яшчэ лепш... зусім ужо да цара каб дабрацца... Ну й мая часьць за яго, за сволач гэту чорнасотніцкую... Учора загад выдаў Карнілаў, усюды разьвешан ужо, можа чыталі... А я ўначы мітынг сабраў

у сваёй часьці, бузіць пачаў на бальшавіцкую лінію... Мяне-б учора ўжо арыштавалі, дык уступіліся хлопцы. А я адрас пакінуў ім, сказаў, што буду чакаць іх рсўна а дзесятай. Яны паверылі... Колькі цяпер? Палавіна дзевятага?.. О, яшчэ рана... Уцячы тут лёгка—перайшоў на другую вуліцу, вось і ўсё. А ён доўга не пратрымаецца, бо ня мае грунту... Вось... Уцячы можна, але я ня хочу... Хай сабе...

У вайсковай вопратцы Халіма выглядаў зусім зграбным мужчынам. І наогул за гэты час ён неяк выраўнаваўся, нават папрыгажэў—большую гармонічнасьць набылі яго рэзкія буйныя рысы. Ён крыху сароміўся—бачыў, што хлопцы яго разглядаюць—і, каб захаваць замяшаньне, рабіў як мага сярдзітую міну. Ад гэтага ён сапраўды выходзіў страшны і новы.

Ніна прынясла самавар. Яна чым далей, тым больш смутнела, рабілася цёмнай, маўклівай. Гэта адбівалася на ўсіх — памалу зьвівалася ў пакоі трывога, напінала нэрвы, падкрэсьлівала кожнае слова, кожны погляд, кожны, нават зусім нязначны, гук. Так бывае заўсёды, калі чакаюць усе нечага выдатнага, няпрыемнага, ведаюць, што яно будзе, і баяцца або лічуць нетактоўным аб ім гаварыць.

Трывога гусьцела з кожнай хвілінай. У пакоі вісла ненатуральная цішыня і маўчаньне. Толькі Халіма наўмысьля многа і голасна гаварыў, жартаваў, сьмяяўся, каб разбавіць прыкра-напяты настрой. Часамі ён неўзаметку кідаў цікуючы погляд на Ніну (Ніна ўсё хадзіла то туды, то сюды, нэрвавалася) і ў гэтым поглядзе дзіўна мяшалася злосьць з нейкім напружаным чаканьнем. Быццам сачыў ён за Нінай, чакаў, што яна нешта зробіць, ці скажа, рыхтаваўся злосна, груба ёй адказаць. А Ніна на яго не глядзела і ўпарта, зацята маўчала. Гэта, відаць, зьбівала яго з панталыку.

Падыходзіла да дзесяці. Ужо ўсе мімаволі прыслухоўваліся, чакалі крокаў, стуку ў дзьверы. І вось, калі ўжо асталося можа хвілін дзесяць, ня вытрымаў раптам Халіма. Ён бурна, сярдзіта ўстаў і ўдарыў па стале цяжкім сваім кулаком.

— Добра. Я ўцяку... Я зраблю гэта для цябе, Ніна. Чуеш?..

Ён зірнуў на Ніну сярдзіта распаленым поглядам. А тая стаяла ля вакна і глядзела некуды ў бок, баючыся крануцца з месца, каб якім-небудзь няўмысным рухам ня выказаць свайго здаволеньня, каб ня спудзіць гэтым нечаканай рашучасьці Халімы. Адзін толькі раз яна спадкрадня зірнула на яго. І ў гэтым яе палахлівым поглядзе скрозь цень трывожнага недавер'я блісьнуў гарачы прамень радаснай удзячнасьці.

Халіма пасьпешна, рашуча пачаў зьбірацца. Праз хвіліны дзьве ён стаяў ужо ў поўным страі—надзеты, узброены—і глыбока моршчыў лоб—можа ўспамінаў, каб чаго не забыцца, а можа хацеў нешта сказаць на разьвітаньне, ды ня ведаў, як тут пачаць.

У гэты момант паляпалі ў дзьверы. Ніна інстынктыўна кінулася да Халімы.

— Хавайся!

Ён усьміхнуўся.

— Позна ўжо—нічога ня зробіш. Ідзі адчыні...

І ў яго голасе выяўна чувалася нотка здаволеньня. Рад быў, што ня трэба лішняга клопату, ня трэба турбавацца. А Ніна зноў стала замкнёнай, цёмнай, больш не сказала ні слова, моўчкі пайшла адчыняць.

Прышло трое салдат. Ува ўсіх на руках былі ўжо знаёмыя хлопцам адзнакі. Халіма сустрэў іх шумліва, весела, адразу пачаў расьпяразвацца, зьдзяваць сваю зброю.

— Малайцы, хлопцы, якраз у пару. Колькі цяпер? Роўна дзесяць? Ого, амэрыканская спраўнасьць, хвіліна ў хвіліну... Дык во каго яны прыслалі за мной!.. Слухай, Міранчык (ён зьвярнуўся да самага маленькага чарнявага салдаціка), чорт ты лысы, халера! Ты-ж учора абараняў мяне больш за ўсіх... Які-ж гэта толк у цябе, га?..

Салдацік сумна ўсьміхнуўся.

— Учора іншая рэч была, учора гэта мы так, павальготнаму, таварышамі... А сёньня загадалі, дык і пайшоў... Служба, браток...

— Ха-ха! Павальготнаму! Гэта ты здорава, хвацка... Ну, хлопцы, бывайце!

Ён парыўчата, моцна—пасвойму—пацiснуў рукi хлапцам. Як разьвiтваўся з Нiнай, наўмысьля не глядзеў ёй у вочы. Хацеў, вiдаць, i з ёй так, як з хлопцамi, але потым абдумаўся—з нейкай сярдзiтай пасьпешнасьцю пацалаваў яе ў лоб.

— Ну, чорнасотнiкi, гайда!..

І пайшлi—затаўклiся ў дзьвярах бязладна-шумлiвай гурмай. Ляпнулi дзьверы, уляцелi з двара глухiя, парваныя галасы i стала цiха, асталася ў хаце балюча-напружаная пустата.

Нiна села на крэсла i прыцiхла ў нейкай ненатуральна-застыглай паставе — упяла ў халодна-бялясую пляму вакна нярухомы погляд. Славiн падышоў да яе, i, асьцярожна блiскаючы сваймi акулярамi, пачаў яе суцяшаць. Гэта было зусiм недарэчы, i Лясьнiцкi хацеў спынiць яго, але было неяк нязручна. А Нiна спачатку зусiм ня слухала, што ён гаворыць, думала нешта сваё. Калi-ж заўважыла, што Славiн яе ўгаварвае, дык нэрвова здрыганулася i зiрнула на яго з такой злосьцю, якой Лясьнiцкi дасюль нiколi ў яе ня бачыў. Яе звычайна ласкавыя шэрыя вочы налiлiся раптам сьлязьмi i заблiшчэлi дзiкiм агнём—яна гатова была, здаецца, кiнуцца кошкай на беднага Славiна. Але гэта было адзiн толькi момант. Недалужна-вiнаваты выгляд Славiна адразу ўлагодзiў яе, яна мякка ўсьмiхнулася i злосьць выкацiлася з яе вачэй дзьвюма буйнымi сьлязiнамi. Тады Славiн зрабiў новае дзiвацтва. Ён з нейкай нязграбнай пасьпешнасьцю схапiў яе руку i звонка пацалаваў.

— Я вас разумею, Нiна... Я пазнаю вас...

А Лясьнiцкi збоку глядзеў на iх i глыбока шкадаваў абоiх.

ХЛОПЦЫ асталiся жыць у Андрэя—занялi ўдвух Халiмаў пакой.

Лясьнiцкi ў той дзень нецярплiва чакаў, калi прыдзе Андрэй, дужа хацелася ўбачыць яго. З iм злучаны былi

некаторыя сумненьні, якія ў апошні час гнялі Лясьніцкага. Лясьніцкі ня зьбіраўся распытваць, ня меў на ўвеце нават і памінаць пра гэтыя сумненьні, але спадзяваўся, што Андрэй неяк сам усё выявіць, што само стане ясна ўсё—толькі ўбачыць яго.

Перш-на-перш не давала Лясьніцкаму пакою думка аб паездцы Макрыны ў горад. Яна была тут тры тыдні і вярнулася на вёску нейкая новая, нязвычайная. Яны добра сустрэліся, Лясьніцкі наўмысьля стараўся з ёй быць найбольш ласкавым, яна з ранейшай гатоўнасьцю аддавалася любоўным уцехам, і ня раз ужо гаварылі яны—адкрыта, проста—аб тым, каб пабрацца, каб пачаць супольнае жыцьцё. А тымчасам было нешта новае ў ёй—зусім нявіднае, няпрыметнае, але глыбока-нязводнае, што станавілася паміж іх прыкрым ражном, халадзіла іхныя адносіны. Быццам прывязла Макрына з гораду нейкае палахлівае недавер'е і моцна, глыбока захавала яго, цьвёрда перакананая, што знадабіцца яно калінебудзь, што ніяк не пражывеш без яго на сьвеце. І гэта недавер'е часамі высьлізала наповерх і ўлівалася сьцюдзёным цурочкам у агонь іхнае блізкасьці. Некалькі раз Макрына гаварыла няўмысьля Лясьніцкаму „вы"—гэта асабліва выразна застрала ў яго сьвядомасьці. Яна пасьля сама сьмялялася, з любай пакорай прасіла ў яго прабачэньня і паўтарала бясконца—„ты", „ты", „ты", дадаючы да кожнага поўныя ласкі эпітэты. Але бачыў Лясьніцкі, што й сама яна потым задумлялася — пэўна й самую яе турбавалі гэтыя несьвядомыя праявы мімавольнай халоднасьці. І вось усё гэта чамусьці Лясьніцкі злучаў з асобай Андрэя і ў часы трывожных думак, сумненьняў прагна хацеў убачыць яго, думаў, што ад сустрэчы з ім стане ўсё ясна і зразумела.

А яшчэ пакінула ў Лясьніцкага глыбокае неўразуменьне сустрэча Андрэя з Раісай на станцыі, калі ад'яжджалі ў горад. Адкуль Андрэй знае Раісу і яна—яго, дзе яны пазнаёміліся? Чаму ў Раісы відаць было захаванае хваляваньне, калі яна віталася з Андрэем? Чаму ён першы не захацеў з ёй вітацца?..

Потым ужо, пазьней, дні праз тры можа пасьля прыезду Лясьніцкі быў запытаў у Андрэя пра гэта — запытаў між іншага, быццам гэта зусім няважна яму, проста ўсплыло нешта на памяць. Андрэй-жа стаў адразу сур'ёзны, нават па твары яго мільгнуў лёгкі цень замяшаньня. Крыху падумаўшы, ён адказаў:

— Па некаторых прычынах я не магу табе расказаць, дзе і як мы сустракаліся. Скажу толькі адно, патаварыску, спадзяючыся на тваю сьціпласьць: сьцеражыся яе, як жанчыны...

Лясьніцкі асалапеў ад нечаканасьці. Ён памкнуўся быў яшчэ запытаць нешта, але Андрэй катэгорычна зьмяніў гаворку і больш ніколі не гаварыў нічога на гэтую тэму.

Гэта было дні праз тры пасьля прыезду. У першыя-ж дні Лясьніцкі ні адным словам ня выказаў сваіх сумненьняў, толькі ўважна прыглядаўся да Андрэя, ды напружна чакаў, ці ня скажа што-небудзь ён сам.

Андрэй прышоў толькі к полудню, прышоў страшэнна змардаваны, цяжка заклапочаны нечым. Ён няўважна, насьпех прывітаўся з хлопцамі і адразу пачаў рэзка, сьпяшаючыся, распытваць пра арышт Халімы. Потым сярдзіта нахмураны хадзіў па пакою, нешта мармытаў сабе пад нос, забыўшыся зусім на тое, што ў пакоі ёсьць, апрача яго, людзі, што гэтыя людзі глядзяць на яго ў прыкрым замяшаньні і ня ведаюць, што рабіць.

Нарэшце, ён спыніўся, з відочнай патугай адагнаў ад сябеназольлівыя думкі, і быццам цяпер толькі ўбачыў хлапцоў.

— Ну дык як, прыехалі, значыць? Як жывіцё? Што цікавага чуваць?.. Ніна, яшчэ не палуднавалі? Давай хутчэй, бо я галодны, як воўк...

Ён быў ужо такі, як заўсёды, быццам і ня было ў яго ніякай турботы, ніякага клопату. За полуднем весела, жвава распытваў у Лясьніцкага пра вёску, пра настроі сялян, пра падзеі, якія адбыліся там пасьля яго ад'езду, пра ўражаньне ад пажару і г. д. Запытаў і пра Макрыну—і тады наўмысьля

адкрыта, упарта зірнуў у твар Лясьніцкаму. А Лясьніцкі троху замяшаўся і, утупіўшы вочы, адказаў нешта нявыразнае, скомчанае. На адзін момант устала было паміж іх нешта прыкра-напятае, недаказанае. Але Андрэй спрытна пакіраваў гаворкай, рэзка перавярнуў на другую тэму. Ён успомніў пра Халіму, з бурклівым дакорам заківаў галавой.

— Ня будзе толку... Пайшоў-жа так, ні за кога—ні за нас, ні за сябе... Пайшоў таму, што ня мае сталасьці— у крыві нейкія дрожджы паганыя: як заходзяць, вось ён і шалее тады.

Ніна заўважыла з настойлівай цьвёрдасьцю:

— Ён хацеў уцячы, ды ня справіўся.

Андрэй махнуў рукой.

— Справа ня ў тым. Тут—глыбейшае, органічнае... Ну, але хай сабе... там будзе відаць... Во што,—раптам успомніў ён, зьвярнуўся да Ніны:—сёньня ўвечары зьбярэцца тут некалькі чалавек, ты можа чай наладзіш, га?..

— Сходка будзе?

— Ня то, што... Прыдуць, пагамонім...

Лясьніцкі далікатна зазначыў:

— Нам, пэўна, ня варта тут быць?

Андрэй засьмяяўся.

— Чаму? Вы-ж, здаецца, людзі свае, ці ад вас будзем хавацца...

Пасьля полудню Андрэй зноў некуды зьбег, Ніна пайшла на кухню парадчыць пасуду, і хлопцаў абвалакла шэрая цягучая нудота, якая і заўсёды бывае ў першы неўпарадкаваны дзень пасьля прыезду на новае месца. З поўгадзіны яны сядзелі ў пакоі, ціха зматляліся, куды-б пайсьці, і ніяк не маглі знайсьці такога месца, каб абодвых туды павабіла. Нарэшце Лясьніцкі ўспомніў:

— К Матруніну!

І абодвы ўзрадаваліся, і дзівіліся, здаволена сьмяючыся, як гэта адразу не даўміліся, жартам загадвалі на тое, што за гэты час зрабілася з старым, як ён цяпер выглядае, якіх трымаецца думак наконт сучаснасьці і г. д.

Як падыходзілі к Матруніну, у Лясьніцкага ўнутры зноў задрыгацела лёгкае хваляваньне, як і тады, перад Андрэевай хатай, і атулены цёплай ласкай паўстаў у ваччу твар старога рэволюцыянэра.

Адчыніла добра знаёмая ім бабулька. Яна перш уважна на іх паглядзела, потым запытала, сьцеражліва нахмурыўшыся:

— Вам каго?

— Матрунін тут жыве?

Старая паволі адвярнулася на поўзварота, быццам раздумваючы, ці яшчэ весьці гутарку з імі, ці проста зачыніць дзьверы. Потым сярдзіта буркнула:

— Пачакайце!

І зьнікла ў пакоях. А праз хвіліны дзьве зноў прачыніліся дзьверы і нясьмела вызірнула зьдзіўленая фізыономія старога. Хлопцы прыветна ўсьміхаліся яму насустрэчу, а ён глядзеў на іх халодна-цікуючым поглядам і не пазнаваў.

— Што скажаце?

Тады хлопцам стала ўжо зусім няёмка. Лясьніцкі неяк нязграбна, запыняючыся, растлумачыў старому, што яны яго даўнейшыя знаёмыя, што прыехалі з вёскі, і прышлі проста даведацца. І вось замятушыўся стары, дробненька зморшчыўся, засюсюкаў ні то радасна, ні то ўстурбавана.

— Помню, помню... Я дужа рад... Заходзьце, зрабіце ласку... Во, маладцы... Ну, добра, добра, што не забыліся на старога...

І вось тыя самыя пышныя прытульныя пакоі, дзе калісьці так яскрава, так палка гарэў агонь романтычных лятуценьняў, дзе зьліваўся ў адным прыгожым парываньні дзесятак маладых сэрцаў—сьвежых і сакавітых, як вясновае раньне. У гасьцінай таксама, як і тады, ціха, прытульна топіцца групка (любіць стары цяплыню), і бляск ад яе бегае жвавымі зайчыкамі па буйных узорах кашлатага дывана.

Лясьніцкі ўвайшоў у гэты пакой з глыбокай набожнай павагай, як у нейкі сьвяты аўтар, дзе калісьці ў малельным экстазе даваў прысягу на верную службу невядомаму туманнаму богу-Народу.

І чамусьці стала сумна-сумна. Чаму—дык ён сам ня ведаў. Можа таму, што пуста было цяпер у гэтым аўтары, ня было тых дружных захопленых юнакоў (куды паразносіў іх бурлівы вецер жыцьця?), толькі адзін тлусты кот млява качаўся ў дрыготным сьвятле ласкавае групкі... Можа таму, што жыцьцё груба патаптала з такім замілаваньнем зьвіты вянок барвістых лятункаў... Можа таму, што Матрунін не сядзеў, як прарок, абкружаны гуртком адданых вучняў, а чамусьці мітусіўся вакол і ўсё дробненька моршчыўся, і паўтараў бясконца, што ён страшэнна рад іхнаму прыходу...

А горш за ўсё, што вочы ня тыя ў Матруніна, падмяніў нехта іх, ня йначай. Тады было ў іх чыстае захапленьне, самаахвярнасьць, а цяпер яны бегалі палахліва і хітранька, як мышаняткі.

Было сумна-сумна.

Матрунін нарэшце пасадзіў іх, сам сеў каля групкі, і пачаў гаварыць. Хлопцы сядзелі моўчкі і слухалі, і адчувалі нейкую прыкрую няёмкасьць, быццам памыліліся адрасам, папалі няўмысьля ў чужую незнаёмую кватэру.

Стары скардзіўся на цяжкі час.

— Добра было ў першыя дні рэволюцыі! Успамінаеш гэта, як нейкае сьвята, як нейкую вялікую ўрачыстасьць. Якое было дружнае адзінства, якое палкае захапленьне! Усе—за адно, усе гатовы йсьці рука ў руку да аднае мэты. Наперадзе сьветлыя прасторы — воля, шчасьце, роўнасьць... Спаскудзілі ўсё, усё ў гразь затапталі. Вялікае імя „соцыялістага“ зрабілі нечым задрыпаным, як фартух у бруднае гандляркі з рынку. Цяпер—кожны соцыялісты. Кожны стараецца надзець тую ці іншую маску соцыялізму, каб не адстаць ад моды. Нідзе ніколі ня было такой страшэннай, такой бруднай профанацыі самых сьвятых ідэалаў чалавека. Кожны мужык лічыць сябе і называе соцыялістым, бо ён, бачыце, за соцыялізацыю зямлі, ён наслухаўся бальшавікоў і з нахабным самаўладзтвам забірае памешчыцкую зямлю, „патаму—я сіцыліст“. Так, мае дзеткі, у грубыя, у чорныя рукі папала прыгожая кветка нашай свабоды—і загіне. Народ

прачнуўся ад векавога сну, ён, як дзіця, ідзе вобмацкам, яму трэба правадыр. І вось—знайшліся, павялі, ударылі па дзікіх зьвярыных інстынктах... Прападзе ўсё-чыста, сваёй уласнай крывёй зальлюць сваю свабоду...

Стары распаляўся сам сваімі словамі і што чым далей, то ўсё больш і больш было ў яго голасе злосьці і раздражненьня.

Лясьніцкі скарыстаў быў невялічкую паўзу ў яго гаворцы і запытаў пра Карнілава—чаго можна чакаць ад яго ўзброенага выступу. Матрунін спачатку неяк раптоўна сьціх, увабраўся ў сябе, быццам спалохаўся гэтага запытаньня. Потым неахвотна прабурчэў:

— Што-ж, Карнілаў—ваенны гэрой, ён любіць парадак. Цяпер такі момант, што трэба дыктатура. Карнілаў можа аднавіць парадак, з ім трэба было ўвайсьці ў згоду, а не абвяшчаць яго ворагам... Трэба злучыць усе сілы, каб перамагчы анархію, пераламіць шкодны ўплыў на цёмную масу розных безадказных элемэнтаў...

Ён змоўк і часіну стаяла між іх да болю прыкрая напятасьць. Каб разьбіць яе, Лясьніцкі з натужнай рашучасьцю загаварыў аб першым, што ўсплыло ў галаву, расказаў нейкі выпадак з вясковага жыцьця. Матрунін ухапіўся за гэта і пачаў распытваць. Каб зрабіць старому прыемнае, Лясьніцкі наўмысьля выбіраў такія факты, якія-б ілюстравалі яго пэсымістычныя разважаньні, і стары хапаўся за іх з наіўнай радасьцю, як дзіця за прыгожыя цацкі.

Потым, выбраўшы зручную хвіліну, хлопцы разьвіталіся і пайшлі. Адышоўшыся троху ад дзьвярэй яго хаты, Лясьніцкі з жартлівай скрухай уздыхнуў і запытаў у Славіна:

— Ну, як?

Славін адказаў не адразу. Яго, відаць, глыбей закранула гэта спатканьне—ён нешта напружана думаў, з тупым задзіўленьнем упяўшы вочы ў зямлю. Потым тож уздыхнуў, але шчыра, сур'ёзна, і з жалем зазначыў:

— Згубіў адлегласьць—цяпер яму дрэнна...

Лясьніцкі засьмяяўся.

Яны пахадзілі яшчэ з поўгадзіны па гораду і прышлі дамоў, як ужо добра сьцямнела. У Андрэя былі госьці. Яны сядзелі ў пакоі хлапцоў, бо не хацелі турбаваць сваім шумам хворага бацькі. Андрэй пазнаёміў іх з хлопцамі. Лясьніцкаму чамусьці асабліва выразна кінуліся ў вочы двое: маладая яўрэйка з рэзкім фанатычным тварам і яшчэ мужчына адзін гадоў у трыццаць—мабыць таксама яўрэй. У гэтага хударлявага мужчыны быў цікавы твар: шэры, нязначны такі, быццам выцерты, і разам з тым прасякнуты нейкай затоенай глыбінёй—быццам хаваў ён, баяўся, каб не заўважылі, што ў яго многа ёсьць розуму і дабраты, ды не бракуе і волі. Як прышлі хлопцы, ён сядзеў за сталом каля лямпы і чытаў нешта ўголас па сьвежых друкарскіх шпальтах.

Лясьніцкі прыслухаўся. Гэта былі сьвежыя паведамленьні аб барацьбе з Карнілаўскай контр-рэволюцыяй, аб арганізацыі ваенна-рэволюцыйных камітэтаў, аб абароне Петраграда, аб рашучых мерапрыемствах Саветаў, аб распадзе карнілаўскіх войск і г. д. Гэта былі нелегальныя лістоўкі, якія назаўтрага павінны былі зьявіцца ў горадзе, гэта былі лістоўкі, з сьмелай рызыкай надрукаваныя пад самым носам у карнілаўскай хэўры.

Як кончыў ён чытаць, пачалася жвавая гутарка, галоўнай тэмай якой было пытаньне: ці доўга пратрымаецца Карнілаў. У тым, што ён наогул ня ўтрымаецца, чамусьці не сумняваўся ніхто. Калі закранулі пытаньне аб становішчы тут, у горадзе, Андрэй сярдзіта ўстаў, засігаў па пакою, незадаволена забурчэў:

— Гэта—ня горад, а балота нейкае. Усё жыхарства моліцца на Карнілава... гэрой, прышоў ратаваць парадак, спакой... Хай прападзе ўсё-чыста, хай заўтра жраць ня будзе чаго, абы толькі ціха, спакойна, абы не ўзбаўтнулася балота... Нічога, яшчэ ўзбаўтаецца ня гэтак, пачакайце, мае даражэнькія!..

Потым усе разам лаялі мясцовы савет, мясцовых меншавікоў, эсэраў, бундаўцаў, скардзіліся на тое, што ніадкуль не прысылаюць сюды працаўнікоў, што цяжка весьці непа-

сільную барацьбу ў Савеце, сярод рабочых, на вёсцы. У самым разгары гутаркі раптам загрымеў сьмелы грукат у дзьверы. Ніна пайшла адчыніць, і праз хвіліну ў кухні заклычыўся хрыплы, з падсьвістам голас, які належыў, відаць, нечаму вялікаму, неўвароткаму. Лясьніцкі здрыгануўся. Гэты голас здаўся яму назольліва-знаёмым і чамусьці да болю няпрыемным.

І вось у пакой уваліўся той чырвоны рабочы ў скуранной аблезлай тужурцы, з якім калісьці была ў Лясьніцкага прыкрая сустрэча на маніфэстацыі.

Рабочага сустрэлі ўсе радаснымі прывітаньнямі, ён пачаў па чарзе вітацца з усімі, асьцярожна сьціскаючы на сваёй шырокай далоні рукі, якія ўсе яму з асаблівай ветласьцю падавалі. І вось ён падышоў да Лясьніцкага. Ён ужо хацеў быў мэханічна з ім прывітацца і пайсьці, не пазнаўшы яго, далей, але Лясьніцкаму самалюбства не дазволіла пакарыстацца гэтым выпадкам, каб пазбыцца няпрыемнага пазнаваньня. Ён перш, чымся падаць рабочаму руку, сказаў рашучым і таму занадта сур'ёзным голасам:

— Мы з вамі сустракаліся.

Той адступіўся ад сьвятла, пільна ўглядзеўся Лясьніцкаму ў твар.

— А да-душы-ж нешта, знаёмае... Вы не працавалі ў N-ай арганізацыі?..

Лясьніцкі гатоў быў згарэць ад сораму. Цяпер, пасьля гэтых слоў рабочага ён ужо ня мог, не хапала сіл сказаць аб сапраўдным месцы сустрэчы. Ён стаяў і моўчкі лыпаў вачмі і яшчэ горш мяшаўся ад напружных патуг знайсьці нейкае выйсьце. А пауза рабілася ўжо немагчыма даўгой, становішча было страшэннае. Але-ткі выручыў Славін—пасвойму выручыў, паславінску. Ён падышоў да рабочага збоку, крануў яго правай рукой (левай папраўляў акуляры) і праказаў з спакойнай дзелавітай сур'ёзнасьцю.

— Ды не, не ў арганізацыі... Гэта вы яго ў часе лютаўскай рэвалюцыі па галаве ўдарылі...

Рабочы загрымеў шалёным раскатным рогатам і з радаснай дружнасьцю стаў трэсьці руку канчаткова зьбянтэжанаму Лясьніцкаму.

— Ха-ха-ха!.. Я-ж добра помню... ха-ха!.. хрэсьнік, значыцца... Ну, здароў, здароў... Дык як-жа... цяпер наш, значыць, га?..О-го-го... Вось дык сустрэліся...Ну,здароў, браток, здароў...

І ўсе, хто быў у пакоі, нават добра ня ведаючы, у чым тут справа, клаліся ад сьмеху. Нельга ўтрымацца было—так заражаў грымучы сьмех бурна ўзрадаванага рабочага. А Лясьніцкі ня знаў, што рабіць. Хацелася ўцячы, бо не хапала сіл слухаць гэты д'ябальскі рогат, але ўцячы было неяк—заўважылі-б, і яшчэ больш абсьмяялі. Так і стаяў, як грэшнік пад градам каменьняў, пакуль ня зьлітаваўся нехта, не пачаў цікавую гутарку, якая адцягнула ўсіхную ўвагу. Тады Лясьніцкі цішком высьлізнуў з пакою і больш ужо туды не паказваўся. Ён пайшоў на гаспадарскую палавіну—там Ніна нешта чытала хвораму бацьку—і сядзеў там, слухаў, пакуль бацька не заснуў. А тады завялі з Нінай даўгую сяброўскую гутарку—апавядаў ёй з жартлівай шчырасьцю аб усіх прыгодах, якія спасьцігнулі яго за час іхнага растаньня.

А ў тым пакоі аж гадзіны да першай грымела жвавая гутарка—горача абгаварвалі дружныя аднадумцы яскравыя падзеі бягучага дня.

КАРНІЛАВА пасадзілі ў адну з лепшых гасьцініц гораду. Кожны дзень а паўдні міма вакон гасьцініцы прахадзіў, вяртаючыся з заняткаў, ударны карнілаўскі полк, і салдаты дружным крыкам „гура" віталі свайго зьняволенага шэфа. Карнілаў падыходзіў к вакну і з сумным прыветам праводзіў вачмі шэрагі адданых яму байцоў.

У гэтую пару супроць гасьцініцы зьбіраўся натоўп народу—гарадзкія мяшчане прыходзілі паглядзець на нешчасьлівага „збавіцеля вялікай сьвятой Расіі". Сярод натоўпу часамі чуваць былі нэрвова-зацятыя ўсхліпваньні—гэта плакалі

жаласьлівыя бабулькі, верныя спрадвечнаму абычаю праводзіць сьлязьмі ўсякую выдатную дзяржаўную зьмену, які-б характар яна ня мела. Так плакалі калісьці, як зьмяняўся цар, як нараджаўся новы царанёнак, як забівалі чарговага міністра, як абвяшчалі вайну, або заключалі мір і г. д.

Аднойчы і Лясьніцкі падышоў быў паглядзець на Карнілава—была нейкая асаблівая цікавасьць убачыць чалавека, які набраўся адвагі, каб прайсьці буйнымі крокамі па пярэстых старонках гісторыі расійскае рэволюцыі. Выгляд Карнілава яго страшэнна зьдзівіў. Ён чакаў убачыць нейкага страшнога, грознага генэрала з гнеўнымі маланкамі ў вачох, з рэзка напружанымі рысамі твару, а замест гэтага за вакном цьмяна мільгнуў аброслы ласкавай расьліннасьцю твар спакойна-сумнага мужчыны, твар, на якім выразна адзначаліся рысы глыбокай эмоцыянальнасьці, які быў працяты непадробленай шчырасьцю, нават фанатызмам. З цягам часу Лясьніцкі ўспамінаў гэты твар і яму здавалася, што з усіх актыўных гэрояў контр-рэволюцыі, з усіх паслугачоў буржуазнае клясы—генэрал Карнілаў быў самы адданы і самы шчыры.

Канец Карнілаўскае авантуры прынёс у горад дзіўна-раскіданую бязладную сумятню. Наколькі ў першыя дні яго выступу сьціснуў быў горад паваеннаму, па-баявому сконцэнтраваны настрой, настолькі цяпер расплылася ўсюды вальготнасьць, распушчанасьць. Фактычна не адчувалася ні пераможнікаў, ні пераможаных, нават шмат хто дакладна ня цяміў, хто гэта перамог, хто пасадзіў Карнілава, і ці сядзіць ён, ці так проста жыве тут, у добрай гасьцініцы, адкуль кіруе сваім войскам.

Па вуліцах, бязладна-бурлівых і тлумных, хадзілі разам і карнілаўскія ўдарнікі са сваімі страшнымі для дзяцей і поэтычна прывабнымі для жанчын „сьмерцямі“ на рукавах, і салдаты часьцей, якія былі на баку часовага ўраду. Часамі яны завадзілі дзе-небудзь на вуліцы спрэчку, але да бойкі даходзіла рэдка. Адзін раз толькі давялося натрапіць Лясьніцкаму на досыць сур'ёзную звадку, якая здалася яму настолькі-ж навучальнай, наколькі сьмешнай.

Гэта было неяк надвечар каля скверу, што на аднэй з цэнтральных вуліц гораду. Лясьніцкі падышоў у той момант, калі ў невялічкім шчытным гуртку вайсковых зважна спрачаліся карнілавец з салдатам ягор'еўскага батальёну. Лясьніцкі спыніўся і прыслухаўся. Яму адразу кінулася ў вочы, што супярэчнікі больш захоплены сваёй рыторычнай спрытнасьцю, чымся зьместам самае гутаркі—гэта было відаць па іх вытрымана-задорных, поўных спакойнага самалюбаваньня фізыяноміях, па тым, як кожны, падаўшы чарговую рэпліку, здаволена прыслухоўваўся да сьмеху і вясёлых адгалоскаў у спачуваючай яму частцы натоўпу. А ў сутнасьці, відаць, абодвым было ўсё-роўна, ці будзе езьдзіць на рэволюцыі казачы генэрал Карнілаў, ці эсэраўскі адвакат Керанскі. З такім імпэтам звычайна спрачаюцца аматары скачак аб тым, які выйграе конь: ці вараны з белай зоркай на ілбе, ці рыжы, белакапыты. А тымчасам ні ад тога, ні ад другога, ні аднаму ні другому няма ніякай карысьці. Толькі яшчэ прыметна было, што як супярэчнікі, так і публіка нечым нэрвова ўстурбованы, што яны шукаюць якога-б ні было спосабу, каб выліць сваё нутраное напружаньне.

Дзякуючы пад'юджваньню слухачоў, супярэчнікі ўсё больш і больш распаляліся, паступова саскаўзваючыся з узвышша тонкай палітыкі на чыста-асабовую глебу. Канец іх спрэчкі быў прыблізна такі:

— Многа ты разумееш... Твой Карнілаў—такі самы дурань, як ты...

— Хай сабе дурань... А ты вось слухай толькі гэтую мяліцу Керанскага, дык яшчэ больш вушы вырастуць. І так ужо, як у асла...

— Вушы—глупства, абы нос ня скрывіўся... А то-ж во... так і верне на Воршу... Зьбіў нехта, бо дужа жосткі... Во, во... ха-ха!..

— Памалу, не паднасіся... І да твайго недалёка, дармо, што маленькі... Бачыў во гэта?..

— Ты што... біцца, га?

— А ты чаго лезеш?..

— Дык на-ж табе!..

Да гэтага часу галоўнае ядро натоўпу ўжо само сабой падзялілася на дзьве прыблізна роўныя часткі, якія згрупаваліся абапал аднаго і другога. Таму пачатак бойкі вышаў на-дзіва шпаркі і ўдалы. Ужо праз момант у ёй прымала ўдзел дзесяткі два чалавек. Было некалькі стрэлаў, але пэўна ў паветра, бо, як потым высьнілася, ня было ні раненых, ні забітых.

Лясьніцкаму надоўга запомніўся гэты выпадак. Пры ўсёй сваёй малазначнасьці ён уліў новы струмень у тую чорную мешаніну, якую бачыў Лясьніцкі наўкола. Лясьніцкі думаў:

— Што-ж гэта, гульня? Забава? Цырк гэта ці рэвалюцыя? Хто тут гуляе, у якія гульні, хто раскітваецца за пройгрышы?..

У той час ён не знаходзіў на гэта адказу—тады папраўдзе пераблытана было ўсё ў трагічна-бязладны клубок—трудна было знайсьці ў ім канец ці пачатак.

Дзён праз пяць пасьля ліквідацыі карнілаўскага паўстаньня Лясьніцкі, прышоўшы ўвечары да хаты, засьпеў жывога і здаровага Халіму. Халіма ўжо справіўся быў навесьці ў пакоі буянае, як сам, бязладзьдзе, і цяпер, грузна раскінуўшыся на ложку, зьдзекваўся над Славіным. Ён выбраў для таго вельмі тонкае і выдатнае па сваёй жорсткасьці катаваньне. Ён наўмысьля выклікаў Славіна на шчырыя філёзофскія разважаньні, чакаў, пакуль той з патугай выкажа ўсё, і тады бязьлітасна высьміхваў яго, але рабіў гэта так, што Славін не прымячаў падкопу, выпінаўся, як было сілы, і ў гарачым запале, блізка што са сьлязьмі на вачох, стараўся давесьці сваю справядлівасьць.

За экзэкуцыяй моўчкі сачыла Ніна, і па твары яе было відаць, што яна страшэнна нездаволена. Яна відавочна ўзрадвалася, калі прыход Лясьніцкага спыніў гэту прыкрую спрэчку.

— Ну як?—запытаў Лясьніцкі ў Халімы.

Халіма размашыста зацягнуўся цыгаркай, цяжка паправіўся на ложку і забурчэў:

— Глупства, я-ж добра ведаў, чым гэта кончыцца. Каб тыдзень яшчэ ці два, ну, тады можа й зрабілі-б што, чорт ім вер... Цяпер выпусьцілі ды яшчэ гэроямі зрабілі—пацярпелі, значыць, за рэволюцыю... Чаго выдумаюць, чэрці... Ха-ха! Я іх дадзеў там, усю турму ўзбушлаваў... Апошнія дні сядзеў у адзіночцы—сумна было, думкі розныя лезьлі... Ня люблю брат, думак—паскудная рэч. Іншы тужыцца, тужыцца, ваб'ецца ў нетры, заблытаецца, як кацянё сьляпое, а думае, што нешта знайшоў, нешта адкрыў... У-у-у, мяшчанства! Менш думаць трэба, Васіль, ведаеш? Зусім ня думай, а—бі куды-пападзя, дык больш сэнсу будзе...

У гэты момант Славін, які ціха сядзеў у кутку, раптам падняўся, схапіў шапку і, не сказаўшы ні слова, вышаў з пакою. Яго праводзілі ўсе зьдзіўленым маўчаньнем—усе заўважылі, што ён ня спросту пайшоў, што быў ён нечым моцна ўзрушаны. І моўчкі слухалі ўсе, пакуль ня ляпнула фортка—ясна стала, што Славін падаўся некуды ў горад.

— Што з ім такое?—зьдзівіўся Халіма.

— Хто яго ведае...

І тут успомніў раптам Лясьніцкі, што калісьці якраз тое самае было з Халімам на кватэры ў Славіна пасьля іхнай няўдачы на маніфэстацыі. Ён хацеў напамянуць аб гэтым, але стрымаўся, толькі ўсьміхнуўся сам сабе ды падумаў:

„Гэты вокны біць не адважыцца“.

А Халіма зноў сярдзіта бурчэў, лежачы на ложку:

— Чорт яго ведае... кацянё нейкае... Ня люблю такіх мудроных... Філёзоф, бач, ты... казяўка разьлезлая... Бунт на іх трэба на ўсіх, ускалануць балота...

Ён раптам падняўся на локці і дапытліва зірнуў на Лясьніцкага.

— А ты ведаеш, чаму ня вышла нічога ў Карнілава, га?.. Ня ўмеў ён бунту зрабіць, во чаму... Дый хто-б паслухаў яго?.. А народ хоча бунту, во што... Тут і ўся філёзофія. Хто пойдзе з бунтам—таго прыме народ... А то—фі-ці-фі... філёзофія.

Ніна з усьмешкай зазначыла:

— Усякі бывае бунт... Часамі проста вокны б'юць, каб кроў разышлася, калі дужа застоіцца...

Лясьніцкі дадаў нібы зусім сур'ёзна:

— Але й вокны біць—то-ж ня кожнаму дадзена. Вось Славін ня будзе біць, хоць як раззлуецца—няма ў яго тэй крыві.

Халіму гэта раздражніла. Ён з грубым запалам пачаў даводзіць, што і ў гэтым ёсьць сэнс, што кожны бунт мае сваё апраўданьне, што ачышчае ён жыцьцё ад застояў, прасьвяжае паветра. Аргумэнты яго былі нязграбныя, карабатыя. У іх мала было пракаланасьці, але мімаволі яны рабілі ўсё-ткі ўплыў сваёй непасрэднай прастатой і пачуцьцёвай насычанасьцю.

А Славін усё-ткі добра ўсіх устрывожыў. У тую ноч ён зусім не вярнуўся, начаваў невядома дзе, і прышоў толькі назаўтрага к вечару. Прышоўшы, ён мала з кім гаварыў (аб учорашнім ані слова), сказаў, што пераходзіць на другую кватэру, забраў свае клумкі і пайшоў. Так і не дазнаўся ніхто, што спрычынілася яго хваляваньню, чым ён быў нездаволены. Дні праз два толькі давялося Лясьніцкаму ўзьняць ражок заслоны, за якой Славін схаваў сваю таямніцу.

Славін сам прышоў за Лясьніцкім, павёў яго на край гораду—паказаць сваю новую кватэру. Гэта быў вялікі пакой, які займаў цэлую палавіну дома. У другой палавіне жыла гаспадыня—нейкая старая бабылка. У пакоі Славіна ня было ніякай мэблі, апрача старога хісткага стала кухоннага гатунку ды нейкае прылады, якую з вялікай нацяжкай можна было назваць зэдлікам. Ложак Славін сам сабе змайстраваў—ён складаўся з чытырох пар высачэнных асінавых козлаў, дзьвюх пераводзін і дзьвюх вузенькіх дошак. На гэтай куросадні ляжаў яшчэ худзенькі сяньнік, які дала свайму новаму кватаранту жаласьлівая гаспадыня.

Славін пасадзіў Лясьніцкага на падабенства зэдліка, а сам пайшоў к гаспадыні і прынёс адтуль сабе нейкую скрынку. У іх спачатку не вязалася гутарка. Лясьніцкі

запытаў нешта пра кватэру, Славін нешта адказаў, потым маўчалі. Але муліўся Славін, уздыхаў—відаць было, што хоча ён шчыра пагаварыць, што ня можа ўтрымаць унутры ўсяго, што там набралася. Нарэшце пачаў ён—абходам так, здалеку. Запытаў пра Халіму, пра настрой яго, пра службовыя справы чамусьці. Потым памаўчаў яшчэ і, нарэшце, загаварыў ціхім задумёнъім голасам:

— Ён асаблівы чалавек... У яго скрозь адна грубасьць... Мне здаецца, што ён разумней, чымся самому яму здаецца... О, ён—разумны, ён—здольны, у яго—нявычэрпны запас жыцьцёвае сілы, яму трэба быць шчасьлівым. Куды супроць яго такі, як я! (І ён горка ўсьміхнуўся). Я можа зайздрошчу, што ён такі моцны, хто яго ведае. Мне цяжка з ім неяк, я чую, што ён ня любіць мяне... Я, Васіль, таму й перайшоў на другую кватэру... Ты думаў—чаму?.. Выключна толькі дзеля гэтага... Ты ня думай...

Лясьніцкі яго заспакоіў:

— Мы ўсе так і меркавалі... Чаго-ж больш—вядома...

І Славін цягнуў далей свае разважаньні пра Халіму. Здалося Лясьніцкаму, што ён наўмысьля стараецца больш гаварыць пра яго, каб адцягнуць увагу, і што ёсьць у яго нешта больш патаемнае, больш далікатнае, якое ён хоча і баіцца сказаць. І Лясьніцкі не памыліўся. Зрабіўшы такую сталую падрыхтоўку, Славін нарэшце запытаў неяк неўзаметку, нібы спадкрадня:

— Яны з Нінай пэўна жывуць... як муж з жонкай, га?..

Лясьніцкі няўважна зазначыў:

— Хто іх ведае... З пагляду дык у іх досыць блізкія адносіны... А там-жа хто разьбярэцца, як і што...

— Яна мусіць любіць яго... Яна тады так была засмуцілася, калі яго забралі. Добрая яна, Ніна... Калі яна любіць яго, ён павінен быць шчасьлівы...

Ён змоўк і глыбока задумаўся. Потым пачаў дэкламаваць нейкі досыць прыгожы верш, дзе некалькі раз упаміналася пра добрыя шэрыя вочы. Лясьніцкі дагадаўся, што гэта верш яго ўласны. І вось раптам захацелася яму зьбян-

тэжыць Славіна, нечакана адкрыць яго няхітрыя карты. Як толькі той кончыў свой верш, ён ні з таго, ні з сяго запытаў яго—проста, быццам да рэчы прышлося:

— Ты, што, Нікадзім, любіш Ніну?

Аднак вышла зусім іначай. Славін і не зварухнуўся—адказаў так-жа проста, як і запыталі ў яго:

— Здаецца, люблю... Але я яшчэ сам ня ведаю... Толькі я ня хочу, каб яна ведала, нават каб дагадвалася... Ты не скажы, Васіль, я прашу цябе...

І зноў задумаўся, адвёў некуды ў куток свае вочы.

Тады адкрылася Лясьніцкаму сапраўдная прычына таго дзіўнага ўзрушэньня. Але ён абяцаў Славіну, што нікому ні слова ня скажа з усяго таго, аб чым яны гаварылі ў той дзень.

З ДАПАМОГАЙ Андрэя і Халімы Лясьніцкаму ўдалося паступіць на пасаду пісара ў адну мясцовую вайсковую часьць. Ён з асаблівым здаволеньнем напрануў вайсковую форму і разам з новай адзежай пачуў сябе новым чалавекам. Яму давала вялікую радасьць думка аб тым, што цяпер ён ужо зусім самастойны, што ён сам зарабляе сабе на хлеб, ні ад каго не залежыць. Асаблівую-ж уцеху давала вайсковая вопратка. Ён ня мог проста ўседзець у хаце—усё карцела прайсьціся па гораду ў новай салдацкай шынэлі—з пустымі, але чысьценькімі пагонамі на плячох.

І вось у гэтыя шчасьлівыя дні выпала Лясьніцкаму яшчэ нечаканая радасьць: ён сустрэў тут, у горадзе, паненку Раісу.

Гэта было ў нейкі сьвяточны дзень. Ён ішоў па аднэй з бязьлюдных вуліц гораду, аддаўшыся прыемнаму адчуваньню на плячох лёгкага цяжару свае шынэлі. І раптам наперадзе, крокаў за пятнаццаць, ён заўважыў Раісу. Ён адразу пазнаў яе, нават ня ўбачыўшы ў твар, бо такой прыгожай любай хады ён ня бачыў ні ў воднай жанчыны. Яна ішла лёгка, спрытна і ў той самы час з ледзь прыметнай млявай

павольнасьцю, быццам адчувала, што нехта сочыць за кожным рухам яе цела, любуецца хараством яе стройных форм, быццам думала з кокетлівым самадавольствам:

„Што-ж, любуйцеся, калі хочаце. На тое я й прыгожая, каб мной любаваліся“.

Лясьніцкі адразу пазнаў, што гэта яна, і яго сэрца ні з таго, ні з сяго пачало свавольна біцца ў грудзёх, быццам падавала адтуль нейкія перасьцерагаючыя сыгналы. Адну хвіліну Лясьніцкі ня знаў, што рабіць: ці ісьці так адзаду, ці дагнаць яе, хутчэй сустрэцца. Потым ён выбраў апошняе і прыбавіў ходу. Ён неўзабаве перагнаў яе, зайшоў на колькі крокаў наперад і, нібы няўмысьля, азірнуўся.

Яна яго не пазнала, а можа проста не заўважыла. Тады ён спыніўся, абярнуўся назад і, каб не прапусьціць яе міма, яшчэ за некалькі крокаў прывітаўся:

— Добры дзень, Раіса Андрэеўна!

Яна перш здрыганулася ад нечаканасьці (так глыбока была задумаўшыся) потым з вясёлым задзіўленьнем узьняла свае жвавыя бровы.

— Гэта вы? Адкуль вы ўзяліся? Хто гэта надзеў вам такую страшэнную халаміду? (Гэта так пра шынэль пра яго). Добры дзень! Я да-душы рада, што вас сустрэла... Ой, які-жа вы сьмешны!.. Вы падобны цяпер на нейкага старадаўнага рыцара, сапраўды...

Лясьніцкі сьветла ўсьміхаўся і, не выпускаючы маленькай рукі Раісы, глядзеў на яе з прагным замілаваньнем, быццам піў вачмі яе глыбокае сьвежае хараство. Яна гарэзьліва сьмяялася.

— Чаго глядзіцё так, як на дзіва? Што, прыгожая, га?.. Можа зьбіраецеся мяне пакахаць? А помніце ўмовы мае? Іначай я ня згодна...

— Я казаў ужо вам, што гатоў прыняць вашы ўмовы, ня гледзячы на іх нечалавечую жорсткасьць.

— О, які вы добры!..

Яна сьмехам зрабіла від, быццам працялася раптоўнай роспаччу.

— Ах, я зусім забылася, што ў мяне ёсьць шчасьлівая супрацiўнiца. Шаноўны рыцар! Як жыве ваша чорнавокая Дульцынэя і дзе яна цяпер знаходзіцца?..

— Цяпер далёка, за мяжой магутнага сьвятла вашых прыгожых вачэй.

— Ого, комплімэнты пачаліся...

Перакідваючыся жартамі, яны дайшлі да бліжэйшага завароту. Раіса спынілася.

— Далей я вас ня пушчу... Вы куды: проста ці налева?

— Мне ўсё роўна.

— Ідзіце налева, бо я пайду направа... Во што... Сягодня ўвечары а... якой... а восьмай гадзіне вы будзеце ў мяне дома... гэта самая вуліца № 26. Чулі?..

І нават не пачакаўшы адказу, яна крута завярнулася і пайшла, пакінуўшы Лясьніцкага ў нейкім салодка-няўцямным аслупяненьні. Ён ня мог адвесьці вачэй ад яе постаці, праводзіў яе гарачым поглядам аж пакуль не схавалася яна за рогам нейкага дома. Тады пайшоў абы-куды, упяўшы ў дол задуменна-шчасьлівыя вочы, млява, быццам нехаця перастаўляючы ацежалелыя ногі.

У вушшу выразна зьвінеў мэлёдычны, звонка-задорны голас.

Ён прышоў да яе ў той дзень якраз а восьмай гадзіне. Ён разы са два прайшоў міма сьветлых, шчасьліва-бліскучых вакон, каб суняць сваё хваляваньне. Але ўсё роўна сэрца балюча білася, калі браўся за ручку званка.

Адчыніла тлустая монумэнтальная жанчына гадоў пад сорак. Зьдзіўлена ўзьняла магутныя бровы, запытала грубым цяжкім рэчытатывам:

— Што вам трэба?

Ён толькі прыладзіўся адказаць загадзя падрыхтаванымі словамі, як раптам пачуўся з пакояў знаёмы голас:

— Цёця! Пусьціце! Гэта ка мне...

— К табе?..

Цёця, відаць, яшчэ больш зьдзівілася. Але ўпусьціла ў пярэдні пакой. Аднекуль збоку зноў пачуўся голас Раісы:

— Цёця! Гэта-ж зямляк мой—я гаварыла вам... Помніце?.. Хадзіце сюды, Васіль Данілавіч!

Цётка моўчкі махнула рукой на бакавыя дзьверы, а сама грузна пасунулася ў пярэднія.

Лясьніцкі нясьмела адчыніў дзьверы, ступіў крок у раскошны прытульны пакой і мімаволі спыніўся, застыгнуў у нечаканым захапленьні.

Яна, мабыць, хацела канчаткова давесьці яго да вар'яцтва. Яна бязьлітасна дражнілася сваім бліскучым хараством, яна наўмысьля прываблівала, спакушала.

У пакоі лунаў пявуча-ружовы сьвет, насычаны нейкім цудоўным, трошачку сумным араматам. У кутку пакою прытульна растапырыўся масыўны рояль і на яго глыбока-чорным фоне стаяла Раіса, апранутая ў лёгкі хатні ўбор—таксама ружовы, мякка-празрысты. Гэтая павеўная сукенка з чароўнай цеплатой акрэсьлівала кожную рысачку яе цела—бязьмерна прыгожага, быццам жывога, адухоўленага ў кожнай сваёй частцы.

Яна стаяла, закінуўшы назад аголеныя рукі (папраўляла валасы), і глядзела на Лясьніцкага з горда-прыветнай, поўнай спакусы, усьмешкай. Яна ўся была ўвасабленьне спакусы, яна здавалася дзівоснай, да сьвятасьці грэшнай багіняй бязьмежна-сьмелых агнёвых уцех.

Лясьніцкаму хацелася стаць прад ёй на калены і ў маленьнай радасьці сузіраць бясконца гэта непераможнае яе хараство. Ахоплены раптоўным парываньнем, ён і сапраўды падышоў да яе, спусьціўся на адно калена, сказаў з наўмыснай жартлівай афэктацыяй:

— Вы—бязьлітасна прыгожая, Раіса Андрэеўна... Дазвольце беднаму рыцару пацалаваць край вашай адзежы.

Яна падышла, падняла яго за вушы і ў тон яму адказала з усьмешкай:

— О, мой рыцар! Вы заслужылі гонару дакрануцца сваімі шляхетнымі вуснамі нават да мае рукі... Наце, цалуйце!..

Лясьніцкі сядзеў у Раісы, вязка атулены нейкім атрутна-салодкім чадам. Яна потым іграла на роялі шчымліва-сумныя мэлёдыі, і ў яго ціха плакала сэрца, да краю поўнае пяшчоты і ласкі. Ён заплюшчваў вочы і слухаў, і тады ўсе думкі і пачуцьці, уся істота зьлівалася ў адно адчуваньне—гэта адчуваньне было зусім матар'яльнае—яно было туманна-ружовае, расплыўчастае і пабрадзенае чароўна-мудронай сыстэмай празрыстых складак.

Калі кончыла Раіса іграць, у Лясьніцкага палахліва зашчымела сэрца—ён пачуў, што трэба йсьці, бо ўжо прайшло гадзіны паўтары. Аднак Раіса дазволіла яму астацца да дзесяці, а потым, падумаўшы, і яшчэ працягнула тэрмін.

— У дзесяць дзядзя Міка прыдзе, але вы можаце пры ім аставацца.

Яны селі поплеч на канапу, яна ўспомніла, што ён умее расказваць і загадала яму гаварыць „рознае глупства". У ўзнагароду за гэта яна дала яму ў поўнае распараджэньне сваю левую руку. Ён пачаў гаварыць і сапраўды гаварыў клясычнае глупства, бо быў больш заняты бясконцым цалаваньнем „свае" рукі і адчуваньнем салодкай бязьмежнасьці свайго нечаканага шчасьця.

Троху пазьней, чым а дзесятай гадзіне, прышоў дзядзя Міка. Дзядзя Міка цалком адпавядаў сваёй назьве. Гэта быў забаўны тоўсьценькі чалавечак, насычаны кругленькімі заўсёды нарыхтаванымі жарцікамі, з арыстократычна-грэблівай мінай на твары, з наіўна скруглёнымі, як у дзіцяці, вачмі. Ён мог пражыць цэлы век (пражыць цёпленька, тоўсьценька) і быць нязьменна для ўсіх вялікім сьмешным дзіцём, над нязграбнай наіўнасьцю якога заўсёды можна весела і бескаранна пасьмяяцца. Ён умеў так глыбока хаваць сваю тонкую кацінуюхітрасьць, што мабыць часамі і сам на яе забываўся, і сапраўды быў тым добрым вясёлым прастачком, за якога яго ўсе ўлічалі.

Раіса сустрэла дзядзю Міку з бурнай радасьцю.

— Дзядзя Міка! Коцік, золатца маё... Хадзіце хутчэй сюды... Я так вас чакала, так чакала.

Дзядзя Міка з урачыстым шумам разьдзеўся і ўкаціўся ў пакой вясёла-бліскучай салодкай кружэлачкай.

— Выбачайце, кацянёначак, я толькі на дзесяць... усяго на дзесяць хвілін спазьніўся... Я быў...

Раіса яго спыніла з жартлівай рэзкасьцю.

— Стоп! Маўчыце! Ідзіце сюды, ну? Доўга я буду чакаць? Нагніцеся... так... вось вам, вось вам, ня ўчыцеся пазьніцца, вось вам.

Яна досыць сур'ёзна драла яго за рэдзенькі хохлік, і яму, небараку, відаць з вялікай патугай удавалася ўтрымаць у сваім жартлівым айканьні нотку здаволеньня. Потым Раіса пазнаёміла дзядзю Міку з Лясьніцкім. Вітаючыся, ён зірнуў на Лясьніцкага з нейкім пабрацімскім спачуваньнем, быццам сказаў гэтым поглядам:

„Ага, разумею... Таварыш па няшчасьцю"...

Лясьніцкаму не ўпадабаўся гэты погляд. Наогул, з прыходам дзядзі Мікі прыляцела ў пакой нешта з чужога, незнаёмага Лясьніцкаму сьвета, нешта занадта для яго лёгкае, лятуча-пярэстае. Яму незразумелы былі ні жарты дзядзі Мікі, ні шумлівая вясёласьць Раісы—яе кароткі, няпоўны, быццам прысьпешаны сьмех. Было такое ўражаньне, што перайшлі яны з Раісай з аднаго пакоя ў другі, і ў тым першым асталася іх глыбокая блізкасьць, асталося тое бязьмежна-салодкае адчуваньне. Тут, у гэтым шумлівым пакоі, Раіса была ўжо другая.

Каб канчаткова не сапсаваць сабе настрою, Лясьніцкі не па доўгім часе разьвітаўся і вышаў. І сапраўды, не пасьпеў ён прайсьці і сотні крокаў, як разьвеялася гэта няпрыемнае, чужое, і ў поўнай яскравасьці вярнулася ранейшае захапленьне. І чым далей ішоў, тым гусьцей заплывала сьвядомасьць шумлівай хваляй салодкага чаду, і сэрца тлумней пачынала біцца, ахапляў нейкі радасна-рашучы вольны настрой, падкрэсьлены шчымлівым адчуваньнем злачыннасьці, незаконнасьці гэтага палкага шчасьця. Такі настрой бывае ў дзіцяці, калі яно, заместа лекцый, бяжыць куды-небудзь на ўлоньне прыроды і з вольнай радасьцю аддаецца прыгожым

забавам, рашуча махнуўшы рукой і на нудную школу, і на сярдзітага настаўніка, і на магчымую кару.

Падыходзячы к дому, Лясьніцкі раптам успомніў, што ён ня ўмовіўся наконт далейшых пабачэньняў. Гэта яго страшэнна ўстурбавала, ён ніяк ня мог дараваць сабе такой неабачлівасьці. Але потым супакоіўся на думцы, што можа як-небудзь зноў удасца сустрэць яе выпадкова.

Пасьля таго некалькі дзён Лясьніцкі жыў выключна настроем гэтага вечару. Дзе-б ён ня быў—ці дома, ці на занятках, ці яшчэ дзе-небудзь, ён, углыблёны ў сябе, бясконца перабіраў у сваім уяўленьні ўсе маленькія драбніцы гэтай сустрэчы, усе словы, якія яму гаварыла Раіса, усе самыя тонкія адценьні сваіх адчуваньняў. І гэта давала яму жывое здаволеньне, рабіла жыцьцё квяцістым і радасным. Часамі ў гэты шчасьлівы настрой уплятаўся ўспамін аб Макрыне. Ён не адганяў яго, ён наўмысьля стараўся ўявіць яе вобраз, праверыць сваё пачуцьцё да яе. Яна стаяла недзе далёка-далёка — няясная, няпрыметная—і абуджала толькі ледзь чутную жаласьць.

Так прайшло дні чатыры. Потым пачалі сьціраццa фарбы ўспамінку, пачалі траціць сваю яскравую сьвежасьць і зьбірацца ў адно пачуцьцё глухога суму. І тады зьявілася прагнае жаданьне ўбачыць Раісу. Гэтае жаданьне чым далей, тым больш настойна турбавала сьвядомасьць, напаўняла істоту неадступна-трывожным чаканьнем. Ён пачаў часта хадзіць па тэй вуліцы, дзе яна жыла, праходзіў з заміраньнем сэрца міма вакон яе дома і напружна чакаў сустрэчы. Нарэшце дайшло да таго, што прагнае жаданьне зламіла далікатнасьць і сорам—ён рашыў пайсьці да яе ў хату.

Ён доўга вагаўся, пакуль канчаткова надумаў пайсьці да Раісы. Ён знаў, што можа яе не засьпець, што можа прыйсьці ў няўдалы час, што наогул гэта неабычайна—пайсьці без запрашэньня. Але ня мог саўладаць з пачуцьцём—і пайшоў.

Гэта сустрэча з Раісай дала яму многа нечакана-яскравых перажываньняў, узьняла яго пачуцьці да найвышэйшай

мяжы напружаньня, канчаткова і непарыўна прывязала яго да гэтае прыгожае, часам жудасна-дзівачлівае жанчыны.

Ён пайшоў быў, як і тады, гадзіне а восьмай увечары. Ён засьпеў яе дома, і яна нават узрадвалася, што ён прышоў. Яна выглядала зусім іначай, чымся ў той раз. Яна была ў просьценькай шэрай сукенцы—і сама такая простая, ціхая. Яе харастово ня было рэзка-бліскучае, агнёвае, як тады, яна быццам працята была нейкім трагічным смуткам.

Як увайшоў Лясьніцкі ў пакой, яна чамусьці з палахлівай пасьпешнасьцю прыбрала са стала нейкі ліст, схавала яго ў маленькую касьцяную скрыначку. Потым села ў куток канапы, стулілася ў прытульны камочак і загаварыла глыбокім, троху надламаным голасам:

— Я атрымала ліст сёньня з дому, Васіль Данілавіч, і сумую... Нешта ўспамінаецца дзяцінства—усё ўяўляю сябе маленькай дзяўчынкай—бязьвіннай, чыстай, як незабудка... Чамусьці захацелася быць добрай. Я ня ведаю, як гэта зрабіць. Кажуць, што любіць трэба ўсіх, так, як сябе, а я ўсё роўна сябе люблю больш за ўсіх... Каб я ня любіла сябе, дык я-б ня жыла... я-б даўно ня жыла... я-б памёрла... Ці шкадавалі-б вы мяне, Васіль Данілавіч, каб я памёрла?.. Ці плакалі-б?..

— Хіба толькі ў сьлёзах выказваецца пачуцьцё?..

— Так, гэта правільна. Сьлёзы змываюць пачуцьцё. Як паплачаш—стане спакойна і ціха...

Яна задумалася і нейкі час сядзела моўчкі. Потым пачала ўспамінаць—расказваць пра сваё дзяцінства, і яе вочы ціха запаліліся агнём ласкавага захапленьня. У сярэдзіне апавяданьня яна раптам гукнула Лясьніцкага:

— Хадзіце сюды, Васіль Данілавіч...

Ён падышоў.

— Сядзьце во тут, поплеч... бліжэй...

Потым яна ўзяла яго галаву і палажыла сабе на калені, пачала задуменна перабіраць яго валасы.

— У вас валасы дужа мяккія—такія валасы больш у жанчын бываюць... Ну сядзіце спакойна, дзетка, не варушыцеся... Слухайце далей...

І зноў пачала расказваць пра сваё дзяцінства—і ўсё пяшчотна перабірала яго валасы. Так гаварыла хвілін пяць, потым змоўкла, падняла з кален яго галаву і пачала цалаваць твар ціхімі задуменнымі пацалункамі. Калі-ж ён з свайго боку памкнуўся быў праявіць актыўнасьць у гэтым самым напрамку, яна балюча ўдарыла яго па вуснах.

— Ня сьмейце цалаваць!.. Хто вам дазволіў? Грубіян...

А сама зноў цалавала і гаварыла з ціхенькай усьмешкай:

— Вы—другі, Васіль Данілавіч, вы не павінны цалаваць... Вы думалі—гэта я вас цалую, га?.. Вы—другі, зусім другі... Чаму ў вас мяккія валасы, Васіль Данілавіч, як у жанчыны ўсё роўна?..

Лясьніцкаму рабілася дужа крыўдна ад гэтых слоў Раісы. Яе пацалункі ня радавалі, яны неяк суха абпальвалі твар—здаваліся назольлівымі, прыкрымі. У вушшу балюча застрала гэта дзіўнае слова—„другі“, і з кожным пацалункам Раісы, з кожным яе загадкава-незразумелым сказам расло гэта да болю шчымлівае пачуцьцё крыўды. быццам пераліваласся ў яго ўсё каханьне, якое гарэла дасюль у сэрцы, уся пяшчота. Нарэшце яму нясьцерпнай стала такая мука. Ён парыўчата вырваўся з яе абнімкаў, забегаў па пакою—глыбока ўзрушаны, гатовы заплакаць.

Яна зьдзіўлена запытала:

— Што з вамі, Васіль Данілавіч?

Тады надрыўна вырваліся з самых грудзей у яго гатовыя пераліцца ў сьлёзы дрыжачыя словы:

— Я ня хочу, каб... другі... Я—ня другі... Вы... так няможна мучыць... гэта-ж... бязьлітасна так...

Раіса зразумела яго абурэньне і раптам пасыпалася нейкім жорсткім, нахабна-раскатным сьмехам.

— Вы пакрыўдзіліся, ха-ха!.. Бедны рыцар, няшчасны гэрой!

Лясьніцкі спыніўся прад ёй з горача распаленымі вачмі, ледзь выгаварыў скрозь сьціснутыя зубы:

— Раіса... Андрэеўна... Ня сьмейцеся... досыць...

Яна перастала сьмяяцца, але вочы яе загарэліся нечым другім—цьвёрдым і страшным. Яна раптам устала, зьняла са сьцяны бізун і падала яму.

— Я вінавата, я—дрэнная... Набіце мяне, Васіль Данілавіч!.. Ну, бярыце... біце... ну біце мяне, чуеце?.. Чаго стаіцё?.. Я хачу, я прашу вас... ну ўдарце... Васіль Данілавіч...

Лясьніцкі няўцямна глядзеў на яе, ня ведаў, што рабіць. А яна ўсё больш і страшней блішчэла вачмі і гаварыла з нейкай хваравітай пасьпешнасьцю:

— Вы ня хочаце? Так? Вы баіцёся? Ага, я разумею... вам страшна... ха-ха... мужчына!.. Страшна, так?.. Страшна?.. дык вось вам, ха-ха... вось... вось...

І яна некалькі раз з усяе сілы ўдарыла яго бізуном—і сьмяялася дзіўным нейкім, злорадасным сьмехам.

У Лясьніцкага пацямнела ў вачох. Абураны раптоўным гневам ён інстынктыўна кінуўся на яе, схапіў за руку і... убачыў горда-прыветную любую ўсьмешку, поўную глыбокай непераможнай спакусы. І ён, абязволены, пацалаваў маленькую белую ручку, якая яшчэ трымала бізун. А яна тады блізка, зусім блізка ўся да яго нахілілася і загаварылазашаптала, палка бліскаючы прамяністымі зеленаватымі вачмі:

— Помніце ўмову? Вы казалі, што пакахаеце... Я хачу, каб вы пакахалі... Васіль Данілавіч, я дужа страшная, небясьпечная жанчына... Я магу пагубіць... Хочаце, я пагублю вас, хочаце?.. Я пагублю вас сваім каханьнем... Вы баіцёся? Так? У, які вы трус, Васіль Данілавіч... Ну хочаце — я вам аддамся? Я дам глыбокую, поўную асалоду... я пагублю... Васіль Данілавіч... Вася, любы мой... ну зараз... во тут... я сама... я разьдзенуся... я пакажу вам цела сваё—вы такога ня бачылі... У мяне цудоўна-прыгожае цела... Вася, Васечка... хочаш? Хочаш пагібнуць? Давай разам... у каханьні, у шчасьці... Любы... другі... Ты—другі, мучыцель мой, шчасьце маё...

Яна нахілялася да яго ўсё бліжэй, абдавала твар яго сваім гарачым дыханьнем, распальвала кроў блізкай цеплатой свайго цела. І вось замуціў галаву яму агнёвы тлум, ён забыўся на ўсё-чыста, нічога ня бачыў, бачыў толькі скрозь

гарачы туман зеленаватыя вочы з дзікім русалаччым агнём ды акруглыя рысы бязьмежна-дарагога прыгожага цела. Нэрвова-дрыжачымі рукамі ён схапіў яе, падняў, як дзіця, і моцна, з усяе сілы туліў да сябе, і цалаваў яе твар рашучымі сьмелымі пацалункамі. А яна тады раптам затрапяталася, быццам працятая вострым спалохам, вырвалася з яго абнімкаў, і, кінуўшыся ніц на канапу, заплакала цяжкім жудасным плачам, у якім чувалася магільная роспач чалавека, які страціў усё, што было ў яго дарагое...

Лясьніцкі забыўся і на крыўду сваю, і на гэта агнёвае, палкае. Ён бачыў бязьмерную муку чалавека, які быў цяпер даражэй яму за ўсё на сьвеце, і ён мучыўся сам, гатоў быў зрабіць усё, што-хоця, толькі каб даць ёй заспакаеньне. Поўны балючай пяшчоты ён схіліўся прад ёй і з нейкай новай сваяцкай ласкай гладзіў яе валасы, суцяшаў наіўна-ласкавымі словамі:

— Раіса... дзетка мая... плакаць ня трэба—гэта зусім нядобра... Я жалею цябе... Можна цябе пажалець? Можа ты пакрыўдзілася на мяне? Я больш ня буду... нічога ня буду... Я толькі хачу кахаць цябе, ты дазволь мне кахаць... Добра?.. Я буду цябе так кахаць, як ты—помніш?—казала там, на купальскую ноч... Ну, ня плач, дзетка... родная... сястрыца мая дарагая...

Яна, не падымаючы ад падушкі твару, абняла аднэй рукой яго галаву і загаварыла скрозь сьлёзы:

— Я жартавала... Я не аддамся нікому... я не магу аддацца... Вы не падумайце, што я магла... так, адразу... Я жартавала толькі... Васіль Данілавіч... Я кахаць вас ня буду, я не магу вас кахаць... І вы не кахайце—ня трэба... я буду мучыць вас толькі... я ня хочу... і не пагублю вас... нашто?..

У той вечар яна сама доўга ня пускала Лясьніцкага йсьці. Седзячы поплеч з ім на канапе, яна палахліва тулілася да яго і гаварыла, што баіцца нечага, што ёй жудасна.

— У мяне часта бывае так... Я многа думаю, лятуцею і потым мне няма ведама што пачынае здавацца. У мяне цяж-

кое жыцьцё, Васіль Данілавіч... Я так многа думаю, я так мучуся... Каб памерці... каб магла...

Ён не прасіў яе, каб расказала пра сваё гора, бо ведаў, што ўсё роўна ня скажа. Ён пачынаў паступова звыкацца з думкай, што ў яе ёсьць нейкая таямніца, якую яна ўсё роўна ня выкажа, і што гэта таямніца страшэнна мучыць яе. І ён з маўклівай пакорай балеў сваім сэрцам, калі бачыў яе душэўную муку, і суцяшаў яе, ня ведаючы прычыны яе хваляваньня.

Гадзіне а дванаццатай Раіса ціха заснула ў яго на руках, і з поўгадзіны ён сядзеў так, прасякнуты адчуваньнем глыбокага шчасьця, з пяшчотнай усьмешкай любаваўся яе ціхім, бязьвінна-чыстым, як у дзіцяці, тварам і баяўся шавальнуцца, каб ня спудзіць гэтага чароўнага спакою. Потым яна прачнулася, зірнула на яго зьдзіўлена раскрытымі вачмі і, зразумеўшы, прашаптала з пачуцьцём пяшчотнай удзячнасьці:

— Цяпер ідзіце ўжо... Мне зусім добра, я буду спаць...

Выходзячы, Лясьніцкі з урачыстай сур'ёнасьцю папрасіў яе:

— Раіса Андрэеўна! Абяцайце мне, што калі трэба вам будзе дапамога староньняга чалавека, вы зьвернецеся перш за ўсё да мяне.

Яна сонна ўсьміхнулася.

— Добра, Васіль Данілавіч, я абяцаю...

ХМАРЫ гусьцелі, чарнелі, зьвісалі зусім нізка над галавой і ўсё цяжэй душылі сваім пагрозна-нахмураным ценем. Расла трывога, пераліваласяў настойлівае прадчуваньне, у пераконаньне, што насуваецца ўжо, хутка загрыміцьзагуляе дзікая навальніца.

Ужо бушавала злоснае мора, ужо хадзілі па ім імпэтнагонкія хвалі, ужо высока, да самага хмарнага неба ўзьляталі ярыя брызкі шалёнага абурэньня. І на гэтых дзіка-магутных хвалях, у рэзкім тумане гэтых разьюшаных брызкаў

недалужна гоўтаўся човен буржуазна-дэмакратычнага ладу і ледзьве ліпеў, апанаваны ўздымам ліхой навальніцы, во-во гатоў быў захліпнуцца, зьнікнуць у нетрах разбушаванай стыхіі.

Здань небясьпекі супроць волі ашалелага кодла вольных ці нявольных паслугачоў буржуазіі прымала з кожным днём выразныя пэўныя формы, і ўжо мінорна-ўзьнятыя песьні аб безадказнай анархіі, аб дэмагогічнай рабоце невялічкай групы кайзэраўскіх наймітаў, прысланых затым, каб распаліць крывавжэрныя інстынкты цёмнае масы і гэтым загубіць моц „вялікай Расіі“,—усе гэтыя песьні дашчэнту страцілі сваю праканаласьць, гучэлі, як хваравіты ёкат ахопленага перадсьмяротнай агоніяй зьвера. Здань небясьпекі бязладнаму ладу зьбянтэжанай буржуазіі паўставала пагрознай велічча ў яскравым выглядзе магутнага абурэньня працоўных, у настойным, усё больш і больш організаваным патрабаваньні міру, зямлі, заводаў і фабрык—таго, што складала для рабочага і селяніна сапраўдную волю, сапраўдную дарогу да новага лепшага жыцьця.

У гэты час з нябачанай шпаркасьцю рос уплыў партыі бальшавікоў, якая бязьлітасна раскрывала працоўным сутнасьць і сапраўдныя замеры ўлады Керанскага, якая нязьменна вяла іх да ўзброеннага захопу ўлады. За бальшавікамі дружнай сьцяной ішлі рабочыя, якія настойна штурхалі на рашучы рэволюцыйны шлях свае баявыя Саветы. За бальшавікамі ішлі на тысячы вёрст раскіданай сярмяжнай масай сяляне, якія пакрылі ўвесь бязьмежны абшар „Расійскай імпэрыі“ агнём пажараў, грымотамі стыхійна-магутнага руйнаваньня.

У чорнай трывозе, у глухіх гнеўных грымотах набліжаўся страшны судны дзень, вырастаў буяны віхор вялікага народнага бунту, загараўся нябачаны ў сьвеце пажар.

Напорна ішло нямінучае, грознае.

А ў горадзе, дзе давялося перабываць гэтыя дні Лясьніцкаму, стаяў той самы бязладна-распушчаны дробна-сумятлівы застой, які павёўся аж з таго часу, калі ліквідавалі

Карнілава. Можа дзе ўпотайку хто-небудзь нешта й рабіў, можа рыхтаваліся моўчкі тыя ўзаемна-варожыя сілы, якія ўрасьлі потым у вялікую барацьбу, але знадворку было ўсё так, як і раней. Стаўка бліскала штаб-афіцэрамі, парадамі, рознымі прыездамі, ад'ездамі, мізэрныя адросткі нязьлічоных партый ладзілі мітынгі, бясконца спрачаліся паміж сабой, рыхтаваліся да выбараў у ўстаноўчы Сойм і ўсе разам лаялі бальшавікоў, спраўлялі рознагалосы гвалт пра пагрозу чорнай анархіі, пра небясьпеку для рэволюцыі; прыватныя грамадзяне лаялі як бальшавікоў, так і тых, хто лаяў бальшавікоў, а найгорш—кірмашовых сялян, якія нахабна вымагалі за свае продукты казачна-вялікія цэны.

І вось нарэшце ўдарыў пярун—пакаціліся па ўсёй неабсяжнай краіне грозныя яго адгалоскі.

У той вечар Лясьніцкі быў дома. Ён чытаў уголас нейкую кніжку, Ніна слухала і шыла, а Халіма па свайму ўлюбёнаму звычаю размашыста курыў, лежачы на ложку, і ні-то нешта бурчэў, ні-то ціха сьпяваў сабе пад нос. І раптам—стукат у дзьверы, прыходзіць Андрэй, урачыста-сур'ёзны, стрымлена-ўзрушаны і заяўляе нізкім ад хваляваньня голасам:

— Пачалося... Ёсьць тэлеграма з Петраграду, што рабочыя і салдаты організавалі ўзброенае паўстаньне і захапілі ўладу.

Усе заціхлі ў нейкім да краю напружаным маўчаньні. А Андрэй урачыста выбіваў дзіўна-новыя нязвычайныя словы:

— На вуліцах Петраграду ідуць баі, якімі кіруе ваенна-рэволюцыйны камітэт... На бок рабочых пераходзяць усё новыя вайсковыя часьці. Міністры часовага ўраду арыштаваны...

Потым ён скінуў сваю ўрачыста-важную міну і зірнуў на ўсіх з яснай адкрытай радасьцю.

— Чулі, га?.. Разумееце, што гэта значыць?.. Халіма, давай сюды сваю лапу, чорт ты лысы... Гэта-ж, хлопцы, наша пайшло. Гэта-ж пажар. Васіль, разумееш?.. Вось яно падышло, пачалося тое страшное, нямінучае, аб чым—помніш?—мы з табой гаварылі...

А Халіма раптам устаў—сярдзіты, нахмураны—з усяе сілы ляснуў кулаком па сталу.

— Пойдзем!

Ніна ні-то з трывогай, ні-то з цікавасьцю ўскінула на яго погляд.

— Куды?..

— Усё роўна... Пойдзем, Андрэй... Васіль, хадзі...

Андрэй з ласкавай усьмешкай затрымаў яго.

— Пачакай... Зараз пойдзем усе разам на мітынг—нашы сёньня наладзілі, будзе Гольдзін даклад рабіць... Давайце яшчэ чай арганізуем...

Чай арганізоўвалі ўсе разам, каб не спазьніцца, і ўсе страшэнна бунтавалі Ніне. Пілі таксама на скоры пасьпех—абы тое адбыць, і зараз-жа ўсе ўчатырох навыперадкі пабеглі ў горад.

Мітынг быў недзе на самым канцы гораду ні-то ў рабочым, ні-то ў салдацкім клюбе, у нізкім даўгім і панурым будынку, нават асьветленым чамусьці не электрычнасьцю, а газавымі лямпамі, якія кідалі навокал жоўта-сьмяглае хваравітае сьвятло і надавалі памяшканьню манастырска-нудны выгляд.

Народу на мітынг сышлося многа—як стоўпіцца ў памяшканьні. Гэта былі ў большасьці або салдаты, або рабочыя. Ужо ўсе ведалі пра падзеі ў Ленінградзе і яны глыбока ўсіх узварушылі. У памяшканьні ўсьцяж да пачатку мітынгу стаяў бадзёра-напружаны гуд—кожны стараўся падзяліцца з кім-небудзь сваімі думкамі-меркаваньнямі.

Дакладчык Гольдзін аказаўся тым самым хударлявым яўрэям, які быў у Андрэя ў часе Карнілаўскага паўстаньня. Яго голас цалком адпавядаў выразу твару. Ён быў ціхі такі, сьцеражліва-глыбокі, поўны нейкай асаблівай, быццам наўмысьля стрымленай праканаласьці. Такі голас ня можна ня слухаць—ён сам сабой, супроць волі ўвап'еецца ў сьвядомасьць, як нейкае тонкае джгала, і пачне там настойліва калупацца, знаходзіць месца для прынесеных ім думак і пераконаньняў.

Слухалі Гольдзіна ўважліва, ня гледзячы на тое, што ў салі было ня мала яго супраціўнікаў, якія раз-по-раз адгукаліся з публікі бязладна-парванымі выкрыкамі. І як ня дзіўна, але й гэтыя выкрыкі праходзілі бяз звычайнага шуму, быццам гэта так і трэба было, быццам былі гэтыя выкрыкі часткай самога дакладу. Гаварыў Гольдзін аб Петраградзкіх падзеях і ўсю сваю ўвагу з'асяродзіў на тым, каб давесьці іх гістарычную нямінучасьць і мэтазгоднасьць, іх глыбокую сувязь з самымі пільнымі інтарэсамі рабочых і сялян. У яго прамове мала было агітацыі—больш сталых цьвярозых разважаньняў. Лясьніцкі з вялікай ахвотай праслухаў яго даклад і ён шмат чаго праясьніў у тэй блытаніне, якой і да гэтага часу поўнілася сьвядомасьць Лясьніцкага. Дый на ўсіх прысутных, відаць, зрабіў даклад вялікае ўражаньне. Калі-ж, канчаючы, памкнуўся прамоўца прыдаць свайму голасу патэтычную ўзьнятасьць—вышла неяк мізэрна і рэдзенька—гэта сапсавала троху ўражаньне ад дакладу.

Пасьля дакладу пачаліся звычайныя партыйныя спрэчкі, якія ўвайшлі ўжо ў традыцыю і страшэнна надакучылі Лясьніцкаму. Ён паслухаў яшчэ, як паміж іншых прамоўцаў гаварыў Андрэй, з мяккай упартасьцю адважваючы свае прыветна-сур'ёзныя словы, як грукацеў нязграбным пераборам слоў яго добры знаёмы—чырвоны рабочы ў аблезлай тужурцы,—і потым ціхенька выбраўся з салі, пацягнуўся да хаты.

У яго астаўся ад гэтага вечара нейкі раскіданы, нявыразны настрой. Ідучы, ён думаў з лёгкім, нават троху радасным неўразуменьнем:

„Ну вось... І пачалося, прышло тое, што так турбавала, трывожыла. Дзе-ж яно? Як яго ўбачыць? У чым яго жудасьць, страхоцьце?..“

А назаўтрага гэта неўразуменьне яшчэ больш умацавалася. Назаўтрага ён вышаў быў з дому з пэўным чаканьнем убачыць на вуліцах гораду нешта новае, мабыць трывогу, узрушэньне якое, злучанае з учарашнімі весткамі, і ўбачыў той самы дробна-сумятлівы застойны горад, і ніякага знаку, што адбылося нешта вялікае, важнае. Мясцовыя газэты ў той

дзень адзначылі падзеі ў Петраградзе без асаблівага крыку, адзначылі, як чарговую выхадку бальшавікоў, якая „пагражае свабодзе і рэволюцыі“, якую „трэба ліквідаваць супольнымі патугамі ўсяе краіны“. А ўвечары прышлі новыя весткі—яны гаварылі аб новых перамогах паўстаўшага Ленінграда, аб пашырэньні паўстаньня, аб уцягненьні ў яго новых рабочых мас і новых вайсковых часьцей.

З таго дня мясцовыя кіраўнікі грамадзкага настрою зачалі весьці з гэтым настроем цікавую, але мала навучальную гульню, якая цягнулася больш за трох тыдняў і якую потым вялі ў працягу колькіх гадоў усе цёмныя сілы, якія змагаліся з Саветамі. Гэта гульня заключалася ў тым, што кожны дзень для заспакаеньня „честной публики“ устанаўлялася непарушная мяжа „бальшавіцкай авантуры“, гаварылася прыкладам так:

„Верныя часоваму ўраду вайсковыя часьці на чале з Керэнскім падыходзяць да Петраграда, каб канчаткова расправіцца з бунтаўшчыкамі. Дні бальшавіцкага панаваньня зьлічаны. Гэтая авантура паслужыць добрай навукай усім, хто патурае цёмным сілам, якія развальваюць адзінства і згоду ў краіне“.

А назаўтрага прыходзіла вестка аб канчатковай перамозе бальшавікоў над Керэнскім. Тады спрытныя вяшчуны ставілі новую мяжу, гаварылі або пісалі:

„Паўстаньне, бязумоўна, больш нідзе не дасягне такіх выпадковых посьпехаў, якія яно дасягнула ў Петраградзе“...

І з мэтодычнай спраўнасьцю біў тэлеграф сьвежыя весткі аб перамозе Саветаў у Маскве. І г. д.

Аднак пажар разрастаўся, перадаваўся з цэнтру на пэрыфэрыі, разьбягаўся ўсё далей ды далей, ахапляў усё новыя пункты. І, ня гледзячы на такую гульню ў заспакаеньне, пашлі па гораду трывожныя чуткі, заварушылася мяшчанскі-інэртнае жыхарства. Асабліва стала трывожна, калі загаварылі аб магчымым прыезьдзе ў горад бальшавіцкіх войск для захопу стаўкі, аб тым, што й сюды можа дакаціцца разбушаваная хваля, прынесьці новы лад, новыя парадкі.

У гэтую пару Лясьніцкі блізка што кожны дзень хадзіў да Раісы. Ён рэгулярна прыносіў ёй апошнія весткі, якія самому ўдавалася сабраць у горадзе. Яна слухала іх з напружнай увагай, а потым доўга распытвала яго, што гэта значыць, чаго можна яшчэ чакаць, якая і для каго небясьпека ўва ўсіх гэтых падзеях. Ён, як умеў, тлумачыў ёй.

З кожным днём Раісу ахапляла ўсё большая і большая трывога. Пасьля таго, як пачула яна пра новыя зямельныя парадкі, пра бальшавіцкі дэкрэт, пра непакой сярод сялянства, якое ўсё часьцей і часьцей рабавала панскія маёнткі,— у яе чамусьці склалася ўпэўненасьць, што дома здарыцца нешта нядобрае, што над яе бацькам вісіць нейкая страшная немінучая пагроза. Да гэтага далучылася яшчэ тое, што з дому чамусьці спынілі прысылаць ёй лісты. Гэта яе турбавала больш, як што. І дарма памыкаўся Лясьніцкі растлумачыць гэта натуральнай для такога часу няспраўнасьцю пошты—яна не хацела і слухаць.

Нешта раз Лясьніцкі засьпеў яе асабліва ўстрывожаную, заплаканую. Яна, як убачыла яго, парыўчата ўстала яму на сустрэчу і адразу загаварыла яшчэ дрыжачым ад сьлёз голасам:

— Васіль Данілавіч! Я не магу больш... Я паеду туды... я заўтра еду... Вы казалі—помніце?—каб я зьвярнулася да вас, калі мне трэба будзе дапамога... Я цяпер вось прашу вас... Ды не, Васіль Данілавіч, я жартую... я не таму, што вы казалі, а проста так... Паедзем са мной... Мне аднэй страшна... Толькі не адгаварвайце, я ўсё роўна паеду й адна... я больш не магу...

Лясьніцкі яе не адгаварваў і адразу згадзіўся.

На другі дзень ён расквітаўся са службай (водпуск даць яму адмовіліся), а Андрэю сказаў, што атрымаў з дому ліст—просяць чамусьці як мага хутчэй прыехаць.

ЯНЫ выправіліся ў дарогу ў той дзень, калі горад быў заняты войскам першага пролетарскага глаўковерха—прапаршчыка Крыленкі, які прыехаў, каб канчаткова расьсеч той

вузёл контр-рэволюцыйных настрояў і чыннасьці, якім зьяўлялася стаўка.

Горад сустрэў надыход гэтае новае фатальна-напорнае сілы з сумятліва-трывожным спалохам, з жахлівым недаверрам. Востра-сіберным ветрам пранеслася ўраз па ўсім горадзе шпаркая вестка:

— Матросы! Матросы прыехалі! Бальшавікі! Страшныя, злосныя, як зьвяры... Поўны горад панаехала, няма куды дзецца.

Тады некаторыя з жахам хаваліся ў свае прытульна-бясьпечныя норы, а хто сьмялейшы—беглі на галоўную вуліцу падзівавацца, што там за такія дзікія заморскія зьвяры.

Па вуліцы праходзілі жорстка-сьціснутым строем аддзелы ліхіх маракоў—усе, як адзін, буйныя, дужыя, поўныя хмурай сур'ёзнасьці, поўныя адчуваньня сваёй колектыўна-дружнае сілы. Ад іх сапраўды веяла жудасьцю—чулася ў іх жалезна-злучанай масе вялікая бязьлітаснасьць паўстаньня, бязьмежна-грозны замах на ўсе абвыклыя для людзей умоўнасьці, на ўсе законы—такія непатрэбныя, лішнія ў часе крывавае барацьбы на жыцьцё і сьмерць.

Лясьніцкі з Раісай надвечар прыехалі на станцыю. Адразу, як увайшлі яны ў памяшканьне вакзалу, іх страшэнна зьдзівіла, што тут зусім ня многа людзей, што няма таго шэра-зьлітага густога натоўпу, якім звычайна поўніліся ў той час чыгуначныя станцыі. Потым ім стала зразумела гэтае дзіўнае зьявішча, калі й яны далучыліся да гледачоў жудасна-крывавае драмы.

Лясьніцкі запытаў у нейкага чыгуначніка, калі будзе пасажырны поезд. Той безнадзейна махнуў рукой.

— Хто яго ведае!.. Цяпер на пасажырных ня езьдзяць... Пашукайце лепш эшалона якога...

Лясьніцкі зьдзіўлена на яго ўтаропіўся.

— Тут-жа зусім мала народу!

— Ого! Паглядзіце-тку, што робіцца на пэроне.

Тут Лясьніцкі пачуў прыглушаны чорны гуд нявіднага натоўпу. Ён прапанаваў Раісе выйсьці паглядзець, што робіцца на пэроне. Яна згадзілася.

І вось акунуліся яны ў нешта шаломнае, пераблытанае— у бурлівы вір чалавечых цел, аплецены роілам гвалту, узрушаных крыкаў, ядрана-злоснай лаянкі. Тут была бязладная мешаніна шынэляў, кажухоў, армякоў, featured рызьзя—усяго таго, ува што была ў той час апранута звычайная чыгуначная публіка. І сярод гэтай мешаніны неяк асабліва сьмела, рашуча і важна плавалі чмарыя папахі матросаў.

Твары ў большасьці людзей былі распалены ўпартакапрызным раздражненьнем, якое з шумам вылівалася ў задорна-крыклівы говар, у напружнае мятушэньне. А некаторыя цмыгалі сярод натоўпу проста з цікавымі тварамі і прыслухоўваліся да ўсяго, што навокал, з пустым чаканьнем нечага выдатнага, рэзка-эфэктнага.

Лясьніцкі пакінуў Раісу ў зацішным кутку недалёчка ад уваходу ў вакзал, а сам прайшоў наперад, каб канчаткова даведацца, у чым тут справа. Раіса адразу з нэрвовай трывогай у вачох схапіла была яго за руку, быццам хацела затрымаць, а потым сама схамянулася, засьмяялася.

— Што гэта я... Мы-ж ня ў лесе...

Лясьніцкага падхапіла ўпартая патока народу, ён пакорна аддаўся ёй, і праз момант апынуўся перад адным з вагонаў нейкага поезда. Каля ўваходу ў вагон напорна мятушылася група матросаў, абкружаная і сьціснутая з усіх бакоў бурлівым натоўпам. Лясьніцкі прыслухаўся да блытаніны крыкаў і лаянкі і з вялікай патугай яму ўдалося зразумець, што ў гэтым вагоне сядзіць гэнэрал Духонін і што разбушаваны натоўп патрабуе яго расстрэлу. Тады Лясьніцкаму зусім ясны стаў гэты гоман, ён пачаў адрозьніваць асобныя галасы, асобныя ўскрыкі. Большасьць проста кідала кароткія і няскладныя пагрозы напалам з брыдкімі цяжкімі словамі адумысловае лаянкі, а некаторыя крычалі з сэнсам—гэтыя адухаўлялі, заражалі натоўп гарачым настроем.

— Карнілаў уцёк, дык і гэты ўцячэ, мы ўжо ведаем!..

— Хай пазнае, як станавіцца папярок дарогі нашаму брату!..

— Разгадаваўся на нашай крыві—буржуазея праклятая!..

— Даёш! Расстраляць яго тут, каб бачылі ўсе сабачую сьмерць!..

— Бяры яго хлопцы, чаго там!..

Матросы, якія вартавалі вагон, ледзь стрымлівалі напор разьюшанай масы. У агульным гомане бясьсільна вязьлі іх адчайна-ўзьнятыя галасы:

— Таварышы... Крыленка... ня можна... Пачакайце... Прыедзе...

Потым на пляцоўцы вагону зьявіўся малады стройны мужчына ў форме марскога афіцэра. Ён памкнуўся нешта сказаць, дык на трэцім ці чацьвертым слове затапілі яго голас яшчэ бурнейшым выбухам гвалту. Тады на месца яго зьявіўся новы—у форме армейскага прапаршчыка, і раптам гоман асеў, замітусіўся лёгкі ветрык пачцівага шопату.

— Крыленка... Крыленка... Ціху!..

Крыленка гаварыў паволі, не сьпяшаючыся, выразна выбіваючы кожнае слова—і пры ўсёй нэрвовай узрушанасьці натоўпу яго да канца выслухалі ў глыбокім маўчаньні. Ён гаварыў, што Духоніна завязуць у Петраград, што ён не дапусьціць ганебнага самасуду, што толькі праз яго труп яны здолеюць уварвацца к Духоніну.

Тады троху заспакоены натоўп патрабаваў, каб паказалі Духоніна. І вось ён зьявіўся поплеч з Крыленкам—чырвоны, распараны, з расплыўчаста-дзікім спалохам на твары. Ён памкнуўся нешта сказаць, ужо пачаў нясьмела-дрыжачым голасам:

— Дарагія таварышы!..

Але яго словы ўраз закомчыў рэзкі выбух гвалту, рогату, сьвісту, і ён шпарка зьнік у вагоне, быццам уцягнуты некім адзаду.

Народ пачаў разыходзіцца. Гоман зрабіўся больш ціхамірным, часьцей узьліваўся вясёлы, здаволены сьмех. І вось раптам ускочыў на пляцоўку вагона жудасна-вялікі грамоздны матрос, пачаў гаварыць гарачым сіплым голасам, пачаў распальваць ужо троху астыглае абурэньне натоўпу. І з кожным словам яго зноў закіпала, зноў узьнімалася бура, зноў густа нахлынулі к вагону, загрымелі лютым бурлівым гоманам. Кры-

чалі ў нейкім шалёным запале, патрабавалі, каб зноў вывелі, паказалі Духоніна. На пляцоўцы зьявіўся Духонін. І вось тут адбылася крывавая драма. Як толькі паказаўся недалужна-спалоханы твар генэрала, нешта завілося ў натоўпе—такое едкае, вострае, нешта звыш таго гнеўнага абурэньня, і пачало шпарка-шпарка расьці, закруцілася віхрам, зьліло ўсіх у адно агнёва-прагнае, дзікае, скрывіла твары аднэй нечалавечай грымасай.

Першы ўдар грамозднага матроса паслужыў сыгналам. Быццам усе напружна чакалі гэтага першага ўдара, быццам узрадваў ён усіх—узьвіўся рэзкі, нявыразна-дзікі крык, грузна матнулася ў паветры скарабачанае цела генэрала, усе сударгава памкнуліся туды, да яго,—і перамяшалася ўсё ў нявымоўна-тлумным, нечалавечым.

Быў адзін момант, калі пад напорам задніх радоў пераліваўся некалькі раз натоўп праз тое страшное месца, і тады невядома было, дзе ляжыць крывавы кавалак мяса, і людзі, перабягаючы праз яго і спатыкаючыся, пэцкалі ногі ў сьвежую кроў.

Потым матросы, што вартавалі поезд, разагналі народ, зараз-жа нечым накрылі абязьвечаны труп і праз момант панясьлі некуды на насілках.

Здалося Лясьніцкаму, што ў гэты момант шырока пранёсься недзе ў паветры ўздых здаволенага палягчэньня. Яго ахапіла дзікая жудасьць, ён затросься ўвесь, быццам фізычна пачуў ледзяны подых сьмерці. Потым туманна ўсплыло ў памяці, што ў той гарачы момант у яго ў самога сударгава сьціснуліся былі кулакі і ён разам з усімі быў памкнуўся наперад, гатовы ўпіцца ў бясьсільнае акрываўленае цела. І яшчэ чорна мігнула страшное падазрэньне, што ў той дзікі радасна-крыважэрны крык уліўся быў апантаным віскам і яго ўласны голас.

Ідучы ад крывавага месца, ён ня мог зірнуць у твар сустрэчным—яму здавалася, што яшчэ ня сьцёрлася тая грымаса, што яшчэ чакаюць нечага, што жорстка стаіць ува ўсіх маўклівае запытаньне:

— Хто наступны?

І не паверыў, што гэта праўда, калі няўмысьля ўпёрся ў нейкага ласкавабародага селяніна, які зусім пахатняму выціраў аб палу запэцканыя ў кроў рукі і вінавата ўсьміхаўся яшчэ белымі ад хваляваньня вуснамі.

— Так яму й трэба, сволачу... Ах ты, буржуйская морда... Яшчэ аб'ясьняецца.

Раіса чакала Лясьніцкага на тым самым месцы. Яна была бледая, устрывожаная. Яна нецярпліва кінулася насустрэчу Лясьніцкаму, запытала:

— Васіль Данілавіч! Што там было? Што гэта панясьлі тут, абкручанае брэзэнтам?..

Ён адказаў ёй:

— Толькі што тут натоўп разарваў генэрала Духоніна.

І раптам ён са страхам заўважыў, што вусны Раісы пачалі дрыжэць, вочы заміргалі, глыбока налілiся сьлязьмі—яна ня вытрымала моцнага нэрвовага ўзрушэньня і сударгава заплакала. І тут-жа пачуўся збоку пагрозна-насьмешлівы голас:

— Іш ты, пашкадавала... Адразу відаць панская костка...

Лясьніцкага ахапіў шалёны спалох. Ён з усіх сіл сьціснуў Раісу за руку, засіпеў сярдзітым шопатам:

— Маўчыце!

І пасьпешна павёў яе ў бок, дзе было менш народу. Яна да крыві закусіла губу, каб стрымаць свой мімавольны плач, і толькі зрэдку балюча ўсхліпвала—а сьлёзы ліліся бязгучным дажджом і таму былі дзіўныя, недарэчныя.

Лясьніцкі ўсё так-жа сур'ёзна і строга зьвярнуўся да яе:

— Цяпер што-небудзь з двух—выбірайце... Або вярнуцца назад, або пайсьці шукаць эшалону і ехаць з салдатамі.

Яна рашуча адказала:

— Я не вярнуся, Васіль Данілавіч!

Тады яны пайшлі па пуцях і з поўгадзіны шукалі, пакуль натрапілі на эшалон, які павінен быў неўзабаве пайсьці ў іхны бок. Яны падышлі да таварнага вагону, у якім праз адчыненыя дзьверы відаць было яшчэ ня мала вольных месц, і Лясьніцкі запытаўся ў тых, што сядзелі бліжэй да дзьвярэй:

— Ці можна з вамі праехаць?

Адзін паджылы салдат адказаў навучальна - сур'ёзным тонам:

— Чаго пытаешся. Бачыш—месца ёсьць, значыць і можна. Гэта-ж табе не даўнейшае, што сюды—можна, а туды—няможна.

У гэты час падскочыў да дзьвярэй юркі лёгенькі салдацік, закрычаў фамільярна і тонка:

— А, даёш, даёш, даёш!.. Любачка, красачка!.. Ай-яй-яй, што за золатца!..

Раіса спалохана ўхапілася за руку Лясьніцкага. Але разважаць было позна. Ён памог ёй, дрыжачай ад страху, улезьці ў вагон, ускочыў сам, і яны занялі сабе ў кутку прытульнае і ціхамірнае месца.

Салдаты пазіралі на Раісу з адкрытым салодкім замілаваньнем, кідалі досыць выразныя і ня зусім сьціплыя жарты. Потым адзін падсеў к Лясьніцкаму, лэпнуў яго па плячу.

— Што, зямляк, жонку вязеш?..

І раптам мільгнула ў Лясьніцкага радасна-хітрая думка. Ён адказаў з прыветна-вясёлай шчырасьцю:

— Так... Прыехала вось да мяне, пагасьцявала троху... Цяпер я ўзяў невялічкі водпуск...

— Іш ты... У войску жаніўся?..

— Так, нядаўна зусім... У Смаленску раней мы стаялі, там я й жаніўся. Ды як вышла! Вось сёньня жаніўся, а праз тры дні выступаць... Нават не паглядзелі добра адзін на аднаго...

— Ды ўжо такая наша доля... Глядзі што ў кожнага так...

І вось пад уплывам мабыць наіўна-шчырага тону гэтага выдуманага апавяданьня, усе, хто быў у вагоне, працяліся нейкім асаблівым спачуваньнем к Лясьніцкаму, пазіралі ўжо й на яго і на Раісу з таварыскай ласкай, пачалі расказваць адзін аднаму пра свае сямейные справы. Нават дайшло да таго, што калі нехта занадта востра вылаяўся, дык усе на яго дружна тукнулі:

— Ціху! Ня бачыш—жанчына сядзіць.

Тады Лясьніцкаму стала зусім добра, прыемна. Радасна-заспакоены ён сам сабе думаў:

— Гэта-ж усё такія добрыя, любыя мальцы...

І нават рабілася сорамна, што падманіў іх, што ашуканствам дасягнуў такога цёплага спачуваньня.

Поезд пайшоў, як ужо зусім сьцямнела. Тады шчытна зачынілі дзьверы і ў вагоне асталася глухая цемра, мяккі грукат каткоў ды прыглушаны ціхамірны гоман зближаных дарогай людзей. І паплыло тады ў роўным калыханьні нешта млява-цягучае, спакойна-бязьмежнае, як ціхі сум па мінулым, мякка адкрыла сэрца для сьвежай пяшчоты.

Раіса прымасьцілася, як котка, на руках у Лясьніцкага, шчыльна прытулілася к яму так, што ён чуў чароўна-мяккую цяплыню яе любых грудзей, і ціха шаптала, каб ніхто не пачуў:

— Ну, абнімі мацней, мне халодна... Сагрэй мяне... Вася...

А яму цяпер хацелася, каб ня было нідзе станцый на гэтым пуці, каб ехаць так без канца-краю, каб вечна трымаць у руках свой многацэнны скарб, сваё шчасьце. Працяты глыбокай пяшчотай, ён шаптаў ёй скрозь ціхія (каб ніхто не пачуў) пацалункі:

— Ты—жонка мая... ты — дарагая, любая жоначка... Я цябе не аддам нікому, буду ўвесь век трымаць так... буду моцна-моцна абнімаць... во так... во...

На вузловай станцыі, дзе была ім перасядка, давялося чакаць да самага раньня. Раіса пашла ў жаночы пакой— адзіны пункт, дзе яшчэ можна было знайсьці вольнае месца, а Лясьніцкі пачаў бадзяцца па вялізнаму змрочнаму памяшканьню вакзала, церціся сярод шчытна-шэрага людзкога натоўпу. І чым больш ён хадзіў, чым больш прыслухоўваўся да нэрвова-ўзрушанага говару людзей, тым глыбей працінаўся нейкім новым нявыразным пачуцьцём, падобным на шчымлівае імкненьне некуды ў далеч, на ласкавы сум па прасторах, па нечым шырока-бязьмежным. Ён памалу заражаўся агульным настроем, якім быў ахоплены ўвесь гэты

шэры натоўп, у нутры ў яго пачынала расьці тая разгонная лёгкасьць, вальготнасьць, якая характарызуе псыхолёгію паўстаньня, якая вырастае з протэсту супроць усяго таго, што гняло дасюль, што адбірала вольную волю. Калі ён слухаў, як на лятучых, тут-жа ў вакзале або на пэроне наладжаных мітынгах з радасна-ўрачыстым запінаньнем (бо ня ўмелі) гаварылі шэрыя салдаты свае нямудрыя прамовы, у якіх з асаблівым замілаваньнем выгаварваліся крывава-блізкія словы „мір“, „зямля“, „заводы“,—дык у яго сьціскалася сэрца і хацелася самому гаварыць, хацелася зрабіць нешта, пайсьці куды-небудзь з гарача-распаленымі вачмі, з вольным захапленьнем.

Але зьяўлялася прыкра-даўкая думка, што ён ня можа, ня ўмее быць разам з усімі, што ён чамусьці збоку стаіць, што не запрошан на гэты бурлівы баль, нават не разумее яго гістарычнай сутнасьці і справядлівасьці. Разам з гэтай думкай выплывала ў уяўленьні вёска, мільгала чорная варожасьць, тупое неўразуменьне, якое жорстка застрала паміж ім і сялянамі. І было тады дужа няёмка, хацелася схавацца куды-небудзь, уцячы ад самога сябе.

У адным кутку вакзала ён убачыў ідылічна-сьмешную карцінку. На нейкай скрынцы сядзелі поплеч афіцэр і салдат—абое п‘яныя. Афіцэр абнімаў салдата і ўсё тлумачыў, што яны цяпер роўныя, што яны любяць адзін аднаго і г. д. А салдат у гэты час задуменна спусьціў галаву і ціхенька пеў тонкім, але поўным заўзятай гульлівасьці голасам:

Па. . . ці. . . рала я калечка-чка.
Па. . . ці. . . рала я любоў—

Я любоў.
Наверна,

Па. . . ці. . . рала я любоў. . .
І. . . з-за. . . гэтага калечка-чка
Бу. . . ду. . . плакаць дзень і ноч—

Дзень і ноч.
Наверна,

Бу. . . ду. . . плакаць дзень і ноч. . .

Лясьніцкі падышоў і зьвярнуўся да іх:

— Што, весяліцеся?..

Салдат і не павярнуўся—мармытаў сабе сваю песьню, а афіцэр адгукнуўся ахвотна, пачаў гаварыць з ім—балазе знайшоў размоўцу. І Лясьніцкі цэлую гадзіну сядзеў з гэтым афіцэрам, рады, што хоць з п'яным здолеў знайсьці нешта супольнае, дружнае, што хоць праз яго падыйдзе бліжэй да гэтага дзіўна-сьмелага ўзрушэньня.

ЧЫМ БЛІЖЭЙ падыходзілі да вёскі (са станцыі ішлі пехатой—не знайшлі падводы), тым больш і больш халадзеў настрой Раісы—яна рабілася такой самай лядзяна-замкнёнай, як мёрзлае восенскае раньне, праз якое ішла іх дарога. Яна была зноў чужая, далёкая—з глыбока-таемнымі сваймі думкамі, з глуха закрытым для Лясьніцкага сьветам сваіх пачуцьцёў і перажываньняў. Лясьніцкі стараўся як-небудзь затрымаць нядаўнюю блізкасьць—ён многа гаварыў, наўмысьля надаваў свайму голасу сяброўскую прастату і фамільярнасьць, выбіраў словы такія сваяцка-цёплыя—думаў словамі зьвяжа, зацягне шчыліну халоднае чужасьці. Гаварыў датуль, пакуль не прымячаў, што словы, як іскры, гаснуць у нейкай нямотнай пустэчы, што выходзіць недарэчна, што ў яе на твары ледзь прыметна зьбіраецца цень дасадлівага неўразуменьня. Тады некаторы час маўчаў і з недалужнай роспаччу глядзеў на халодную чужую Раісу.

Калі пераяжджалі праз Дняпро (хадзілі глыбокія сінія хвалі і вецер дзіка пеў у чорна-аголеным лазьняку) Раіса чамусьці запытала ў Лясьніцкага:

— Васіль Данілавіч! Вам не пашкодзіла гэта паездка—па службе ці так у чым-небудзь?

Ён, вядома, не сказаў ёй праўды, запэўніў, што нічым не пашкодзіла.

— Я так вам удзячна, Васіль Данілавіч. Я ня ведаю, што-б я рабіла, каб ня вы...

Тады ў Лясьніцкага ў думках рэзка, нахабна мільгнула:
— Што гэта? Расквітваецца?..

Бацька Раісы жыў пасьля пажару на вёсцы, у папоўскім доме. Палавіну вёскі трэба было прайсьці ім да гэтага дома. Лясьніцкі бачыў, як у вокнах зьяўляліся цікавыя твары дзяцей, як сьледам за імі прыліпалі да шыб ня менш цікавыя твары дарослых—усе праводзілі іх зьдзіўлена-усьмешлівымі поглядамі. Лясьніцкі фізычна адчуваў на сабе прыкра-калючае прыткненьне гэтых поглядаў, і ў яго ўсплывала едкае пачуцьцё ніто сораму ніто адчаю, ад якога хацелася пабегчы, уцячы, зьнікнуць ад людзей і ад самога сябе.

Раіса папрасіла яго зайсьці на хвіліну да іх.

— Тата страшэнна спалохаецца, што я адна... Вы мне пасобіце запэўніць, што ўсё было добра, што я нічым не рызыкавала, выправіўшыся ў гэту дарогу. Добра?..

Гэта быў першы выпадак, калі Лясьніцкі з вялікім нездаволеньнем выконваў просьбу Раісы—дужа не хацелася яму сустракацца з старым панам.

Пан быў ужо ўстаўшы. Ён сустрэў дачку з спалохана-сумятлівай радасьцю, па старчаму разам сьмяяўся і плакаў, шапялявіў у пасьпешным хваляваньні:

— Божа мой!.. Як-жа ты?.. Дачушка, дзетачка... У такую пару... адна... родная... як-жа гэта ты?..

Раіса нецярпліва прымала сьлязьлівыя бацькавы ласкі, сьпяшалася яго заспакоіць:

— Я не адна, тата, я з Васілём Данілавічам... І нічога тут страшнога... Да-душы, татачка, усё было зусім-зусім добра... Вось і Васіль Данілавіч можа сказаць...

Пан заўважыў Лясьніцкага, ветла яму заўсьміхаўся.

— А-а-а... малады чалавек... Я ўжо недзе бачыў вас... Ага, помню-помню... Шчыра дзякую. Шчыра дзякую... Ведаеце, у такі нядобры час усё можа здарыцца... Дык як, ніштo, добра праехалі?.. Сядайце, калі ласка!..

Лясьніцкі для прылікі нешта сказаў пра дарогу, але сесьці адмовіўся, сказаў, што зараз пойдзе дахаты. У гэты момант Раіса запытала:

— А дзе Карл Іванавіч?

Пан прыняў трывожна-маркотную міну, з глыбокай скрухай уздыхнуў.

— Забралі Карла Іванавіча, арыштавалі... Нейкае дзікае бязладзьдзе пайшло тут у нас. Робяць, што хочаць, не баяцца нікога, свавольле, самаўладзтва ўсюды... Ужо й зямлю нашу забралі, лес раздаюць каму-хоця... Нейкая дзікая зьвярыная анархія...

Раіса перабіла яго:

— Даўно арыштавалі?

— Тры дні ўжо.

— Яму нічога не пагражае?

— Хто-ж іх ведае, дзетачка. Усё ў іхнай волі. Зробяць, што толькі захочуць.

Раіса зьвярнулася да Лясьніцкага, спакойна, трохху сарамліва ўсьміхнулася.

— Васіль Данілавіч! Выбачайце, што я так часта карыстаюся дадзеным мне правам... Але-ж мне няма да каго больш зьвярнуцца. Вы тут ведаеце ўсіх, яны таксама вас ведаюць добра. Я прашу вас толькі дакладна даведацца, у чым тут справа, і што можна зрабіць, каб памагчы яму.

Лясьніцкі згадзіўся. Ён запытаў, хто на вёсцы кіруе гэтымі справамі, і аказалася, што ўсім заварачвае камітэт і што на чале яго стаіць Рыгор.

— Я пайду зараз-жа і аба ўсім даведаюся. Я зраблю ўсё, што толькі здолею, каб як хутчэй ліквідаваць гэта непаразуменьне.

І ён пайшоў, трохху зьдзіўлены тым роўным спакоем, з якім сустрэла Раіса вестку аб арышце свайго роднага дзядзькі.

Рыгор сустрэў яго едка накіраванай некуды ў бок усьмешкай, запытаў з варожым закідам:

— Што, паненку прывёз з гораду?..

Лясьніцкі чамусьці зманіў:

— Сустрэліся на станцыі, дык разам прышлі. Слухай, Рыгор, што гэта здарылася тут з „Карлам“, за што яго арыштавалі?

— А гэта ўжо ведалі, мусіць, за што... Некаторых зусім ня пыталіся...

Лясьніцкі закіпеў:

— Я думаю, што кожны грамадзянін можа знаць, што робяць прадстаўнікі ўсёй грамады.

Рыгор нібы памякчэў.

— Папытайся ў воласьці, што ты ў нас пытаешся...

— Хіба ён у воласьці?

— А так. Яшчэ ўчора адправілі ў распараджэньне.

І Рыгор праводзіў Лясьніцкага той-жа едкай усьмешкай, якой і сустрэў, толькі ўжо ня вёў яе ў бок, а ўпяў проста ў яго ды больш выразна, чымся раней, заблішчэў злымі вачмі.

А Лясьніцкага ахапіла злосная ўпартая рашучасьць. Перш ён падумаў быў, каб пайсьці дамоў ды запрэгчы каня, але потым схапянуўся:

— Дома напэўна затрымаюць.

І зараз-жа, не заходзячыся дамоў, падаўся пяхотай у воласьць.

У воласьці доўга глядзелі на яго з дапытлівым недаверрам, падазрона шапталіся, патрабавалі, каб ён паказаў свае дакумэнты і нарэшце далі яму зусім нечаканы адказ:

— Ужо гадзіна, як яго выпусьцілі.

Лясьніцкі пацягнуўся назад—да краю зьбянтэжаны, працяты злосьцю, дасадай і вострым пякучым сорамам. Ён страшэнна каяўся, нашто пайшоў быў, нашто наогул так горача ўцяўся ў гэтую справу.

Да яго прыходу ўся ўжо вёска ведала, што ён прыехаў з паненкай, што хадзіў у воласьць выручаць „Карлу“, што нават не зайшоўся, прыехаўшы, у родную хату. І ўсе пазіралі на яго з пагардлівым адчужэньнем, з варожасьцю, як на нейкага брыдкага злачынца. Ён чуў гэта і мімаволі тупіў у дол свае вочы і ўсё прысьпяшаў ход, разважаючы з нейкай ліхаманкавай пасьпешнасьцю:

— Зайсьціся, пабачыцца ды зараз-жа ехаць... Сягодня-ж... адразу... толькі зайсьціся...

Родная хата здалася чамусьці закінутай, нахмурана-ціхай, старой, быццам ня жыў тут ніхто, павымерлі ўсе. Ї толькі цяпер, як убачыў гэтую хату, засадніла сэрца шчымлівай турботай.

— Як-то, ці ўсе жывы-здаровы?..

На дварэ пад павецьцю ўбачыў браценьніка. Ён з нейкай невясёлай млявай упартасьцю дрэсыраваў нязграбна-пузатага шчанюка.

— Цю-цю!.. Буржуй!.. Служы, ну?.. Мц-ц... Буржуй!.. Фю!..

Лясьніцкі гукнуў яго.

— Здароў, Пётра! Ну, як тут у вас?..

Той адразу радасна ўсхапіўся, потым сумна скругліў свае блакітна-чыстыя вочы.

— Татка хварэе... А мамкі няма, паехала сёньня ў мястэчка...

У Лясьніцкага ёкнула сэрца. Ён увайшоў у хату з палахлівым замяшаньнем, падышоў, вінавата схіліўшы галаву, да полу, дзе ляжаў хворы бацька. Бацька заўважыў яго і з турботнай патугай узьняўся на локаць, каб прывітацца.

— Здароў, сынок... здароў... Ну, маладзец... А я вось, бачыш, нешта зблышыў...

Ї, быццам убачыўшы думкі сынавы, яго цяжкое душэўнае мятушэньне, бацька загаварыў адразу глыбокім ласкавым голасам:

— Нічога, сынок... Усяк бывае ў жыцьці, усяго чалавеку прыдзецца... Калі там нойдзеш сваю тую пуцявіну... Ї пакрыўдзяць, і сам пакрыўдзіш каго... А потым усё пярэйдзе на лепшае...

Лясьніцкі сеў за стол, узьлёгся галавой на рукі і з цягуча-салодкім болем слухаў бацькаў ласкавы голас. Мякка ціхамірыла ціхасьць роднае хаты, пачынаў уяўляць сябе маленькім зусім, бясьпечна-шчасьлівым, як калісьці ў дзяцінстве, і ані-ні ня пужала думка, што ўжо ня прыдзецца ехаць, што трэба астацца каля хворага бацькі. Толькі каб ня было таго, надворнага, варожага. Каб толькі тут, у гэтай пяшчотнай ціхасьці, у прытульным спакоі.

Бацька праз хвілін дзесяць сьціх, пачулася яго роўнае дыханьне. Заснуў, стомлены доўгай гаворкай. А сын нярухома сядзеў за сталом у плаўным забыцьці, слухаў мяккае зьнібеньне свайго ўсхваляванага сэрца.

Потым нясьмела прачыніліся дзьверы і ўвайшла Макрына. Яна падыйшла да яго, сказала ціха, асьцярожна:

— Здароў, Васілёк! Я на адну часінку да цябе...

Ён падняў галаву, дапытліва зірнуў ня яе, быццам спытаўся:

— Ну, што табе трэба?..

Ад гэтага пагляду ў яе ясных вачох замітусіўся трывожны спалох. Тое, што яна мелася сказаць, відаць застыгла на яе вуснах, і яна хвіліну стаяла ў цяжкім маўчаньні. Потым села на лаўку і прашаптала ледзь чутна:

— Васіль! Нашто ты так робіш?

— Як гэта так?..

Ёй відаць трудна было сказаць тое, што яна думала,

— Ну... я ня ведаю... Ты нейк ня так... ты раней не такі быў... Быццам ты стаў зусім другі чалавек, не такі, як мы,— ужо нейкі вышэйшы...

Ён дасадліва спыніў яе...

— Макрына! ты не разумееш... Тут зусім другое... Я такі самы, як і быў, толькі проста скλаліся так недарэчна абставіны, непаразуменьне можа нейкае вышла.

Макрына памаўчала троху ды зноў загаварыла таксама ціха, амаль што шопатам:

— Я ўжо раней ведала, што ў нас кончыцца так... Дык спачатку мне дужа дрэнна было... Я ўсё плакала, думала— нашто я яго пакахала так, нашто зьвязала долю сваю? Але-ткі звыклася, ведама—нічым ужо тут не парадзіш, ня пара мы адно аднаму...

Лясьніцкі зноў перабіў яе:

— Макрына! Што ты гаворыш? Ты нават не папытала, ці люблю я цябе, ці не, не папытала, што ў мяне ў думках цяпер...

— Нашто пытацца? Хіба я сама ня бачу... Ды я, Васілёк, ня крыўдую. Хай сабе... Можа другая лепш палюбіць цябе,

можа будзеш з ёй шчасьлівей... Што мне... Ведаеш, Васілёк, аб чым я рада? Што не замела ад цябе дзяцёнка. Гэта была-б нешчасьлівая душа... сіротка была-б горкая...

— Макрына, кінь ты... Мне цяжка цяпер... Мы яшчэ пагамонім пасьля...

— Я зараз пайду... А гаварыць яшчэ—не ўжо, хай лепш ня будзем. Я ўжо надумала, што мне рабіць... Досыць ужо... Пакахала цябе колькі гадкоў, зазнала і шчасьця і гора... Можа й яшчэ буду кахаць, пакуль не забудуся... Цяжка забыцца на гэта... на першую любасьць... Але нішто, неяк абыйдзецца... Ты даруй, Васілёк, калі што... за ўсё... за ўсё-чысьценька... дзякуй табе...

І не пасьпеў схамянуцца Лясьніцкі, як яна ў глыбокім узрушэньні схапіла ягоруку і пацалавала. Адна сьлязіна пасьпела скаціцца на руку і Лясьніцкаму здалося, што была яна дужа-дужа гарачая. Ён хацеў затрымаць Макрыну, нешта сказаць, але яна з рашучай пасьпешнасьцю пайшла к дзьвярам і, не азірнуўшыся, вышла з хаты.

З глыбокага, драўлянога аслупяненьня вывеў яго потым браценьнік, які прынёс сьвежую навіну:

— Паехалі ўжо нашы паны. Усе: і пан, і паненка, і Карла... Тры падводы наклалі розных скрынак ды кашалёў—павязьлі ўсё на станцыю.

Тады Лясьніцкі моўчкі ўстаў і ціха, паволі—як лунацік пайшоў к Дняпру.

# ЧАСТКА ПЯТАЯ

СПАЧАТКУ было ўсё пераблытаўшыся ў магутна-імпэтнай віхуры—у хмарах чорнага пылу ішло першае, найбольш заўзятае і найбольш стыхійнае руйнаваньне. Пад бязладнанапорным рухам стыхіі былі сьцёрліся межы і станы, ня было акрэсьленых лягэраў—браліся ворагі адзін з адным урукапашку і адчайна боркаліся ў крывавым сьвятле пажараў. А часамі нават траплялася, што ішлі ворагі поплеч, не пазнавалі адзін аднаго, пакуль не выкрываў іх жудасна-яскравы выблеск чырвонага полымя. Тады ўжо востра загараўся агонь нянавісьці і дзіка напружваліся сілы для сьмяротнае бойкі. А бывала й так, што не пазнаваў свой свайго і ўжо ў разгары жорсткага паядынку з радасным задзіўленьнем падавалі адзін аднаму сяброўскія рукі.

Так прайшла першыя гоні Рэволюцыя. Гэта быў дзікабурлівы бязьмежны бунт...

Потым з стыхійнай шпаркасьцю пайшло концэнтраваньне сіл—рэзка, акрэсьлена сталі адзін супроць аднаго два сьмяротна-варожыя лягеры. У першым лягеры была шэрая грамада паўстаўшых работнікаў і сялян, а ў другім сабраліся, зьліліся ў разьюшанай злосьці разьмеценыя бурнай віхурай паны ды падпанкі з вольнымі і нявольнымі сваймі паслугачамі. Пачалася нябачаная ў сьвеце вайна—у той вайне зьвярыная лютасьць дзіўна спляталася з прыгожай рашучай адвагай, з бязьмежнай адданасьцю свайму колектыву. Бо вайна тая для абодвых бакоў вырашала пытаньне: жыць ці ня жыць?

І яшчэ была адна чорная сіла—закутая ў цяжкую кайзэраўскую дысцыпліну, шчытна ўціснутая ў жалезны мундзір

беспрасьветнай ваеншчыны, нямецкая армія. Гэтая сіла жорсткай навалай пасувалася на Рэвалюцыю, якая сьмела кінула ў сьвет жаданы лёзунг—„прэч вайну", якая ў адказ на ўпартасьць нямецкага імпэрыялізму абвясьціла роспуск расійскіх салдатаў, сьмела адкрыла свой твар перад рабочымі і сялянамі, сьціснутымі ў жалезе імпэрыялістычных армій.

Трэцяя сіла ішла на Рэвалюцыю.

Так было ўвясну 1918 года.

На Беларусі ў той час сьцягнулася была чорная хэўра пад штандар генэрала Доўбар-Мусьніцкага, які на-дзіва здолеў злучыць у сабе адвечную чарнату расійскага самаўладзтва з фанатычна-тупым і дзікім польскім шовінізмам. Легіоны гэтага няслаўнага гэроя за кароткі час свайго панаваньня густа зьлілі нашу зямлю бязьвіннай кроўю мірных сялян, укрылі наша яснае неба заравам лютых пажараў, агаласілі нашы прасторы жудасным стогнам і плачам. Як агідная зграя дзікіх шакалаў, забягалі яны перад грузна наступаючай кайзэраўскай арміяй і ў крыважэрнай корці ўпіваліся ў абязьвечанае пакутнае цела нашае бацькаўшчыны.

Так было ўвясну 1918 года.

У канцы сакавіка гэтага году Лясьніцкі падыходзіў к гораду. Было гэта сонечным раньнем, калі маладая зямля тлуста блішчэла вільгацьцю і мякка курылася шызым дымком, а ціхая даль з асаблівай шчырасьцю раскрывала сваю чыстую, як шкло, празрыстасьць. Ішоў ён пяхотай з самага дому, бо чыгунка была ўжо занята палякамі. Трапілася некалькі раз выпадкова пад'ехаць, але большую частку ўсё-ткі прайшоў—прамерыў аднастайна-нуднымі крокамі палатно роўнай, як лінейка, сашы.

Калі ў ціхім сонцы цукровай бялосьцю бліснулі вежы гарадзкіх царквей, Лясьніцкі ўспомніў нейкі далёкі ядраны звон і мэлёдычны вясновы смутак (у небе ў гэты час бязьмежна зьвінела песьня жаўранкі),—яму заманулася сысьці ў хвойны парасьнік і паляжаць, акунуўшыся ў глыбокую слодыч спакою, аддацца на момант смутным пералівам успамінкаў.

На голках малодзенькіх хвоек дрыжэлі ў празрыстай бязьвіннасьці кроплі расы—хвойкі з наіўным кокетствам узьнімалі бліскуча-зялёную росную адзежу і паказвалі сакавітую смугласьць сваіх крамяных ног.

Любыя, ціхія хвойкі!

І жаўранка...

Кроплі расы на хвойках нагадалі Лясьніцкаму Макрыну. Яна такая самая чыстая і бязьвінная.

Каго больш хочацца ўбачыць: яе, ці Раісу?

У той чорны час, калі хвароба бацькі была прывязала яго да варожае вёскі, калі жыцьцё ўшчаміла было яго ў жалезныя клешчы глухіх супярэчнасьцяй (цяпер—сьмешна, як успомніш пра гэта, а тады-ж усур'ёз хацеў утапіцца ў Дняпры)—у той чорны час Макрына, распрадаўшы насьпех сваю маемасьць сабралася і паехала ў горад. З ім не разьвіталася—яны так ні разу й ня ўбачыліся пасьля той многазначнай гутаркі.

Прайшла гэта зіма для Лясьніцкага ў чарнаце беспрасьветнага суму, у няўпынным зьнібеньні збалелага сэрца. Цяпер, калі азірнешся назад, прад вачмі жудасна разгорнецца непраглядная процьма і патыхне адтуль ледзяным бяспрытульлем, і незразумелы холад апаўе ўсягс прыкрай дрыготай. З процьмы мінулага ўсё выглядае крывым, пакарожаным—ня твары там, а грымасы, не падзеі, а дзікія страшныя дзівацтвы. Прайшла гэта зіма для Лясьніцкага ў глухім мятушэньні на месцы, бо сьціснуты быў ён у чатырох сьцянах роднай хаты, замураваны ў склепе цяжкой адзіноты—звонку напірала цёмная варожасьць вёскі, праз якую праходзіла ў фантастычна-заблытаных формах тое невядомае, новае, што бушавала наўкола. Было незразумела і страшна.

Вясна прынесла бацьку здароўе, а Лясьніцкаму сьвежы подых надзей і імкненьняў, вясна разьвязала яго маладыя крыльлі, прынадна адкрыла прад ім ахінутыя новай цеплю прасьцягі. І пайшоў ён тады—вольны, бязрупатны—шукаць сваіх сьцежак-дарожак, шукаць такога прахону, праз які-б можна было выйсьці з заклятага чорнага кола. А мо' й яшчэ чаго-небудзь, бо часта, ой часта лунал у ваччу салодка-знаё-

мыя вобразы і шчымлівым цяжарам ападаў на сэрца балючы смутак.

Каго больш хочацца ўбачыць?

Лежучы на сьпіне пад маленькай, да сьмяхоцьця растапырыстай хвойкай, Лясьніцкі пільна ўглядаецца ў парваны вецьцем блакіт, стараецца так углыбіць і напружыць зрок, каб перамяшалася ўсё ў ваччу, каб зрабіўся адзін расплыўчасты фон—тады можна ясна ўбачыць вобразы свайго ўяўленьня, тады можа выплысьці аблічча тае, да каго найбольш імкнецца сэрца. Так калісьці ў дзяцінстве зьяўляліся Лясьніцкаму ў небе белыя, як сьнег, анёлы, або вялізныя, ружовыя, з апэтытна-выразнымі пячаткамі пернікі.

Лясьніцкі глядзіць, углядаецца, і вось цёмныя веткі памалу тонуць у блакіце, разьліваецца ў ваччу хвалістае, сьветлае, пачынае нешта туманна выяўляцца. Аднекуль збоку вылазіць вялізнае страшыдла—рогі, клюшні нейкія, лапы. Шаволіцца, лезе... Лясьніцкі здрыгаецца ад нечаканасьці і бачыць, што над самым вокам па тоненькай галінцы паўзе маленькі жучок. Лясьніцкаму чамусьці робіцца радасна й сьмешна. Нейкая гульлівая энэргія ўзьнімае яго і ён ідзе, голасна сьмяючыся, па густым і макравым парасьніку, з вясёлай гатоўнасьцю падстаўляе рукі пад жартлівыя ўколы маладых гарэзьлівых хвоек. На сашу йсьці ня хочацца, цягне йсьці кудынебудзь бяз мэты—усё роўна ён вольны цяпер, зусім вольны, можа хадзіць куды-хоця, можа й зусім тут астацца да вечара.

Праз крокаў сто парасьнік пачаў радзець, пачаў расхінацца, паказваючы жоўта-шэрыя кавалкі паляны. У гэты момант Лясьніцкага спыніў раптоўны воклік. Нехта гукнуў нядбайным і леным голасам:

— Гэй!

Лясьніцкі азірнуўся наўкола, але нікога не заўважыў і крануўся далей. Нявідны голас паўтарыў больш настойна і злосна:

— Гэй!..

І вось тут ужо Лясьніцкі ўбачыў гаспадара гэтага голасу. З-пад шырокае хвойкі вытыркнулася галава сярэдняга

веку мужчыны з раскудлычанымі валасамі, з гультаватым бляскам макравых вачэй, з жыдкімі вусікамі, якія, вяла сьцякаючы ўніз, надавалі твару ніто глыбока-апатычны ніто філёзофскі выраз. Сьледам за галавой паказаўся і сам мужчына, апрануты ў лапці, шырокае сіняе галіфэ, саматканы суконны кулёк і нейкую жоўта-сінюю форменую шапку. Ён быў падперазаны вайсковым рэмнем з дзьвума портупэямі, цераз плячо ў яго вісеў бінокль і яшчэ нешта ў скураной скрынцы, а ў руцэ ён трымаў вінтоўку.

Лясьніцкі зьдзіўлена ўтаропіўся ў нечаканую праяву. А той паволі выбраўся з-пад хвойкі і, не ўстаючы з зямлі, яшчэ раз пусьціў свой цягуча-бурклівы голас:

— Ну? Што ты?..

Лясьніцкі зусім асалапеў.

— Вы гэта да мяне?

— Не, во да гэтага дрэва...

Потым ён устаў, прыняў адчайна-сур'ёзны выгляд і закрычаў пахмурым голасам:

— Чаго шляешся па перадавой лініі баявога агню!.. Вашы дакумэнты!..

У Лясьніцкага ўсяго за душой было нейкае старое вучнёўскае пасьведчаньне. Ён паказаў яго. Той, відаць, проста дзеля прылікі правёў разы са два па паперцы сваім марудным поглядам, потым, не выпускаючы з рук пасьведчаньня, падняў галаву і закрычаў:

— Міць-ка-а-а... Узвод-на-а-а... Міць-ка!..

І прабурчэў, нібы сам з сабой разважаючы:

— Гукнём начальства... Што-ж, дзела яснае...

Праз хвіліны дзьве зьявіўся ўзводны—рухавы, чырвоненькі, яшчэ зусім малады салдацік.

— Што табе?

— Шпыёна ўлавіў... Ты ні трасцы ня робіш—завядзі вось да Багуна.

Узводны строга зірнуў на Лясьніцкага і павёў яго па кустох некуды ў бок, бліжэй да сашы. Яны хутка вышлі на раскошную паляну, на якой дымна гарэла цяпло і. вакол яго

ляжала купка людзей рознага ўзросту, апранутых у самую разнастайную, да сьмяхоцьця зборную вопратку. Тут-жа роілам валялася аружжа і розныя вайсковыя прылады. Узводны зьвярнуўся да грубога, вялізнага мужчыны ў скуранай тужурцы, які, выцягнуўшыся ніц на зямлі, нешта расказваў пад дружны рогат кампаніі. Гэта, мусіць, быў той самы Багун, да якога вялі Лясьніцкага. Твару яго Лясьніцкі адразу ня ўбачыў, бо ён ляжаў адвярнуўшыся ў процілеглы бок. Калі-ж узводны далажыў аб здарэньні, Багун перавярнуўся на локці і цяжка ўтаропіў у Лясьніцкага свае буйныя пукатыя вочы. І вось загрымеў так добра знаёмы Лясьніцкаму густа-сіпаты з удушлівым подсьвістам рогат. Ад гэтага рогату Лясьніцкаму стала разам і прыкра і радасна. Ён і сам пачаў неяк бясьсільна ўсьміхацца і, да краю зьдзіўлены гэтай нечаканай сустрэчай, думаў:

„Ці на шчасьце, ці на гора зводзіць нас лёс з гэтым рабочым?“

А Багун тымчасам аж клаўся ад свайго магутнага рогату.

— Шпіён... ха-ха-ха!.. Шпіён!.. Гэта-ж мой хрэсьнік!.. Ха-ха-ха!.. Вось дык аказія!

І ён пачаў скрозь сьмех апавядаць таварышам аб тым, як сустрэліся яны з Лясьніцкім на вуліцы ў першыя дні рэволюцыі. Слухачы тож пачалі рагатаць, а Лясьніцкі моўчкі стаяў, кіпеў ад злосьці і сораму, гатоў быў кінуцца на рабочага, упіцца ў яго шырока-чырвоны твар, заткнуць яму рот, каб сьціх, каб ня мучыў сваім рогатам, сваёй грубой, як камень, насьмешкай.

Як усе ўдостач нарагаталіся, Багун пасадзіў Лясьніцкага ля сябе, пачаў з ласкавай цікавасьцю распытваць, якім парадкам ён сюды трапіў. Калі Лясьніцкі расказаў аб мэце свайго падарожжа, Багун з сумненьнем паківаў галавой.

— Ну, што-ж, думаеш—ты-б дайшоў?.. Шчасьце, што яшчэ трапіў да нас. Папаўся-б тэкінцам у рукі—там і капец табе.

І Багун расказаў Лясьніцкаму аб тым, што ў гэты час тварылася ў горадзе.

Рака Дняпро дзяліла горад на дзьве няроўныя часткі. Большая і галоўная частка гораду была ў гэты час окупавана польскімі легіонамі, а ў другой, меншай частцы, фактычна ў прадмесьці горада, панаваў атрад тэкінцаў—пасьледкі той дзікай дывізіі, на якую калісьці абапіраўся Карнілаў. Гэты атрад тэкінцаў увабраў у сябе яшчэ нямала й старога афіцэрства—вышла ладная банда, досыць моцная для таго, каб сваім разбоем і рабаваньнем тэрорызаваць жыхарства прадмесьця, а таксама й бліжэйшых вёсак. З гэтай разбойнай бандай спрабавалі троху змагацца малаарганізаваныя, выпадкова-складзеныя атрады дабрахвотнай чырвонай гвардыі, якія стаялі па сашы—вярсты за дзьве ад прадмесьця. У адзін з такіх атрадаў і трапіў Лясьніцкі. Багун быў выбарным камандзірам гэтага атраду.

Апавяданьне Багуна зрабіла на Лясьніцкага цяжкое ўражаньне, навеяла на яго туман глухой шчымлівай маркоты. Ён зразумеў, што адляцела на невядомую далячыню тое, аб чым лятуцеў праз увесь час бясконца-цягучай дарогі, што сваёй неадступнай вабнасьцю ўзьнімала сілу, энэргію, ствара́ла бадзёрую ўпэўненасьць у нейкім шчасьлівым канцы. Ён ішоў у горад, каб знайсьці ў ім той закляты „пункт“, якога не ставала ў яго жыцьці, каб знайсьці самае гэта жыцьцё. Цяпер горад стаў далёкі і недасяжны, як мара.

— Слухай, Багун, няўжо ніяк няможна прабрацца?..

— Калі пападзеш у лапы гэтым чарцям, дык ня выпусьцяць... Яны гатовы кожнага чужога чалавека за бальшавіка ўлічыць, асабліва, калі малады... Тады—канец... Табе што, дужа пільна патрэбна, га?..

— Страшэнна.

— К Андрэю пойдзеш?

— Вядома...

Багун зьлёгку задумаўся.

— Трэба-б было расказаць яму што-якое пра нас... сувязь зусім дрэнная, ліха на іх... Валяй, калі адважышся... Галоўнае—да тэкінцаў, а там ужо глупства!.. Міцька!.. Міцька!..

Падышоў знаёмы ўжо Лясьніцкаму ўзводны.

— Ты сягодня, здаецца, ладзіўся туды, да іх... Так?.. Возьмеш з сабой гэтага хлопца...

Міцька шырока ўхмыльнуўся, падміргнуў Лясьніцкаму неяк усёй сваёй жвавай фігурай.

— Шалда-балда... бальшавік... дайёш-бірош... фю-іць...

Ён зрабіў пры гэтым вельмі выразны жэст, які прымусіў усіх засьмяяцца, а ў Лясьніцкага ўзьняў халаднаватую хвалю трывогі. Але трэба было паказаць неяк сваю рашучасьць, і Лясьніцкі пастараўся тож засьмяяцца, лэпнуў Міцьку па плячуку.

— Нічога, браток, не прападзём!

Увесь той дзень Лясьніцкі перабыў у напружным чаканьні, якое часамі пераходзіла ў вострае ўзрушэньне, у нявыразную, але цяжкую турботу. Тады балюча, нясутрымана білася сэрца, і няможна было ўседзець на месцы—карцела пайсьці куды-небудзь, аддацца нейкаму ліхаманкава-пасьпешнаму руху. Каб разважыць свой неспакойны настрой, Лясьніцкі пачаў пільна прыглядацца да ўсяго, што робіцца вокал. І ён убачыў тут многа цікавага. Гэта быў адзін з тых першых атрадаў чырвонае гвардыі, якія вырасьлі былі ў розных районах Усходняе Беларусі, замяніўшы сабой распушчаную армію і ўзяўшы на сябе пачатак барацьбы з мясцовай контррэволюцыяй. Гэтыя атрады складаліся з самых разнастайных элемэнтаў. Разам з сьвядомымі абаронцамі рэволюцыі сюды йшло шмат аматараў вальготнага жыцьця, або проста жулікаў, якія прыносілі з сабой тэндэнцыі рабаваньня, разбою, анархіі, усяго таго, што часамі дэзорганізавала работу атрадаў. Рознапёрыя па свайму асабоваму складу, апранутыя ў пярэсты збор самых разнастайных адзежын, узброеныя ня менш пярэстым асортымэнтам усякага, якое толькі магчыма, аружжа,—гэтыя атрады выяўлялі сабой сапраўды дзіўную непаўторную карціну. Увесь нутраны лад у атрадах грунтаваўся на вольнай таварыскай дысцыпліне, якую большасьць разумела ў тым сэнсе, што кожны загад трэба спаўняць падумаўшы, што наогул ня трэба дужа патворыць начальства—балазе, самі-ж яго й выбіралі. У некаторых выпадках усе

найбольш важныя стратэгічныя пытаньні вырашаліся агульным сходам. І ня гледзячы на такую згубную для вайсковае часьці сыстэму, на такое сваволье і анархію, былі атрады, якія паказвалі сапраўдную баявую сілу й трываласьць. Прычына гэтаму—уплыў той сьвядомай часткі чырвонагвардзейцаў, якія былі шчыра аддадзены справе рэволюцыі.

За дзень жыцьця ў лягеры чырвонагвардзейцаў Лясьніцкі вельмі блізка сышоўся з імі. У гэты дзень ня было амаль што ніводнага стрэла—тэкінцы сядзелі спакойна, а атрад пакуль што наогул ня меў замеру з імі займацца. Таму ўвесь дзень прайшоў у самых ціхамірных занятках: варылі бульбу, гатавалі чай, пелі песьні, расказвалі байкі, анэкдоты. Цёплы вясновы дзень мякка атуляў усіх пачуцьцём давольнасьці, згоды, ад гэтага пачуцьця мацней зьвівалася сяброўская блізкасьць, здаваліся ўсе даўно знаёмымі і прыемнымі. Лясьніцкі ляжаў у гуртку чырвонагвардзейцаў, слухаў іх бясконцыя апавяданьні і пачынаў забывацца на сваю турботу, на ўсё, што чакае наперадзе. Тады адчуваў на сэрцы прыліў цёплае ласкі, і гатоў быў астацца тут назаўсёды, кінуць усё на сьвеце, забыцца на ўсё.

Пад вечар Лясьніцкі сустрэў тут яшчэ аднаго свайго знаёмага. Гэтая сустрэча не дала яму ўцехі—толькі на нейкі час сапсавала настрой. Было так. Ён стаяў, прыхінуўшыся да нейкага дрэва (гутарыў з узводным Міцькам), і вось чуе што нехта асьцярожна крануў яго за руку. Азірнуўся і бачыць—стаіць фігура: мізэрны пакомчаны твар радасна сьцягнут у самую найпрыямнейшую міну, чырвонае вока плюшчыцца ў нахабна-вясёлым мірганьні, сам увесь застыгнуў, напружыўся, быццам з усіх сіл трымаецца, каб ня пырскнуць со сьмеху, чакае шумлівага сяброўскага пазнаваньня. І неяк цішком, быццам з-пад палы, тыкае Лясьніцкаму сваю чорную брудную руку.

Лясьніцкі няўцямна глядзіць на гэта зданьнё і пачынае нешта ўспамінаць. Шпарка, лётам мільгаюць у памяці: школа, настаўнік, Халіма, вечар, чорнае нешта, лямпачка, нейкі боль, музыка...

— А-а-а!.. Пазнаю... Здароў!

Перад ім стаяў той флегматычны басяк, што калісьці быў яго няпрошаным абаронцам на маніфэстацыі.

— А ты што тут робіш?

Басяк таемна падміргвае і ківае ў бок галавой—хоча гаварыць адзін-на-адзін. Яны адыходзяць крокаў на дзесяць у кусты і басяк з апаскай нахіляецца, шэпча на вуха:

— Я з табой таксама пайду... Добра?

— Чаго?

Той вінавата і хітра моршчыцца.

— Там, кажуць, плоцяць добра... і гэта ёсьць... польскі, чысьценькі...

І выразна, гулка пстрыкае сябе па горлу.

У Лясьніцкага закіпае шалёная злосьць. Хочацца ўдарыць, задушыць гэтае агіднае стварэньне. Адразу зьнікае той лагодны настрой, што радзіўся пад уплывам зьбліжэньня з чырвонагвардзейцамі—і яму да болю шкода гэтага настрою. У злоснай рашучасьці ён адварочваецца ад басяка, робіць некалькі крокаў у бок палянкі.

— Я скажу Багуну...

Гэтыя словы страшэнна палохаюць басяка. Зьбялелы, устрывожаны ён кідаецца да Лясьніцкага, пачынае прасіць.

— Братачка, не кажы... заб'ець. Гэта-ж я так... жартам... А ты й паверыў, га?.. Во табе! Я проста пажартаваў...

Ён жыдзенька сьмяецца падлыжным вінаватым сьмяшком і ня пушчае Лясьніцкага, зазірае ў вочы, просіць усё... Нарэшце Лясьніцкі дасадліва абяцае:

— Добра... адлезь!

І, адыходзячы, неяк неўзаметку спраўляецца ўбачыць, як кідае басяк на яго злосны зьвярыны погляд.

ЗОРКІ разбаўлялі начную цемру ледзь прыметнай шэра-дымчастай празрыстасьцю. Па хмызьніку нявыразнымі хвалямі хадзілі нейкія цені—часамі падплывалі к вачам, і тады

здавалася, што во-во на нешта наткнешся: на куст ці на пень, на дрэва якое. А натыкаліся сама тады, калі здавалася, што наперадзе чысты прахон. Падманвае такая зорная—бяз месяцу—ноч.

Багун правёў іх гоняй са двое—даваў апошнія парады і даручэньні. Ён быў цяпер зусім не такі, як заўсёды, і дужа падабаўся Лясьніцкаму. У ім зьявілася ласкавая мяккасьць, ціхая раздумлівасьць і сяброўская чуласьць. Цёмная ноч не давала магчымасьці ўбачыць, як не пасуе такі настрой да яго грамоздкай фігуры, а гаварыў ён шопатам—ня чуваць было й грубізны яго голасу. Быццам ішоў з імі зусім нейкі новы, другі чалавек.

— Ну, далей не пайду. Бывайце, хлопцы!.. Шчасьліва!.. Ты, Міцька, добра перапрануўся? Наган пакінуў? Там, калі будзе патрэбна, у Прудніка ёсьць... Глядзі, паперку ня страць... Ну дык, Васіль, вітай нашых, перадай усё Андрэю, аб чым мы з табой гаварылі... Бывайце здаровы!..

Ён крута завярнуўся і зьнік у цемры, а Лясьніцкі з Міцькам паціху, вобмацкам пасунуліся далей. Хмызьнік даходзіў аж да самых канцавых двароў прадмесьця, а потым трэба было сігаць па задворках, па гародах, бо прайсьці па вуліцы—дык напэўна трапіш к тэкінцам.

Ня справіліся хлопцы прайсьці й сотні крокаў, як раптам пачулі за сабой ціхі хруст: нехта асьцярожна падцікаўся за імі. Яны спыніліся. У Лясьніцкага пацякла па целе халодная дрыгота, моцна забілася сэрца. А крокі зрабіліся выяўнымі і набліжаліся. Нарэшце з цемры пачуўся шопат:

— Гэта я, ня бойцеся!..

Лясьніцкі аж затросься ад раптоўнага гневу.

— Пайшоў вон, сволач!.. Не падыходзь!..

А басяк—нібы-та што—падышоў да самых да іх, зашаптаў пасьпешна й рупліва:

— Ну, чаго сталі? Хадзем, хадзем... Чаго будзем стаяць?..

Лясьніцкі рашуча зьвярнуўся да ўзводнага:

— Міцька! Лупім назад... ён не павінен з намі ісьці.

Але тут вышла нешта зусім неспадзяванае. Толькі выгаварыў Лясьніцкі гэты словы, як басяк раптам патонуў у цемры і адтуль пачуўся брыдкі здушаны зларадасьцю голас:

— А я ня пушчу назад, я буду страляць...

Лясьніцкі ня ведаў, што больш рабіць. А Міцька праказаў спакойным стрымленым голасам:

— Добра... Хадзем. Кінь наган, бо пападзешся...

— Ня турбуйся, я кіну там, далей...

Пайшлі. Міцька ішоў наперадзе, упэўнена выбіраючы дарогу, з мяккай спрытнасьцю рассуваючы падатныя чупрыны кустоў. Басяк ішоў зараз-жа за Лясьніцкім і ўсё нешта шаптаў ніто Лясьніцкаму, ніто проста самому сабе. Лясьніцкаму прыкра было адчуваць за сьпіной яго прысутнасьць—было такое ўражаньне, што нешта ліпне да сьпіны—сьцюдзёнае і мокрае.

Што чым бліжэй падыходзілі к гораду, то ўсё больш і глыбей працінаўся Лясьніцкі нейкім дасюль невядомым яму адчуваньнем, у якім чорныя цені трывогі і страху дзіўна мяшаліся з вясёлым уздымам, з радаснай лёгкасьцю. Думка аб тым, што вось ён ідзе на такую небясьпечную справу, што ён рызыкуе нават жыцьцём,—гэта думка, раджаючы страх і трывогу, адначасна давала нейкую чыста дзяціную ўцеху. Ён пачынаў уяўляць сябе гэроем, паслужная фантазія снавала розныя прыгожыя малюнкі і пэрспэктывы—было зусім весела, забаўна. Ідучы, ён напружыў усе мускулы цела, стараўся, каб кожны рух быў разьмеркаваны, лёгкі, і з давольнасьцю думаў, што ён спрытны і гібкі, як тыгра.

Пачаліся гароды. Тут часта прыходзілася пералазіць, заціяўшы дыханьне, цераз хісткія шчыкеты і праслы, прыходзілася падоўгу стаяць, прытуліўшыся дзе-небудзь у куточку, чакаць, пакуль сьціхнуць брахаць сабакі, або замоўкнуць галасы на вуліцы. Калі ўжо добра змарыліся ад гэтых бясконцовых пералазаў, Міцька спыніўся і прашаптаў:

— Тут трэба перайсьці цераз вуліцу. Калі прымецяць—не ўцякаць! Кажы, што—тутэйшыя, загуляліся троху, заба-

віліся. Яны даходзіць ня будуць: або заб'юць, або пусьцяць... Ну, гайда! Дойдзем да Прудніка, дык—жывы...

У гэтым месцы нечы гарод выходзіў аж на самую вуліцу і канчаўся ня дужа высокім праслам. Паціхеньку, асьцерагаючыся нават уласнага дыханьня, падышлі яны да прасла. Пастаялі, паслухалі,—ціха ўсё-чыста, нікога няма. Міцька ўзяўся за прасла. І вось тут нешта дзіўнае стала з Лясьніцкім—нейкі дзікі незразумелы страх напаў на яго. Чамусьці здалося, што ўсё цяпер у тым, каб хутчэй пералезьці, каб не астацца. З адчайнай пасьпешнасьцю кінуўся ён на прасла і палез, нэрвова падхватываючы ногі, быццам баяўся, каб хто ня ўцапіўся ў іх адзаду. А як саскочыў на дол, страшэнна захацелася пабегчы. І пабег-бы, каб ня ўбачыў, што Міцька яшчэ на прасьле, што ён зусім не сьпяшаецца, злазіць спакойна, паволі.

Лясьніцкі з Міцькам былі ўжо на сярэдзіне вуліцы, калі раптам пачуўся ад прасла поўны дзікае нечалавечае роспачы й страху голас басяка:

— Пачака-айце!

Ён яшчэ поркаўся там, зачапіўшыся за нешта сваім рызьзем. Пэўна й яго ахапіў той дзікі спалох, у якім толькі што быў Лясьніцкі. І вось ад суседняга дома адлучыліся дзьве вялізныя цёмныя фігуры, злавесна бразнулі на хаду аружжам.

— Хто тут?

Лясьніцкаму востра ўрэзаўся ў вушы чужы, незнаёмы акцэнт.

„Тэкінцы!"

А Міцька адразу адгукнуўся—у голасе яго зычэла вясёлая наіўная бязьвіннасьць і прастадушнасьць.

— Гэта мы... свае, тутэйшыя... У дзяўчат гулялі, троху забавіліся...

У гэты момант нешта важка і глуха шмякнулася каля прасла. Адзін тэкінец кінуўся туды і па невялічкім часе прывалок да краю зьбянтэжанага басяка. Тут, адкуль быўшы, падышло яшчэ некалькі тэкінцаў, загергаталі ўсе ў сваёй

напорна-адрывістай гартаннай мове. Потым забралі ўсіх, павялі ў самы канец глухой цёмнай вуліцы, дзе стаяла варта, увялі ў нечую клець—у вартавальнае памяшканьне. Пачалася самая дэтальнаяператруска. Калі знадворны абгляд ня даў ніякіх вынікаў, загадалі разьдзявацца. Лясьніцкага гэта процэдура пачынала троху забаўляць і заспакойваць. Разьдзяючыся сам, ён з цікавасьцю сачыў за тым, як разьдзяецца басяк. Яго страшэнна сьмяшыла тая станавітасьць і мэтодычна-спакойная акуратнасьць, з якой ён зьдзяваў і раскладваў свае да шчэнту задрыпаныя транты. Потым Лясьніцкі неяк няўмысьля зірнуў на Міцьку і скамянеў ад раптоўнага спалоху. Міцька сядзеў белы-белы, як сьмерць—у яго адзін тэкінец пасьпешна і груба цягнуў з ног панчохі. Сьцягнуўшы, ён па чарзе ў адну і другую ўсунуў руку і, радасна ашчэрыўшыся, выняў у некалькі рэдзь складзеную паперку

— А!.. Бальшавік!.. Папаўся!..

Другі тэкінец з жудаснай гатоўнасьцю выцягнуў з похвы кінджал і пагрозна намерыўся на Міцьку. Але яго спынілі.

— Стой! Да камандзіра трэба... Пасьпееш...

Нехта заўважыў:

— Камандзір сьпіць... будзіць ня можна... заўтра пакажам...

Далей яны гаварылі зноў у сваёй незразумелай мове, горача спрачаліся—мусіць, аб тым, што рабіць з палоннымі. Нарэшце вышлі ўсе вон, пакінулі іх адных у цёмнай пустой клеці, замкнулі знадворку дзьверы.

Міцька намацаў у цемры Лясьніцкага, сударгава сьціснуў яго за руку.

—Прапалі, братка... Заўтра заб'юць...

Лясьніцкі бадай што не зразумеў гэтых слоў. З таго часу, як убачыў ён зьбялелы твар Міцькі, як вострым агнём мільгнула ў думках страшэнная здагадка,—з той хвіліны раскрылася ў нутры ў яго тупая мулкая пустата і галава замуцілася нейкім суха-зьвінючым туманам. Сядзеў застыгла ў кутку—бяз думак, без разважаньняў, ня прымеціў нават, як

вышлі тэкінцы, як стала цёмна і ціха, не пачуў, не зразумеў таго, што гаварыў расхваляваны Міцька.

Ачулеў Лясьніцкі тады, як па клеці разьлёгся моцны здаровы хропат басяка, як напалохаў ён сваёй недарэчнасьцю, дзікім дысанансам з страшным і жудасным атачэньнем. Першая думка была аб тым, каб дастаць як-небудзь яго нагой, штурхнуць добра, спыніць гэты нахабны хропат. Потым усьміхнуўся—здалося гэта хаценьне дзівачлівым і бязглуздым. А тады ўжо пабеглі, паляцелі адна за аднэй шпаркія, балючыя думкі, апляліся яскравымі фарбамі вобразаў, закруціліся ў шаломным заблытаным карагодзе.

З думкай аб нямінучасьці сьмерці пагадзіўся неяк адразу, бяз доўгіх разваг. Надзеі на вызваленьне зьявіліся значна пазьней, спачатку іх зусім ня было. Спачатку была толькі тупая ўпэўненасьць у тым, што заб'юць, ды непамерная роспач, жалкаваньне аб загубленым жыцьці. Пярэстым роем атачылі былі ўспамінкі—адзін за адным выплывалі аднекуль да болю яскравыя і выразныя вобразы, выплывалі даўно забытыя рэчы і зьявы, самыя маленькія, няпрыметныя раней драбніцы жыцьця,—усё было цяпер такое любае, дарагое, усё абуджала глыбокі жаль, гатовы кожную хвіліну выліцца ў цяжкія горкія сьлёзы. Успомнілася чамусьці матка (раней рэдка калі яе ўспамінаў), потым бацька, браценьнік—здаліся яны ціха-ласкавымі, смутнымі, і горла сьціснулі даўкія сударгі плачу. Потым–бярозка на прыгуменьні, пузаты сабачка-Буржуй, дубкі над берагам, жавіны, смуродзіна, летняе сонца ў Дняпры і вясёлая жвавая рыбка—уклейкі, яльцы, галавеньчыкі.

Лясьніцкі стараўся так плакаць, каб не пачуў Міцька. Ён знаў, што Міцька ня сьпіць, што ён ня менш усхваляваны. Можа таксама плача ўцішку? Можа лепш-бы плакаць разам? Але—хто яго ведае, яшчэ сьмяяцца будзе.

Каб заспакоіць сябе, Лясьніцкі пастараўся адцягнуць думкі ад хаты, ад радзімы, перанесьці іх на што-небудзь іншае. І тады ўспомніў Раісу.

Лепш-бы яна не ўспаміналася! Яна ўстала перад вачмі—зусім жывая, рэальная, у поўным бляску свайго хараства,

яна ўзьняла ў сэрцы Лясьніцкага шалёную буру пачуцьця, якое дасюль ціха, пакорна драмала. Гэтае пачуцьцё—сьвежае і поўнае—сьціснула грудзі Лясьніцкаму сваёй магутнай, ня меўшай выхаду, сілай, кінула яго ў ліхаманку балюча-напружанага хваляваньня. Ён ня плакаў ужо—ён кідаўся, як у гарачцы, скрыгаў зубамі ад думкі пра сваё бясьсільле, рваў валасы на галаве. Ён у адчайнай журбе працягваў перад сабой рукі, быццам хацеў злавіць гэты прыгожы дарагі вобраз, каб абняць, прытуліць да сябе, каб пазнаць нязьведанае шчасьце.

І вось замест пакорнае роспачы загарэлася ў Лясьніцкім прагнае жаданьне жыць, ускаланула нутро магутным упартым протэстам. І разам з тым упяршыню паўстала ў сваёй поўнай значнасьці пытаньне:

— Зашто? Чаму?

Тады пайшла ў Лясьніцкага паласа разважаньняў, падагуленьняў і сыстэматызацыя таго, што яму давялося пачуць або пабачыць за апошні дзень. Аказалася, што ён нават ня ведае дасканала, што трэба тэкінцам, чаго яны хочуць і дамагаюцца. А здавалася цяпер, што ў гэтым якраз уся справа. Ён рашыў пагутарыць з Міцькам.

— Міцька! Ты сьпіш?

— Не, ня сплю. А што?

Голас у Міцькі зусім зьмяніўся—стаў нізкі і ціхі, здушаны нейкі.

— Скажы, што трэба гэтым чарцям? За каго яны йдуць?

— Карнілаўцы?

— Ага. Карнілаўцы. А за каго ішоў Карнілаў? Ён казаў, што за Расію, а Расія яго прагнала. Ці ведаюць-то тэкінцы, за каго ішоў Карнілаў?..

Разважаньні разьвеялі Лясьніцкаму чорны гнёт пачуцьцяў і нібы супакоілі троху. Потым, як дапасьледку стаміліся мазгі, прышоў цяжкі, хваравіты сон, прынёс чараду страшных кошмараў. Бесьперастаньня круціліся навокал тэкінцы—пужалі сваймі калматымі шапкамі, бліскучымі вугольлямі вачэй і даўгімі гарбатымі насамі. Яны ўсе корчыліся,

як звар'яцелыя, рабілі страшныя грымасы і злосна махалі кінджаламі. Прыходзіла яшчэ Раіса, салодка прытулялася да яго сваім целам і балюча-балюча цалавала. З шалёным рогатам яе адцягнулі тэкінцы—ён парываўся ўстаць, абараніць яе, але быў моцна зьвязаны—толькі нема стагнаў ад злосьці і роспачы.

Уначы Лясьніцкага будзіў Міцька. Ён спытаўся задумёным хворым голасам:

— Васіль! Ці верыш ты ў бога?

Ён першы раз назваў Лясьніцкага Васілём. Лясьніцкаму стала бязьмеры шкода яго—мо' таму, што й сябе было шкода. Хацелася адказаць яму мякка, ласкава.

— Трудна цяпер верыць, Міцька,—многа ў ім недарэчнасьці, у гэтым багу... Я-то ня веру...

— А ці трэба маліцца, як ты думаеш?

— Кінь ты, яшчэ жывы будзем, чаго там...

— Я знаю, што заўтра пamру.

Сказаў ціха, але зусім цьвёрда і змоўк. Больш ня кратаў Лясьніцкага, пакінуў яго на волю тлумных цяжкіх кошмараў.

А можа і гэта кароткая гутарка таксама была толькі ў сьне?

Прачнуўся Лясьніцкі тады, калі шырока расчыніліся дзьверы і ў іх лынула патока вясёлага пагоднага дню. Ён адразу, яшчэ нават як сьлед не прачнуўшыся, уявіў усё, што з ім здарылася, але чамусьці замест ранейшага душэўнага мятушэньня пачуў цьвярозы спакой і ўпэўненасьць, што ўсё абыйдзецца нечым зусім ня страшным. Можа будзе што няпрыемнае троху—нічога ня зробіш.

Іх адразу павялі да камандзіра. Вуліцы былі ненатуральна бязьлюдныя, зусім мала відаць было жыхароў—толькі бразгалі сваймі крывымі шаблямі чорныя страшныя тэкінцы ды дзе-калі мільгалі адзінотныя, досыць паабшарпаныя фігуры армейскіх афіцэраў. Такі нязвычайны выгляд вуліцы зноў абудзіў у Лясьніцкага трывожны настрой, і чым далей ішлі, чым больш сустракалася каменна-пахмурных рэзкіх твараў тэкінцаў, тым мацней ахапляў гэты настрой.

Увайшлі ў нейкі досыць раскошны і прыгожы дом. У вялікім пустым пакоі прышлося чакаць, пакуль старэйшы пайшоў дакладваць камандзіру. Ён быў там хвілін пяць, потым вярнуўся і павёў з сабой чамусьці аднаго Міцьку. Лясьніцкі і басяк селі на лаўку. Каля іх астаўся цяпер адзін тэкінец—відаць дабрадушны і гаваркі, бо адразу-ж завёў з імі самую сяброўскую гутарку. Лясьніцкі гаварыў з вялікай ахвотай—разважаў гаворкай сваю трывогу і хваляваньне. Цяжка сядзець было так, страшэнна мучыла невядомасьць таго, што будзе праз колькі хвілін. І яшчэ не давала спакою пытаньне: куды павялі Міцьку?

Прайшло хвілін дзесяць. І вось раптам аднекуль з глыбіні дому пачуўся прыглушаны сьценамі крык, быццам нехта некага лаяў, і потым ледзь чутны нямы ёкат. У Лясьніцага заныла ў грудзёх, па целу пацякла нейкая вадкая млявасьць—ён адчуваў сам, што страшэнна зьбялеў.

„Няўжо будуць выпытваць? Няўжо будуць біць? Не, хай лепш застрэляць адразу, так і скажу“.

А ў гэты час іх вартаўнік кулдыячыў страшэнна калечанай расійскай мовай:

— Бальшавікоў б'ём... бальшавікоў сячом... Бальшавік дрэнны чалавек, начальства не прызнае... Карнілава нашага забралі... Карнілава забілі... За што забілі?..

Лясьніцкі дасадліва перапыніў яго:

— А нашто табе Карнілаў, га? Ён табе трэба?..

Тэкінец сьперш паглядзеў на яго недаверліва, тады адвярнуўся, троху падумаў, і нарэшце адказаў руплівым і троху смутным голасам:

— Нам трэба дамоў, у нас хадзяйства, вінаград... Жонка маладая была—будзе старая... У нас жонкі старыя бываюць скора... у вас усе маладыя...

У гэты момант у пакой знадворку ўвайшоў малады, зграбны і досыць прыгожы тэкінец. Ён далей не пайшоў, а чамусьці стаў у задуме хадзіць па пакою. Як толькі ён паказаўся, Лясьніцкі ўпяў у яго свой няўцямны асалапелы погляд.

„Што гэта, здань? Ці мо' двайнік?.. Чаму—тэкінец?.. Што гэта?.."

Усё, што было далей, прайшло для Лясьніцкага, як тлумны, недарэчны і разам з тым вельмі радасны сон. Тэкінец заўважыў яго і спыніўся—вочы сталі шырокія-шырокія, поўна налітыя задзіўленьнем. Потым тэкінец падышоў да яго, і ўжо ня тэкінец, а Халіма—жывы, сапраўдны. Здаецца, абнімаліся, Халіма балюча сьціснуў руку. Забубнеў недзе яго грубы, быццам сярдзіты голас—здалося далёка-далёка, а стаялі адзін супроць аднаго. Потым Халіма зьнік, замест яго дабрадушна ўсьміхаўся перад вачмі вартаўнік, гаварыў нешта простае, але чамусьці незразумелае.

Вышлі ўсе разам: Халіма, старэйшы тэкінец і Міцька (Міцька цьмяна-зьбялелы, напалоханы, з мутнымі няпрытомнымі вачмі). Старэйшы сярдзіта скасурыўся на Лясьніцкага, каротка матнуў галавой.

— Ідзі!

І потым таксама кіўком галавы паказаў на тых на двух, буркнуў вартаўніку:

— Застрэліць...

Міцька астаўся такі, як і быў, толькі адразу неяк аўтаматычна здрыгнуўся—так здрыгаецца ў сьне чалавек, калі сядзе на твар яму муха-джыгучка,—а басяк раптам выцягнуўся ўвесь, быццам ахоплены сударгай, шырока і страшна выпяў свае сьцюдзяністыя вочы, хацеў нешта сказаць, але страшэнна задрыжэлі вусны, і зубы некалькі раз ляснулі дзіка і жудасна. Потым ён хапліва ўтаропіў у Лясьніцкага і Халіму свой няцьвёрды, але цупкі погляд, у якім гарэла адчайнае маленьне, маўклівы крык аб ратунку. Лясьніцкі недалужна зірнуў на Халіму—той падхапіў яго пад руку і пасьпешна вывеў на вуліцу.

Толькі прайшоўшы гоняў з двое па чыстай сонечнай вуліцы, Лясьніцкі сабраў у парадак свае думкі і адчуваньні і толькі тады ў поўнай меры ўсьвядоміў дзівосную выпадковасьць свайго збавеньня, тады толькі пачуў глыбокую, прасякнуўшую ўсю істоту радасьць. Зьявілася прагная па-

трэбнасьць нешта такое рабіць, што-б падкрэсьлівала яго жыцьцё, што-б давала адчуваньне гэтага жыцьця—захацелася гаварыць, сьмяяцца, разглядаць усё-чыста навокал,ісьці, прыстоіць, зноў ісьці, шыбка йсьці, нават пабегчы. Ён пачаў з таго, што спыніўся, азірнуў з ног да галавы Халіму і гучна, раскошна зарагатаў.

— Халіма, братка, што-ж гэта ты? Што ты тут робіш?

— Бачыш—ваюю...

— З кім?

— А чорт яго ведае... Усё роўна...

— Як ты сюды трапіў?

Халіма не адказаў, перавёў на другое.

— Жраць хочаш?

Лясьніцкі неяк ураз пачуў вострываўчыны голад.

— Хачу страшэнна.

— Хадзем.

Яны ўвайшлі ў прыветна-чысьценькі мяшчанскі домік. На кухні поркалася яшчэ ня зусім старая гаспадыня—тапіла печку. Як убачыла іх, трывожна насупілася, зірнула на іх спадалба. Халіма стаў прад ёй, упорыста раскірэчыўшы ногі, забалбатаў, пераймаючы вымову тэкінцаў:

— Калы—мара — цукун — якшы — памір — цянь-шань — сухум... дайёш шамаць!..

Перапалоханая гаспадыня замітусілася перад ім.

— Няма-ж у нас ні яек ні масла—сала-ж вы не ясьцё...

— Дайёш сала... Смаж сала на патэльні... сухум—каір—стамбул...

Лясьніцкі толькі цяпер сьцяміў, якім спосабам ладзіўся частаваць яго Халіма. Яму стала страшэнна сорамна і няпрыемна—ён сказаў ціхенька Халіму:

— Я ня хочу... Пойдзем адсюль...

Халіма злосна бліснуў вачмі і зусім сур'ёзна ўзяўся за ручку кінджала.

— Паспрабуй ты мне малімоніцца тут...

Гаспадыня ўмах падрыхтавала сьняданьне, і Лясьніцкаму хоця-ня-хоця, а выпала перакусіць здабытымі марадзёр-

скім спосабам харчамі. У часе сьняданьня ў хату зайшла гаспадарская дачка—маладая, але спрытная і расхадовая дзяўчына.Тая ўвязалася з імі ў жартлівую гутарку, пачала патроху кокетаваць. Лясьніцкі глядзеў на яе, дзіваваўся і проста ня верыў, каб чалавек так лёгка, так непасрэдна мог прыстасавацца да тых сьмяротна-напружаных абставін, якія былі наўкола, адчуваць сябе так спакойна і абычайна.

Пасьнедаўшы, хлопцы пайшлі на Халімаву кватэру. Там, вальготна выпрастаўшыся на ложку, з асалодай пыхнуўшы піпкай, Халіма пачуў настрой гаманіць, і выказаў Лясьніцкаму некалькі філёзофскіх думак, якія троху асьвятлілі таемную сутнасьць яго дзіўнае трансформацыі.

— Вось так і ваюем, братка Васіль... прахлаждаемся... Тут табе ёсьць чалавек, а тут і няма—гэта, брат, не заўсёды так будзе, гэта, брат,—вялікая рэч, натура... Чалавек аднаўляецца—во што... Хе-хе... Табе Андрэй растлумачыць там пра мяне, раскажа ўсё, як належыць... Я, бачыш, здраднік, я не захацеў слухацца іхных статутаў і загадаў... А мне ўсё роўна: ці там, ці тут, ці яшчэ дзе-небудзь... Ваяваць трэба толькі, буяніць, каб не загасілі бунту, каб больш разгаралася. Ты ведаеш, Васіль, у чым сутнасьць усяго, што цяпер замясілася? Будзе з гэтага вялікае аднаўленьне—асьвяжыцца чалавек, пройдзе праз горан натуры і будзе моцны, не такі, як цяпер. Чым большы бунт, тым глыбей адрадзіцца жыцьцё. Трэба, каб больш крыві было, каб больш сьмерці, больш іх напужаць, сукіных сыноў... Ты тож баішся—такая ўжо ваша доля... Славін вось яшчэ... Ваяваць трэба, біць куды-пападзя... Гэта мне глупства, ці там ты, ці тут. Усе адну справу робім—калоцім задрыпаны сьвет, бунтуем... Чалавек убачыць прыроду і сьмерць—гэта добра...

Лясьніцкі перабіў яго, запытаў з хітраватай усьмешкай:

— А ты сам не баішся?

— Я баюся ды ня так. У мяне страх перад сьмерцю, а ў вас перад жыцьцём. Вы жыцьця поўнага баіцёся. Вам трэба цацачкі, а ня жыцьцё.

Лясьніцкі не спрачаўся. Першая цікавасьць яго здаволілася і далей ужо цяжка было слухаць Халіму. Глыбокая змора мяшалася ў ім з непакойнай турботай, з клопатам аб тым, што рабіць далей—ніяк не ўдавалася спыніць думак на прадмеце гутаркі. Халіма заўважыў гэта і прапанаваў яму спаць, а сам некуды вышаў.

Прачнуўся Лясьніцкі ўжо пад-вечар. Халімы ў хаце ня было. Потым ён прышоў раздражнёны нечым, пахмуры і рашуча заявіў, што таксама пойдзе ў горад.

— Надакучыла тут, няма цікавасьці... Пайду—можа натраплю на што-якое...

Назаўтрага пасьля паўдня яны без асаблівых прыгод перайшлі на той бок Дняпра і апынуліся ў занятай палякамі частцы гораду.

ЯНЫ ўмовіліся сустрэцца на другі дзень а дзесятай гадзіне раніцы на адным з гарадзкіх сквераў. Цяпер Халіма пайшоў шукаць сабе якога прыпынку (к Андрэю йсьці катэгорычна адмовіўся), а Лясьніцкі рашыў паблындаць па вуліцах, падзівавацца на шумлівае гарадзкое жыцьцё. Начаваць ён меўся пайсьці да Андрэя.

Лясьніцкі быў здаволен, што астаўся адзін. Хацелася ў гэты момант цалкам аддацца тым ласкавым і мяккім адчуваньням, якія няміnуча зьяўляюцца пры ўвароце на старую мясьціну. Хацелася, каб апаў на сэрца ціхі салодкі смутак, каб у прыемна ўсхваляванай памяці плаўна, без перашкод, расьлі празрыстыя ўспаміны. І яшчэ хацелася поўна, да краю адчуць тое шчымлівае абурэньне, якое раджалася ад сьвядомасьці, што горад забраны, што пануе тут новая сіла—незнаёмая і чужая, якой раней ня было тут і званьня. Гэтае абурэньне ўзьнялося ўжо тады, як па дарозе сустрэўся першы афіцэр польскага корпуса.

Вуліцы гораду, поўныя сонца і ароматнай вясновай цеплі, пярэсьціліся гаварлівым натоўпам. Сям-там мільгалі

рухавыя, поўныя напышлівага форсу легіонэры. На іхных, у большасьці чыстых і прыгожых, тварах зьзяла самадавольнае адчуваньне тае агульнае ўвагі, якую на іх зьвярталі. Яны рабілі выгляд, што не прымячаюць гэтае ўвагі. Яны наўмысна гучна і захоплена вялі паміж сабой гутарку, быццам ані-ні ня цікавіліся тым, што навокал. Наогул ад іх густа патыхала тым грубаватым, троху нахабным глянсам, які характэрны для ўсяе польскае шляхты.

На аднэй з бакавых вуліц Лясьніцкі сустрэў бліскучага пышнага коньніка ў форме ўланскага афіцэра. Ён ехаў па панэлі, кокетліва гоўтаючыся на сваім стаеньніку, і ўсе, хто йшоў на сустрэчу, сходзілі на брук, пускалі яму дарогу. Лясьніцкі бачыў, як нейкі хлапчына забавіўся саступіць з дарогі—афіцэр грацыёзна нагнуўся, сьцёбнуў яго бізуном і з лёгкай усьмешкай паехаў далей. Лясьніцкі стаяў, як скамянелы, аж пакуль ня зьнік ён за заваротам вуліцы. Спачатку было адно цяжкое, як гнёт, задзіўленьне. Потым закіпала агнёвая злосьць, сьціснула горла балючай спазмай, штурханула наперад. Ён шпарка падаўся ўсьлед за коньнікам і прабег цэлы квартал, сам ня ведаючы—нашто, для чаго. Потым схамянуўся і махнуў рукой.

„Што ты з ім зробіш!"

Яшчэ з поўгадзіны Лясьніцкі хадзіў бяз мэты па вуліцах. З кожнай хвілінай чамусьці ўсе больш і больш рабілася сумна—пачынала цяжка адчувацца адзінота, нямотна і глуха зьнібела сэрца. І вось неяк адразу, раптам рашыўся і пайшоў у той бок, дзе жыла Раіса. Спачатку ня было пэўнасьці, што пойдзе да яе, думаў можа пройдзе толькі каля дому, паглядзіць на яго, адродзіць сьвежасьць успамінаў. Але з кожным крокам забірала ўсё большую сілу пачуцьцё, раджала прагнае, непераможнае жаданьне ўбачыць яе, і розум, падпарадкаваны гэтаму пачуцьцю, паслужна вышукваў аргумэнты за тое, што сустрэцца трэба якраз цяпер, што гэта будзе прыгожа і зусім натуральна, прыстойна.

Уяўленьне пачало рысаваць яскравыя, поўныя вострага драматызму малюнкі магчымай сустрэчы. Можа яна не пазнае

адразу—будзе ўглядацца ў яго, зьдзіўлена падыме свае жывыя рухавыя бровы. А потым засьмяецца, напэўна засьмяецца—вось так, як тады, з гордай прыветнасьцю, з любым, толькі ёй аднэй уласьцівым кокецтвам. А потым сядуць на тую прытульную канапу, ён будзе расказваць, раскажа пра апошнія прыгоды свае—яна будзе дзівіцца іх жудаснай неабычайнасьці, будзе глядзець на яго з сур'ёзнай павагай. Ён скажа ёй і тое, што ў самую страшную часіну ўспамінаў яе. Наогул ён скажа сёньня, што кахае яе—гэта-ж зусім ясна, чаго-ж маўчаць. У сумятні першай сустрэчы гэта выйдзе да ладу і зусім неўзаметку.

А можа яе няма тут?

Гэта раптоўная падумка ахалоджвае яго лятуценьні. Яна пераходзіць у трывогу, трывога расьце, мацнее, і ахапляе нарэшце ўсю істоту. Ён несьвядома прысьпяшае ход, быццам баіцца, каб не спазьніцца, каб ня выпусьціць магчымага шчасьця.

Вось і той вясёлы стройны дом, дзе яна жыла. Вокны бліскаюць прыветна, але з нейкай затоенай хітрасьцю—не згадаць па іх, што робіцца там, у сярэдзіне.

Што чакае ў гэтым прыгожым вясёлым доме?

Адчыніла нейкая дзяўчына, мабыць прыслужніца, не папытаўшы, прапусьціла ў пярэдні пакой. Лясьніцкі сам першы зьвярнууўся да яе:

— Ці Раіса Андрэеўна дома?

— Зараз.

Яна пайшла ў тыя дзьверы, куды калісьці, у першы прыход яго, паплыла была монумэнтальная цёця. У прахон на момант адчыненых дзьвярэй выляцеў к Лясьніцкаму вясёлы звон посуду і шумлівыя галасы. У вочы балюча ўрэзаўся бляск афіцэрскіх пагонаў.

Вышаў чамусьці „Карла“, п'янавата нахмураны, запытаў ня зусім цьвёрдым голасам, гледзячы на Лясьніцкага вяла й расплыўчаста:

— Што скажаце? Вам спэцыяльна трэба Раісу Андрэеўну, ці наогул...

Лясьніцкі раздражнёна падкрэсьліў:

— Не чаогул, а спэцыяльна Раісу Андрэеўну.

— Вы хто такі?

— Скажэце, што яе хоча бачыць Лясьніцкі.

— Зараз.

Здалося Лясьніцкаму, што калі адчыніў „Карла“ дзьверы, дык звонка матнуўся ў паветры абрывак яе вясёлага задорнага сьмеху. Потым зноў адчыніліся дзьверы, і зноў вышаў нялюбы „Карла“.

— Раіса Андрэеўна прасіла зайсьці заўтра а дванаццатай гадзіне.

Лясьніцкі, невядома нашто, перапытаў яшчэ, як вучань.

— Калі?

— А дванаццатай гадзіне.

Тады—ашаламелы, зьбянтэжаны—паціху завярнуўся і пайшоў з хаты.

Нічога ня чуў, нічога ня бачыў—сьціснула ўсяго-чыста балючая горкая крыўда, прыгняла сваім нечаканым цяжарам. У вушшу шаломным звонам зьвінеў вясёлы шумлівы гоман, а ў ім мітусіўся густы і сіпаты голас хмурага „Карлы“ ды той абрывак задорнага сьмеху—такі назольлівы, дражлівы. Хацелася заплакаць—і заплакаў-бы, каб дзе на самоце—лягчэй-бы стала на сэрцы.

„Што-ж гэта? Так сустрэліся? Заўтра а дванаццатай гадзіне...“

Ён ня пойдзе заўтра, гэта напэўна. Але як-жа збыць гэтую боль, крыўду гэту і сорам? Каб ня думаць, забыцца. Дзе там! Ніякая староньняя думка ня ідзе ў галаву—застрала гэта балючае, горкае.

З няпэўнай надзеяй спрабуе Лясьніцкі ўзьняць у сваім уяўленьні вобраз ціхай Макрыны—мо' ён унясе новы струмень у мысьленьне, новы кірунак. Макрына ўспамінаецца цьмяна, нявыразна—зусім няцікавая, шэра-будзённая. А вобраз Раісы гарыць у вачу, і ніяк ад яго не пазбыцца—зьзяе ён ясным жывым харαством, цягне да сябе ўсе думкі і пачуцьці. Тое, што адбылося там, у яе, пачынае здавацца чор-

ным злавесным сном—нечым чужым, выпадкова прынесеным аднекуль збоку. Яно шчыльна злучаецца з тым, што бачыў на паўгадзіны раней—з напышлівым форсам легіонэраў, з бізуном нахабна-свавольнага афіцэра,—і раджае ў нутры пачуцьцё гневу, глухой нявыразнай нянавісьці. Гнеў разбаўляе крыўду і сорам, ад гэтага робіцца троху лягчэй, думкі набываюць больш лёгкасьці і рухавасьці, зьяўляюцца дзіка нязбытыя лятуценьні аб нейкай помсьце, аб адплаце некаму за нейкае злачынства, за крыўду.

Лясьніцкі пайшоў у пустэльны, яшчэ няпрыбраны з зімы, гарадзкі сад, сеў над высокай кручай, пад якой аблеплены мізэрнымі домікамі расьсьцілаў сваё люстранае ўлоньне сівы Дняпро, і ў ціхай самоце аддаўся лятункам, якія сваім чароўна-імклівым лётам разьвейвалі чорны настрой. Ён сядзеў да цёмнага ў гэтым маўклівым садзе, і вышаў адтуль шэрай гадзінай—ні то заспакоены, ні то проста зморany напружаным душэўным хваляваньнем.

Падыходзячы да дому Андрэя, Лясьніцкі адчуў мімавольную трывогу.

„Можа й тут сустрэне што-небудзь нядобрае?"

Потым сам гэта заўважыў і ўсьміхнуўся.

„Напужаў мех, дык і торба страшна".

І паляпаў у дзьверы ўжо з вясёлай бадзёрасьцю, з спакойным сэрцам.

— Хто там?

Лясьніцкі пазнаў голас Ніны і адгукнуўся, троху зьдзіўлены тым, што, не адчыніўшы, пытаецца, бо раней ніколі гэтага ня было. Ніна адразу загрымела завалам, загаварыла яшчэ з-за дзьвярэй:

— Такога госьця трэба пусьціць, хоць і ня зусім варты, бо адчураўся зусім. Ну, заходзьце, калі патрапіце. Можа забыліся ўжо, дзе ў нас дзьверы?..

У пакоі, дзе калісьці жыў Лясьніцкі, гарэла прытульная—з блакітным каптуром—лямпа, кідала на стол роўны круг цёплага мяккага сьвятла. На стале скомчаным грудам ляжала нейкае швіва. У пакоі, апрача Ніны, ня было больш нікога.

Лясьніцкі ўвайшоў і спыніўся ў замяшаньні—ня ведаў, ці пачаць што распытваць, ці чакаць, каб сама расказала. Ніна заўважыла гэта і растлумачыла:

— Таты няма ўжо, памёр. Я жыву зусім адна—у гэтым пакоі. Тут самае прытульнае месца.

— А Андрэй?

Ніна троху змоўчыла, нібы падбіраючы словы, як-бы лепей сказаць.

— Андрэй тут жыве, у горадзе. Ён на другой кватэры.

Потым, заўважыўшы яшчэ большае яго задзіўленьне, яна пагадліва засьмяялася.

— Ну добра, я ўжо растлумачу ўсё да каліва. Андрэй хаваецца, бо яго шукаюць. Ён адзін з кіраўнікоў нашае падпольнае хэўры. А вось тут вы бачыце той перасыльны пункт, праз які толькі можна да яго патрапіць. Загадчык гэтага пункту—я. Разумееце? Цяпер дазвольце ў вас запытацца, ці хочаце вы есьці. Але ўсё роўна без самавару я вам нічога ня здолею даць. Давайце пачнём ставіць самавар...

Лясьніцкаму яшчэ карцела аб нечым спытаць, але ня важыўся. Рашыў лепш чакаць, пакуль скажа сама, або пасьля неўзаметку навесьці гутарку. Ніна, аднак, не забавілася здаволіць яго цікавасьць. Яна пэўна толькі з далікатнасьці і не хацела гаварыць адразу. Поркаючыся ля самавару, яна зрабіла від, быццам няўмысьля толькі што ўспомніла, і расказала:

— Тут была зямлячка ваша—Макрына, яна служыла на трапальні. Нядаўна паехала на вёску.

— Дамоў?

— Не, тут недалёчка—вёрст пятнаццаць ці дваццаць. Паступіла там недзе служыць.

Лясьніцкі з задзіўленьнем заўважыў, што вестка гэта не зрабіла на яго амаль-што ніякага ўражаньня. Яму зусім усё роўна было цяпер—ці ўбачыць Макрыну, ці не.

Ніна, кончыўшы з самаварам, села за стол, узялася за сваю працу. Лясьніцкі паспрабаваў яе разглядаць, дык яна

адразу гэта заўважыла, з сарамлівай усьмешкай падняла на яго свае ласкавыя шэрыя вочы.

— Што вы разглядаеце? Я старая цяпер, няпрыгожая стала...

Лясьніцкі хацеў пярэчыць, але ўбачыў, што гэта праўда. Для прылікі сказаў:

— Так, вы выглядаеце горш, чымся раней. Але, здаецца, вы не пахудзелі...

Яна весела засьмяялася.

— Які вы сьмешны, Лясьніцкі! Ці-ж вы ня бачыце, што я цяжарная... У мяне праз два месяцы будзе дзіця...

Апошнія словы яна сказала з выразным адценьнем здаваленьня і радаснай гордасьці. Потым, убачыўшы ў вачох Лясьніцкага маўклівае запытаньне, цьвёрда і пасьпешна загаварыла:

— Вы хочаце ведаць, ці замужам я? Я жыла з Халімам— і гэта будзе яго дзяцёнак. Ну так, я любіла яго—хіба вы ня прымецілі гэтага?..

Яна змоўкла, утупілася ў сваё швіва. Яна была зусім спакойная, а можа паказвала від, што спакойная. Лясьніцкі ня ведаў, ці шкадаваць трэба яе-ці, наадварот, прасякнуцца да яе шчырай і глыбокай павагай. Словы яе страшэнна яго ўразілі. Прад ім паўстала цень нейкае глыбокае драмы, ці можа комэдыі, але наогул нечага моцнага, неабычайнага. Ён пачуў, што пад абліччам гэтае ціхае ласкавае дзяўчыны хаваецца ўпартая душэўная сіла—і гэта сіла раптам пацягнула яго да сябе сваёй таемнасьцю, сваім глыбока затоеным рухам. Яму захацелася пачуць ад яе што-небудзь шчырае, адкрытае. Ён ласкава папрасіў яе:

— Ніна! Ведаеце што... Раскажэце мне пра гэта... ну, пра сваё жыцьцё... калі можна, калі ня будзе вам цяжка ад гэтага... Давайце пагаворым шчыра, як—помніце?—калісьці даўней.

Ніна ўсьміхнулася.

— Я многа чаго вам не скажу, бо ня ўмею расказваць... пра сваё... Дый няма аб чым... Ну, было тое, што бывае

з кожным. Я пакахала яго, а ці кахаў мяне ён, я, на жаль, і цяпер ня ведаю. Ну, што... расказаць вам, як кахаюцца? Вы, здаецца, ведаеце гэта ня менш, як я... (Яна хітравата ўсьміхнулася). А глядзела я зусім проста на гэта, і цяпер ня каюся... Я хацела сама, каб у нас быў дзяцёнак... у нас ня было ніякага спадману... разумееце?.. А тады... ён перайшоў на другі шлях... няпрыгожа... уцёк, зрадзіў... Цяпер нам не па дарозе... я хачу ненавідзець яго... і буду ненавідзець. А дзяцёнка буду гадаваць—я ўжо цяпер адчуваю да яго матчыну любасьць... Як вырасьце, скажу яму, хто ў яго быў бацькам, раскажу пра яго ўсё, што буду ведаць сама. А можа ён і ня будзе гэтым цікавіцца? Як вы думаеце, Лясьніцкі?

Замест адказу Лясьніцкі запытаўся:

— Дзе цяпер Славін, вы ня ведаеце?

Ніна засьмяялася:

— Вы-б проста запыталі, што я да яго адчувала, вас гэта цяпер цікавіць... Ха-ха! Ён-жа ўсё-ткі ня вытрымаў і прызнаўся мне ў каханьні. Ён дужа добры і чулы—мне шкода яго. Ведаеце, што? Я шчыра хацела яго палюбіць... Я й цяпер можа стараюся гэта зрабіць... Вам сьмешна? Я ўжо аднаго дасягнула: страшэнна хачу, каб ён быў шчасьлівы, каб ня быў такі... нікчэмны... А дзе ён цяпер—ня ведаю. Ён паехаў быў неўзабаве пасьля таго, як паехалі вы... Вось... Але цяпер не да гэтага. Цяпер трэба старацца на рэволюцыю—барацьба ідзе дужа цяжкая...

Апошнія словы Ніны асабліва зьдзівілі Лясьніцкага. У іх ня было ні кроплі напышлівасьці, афэктацыі, яна сказала іх проста, ад сэрца—яна сапраўды гаварыла пра блізкую ёй і дарагую справу.

У гэты час закіпеў самавар. Ніна спакойна ўсьміхнулася Лясьніцкаму, быццам дала зразумець, што ўсё гэта больш цікава, чымся сур'ёзна, і пайшла рыхтаваць чай.

Яны ў той вечар доўга сядзелі ўдвух у гэтым прытульным пакоі, злучаныя цёплай таварыскай блізкасьцю, адкрывалі адзін аднаму патаемныя старонкі свайго жыцьця.

Лясьніцкі расказаў пра свае апошнія прыгоды, перажываньні, пра свае ўражаньні тут, у горадзе, пра тую ненавісьць, якая загарэлася ў ім пасьля таго, што ён тут убачыў. Толькі не памянуў зусім пра свой візыт да Раісы ды замест Халімы ўставіў у апавяданьне „аднаго знаёмага хлопца"—не хацеў напамінаць пра яго. Ніна ўважна выслухала ўсё і з усьмешкай зазначыла:

— Дзіўны вы нейкі, Лясьніцкі. У вас ёсьць адна цікавая рысачка—бацькаўская, відаць, сялянская: вы тое пазнаіцё і таму верыце, што самі навочна ўбачыце або адчуеце. Сьмешны вы вось з такімі наіўнымі абурэньнямі—мы ўжо прывыклі глядзець на гэта з цьвёрдым сэрцам і шукаем глыбачэйшага, каранёвага, каб прычыну выявіць і зьнішчыць, а не хапацца за павярхоўныя вынікі.

Лясьніцкаму сорамна троху было, што яна навучальна, як з дзяцёнкам, гутарыць з ім, што яна адчувае сябе больш станавітай у такіх сур'ёзных пытаньнях. Але гэтае прыкрае ўражаньне гублялася ў глыбіні шчырага даверра, якое яна ў ім абуджала. Ён нават сам потым пытаўся ў яе, сам прасіў растлумачыць яму няясныя, незразумелыя рэчы.

Лясьніцкі астаўся начаваць у Ніны—яна з жартлівым нездаволеньнем уступіла яму яго былы пакой, а сама перабралася ў сваё ранейшае памяшканьне. Лёг ён зусім заспакоены, поўны бадзёрасьці і нявыразных, але вельмі сьветлых надзей. Перад сном ён яшчэ раз цьвёрда і рашуча падумаў: „Да Раісы заўтра не пайду!"

А ДЗЕСЯТАЙ гадзіне Лясьніцкі пайшоў на ўмоўленае месца—у гарадзкі сквер. Халіму ён ледзьве пазнаў—на ім ня было ўжо ўчорашняй вопраткі, з тэкінца ён абярнуўся ні то ў рабочага, ні то ў маламожнага мешчаніна (пінжак, сіняя сарочка, высокія боты, ёмка сплюшчаны старáваты картуз). Ён быў троху сьмешны ў гэтым уборы—грамоздна высунуўся наперад яго вялікі нос, а вочы сталі дробныя, басякаватыя.

Лясьніцкі запытаў у Халімы, дзе ён спыніўся. Той безнадзейна махнуў рукой.

— Чорт яго ведае—нейкі махляр з рынку. Завецца Шмуйлам і, ня гледзячы на гэта, мае даскanала прыгожую дачку, да якой прычапіўся быў нават адзін ваяка з высокапанскіх легіонаў. За тое, што я няўмысьля лучыў яму кулаком у храпу, Шмуйла з поўным сумленьнем рэалізаваў маю чэркеску і купіў мне вось гэты гарнітур. У выніку ўсяго—маю яшчэ ў кішэні некалькі вольных монэт.

— Значыць, справіўся ўжо набуяніць?

— Здаецца, усё абыйдзецца добра.—У харобрага ваякі быў такі выгляд, што ён зусім ня мае замеру займацца помстай, таксама як і прыгожай дачкой майго прыяцеля.

Хлопцы занялі выгадную лавачку, адкуль добра відаць быў вулічны рух, і пачалі весела гутарыць. У Халімы сёньня быў добры настрой, і таму ён увесь час гаварыў у жартлівым насьмешлівым тоне. Лясьніцкі спачатку сьмяяўся, потым перастаў, пачаў слухаць няўважна, урыўкамі, стаў думаць аб другім. Чым бліжэй падыходзіла да дванаццаці, тым часьцей і з большай настойнасьцю ён паўтараў сам сабе:

„Да Раісы не пайду ні за што. Гэта было-б канчатковае прыніжэньне, гэта-б паказала, што ў мяне няма ніякага асабістага гонару, што я нейкая шмотка—і больш нічога“.

А калі да дванаццаці асталося роўна пяць хвілін, Лясьніцкі неспадзявана для самога сябе ўстаў і ў замяшаньні сказаў Халіму:

— Я павінен зараз пайсьці ў адно месца—можа на поўгадзіны ці на гадзіну. Дзе мы сустрэнемся?

Халіма перш зірнуў на яго з задзіўленьнем, гатовы запытацца—куды ён так засьпяшаўся, але мусіць прачытаў нешта на яго ўзрушаным твары—зрабіў спакойную, бязуважную міну.

— Прыходзь туды, дзе я спыніўся. Я таксама пайду неўзабаве туды.

Ён сказаў адрас. Лясьніцкі пасьпешна, баючыся, каб не спазьніцца, пайшоў да Раісы. На яго неадчэпнай плоймай

насядалі едкія дакорныя думкі—ён з усіх сіл ад іх бараніўся, каб не адчуваць сваёй слабасьці і прыніжэньня, каб не раструйваць сэрца. Ён цяпер адчуваў і ведаў, што ўсё роўна пайшоў-бы, што-б там ні было, якія-б ня былі развахаьні і пастановы.

Ён увайшоў у дом да краю расхваляваны, з устурбаваным сэрцам, з пачуцьцём нейкай прыкрай пудлівай раскіданасьці. Раіса сустрэла яго ў сваім старым пакоі. Яна была не адна—быў тут яшчэ дзядзя Міка (вясёла-бліскучая салодкая кружэлачка), яны з ім аб нечым шумліва і звонка гутарылі.

Раіса была апрануўшыся ў цёмную пышную сукенку, ад якой хараство яе здавалася троху сухім, афіцыйным. Яна ветла ўсьміхнулася Лясьніцкаму і з млявай паважнасьцю падала яму сваю высока аголеную руку. Лясьніцкі пацініснуў руку ня зусім зграбна і ўпэўнена—ён разглядаў яе, зьдзіўлены зусім халодным, няпрыветным бляскам яе мармуровае бялосьці. Потым ён прывітаўся з дзядзям Мікам і пачуў у нутры прыкрую агіду і няпрыязнасьць. Ён, каб прымеў, дык-бы з вялікай ахвотай выкінуў яго за дзьверы—так быў ён тут недарэчы ў гэту часіну.

Раіса запрасіла Лясьніцкага сесьці, зрабіла яму для прылікі пару запытаньняў і ўзнавіла перарваную гутарку з дзядзям Мікам. Лясьніцкі астаўся сядзець у нейкім недарэчным маўчаньні, прыгнечаны нязвыклымі для яго абставінамі, зьбянтэжаны халоднасьцю Раісы. Потым ён троху заспакоіў сябе думкай, што гэта яна таму з дзядзям Мікам говорыць, што хоча скарэй яго выправіць, што толькі пры ім яна трымае сябе з афіцыйнай сухасьцю. І ён пачаў цярпліва чакаць канца іхнае гутаркі, спадкрадня любуючыся Раісай і пацяшаючы сябе думкамі аб магчымасьці іншых адносін, аб блізкасьці і шчырасьці, якая бязумоўна ўстане між іх, калі яны застануцца адзін-на-адзін.

Разглядаючы тонка акрэсьлены шаўковымі складкамі стан Раісы, знаёмыя і любыя рысы яе прыгожага твару, Лясьніцкі з гарачай яскравасьцю ўяўляў, як калісьці трымаў у руках у сваіх гэты чароўны стан, цалаваў гэтыя гордыя

вусны, адчуваў іх салодкую цеплату, ад якой уся істота пачынала іскрыцца пераліvamі цудоўнае смагі, ад якой так балюча загараліся магутныя жаданьні. І ня верылася, каб магло ўсё гэта бяз сьледу мінуцца, каб сапраўды закрылася глухой сьцяной гэтае жудаснае халоднасьці. Ды не, гэта толькі да часу. Потым яна ўсьміхнецца ласкава—ня так, як пры сустрэчы—у вачох у яе гарэзьліва блінуць зеленаватыя аганькі і прасякнуць у самае сэрца яго, і распаляць сэрца сваёй вясёла-іскрыстай спакусай. Яна будзе сьмяяцца, так, як тады, будзе дражніцца з ім, а ён, жартуючы, скажа ёй пра сваё каханьне. Ці зьдзівіцца-то?

І Лясьніцкі напружана сочыць за гутаркай—ці скора ўжо кончаць яны?—і з кожнай хвілінай усё больш ненавідзе салодка-бліскучую кружэлачку, яго гладзенькія жарцікі, арыстакратычна-грэблівую міну і гаворку яго — сю-сю-сю — як мядочак. Чаго яму трэба? Чаго ён сядзіць тут, назола?

Раптам Раіса спыніла гутарку, зірнула на гадзіньнік і заявіла:

— Ну, я пайшла ў горад. Дзядзя Міка, вы пойдзеце мяне праваджаць...

Дзядзя Міка, поўны самай рашучай гатоўнасьці, падняўся з крэсла. Лясьніцкі таксама ўстаў і застыгнуў у тупой няўцямнасьці.

„Як-жа гэта? І ўсё тут? Канец... Што-ж цяпер... сказаць—бывайце!—і пайсьці? Пасядзеў моўчкі... пайшоў... нейкі дурань... бясслоўны ўздыхацель... Не, дужа-ж сорамна так.. Так няможна..."

І ён у адчайнай рашучасьці зьвярнуўся да Раісы:

— Раіса Андрэеўна! Я хачу з вамі пагаварыць адзінна-адзін...

Мімаволі голас яго прагучэў глуха й парвана—выдаў яго хваляваньне. Раіса зьдзіўлена на яго азірнулася.

— Са мной? Гэта многа зойме часу?

— Некалькі слоў.

Дзядзя Міка далікатна затурбаваўся:

— Я вас, кацянёначак, пачакаю на ганках...

А Лясьніцкі ў гэты момант з напружанай пасьпешнасьцю падбіраў гэтыя „некалькі слоў“ і ніяк не знаходзіў патрэбных. І палохаўся, што ня будзе чаго сказаць—выйдзе зусім недарэчна, будзе сорамна яшчэ больш. Ужо ўедліва лезла ў мазгі атрутна-дакорная думка:

„Нашто гэта ўсё? Нашто зрабіў яшчэ гэтую дурасьць?“

Раіса нецярпліва чакала. Ён бачыў гэта і яшчэ больш хваляваўся—яшчэ больш блыталіся няслухмяныя думкі. Яна яго пасьпяшыла:

— Ну, што вы хацелі сказаць, Васіль Данілавіч?

Тады ён пачаў гаварыць, натужна падбіраючы словы, нэрвова сьпяшаючыся і ад гэтага яшчэ больш заблытваючы неўвароткія вузлы сваіх думак.

— Я хацеў сказаць... Раіса Андрэеўна... мне дужа цяжка стала... вы сустрэлі мяне ня так... вы—зусім неяк афіцыйна, халодна... Я думаў, што мы з вамі сустрэнемся, як прыяцелі... ну, як добрыя знаёмыя. Я... хацеў дужа з вамі пабачыцца, думаў аб гэтым... увесь час...

Раіса слухала яго з спакойнай ветлай усьмешкай. Калі ён залішне замарудзіў, шукаючы нейкага слова, яна далікатна перабіла яго:

— Я зусім не хацела вас крыўдзіць, Васіль Данілавіч, і мне здаецца, што вы дарма на мяне наракаеце... А калі сапраўды было з майго боку што-небудзь ня зусім далікатнае, дык я шчыра прашу прабачыць мяне: у мяне ў абычаі парушаць гэтыя розныя... умоўнасьці.

Лясьніцкі канчаткова сумеўся. Ён ня ведаў, што далей сказаць, яна зьвязвала яго сваёй казённай ветласьцю, сваім упартым уніканьнем усяго, што магло-б радзіць паміж іх некаторую блізкасьць. Прайшла цяжкая хвіліна маўчаньня. Раіса зрабіла ледзьве прыметны нецярплівы рух у той бок, дзе дзьверы. Лясьніцкі заўважыў гэта і з апошняй адчайнай патугай загаварыў:

— Вы наўмысьля гаворыце ня тое, што трэба. Вы разумееце ўсё, толькі робіце від, што не разумееце, вы хочаце згладзіць усё, што было паміж нас раней...

Яна надала свайму голасу тон жартлівага дакору.

— Васіль Данілавіч, як вам ня сорамна... Што вы хочаце гэтым сказаць? Паміж нас, здаецца, ня было нічога, апроч некаторых бязьвінных жартаў. Па-праўдзе, вы мяне хочаце раззлаваць.

Лясьніцкі раптам загарэўся ўвесь, захваляваўся.

— Няпраўда! Было. Многа чаго было... Вы ня былі раней такая, як цяпер... Вы... вы самі зрабілі так, каб я вас пакахаў... Ну так, я пакахаў... Я прышоў да вас таму, што кахаю вас... Вы ўсё мяне мучыце, Раіса Андрэеўна... Вы бязьлітасная нейкая...

А яна ўсьміхалася. Яна адказала яму, дражліва бліснуўшы вачмі:

— Каб вы мяне кахалі, Васіль Данілавіч, дык-бы не затрымлівалі ў той час, як мяне пільна чакаюць, не рабілі-б мне няпрыемнае. Ад тых, хто кахае мяне, я патрабую самага ўважлівага абыходжаньня са мной. Як бачыце, дзядзя Міка куды мацней за вас паказвае сваё каханьне. Дзядзя Міка! Вы тут?..

Лясьніцкі зразумеў, што трэба канчаць. Ён у апошні раз зірнуў на Раісу гарачым, поўным крыўды і болю поглядам. Яна заўважыла гэты погляд і ўсьміхнулася з вясёлым самадавольным кокецтвам. Лясьніцкі пахмура і глуха разьвітаўся:

— Бывайце, Раіса Андрэеўна...Назаўсёды...

— Бывайце!

Ён шпарка, раней за яе, пайшоў з хаты. На ганках стаяў дзядзя Міка — ён усьміхнуўся Лясьніцкаму з пагардлівым спачуваньнем.

„Нашто я сказаў гэтае „назаўсёды“? Нашто — „назаўсёды“? Назаўсёды... назаўсёды... уй, які-ж я дурань, які дурань... дурань... дурань...“

Ад злосьці хацелася ўцупіцца сабе ў валасы або моцна-моцна, з усяе сілы ўкусіць за палец. Нашто ён разыграў гэту комэдыю? Нашто так бязвольна паддаўся пачуцьцю, так раскіс, расьсьлюмачыўся? Яна, сьмяючыся, апавядае гэтаму тлустаму ідыёту, як палахліва і нерашуча прызнаваўся ёй у

каханьні наіўны сялянскі хлопец—яе выпадковы знаёмы—як з комічным трагізмам сказаў ён—„бывайце... назаўсёды...“ Той з парасячым самадавольствам сьмяецца—рох-рох-рох— і адчувае сваю непараўнальную перавагу, і—ідыёт—яшчэ шкадуе яго, зазначае салодзенькім—сю-сю-сю—галаском:

— Бедны хлопец. Ён, відаць, бязьмежна аддany вам, кацянёначак. Мне шкода было яго яшчэ тады, як я першы раз сустрэў яго ў вас. Гэта, відаць, шчырая і троху экзальтаваная натура—такія індывідуумы часам сустракаюцца сярод нашага сялянства.

— У-у-у, сьвіньня!

Тады злосьць з самога сябе пераходзіць на гладкага, тлустага дзядзю Міку, а з дзядзі Мікі на ўсіх гладкіх і тлустых, успамінаецца ўчорашні афіцэр, бліскуча-давольныя твары легіонэраў, „Карла“, яшчэ стары пан, вялізная цётка Раісы—усё зьбіраецца ў адно варожае, ненавіднае, у чужы незнаёмы сьвет, у які ён быў зазірнуў, поўны шчырых гарачых парываньняў, поўны глыбокага пачуцьця. Яго з пагардай і сьмехам вытурылі адтуль ды яшчэ балюча прышчамілі ў дзьвярох.

Нашто ён палез туды, у гэта агідна-бяздушнае кодла, дзе ён зусім непатрэбны, дзе яму не дадуць нават годнасьці „сапраўднага“ чалавека!

Лясьніцкі рад, што замест усяго ў нутры разрастаецца адна кіпучая злосьць,—ён сьвядома яе распаляе, аддаецца ёй з нейкай парыўчатай прагнасьцю. Ён нахабна кідае на сустрэчных легіонэраў поўныя задзёру погляды, не саступае ні перад кім з дарогі, наўмысьля шукае прычыны з кім-небудзь заняцца. Ён ахвотна пайшоў-бы цяпер у самую няпрыгожую, у самую дзікую бойку, з вялікай асалодай упіўся-б у чыё-небудзь агідна-тлустае гладкае цела. Але, як на зло, насустрэчу трапляюць самыя ціхамірныя людзі, якія, нават заўважыўшы яго ваяўнічую гатоўнасьць, зусім і ня думаюць яго чапляць, а зьдзіўлена на яго пазіраюць і далікатна саступаюць з дарогі.

Злосьць у Лясьніцкага паступова ўлягаецца—астаецца на сэрцы нейкае мулкае нявыразнае адчуваньне—ні то нязда-

воленьне, ні то агіда, ні то турботнае едкае каяньне. На хвіліну ўсплывае нешта былое, непазбыўна-прыемнае (можа ноч у спакойным калыханьні глухога вагона?) і ўспамінаецца ласкавая, як котка, Раіса, голас яе, нэрвова-дрыжачы ад холаду:

— Вася! Сагрэй мяне... абнімі...

Глыбокі шчымлівы смутак залівае сэрца і гняце мазгі настойная думка аб тым, што нешта прапушчана, няскончана— нешта дужа дарагое і непаўторнае. Тады, каб пазбыцца смутку, Лясьніцкі зноў пачынае распаляць у сабе злосьць і гэты спосаб дапамагае вельмі спраўна.

Лясьніцкі падаўся адразу туды, дзе чакаў яго Халіма. Ён знайшоў паказаны яму дом і гаспадара яго Шмуйлу. Шмуйла перш папытаў у Лясьніцкага яго прозьвішча, потым жаласна паойкаў і гукнуў у суседні пакой:

— Сора! Падай таварышу тую запіску, што ляжыць пад вялікім фікусам на сярэднім вакне.

Запіску вынесла прыгожая Шмуйлава дачка—з люба заплаканымі чорна-аксамітнымі вачмі. У запісцы было напісана:

„Я буду чакаць цябе да другой гадзіны на рынку".

Лясьніцкі зірнуў на гадзіньнік: бяз чвэрці два. Нічога не распытваючы ў Шмуйлы, ён вышаў з хаты і, як сіла, пашыбаваў на рынак.

Халіму ён знайшоў на адным з сялянскіх вазоў. Ён ляжаў на калёсах поплеч з даўгім завадзкім парсюком і, пыхкаючы піпкай, глядзеў угару, у яснае, бліскучае ад паўдзённага сонца, неба. Лясьніцкі і пазнаў яго выключна па тэй вольна-раскінутай паставе, у якой ён ляжаў на возе.

Халіма ў кароткіх словах растлумачыў, што з ім здарылася:

— Вышла так, што мой хрэсьнік не супакоіўся і наслаў на мяне цэлы атрад легіонэраў, якія меліся мяне арыштаваць. Дык я ўцёк і вось ладжуся ехаць вёрст за сорак да свайго дзядзькі—знайшоў знаёмага селяніна з суседняе вёскі. Яшчэ забаўка вось—трэба прадаць гэтага таварыша.

Ён ласкава палэпаў па тлустым баку парсюка і потым, убачыўшы нейкага мешчаніна, закрычаў прарэзьліва і дзіка:

— Прадаю сьвіньню маладую, сьвежую... Варшаўскай пароды, шляхецкага заводу... Кормная, тлустая, адно сала—няма ні касьцей, ні мазгоў... Вось яна, вось яна!.. Чысты палкоўнік!..

Лясьніцкага працяла раптоўная думка. Ён спыніў Халімаў лямант і запытаў яго:

— Слухай! Ці можна мне з табой паехаць?

Халіма дапытліва паглядзеў на яго.

— А ты ад каго ўцякаеш?

— Ад аднаго нутранога ворага. Потым я раскажу...

І ён хваравіта, крыва ўсьміхнуўся. Халіма падняўся, прыклаў палец к носу, памеркаваў нешта і рашуча ўдарыў Лясьніцкага па плячу.

— Гайда! Паехалі.

У гэты час падышоў селянін—гаспадар возу і парсюка,—прывёў нейкіх купцоў. Пачаўся заўзяты торг, у якім самы чынны ўдзел прыняў і Халіма.

У ВЁСКУ, дзе жыў Халімаў знаёмы, яны прыехалі ўжо ў позны вечар. Да дзядзькі аставалася прайсьці пехатой яшчэ вёрст восем, а таму яны рашылі заначаваць. Пайшлі назаўтрага гадзіне а сёмай раніцы.

Усю дарогу, асабліва-ж цяпер, калі ў маладой сьвежай напружанасьці мерылі яны паўсажнёвымі крокамі пульхна ўкрытую пылам дарогу, калі ўдыхалі на ўсе грудзі ароматную сьвежасьць роснага раньня, і калі па ўсёй істоце жыватворчай сілай разьлівалася ласка вясёлага сонца,—Лясьніцкі адчуваў нязвычайную лёгкасьць, нейкі хмельны ўздым, вольнае радаснае парываньне. Усё, што пражыў за апошнія дні, асталося туманным сном недзе адзаду. Калі і ўспаміналася, дык не цяжарыла сэрца, а толькі ўзьнімала інстынктыўнае імкненьне ісьці наперад, далей і далей, каб зусім адыйсьціся, каб забыцца на ўсю гэтую жыцьцёвую сумятню.

Перад домам, у якім жыў дзядзька Халімы, шумліва тоўкся народ, іграла музыка і цэлай хмарай узьнімаўся пыл—

відаць, ішлі самыя заўзятыя гульлівыя скокі. Халіма, падышоўшы, запытаў у нейкага малога падшпарка:

— Што гэта тут за йгрышча?

Той зьдзіўлена вытрашчыў вочы.

— Якое ігрышча? Гэта-ж вясельле тутака ў іх.

— Хто з кім жэніцца?

— Во... Ці-ж вы ня ведаеце? Піліп дачку аддае—Арыну.

Халіма радасна штурхнуў Лясьніцкага.

— Чуеш? У дзядзькі вясельле... Гульнём!

І Лясьніцкаму сапраўды радасна стала, што ў дзядзькі вясельле. І гульнуць захацелася—ды так, каб разгарнуцца да краю, каб аж пекла заварушылася, каб сагразіць і сабе і ўсім-чыста на сьвеце.

Яны праціснуліся скрозь натоўп і ўвайшлі ў хату. Там у густой ліпучай духаце, у хмарах табачнага дыму стоўпілася паўнютка народу—найбольш моладзі. У покуце, здавалася, недзе далёка-далёка (а хата была ўсягб аршын з дзевяць), за шумлівым сталом сядзелі госьці—там кудлычыўся п'яны гоман і сьмех. Там гарачым пунсовым макам цьвіла шчасьліва-бліскучая маладая.

Халіма праціснуўся да стала і моўчкі стаў перад ім—сур'ёзны, нават нахмураны—чакаў, каб зьвярнулі на яго ўвагу. Спачатку ніхто й ня прымеціў яго, потым некаторыя пачалі скаўзацца па ім п'янымі няпэўнымі поглядамі, і нарэшце падскочыла, як абстрыканая, востраносенькая юркая свацьця.

— А божачка мілы! Што гэта? Дзядзька Піліп! Гэта-ж твой родны пляменьнік!

Далей усё пераблыталася ў нечым бязладным і тлумным. Нехта нешта крычаў, нехта некага цалаваў, абнімаў—папаў і Лясьніцкі ў агульную завіруху, і сам не заўважыў, як апынуўся за сталом поплеч з шчытным камляватым матросам—чырвоным і дабрадушным ад гарэлкі. Свацьці ў гонар новых гасьцей гульліва запелі нейкую вясельную песьню. Ім рознагалоса падцягнулі ўсе, хто быў за сталом. Лясьніцкі, яшчэ й ня піўшы нічога, пачуў сябе захмялелым. Потым пад-

нясьлі яму вялікую ўёмістую чарку, і ён выпіў яе з зухаватай шпаркасьцю, за што дастаў агульную ўхвалу суседзяў.

Матрос цалком заўладаў Лясьніцкім і зацягнуў яго ў бесканцова-віхлястую п'яную гутарку. Ён усё нахіляўся да Лясьніцкага і гаварыў чамусьці таемна, прытоена:

— Браточак... Мы п'ём, вось, гуляем... а чаму? Арыну што аддаём? Гэта глупства... Можа, што вы надышлі? Малайцы хлопцы, здорава гэта. А чаму п'ём—ведаеш? Ведаеш? Гора наша п'е... во... У-у-у, сволачы... Ты чуў, што толькі робяць?.. Эх, братка... як цябе... ага, Васіль... Васіль!.. Душа баліць... Спалілі цэлыя вёскі, сякуць, б'юць, страляюць... Забіраюць усё, што на вока трапіць... Во, Васіль, як робіцца... А чаму?—Сілы няма, неяк адбараніцца... Ты ня бачыў? Прыедуць, яшчэ мо' й сёньня заявяцца... Эх, каб гэта хлопцаў з паўсотні—закруціў-бы я ім хахлы... А можа і закруцім яшчэ... Ты свой... я цябе не баюся... Хочаш—пойдзем да нас... А-а-а... баішся... нічога, потым падумаеш... Выпі цяпер...

Лясьніцкі п'е яшчэ чарку, і яшчэ, і яшчэ. У галаве зашумела, вочы сталі цяжкія, неўвароткія—мітусіцца ў іх нешта. У нутры расьце буяны ўздым, хочацца гаварыць і сьмяяцца. Матрос такі стаў сымпатычны, любы—трэба з ім абавязкова пацалавацца, ня йначай.

Матрос усё нешта гаворыць. Лясьніцкі тож пачынае гаварыць. Адзін аднаго мала слухаюць. Але як Лясьніцкі пачаў, гаварыць пра бальшавікоў і памянуў прозьвішча Андрэя матрос пачуў і зьдзіўлена ў яго ўтаропіўся.

— Ты яго знаеш?

Лясьніцкі сказаў, як ён знае Андрэя. Тады матрос увайшоў у нейкую шалёную экзальтацыю. Ён схапіў Лясьніцкага, абняў, пачаў цалаваць.

— Браточак! Васілька! Дык ты яго ведаеш? Жыў з ім? Бадай ты згарэў! Гэта-ж... Гэта-ж чорт, а не чалавек... Ён-жа быў тут, халера... Ды я-ж... дай мне сюды яго, сволача... Я-ж памру за яго, за баламута. У агонь, у ваду... Гэта-ж такі чалавек—ён-жа каго хочаш прайме... Ён-жа нас так ускруціў...

Потым ён зноў нахіліўся і зноў зашаптаў:

— Я-ж таксама... бальшавік, так... Я табе ўсё... я табе веру, бо—Андрэй... Ах, любы хлопец, халера... За яго канечна трэба па чарцы... Вып'ем, Васіль, за Андрэйку...

Пілі яшчэ. Яшчэ цалаваліся. Потым матрос зусім расчуліўся і абавязкова захацеў паказаць Лясьніцкаму сваю дзяўчыну. Ён пачаў гукаць яе:

— Ганна! Ганулька! Ганулечка! Стань перада мной, як ліст перад травой! Цялушачка!

Аднекуль вынырнула і падышла, сарамліва ўсьміхаючыся, поўненькая сьвежая дзяўчына. Матрос абняў яе, прыгарнуў да сябе.

— Во мая цялушачка... Васіль, бачыш? Падабаецца, га? Хочаш пацалавацца? Цалуйся... ну?.. Яшчэ, яшчэ...

Лясьніцкаму дзяўчына гэта здалася надзвычайна прыгожай, і ён вельмі ахвотна з ёй цалаваўся. Яна была троху п'януватая, а таму ўжо з другога разу пачала шчыра адказваць на пацалункі—вусны яе сталі мяккія і гарачыя, а ў вачох зайскрыўся юрлівы агоньчык. Калі-ж Лясьніцкі ўзяўся за яе чароўна-пухкія грудзі, матрос чамусьці страшэнна ўсьцервіўся, закрычаў і ўжо намерыўся на яго магутным сваім кулаком. Але Лясьніцкі зусім не спалохаўся. Ён кінуўся матросу на шыю і пачаў яго цалаваць з такім самым імпэтам, як і дзяўчыну. Гэта дало інцыдэнту зусім добрую і мірную разьвязку. Матрос прапанаваў выпіць—і ўсе ўтрох выпілі дружна па чарцы.

Гулянка тая цягнулася-б без перапынку ўвесь дзень, каб не адно здарэньне, якое нечакана ўзбушавала ўсю вёску, унесла новую плынь у яе зладнае жыцьцё. Пачалося з таго, што гадзіне а чацьвертай спаўдня на вёску прыехалі палякі (матросавы словы-ткі спраўдзіліся). Вестка аб гэтым у момант абляцела ўсю вёску і ня мінула таксама хаты дзядзькі Піліпа. Пачалося нэрвовае мятушэньне, адзін аднаму жвава, сьпяшаючыся, перадаваў навіну:

— Зачалі трэсьці з таго канца—шукаюць бальшавікоў, аружжа. Ламаюць, крышуць усё-чыста. Што аблюбуюць—усё на воз, на воз... Б'юцца, калі хто сьпіраецца...

Матрос, як пачуў пра ўсё гэта, парыўчата ўстаў, ляснуў кулаком па сталу.

— Дык-жа досыць ужо! Панапіліся крыві... Пойдзем-тку, пагамонім... Хлопцы, хадзем!..

Яго спрабавалі зятрымаць—зналі, што наробіць бяды, дык—дзе там! Крутнуўся разы са два (дужы, як вол)—і ўсе паадсыпаліся.

Лясьніцкі не адставаў ад яго ні на пядзь. Ад выпітае гарэлкі, ад запальных матросавых слоў ды яшчэ ад шпаркага руху (яны беглі ўгрунь) бушавала ў грудзёх кіпучае мора злосьці, якое магло цяпер штурхнуць яго на самы дзікі ўчынак.

Каля нейчае хаты ўжо сабраўся досыць вялікі натоўп. Вароты на двор былі зачынены, а перад форткай стаяў салдат з нарыхтаванай стрэльбай і адганяў народ. Матроса адразу прапусьцілі наперад—за ім прайшоў і Лясьніцкі. Яны падышлі да вартаўніка. Тут стаяў ужо раскірэчыўшы ногі Халіма і ні то сварыўся ні то проста дражніўся з вартаўнікам. З двара чуваць быў гоман, нейкі трэск, бабскі плач і недалужны ёкат мужчыны.

Матрос падышоў да салдата, пахмура і злосна крыкнуў:

— Прапусьці, ну?..

Салдат моўчкі навёў у яго стрэльбу. Матрос спыніўся.

— Што, страляць? Хочаш забіць, так? Думаеш, гэта так сабе пройдзе? Кажу—прапусьці, ну?!

У гэты момант адчынілася фортка і ў ёй паказаўся афіцэр—мусіць, іхны старэйшы—высокі мужчына, з маленькім тварам, на якім грэбліва шаваліліся вусікі і тупа плылі масьлянiстыя кацячыя вочы. У руках ён трымаў наган.

— Што тут такое? Чаго пазьбіраліся, а? Разыйдзісь!

Матрос не крануўся з месца. Утупіўся, як бык, і прабурчэў з настойнай пагрозай:

— Чаго шукаеш, га? Што табе трэба тут?..

— Разыйдзісь, а то загадаю страляць!.. Разыйдзісь!..

— Каго шукаеш, пытаю?

— Разыйдзісь! Салдаты, сюды!..

Тут здарылася нешта зусім нечаканае. Матрос пасьпешна выхапіў з кішэні рэвольвэр і стрэліў у афіцэра. Той недалужна заграбаў рукамі, сударгава хапнуў некалькі раз паветра і пасунуўся долу. Зьбялелы, перапалоханы салдат няпэўным рухам навёў у матроса вінтоўку, але ня справіўся стрэліць, як Халіма, падкраўшыся збоку, зусім спакойна падняў вінтоўку ўгару і потым без асаблівых патуг адабраў яе.

Матрос дзіка зароў, як звар'яцелы:

— За мной!

Уварваліся на двор. Нехта страляў, нехта нешта крычаў—падняўся страшэнны гармідар. Хваля людзкога натоўпу выперла Лясьніцкага аж на гарод і тады ён убачыў, як ужо далёка, ля самых гумён, беглі асалапелыя ад страху палякі, кідаючы на бягу аружжа. Адзін застраў быў, зачапіўся, пералазячы цераз прасла, і Лясьніцкі бачыў, як нейкая баба, трапіўшыся тут каля блізу, падбегла к яму і заўзята хвастала яго карамыслам аж пакуль не перакуліўся ён на той бок і не пашыбаваў па полю ўсьлед за сваімі харобрымі таварышамі.

Сярод сялян падняўся вясёлы рогат. За палякамі далей не пагналіся—пачалі шумліва перакідвацца жартамі—сьмяшылі адзін аднаго і самі сябе. Потым вярнуліся на вуліцу. Вакол матроса сабраўся шчытны гурток—пачалі радзіцца, што рабіць далей. Пастанавілі вынесьці забітага афіцэра за вёску і кінуць дзе-небудзь у роў, а матросу ўсе ў адзін голас параілі зараз-жа, не марудзячы ні хвіліны, уцячы.

Матрос узяў з сабой трох хлапцоў і некуды зьнік. А праз хвілін дзесяць зьявіўся па-дарожнаму апрануты, узброены, пачаў разьвітацца з усімі вяскоўцамі. Адзін з тых хлопцаў, якіх ён вадзіў з сабой, таксама быў гатовы ў дарогу.

Матрос быў ужо зусім цьвярозы—яго грубаваты твар выяўляў сур'ёзную руплівасьць, турботу. Разьвітваючыся з Лясьніцкім, ён сказаў яму з сумнай усьмешкай:

— Не давялося нам і пагуляць разам... Ну, можа яшчэ ўбачымся. Калі што,—пытай тут у хлопцаў—яны будуць ведаць—ды прыходзь да мяне—паваюем...

Вясельле гулялі далей. Спачатку—пад сьвежым уражаньнем—толькі й гаворкі было, што аб гэтым здарэньні. Потым гарэлка вольна разблытала думкі—зноў пайшло тое, што было й раней.

Лясьніцкі спачатку моцна адчуваў адсутнасьць свайго вясёлага размоўцы, але праз хвілін дзесяць, калі ў галаве зноў расплылася хмельная муць, а ў вачох мігнуў яшчэ мокры ад сьлёз, але ўжо сагрэты знаёмай гарэзьлівай усьмешкай твар матросавай Ганны,—узьняўся настрой, забушавала кіпучая весялосьць. Неўзабаве ён апынуўся ля Ганны, пачаў суцяшаць яе, частаваць гарэлкай, і нарэшце завёў з ёй лёгкую жартлівую гутарку, ад якой яна то сарамліва тупіла свае вочы, то бліскала на яго сьмелым юрлівым агоньчыкам.

Шэрай гадзінай паляцела па вёсцы новая вестка: па дарозе на воласьць у лесе нехта забіў польскага комэнданта. На вёсцы кожны адразу падумаў:

— Забіў матрос.

Гэтая вестка чамусьці ўзбудзіла ў нутры Лясьніцкага хвалю тупой нявыразнай трывогі. Мімаволі падумалася:

„Палякі гэтага не даруюць“.

Але ў п‘янай галаве доўга ня трымалася гэтая думка: прамігнула і зьнікла, патонула ў хвалях вясёлага тлуму.

Позна ноччу Лясьніцкі пайшоў з Ганнай гуляць. Яны апынуліся сярод нейкіх дрэў, потым упёрліся ў прасла, і Лясьніцкаму здалося, што яны заблудзіліся ў нейкіх непраходных нетрах. Але замест таго, каб шукаць якога выйсьця, ён абняў Ганну і пачаў цалаваць. Яна спачатку млява здавалася на яго ласкі, а потым, калі ён стаў занадта рашучы, зьлёгку ўдарыла яго па руцэ і ўцякла. Лясьніцкі пачуў тады страшэнную змору і рашыў адпачыць. Ён сеў на траву, вяла разважаючы аб залішняй далікатнасьці жаночага роду і аб тым, як прыемна пасядзець на сьвежай травіцы дзенебудзь у глухіх бязьлюдных нетрах. А як лажыўся і як засынаў, Лясьніцкі ўжо зусім ня помніў.

Прачнуўся ён ад глухога, але балючага ўдару ў бок і ўбачыў над сабой сталёвы сьвет раньняга золку, цёмныя

зубастыя лісьця крапівы і некалькі польскіх салдат. „Нетры“ аказаліся нявысокім узгоркам, які падымаўся ад вуліцы к абгароджанаму праслам садзіку і на якім расло некалькі сухарлявых дрэўцаў.

Салдаты будзілі з жорсткай настойнасьцю і бяз усякай далікатнасьці. Ад другога высьпятка ён ускочыў на ногі і гатоў быў рабіць усё, што яму загадаюць. Яго, злосна штурхаючы, правялі крокаў сто па вуліцы і тут ён убачыў цэлую вятку хлапцоў, якія стаялі супроць Піліпавай хаты, абкружаныя коннымі салдатамі. Сярод іх выразна вылучалася грамоздная фігура Халімы.

Лясьніцкаму далі апошняга таўкача, і ён быў далучан да грамады арыштаваных хлопцаў. Ён перш за ўсё страшэнна зьдзівіўся, убачыўшы, што ўсе хлопцы зусім спакойныя: вясёла жартуюць, сьмяюцца, быццам сабралі іх на нейкую цікавую забаву. Але зараз-жа нейкі хлопец растлумачыў яму, цішком шапарнуў на вуха:

— Матрос у лесе з хлопцамі. Як будуць весьці ў воласьць—адаб‘е. Пры першым стрэле кідайся на каторага...

Тады й Лясьніцкі ўсьміхнуўся, давольны, што будзе сьведкай і ўдзельнікам такой цікавай баталіі.

Па вёсцы туды ды сюды гарцавалі коньнікі—лавілі хлопцаў і валаклі іх у агульны гурт. З кожнай хвілінай рос і пашыраўся па вёсцы жудасны плач—маткі, сёстры вышлі выпраўляць сваіх родных у невядомую страшную дарогу. Дзе-ні-дзе чуваць былі рэзкія гукі злоснае лаянкі, якія ў большасьці канчаліся бясьсільным стогнам і ёкатам: умелі польскія жандары навадзіць парадак.

Пагналі іх, як скаціну, бязладным гуртам—пусьцілі наперад, а самі ехалі адзаду з нарыхтаванымі стрэльбамі. Калі хлопцы ішлі ня так шпарка, як хацелася праваднічым, наяжджалі коньмі на задніх і звонка сьцёбалі бізунамі па галовах, па тварах, па чым-пападзя.

Пацягнулася шырокае, яшчэ пустое і шэрае поле. За ім далёка-далёка, ледзь прыметным чорненькім матузком адзначыўся лес, які цягнуўся вёрст на шэсьць, даходзячы да

самае воласьці. На лес пазіралі ўсе з захаванай надзеяй, з трывожным боем усхваляваных сэрцаў. Пэўна, кожнаму дарога праз поле здалася бясконца-цягучай і нуднай. Палякам ня трэба было падганяць: ішлі ўсе з нэрвовай напружанай пасьпешнасьцю.

Вось і зусім ужо блізка жаданы лес. Бліжэй, бліжэй. Ужо вока пранікае ў яго маўклівую глыбокую гушчыню, ужо відаць, як на гладка-ўбітую дарогу лезуць з бакоў карчаватыя дрэвы, як выстаўляюць свае даўгія голыя цыблы кусты прыдарожнай лазы.

І бачаць хлопцы, што на дарозе—далёка-далёка, ад самага ледзь віднага заварота, ціха курыцца пыл. У вачох ува ўсіх палахліва мільгае неўразуменьне.

„Хто гэта? Няўжо нашы на конях?“

Пыл расьце, набліжаецца, потым, на момант затрымаўшыся, вылучае сілуэт аднаго коньніка. Яшчэ праз хвіліну—відаць, што гэта скача польскі ўлан—скача з шалёнай адчайнай шпаркасьцю. Ён падляцеў проста да камандзіра—зьбялелы, устурбованы, з недалужна і неяк сьмешна адвіслай левай рукой (рукаў быў густа запэцканы ў кроў)—пачаў нешта, захліпваючыся, яму дакладваць. Хто быў бліжэй, той разабраў сэнс гэтага дакладу: улан сустрэў у лесе вялікі атрад партызанаў і, паранены ў левую руку, ратаваўся толькі дзякуючы шпаркасьці свайго каня.

Камандзір зараз-жа даў загад зьвярнуць убок, і яны пайшлі нейкімі блытанымі абходнымі дарогамі. Настрой у хлопцаў асеў—яны ішлі пахмурыя, цёмныя, мала адзін з адным гаварылі—кожны ўглыбіўся ў свае невясёлыя думкі.

У воласьці стаяла польская комэндатура—туды й даставілі арыштаваных хлопцаў. Там наладзілі ім жорсткі допыт (патрабавалі выдаць бальшавікоў), які, аднак, ня даў ніякіх вынікаў: усе паказвалі на матроса, а больш ніхто нічога й ня ведаў. Тады пачалася страшэнная дзікая экзэкуцыя над усімі арыштаванымі. Секлі шампаламі да няпрытомнасьці, сыпалі соль на парванае раскрыўяненае цела,

уторквалі ў цела вострыя канцы шабель і паволі пакручвалі, прыгаварваючы ў крыважэрнай зларадасьці:

— Вось вам свабода... Вось вам саветы... Помні бальшавікоў... Помні, як бунтаваць...

Экзэкуцыя мінула толькі Халіму й Лясьніцкага—іх, як чужых, нятутэйшых, улічылі за важных бальшавікоў, за арганізатараў усяе завірухі і ў той-жа дзень накіравалі да галоўнага прокурора.

У ВУШШУ ў Лясьніцкага надоўга асталася жудасная музыка гэтых страшэнных стогнаў, гэтага дзікага ляманту людзей, згубіўшых волю і памяць ад нясьцерпнага лютага болю. Ён павінен быў усё гэта слухаць, ён ня мог ня слухаць, бо катавалі пад самымі вокнамі таго памяшканьня, у якім іх з Халімам запёрлі.

Халіма быў бадай-што спакойны, ён толькі ня мог быць на адным месцы—усё хадзіў, усё мерыў пакой буйнымі рэзкімі крокамі. А Лясьніцкі зусім страціў прытомнасьць. Заткнуўшы вушы, ён кінуўся ніц на падлогу, забіўся ў куток і калаціўся ўвесь, як у трасцы. Вушы ня можна было так заткнуць, каб ня чуць нічагуткі. Усё роўна далятали жудасныя гукі і—прыглушаныя, затуманеныя—былі нават яшчэ страшнейшыя. Лясьніцкі пачынаў плакаць, але плакаў бязгучна, адным сухім уздрыгваньнем сьціснутых болем грудзей. А ў галаве балюча біліся некалькі слоў і гнялі сваёй нязьменнай паўторнасьцю, будзілі прылівы шалёнае гнеўнае роспачы.

— Дзе канец? Дзе мера гэтым мучэньням? Хто адплоціць за іх? Хто пакарае?..

Потым ён кінуўся быў да дзьвярэй і біў у іх з усіх сіл кулакамі, крычаў не сваім, прарэзьлівым нейкім голасам:

— Пусьцеце! Вазьмеце й мяне! Бярыце!.. Бярыце мяне, зьвяры!..

Салдат, што іх вартаваў, адчыніў дзьверы і флегматычна ўдарыў яго ў грудзі прыкладам. Калі-ж ён зноў аша-

лела кінуўся на дзьверы, яго схапіў Халіма і, моцна сьціснуўшы сваімі дужымі лапамі, адвёў у дальні куток.

А самы нясьцерпны боль быў тады, як узялі таго маладзенькага, беленькага—гадоў у шаснаццаць—хлопчыка. Лясьніцкі адразу пазнаў яго голас. Яшчэ ідучы, ён да яго прыглядаўся, загаварваў з ім і дзівіўся яго простай вясёлай наіўнасьці. Цяпер, як жывы, ён паўстаў у ваччу: чысты адкрыты твар, шыракаваты рот, бліскучыя жвавыя вочкі, так люба прыжмураныя ад сонца.

Спачатку нічога ня чутна было—мусіць трымаўся, гаротнік, хацеў паказаць сваю мужнасьць. А потым пачулася ціхае стагнаньне, жудасна падобнае на горкі дзіцячы плач. І гэта, вырванае з самага сэрца, бязьмежна-балючае слова:

— Мамка! Мамачка!..

Ці адчувала ў тую хвіліну матчына сэрца, як мучылі яе дарагога сыночка?

Яго замучылі. Ужо значна пазьней, мо' праз некалькі год, Лясьніцкі выпадкова даведаўся, што гэты беленькі хлопчык ня вытрымаў катаваньня і праз тыдзень сканаў.

Лясьніцкага і Халіму выправілі ў той самы дзень гадзіне а чацьвертай спаўдня. Іх павялі два добра ўзброеныя легіонэры. Адзін з іх быў паджылы, вусаты—ён аказаўся потым дужа гаваркім і вясёлым. А другі—яшчэ зусім малады—увесь час лятуценна маўчаў, азываючыся толькі глыбокімі гучнымі ўздыхамі. У гэтага быў невялічкі—клінам уніз—твар, а на ім шырокія сьцюдзяністыя вочы і малюпасенькі роцік. Ён быў дужа падобны на птушку, а ўздыхаў таму, што пакідаў на некалькі дзён сваю каханую—нейкую тутэйшую шляхцянку. Першы зусім добра гаварыў парасійску, а другі за ўсю дарогу блізка што не сказаў ніводнага слова і было невядома, ці ўмее ён гаварыць наогул.

Спачатку ішлі моўчкі. Старэйшы вартаўнік (паджылы, вусаты) намыкаўся праявіць належную строгасьць і нават забараніў хлопцам гутарыць паміж сабой. Потым пачаў бурчэць нешта пра бальшавікоў, перайшоў на зямлю, на сель-

скую гаспадарку, пачаў лаяць тутэйшых сялян за тое, што ня ўмеюць хадзіць каля зямлі. Халіма тады запытаў у яго:

— А ў вас хіба ня так гаспадараць?

Ён змоўк, быццам разважаючы, ці варта гэта завадзіць гутарку з арыштаваным, ці не. Але натура перамагла—ён пачаў апавядаць, як працуюць у іх на зямлі, колькі маюць прыбытку і г. д. Гаварыў спачатку сярдзіта, быццам нехаця, а далей захапіўся і забыўся зусім, што гаворыць з арыштаваным, што трэба трымаць з ім жорсткі, сур'ёзны тон. І завязалася ў ім з Халімам заўзятая гутарка, якая неўзабаве ўвяла вусатага ў самы дабрадушны настрой. Праз хвілін дзесяць ён пачаў ужо выкладаць сваю аўтобіографію, у першую чаргу важна зазначыўшы, што яго завуць „пан Пясоцкі". Калі-ж ён памянуў пра месца свайго нараджэньня, у гутарку ўвязаўся Лясьніцкі. Лясьніцкі добра помніў географію, а памянёная легіонэрам мясцовасьць чамусьці асабліва станоўка ўелася яму ў памяць. Ён назваў некалькі суседніх пунктаў і, калі той зьдзіўлена ў яго ўтаропіўся, няўважна зазначыў:

— Бывалі і там—знаёмая мясьціна...

Тут ужо вусаты зусім узрадваўся. Ён у сваю чаргу пачаў з захапленьнем прыпамінаць суседнія гарады і мястэчкі, а Лясьніцкі рабіў від, што добра іх ведае і нават апісваў некаторыя падрабязгі, спэцыяльна выбіраючы такія, якія падышлі-б да кожнага горада або мястэчка.

Праз гадзіны паўтары між хлопцамі і вусатым легіонэрам была поўная сяброўская згода і прыязнасьць. Быццам і ня было таго, што яны арыштаваныя, а ён іхны вартаўнік, што ён вядзе іх, як важных злачынцаў, на нейкі страшны суд, а можа й на сьмерць. І вось тады Халіма, сустрэўшыся поглядам з Лясьніцкім, бадзёра і весела яму падміргнуў. Лясьніцкі падумаў, што ў Халімы ёсьць ужо нейкі плян вызваленьня і стаў трымаць сябе напагатове. Ён заўважыў, як Халіма спрытным манэўрам перавёў гутарку на палітычную тэму, на барацьбу легіонаў з бальшавікамі. А далей ужо сам легіонэр падышоў да іхнага арышту, з шчырай спага-

дай запытаўся, за што іх узялі. Халіма расказаў усё, як было, і „пан Пясоцкі“ задуменна зазначыў:

— Хто яго ведае, што там будзе. Мы—што... Мы робім, што нам загадаюць...

Увайшлі ў лес. Тут адразу пачулася, што дзень падыходзіць к канцу—косы барвянага сонца мазалі толькі макушкі дрэў, а ўнізе стаяла цьмяная муць. Паміж дрэў ужо гатовы былі зьвінуцца першыя згусткі вячэрняга змроку.

„Пан Пясоцкі“ чамусьці змоўк, пачаў турботна сапці, мычэць, мармытаць нешта сам з сабой. Потым зьвярнуўся да маўклівага таварыша:

— Што, пан Быліна, ці ня панна Адэля прымусіла так сумаваць?

Той маркотна ўсьміхнуўся, але нічога не адказаў. Прайшлі яшчэ троху моўчкі. Вусаты зноў зьвярнуўся да „пана Быліны“.

— Як, пан Быліна, дзён пяць давядзецца патраціць, ня йначай?

Той моўчкі ўздыхнуў. Яшчэ прайшлі троху. Яшчэ вусаты памуліўся, памычэў троху і зноў сказаў, але ўжо зусім няўпэўнена:

— А каб узяць ды вярнуцца назад, га?..

Халіма да-рэчы ўставіў, быццам—так сабе, між іншага:

— А чаго-б вам з намі вантэжыцца... Вярнуліся-б, ды й па тым...

„Пан Пясоцкі“ зрабіў від дужа хітрага чалавека і засьмяяўся:

— Хе-хе-хе... Іш ты, куды заварачвае... Я, брат, бачу цябе навылёт... А з вамі што зробім?

— А мы ўцячом.

— Э не, галубец, на гэтым ня выедзеш...

— Ну, адбяром у вас вінтоўкі...

— Зусім кепска... Прападзём!..

І вось тут азваўся маўклівы і лятуценны Быліна:

— Можна сказаць, што партызаны адбілі, гэта-ж не пяршыня...

Небарака, відаць, страшэнна хацеў вярнуцца да свае панны Адэлі.

Кончылася ўся гэта справа на тым, што яны пасяброўску разьвіталіся і легіонэры пайшлі той самай дарогай назад, а хлопцы ўглыбіліся ў густы, ужо добра зацягнуты змрокамі лес. На разьвітаньне „пан Пясоцкі" шчыра пажадаў хлопцам усяго лепшага, пацалаваўся з абодвымі, а Лясьніцкаму з цёплай ветласьцю напамянуў:

— Калі прыдзецца быць у нашых мясьцінах, дык не забудзьцеся, дзе мая хата.

Лясьніцкі, да сьлёз расчулены гэтым разьвітаньнем, думаў:

— Гэта-ж зусім ня ворагі... Гэта-ж—свае... Ці-ж ім трэба ваяваць з бальшавікамі ды катаваць мірных сялян?..

А Халіма, як за-звычай, схаваў сваё пачуцьцё пад маскай беспрасьветнай пахмурасьці.

У лесе пахла мохам, леташнім лістам і цёплым дыханьнем пышна набраклых почак. Стаяла мяккая плынная цішыня, якая была настолькі адчувальная, што здавалася нейкім бязгучным, але настойліва-блізкім шопатам.

Хлопцы стараліся далёка не адбівацца ад дарогі і пайшлі лесам у той самы бок, куды вярнуліся легіонэры. Так ішлі яны, пакуль зусім не сьцямнела, а тады рашылі выйсьці на на дарогу. Аднак дарогі яны не знайшлі. Яны ня прымецілі, як упацёмку ўзялі няпэўны напрамак і заблудзіліся. Тады пачалі яны з упартай настойлівасьцю шукаць гэтую згубленую дарогу і чым больш шукалі, тым глыбей убіваліся ў чорныя непраходныя нетры. Нарэшце, натрапілі на нейкую сьцежку і пайшлі па ёй, спадзяючыся хоць куды-небудзь ды выйсьці. Праз паўсотні крокаў сьцежка нечакана разьбеглася, быццам растала, і зноў пачаўся дзікі некрануты лес. Яны рашылі пайсьці назад па гэтай самай сьцежцы і—не знайшлі яе. Тады Халіма рашуча спыніўся.

— Кончана. Заблудзіліся ў поўнай меры. Прыдзецца начаваць.

Лясьніцкі яшчэ з нейкай надзеяй пазіраў на глухую сьцяну чарнільнае цемры. Здавалася, што якраз во тут, за

гэтым бурвалкам будзе абавязкова дарога. Яшчэ можа крокаў з дваццаць якіх.

Яны яшчэ троху прайшлі, і Лясьніцкі пераканаўся, што ня толькі дарогі, а й бурвалка тут ня было аніякага. Тады зноў спыніліся і пачалі меркаваць, як наладзіць сабе начлег. У часе гутаркі Халіма раптам сьціх і застыгнуў, напружана ўглядаючыся ў цемру. Потым весела таўхануў Лясьніцкага.

— Агонь!

Сапраўды, прайшоўшы з гоні, яны вышлі на невялічкую прагалінку, сярод якой быў раскладзен агонь. Тут быў цудоўна прытульны зацішны куточак. Дрэвы і кусты абгароджвалі прагалінку шчытнай, быццам наўмысьля зробленай сьцяной, па якой дрыготна бегалі калматыя, парваныя водблескі агню і вырывалі з цемры дзівосна-пераблытаныя жмуты голага вецьця.

На вялікае дзіва, каля агню ня было ніякага жывога стварэньня. Хлопцы пастаялі троху ў нерашучасьці, а потым усё-ткі адважыліся і падселі к агню. Падумалі, што гаспадар агня адышоўся ў лес за гальлём. Аднак, прайшло хвілін пяць, потым дзесяць, пятнаццаць, а ніхто ня прыходзіў. Хлопцы ўжо й перасталі чакаць, выгадна разьляглісяя каля агня і з вясёлай жартлівасьцю пачалі перабіраць свае нядаўныя прыгоды. Тады раптам рассунулася веццьце і на прагаліну вышаў чалавек. Ён здаўся адразу Лясьніцкаму нязвычайна кудлатым і страшным—мабыць, здалося гэта ад фантастычнай гульні дрыготных водблескаў. У аднэй руцэ чалавек трымаў стрэльбу, а ў другой—торбу і на палавіну абскубленую нейкую птушку.

— Я прыглядаўся, хто вы такія... Нічога, нічога, ляжыце...

Ён спакойна падышоў к агню і, заняўшы вольнае месца, пачаў даскубваць сваю птушку. Цяпер Лясьніцкі ўбачыў, што гэта—буйны і дужы мужчына, з прыгожым тварам, поўным троху пахмурае мужнасьці, з энэргічнай—чорнай і кароткай расьліннасьцю.

— Я чуў, як вы гаманілі тут... Дзе гэта было, далёка?..

Хлопцы пачалі тлумачыць, дзе гэта было, няўпрыметку перайшлі на апісаньне самых падзей і расказалі яму пра

ўсё-чыста, што толькі бачылі і перажылі за апошнія дні. Ён слухаў з глыбокай цьвёрдай увагай, і ў залежнасьці ад зьместу гаворкі то хмурыў свае густа-чорныя бровы, то панура ківаў галавой, то ўсьміхаўся—хваравіта і сумна.

Кончылі хлопцы расказваць і на нейкі час змоўклі ўсе—у сьцеражліва-застыглай цішы выразна адзначыўся дробны трэск агню ды недзе заплакала сава адзінотным горкім дзяцёнкам. Хлопцы з затоенай цікавасьцю сачылі за незнаёмым мужчынам, за кожным яго сур'ёзна разьмераным рухам—нечага напружана чакалі, глыбока заінтрыгаваныя яго таемнай маўклівасьцю.

Незнаёмы сьпёк на агні сваю птушку і моўчкі падзяліў яе на тры часткі. Хлопцы не адмаўляліся—з ахвотай прынялі яго пачастунак, пачалі жадліва есьці—яны добра пасьпелі ўжо выгаладацца.

Павячэраўшы, незнаёмы закурыў піпку і, выгадней прыладзіўшыся каля агня, нярухома пусьціў некуды ў бок пусты нявідушчы погляд. Здавалася—нешта перабіраў ён у сваёй станавітай памяці, нешта шукаў у ёй з спакойнай абыклай стараннасьцю. Ясна стала, што зараз пачне ён нешта расказваць і раскажа толькі цікавае, важнае—глупства якога ён ня будзе казаць, не з такіх.

І вось расказаў незнаёмы мужчына адну страшную трагэдыю, разгарнуў невялічкі кавалак жыцьця, які сабраў у сабе ўсю чорную жудасьць жорсткай няпраўды, усю лютую сілу адвечнай варожасьці.

— Вёска мая была недалёчка тут, вёрст якіх шэсьць ці сем. Ну, што там казаць: за бальшавікамі ўзялі троху вольнасьці—лес там, зямля ды й сялібу панскую троху чапілі. Паня ўцякла, разумеецца, і сын яе, і камісар. А потым кінулі нас бальшавікі, запанавалі гэтыя легіоны. Ну, тут ужо й пайшло, пачалося. Вярнулася паня з усёй сваёй хэўрай і давай спаганяць. Легіоны сабе, яна сабе—пайшло такое разбойства, якога і сьвет ня бачыў. Езьдзяць гэта па вёсках—паніч з афіцэрамі, з легіонамі разьяжджае—што пакажа, тое й бяруць. Хай-бы сваё, а то-ж пачалі забіраць усё, што толькі спазрыцца.

Ды яшчэ б'юць—нашто браў панскае дабро. А той каторы і блізка ня быў. Потым пачалі ганяць на работу—чыста прыгон вярнуўся. І араць, і гной вазіць, і парк, і сялібу ўсю падчышчаць... Ну, дзе-ж там вытрымаеш! Ды, калі што,—розгі, шампалы! Слова скажаш—а, бальшавік!—і ўзялі на рэмус... Было ў нас на вёсцы два матросы—расхадовыя хлопцы!—дык з іх усё занялося. Пачалі народ бунтаваць, аружжа недзе дасталі, набралі хлопцаў з паўсотні ці больш. Прыяжджаюць нешта чалавек з дзесяць палякаў (лес трэба было пані прыбраць, гальлё павывезьці), а ім замест усяго далі такога гасу, што—дзе толькі дзеліся! Старэйшага і двух салдатаў забілі. Ну, тут і пайшло... Пад вечар у той-жа дзень наступала на вёску паўтараста палякаў. На вёсцы падняўся гвалт, лямант. Усе ўцякаюць—хто на кані, забраўшы якую лахманіну, хто пехатой, абы самому ўцячы. Ну, нашы хлопцы стаяць, не палохаюцца. З старэйшых хто-які далучыўся (пайшоў і я ўжо тады), чакаем сабе, рыхтуемся. Ну й што-ж вы думалі—адбілі. Ды мала таго... Прагналі іх, а тады ўдарылі на маёнтак. Паны ўсе—драла, палякі (стаяла там дзесяткі два)—драла. А мы падпалілі маёнтак ды самі назад. Гарыць маёнтак, палае, а тут—крык, гармідар, плачуць бабы, дзеці, усе сьпяшаюцца, уцякаюць—ведаюць усе, што ня будзе дабра. І вось той ноччу пасунуліся на нас з двух бакоў палякі. Поўныя два батальёны пайшлі—затрашчэлі стрэльбамі, кулямётамі. А нас з кожнай хвілінай меншае: каго заб'юць, а то самі ўцякалі ўжо, бачылі, што дзела дрэнь. Асталося нас так чалавек з трыццаць. Дык усё-ткі да сьвету трымаліся. Каб паказаць, што нас многа, перабягалі ўсё з аднаго месца ў другое—балазе цёмна, ня відаць ім—ды й смалілі бесьперастаньня. А залачком не заўважылі, як падышла да самае вёскі іхная разьведка—чалавек сорак. Схапянуліся, смалянулі з-за вуглоў—яны, бачым, замяшаліся троху. Вось тут—быў у нас дзед адзін, стары салдат—выскачыў ён ды як закрычыць—гура! за мной! Кінуліся ў рукапашку, прагналі. Ну тады ўжо бачым, што не паласа—бокам, бокам ды й драпанулі. Палавіна дабегла да лесу, а палавіна лягла пад кулямі.

І дзед наш, ваяка, застаўся там... Ну, а што было далей... эх, нядобра хлопцы, было... Ня мне-б пра гэта казаць, а ня вам слухаць...

Ён змоўк на хвіліну, стаў раскурваць піпку. Балюча заныла едкая цішыня, хацелася, каб скарэй пачаў ён зноў гаварыць, каб ня мучыў цяжкім маўчаньнем. А як стаў гаварыць, пужаў яго голас—ненатуральна цьвёрды, сьціснуты нейкі, страшна было, каб не парваўся ён, каб не прабіліся скрозь яго напружаную сьцісласьць нясьцерпна-пякучыя мужчынскія сьлёзы.

— Перш-на-перш пачалі рабаваць. Клалі на падводы ўсё, што толькі мела якую цану, і вывазілі. Падушкі, адзежу, збожжа, сьвіней, кур—усё-чысьценька. А тады падпалілі. Ня было ветру, дык хадзілі і падпальвалі кожную хату, кожны будынак. Спалілі ўсё дашчэнту, бервяна не асталося. А з людзьмі што рабілі... Былі на вёсцы, аставаліся яшчэ некаторыя—не хацеліісьці ад дабра ад свайго. Дык лавілі, зьдзекваліся, выраблялі, што толькі хацелі. Як рабавалі, дык лавілі мужчын і запрагалі ў калёсы, вазілі на іх іхнае-ж дабро. Вазы накладалі, як на каня, а калі ня браў каторы везьці— білі бізунамі, прыкладамі, калолі шаблямі. А потым, як запалілі, кідалі жывых у вагонь, заганялі бізунамі... Старых, жанчын—усіх, хто толькі трапляў пад рукі... Сына майго... семнаццаць гадоў... уцякаў ён ад іх, ад зьвяроў, убіўся некуды ў пуню, у дровы... дык падпалілі... жывога... і пахаваць не давялося... Жонку забілі, двое сірот пакінулі... недзе ў чужых... хто іх там ведае... А пачалі-ж потым нас шукаць. Усе лясы паабнікалі, усе разлогі... Дзе толькі знойдуць каго маладога—б'юць, страляюць. Людзі нашы з сем'ямі былі ў адным ляску сабраўшыся. Дык і там ня далі спакою. Наехалі, пачалі й тое адбіраць, што з сабой увалаклі. Падушкі з-пад дзяцей хапалі. А дазналіся, чые былі ў паўстанцах,— пачалі сеч. Двух мужчын да сьмерці засеклі. Потым яшчэ што надумалі—на ўсю акругу загад далі, каб ня прымалі нікога з нашае вёскі... Так і бадзяюцца некаторыя—галодныя, голыя... А іншыя падаліся куды-небудзь... У старцы многа пайшло... Хто ўжо ведае, як яно будзе далей...

Кончыўшы расказваць, ён пачаў з нейкай ненатуральнай стараннасьцю разьдзьмухваць агонь—мусіць хацеў схаваць сваё хваляваньне,—потым устаў і пайшоў за дрыўмі.

Хлопцы ляжалі ў напружаным нямотным маўчаньні. Лясьніцкаму здалося, што недзе ў чорнай цішыні лесу пранёсься глухі прыдушаны енк. Можа гэта дзе-небудзь завыла сава? А мо' яшчэ не расталі ў вушшу адгалоскі таго, што давялося пачуць там, у воласьці?

Нешта балюча сьціскала сэрца, нешта гняло тупа-навіслым цяжарам. А ў галаве засела адно назольлівае, нявыводнае:

— Дзе мяжа гэтым зьдзекам? Дзе мяжа гэтай лютай варожасьці, гэтай жорсткай бязьлітаснай барацьбе? Ці ёсьць такія законы людзкасьці, якія-б маглі стрымаць крывавы шал гэтае барацьбы.

І сам сабой выплываў адказ, вырастаў з нутра, як страшны, але нямінучы вынік усяго перажытага:

— Бязьмежная гэта варожасьць, і бязьмежная барацьба! І няма для яе ніякіх законаў і правіл, бо барацьба гэта на жыцьцё і сьмерць. Яна падзяліла ўсё чалавецтва на два сьмяротна-варожыя лягеры—паміж іх ня можа быць міру, ня можа быць ладу. І ніхто ня стане воддаль ад іх, ніхто ня міне барацьбы.

— Хто ня з намі, той супроць нас!

Вярнуўся незнаёмы, падклаў дроў у вагонь і сеў у ранейшай паставе—маўклівы і задуменны. У гэты момант недзе зусім блізка запела, пачуўшы раньне, нейкая птушка. Тады Лясьніцкі ўспомніў пра казку перавозьніка Саўкі, пра дзіўную Іванькаву дудку.

Ці не яна гэта, тая чароўная дудка, узбудзіла народ, узьняла яго, каб пастаяў за праўду, за шчасьце? Ці не за ёй гэта так ашалела ганяецца панская зграя, на сьмерць перапалоханая яе дзіўным магутным іграньнем?

Яны праляжалі моўчкі аж да самага золку. Ніхто і вокам ня зьвёў у гэту кароткую вясновую ноч. А як занялося на зару, незнаёмы запытаў у хлопцаў:

— Вы куды цяпер пойдзеце?

Лясьніцкі адказаў адразу, быццам ён ужо думаў аб гэтым і ўжо даўно гэта вырашыў.

— Я пайду ў горад. Мне трэба бачыць Андрэя.

Чаму—бачыць Андрэя, дык ён і сам ня ведаў: неяк само сказалася. А Халіма памаўчаў троху і потым запытаў ў незнаёмага:

— Ты што тут робіш?

— Я? А вось хаджу ды высьцерагаю. Калі на каго натраплю,—застрэлю.

— Ну й як?

— Забіў паню, афіцэра і двух легіонаў...

— Адзін ходзіш?

Той падазрона зірнуў на Халіму. Відаць, падумаў, што хоча прысябравацца.

— Мне таварышоў ня трэба. Баюся людзей. Прападу, дык сам... Усё роўна...

Тады Халіма рашуча нахмурыўся і заявіў:

— Пайду к дзядзьку, пашукаю матроса. Трэба ваяваць дзе-небудзь.

Незнаёмы вывеў іх на скрыжаваньне дарог і паказаў:

— Вось гэта—на горад, гэта—да дзядзькі твайго, а мне дарога—назад, у цёмны лес.

Лясьніцкі спытаў у Халімы:

— Калі сустрэнемся?

Той троху падумаў і адказаў:

— У першы дзень, як займуць бальшавікі горад, я там буду.

Сказаў зусім упэўнена, быццам загадзя ведаў, калі гэта будзе.

Яны разьвіталіся і пайшлі ўсе трое ў розныя бакі...

# ЧАСТКА ШОСТАЯ

НІНА неўваротка і дробна перавальвалася з нагі на нагу, у шчасьлівай зьнямозе нясла перад сабой свой выразна ўзьняты жывот. Яе такая хада, увесь яе комічна-раструшаны выгляд ды яшчэ гамонка—пасьпешная, перарваная частымі аддышкамі, паузамі,—усё гэта заражала нейкай інстынктыўнай руплівасьцю. І Лясьніцкі, неўзаметку для самога сябе, пачынаў падбаўляць ходу, пачынаў сьпяшацца—аднаўлялася і ахапляла ўсяго тая трывожная турбота, якая гнала ў горад, якая ўвесь час выклікала вострае адчуваньне нечага пільна неабходнага, да чаго трэба імкнуцца ў напружанай пасьпешнасьці, каб не празяваць, каб ня страціць патрэбнай хвіліны. А што гэта было—такое пільнае, неадкладнае—Лясьніцкі і сам ня цяміў.

Ніна спыняла Лясьніцкага толькі тады, як ужо нязмога была ёй справіцца з ім (ён чым далей, тым больш разганяўся, захоплены сваёй незразумелай турботай). Яна лавіла яго за руку і гаварыла ў жартлівай роспачы:

— Лясьніцкі! Я-ж не хачу аставацца... Пачакайце мяне.

Лясьніцкі тады, сьмяючыся, затрымліваў ход і некаторы час ішоў з наўмыснай павольнасьцю, сьмешна так, дзыбата перастаўляючы ногі. Ніна сьмяялася над ім і дражніла буслам, а ён называў яе качкай.

Яны сышлі ўніз па крутых драўляных приступках і адразу апынуліся ў акрайным раёне гораду—пайшла чарада бедных завулкаў, дзе зусім аголена сьвіцілася дробнае жыцьцё маламожных мяшчан—з козамі, з парсюкамі, з брудным дзяцьвішчам, сланэчнікам, з адкрытым—на ўвесь завулак—

сьмехам і сваркай, з вазонамі і мандалінамі, з сьпелымі, заўсёды гатовымі да замужжа, дзяўчатамі. Ад таго, што косы вячэрняга сонца зусім нізка слаліся па завулках і былі наіўна-простыя, хатнія, ад таго, што недзе рыкалі каровы,—гэты раён цяпер здаваўся дужа падобным на вёску.

Ніна спынілася каля варот аднаго мізэрнага доміка.

— Сюды, у фортку.

У Лясьніцкага ні з таго ні з сяго забілася сэрца. Ён стаў хваляваццa—здалося чамусьці, што тут адбудзецца нешта важнае, непаўторнае, што тут чакае яго нейкае вялікае і глыбокае ўзрушэньне.

Нашто яму трэба было бачыць Андрэя?.

Яны ўвайшлі праз чорны ход у кухню, і Ніна, ласкава прывітаўшыся з гаспадыняй, паляпала ў нізенькія цямнявыя дзьверы.

Андрэй быў адзін. Як увайшлі, ён сядзеў, узьлёгшыся рукамі на стол, і трудна было азначыць, ці ён што рабіў перад гэтым, ці проста сядзеў так, думаў аб чым. Сустрэў ён іх энэргічна-спакойнай усьмешкай, скрозь якую сьвіціўся (як і раней, як і заўсёды) мяккі цень таемнасьці. На Лясьніцкага зірнуў ён з такім выглядам, быццам ані-ні ня зьдзівіўся яго прыходу, быццам і чакаў гэтага, лічыў гэта зусім натуральным і зразумелым.

Ніна адразу кінулася на ложак, пачала шумліва, шырока аддыхвацца.

— Ух... замарыў мяне... такі бязьлітасны... бяжыць, як конь... бусел гэты... Вось прывяла табе, Андрэй, валацугу—хацеў пільна бачыць цябе. Як прышоў, так і патурыў—нібы там хто паміраe... Ну вось, калі ласка... Мне, Лясьніцкі, можна тут быць, ці пакінуць вас адзін на адзін? Можна? Дзякую, бо мне трэба адпачыць... замарылася...

Лясьніцкі моўчкі разглядаў Андрэя (Андрэй у нейкай цьвёрдай задуме быў адвярнуўся к вакну) і думаў: ці выкажа ён гэтаму чалавеку тое глыбокае, балючае, што нарасло на сэрцы дзікім каменем, што гатова выліцца ў бурнае агнёвае парываньне? Ці адкрые гэта гутарка жывое выйсьце для па-

рываньня, ці дасьць вольны кірунак зьбітым у неразьвязны клубок думкам і пачуцьцям?

Андрэй глядзіць у вакно ў цьвёрдай задуме—у яго цьвёрды твар, усьмешка зьбегла з вуснаў і зьбегла звычайная мяккасьць—густое цягучае сонца абліло яго крывянай чырваньню, паглыбіла рысы твару, зрабіла іх рэзкімі, акамянелымі. Не. такому Андрэю Лясьніцкі нічога ня скажа, хоць і сорамна будзе, сьмешна, што дарма толькі бег, сьпяшаўся.

Ніна мусіць пачула цяжар залішне доўгай паўзы, засьмяялася проста і весела:

— Ці-ж затым сышліся, каб маўчаць, га? Ай вы бяз слоў размаўляеце, аднымі думкамі?

Андрэй ледзь-ледзь усьміхнуўся і, ня кідаючы глядзець у вакно, загаварыў:

— Сёньня дзіўна сонца заходзіць. Усё неба на захадзе быццам у крыві. Сапраўдная—гарачая, сьвежая кроў. Агонь і кроў, як у жыцьці. Агонь і кроў—гэта сымбаль нашага часу. Помніш, Васіль, наш першы агонь? Там ня было яшчэ крыві, а ты ўжо спужаўся быў. Помніш? Ха-ха... А цяпер, брат, усё загарэлася. І кроў палілася—многа будзе крыві, яшчэ будзе ліцца, можа доўга яшчэ... Што-ж, братка, трэба змагацца, здабываць жыцьцё—хто-ж захоча бяз бою загінуць! Ну, апавядай, Васіль, дзе бадзяўся, што рабіў, што мусіш рабіць—рэж усё-чысьценька.

Ён адкрыта зірнуў на Лясьніцкага шырокім сяброўскім поглядам, і гэты погляд раптоўна абудзіў у Лясьніцкага цёплую даверлівасьць, жаданьне сапраўды ўсё расказаць, што прысьпела яму ў жыцьці, што абурыла цэлай навалай новых, дасюль нязьведаных пачуцьцёў і перажываньняў. Толькі-ж ці варта казаць аб усім? Ці захоча, ці будзе ён слухаць? І ці будзе толк які з гэтага?

Андрэй заўважыў яго нерашучасьць і наўмысна, каб паказаць, што ён стала і надоўга прыладзіўся слухаць, перасунуў крэсла, выгадней сеў і спакойна заўважыў:

— Ну, значыцца, пагамонім—балазе цэлы вечар вольны... Нінка! Скоч ты да гаспадыні—хай самавар наставіць...

Ніна цяжка паднялася, споўзала на кухню і вярнулася на сваё месца. Тады Лясьніцкі пачаў апавяданьне.

Спачатку ён гаварыў у лёгкім жартлівым тоне—усе прыгоды свае выдаваў, як нясур'ёзныя, поўныя комізму, здарэньні. Але чым дальш, тым больш працінаўся нейкай глыбокай змрочнай сур'ёзнасьцю, рэчы і зьявы прымалі ў яго больш трагічнае, чымся комічнае выражэньне—ён памалу ўключаўся ў захаваны, заціснуты комплекс сваіх пачуцьцёў, які прывёў яго сюды, да Андрэя. Калі-ж дайшоў ён да тых крывавых чорных зьвярынстваў, да тых нечалавечых зьдзекаў і катаваньняў, калі ўваскросьлі ў вушах жудасна-дзікія стогны і енкі, калі ў ваччу выразна, як жывы, паўстаў чысты вобраз таго наіўнага белага хлопчыка,—голас яго пачаў выяўна дрыжэць, вочы зайскрыліся балючым агнём—яго захлынуў прыліў той агнёвай нянавісьці, якая расла й гадавалася ў ім з першага дня прыходу ў гэты забраны горад. І ён не хаваў гэтай нянавісьці, не сароміўся жорсткай зголенасьці сваіх пачуцьцёў. Бо і ў іх—і ў Андрэя і ў Ніны—ён бачыў у вачох выразныя аганькі гэтае нянавісьці, бо ён адчуваў, што ў гэту пару агнёвае завірухі нянавісьць рушыць жыцьцё—яна самы магутны, самы ўздымны штандар барацьбы. А хто-ж будзе хаваць баявы штандар! Высока ўзьняць, паказаць яго ўсім, узьняць яго ў самае неба, каб загарэўся ён сьвежай гарачай кроўю, каб на ім агнёва бліснула кроў тых пакутнікаў, таго белага наіўнага хлопчыка!.. Хто будзе хаваць сваю магутную сьвятую нянавісьць?

Андрэй і Ніна слухалі ў напружаным маўчаньні. Яны не перапынялі яго запытаньнямі, не ўстаўлялі ніводнага слова. Быццам слухалі ня толькі словы, ня толькі рухі яго ўсхваляванага голасу, а й яшчэ нешта глыбачэйшае, нутраное—можа ліхаманкавы бой яго сэрца, гарачыя пераліва яго ўзбушлаванай крыві. Ад таго, што яны абодва глуха маўчалі, Лясьніцкаму страшна было канчаць. Ён баяўся, што ўстане тады тупое маўчаньне і ў ім так цяжка, няёмка павіснуць словы, і пачуцьцё абсячэцца балюча і тупа. Але

страх яго быў дарэмны. Андрэй загаварыў адразу, як толькі ён кончыў. Пэўна і ён таксама адчуў, што маўчаньне цяпер будзе цяжкое. Гаварыў ён спакойна і цьвёрда, рэзка адсякаючы слова за словам.

— Добра, Васіль, што ты ўсё гэта пабачыў—ты пабачыў жыцьцё ў яго самым жывым, крывавым разрэзе—ты ўбачыў жыцьцёва нутро, во што. Барацьба агаляе, страшэнна агаляе жыцьцё, узварочвае яго, як капу заляжалага сена. Тады й духу-паху не астаецца ад усякіх „высокіх“ катэгорый ды норм, ад усякіх „агульначалавечых“ ідэалаў, законаў і іншага глупства. Гэта ўсё—гладка прымасьленая зачоска, пад якой хаваецца гнойная брудзь спрадвечнай няпраўды. Бачыш, Васіль, што робіцца? А што казалі гэтыя самыя „гэроі“ троху раней, калі бальшавікі яшчэ толькі браліся ў сілу, га? А што ты казаў—помніш? Ха-ха! Анархія... пагібель рэволюцыі... дрэнныя інстынкты... Вядома—інстынкты... О-го! Калі справа падыйдзе да таго, што—ці жыць ці памерці, дык сама-што інстынкты і ў модзе... Кляса на клясу. Хто каго... Яны разумеюць, што калі паддадуцца цяпер, значыць, страцяць усё... капут... Таму і асьцерваліся так, лезуць, шчарэпяцца... Ня смачна астацца з аднымі рукамі, пазбыцца сваіх прывілеяў, свайго панаваньня... Хе-хе... Інстынкты, брат, дрэнныя інстынкты... Але-ж на тое вайна...

Лясьніцкі гэтыя словы прымаў, як справядлівы дакор за свае памылкі, за сваё ранейшае недаразуменьне. Але ня было ад іх ні крыўдна, ні сорамна. Нават хацелася, каб больш Андрэй так гаварыў, больш гудзіў, перабіраў да каліва яго памылковыя думкі і словы, да канца выяўляў іх шкадлівасьць. З гэткім настроем слухае матчыны выгаворы дзіця, ратаваўшыся ад якой-небудзь небясьпекі. Чым больш матка гудзіць яго, чым больш з яе слоў выяўляюцца тыя страхоцьці, якія шчасьліва мінулі яго, тым больш ахапляе яго радасная давольнасьць.

Ужо ў пакоі густа сабраўся змрок, ужо на кухні даўно адшумеў самавар. На яго ўспомніў нарэшце Андрэй—тады перапынілі гаворку, пачалі запальваць лямпу, наладжваць

чай. Потым Андрэй гаварыў аб рабоце сваёй арганізацыі, аб агульным стане рэволюцыі, аб посьпехах і незадачах у барацьбе. Ён многа гаварыў і таго, аб чым ня раз ужо чуў Лясьніцкі, але цяпер Лясьніцкі ўспрымаў усё неяк іначай, пановаму. Усё праходзіла скрозь прызму ім самым перажытага, усё станавілася зусім блізка да яго, у сфэру яго асабовага жыцьця, яго інтарэсаў. Для яго асаблівай значнасьцю насыціліся цяпер словы „мы“, „яны“, „нашы“, „іхныя“. Ён паўтараў іх часьцей, чым трэба было, ён адчуваў у іх нешта важнае, моцнае і надзвычайна для яго патрэбнае.

Увесь той вечар Лясьніцкі быў у радасным захапленьні. Яму страшэнна хацелася быць шчырым—ён гатоў быў сёньня раскрыць усю істоту сваю, усё жыцьцё сваё паказаць, каб бачылі ўсё, як ён дайшоў да свае радасьці.

Так проста ўсё, зразумела. Нашто тыя бясплодныя мудраваньні? Дзьве людзкіх грамады зачалі і вядуць сьмяротную бойку. Вонках ня станеш ад іх—завіруха ўцягне ўсё роўна. Значыць—адно з двух: абоісьці з сваімі, дамагацца разам волі і шчасьця—сабе, бацьку, маці, сялянам, работнікам,—або здрадзіць сваім, перакінуцца ў чужы варожы лягер. Толькі ня плысьці так недалужна па хвалях, як адарваная з роднага дрэва галіна, ня блытацца ў бурлівай імгле завірухі. Змагацца, аддаць усе сілы, удацца цалком у гэты рашучы сьмяротны бой!

— А потым, Андрэй, як пераможам, тады-ж зусім пановаму будзем жыцьцё завадзіць. Зусім-жа будуць другія парадкі... Мусіць, дужа будзе прыгожа тады і добра.

Ніна сьмяялася—шчыра так, пасяброўску.

— Андрэй! Гэты-ж Лясьніцкі дык чысты дзівак. Яму ўсё трэба памацаць—іначай ён веры ня йме. Як той Хомка няверны. І яму ўсе здаецца, што ён Амэрыкі адкрывае... Сьмяхоцьце!..

Андрэй чамусьці загаварыў аб філёзофіі.

— Вось яшчэ з гэтай філёзофіяй. Шукаюць іншыя нейкага найвышэйшага сэнсу, нейкіх глыбокіх тлумачэньняў, існін—тужацца, пнуцца, або ходзяць ды зоркі лічаць, ды

блытаюцца пад нагамі. Не пара на гэта цяпер, во што... Гэта падобна на тое, каб у той час, як цябе коляць штыхом ці яшчэ чым-небудзь, ды пачаць разважаць: адкуль узяўся штых, дзе яго першапачатак, ці вечная гэта катэгорыя ці пераходная... Гэта потым. Знойдзем усё—і першапачаткі і ісьціны і ўсякае ліха,—дай нам акрыяць, дай жыцьцё адваяваць... А цяпер—або станоўся ў шэраг, бяры аружжа, або—прэч з дарогі, не замінай!..

Лясьніцкі ўспомніў Халіму. Усплылі ў думках Халімавы разважаньні—буяныя, нясуладныя, як і ўся натура яго. Але ў іх мігнула нешта дужа падобнае да Андрэевых слоў—нават у тоне, якім гаварыў той і другі, было нешта супольнае. Лясьніцкі памінаў ужо пра Халіму ў сваім апавяданьні (Ніна зацята хмурыла бровы—ненавідзець хацела), цяпер ён рашыў расказаць пра яго разважаньні, пра яго бязладна-сьмелыя думкі.

Ніна зноў злосна насупіла бровы—замоўкла. А Андрэй толькі ўсьміхнуўся—зусім спакойна, ласкава.

— Што-ж... Халіма ішоў з намі і яшчэ можа будзе ісьці. Але на яго пакладацца ня можна—ня наш ён. Халіма ўспрыняў адзін бок рэволюцыі—руйнаваньне, і паставіў яго як самамэту. Гэта—натура такая, організм. А яго гэты бунт, абнаўленьне — глупства гэта, няўдалая спроба апраўдаць сваё буянства. Як стане ён непатрэбны—яго зьмятуць з дарогі—перайначыцца ён наўдачу, каб здолеў.

Лясьніцкі яскрава ўявіў Халіму—грубога, вялізнага, поўнага непасрэднай сілы, жыцьця. Вобраз яго чамусьці ўплёўся ў бяздонную лесавую гушчэчу, у дзікія непраходныя зарасьлі, у зеляніну. Успомніліся яго неўвароткія жарты, яго глыбока схаваная сяброўская шчырасьць—здаўся ён дужа сымпатычным і любым. Андрэевы словы прагучэлі ліхім прыгаворам—ад іх вобраз Халімы ахінуўся ореолам трагізму—стала страшэнна шкода яго. Лясьніцкі пастараўся зьмяніць тэму гутаркі.

Яны гаварылі яшчэ аб падпольнай бальшавіцкай рабоце—Андрэй апавядаў пра розныя цікавыя выпадкі, якія сам перажыў, або пра якія расказалі яму блізкія таварышы.

Перад вачыма Лясьніцкага разгортваліся прыгожыя малюнкі гэройства, адважнасьці, страшных небясьпечных прыгод. Яны вабілі сваёй вострай неабычайнасьцю, сваёй прыгожай романтыкай. Яны ўзьнімалі ў нутры непакойнае хваляваньне, палкі імпэт да барацьбы, да гэройства—яны палілі ў сэрцы агонь новага гарачага захапленьня.

Лясьніцкаму здалося, што ў той вечар ён стаў другім чалавекам. Прад ім адкрыўся просты, яскрава асьветлены шлях, і ён гатоў быў сьмела і рашуча пайсьці па ім—яго ані-ні не палохала тое, што шлях гэты йдзе праз агонь і кроў, што там на кожным кроку падсьцерагае чорная небясьпека.

Ён быў рад, што знайшоў сабе месца ў жыцьці, знайшоў той пункт, вакол якога можна снаваць пачуцьці, думкі, імкненьні, на якім можна пабудаваць стройны будынак свайго сьветаадчуваньня.

ГЭТАЯ сустрэча з Андрэем, гэтая глыбока-шчырая гутарка вызначылі далейшую плынь жыцьця Лясьніцкага. Ён астаўся ў горадзе і цалком удаўся ў рэволюцыйную работу. Яму знайшлі нейкую дробную і страшэнна недарэчную службу, сутнасьці якой ён, як ні пяўся, ня мог уявіць (нешта ні то гандлёвае, ні то прасьветнае). Але пэнсію атрымліваў, і гэта давала некаторую магчымасьць жыць і працаваць. Кватэру знайшоў ён сабе ў тым раёне, дзе жыла Ніна.

Панаваньне дзікіх легіонаў пана Доўбар-Мусьніцкага цягнулася ня доўга. З захаду цяжкой жалезнай хадою сунулася нямецкая армія. Адна банда чорных драпежнікаў павінна была саступіць з дарогі перад другой, бо гэтая другая была большая і мацнейшая. Некалькі дзён была ў горадзе нэрвовая сумятня—недалужна кідаліся туды ды сюды асалапелыя ваякі харобрага корпуса, у хаплівай пасьпешнасьці ірвалі апошнія кветкі свайго панаваньня. Потым зьнецікі выліп на сьценах паважны загад нямецкага комэнданта,

прайшлі цьмяным змораным строем салдаты ў касках, прагрукацела артылерыя, жвава пранесьліся славутыя вільгэльмаўскія „гусары сьмерці“—горад пачуў бліскуча-выглянсаваную, але ад гэтага ані-ні не лягчэйшую пяту нямецкага імпэрыялізму. Некаторы час яшчэ мільгалі па вуліцах недалужныя фігуры абязброеных легіонэраў, потым яны зьнiклi—іх выправілі некуды акуратныя, звыклыя да абсолютнае чыстаты, немцы.

Пачаўся новы пэрыод, новае панаваньне, новы лад і парадак. Немцы несьлі з сабой дух цьвёрдай бязьлітаснай ваеншчыны. У іх было ўсё „чыста, культурна і станавіта“. Немцы не рабілі нічога на-сьпех, ня кідаліся, не карожыліся, як іхныя папярэднікі,—яны стала прыладжваліся да доўгага, заложнага панаваньня. Яны ўсё рабілі культурна і станавіта. Яны многа бралі з сялян: накладалі контрыбуцыі, адбіралі проценты ад ураджаю, проста насыпалі з засекаў. Але й тут яны выяўлялі сваю культурнасьць. Калі вёска ня выконвала контрыбуцыі, яны не палілі яе, не стралялі людзей, ня секлі шампаламі, а проста прыяжджалі і бралі заложнікаў. Калі якая-небудзь някультурная сялянка не хацела аддаваць аднаго з сваіх двух пудоў жыта (апошняга немцы ня бралі), калі яна перашкаджала сваім крыкам і гвалтам, дык яе ня білі прыкладам у грудзі і не давалі ёй высьпятка (як іхныя папярэднікі), а проста адзін салдат браў яе аберуч і трымаў, пакуль другі насыпе яе збожжа. А проценты з ураджаю немцы, нават ня турбуючы гаспадароў, вылічалі самі—такія былі далікатныя,—а турбавалі троху тады ўжо, як прыяжджалі на сваіх вялізарных параконных гарбах забіраць сялянскае дабро.

Немцы ўсё рабілі культурна і станавіта.

У горадзе шмат хто быў здаволен панаваньнем немцаў. Былі здаволены нават тыя, хто выносіў штодня на рынак чарговую лахманіну, каб здабыць сваю абыдзенную марку. Былі здаволены й тыя, хто стаяў на рагу з пакам газэт і з прагным жаданьнем як-небудзь зьбіць з драбязы тую самую пільна патрэбную марку. Былі здаволены, бо ёсьць парадак, бо немцы ўсе далікатныя і бальшавікоў ня любяць, і ня

пусьцяць сюды гэтых бунтаўшчыкоў. Можна спакойна спаць і сьніць аб лепшым часе, аб белым хлебе і сьвежым масьле, аб грамафоне і мяккай канапе.

Праз тыдні два пасьля прыходу немцаў у горадзе ні з таго ні з сяго аказаўся Нікадзім Славін. Ён прышоў да Ніны ў той час, як там быў Лясьніцкі, прышоў сьветла-радасны, давольны, прынёс поўныя акуляры ласкі і ветласьці. Яго не пазналі адразу—ён урос ужо ў гладзенькую бялявую барадзёнку—стаў падобны на нейкага заняпалага сьвятога. Потым Лясьніцкі з Нінай у два галасы ўзьнялі гармідар—пачалі, як мага, вітаць яго. Ён сумятліва сароміўся.

— Я быў настаўнікам—там, у чырвоных... Заняткі кончыліся, стала дужа маркотна, і я надумаў прыехаць сюды. Цяпер страшэнна цяжка ехаць — трэба розныя прапускі, дазволы. Але я абавязкова рашыў... (Бедны Славін! У гэты момант ён заўважыў, што Ніна цяжарная). Я рашыў... трэба было... прыехаў пабачыцца... Як тут у вас?.. Дзе Андрэй?..

Славін ня ўмеў хаваць сваіх пачуцьцёў. На твары ў яго выразна адбілася глыбокая балючая роспач. Апошнія словы ён сказаў зусім мэханічна, нават ненатуральна зацягнуў іх— відаць, што аб другім ужо думаў у гэту хвіліну. І ад таго, што ён так адкрыта паказваў свае пачуцьці, ад таго, што ня здолеў схаваць свайго раптоўнага болю,—стала ўсім дужа прыкра і ўсе змоўклі, ня ведалі, аб чым цяпер гаварыць. А больш за ўсіх муліўся небарака Славін. Ён ужо сам заўважыў сваю няспрытнасьць і з усіх сіл пяўся, каб вярнуць свой ранейшы выгляд, каб запхнуць у нутро гэты няўмысны настрой. Але ніяк яму не ўдавалася. І вось загаварыла Ніна— жорстка, раздражнёна, наўмысьля падкрэсьліваючы рэзкасьць сваіх слоў:

— Вас зьдзівіла, што я цяжарная, так? Растлумачыць вам трэба? Ну так і ёсьць, як вы адразу падумалі. Я была жонкай Халімы і ад яго маю дзяцёнка. А цяпер ён кінуў мяне... разумееце? І я вось ня ведаю, што мне рабіць, дзе шукаць яго... Саламяная ўдава... ха-ха!.. Ну, зразумелі?

Славін вінавата плюскаў вачмі і, стараючыся нешта сказаць, нязграбна комчыў у барадзе нязслухмяныя словы. Нарэшце пачуўся:

— Я нічога ня ведаў... выбачце мяне... нічога... Я проста так...

Ніна ня вытрымала—засьмяялася.

— Ну што мне з вамі рабіць—сама ня ведаю. Аднаму растлумач ды другому ды трэцяму. Што я, нарэшце, ня маю права спакойна радзіць, ці што?

Лясьніцкі, каб да канца разьвеяць непаразуменьне, расказаў у сьмяхотным тоне аб тым, як і яму некалі Ніна тлумачыла, як і ён быў асалапеў ад неспадзяванасьці. Потым перайшлі на іншыя тэмы і гутарка пайшла звычайным парадкам. Але Славін ужо ня мог пазбыцца свайго цяжкога настрою. Ён як сіла стараўся, каб быць вясёлым, бязрупатным, каб зусім натуральна і шчыра сьмяяцца, гаварыць аб усім з лёгкай жартлівасьцю. Выходзіла-ж зусім іначай: сьмех быў нейкі раптоўны і штучны, усьмешка крывая, хворая, а жарты больш недарэчныя, чымся сьмешныя. Яму была нясьцерпная мука сядзець тут—гэта адразу кідалася ў вочы. Лясьніцкі рашыў пайсьці, кінуць іх адзін-на-адзін—думаў, што так яму будзе лягчэй. Аднак Славін з нейкай палахлівай пасьпешнасьцю ўстаў і пайшоў сьледам за ім.

Некаторы час яны ішлі моўчкі. Лясьніцкі наўмысьля не гаварыў ні слова, чакаў, каб пачаў сам Славін. Ён знаў, што Славін будзе гаварыць, будзе гаварыць многа і шчыра—яму цяпер трэба выліць каму-небудзь сваё пачуцьцё. І сапраўды, прайшоўшы з гоні, Славін загаварыў нейкім расьцяжлівым, поўным тупога неўразуменьня голасам:

— Як гэта сталася... я ня ведаю... дзіўна чамусьці... Нашто гэта вышла так?..

І зараз-жа пераменіў тон, загаварыў з нейкай настойнай жальбой, з роспаччу:

— Я, Васіль, так многа за гэты час перажыў, каб ты толькі ведаў. Мяне некалькі раз гатовы былі расстраляць...

білі многа... А ўсё—выпадак. І тут таксама ён спрычыніўся... Выпадак—аснова ўсяго...

— Які выпадак?

— Наогул выпадак. У жыцьці ўсё падпарадкавана выпадку—нічога няма сталага, незалежнага...

— Гэта што: твая новая тэорыя?

Славін зрабіў сур'ёзную хмурую міну.

— Гэта—закон жыцьця. Гэта можна давесьці з матэматычнай дакладнасьцю. І жыцьцё само мне гэта адкрыла. Я раскажу, калі хочаш...

Лясьніцкі зацікавіўся.

— Гавары, будзем слухаць.

— Я тры разы быў пад расстрэлам. Мая школа вёрст сем ад Дняпра. Я хадзіў нешта на гэты бок (тут палякі стаялі) і, варочаючыся назад, папаў у чырвонагвардзейскі атрад. У іх парадак такі—усіх затрымліваць. Мяне абшукалі, дапытвалі і нарэшце камандзір загадаў расстраляць. Але ўступіўся яго памоцнік—пачаў са мной гаварыць, распытваць, знайшлі мы агульных знаёмых—ён давёў таму камандзіру, што я зусім ня шпіён, а звычайны настаўнік. Мяне выпусьцілі. Наказалі, каб больш не пападаўся, бо гутарка будзе кароткая. Праз тыдзень я зноў быў на гэтым баку (была нейкая пільная патрэба) і варочаўся ўжо зусім іншай дарогай, баяўся, каб ня трапіць зноў у той самы атрад. Аказалася, што атрад той зьмяніў сваё становішча і я акурат у яго залучыў. Мяне зноў прывялі да таго сярдзітага камандзіра. Гэты раз ён не распытваў—адразу аддаў загад расстраляць. Мяне павялі два чырвонагвардзейцы. Мне было страшэнна дзіўна і няпрыемна слухаць, як яны, ідучы, умаўляліся, што каторы возьме з маёй вопраткі. Са мной яны не загаварвалі, не зьвярталі на мяне ніякай увагі—мусіць забыліся, што я яшчэ жывы і магу гаварыць. Мы ўжо дайшлі былі да самага месца расстрэлу, калі раптам дагнаў нас чырвонагвардзеец і сказаў, што камандзір адмяніў загад. Мяне павялі назад. Чырвонагвардзейцы былі страшэнна нездаволены, што я забраў іхную вопратку. Камандзір яшчэ палаяў мяне

і адпусьціў. Я ня ведаю нават, чаму быў адменен загад. Потым прайшоў яшчэ тыдзень, і ў нашу вёску прышлі на адпачынак чырвонагвардзейцы. У маёй школе паставілі штаб. Я адразу ўбачыў, што гэта той самы атрад, дзе мяне хацелі страляць... І вось тут здарылася самае страшное. Нешта ў нядзелю, калі на вёсцы бязрупатна гулялі з дзяўчатамі чырвонагвардзейцы, у школе зрабіўся магутны выбух. Разьнясло ўвесь штаб, забіла аднаго пісара. Мяне зараз-жа ўлавілі і прывялі на месца здарэньня. Доля была мая вызначана, бо нехта сказаў, што гэта я наставіў выбуховую машыну. Тут мяне білі—хацелі, мусіць, каб я сам прызнаўся. Я амаль што ня помніў нічога, што там рабілася—чакаў толькі, каб скарэй застрэлілі. А потым прызнаўся капцёр, што ён узьнёс быў і схаваў на гары, каб ніхто не крануў, адну бомбу. Праверылі тады па трэсках, аказалася, што выбух быў з гары. Мяне кінулі біць і адпусьцілі. Такім парадкам я трэці раз вызваліўся ад расстрэлу. Во як было...

Славін зрабіў паузу і Лясьніцкі, каб не маўчаць, зазначыў з спакойнай разважлівасьцю:

— Наш час дужа трывожны і небясьпечны. Многа дзіўнага ёсьць, ёсьць і несправядлівае. Такі закон барацьбы.

Славін пагардліва ўсьміхнуўся.

— Закон? Які там закон... Вось слухай яшчэ, я даведу табе, ты зразумееш, бо гэта матэматычна правільна. Я доўга думаў аб гэтых маіх прыгодах. Яны страшэнна дзівілі мяне сваім фатальным супаданьнем. А я ня мог пагадзіцца з тым, што тут ёсьць нешта надзвычайнае і напружна шукаў тлумачэньняў. І вось тады я напаў на шлях, які прывёў мяне да пазнаньня гэтае бясспрэчнае ісьціны. Ты слухай уважна—я зараз увяду цябе ў сутнасьць маіх разважаньняў. Я думаў так... Першы раз я папаўся—тут ня было нічога дзіўнага. Цяпер другі раз... Я мог папасьціся і мог не папасьціся. Дапусьцім, што было сто розных магчымасьцяй і з іх зьдзейсьнілася толькі адна, скажам, сотая—гэта значыць, што я папаўся. Ці ёсьць тут што дзіўнае, нязвычайнае? Хай-бы, прыкладам, зьдзейсьнілася дзевяцьдзесят дзевятая магчымасьць—было-б

тут што больш натуральнае, законнае?—Не. Мы маглі-б з гэткім самым задзіўленьнем сказаць:—чаму-ж гэта якраз на дзевяцьдзесят дзевятую трапіла, а не на сотую? Так? Хай-бы зьдзейсьнілася семдзесят сёмая... Чаму якраз гэтая? Зноў ніяк ня меншае дзіва... Разумееш? Таксама і трыццатая, і сёмая, і дваццаць першая і г. д. Выходзіць, што кожная з гэтых ста магчымасьцяй аднакава магла нас зьдзівіць сваім „нязвычайным супаданьнем". Значыць, каб я, скажам, не папаўся другі раз у атрад, гэта было-б у такой самай меры дзіўна, як і тое, што я папаўся. Разумееш?.. Калі я дайшоў да трэцяга разу, мне ўжо ня было нічога дзіўнага. Я зноў уявіў гэтыя сто магчымасьцяй, нібы сто абсолютна роўных клавіш—незалежных ад мяне, нават ня злучаных са мной. Каторую ні пацісьні—будзе аднакава дзіўны эфэкт. Мяне дзівіць якраз гэты вынік, а ня іншы таму, што ён няпрыемны для мяне. А можа семдзесят пяты вынік, семдзесят пятая сытуацыя датыкнулася-б да каго другога і той-бы асалапела вытрашчыў вочы: што за дзіўнае „супаданьне"? А мне ў гэты час ня было-б зусім нічога дзіўнага... Разумееш?

— Прыблізна. Але-ж тут не адзін раз, а тры разы быў націснуты якраз той клавіш, які даваў эфэкт на тваю галаву—як ты гэта тлумачыш?

Славін шырока зазьзяў пераможнай усьмешкай.

— Дапусьцім што з ста магчымасьцяй была адна магчымасьць вось такога з пагляду дзіўнага супаданьня. Яна зьдзейсьнілася. Такое-ж самае дзіва было-б, каб ня супалі гэтыя тры выпадкі—гэта-б зьдзейсьнілася нейкая другая—роўнапраўная і роўнадзіўная магчымасьць, быў-бы націснуты іншы клавіш. Так?

— Чакай, Нікадзім. Дык-жа патвойму выходзіць, што зусім ня бывае выпадкаў?

Славін ужо глядзеў на Лясьніцкага з пагадлівай усьмешкай, як на добрага вучня, які няўмысьля заблытаўся.

— З гэтага-ж якраз і відаць, што выпадак—аснова ўсяго. Усё, што ня дзеецца ў сьвеце, усё—выпадак. Толькі іншы раз дзівіць ён нас, а іншы раз мы яго зусім ня бачым.

Вось мы ідзём цераз вуліцу і на нас можа наехаць аўтомобіль. Гэта ўсе-б назвалі выпадкам. А калі глыбей паглядзець, дык тое, што ён не наехаў на нас—такі самы, і ня менш дзіўны, выпадак. Каб на нас скінуўся зараз мэтэорыт — гэта быў-бы дзіўны выпадак. Але ня менш дзіўны выпадак, што ён на нас ня скінуўся. Гэта, брат, дакладная, непарушная ісьціна. Гэта—матэматыка... Няпрыемна гэта, крыўдна неяк... Чалавек траціць сваю вялікасьць—недалужны чалавек, зусім мізэрны... Мне дык часамі страшна бывае, калі ўдумаешся ў гэта. Усё—выпадак. Жыцьцё—гэта перасячэньне, скрыжаваньне выпадкаў, сьвет увесь—таксама выпадак. Каб ня было сьвету, каб нічога ня было—таксама быў-бы такі выпадак... дзіўны ці ня дзіўны—усё роўна...

Славін сьціх у глыбокай смутнай задуме. Па тону яго апошніх слоў адчувалася, што тая часовая ўзьнятасьць, якую радзілі ў ім разважаньні, раптам апала, пусьціла месца ранейшаму пачуцьцю неўразуменьня і роспачы. Магчыма, што ён ня думаў ужо аб сваіх выпадках, аб клавішах—можа зноў балюча гняло мазгі тое нечаканае, прыкрае, што ён убачыў у Ніны. Лясьніцкі рашыў не спрачацца з ім, пакінуць у спакоі яго наіўна-блытаныя мудраваньні. Толькі зазначыў дабрадушна-пагадлівым тонам:

— Твая тэорыя, Нікадзім, гэта — капітуляцыя перад жыцьцём. Дало яно табе некалькі жорсткіх нечаканасьцяй, калатнула туды ды сюды—вось ты й зьняверыўся, і заскакалі ў ваччу ў цябе выпадкі ды клавішы. Пасьля калінебудзь сам спакайней да ўсяго прыглядзішся і ўбачыш, што ўсё мае свае прычыны, што паміж усім ёсьць цьвёрдая, хоць і не заўсёды прыметная, сувязь...

Славін не адказаў нічога. Ён панура дзыбаў, утупіўшы ў дол свае старыя ціхія вочы, на твары ў яго нямотна застыгла глухая журба. Лясьніцкі заўважыў, што яны няўпрыметку зайшлі ў нейкі незнаёмы раён гораду—ён спыніўся, зьвярнуўся да Славіна:

— Ну, куды цяпер пойдзем?

Той схапянуўся, узьняў на яго няўцямны, устрывожаны погляд.

— Куды? Пойдзем разам... Ага... назад... Хадзем кудынебудзь...

І, як толькі зьвярнуліся назад, загаварыў слабым глухапрыціснутым голасам:

— Я хачу пагаварыць з табой, Васіль... Мяне, разумееш, дужа ўразіла гэта... ну, што Ніна замужам... Я неяк ня цямлю. Калі гэта стала, ня ведаеш? А Халіма дзе?.. Што-ж гэта...

Лясьніцкі наўмысьля узяў праканала-цьвёрды, спакойны тон.

— Гэта Ніна жартам казала, быццам яна шукае Халіму, ня ведае што рабіць. Дзяцёнак гэта, праўда, ад Халімы— яны некалі жылі, як муж і жонка. А цяпер, брат, зусім другое. Яна ненавідзе Халіму, здорава ненавідзе, бо ён, бачыш, зрадзіў і перайшоў быў к тэкінцам. І ніякая яна ні ўдава, а проста дзяўчына... толькі што гэта... дзяцёнак... Разумееш?

Славіна гэтыя паведамленьні нібы супакоілі троху. Ён запытаў, дзе цяпер Халіма, і Лясьніцкі каротка расказаў аб сваім вандраваньні з ім, аб тым, дзе і як яны разлучыліся. Тады Славін упаў у ціхі лірычны настрой, ласкава і цёпла засьвяціў сваймі акулярамі.

— Я Ніну люблю ўжо зусім сур'ёзна... Глыбока так, шчыра люблю. Я за зіму канчаткова пераканаўся ў гэтым. Каб не яна, мне-б зусім дрэнна было жыць. А то я заўсёды помніў яе, лятуцеў аб ёй, і было лягчэй. Безнадзейна гэта... яна зусім ня любіць мяне... Праўда, Васіль?..

Заманулася Лясьніцкаму расказаць, як калісьці Ніна пра Славіна гаварыла, што хоча яго пакахаць, што ўжо дасягнула чаго-якога. Але ўстрымаўся, не захацеў даваць чалавеку дачасную і няпэўную надзею. Абышоўся нявыразнай агульнай заўвагай:

— Хто яе ведае. Ці-ж гэта ўлезеш у нутро чалавеку...

— Яна такая добрая, слаўная... Я ўсё-роўна буду любіць яе, хоць яна мяне і не палюбіць.

І Славін глыбока, гучна ўздыхнуў.

ЛЯСЬНІЦКІ некалі ў школе вучыў нямецкую мову. Троху папрактыкаваўшыся, ён налаўчыўся сяк-так размаўляць, і тады на яго ўсклалі амаль што цалком жывыя зносіны з нямецкімі салдатамі, сярод якіх арганізацыя вяла рэвалюцыйную прапаганду. Ён неўзабаве сярод .салдат знайшоў сабе некалькі шчырых прыхільнікаў—перадаваў праз іх літаратуру, проклямацыі, даведваўся аб настроях салдацкае масы і г. д. У аднэй нямецкай часьці пры яго актыўным удзеле нават была заложана цэлая арганізацыя.

Работа гэта захапляла Лясьніцкага. Ён аддаваўся ёй з усім сваім маладым кіпучым запалам, наўмысьля шукаў сабе больш абавязкаў, выбіраў самыя небясьпечныя пляны і комбінацыі, даходзячы часам да зусім непатрэбнае рызыкі і дуронства. Траплялася, што яны з якім-небудзь другім падобным рызыкантам падыходзілі да нямецкае казармы, кідалі пад ногі вартаўніку цэлы пак проклямацый і, пакуль той няўцямна глядзеў на жвавае пырханьне белых лісточкаў, змываліся ў бліжэйшы завулак. А то ў сумятні панэльнага руху заторквалі проклямацыю за адварот рукава важнаму нямецкаму афіцэру і потым зводдаль сачылі, ці доўга ён будзе несьці яе, і якую састроіць міну, калі заўважыць.

У тую пару гушча нямецкіх салдат чула ўспрымала бальшавіцкую пропаганду. Жорсткая дысцыпліна не магла канчаткова закаваць сьвядомасьць нямецкага селяніна ці рабочага, адарванага ад роднага кута і прыгнанага невядома зачым і нашто ў чужую далёкую старану. Змора ад чатырох гадоў напружанай вайны, расчараваньне ў неперможнай моцы нямецкага мілітарызму, асабліва пасьля незадач на францускім фронце, і, нарэшце, прынадны подых новай, нябачанай вольнасьці, які нёсься з блізкага Задняпроўя,—усё гэта стварала

спрыяючыя ўмовы для бальшавізацыі нямецкага салдата. Вынікам гэтага быў паступовы развал дысцыпліны і частковы пераход нямецкіх салдат за Дняпро, да чырвонае гвардыі. Гэтыя перабежчыкі потым уліліся ў чырвоныя інтэрнацыянальныя батальёны і прынялі ўдзел у барацьбе за саветы.

Лясьніцкаму некалькі раз давялося перабрацца цераз Дняпро ў тое прадмесьце, дзе калісьці ён быў папаўся к тэкінцам. Там быў цяпер асяродак чырвонае ўлады — там у напружанай сьпешнасьці разгортвалася новае жыцьцё, дзіўна насычана нейкім неабычайным рупліва-бадзёрым зьместам. Лясьніцкага кожны раз ахапляў там востры неспакойны настрой. Зьяўлялася нэрвовая патрэбнасьць нешта рабіць, сьпяшацца некуды, другіх сьпяшыць, падганяць. Гэты настрой прыносіў ён з сабой у горад і тады здавалася, што ўся работа, якую вядзе ён і яго таварышы, нічога ня варта, што трэба нешта зрабіць вялікае, важнае, трэба нешта ўзьняць, крануць, пахіснуць... Тады ён на сходцы даваў самыя недарэчныя пропозыцыі, і над ім хлопцы сьмяяліся.

Там-жа, на бальшавіцкім баку, Лясьніцкі сустракаў Багуна. Ён хадзіў цяпер у новай вайсковай вопратцы і ганарыўся сваім чырвоным палком. Лясьніцкі, жартуючы, напамінаў яму аб яго першым атрадзе—ён спачатку грымеў самым раскатным сьмехам, а потым прымаў сур'ёзны выгляд і заяўляў:

— Так, братка. Цяпер вось сьмяёмся, а тады і тое патрэбна было—на ўсё свой час.

Цяпер Багун камандаваў чырвонагвардзейскім палком— дружным, дысцыплінаваным і, яшчэ да гэтага, добра абмундзіраваным, якім з поўным правам можна было ганарыцца.

Лясьніцкі расказаў Багуну аб усім, што было з імі ў тэкінцаў. Багун дужа шкадаваў Міцьку (ён ужо й сам быў пэўны, што яго застрэлілі), а басяку, сьмяючыся, паслаў на той сьвет шчырую лаянку. Аказалася, што ён таго басяка зусім не пазнаў быў і прыняў у атрад з асаблівай ахвотай як рабочага і былага салдата (так той сам рэкомэндаваўся).

У вольныя ад работы часы Лясьніцкі рэгулярна наведваўся да Ніны. Андрэй спэцыяльна прасіў наглядаць за ёй, бо надыходзілі апошнія дні цяжарнасьці, а яна была абсолютна адна, ня было нават каго паслаць за акушэркай. Праўда, тут вызваляў Лясьніцкага Славін. Гэты філёзоф надзіва скора пагадзіўся з быўшым замужжам і сучаснай цяжарнасьцю Ніны, прыняў гэта, як наяўны і неадхільны факт, і зрабіўся верным пажам свае каханае. Ён літаральна не адыходзіў ад яе ні на крок, карыстаючыся тым, што яна хворая і патрабуе чыйго-небудзь дагляду. А Ніна выкарыстоўвала яго з самай бязьлітаснай жорсткасьцю. Яна стала цяпер дражлівая, злая і ўсе капрызы свае, усе прычэпкі накіроўвала на беднага Славіна. А ён не разумеў таго, што гэта проста вынік яе хваробы, і прымаў да сэрца кожную дробязь. Лясьніцкі, прыходзячы да Ніны, часта засьпяваў яго тупа-застыглага ў цяжкай балючай няўцямнасьці, быццам скутага нейкім раптоўным незразумелым горам. Ніна зараз-жа выкрывала прычыну гэтага зьявішча. Яна гаварыла Лясьніцкаму раздражнёным пакрыўджаным голасам:

— Ну што ён за чалавек, гэты Славін. Вы ведаеце, Лясьніцкі, ён зусім не разумее асноў нашага соцыяльнага ладу. Ён проста змучыў мяне сваёй някемкасьцю. Лезе з сваімі дурнымі клавішамі—усе нэрвы мне папсаваў...

Ніна во-во гатова была заплакаць, Славін дапытліва і няўцямна глядзеў на Лясьніцкага, а Лясьніцкі ціха ўсьміхаўся і сам сабе думаў:

— Значыць сёньня соцыяльнымі асновамі катавала. Як дойдзе да палітыкі—пачнуцца `роды.

У часіны-ж, калі на Ніну находзіў добры настрой, яна, нібы ў адплату за свае ранейшыя прычэпкі, была асабліва ласкавая з Славіным. Тады яна ўважна прыслухоўвалася да кожнага яго слова, далікатна згаджалася там, дзе толькі можна было згадзіцца, і старанна ўнікала ўсякае спрэчкі. Тады яна, жартуючы, гаварыла:

— Мой дзяцёнак напэўна будзе падобны на Славіна, бо я ўвесь час у яго ўзіраюся. Толькі каб нос быў трошачку большы... І каб ня было акуляраў...

У такія моманты Славін быў дужа шчасьлівы, а вочы яго рабіліся старымі-старымі і добрымі.

Славін не адыходзіў ад Ніны і тады, як пачаліся роды. Ён сам зьбегаў за акушэркай, дастаў яшчэ недзе крывенькую старую бабульку, бегаў у аптэку і, седзячы ў кухні, слухаў, як нема і трудна стагнала парадзіха.

Гэта пачалося з вечару і цягнулася цэлую ноч. Лясьніцкі нічога ня ведаў і таму назаўтрага, прышоўшы да Ніны, быў глыбока зьдзіўлен і ўсьцешан нечакана-новай карцінай.

Ніна ляжала на ложку—змардаваная і шчасьлівая. На яе твары млява расплыўся ціхі сьвет новай давольнасьці новага радаснага адчуваньня, а ў шэрых вачох, яшчэ марудных і вялых, відочна хацеў запаліцца любы іскрысты агоньчык. У нагах у яе (люлькі ня было) ляжала нешта закручанае ў белыя шмоткі, што неўзабаве піснула і аказалася малым Халімам. А троху воддаль сядзеў Славін, блішчэў акулярамі і сарамліва, вінавата ўсьміхаўся. Лясьніцкі чамусьці падумаў, што так павінен усьміхацца бацька, калі ў яго нарodзіцца першы дзяцёнак.

Ніна сустрэла Лясьніцкага слабай усьмешкай, паказала вачмі на крэсла. А яму страшэнна захацелася падыйсьці і пацалаваць яе — так цудоўна і чыста зьзяла яна харaством першага абуджэньня жанчыны-маткі. Ён сказаў аб гэтым сваім жаданьні і ўбачыў, як на бледым Ніным твары зьявілася празрыстая сьвежая чырвань. Яна сарамліва ўсьміхнулася і адказала:

— Мяне, Лясьніцкі, варта пацалаваць, бо я радзіла добрага здаровага сына. Паглядзіце...

Лясьніцкі нерашуча падышоў да ложка і асьцярожна разгарнуў пялёнкі. Ён убачыў чырвоны зморшчаны твар з непамерна вялікім няпрыгожым носам. Яму стала гідка, і ён скоранька адышоўся. А Ніна заўважыла гэта і зрабіла від, што пакрыўдзілася.

— Вы нічога не разумееце... Мой сын дужа прыгожы... Ён важыць дзесяць фунтаў і ні каліва не падобны на Славіна... Нос не такі, і акуляраў няма...

Славін моўчкі ўсьміхнуўся, а Лясьніцкі аўторытэтна зазначыў:

— Мусіць будзе падобны на Халіму... Як вы думаеце?

Ніна толькі шчасьліва ўсьміхнулася.

Скора прышла крывенькая старая бабулька і выгнала хлопцаў. Яны пайшлі блындаць па гораду. Славін разгаварыўся і ўсё даводзіў Лясьніцкаму, што зусім натуральна любіць дзяцёнка той жанчыны, якую кахаеш, хоць гэты дзяцёнак і ня твой. І сур'ёзна запэўніваў, што ён любіць Нінінага сына.

У той дзень увечары Лясьніцкі зноў зайшоўся да Ніны і на сваё вялікае дзіва засьпеў там Андрэя. Андрэй сядзеў ля Ніны і нешта ёй гаварыў. Як увайшоў Лясьніцкі, ён спыніў гаворку і ўстаў яму насустрэчу.

— Вось і сам ён тут... Справа, братка, ёсьць — важная і цікавая. Я еду сёньня на зьезд і прабуду, мусіць, ня менш, як тыдзень. Табе прыдзецца паехаць вёрст за дваццаць адсюль у мястэчка—там стаіць нямецкая часьць, у якой разьвінуўся добры для нас настрой. Там рыхтуецца пераход за Дняпро ладнай групы нямецкіх салдатаў—трэба яшчэ агітнуць там троху... Разумееш?

— Я буду адзін там?

— Камітэт камандыраваў туды аднаго працаўніка. Ты, мусіць, помніш яго—Гольдзін, ён быў у нас у часе Карнілаўшчыны. Ён пераправіцца туды з-за Дняпра і прывязе літаратуры. Табе прыдзецца прыняць удзел і ў гэтай пераправе таксама. Ну, і мясцовыя хлопцы там знойдуцца—яны ўва ўсім дапамогуць.

— Як з імі зьвязацца?

Андрэй троху падумаў, памеркаваў.

— Самае лепшае знайсьці Макрыну. Яна служыць там у бліжэйшай вёсцы, у школе. Яна ведае ўсіх нашых, якія там працуюць. Ты адразу да яе і падайся.

Нечаканы напамін аб Макрыне абудзіў у Лясьніцкага вострае хваляваньне. Каб ня выдаць яго, каб паказаць, што ён зусім бязуважна аднёсься да весткі аб ёй, ён толькі за-

пытаўся пра назву вёскі, дзе яна жыве, і адразу—нібы-та што—пачаў падрабязна распытваць аб мясцовых працаўніках, аб складзе нямецкай часьці, умовах работы і г. д. Толькі ў самым канцы неўзаметку (гледзячы ўбок) пацікавіўся:

— Макрына—што, таксама працуе?

— Троху... Перадачны пункт... Для зносін...

І больш Лясьніцкі ні словам не памянуў пра Макрыну.

Андрэй сьпяшаўся некуды дый сядзець яму тут было ня зусім бясьпечна. Разьвітваючыся, ён чамусьці сур'ёзна і настойліва напамянуў Лясьніцкаму:

— Ты мей на ўвазе, Васіль,—гэта дужа небясьпечнае даручэньне. Рабі ўсё асьцярожна, не рызыкуй. Правал у гэтай справе кончыцца ведаеш чым?—Ваенна-палявы суд...

Ён з грубаватай шчырасьцю пацiснуў Лясьніцкаму руку і хацеў ісьці, але Лясьніцкі раптам успомніў:

— А Ніна?

Андрэй вінавата ўсьміхнуўся.

— Выбачай, Нінка, я зусім няўмысьля забыўся... На табе грошы... Тых ня руш ні ў якім выпадку... Калі будзе небясьпека якая—перахавай... Скажы Славіну, што я дужа прасіў яго цябе даглядаць... Грошы гэта вам на двух... у яго напэўна няма... Ну, бывайце...

Лясьніцкі яшчэ троху сядзеў у Ніны. На разьвітаньне і яна чамусьці з шчырай турботай яму напамянула:

— Лясьніцкі. Я вас асабіста прашу—рабіце ўсё з найбольшай асьцярожнасьцю. Добра? Вы абяцаеце?

Лясьніцкі пагадліва ўсьміхнуўся.

— Цяпер-жа ні ў чым вам ня можна адмовіць. Разумеецца—абяцаю. Буду старацца...

СПАЧАТКУ было вясёлае надвор'е—у лугох стаяла напружанае стракатаньне скачкоў, а палі мякка і плаўна курыліся пылам жытнёвага красаваньня,—і шырока ўзьняты настрой Лясьніцкага знаходзіў дзівосную сугучнасьць у звон-

кім жыцьці гэтага прыгожага летняга дня. Думкі і пачуцьці растапляліся ў гарачай плыні барвістага сонца,—аставалася адно бязьмежнае адчуваньне—туманнае і яскравае (яскравы туман), а ў ім хадзілі, узьнімаліся, падпаласкваліся пад самае сэрца подыхі даўнага і глыбокага. Адчувалася зяленіцкае квяцістае сонца і балюча-салодкія жаночыя ласкі. А ўявіць Макрыну ніяк не ўдавалася—рассыпалі вобраз яе назольліва-пярэстыя карагоды кветак і птушак, карагоды звону і песень і дзікага шумату, тапілі ў цягучых хвалях парна-застыглага ваду. Наогул вобразаў уявіць няможна было—уяўляліся толькі настроі—і тыя настроі ня мелі вобразаў—былі расплыўчата-сьветлыя (яскравы туман). Яшчэ адчувалася Лясьніцкаму блізкасьць небясьпечнае цікавае справы, на якую ён ехаў, ды адчувалася неяк дзіўна, як павеў даўно-даўно прачытанага ў кнігах, ад чаго ўжо сьціскалася некалі дыханьне і дрыжэла ўжо сэрца ў прыліве гарачае млосьці.

Так было спачатку, пакуль уехалі ў палавіну дарогі. Потым пачалі засьціць сонца пракудніцы-хмаркі (у жмуркі гулялі, ці што) дый няўпрыцям згубілі яго ў сваёй грамадзе—пачалі потым шукаць, нікаць плоймай па небе, зазіраць адна за адну—пацямнелі, пачарнелі ад смутку, насупіліся, гатовыя заплакаць, зарумзаць. І апаў тады цень на зямлю—алавяная муць расплылася па сьвеце. Стала няпрытульна і ветрыва. Нездаволена, пакрыўджана змоўкла прырода, схавала свае чароўныя ясноты. І стала раптам невядома: ці гэта дзень, ці вечар (выехалі гадзіне а пятай спаўдня).

І вось тады вылучыла прырода Лясьніцкага з свайго раскошнага ўлоньня, сагнала ў кучу ўсе адчуваньні, і думкі, і пачуцьці, сьціснула, скутала—калупайся сам у сабе колькі-хоця! Тады расплыліся, зьнікл недзе ў алавянай муці тыя яскравыя адчуваньні, а замест іх пачалі чаргавацца рэзкія адрыўчастыя вобразы. Яны ўзьнікалі з раптоўнай выразнасьцю, застыгла стаялі ўвачу, і праз хвіліну так-жа раптоўна зьнікалі. Андрэй, Гольдзін, Ніна, Макрына... Макрына ўяўлялася вельмі яскрава, але не абуджала таго палкага адчуваньня, якое само па сабе ўсплывала на поўгадзіны раней.

Яна ўяўлялася чамусьці хмурая, замкнёная і больш турбавала, чымся вабіла. У сэрца праточваўся незразумелы страх і прадчуваньне нечага халоднага, няпрыемнага. Няясным водгукам азваліся чорныя настроі мінулае восені—у ваччу засінелі сьцюдзёныя цёмныя хвалі Дняпра.

Вёска, дзе жыла Макрына, стаяла на ўзгорку. Пад'яжджаючы к ёй, можна было бачыць толькі некалькі акрайных сялянскіх двароў ды вялікі з гонтавай крышай будынак, абгорнуты пышнай купай зеляніны. Возьнік сказаў, што ў гэтым будынку якраз і зьмяшчаецца школа. Лясьніцкі тады адпусьціў яго, а сам пайшоў далей пеша, каб ня ўзьнімаць лішняй увагі на вёсцы. Парадны ход у школе быў забіты, і ён абыйшоў з двара, але там аказаўся замок. Ён пастаяў троху, мяркуючы, што тут рабіць, але-ткі заўважыў недалёчка нейкага хлопчыка. Ён запытаў у яго:

— Што тут, нікога дома няма?

Хлопчык з пасьпешнай жвавасьцю яму адказаў:

— Старажоўка пашла ня дзярэўню. Яна мусіць зараз падыйдзе...

Лясьніцкі хацеў запытаць пра Макрыну, але ўпару схапянуўся, падумаў з усьмешкай:

„Гэта-ж яна і ёсьць. Чым-жа яна больш можа служыць тут у школе?.."

Ён сеў на ганках і рашыў чакаць. Ужо зусім густа зьбегліся вячэрнія цені, і ўсе вакольныя рэчы страцілі выразнасьць сваіх абрысаў—паплылі ў сьцюдзяністым віханьні змроку. Закрапаў рэдкі і дробны дождж і нагнаў яшчэ большую нудоту сваім нядбалым млявым брызганьнем. Клапатліва і нудна прагудзеў над галавой нейкі жук.

Лясьніцкі ўпаў у глухое бяздумнае аслупяненьне—нічога ня чуў, ня бачыў, не заўважыў нават, ці прайшла гадзіна, ці можа ўсяго хвіліны са тры. І вось пачуліся дробныя шпаркія крокі, цьмяна вылучылася са змроку бялясая пляма. Пачуўся спалоханы Макрынін голас:

— Хто тут?

— Гэта я.

— Хто вы?

Лясьніцкі ўстаў, падаўся ёй насустрэчу.

— Ці-ж ужо не пазнаеш, Макрына, га?..

Яна не кранулася з месца—запытала яшчэ больш спалоханым дрыжачым голасам:

— Васіль... Ці гэта ты? Адкуль ты ўзяўся?

Лясьніцкі, сьмяючыся, падышоў да яе, узяў за руку.

— Ну, чаго ты дзівішся? Я-ж не зданьнё, да-душы не... Ну, ці здарова жывеш?..

Ён чакаў ад яе нейкага падатнага руху, каб абняць, пацалаваць яе. Але яна ўсё стаяла нярухомая, а потым, нібы ачулеўшы, моцна пацiснула яго руку, выпусьціла яе і загаварыла ўжо цьвёрдым спакойным голасам:

— Каб ты ведаў, Васіль, як я напалохалася... І сама дзіўлюся чаму. Ка мне-ж ходзяць часамі людзі і ў такую пару. Ну, але-ж пойдзем у хату. Ты даўно тут чакаеш?..

Макрына жыла ў адным з пакояў, прызначаных для кватэры настаўніка. Яна жыла цяпер зусім адна, бо настаўніца кончыўшы заняткі, некуды зьехала.

Пры сьвятле запаленай лямпы Лясьніцкі разглядзеў Макрыну. Яна выглядала дужа добра—была на-дзіва сьвежая, загарэлая, зграбная фігурка яе прыемна круглілася здаровай крамянай поўнасьцю—яна нават як-быццам памаладзела. Лясьніцкаму ўспомніўся леташні сенакос. Яна якраз такая была ў той час—тады завінаўся каля яе Андрэй, а яму яна не падабалася. І цяпер—тое самае да яе пачуцьцё. Ня тая яна, не каханая,—няма той беленькай ціхай Макрыны, яго крушынавай радасьці. Вабіць толькі гарачая сьвежасьць маладога прыгожага цела.

Макрына запытала ў Лясьніцкага пра мэту яго прыезду і, калі ён стаў тлумачыць, яна зрабіла такую адчайна-сур'ёзную міну, так удумліва й строга заміргала сваімі яснымі вочкамі, што Лясьніцкі ледзь утрымаўся, каб не засьмяяцца. І падумаў сам сабе:

„Яна аддаецца справе зусім як дзіця, як маленькая і дужа старанная вучаніца“.

Калі-ж потым пачала гаварыць Макрына, дык у яе нават голас дрыжэў ад пачуцьця таемнае важнасьці гэтае гутаркі, а часамі зусім пераходзіў у наіўна-заклапочаны энэргічны шопат.

— Ты якраз упару трапіў да нас. Заўтра хлопцы зьбіраюць патаемную сходку. Я цябе завяду туды і пазнаёмлю. Там усе нашы будуць.

— А што будзе на сходцы? Нашто зьбіраюць яе?

— Ды каб-жа ты ведаў, Васіль, няможна зусім ужо жыць. Так прыціснулі, абабралі кругом—дыхнуць нечым. Хочуць, мусіць, нешта рабіць нашыя хлопцы. Казалі—аружжа недзе дасталі—многа, чалавек на сорак... Ты сам заўтра даведаешся аб усім...

— Дзе будзе сходка?

— У рове. Якраз недалёчка ад нашае вёскі.

Яны з гадзіну гаварылі аб справе. Лясьніцкі памалу захапіўся гутаркай, пачаў і сам удавацца ў таемна-сур'ёзны напружаны тон, пачаў нават шаптаць так, як і Макрына. А потым схапянуўся, зірнуў—нібы з боку—на сябе і на Макрыну, на ўсе гэтыя неабычайныя абставіны і тады страшэнна дзіўным здалося, што гэта з ёй, з Макрынай, ён гутарыць так, што зусім не глядзіць на яе, як на жанчыну, а іначай зусім, патаварыску, як раней ніколі на яе не глядзеў. І чамусьці прыкра стала, як гэта заўважыў. Ён разумеў, што дрэннае гэта пачуцьцё, недарэчнае, але ніяк ня мог перадолець яго. І куды лягчэй стала тады, як кінулі гэтую гутарку, як Макрына завінулася, каб даць яму што павячэраць.

У той час, як Макрына мітусілася па хаце, рыхтуючы яму вячэру, Лясьніцкі сядзеў і моўчкі сачыў за ёй, любаваўся яе спрытнымі, троху сарамлівымі рухамі. Яе здаровае хараство пачынала дражніць яго, спакушаць. Ён усё з большай і большай прагнасьцю ўзіраўся ў выпадковыя—з-пад вопраткі—вырысы яе стройнага цела (так блізка, горача знаёмага) і ў нутры ў яго ўзьнімаліся буяныя хвалі жаданьня. Ён неяк злавіў быў яе за руку і прыцягнуў да сябе,

хацеў палашчыць, дык яна палахліва вырвалася і потым старалася да яго блізка не падыходзіць.

За вячэрай Лясьніцкі апавядаў Макрыне пра гарадзкія навіны, расказаў пра Ніну, пра Славіна, і Макрына шчыра сьмяялася, а потым сказала ў наіўным задзіўленьні:

— Як гэта можна так сьмешна любіць? Нашто-ж яно, такое каханьне?

Лясьніцкі толькі ўсьміхнуўся.

Пасьля вячэры Макрына затурбавалася—дзе пакласьці Лясьніцкага спаць. Лясьніцкі сказаў—ні то жартам, ні то сур'ёзна:

— Я лягу з табой.

Гэтыя словы відочна напалохалі Макрыну. Яна сьцеражліва насупілася і сказала з упартай рашучасьцю:

— Не, Васіль, я спаць з табой ня буду.

— Чаму?

Яна замяшалася троху, утупілася, і ні то сарамліва, ні то пакрыўджана адказала:

— Я-ж замужам.

Чамусьці гэта ані-ні ня зьдзівіла Лясьніцкага. Мабыць, таму, што ён здаўна прывык яе знаць, як замужку. Нават шавяльнулася недзе ў нутры нядобрае эгоістычнае пачуцьцё давольнасьці, ад якога самому яму зрабілася брыдка. Ён усьміхнуўся і спакойна зазначыў:

— Ужо замужам? Скора... А хто твой муж—гэта не сакрэт?

Яна яшчэ больш сумелася.

— Ці-ж ты ня ведаеш... Андрэй...

Гэта было неспадзявана. Лясьніцкі спачатку не разумеў, ці гэта праўда, ці жарт і няўцямна глядзеў на Макрыну, шукаючы адказу ў рысах яе твару. Яна цяпер глядзела проста на яго сваімі чыстымі дзяцінымі вачмі і ўсьміхалася (усьмешка—тая: ціхая, горкая). Лясьніцкі ня ўтрымаўся, запытаў:

— Гэта праўда?

— Вядома, што праўда. Нашто-б я казала табе.

„Чаму-ж не казаў нічога Андрэй? Ці ён хаваўся, ці проста забыўся, як тады пра Ніну?"

— Калі гэта ў вас... было?

Тады Макрына расказала ўсё па-парадку:

— Як была я некалі ў горадзе, дык Андрэй казаў мне, каб я, калі што-якое, пераяжджала зусім у горад. Тады ў нас з ім ня было яшчэ нічога. Ну, ты-ж ведаеш... я чакала цябе, усё думала, што ты мяне любіш... А тады—помніш?—ты прыехаў быў і я пазнала, што ты ўжо інакшы зусім. Тады я прадала ўсё і паехала ў горад. Ён мне памог паступіць на працу і наогул так добра са мной абышоўся—тлумачыў усё, навучаў... ведама, што я тады разумела?.. А потым ён мне зусім упадабаўся—добры такі, ласкавы, разумны... Я сама неяк сказала яму, што кахаю... а што-ж там маўчаць, тут-жа няма ніякага сораму. Ну й сталі мы жыць з ім... У царкве не вянчаліся... усё роўна. А цяпер вось выпала разлучыцца... пасумуем троху, дык тады мацней будзем кахаць адзін аднаго... гэта яшчэ лепей...

Лясьніцкі хадзіў па пакою, усё пільней і пільней прыглядаўся да Макрыны і пачынаў заўважваць нешта новае ў ёй—ці можа ў сваім пачуцьці да яе, у сваім настроі. Адчувалася нейкая дзіўная незразумелая двоістасьць. Ён перабіраў поглядам кожную рысачку яе твару—і ўсё здавалася тым самым ранейшым, знаёмым, здавалася—во нядаўна зусім, толькі што цалаваў гэтыя вусны і вочы і зараз зноў будзе цалаваць—яна сама падыйдзе, падыме свае чорныя вішні, усьміхнецца і скажа—ну, пацалуй!—І ў той самы час здавалася, што ўсё ў яе—чужое, незнаёмае, што ніколі ён не цалаваў яе, а каб і пацалаваў, дык-бы не адчуў асалоды (нават уяўлялася, якое-б пустое і шурпатае было прыткненьне яе вуснаў), здавалася, што гэта першы раз яна сустрэлася з ім і толькі прыкідваецца, што даўно знаёмая, блізкая.

Каб бяз болю і бяз крыві адцяць у чалавека руку і пакласьці яе поплеч з ім, ён-бы глядзеў на яе прыблізна з такім адчуваньнем, як глядзеў цяпер Лясьніцкі на Макрыну. І гэта двоістасьць ня была роўнастайнай. Яна кожную хві-

ліну зьмянялася ў адноснай перавважнасьці той ці другой стараны: адзін момант узмацнялася і вырастала першае адчуваньне, занімала бадай што ўсю істоту (тады гэта новае— апавяданьне яе і тое, што руку вырвала, што стаіць воддаль, не падыходзіць, палахліва чужаецца яго—усё гэта здавалася сьмешным і троху дакучным жартам), а потым з нясутрыманай шпаркасьцю раставала гэтае адчуваньне і расло другое—і ўжо Макрына была халодна-новая, зусім чужая, дзіўна было, як магла яна абуджаць у ім пяшчоту і палкае жаданьне, як магла здавацца яна блізкай, сваёй.

Лясьніцкі паспрабаваў пажартаваць, пасьмяяцца з яе гэтага неспадзяванага замужжа, дык вышла цьмяна і нудна— яна не зразумела жартаў яго, ня ўсьміхнулася нават. Яна стаяла воддаль ад яго, ля дзьвярэй, і шырока глядзела ціхімі—бяз бляску—вачмі, быццам палахліва чакала нечага. Лясьніцкі ўстаў, пахадзіў па пакою. У нутры востра ўзьнімалася едкае раздражненьне, якое паступова пераходзіла ў зайздрасьць. Яго пачынала ўжо назольліва турбаваць думка аб тым, што яна належыць другому, што яна другога лашчыла і дзеля таго, другога, адштурхвае яго, унікае яго ласкі, можа нават грэбуе ёй. Пачынаў браць свой голас—уражаны гонар мужчыны.

Лясьніцкі спыніўся перад ёй і сказаў з едкім сарказмам:

— Якая ты добрая, верная жонка... Андрэй можа ганарыцца табой...

Макрына зусім сур'ёзна і цьвёрда адказала:

— Што я нелюдзь якая, ці што. Ці мне аднаго мала...

— А было-ж так, здаецца...

— Я таго ня любіла... я тады цябе аднаго, усё роўна, любіла...

— А цяпер любіш Андрэя?

— Люблю.

Лясьніцкі яшчэ раз прайшоўся па пакою і зноў спыніўся перад ёй, паглядзеў на яе ўсьмешліва, ласкава:

— Дык ты ўжо, Макрына, ня любіш мяне? Зусім ня любіш, ані-ні?..

— Кінь ты, Васіль, нашто аб гэтым казаць...

— Ты ўжо зусім забылася на тое, што ў нас было? Зусім забылася, так? Можа і ўспомніць нялюба?..

Макрына пачынала хваляваццa—мусіць цяжка было ёй слухаць аб гэтым. А Лясьніцкі наўмысьля распаляў у сабе агонь журботнае крыўды, у якую зусім выпадкова і нечакана вылілася яго раздражненьне,—ён усё з большым і шчырэйшым запалам гаварыў ёй поўныя дакору словы:

— Табе ўжо брыдка, калі я да цябе дакрануся, ня хочаш, каб я палашчыў цябе, пажалеў. А помніш?—ты сама прасіла, каб я цалаваў цябе, ты была рада, калі я абнімаў цябе, трымаў на руках. Помніш, як я прыехаў з гораду—ноч тая якая была... Дняпро... месяц... Табе, мусіць, ня хочацца пра гэта ўспамінаць? Макрына, так?.. Ты-ж ужо ані-ні ня любіш мяне?..

Лясьніцкі гаварыў зусім шчыра. Выпадкова і можа нават штучна ўзьнятае пачуцьцё гэтае крыўды перайшло ў сапраўднае глыбокае хваляваньне. Прад ім плылі поўныя непаўторнага хараства малюнкі мінулага, ён адчуваў іхную неўзваротнасьць і поўніўся шчырым балючым жалем.

Макрына ўсё больш і больш хвалявалася. Яна прасіла Лясьніцкага не гаварыць, не ўспамінаць аб тым, што было. А Лясьніцкі наўмысьля гаварыў, каб мучыць і сябе і яе, каб бачыць, як маўкліва глыбее пакутны сьвет у яе ясных вачох, як гатовы гэтыя вочы наліцца сьлязьмі.

Макрына заплакала. Скрозь сьлёзы, скрозь сударгавае ўсхліпваньне вырвалася ў яе надрыўна, горка:

— Ты, Васіль, гора маё... Нашто ты прышоў?.. Што табе трэба ад мяне?.. Толькі мучыць... жыцьцё адбіраць...

Лясьніцкі быццам чакаў гэтых сьлёз. Яны зьнішчылі ў ім тую прыкрую двоістасьць—асталося адно пачуцьце даўнейшае палкае блізкасьці. Тады пачуў ён сваю сілу і права, сьмела абняў яе, прыгарнуў да сябе, пачаў пацалункамі сунімаць яе сьлёзы. Яна не баранілася і таму ён узяў на рукі яе, сеў з ёй на ложак, лашчыў яе, поўны гарачай пяшчотнасьці.

— Ну вось, і заплакала... Гэта за тое, што ня любіш мяне... Ну, досыць плакаць... абнімі мяне... во так... Пацалаваць? Хочаш? Ну вось... Во так я люблю цябе... во... моцна?

Яна пакорна аддавалася ласкам Лясьніцкага і ў той самы час прасіла яго, працятая інстынктыўным спалохам:

— Васілёк... ня трэба... Нічога не рабі са мной... няможна... Васілёк, родны, я прашу цябе...

Лясьніцкі прашаптаў ёй на вуха, ціхенька-ціхенька:

— Андрэй нічога ня будзе ведаць пра гэтую ноч... ня бойся...

Гэтыя словы нібы абудзілі Макрыну. Яна сударгава закалацілася, з нейкай адчайнай сілай вырвалася ад яго і кінулася ў дзьверы. Лясьніцкі ступіў некалькі крокаў за ёй, потым спыніўся, прыслухаўся. Ляпнулі дзьверы недзе тут, у сярэдзіне дому: яна мусіць, пайшла ў клясу. Лясьніцкі пастаяў троху, падумаў, потым у нэрвовым раздражненьні пачаў хадзіць па пакою. Прайшло хвілін дзесяць, потым і пятнаццаць, дваццаць, поўгадзіны, гадзіна. Макрыны ня было. Лясьніцкі злаваў і ня ведаў, ці чакаць яе, ці класьціся спаць. Нарэшце, адважыўся на апошняе. Хацеў перш легчы на яе ложак, але абдумаўся. Са злосьцю раскідаў у бакі крэслы і лёг на падлозе. Хай заўтра ўбачыць, яму нічога ад яе ня трэба!

Заснуў Лясьніцкі на-дзіва скора. І так-жа раптам прачнуўся—сьвежы, бадзёры—прачнуўся, мусіць, ад лёгкага грукату ў кухні—там завіналася каля печы Макрына, у адчыненыя дзьверы відаць было, як мільгаў край яе сукенкі. Лясьніцкі ўраз успомніў аб усім, што было ўчора, і спачатку стала дужа сорамна. Але ўспомніў канчатак і ўсьміхнуўся. І радасна стала, што так усё кончылася. Сёньня глядзеў на Макрыну проста, па-таварыску, як тады, калі гутарыў з ёй аб справе. І зусім натуральным здалося, што яна Андрэева жонка, дзіўна нават было, чаму ўчора гэта яго турбавала. Толькі вось як зірнуць ёй сёньня ў вочы?

Лясьніцкі ўстаў і вышаў на кухню. Прайшоўся туды ды сюды (Макрына не адварочвалася ад печкі), стаў ля вакна, абапёрся сьпіной аб вушак. Маўчалі. Потым Макрыне трэба

было ўзяць нешта на стале (стол стаяў ля вакна), яна падыйшла, утупіўшы вочы, а потым нібы неўзаметку зірнула на Лясьніцкага—недаверліва і сьцеражліва. Ён злавіў гэты погляд і адказаў на яго сарамлівай усьмешкай. Тады й яна ўсьміхнулася і радасна прасьвятлела. Лясьніцкі вінавата і глуха прабурчэў:

— Ну, выбачай, Макрына... Я больш ня буду... На руку, што гэта было апошні раз...

Яна, шчасьліва сьмяючыся, падала яму сваю руку і ласкава зазначыла:

— Гэта было нейкае азяленьне—ці праўда, Васіль?

Ён, замест адказу, спытаўся, гледзячы ў бок:

— Ты Андрэю скажаш пра гэта?

Яна падумала і адказала:

— Мусіць, скажу. А што-ж там такое...

— Можна й сказаць... Я супроць таго нічога ня маю...

Адразу пасьля сьнеданьня яны пайшлі шукаць падпольнае сходкі. Макрына, ідучы, лапатала ўсё ў жвавым турботным захапленьні:

— Яны казалі, што будуць зьбірацца з самага раньня. Гэта зусім недалёчка. Але мы пойдзем ня проста—проста дык яшчэ хто дазнаецца—а мы абыйдзем гэты ўзгорак, там па дарозе пройдзем да хмызьніку, а тады па закустаўю, дык ніхто ня ўбачыць. Я ўжо прывыкла—ведаю, як трэба рабіць...

Гэта быў глыбокі, заліты густа-зялёным хмызьнікам, роў. Тут усё ўзгор'е—можа на колькі дзесяткаў вёрст—было перасечана такімі вялізнымі крутымі разлогамі, схоны якіх абрасьлі зьбітым у непралазную глуш кусьцем ляшчыны, алешніку, дубняку, усіх тых расьлін, што любяць чапляцца за сухія пескаватыя сьцены абрываў. Праз гэту жывую калматую поўсьць трудна было пралезьці, спусьціцца на глыбокае дно гэтых разлогаў, а былі і такія глухія мясьціны, якія мелі толькі два няшырокія выхады—і ў адзін канец і ў другі. Адну такую мясьціну і абабралі хлопцы для свайго патаемнага сходу.

Дзіка, недарэчна гучэлі тут новыя словы, ніколі нячуваныя ў гэтых глухіх бязьмежна-зялёных нетрах:

— Парадак дня... хлопцы, увага... Мы абгаворым сёньня такія пытаньні: бягучы момант, організацыйнае пытаньне і бягучыя справы... Як, досыць гэтага? Ні ў кога няма больш пытаньняў? Дык пачынаем, хлопцы... ціху...

Настрой быў урачыста-напружаны. Лясьніцкі бачыў, як сялянскія твары—у большасьці маладыя, яшчэ зусім юнацкія—прымалі жорстка-сур'ёзны выраз, як густа схадзіліся бровы, а вочы рабіліся цямнейшымі і глыбачэйшымі. Лясьніцкі і сам адчуваў нейкае незразумелае хваляваньне.

Па першаму пытаньню рабіў даклад нявысокі тонкі хлапец з вялікаватым носам і вясёлымі сьлядамі чорных гарэзьлівых вусікаў. Ён пачаў з агульных слоў аб рэволюцыі, аб класавай барацьбе, перайшоў да абгляду апошніх падзей, і скончыў досыць гарачым, патэтычным протэстам супроць нямецкага імпэрыялізму. Па яго дакладу мала хто выказваўся—чакалі далейшага, ведалі, што там будзе самае важнае. Адзін устаў і ў кніжна-драматычным тоне пачаў гаварыць аб нядолі працоўнага народу, аб гнёце эксплёататараў і г. д. Дык яго слухалі ня дужа ахвотна і ён скора кончыў. Прынялі нейкую рэзолюцыю і перайшлі да другога пытаньня.

Організацыйнае пытаньне аказалася пытаньнем аб організацыі партызанскага атраду. Гэтае пытаньне абудзіла надзвычайную цікавасьць і ажыўленьне. Тут вылілася ўсё: і глыбокія балючыя скаргі на несправядлівы ўціск, на зьдзекі над працоўным людам, і спрадвечная органічная варожасьць да пана, пераплеценая з прагным імкненьнем здабыць сабе лепшае жыцьцё, лепшую долю, і зацяты гнеў і бурлівы юнацкі энтузіазм, гарачая гатоўнасьць ісьці на змаганьне. Гарэлі рэзкім агнём вочы сялян, рукі цягнуліся ў нэрвовым палкім дрыжэньні:

— Слова!

— Дай слова!

— Я скажу, хлопцы!

— Дай мне!

Адзін апавядаў на скоры пасьпех пра люты зьвярыны ўчынак нямецкага комэнданта, другі кідаў нязкладныя ад узрушэньня словы палкага заклiку, трэці некага лаяў, чацьверты злосна патрабаваў аружжа.

— Досыць ужо!.. Што там такое... Засядзем во ў гэтых разлогах ды й будзем калупаць іх, чарцей... Што яны зробяць нам!

У гэтых бязладных спрэчках, у гэтым вострым распале гнеўнага абурэньня бачыў Лясьніцкі твар змучанае, знэрванае беларускае вёскі, гвалтам адарванае ад тае сьветлае волі, якая ўжо была разгарнулася перад вачмі раскошнымі, поўнымі цудоўнай красы прасторамі. І хацелася дужа Лясьніцкаму выйсьці ды сказаць нешта такое гарачае, агнёвае, што-б маланкай убілася кожнаму ў сэрца, запаліла яшчэ большы, нясутрыманы пажар у маладой сялянскай крыві, што-б штурхнула ўсіх на шалёна-адважнае, бязьмежна-гэройскае. Але помніў Андрэевы словы, і заместа таго вышаў і пачаў гаварыць аб асьцярожнасьці, аб тым, што трэба спакойна, разважна абдумаць кожны пачынак, прадугледзіць магчымую небясьпеку.

На тым сходзе пастанавілі маладыя сялянскія хлопцы арганізаваць партызанскі атрад і памсьціцца каму належыць за сялянскае дабро, за сялянскія сьлёзы і кроў.

Макрына пазнаёміла Лясьніцкага з некалькімі хлопцамі—самымі іхнымі верхаводамі—і яны ўзялі яго пад сваю апеку. Сярод іх было двое з мястэчку. Пасьля сходу Лясьніцкі пайшоў разам з імі—яны павінны былі знайсьці яму там памяшканьне і наладзіць сустрэчу з патрэбнымі людзьмі.

Макрына правяла яго да таго месца, дзе канчаўся роў, выбягаў на нізкую пустую лагчыну, сярод якой тачылася невялічкая рэчка. Разьвітваючыся, яна чамусьці захвалявалася, турботна ўтупіла ў дол закрытыя дрыжачымі расьніцамі вочы. Лясьніцкі ласкава яе запытаў:

— Ты, Макрына, нешта хочаш сказаць? Кажы, усё-роўна...

Яна ўзьняла на яго ціхі погляд, налiты трывогай і яшчэ нечым пакорным, балючым.

— Васіль! Не сустракайся са мной... Ня трэба...

Ён усьміхнуўся, з сяброўскай шчырасьцю паціснуў яе руку.

— Калі й сустрэнемся, дык з нейкім інакшым настроем... Таго ўжо ня будзе, ня бойся...

ГОЛЬДЗІНА перапpавілі без асаблівых перашкод— паспрыяла непраглядная чорная ноч ды патаемная спачуваньне берагавой варты. Гольдзін прывёз з сабой вялізны пак літаратуры, сьвежыя партыйныя інструкцыі і троху аружжа. Ціхі няпрыметны домік на самым канцы мястэчка, у якім закватэраваліся Лясьніцкі і Гольдзін, на некаторы час, стаў асяродкам напружанага, але пільна захаванага ажыўленьня. Сюды позна ўвечары—хто па глухіх бязьлюдных завулках, хто зусім па задворках, па гародах—зьбягаліся неспакойныя людзі, засядалі ў заднім глухім пакойчыку (вокны—у сьцяну нейкага дворнага будынку), завадзілі даўгую сумятлівую гутарку. Гаварылі, чыталі, зноў гаварылі, хапліва перабівалі адзін аднаго, хваляваліся. За сталом на сваім нязьменным месцы (неяк адразу зазвычаілася, што гэта месца пад жоўтай карцінай—яго, пастаяннае) сядзеў глыбокі затоены Гольдзін—ён быў асяродкам гутаркі, ён дзіўна прыцягваў усіх сваёй марудлівай стрымленасьцю, сваім сьцеражлівым уедліва-праканалым голасам.

Кожны вечар прыходзілі тры перапранутыя ў цывільную вопратку нямецкія салдаты. Два былі пастаянныя, а адзін што раз, то быў новы. Гэтыя два пастаянныя былі зусім розныя, непадобныя адзін на аднаго, людзі. Адзін быў высокі, мэлянхолічна выпрастаны, з нярухома-зьдзіўленымі малавыразнымі вачмі, з шорстка-аддудыранымі вусамі. А другі—рыжанькі, рухавы і пільны, з белымі брывамі і белымі расьніцамі (калі белыя бровы і расьніцы, ды яшчэ рабаваты твар—вочы здаюцца хітрымі, жулікаватымі). Немцы блізка што нічога не разумелі з таго, што гаварылі хлопцы,—ся-

дзелі моўчкі на лаўцы і адзін упінаў свой марудны погляд у нейкую нявідную кропку, а другі жвава ўсё разглядаў, усім цікавіўся і нават прыслухваўся да гутаркі, хоць, пэўна, нічога й не разумеў. Калі-ж Лясьніцкі і Гольдзін пачыналі гаварыць з імі панямецку (Гольдзін гаварыў зусім добра), яны страшэнна ажыўляліся і гаварылі з нейкай хаплівай узьнятасьцю, якая Лясьніцкаму спачатку здавалася ненатуральнай. Высокі пачынаў экзальтавана і троху дзіка блішчэць вачмі, а рыжанькі захліпваўся гарачымі рэволюцыйнымі сказамі. Хлопцы тады, нічога не разумеючы, глядзелі на іх і няўцямна лыпалі вачмі.

Немцы рэгулярна кожны вечар бралі літаратуру і рэгулярна кожны вечар прыносілі паведамленьні аб тым, якія вынікі дае пропаганда. Гэтыя вынікі з кожным днём былі больш яскравыя і больш рэальныя. Кожны раз, як яны апавядалі пра тое, што робіцца ў іхнай казарме, Лясьніцкага ахапляла нецярплівая турбота. Яго раздражняла мэтодычная паступеннасьць немцаў і спакойна-цьвёрдая вытрыманасьць Гольдзіна. Яму кожны раз здавалася, што вось цяпер самы зручны момант для рашучай чыннасьці, што калі не скарыстаць яго, дык усё прападзе, ня выйдзе нічога. Ён хваляваўся і настойваў на тым, каб пачынаць. Яго кожны раз падтрымлівалі хлопцы, але Гольдзін суцішаў іх усіх сваёй ціхай упартасьцю.

Так цягнулася дзён пяць. Потым наладзілі патаемную салдацкую сходку. Гэта быў дужа трудны, амаль што немагчымы ўчынак. Тут былі мобілізаваны ўсе сілы, ужыты ўсе магчымыя спосабы, было ўсё разьмеркавана дакладна і падрабязна, сходка адбылася сярод начы ў тым самым таемным акрайным доміку. Сыйшлося чалавек дзесяць нямецкіх салдатаў, а з сваіх быў Лясьніцкі, Гольдзін ды яшчэ пара хлапцоў. Гольдзін чытаў нейкую адозву, потым гаварыў—спакойна, праканала, як заўсёды,—тлумачыў салдатам мэты расійскае рэволюцыі, яе агульную інтэрнацыянальную значнасьць. Немцы слухалі на-дзіва ўважна. Зрэдку ківалі галовамі, быццам пацьвярджалі праўду Гольдзінавых слоў, праўду гэтай чужой

для іх і разам з тым роднай рэволюцыі. Лясьніцкі быў глыбока, да сьлёз, узрушаны, калі потым гаварыў адзін малады немец-шахцёр сылезыйскіх капальняў, калі пераплятаў ён, як у нейкай цудоўнай романтычнай казцы, яскравыя малюнкі свайго цяжкога шахцёрскага жыцьця з прыгожымі, сьветлымі надзеямі на тую невядомую волю, за якую змагаюцца чужыя для яго і для яго роднай Сылезіі людзі. І Лясьніцкі бачыў, як у часе гаворкі яго на ўсіх тварах плавала мяккая лятуценнасьць, як загараўся ўва ўсіхных вачох агонь ціхага хваляваньня, агонь няяснай палахлівай радасьці.

Гэтыя ўсе дзесяць нямецкіх салдатаў гатовы былі пайсьці за Дняпро. Чалавек пяць такіх асталося ў казарме—не маглі выбрацца—ды былі яшчэ няпэўныя, з якімі толькі вяліся перамаўленьні. На гэтай сходцы склалі падрабязны плян пераправы, прызначылі месца і час, разьмеркавалі ўсе абавязкі. Разышліся яшчэ зацемна, каб маглі салдаты няпрыметна вярнуцца ў казармы.

Ноч тая задалася сьляпая, дажджаная. Па дну рова цёк шумлівы і страшны ў цемры ручай—ён прымушаў Лясьніцкага лезьці вышэй па схону, скаўзацца і пэцкацца ў прыкраліпучы глей. Ён хацеў быў зусім выйсьці на гару, але ўспомніў пра асьцярожнасьць і, сьціснуўшы зубы, сунуўся далей па схону, гатовы кожную хвіліну скаціцца ў ручай. Ён ведаў, што вады ў тым ручаі ня больш, як па калена, але неяк забываўся на гэта і тады здавалася, што можна ўтапіцца.

На гары сьвішчэў разьюшаны вецер, ашалела ганяўся за некім па полю. Часамі ён і сюды, уніз, залятаў—нейкімі істэрычнымі ўсхліпамі—і нечакана абдаваў усяго жорсткай халаднаватай зольлю. Было дужа няпрытульна ў гэтай чорнай мокрай сьлізоце.

Лясьніцкаму здалося, што ён ужо прайшоў чорт ведама колькі, а ўсё ня было канца гэтаму рову. Пачынала адчувацца змора і ўсё больш турбавала трывожная думка, што не пасьпее да назначанага часу. Ён прысьпяшаў ход і ад таго яшчэ больш скаўзаўся, яшчэ больш пэцкаўся ў глей. У нутры расла тупая бясьсільная злосьць.

Нарэшце сьпераду патыхнула нечым шырокім і сьвежым—выяўна адчуўся пусты там адкрыты прахон. Лясьніцкі дагадаўся, што гэта Дняпро. Ён пайшоў цішэй, зусім ціха, ледзьве пераступаючы нагамі—каб не абшаснуцца ды не скаціцца ў Дняпро, бо нічагутка ня бачыў наперадзе. Прайшоўшы яшчэ крокаў з дзесяць, пачуў ціхія галасы—зусім блізка неяк, над самым вухам. Ён хацеў моўчкі прыслухацца, але пасьлізнуўся і шумліва асыпаў у ручай камлыгу пяску.

Галасы сьціхлі, а потым нехта аклікнуў:

— Хто тут?

Лясьніцкі па голасу пазнаў, што свае, і з мімавольнай злосьцю адгукнуўся:

— Дзе вы там? Пахаваліся, ці што?

Аказалася, што хлопцы сядзелі крокі на два вышэй за яго пад нейкім хударлявым і мокрым кустом.

— Ня было яшчэ нашых?

— Не.

— А лодка?

— Стаіць у кустох.

— Колькі вас?

— Чацьвера.

— Во што... Ідзіце па двое ў адзін і другі бок, прасачэце вартавых... Калі свой, дык будзе высьвістваць якуюнебудзь песеньку. Можаце загаварыць, толькі асьцярожна... І тады—назад...

Лясьніцкі адчуваў цяпер прыемнае радаснае ўзрушэньне. Гэта-ж першы раз ён прымае ўдзел у такой важнай небясьпечнай справе ды яшчэ кіруе, дае загады—ён-жа цяпер тут галоўны распарадчык, бо Гольдзін яшчэ ўдзень перайшоў на той бок, рыхтуе там сустрэчу гасьцям.

Лясьніцкі сеў пад той куст, дзе былі хлопцы, і пачаў чакаць. Ад таго, што пасьля пасьпешнага нэрвовага руху ён апынуўся раптам у абсолютнай нярухомасьці і спакоі, хваляваньне яго яшчэ больш узмацнілася і цяжка, бязвыхадна стоўпілася ў нутры, сьціснула грудзі нейкім тупым і мулкім болем. Было трудна чакаць—марудныя хвіліны пераварачва-

лiся нязграбна i важка, як вялiзныя неўвароткiя камлыгi. Ды яшчэ гэтая непакойная—вятраная i мокрая ноч!

Але вось з таго боку, адкуль i ён прышоў быў, пачулася сьлюнявае цьмяканьне ног. Ён прытоiўся, нават спынiў дыханьне i слухаў. Iшла ладная грамада людзей. Ён запытаў па-нямецку:

— Хто гэта?

— Мы... Свае...

А адзiн з сваiх, з праваднiчых, радасна далажыў:

— Дзевятнаццаць штук прывялi...

Зараз-жа вярнулiся i выведнiкi, якiх пасылаў Лясьнiцкi.

— Усё добра. З абодвых бакоў стаяць нашыя. Яны будуць чакаць, пакуль iх паклiчуць.

Асьцярожна, пацiху сыйшлi ўсе к Дняпру. У цемры ня вiдаць было, дзе канчаецца пескаваты адхоны бераг, а дзе пачынаецца вада. Ня вiдаць было i як падплыла лодка—сядалi ў яе вобмацкам, адзiн за адным. Лясьнiцкi ўпацёмку наткнуўся на нешта цьвёрдае, рагаватае, закручанае ў змакрэлы брэзэнт—два немцы ладзiлi ўкласьцi яго ў лодку. Ён запытаў у iх:

— Што гэта?

— Гэта—аружжа.

Лясьнiцкi ўсьмiхнуўся. Гэта ня было раней абгаворана—акуратныя немцы самi падбалi аб тым, каб не зьявiцца з пустымi рукамi.

Паплыла першая партыя. Вёслы спускалiся ў ваду з кволым, ледзь чутным пляcканьнем, а здавалася, што яны падаюць гук на цэлыя гонi, i было да болю прыкра ад гэтага назольлiва-едкага гуку. Потым змоўкла ўсё-чыста—пацягнулiся нудныя цяжкiя хвiлiны чаканьня. Здалося Лясьнiцкаму, што вецер прынёс быў адтуль, з таго берагу, абрывак нейкага воклiку. Потым iзноў усё змоўкла, толькi сьвiшчэў нэрвовы апрысклiвы вецер.

Лодка падплыла так-жа няпрыметна, як i той раз. Пасадзiлi другую партыю. Асталося яшчэ пяць чалавек. Лясьнiцкi паслаў за вартавымi. Яны падышлi якраз к таму часу,

калі вярнулася лодка. Як ад'яжджалі гэтыя апошнія, Лясьніцкі сказаў на разьвітаньне:

— Вызваляйце-ж нас... Хутчэй... Будзем чакаць, каб сустрэцца...

Немцы адказалі дружна і зусім голасна, быццам для іх ужо ня было небясьпекі:

— О, наша возьме! Чакайце, хутка сустрэнемся!..

Лясьніцкі яшчэ нейкі час стаяў над вадой, апалосканы хвалямі золкага ветру. Было трошку сумна—так адчувалася, быццам вось гэтыя людзі падаліся некуды ў новае, сьветлае, а яго пакінулі тут сярод мокрае цемры, як непатрэбнага, лішняга. Але брала верх другое адчуваньне—радасная задавольнасьць, што ўсё абышлося так добра, што справа даведзена да канца.

— Ну, хлопцы, хадзем дадому... Здаецца, зрабілі ўсё, як сьлед...

Яны вярнуліся ў мястэчка, як пачало ўжо зараць. Падыходзячы да кватэры, Лясьніцкі пачуў страшэнную змору. Ён ледзь дацягнуўся да свайго пакою і, нават не разьдзеўшыся, рынуўся на ложак. З ім прышло яшчэ двое хлопцаў (далёка было ісьці)—яны тож пaляглі дзе-каторы. І ўсе разам у адзін момант паснулі.

Гадзіне а дванаццатай іх разбудзіла перапалоханая асалапелая гаспадыня.

— Уставайце скоранька! Немцы ідуць да нас... Уцякайце...

Пакуль хлопцы добра расчухаліся, пакуль разьдзяўбалі, у чым тут справа, на кухні пачуліся незнаёмыя галасы з рэзкім нямецкім акцэнтам. Пыталіся, дзе жывуць кватэранты.

Уцякаць было позна. Хлопцы зьдзіўлена пераглянуліся (здаецца, усё-ж было кончана ўжо) і пачалі падымацца. У пакой увайшлі нямецкія салдаты. Адзін стаў ля дзьвярэй, а іншыя пачалі рабіцьператруску. Яны адразу натрапілі на некалькі брошур і лістовак, якія нехта пакінуў тут на стале, потым у адзежы хлопцаў намацалі рэвольвэры.

— Зьбірайцеся хутчэй! Вы арыштаваны!..

Лясьніцкі папрасіў дазволу памыцца. Яго вывеў адзін салдат на кухню, дзе быў рукамыйнік. Лясьніцкі запытаў у салдата:

— Вы ня ведаеце, з якой прычыны нас арыштавалі?

Салдат матнуў галавой у знак таго, што нічога не разумее. Лясьніцкаму гэтага толькі й трэба было. Ён сьмела зьвярнуўся да гаспадыні:

— Скажэце, каб перадалі Андрэю, што справа зроблена, але трох расстраляюць. Калі можна, хай выручае.

І сказаў падрабязны адрас Андрэя ў горадзе. Тады спакойна памыўся і вярнуўся ў пакой.

Іх павялі ў мясцовую нямецкую комэндатуру і запёрлі ў нейкай глухой цямнявай каморцы з малюпасенькім ваконцам, праз якое відаць быў шырокі брудны двор. Астаўшыся адны, хлопцы першую хвіліну неяк тупа, няўцямна маўчалі— ні то былі ашаломлены сваім нечакана-новым становішчам, ні то проста ня ведалі, з чаго пачынаць гутарку і як гаварыць: ці баяцца, каб не падслухалі, ці гаварыць адкрыта аб усім, што на ўме. Лясьніцкі першы азваўся, сказаў сьцеражлівым шопатам:

— Дрэнная, хлопцы, рахуба... Мусіць, пстрыкнуць...

І з гэтага неяк само сабой у іх ўстанавілася—гаварыць аб усім, але шопатам. Перш-на-перш заняліся пытаньнем: хто выказаў? Усе былі ўпэўнены, што нехта выказаў—іначай адкуль-бы немцы дазналіся?—але як не ламалі галовы, нічога не маглі прыдумаць. Так і асталося гэта неразгаднай цёмнай загадкай. Потым перайшлі на другое: пачалі меркаваць, ці ўдасца Андрэю як-небудзь выручыць, ці не. Але і тут не дайшлі ні да чога. Трудно было ўявіць тыя спосабы, якія мог ужыць Андрэй да іхняга вызваленьня. Хутка й на гэтую тэму не асталося чаго гаварыць. Тады для ўцехі свае, для забавы пачалі успамінаць аб зробленай справе, перабіраць усе самыя дробныя абставіны, усе удалыя выкруты. І забыліся на бязвыхадны стан свой, пачалі весела, давольна сьмяяцца.

Той дзень іх зусім не чапалі. А назаўтра з самага раньня павялі на допыт. Першага ўзялі Лясьніцкага, прывялі

ў чысты раскошны пакой, дзе за пісьмовым сталом сядзеў вусаты—грубога салдацкага выгляду—нямецкі афіцэр. Ён запытаў па-нямецку ў Лясьніцкага

— Раскажэце, як вы дапамагалі дэзэртырству нашых салдат?

Лясьніцкі моўчкі крутнуў галавой, што не разумее. Афіцэр зьдзіўлена выпяў свае алавяныя вочы.

— Вы не разумееце па-нямецку?

Лясьніцкі маўчаў. Афіцэр зьвярнуўся да вартавых:

— Вы не таго прывялі. Я сказаў прывесьці таго, што прыехаў з гораду.

— Гэта ён і ёсьць, пан паручнік.

Паручнік зноў да Лясьніцкага:

— Дык вы ня ведаеце нямецкае мовы?

Лясьніцкі бачыў, што ім вядома ўсё-чыста. Яму захацелася кінуць гэтыя хітрыкі ды сказаць адкрыта аб усім— рэзка сказаць, злосна, зьдзівіць яго нечаканай сьмеласьцю, перакананасьцю. Але ўспомніў аб угаворы з хлопцамі, рашыў стрымацца і гаварыць так, як умовіліся. Таму маўчаў і стараўся глядзець на немца з шчырым наіўным неўразуменьнем.

Паручнік пачаў гаварыць у ламанай расійскай мове. Лясьніцкі прызнаўся, што ён бальшавік і вядзе прапаганду сярод насельніцтва, але рашуча адмаўляў сваё дачыненьне да нямецкага войска. Як ні пяўся паручнік, больш нічога ад яго не дабіўся. Яго вывелі ў суседні пакой і трымалі там, пакуль не зрабілі допыт хлопцам. Тады зноў завялі ўсіх у тую самую глухую каморку. Хлопцы з радасьцю хваліліся Лясьніцкаму, што сказалі ўсё так, як было ўмоўлена. Лясьніцкі сумна ўсьміхнуўся:

— Усё роўна. Ім вядома ўсё ня менш, як нам. Нехта выказаў з сваіх...

Пасьля гэтага чамусьці іх больш не чапалі. Яны з трывожнай нецярплівасьцю чакалі палявога суда і з патаемнай надзеяй загадвалі на тое, дзе будуць судзіць: тут ці ў горадзе. Чамусьці здавалася, што калі павядуць у горад, дык там лягчэй будзе хлопцам вызваліць іх.

Так прайшло два дні. На трэці дзень падвячоркам, у той час, як павінны былі прынесьці ім па шклянцы вячэрняе кавы, у каморку да іх зайшоўся сам паручнік з адным вартавым. Ён моўчкі буркнуў ім, у нейкім сярдзітым замяшаньні:

— Ідзіце за мной!

І дасадліва махнуў на дзьверы.

У Лясьніцкага мігнула шпаркая радасная думка:

„Адпраўляюць у горад..."

І ён з жвавай пасьпешнасьцю пайшоў за афіцэрам.

Паручнік вывеў іх чамусьці на двор, потым давёў да варот і, спыніўшыся там, сказаў парасійску—нехаця і пагардліва:

— Цэнтральная гасьцініца... нумар трэці...

І пайшоў назад разам з вартавым.

Хлопцы асалапелі. Што гэта, выпусьцілі? На волю? Ці можа якое хітрае падступства? Чаму цэнтральная гасьцініца?

Яны нясьмела прачынілі фортку — можа там стаіць варта? — і ўбачылі, што там нікога няма. Тады паціху вышлі на вуліцу, азірнуліся ўва ўсе бакі і пасунуліся ў той бок, дзе была местачковая „цэнтральная" гасьцініца.

На бліжэйшым завароце яны раптам натрапілі на рыжанькага немца, які прыходзіў да іх на патаемныя нарады. У першы момант Лясьніцкі толькі зьдзівіўся, чаму ён астаўся, не пайшоў з сваімі таварышамі. Потым працяла мазгі раптоўная думка, скаланула нутро вострым агнявым хваляваньнем. Ён нэрвовымі крокамі падышоў да немца, жорстка запытаў у яго:

— Ты чаму тут? Чаму астаўся?

Немец ні то палахліва, ні то зларадасна заміргаў сваімі бялясымі расьніцамі.

— А хто вам казаў, што я буду ўцякаць? Я ніколі аб гэтым не гаварыў...

— Гэта ты выказаў, ты? Гавары!..

Немец азірнуўся наўкола, яшчэ горш заміргаў. Але цяпер ужо выразна відаць было, што не баіцца ён—у хітрых

вачох пыхнуў едкі агоньчык, а на вуснах дрыготна і дробна адзначыўся сьлед сьцеражлівае ўсьмешкі.

— Я магу не адказаць вам і вы мне нічога ня зробіце... хе-хе... А калі захачу, дык скажу—ад гэтага мне таксама нічога ня будзе... А нашто я выпусьціў тых, чаму раней не данёс, га?.. Чаму дзевятнаццаць нямецкіх салдат перайшлі на той бок? Хе-хе... А потым вось выказаў... І прызнаюся, бо не баюся вас...

Немцаў твар зусім аблысеў, заплыў дурной і хітрагаемнай усьмешкай. Адбілася ў ім нешта нахабнае, тупазаўзятае,—яно ашаламіла Лясьніцкага, скомчыла злосьць у ім, перавярнула яе ў раптоўнае задзіўленьне. Ён запытаў у немца—ціха зусім, у замяшаньні:

— Нашто-ж выказаў, га? Усё было кончана... Што ты хацеў?

Немец высока ўзьняў свае бялясыя бровы, ладзячыся сказаць нешта рэзкае, нечаканае, але зараз-жа рупліва і акуратна спусьціў іх, бо ўбачыў афіцэра, які набліжаўся да іх. З угодліва-заклапочаным выразам ён падаўся яму насустрэчу, здалёку прымяркоўваючы ўсю сваю несамавітую фігурку для спрытнага адданьня чэсьці. Хлопцы пайшлі ў сваю дарогу.

Гэты рыжанькі немец—рухавы і спрытны—з белымі брывамі і белымі расьніцамі (вочы ад гэтага выдаюць хітрымі, жулікаватымі) прайшоў праз паласу жыцьця Лясьніцкага неразгаданы, хоць і дробны. Потым ня раз успамінаў Лясьніцкі назольлівае міргаsuccessfulньне бялясых расьніц, і заўсёды яго турбаваў тупы прыліў неўразуменьня. Што яму трэба было? Ці вадзіла яго чорная сіла чалавечае сквапнасьці, ці было ў ім што глыбачэйшае, сваё (можа дзівацкае, а мо' фанатычнае ці хваравітае)?

У гасьцініцы (жудасна бруднай, хоць і „Цэнтральнай") хлопцаў сустрэла нэрвова настарожаная старая яўрэйка. Яна чамусьці нічога не папытала, а павяла адразу па гнілым калідоры і паказала на дзьверы трэцяга нумару. Адчыняючы дзьверы, Лясьніцкі адчуў прыемна-вострае ўзрушэньне, бо чакаў, што тут будзе разгадка ўсёй гэтай дзіўнай гісторыі.

У шэрым пакоі шэрай воўнай паклычыўся змрок—знадворку ўвайшоўшы здавалася, што ходзіць ён блытанымі бязладна-парванымі хвалямі. У змроку гэтым ціха зусім было (а чакалі нечага шумлівага, рэзкага), за сталом, узьлёгшыся шчакой на руку, сядзела жанчына. Як увайшлі, яна паволі і, здалося, зусім бязуважна падняла галаву, паглядзела на іх. Лясьніцкі ўпіўся вачмі ў яе твар, у бледны зусім ад змроку, і баяўся пазнаваць, каб не памыліцца, бо відаць было ў гэтым аценёным твары толькі нешта нявыразна-знаёмае, такое, што бачым мы ў кожным блізкім для нас чалавеку.

Жанчына ласкава іх прывітала і запрасіла сесьці. Быў адзін момант, калі, нават пачуўшы голас і пазнаўшы яе Лясьніцкі ня мог паверыць, што гэта Ніна, ня мог злучыць яе вобразу з вобразам гэтае бледнае ў змроку жанчыны— і Нінін, так добра знаёмы, голас здаўся спачатку дзіўным, неабычайным. Сталася так мабыць затым, што зусім неспадзяваная была гэта сустрэча.

Ніна гаварыла ціхім напружаным голасам:

— Я адкупіла вас за тыя грошы, што пакінуў Андрэй. Я сама надумалася гэта зрабіць, бо Андрэй яшчэ не вярнуўся... Ня ведаю, што гэта за грошы—Андрэй казаў іх дужа бярэгчы... Але-ж, мне здаецца, за жыцьцё трох чалавек можна было аддаць іх, га?.. Як вы думаеце?..

У яе голасе чуваць была шчырая турбота. Яна ня ўпэўнена была ў тым, што зрабіла так, як было патрэбна і неабходна. Каб заспакоіць яе, Лясьніцкі сказаў:

— Тут можна разважаць толькі аб тым, ці варта было нас выручаць, ці ня варта. Што датыча спосабу—іншага быць не магло...

Тады Ніна ласкава засьмяялася.

— Ну, як гэта ня варта! А што-ж: кінуць вас—пагібайце сабе! Ого... Нам людзьмі раскідацца не выпадае... Людзі многа каштуюць...

Ніна запаліла лямпу, і дрыготнае крывое сьвятло цьмяна адкрыла яе змучаны твар, паказала глыбока-запалыя вочы—

цёмныя і марудныя, поўныя зморы. Яна пачала апавядаць, як давялося ёй вызваліць іх з нямецкага палону.

Я атрымала вестку вашу ў той самы дзень і адразу паехала. Больш ня было каму, бо Андрэй не вярнуўся, а знайсьці другога каго, каб даручыць гэту справу, мне не ўдалося... Адразу было дужа трудна—мне немцы проста ня верылі. Мабыць думалі, што ў мяне грошай няма, што я так толькі з імі таргуюся. Тры дні я білася тут, кідалася ўва ўсе бакі... Змарылася... Дужа змарылася... Сёньня я сустрэла на вуліцы паручніка і запрасіла сюды. Ён прышоў і я паказала яму свае грошы, каб спакусіць... Я думала, што ён адбярэ—у яго так сквапна загарэліся вочы—я нарыхтавалася абараняць іх, рашыла, што лепш памру, а не аддам яму так... Але вышла да сьмеху проста, зусім пагандлярску. З поўгадзіны мы з ім таргаваліся і кончылі тым, што ён аддаў мне вас па тысячы марак за чалавека... Вось і ўсё...

Лясьніцкі жартліва зазначыў:

— Цяпер хоць будзем ведаць сваю рыначную цану... Нішто сабе, тысяча марак... Чэцьвера коняй можна купіць, ды й не абы-якіх...

Хлопцы дружна зарагаталі, а Ніна нібы й не пачула гэтага жарту. Яна нярухома глядзела на жаўтлявы агонь бруднае лямпы, аддаўшыся глыбокай задуме. Потым з відочнай патугай адвяла ад сьвету свае марудныя вочы (погляд бясьсільна расплыўся ў віхлястай муці пакою) і ціха, быццам сама для сябе, праказала:

— Дамоў трэба... Каб як скарэй... Трудна так, калі ня ведаеш, што там...

Лясьніцкі тады з раптоўнай рэзкасьцю ўспомніў пра тое, што адбылося нядаўна ў Ніны ў жыцьці—ён чамусьці страшэнна спалохаўся і ў незразумелай трывозе схапіў яе за руку.

— Ніна! А сын ваш як? Дзе ён?..

Ужо сказаўшы і ўбачыўшы, як балюча здрыганулася ад гэтых слоў Ніна, Лясьніцкі зразумеў, што ня трэба было цяпер пра гэта пытацца, што закрануў ён няўмысьля сьвежую рану яе. Ніна сударгава заціяла вусны, каб схаваць сваё

хваляваньне, але яны—бледкыя, няслухмяныя—пачыналі нэрвова сморгацца ўніз ды й ў вачох у яе ўжо срабрыста дрыжэлі першыя кропелькі сьлёз. Ёй-бы трэба было часінку цяпер памаўчаць, каб заціснуць узрушаныя пачуцьці, каб праглынуць усплыўшую горкасьць, а яна пачала гаварыць (не хацела, мусіць, маўчаньнем сваім скутаць усіхны настрой), і голас выдаў яе—ён быў дрыжачы, раскеплены нейкі, зусім расслаблены хваляваньнем.

— Сын быў хвораныкі, як я кінула... як паехала... Я нічога ня ведаю... Там Славін... Славін даглядае яго... А можа да гэтага часу... ня ведаю я нічога...

Яна змоўкла і хлопцы маўчалі—сядзелі ўсе хмурыя ад зацятага ў нутры спачуваньня і яшчэ ад нейкага пачуцьця—ні то сораму, ні то каяньня (быцца гэта яны вінаваты, што Ніна дзяцёнка хворага кінула). Але-ткі Лясьніцкі загаварыў—і трудна азначыць была, ці ён вінаваціць яе, ці сам адчувае сябе вінаватым. Ён так сказаў:

— Нашто было гэта рабіць? Вы можа праз нас згубілі дзяцёнка... Хай-бы неяк іначай... Гэта-ж—ахвяра, цяжкая, ахвяра...

Ён сам адчуваў, што гаворыць ня тое. Ён знаў, што Ніна зрабіла правільна, што яна павінна была так зрабіць—гэта быў яе абавязак. Ён гаварыў затым, што дзіўна і страшна было бачыць так блізка самаахвярнасьць чалавека (так, гэта была самаахвярнасьць) і, што найважней, бачыць яе ў такім простым і ціхім выглядзе, бяз ніякай надворнай яскравасьці, бяз прыгожае, бліскучае формы.

А Ніну словы Лясьніцкага яшчэ больш узрушылі. Яна гнеўна блюснула вачмі (некалі было так з Славіным) і рэзка—скрозь сьлёзы—адказала:

— Я не для вас гэта зрабіла... Вы ня маеце права мне так гаварыць...

Потым, раптоўна зьмяніўшы тон, загаварыла хапліва, горача, быццам сьпяшалася некуды.

— Лясьніцкі... слухайце... Мне трэба з вамі з адным астацца... Пагаварыць трэба... адзін-на-адзін...

Хлопцы на-сьпех разьвіталіся і вышлі з пакою. Тады Ніна дала поўную волю сваім пачуцьцям. Ужо ўсхліпваючы ад цяжкога даўкага плачу, яна ў нэрвовай пасьпешнасьці гаварыла:

— Я буду плакаць, Лясьніцкі... Я ня стыдаюся вас... я вам веру... Лясьніцкі... гэта слабасьць... часовая... Вы сьмяяцца ня будзеце... вы разумееце. Каб мне ведаць, як там, дык я-б ня плакала... Гэта хвіліна проста... Не зважайце на гэта, Лясьніцкі. Я зусім слабая стала...

Лясьніцкі не суцяшаў яе, не кратаў зусім, бо знаў, што ад гэтага горш яшчэ будзе. Яна сама праз хвілін пяць супакоілася і, старанна абцёршы твар, загаварыла ўціхамірана-роўным голасам:

— А трэцяй гадзіне раніцы сюды прыедзе фурман, я змовілася... Мы паедзем разам у горад... Пэўна, Андрэй вярнуўся ўжо, навін сьвежых прывёз... Каб скарэй з гэтымі немцамі кончылі—мір нам дужа патрэбны цяпер...

У словах Ніны ўжо чулася абычайная для яе спакойная руплівасьць, якая здавалася асабліва сымпатычнай тады, калі гаварыла Ніна пра агульную справу, калі ў вялікі клопат мільёнаў людзей улівала шчырую цеплату сваёй жаночай турботы—такой простай і праўдзівай, роджанай з самай глыбіні істоты.

Лясьніцкі адчуваў глыбокую павагу да Ніны—ён хацеў цяпер сказаць ёй нешта прыветнае, ласкавае і разам з тым многазначнае, каб паказаць, што ён разумее яе, што яны блізкія адзін аднаму. Ён пачаў асьцярожна, з прадмовай, каб ня спудзіць яе ўціхаміранага настрою.

— Вы, Ніна, ня злуйцеся, калі я можа глупства якое скажу... Да-душы, я хочу так, патаварыску... Мне трэба гаварыць, каб зафіксаваць неяк гэты настрой мой... цяперашні... Я, сапраўды, адчуваю да вас цяпер нешта страшэнна добрае. Вы казалі, што вы слабая... Ды не, вы не слабая, Ніна. Я зьдзівіўся сёньня ад вашай сілы... Я дужа ўдзячны вам—не за тое, не... Вось за сілу за гэту, за непасрэднасьць... Неяк сам сьмялейшы робішся, калі такіх людзей су-

стракаеш... Сапраўды... Я зусім сур'ёзна кажу, што вы, Ніна, моцны і добры чалавек... Вы—слаўны таварыш...

Ніна глядзела на яго з чыстай і ласкавай усьмешкай. Потым, як кончыў ён, яна ў лёгкай задуме сказала:

— Жыцьцё ў мяне, Лясьніцкі, было цяжкое—яно выхавала мяне... Вы-ж ведаеце—я некалі вам гаварыла—змалку прышлося цярпець... Матку страціла, брата, бацьку. Усё жыцьцё—нястача, гарота... Вось і шукаеш нечага лепшага, верыш у яго, захапляешся... А цяпер я чамусьці канчаткова ўпэўнена, што скора знойдзем мы гэтае лепшае. Таму я й проста гляджу на ўсё, ня маю сумненьняў... А слабасьць усё-ткі нападае часамі... Люблю, вось, сына, да болю шкода яго... пэўна, памрэ... а мо' ўжо памёр... Горш няма, як ня ведаеш...

Яна зноў пачала хмурнець, заблішчэлі раптоўнай сьлязой яе добрыя шэрыя ночы. Лясьніцкі пастараўся перавесьці гутарку на другую тэму—напамянуў пра справу, якую яны тут зрабілі, і Ніна папрасіла расказаць аб усім па-парадку. Яны рашылі зусім ня класьціся спаць, і прагаварылі аж датуль, пакуль ня прыехаў фурман.

ДЗІЦЯ памёрла на руках у Ніны на другі дзень пасьля таго, як яна вярнулася ў горад. У гэты час у хаце ў яе былі Лясьніцкі і Славін. Калі заціхлі апошнія—недалужныя і жаласныя стогны дзіцяці, Ніна спынілася сярод хаты, і колькі хвілін глядзела на пасінелы тварык малога, быццам вывучала на ім незразумелы дзікі ўзор халоднае сьмерці. Потым асьцярожна паклала яго на ложак і зноў пільна ўглядалася ў нейкім тупым і цяжкім задзіўленьні. Нарэшце сказала ледзь чутна—нібы разважала сама з сабой:

— Як мала жыў... А мог быць вялікім і моцным...

І ў глыбокай задуме адышла ад ложку, пачала глядзець у вакно. Тады да нябожчыка падышоў Нікадзім Славін і, гледзячы на яго, загаварыў цягуча і жаласна:

Так... Мог быць вялікім і моцным... Вось так сьмяецца жыцьцё над чалавекам. Няма ні ў чым пэўнасьці—усё залежыць ад выпадковых і больш за ўсё недарэчных сытуацый, усяму ў любы момант пагражае сьмерць... Які здаровы ён быў радзіўся... І жыў-бы, каб ня выпадак... Страшна робіцца, жудасна... Выпадкова жывём, выпадкова паміраем... Няма нічога пэўнага, сталага...

Ніна падышла да Славіна і зьлёгку адпіхнула яго рукой.

— Ідзіце вы, Славін, ня каркайце... Ідзіце цяпер ад мяне, я хачу быць адна... Ну, ідзіце ўсе, хутчэй!

Хлопцы нерашуча пераглянуліся—ці варта кідаць яе адну?—але яна яшчэ з большай настойнасьцю папрасіла, і яны вышлі.

Пад вечар, калі ў убогай—маленечкай і нейкай сьмешнай труне нясьлі дзяцёнка на могілкі, Ніна была ўжо зусім спакойная—яна ішла са Славіным і ўвесь час аб нечым з ім гаманіла. Наогул з гэтага дня Лясьніцкі амаль што заўсёды сустракаў яе з Славіным. Ён з цікавасьцю прыглядаўся да іхных адносін, але ўбачыць у іх што-небудзь пэўнае яму не ўдавалася. Часамі паміж іх панавала цёплая прыязнасьць (з боку Ніны яна была нават асабліва выразная, падкрэсьленая), а часамі Ніна рабілася сухой і глуха-замкнёнай—тады веяла паміж іх халодная чужасьць, і тады Славін страшэнна мучыўся. Лясьніцкі дагадваўся, што гэта Ніна стараецца пакахаць небараку Славіна, і дзень-у-дзень чакаў канца гэтае цікавае гульні. Аднак, неўзабаве яму прышлося спыніць свае назіраньні, бо арганізацыя камандыравала яго для працы на вёску.

Вандруючы па вёсках і наладжваючы сувязь з рэвалюцыйнымі ячэйкамі, а часам нават з асобнымі таварышамі, Лясьніцкі пільна прыглядаўся да жыцьця сялянскае грамады, старанна вывучаў захаваныя рухі сялянскіх настрояў, рабіў падрахункі рознастайных сымпатый і жаданьняў, якімі жыло ў той час беларускае сялянства. Ён адразу пераканаўся, што тая стыхійная барацьба, якую ўзьняў на вёсцы Кастрычнік і якую з зьвярынай жорсткасьцю пяліся задушыць перш

польскія легіоны, а потым кайзэраўскія палкі, што гэтая барацьба толькі ўвайшла ў глыб, захавалася, а тымчасам бушуе, бурліць, пагражае магутным выбухам свае бязьмежнае патэнцыяльнае сілы. Ён бачыў, як прыгнечанае сялянства памалу, але настойна змагаецца з памешчыкамі, што панаехалі зноў, заселі ў сваіх разбойніцкіх гнёздах. Ён бачыў, як абабранае да ніткі—яно то там, то сям дае жудасна-ўпарты дружны адпор нямецкім рабаўнікам. Ён бачыў, як знэрваваная, раздражнёная сялянская моладзь стыхійна арганізуе партызанскія атрады, гатовая да шырокае масавае барацьбы. Ён бачыў, як па ўсёй окупаванай Беларусі з кожнай гадзінай расьце нястрымана-настойнае патрабаваньне міру і волі, як з кожнай гадзінай сьмялейшым робіцца погляд, з палкай надзеяй накіраваны туды, на ўсход, адкуль павінны прыйсьці чырвоныя збавіцелі... І разам з тым, як ён усё гэта бачыў, у ім гартавалася сіла і воля барацьбіта, сьвядомасьць жалезнай лучнасьці з колектывам, за які і разам з якім ён змагаецца. Часамі яму здавалася (ён амаль што фізычна адчуваў гэта), што ўзмыўна-бурлівае народнае абурэньне ўзносіць яго на сваіх хвалях некуды высока-высока, на страшное і прыгожае ўзвышша—там бліскавіцы, ветры парыўныя, злосныя, там сьціскаецца сэрца ад наплыву дзікаімпэтнага парываньня і ў грудзёх узьнімаецца новая непераможная сіла—жалезная сіла колектыву—і штурхае, нясе ў барацьбу—да перамогі, да вызваленьня...

Калі ўжо ў пачатку восені вярнуўся Лясьніцкі ў горад, ён засьпеў там надзвычайна нэрвовы, мятушлівы настрой, якім было ахоплена ўсё жыхарства. За тыдзень перад гэтым па гораду пайшла выразная і пэўная чутка, што немцы пакідаюць горад, што прыходзяць сюды чырвоныя. А дні праз два пасьля гэтага сярод белага дня і на ўсіхных вачох праляцеў па галоўнай вуліцы гораду аўтомобіль, на якім жвава трапятаўся вясёлы чырвоны сьцяг. На аўтомобілі сядзела некалькі чалавек у скураных тужурках, з наганамі—яны задорна пазіралі на публіку і ўсьміхаліся. Пра гэты аўтомобіль за дзесяць хвілін прачуў увесь горад, і ўсе ведалі, што

гэта прыяжджалі бальшавіцкія прадстаўнікі для папярэдніх перамаўленьняў з нямецкім камандаваньнем.

З гэтага пачалася сумятня. Заварушыліся мясцовыя буржуі, закідаліся ў жорсткай ліхаманцы нечаканага спалоху. Пачаўся пасьпешны, поўны турботы і панікі, выезд з гораду большасьці багатыроў. Некаторыя ехалі стала, з усім сваім дабром (паслужныя немцы за казачныя цэны прадавалі вагоны і нават цэлыя эшалоны), іншыя выбіраліся ўлегцы— абы вынесьці ўласную шкуру. Гэтая сумятня асалапелых паноў адбівалася і на іншых колах жыхарства, ствараючы агульны нэрвова-напружаны настрой.

У гэту пару энэргічна ўзялася за працу мясцовая бальшавіцкая організацыя. Ня выходзячы з падпольля, яна здолела разгарнуць шырокую дзейнасьць па падрыхтоўцы да ўстанаўленьня ў горадзе савецкае ўлады. Вывучалі, падрахоўвалі свае і варожыя сілы, падбіралі кадры савецкіх працаўнікоў, шукалі і бралі на прыметку матэрыяльныя магчымасьці, якія-б можна было скарыстаць у першую часіну. З гэтай мэтай рабілі спробы затрымаць некаторых багацейшых буржуяў—каб ня даць ім вывезьці з сабой золата і каштоўных рэчаў. І адначасна з гэтым вялася праца сярод нямецкага войска—у той час нямала нямецкіх салдат перайшло да чырвоных і ня мала асталося ад немцаў рознай вайсковай маемасьці.

Перад самым ужо прыходам чырвоных організацыя праведала, што ў горадзе зьбіраецца контр-рэволюцыйны атрад, які мае на ўвазе змагацца з чырвонымі пасьля таго, як горад пакінуць немцы. Было адразу вядома, што на чале гэтае справы стаіць купка памешчыкаў, маёнткі якіх знаходзяцца пад чырвонымі, але натрапіць на самае іхнае логава ўдалося толькі за два дні да выхаду немцаў.

У той дзень гадзіне а трэцяй спаўдня за Лясьніцкім забег адзін з таварышоў і сказаў, што трэба зараз-жа ісьці да Андрэя. Праз хвілін дзесяць яны ўжо ўваходзілі ў той мізэрны домік на акрайнай вуліцы—у Андрэеву патаемную кватэру. Там было ўжо некалькі чалавек сваіх. Як увайшоў

Лясьніцкі, Андрэй чамусьці з жвавай пасьпешнасьцю зьвярнуў на яго ўвагу:

— Ага! Вось хто ведае! Ён там быў не адзін раз... Яго нам зараз і трэба...

І, убачыўшы няўцямна-зьдзіўленую міну Лясьніцкага, зьвярнуўся да яго:

— Разумееш, Васіль, які выпадак... Мы знайшлі галаву гэтае чорнае сотні... Ведаеш, хто ў іх там найважнейшы? Зямляк твой, Карл Іванавіч Шэмпель... Зараз табе трэба пайсьці туды з кім-небудзь і прасачыць, каб ня зьехаў куды... Увечары зробім напад на кватэру і паспрабуем яго ўлавіць... Разумееш?

— Добра!

Лясьніцкі нічога не распытваў, не чакаў больш тлумачэньняў,—узяў з сабой яшчэ аднаго хлапца і пайшоў на знаёмую вуліцу. Ад гэтае раптоўнае весткі, ад гэтага дзіўнага нечаканага супаданьня зьбіўся настрой яго ў нявыразна-глухое і даўкае пачуцьцё—ні то прадчуваньне нейкае сашчаміла сэрца, ні то тачыла нутро боязьнь магчымай сустрэчы—недарэчнай і непатрэбнай. „Карлу" ён і ня ўспомніў—адразу ў думках мігнула і асталася ўжо там паненка Раіса—яна й абудзіла гэтае прыкрае пачуцьцё.

Калі да знаёмага дому аставалася крокаў з пяцьдзесят, Лясьніцкі заўважыў, як адтуль вышаў нейкі мужчына і падаўся ім насустрэчу. Яшчэ здалёку Лясьніцкі ўбачыў у ім нешта знаёмае, але канчаткова пазнаў толькі тады, як асталося крокаў пятнаццаць. (Ды й то не паверыў адразу—ня мог зразумець, чаму ён вышаў ад „Карлы"). Гэта йшоў Матрунін.

На вялікае дзіва Лясьніцкага Матрунін пазнаў яго і яшчэ здалёку прывітаўся з едка падкрэсьленай далікатнасьцю.

— Добры дзень, малады чалавек! Як даўно мы ня бачыліся! Гуляеце, ці па справе куды?

Усьмешка ў Матруніна зусім брыдкая—лісьлівая і разам з тым злосная. А твар стаў яшчэ драбнейшы і яшчэ больш

паморшчыўся—недалужны такі, старэнечкі твар. Лясьніцкаму здаўся Матрунін зусім няпрыемным. Ён наўмысьля перапытаў груба і фамільярна:

— А вы, дзядзька, таксама, мусіць, гуляеце?

— О, не! Я іду на экстраны сход нашае партыі...

— Бальшавікоў сустракаць рыхтуецеся?..

— Хе-хе... Мы іх сустрэнем, так-так... Ого! Мы й зладзеяў можам сустрэць... Калі ласка, заходзьце ў кватэру, вось нашы рэчы... можа шклянку чаю? Хе-хе... Прыходзіцца сустракаць, даражэнькі...

Лясьніцкі заўважыў з выразным націскам:

— А некаторыя ўцякаюць...

Стары дробненька замятушыўся.

— Нам ня страшна... Мы аддалі ўсё-чыста на рэвалюцыю... Больш ня маем... Выбачайце, калі ласка... Можа скуру возьмеце нашу? Хе-хе...

І ўжо заварочваючыся ісьці, ён запытаў з хітрым намёкам:

— Вы-ж таксама, здаецца, партыйны? Га, малады чалавек?..

Лясьніцкаму чамусьці стала зусім зразумела, чаго быў Матрунін у „Карлы". І яшчэ ўспомніў ён, як казалі яму ў організацыі, каб асьцерагаўся мясцовых „соцыялістых", якія выдадуць хутчэй, чымся хто іншы. Лясьніцкі падумаў:

„Так. Гэткія могуць выдаць, могуць прадаць..."

Да вечара хлопцы праседзелі ў нейчым глухім затравянелым садку, у які зусім лёгка было ўлезьці праз дзіравы шчыкет і з якога добра відаць быў пярэдні фасад патрэбнага ім дома. У дом прыходзілі і з дому выходзілі розныя незнаёмыя людзі, але Карлы было ня відаць. Потым, пад вечар, на канцы вуліцы паказалася некалькі сваіх, і хлопцы вылезьлі з саду, пайшлі ім насустрэчу.

Да цёмнага сабралася чалавек дзесяць узброеных хлопцаў. Спачатку хацелі атачыць дом з усіх бакоў, але потым рашылі проста зайсьціся з параднага ходу і ў поўным парадку, зусім формальна зрабіць патрэбныя арышты.

Гадзіне а дзесятай падышлі да дому. На гэтай вуліцы ня было зусім ліхтароў, і толькі з яскрава асьветленых вокнаў слаліся на дол шырокія снапы сьвятла ды над ганкамі цьмяна блішчэла слабенькая электрычная лямпачка. Хлопцы спачатку трымаліся ў цемры, а потым сьмела ўвайшлі ў ў асьветлены пляц і падышлі да ганкаў.

Лясьніцкі ішоў наперадзе — яму даручылі кіраваць гэтай справай. Ён сьмела і цьвёрда ступіў на першую прыступку, але якраз у гэты момант расчыніліся дзьверы і на ганкі вышла Раіса. Яна адразу заўважыла хлопцаў і спынілася, сьцеражліва азіраючы чужых, незнаёмых людзей. Лясьніцкаму трэба было затрымаць яе (потым так разважалі), але ён замяшаўся ад нечаканасьці і моўчкі глядзеў на яе, ня ведаючы, што рабіць. Тады Раіса рэзка завярнулася і пайшла назад, гулка ляпнуўшы за сабой дзьвярмі. Лясьніцкаму здалося, што яна пазнала яго і што ў той момант, калі былі сустрэліся іхныя погляды (ён стаяў наперадзе ад усіх), у яе вачох загарэўся востры варожы агонь.

Дзьверы былі завалены. Лясьніцкі раздражнёна, сярдзіта ляпаў у іх і лаяўся, а хлопцы выдумлялі розныя спосабы, як дабіцца ў хату. Усе былі перакана违, што дзьвярэй цяпер ужо не адчыняць. Ĭ ўсе памыліліся. Праз хвіліну ці дзьве пачуліся ў сенцах важкія крокі, загрымеў завал і манумэнтальная цётка Раісы адчыніла ім дзьверы. Потым хлопцы дазналіся, чаму ім зрабілі такую ласку, а ў першы момант страшэнна зьдзівіліся і нават не адразу адважыліся ўвайсьці ў хату.

Ува ўсім доме яны не знайшлі ніводнага чалавека, апрача Раісы і яе цёткі. Раіса сядзела ў сваім пакоі. Лясьніцкі туды не пайшоў і ня бачыў яе, але хлопцы потым казалі, што была яна страшэнна ўсхваляваная і ні з кім не гаварыла ні слова — толькі злосна бліскала вачмі ды кусала бледныя дрыжачыя вусны. А цётка гаварыла занадта многа, сама чаплялася ў гутарку, ахвотна паказвала ўсе закавулкі ў доме, дзе толькі мог схавацца чалавек. Гэта адразу зьдзівіла Лясьніцкага, але самая здагадка мігнула ў яго галаве

тады, як наўзаметку заўважыў ён прагна-чакаючы погляд цёткі, накіраваны на дзьверы. Тады ён крыкнуў, як сіла:

— Хлопцы! Уцякайце хутчэй, тут нам пастку рыхтуюць!

І сапраўды, не пасьпелі яны рассыпацца ў цемры, як пачаўся кароткі абарваны тупат коняй: к дому пад'ехаў нямецкі атрад. Стала ясна цяпер, што „Карла" ўцёк праз задні ход і выклікаў немцаў. Так няўдала скончылася была гэтая сьмелая спроба ўлавіць заводцу контр-рэволюцыйнае хэўры. Аднак гэтая чорная зграя нічым не пасьмела сябе праявіць пасьля таго, як горад забрала чырвонае войска.

І ВОСЬ надышоў той гістарычна-яскравы дзень, калі ўзьвіўся над горадам чырвоны сьцяг і калі ў горад прышло дзіўна-новае жыцьцё, у якім перапляллася жорсткая цьвёрдасьць далёкіх паходаў з барвістым агнём прыгожых лятункаў. Прышло жыцьцё, поўнае рэзкіх контрастаў і цудоўна-дружных суладзьдзяў.

Гэта было блізка другой гадзіны спаўдня, а ў той самы дзень гадзіне а адзінаццатай зранку Лясьніцкаму выпала быць сьведкай таго, як ад няўдалага ходу ў жыцьці жоўкнуць у чалавека кветкі захаваных і таму асабліва яскравых лятункаў, як вяне душэўны запал і як астаецца ён, чалавек, з халоднай жменькай шурпатага попелу на дне апусьцелай душы.

Славін сам прышоў да Лясьніцкага (куды-ж ён дзенецца больш!) і зрабіў від, што ён зусім спакойны, абсолютна нічым не ўстурбованы. Калі ён сказаў, што паедзе на вёску, дык, хто ня знае яго, мог-бы падумаць, што й сапраўды ён едзе туды па нейкай справе. Але-ж гэта той, хто ня знае, а Лясьніцкі зразумеў з першага погляду, што Славін прынёс нешта цяжкое, балючае і што яго штучная бязуважнасьць ня больш, як на колькі хвілін.

Славін, сказаўшы некалькі слоў, змоўк і ўпяўся ў вакно цяжка-застыглым маркотным поглядам. За ім мімаволі зір-

нуў у вакно і Лясьніцкі—там было, на дварэ, хмарна і шыза (сьляпы восенскі дзень), і калі Лясьніцкі перавёў погляд на шызыя вочы Славіна, дык здалося яму, што нутро ў беднага Нікадзіма якраз такое цяпер, як гэты нярадасны дзень.

Перад тым, як пачаць гаварыць, Славін неспакойнымі рукамі працёр акуляры (без акуляраў вочы ў яго лысыя і вялыя) і неяк зусім павучнёўску паправіў рэмень, абсмаргнуў сваю даўгую задрыпаную сарочку.

— Сільнаму, Васіль, добра ў жыцьці—толькі сільны можа знайсьці сабе... не знайсьці, а ўзяць, адабраць, вырваць усё, што патрабуе яго натура, што яму падабаецца, а гэта значыць—на што ён мае права... Ты думаеш, тут несправядлівасьць якая? Гэта—найвышэйшая, найглыбачэйшая справядлівасьць... Так, так... Сільны бярэ, бо ён скарыстае—поўнасьцю, без астачы, а слабы толькі папсуе, памусоліць... Нашто псаваць прыгожыя рэчы! Аддай іх таму, у каго ёсьць сіла спажыць, праглынуць, здаволіцца... Ха-ха... Вось—справядлівасьць!.. Аддай, ня трымайся дарма, бо... адбяруць, усё роўна, ха-ха...

Славін неяк цяжка-цяжка згарбаціўся, панура ківаў галавой і ўсьміхаўся бязьмежна горкай усьмешкай—ён здаваўся цяпер яскравым увасабленьнем людзкога расчараваньня. Потым ён сударгава ўзьняў галаву, зірнуў у твар Лясьніцкаму дзіка-зьбянтэжаным поглядам і загаварыў шпарка, хапліва, не саромячыся таго, што голас дрыжыць і рвецца ад сьлёз, што вусны трасуцца, ледзь спраўляюцца прапускаць напорна-блытаныя словы.

— А нам-жа як, га? Слабым як, скажы? А нам-жа хочацца трошачку шчасьця, жыцьця, як усім... Мы-ж таксама любім прыгожыя рэчы, як нам жыць бяз іх, га? Што нам рабіць? Скажы, што-ж нам рабіць?..

Лясьніцкі адказаў—ні то жартам, ні то сур'ёзна:

— Філёзофстваваць.

Славін на хвіліну задумаўся.

— Так... Ты жартуеш, а сказаў праўду. Калі ня возьмеш нічога ў жыцьці, калі адбяруць усё-чыста, тады трэба

стварыць жыцьцё ў сваім-жа нутры, міраж тады трэба, ілюзыя... Мы, слабыя людзі, усе фантазёры вялікія, выбражэньне нам замяніла і волю і, калі хочаш, розум... Ведаеш, Васіль, мне здаецца, што толькі слабыя людзі могуць быць мастакамі, бо мастацтва—гэта вышэйшая мяжа ілюзыі, і сільны чалавек тут ня зробіць нічога—выбражэньня ня хопіць...

Лясьніцкі далікатна паспрабаваў узьвесьці яго на больш конкрэтную тэму.

— Во што, Славін... Я разумею прычыну гэтых тваіх разважаньняў—ты можаш яе мне не гаварыць... Але мне цікава, што ты хочаш рабіць далей? Ты ўжо думаў аб гэтым ці не?

Замест адказу Славін лятуценна адвёў у бок свой расплыўчасты погляд і з сумнай павольнасьцю зацягнуў:

— Яна баіцца, што кіне мяне ў першы момант, як я зраблюся ёй лішні. Яна дзяцёнка свайго дужа моцна любіла—і кінула. Гэта жанчына нязвычайная—у яе многа сілы і розуму. Яна хацела мяне палюбіць, я гэта сам заўважыў... і яна мне казала. Хацела, каб я быў у жыцьці больш да рэчы... так і казала—„да рэчы". Ну, а як я зраблю... Я стараўся, рабіў усё, што мог, каб ня быць „недарэчным". Я ня крыўдую на яе, ані-ні... я буду любіць яе, усё роўна... буду помніць... Гэты час мне здаўся прыгожым—яна часта была дужа ласкавая, і я быў упэўнены, што яна мяне палюбіла. Ну, а цяпер...

— Што-ж ты будзеш рабіць цяпер?

— Я паеду на вёску, у сваю школу... Буду працаваць, каб мець на што жыць, каб не памерці... памерці я ўсё-ткі ня здолею. Ну, і што яшчэ... лятуцець буду, можа верш калі напішу... даўно ўжо ня браўся... вось...

Ён зноў застыгла ўпяўся ў вакно сваім поглядам, і Лясьніцкаму зноў здалося, што ў нутры ў яго павосенску хмарна і шыза, як там, на дварэ, і таксама, як там, асядаюць гнілымі пацёкамі нікому непатрэбныя нудныя сьлёзы.

Пасьля полудню хлопцы разам пайшлі ў горад. Седзячы ў хаце, яны зусім ня прымецілі, як распагодзілася і пасьвят-

лела на дварэ. Цяпер па небе плылі—сьпяшаліся некуды—рашуча парваныя, зусім ня страшныя хмары, спаміж якіх выглядалі лапікі сьвежа-сіняга неба, а па мокрых вуліцах ужо поўзала жаўтлявае і рэдкае (восенскае) сонца.

На галоўнай вуліцы хлопцаў увабрала ў сябе густая, шумлівая патока народу і пацягнула к масту, адкуль павінны былі прыйсьці чырвоныя. Горад быў поўны пярэста-звонкага мятушэньня, у якім мяшалася радасьць адных з адчаем другіх, у якім крыкі вясёлага захапленьня ахіналіся глухой буркатнёй нездаволеных, у якім было толькі адно агульнае для ўсіх—гэта напружанае, нэрвовае чаканьне нечага яскравановага, што павінна прыйсьці зараз з таго боку Дняпра.

Яшчэ сустракаліся на вуліцы апошнія ўцекачы, якія ўжо, пэўна, і самі ня ведалі, куды яны ўцякаюць, дзе будуць шукаць прытулку ад незразумела-грознае сілы. Лясьніцкі бачыў, як купка людзей спыніла аднаго мешчаніна, які праз нейкае напаразуменьне ўбіўся ў хэўру багатыроў з невялічкім возам свайго небагатага рызьзя. Яны з сьмехам пачалі яго ўгаварваць, і ён перш сьпіраўся, а потым размашыста плюнуў і завярнуў назад сваю худую шаўлюжку. Яго праводзілі радасна-дзікімі крыкамі і шалёным рогатам.

Дзе-ні-дзе яшчэ відаць былі асобныя нямецкія коньнікі, а ўжо перад самым мастом праскакаў насустрэчу натоўпу эскадрон „гусараў сьмерці“, апошні раз бліснуў сваймі бліскучымі, аздобленымі эмблемай сьмерці, каскамі.

На беразе Дняпра было поўна народу. Сям-там адзінотна і нясьмела луналі чырвоныя сьцягі, дзе-хто начапіў сабе ўжо, адпаведна моманту, чырвоныя банцікі. З неба ліўся ясны і сьвежы восенскі дзень, пераплятаў хвалі народнага ажыўленьня яскравымі касьнікамі чыстага сонца.

Хлопцы ледзь знайшлі сабе месца, адкуль відаць быў пачатак маста. Чакаць было весела. Вакольны гоман і шум узьнімалі ў нутры прыемна-лёгкае хваляваньне—яно неяк узмыўна расло, горача апаласквала грудзі, пераходзіла ў радасьць, у захапленьне,—тады дужа хацелася крыкнуць штонебудзь або запець нейкую вясёлую хвацкую песьню.

Аб тым, што ідуць чырвоныя, паведамілі гукі оркестры, якія раптам прыляцелі адтуль, з-за Дняпра, і прымусілі натоўп замятушыцца ў новым, ужо зусім жывым і вострым, хваляваньні.

У Лясьніцкага чамусьці сьціснулася сэрца. Мімаволі затаіўшы дыханьне, ён упяў у той бок, адкуль ляцелі гукі, свой гарачы напружаны погляд. Неяк проста ня верылася, што вось зараз прыдуць свае, што прынясуць зараз сюды той дзіўны, нябачаны ў сьвеце парадак, які так многа нясе усім абяздоленым, за які з такім энтузіазмам змагаюцца і паміраюць.

Набліжаліся і гусьцелі гукі, усё з большай сілай штурхалі перад сабой разгонныя хвалі сталёвага ўздыму, улівалі ў грудзі агонь магутных неперамožных імкненьняў.

Яшчэ бліжэй—яшчэ больш сілы і больш хваляваньня.

Загарэліся ў сонцы крывавым полымем чырвоныя сьцягі.

Першыя шэрагі. Людзі ў звычайнай рабочай вопратцы—з наганамі, з вінтоўкамі. У іншых кулямётныя стужкі. Гэта партыйная організацыя. У кожнага ў твары—урачыстасьць і сіла. Сіла гэта роджана колектывам—яна адна ўва ўсіх, яна вяжа ўсіх адным непадзельным і непераможным.

Музыка вырасла, абкружыла, заняла ўсю вуліцу, крыкі і песьні ў ёй патонулі—гэта таксама музыка. І таксама музыка—пагрозны гуд чорных бранявікоў, і музыка—жорсткі скрогат гарматаў, і тупат чырвоных колён—таксама музыка.

Непаўторна-прыгожая дзіка-магутная музыка!

І вось ужо на пляцу, дзе калісь блішчэлі мундзірамі і тлустымі тварамі чорная царская стаўка, разгарнуўся шырокі народны мітынг. І нехта крыкнуў каля самага вуха Лясьніцкага:

— Браткі! Сьцяг... Вунь, вунь... угары...

На гарадзкой каланчы ўжо горда лунаў яскравы чырвоны сьцяг.

А на трыбуне зусім нехта знаёмы—вялікі, неўвароткі—крычыць сіпавата-грамоздным голасам, пакрывае ўзрушаны гоман натоўпу.

— Братка! Багун! Багун, ура!.. Хай жыве рэволюцыя!..

Потым хадзілі з песьнямі па вуліцах гораду, ладзілі на кожным кроку лятучыя мітынгі. Лясьніцкі быў зусім ахмелены гэтай урачыстай радасьцю—ён да зьнямогі пеў, крычаў, вылазіў на трыбуну і гаварыў блытаныя палкія прамовы, якімі сам запаляўся бадай што больш, як хто з слухачоў.

Пасьля аднэй з такіх гарачых прамоў, калі ён, сьціснуты натоўпам, стаяў недалёка ад трыбуны і абціраў хусьцінкай спацелы твар, яго нехта досыць выразна штурхануў у плячо. Ён абярнуўся і ўбачыў Халіму—худога, чорнага, з падвешанай на перавязцы рукой.

— Я казаў табе, што сустрэнемся, як бальшавікі прыдуць ў горад... Вось я і тут...

Яны вылезьлі з натоўпу і сталі ў браме нейкага дому.

— Ну, дзе ты быў, Халіма, га?..

Халіма хвілінку змоўчыў, потым адказаў нехаця і бурkліва:

— Гэта ўсё роўна... Ваяваў... А ты гэта ўдала там, на трыбуне... Урачыста выходзіў...

Лясьніцкі ўсьміхнуўся.

— Сёньня не выпадае сачыць за тым, як хто гаворыць. Сёньня гавораць затым, што рвецца з грудзей пачуцьцё. Сьвята-ж у нас вялікае сёньня. А гаварыць як сьлед мы будзем пасьля. Дый не гаварыць, а рабіць—не да гаворак цяпер...

Халіма—быццам і ня чуў Лясьніцкага—прабурчэў панура, сярдзіта:

— Дзе пачынаецца ўрачыстасьць, там канчаецца бунт.

— Ну і што?

— А бунту мала... Яшчэ многа бунту патрэбна... Трэба пашукаць, дзе няма ўрачыстасьці...

— Як гэта разумець?

— А так, што няма мне чаго тут рабіць... Бывай, Васіль!..

— Куды ты?

Халіма не адказаў. Ён моўчкі завярнуўся і пайшоў прэч ад Лясьніцкага—вялікі і нязграбны, як мядзьведзь. З таго

часу ніхто ня бачыў яго і ніхто ня ведаў, дзе ён робіць свой унівэрсальны бунт.

У той самы дзень увечары паехаў і Славін—зарабляць свой кавалак хлеба, лятуцець і пісаць свае сантымэнтальныя вершы.

А над горадам віўся чырвоны сьцяг і ў горадзе пачыналася дзіўна-новае жыцьцё, поўнае рэзкіх контрастаў і цудоўна-дружных суладзьдзяў.

---

# Э П І Л Ё Г

У ПАЧАТКУ восені 1920 году асобны батальён Чырвонае арміі, камісарам якога быў Васіль Лясьніцкі, атрымаў загад у пільным парадку перакінуцца з польскага фронту на ўсход Беларусі для барацьбы з бандытызмам. Асноўным пунктам, вакол якога павінен быў батальён разгарнуць свае опэрацыі, прызначаўся загадам родны горад Лясьніцкага.

Эшалон прышоў а другой гадзіне спаўдня і да вечару разгружаўся. Лясьніцкі толькі а дзевятай гадзіне здолеў выбрацца ў горад. Ён адразу паехаў да Андрэя, бо ведаў, што Андрэй займае ў горадзе адну з адказных пасад і хацеў загадзя пагутарыць з ім аб умовах работы. Апрача таго (а можа гэта й галоўнае) цягнула проста пабачыць блізкіх людзей, падзяліцца ўражаньнямі ды й, нарэшце, хацелася троху паласаваць цёплай хатняй прытульнасьці (восень тая пачыналася мокрай сьцюдзёнай зольлю).

У хаце была Макрына. Яна мусіць узрадвалася прыезду Лясьніцкага, бо ў яе вачох—і цяпер яшчэ дзяціна-чыстых—адразу запыхаў вясёлы іскрысты агоньчык. Яна троху замяшалася, як яго ўбачыла, і, утупіўшыся, глядзела на яго з сарамліва-ветлай усьмешкай.

— Аброс як... Зусім стары нейкі стаў... Барада якая...

Лясьніцкі весела засьмяяўся.

— Глупства. Заўтра пагалюся, дык не пазнаеш... Не адгледзішся—такі буду прыгожы... А дзе-ж вашы?..

— Ніна на вёску паехала, у командыроўку. Яна-ж працуе цяпер у жанаддзеле. А Андрэй мой дык вечна так. Цалюткі дзень ня стыкаецца ў хаце. Чыстае гора...

— Што, нудна?

— Ды ня ў тым... Проста—ладу неяк няма... А нудна—дык не... Часу няма, каб нудзіцца. Я-ж таксама працую, ды яшчэ вось, вучуся... Бачыш?

На стале ляжаў грудок кніг, адна была разгорнута—відаць, Макрына толькі што над ёй працавала.

— Ну і як вучэньне?

— А вось я ўжо дакуль прайшла арытмэтыку... Усе чатыры дзеяньні ведаю ўжо... Во, паглядзі...

Яна ў парыўчатым захапленьні пачала паказваць яму свае посьпехі—забылася нават, што ён у шынэлі яшчэ, што рэчы яго ня прыбрадзены. А Лясьніцкі глядзеў на яе, дабрадушна ўсьміхаўся і думаў:

„Асталася такая-ж наіўная, шчырая і адданая. Яе ня можна ўявіць адну, без апоры, без праваднічага".

Ён узяў у яе з рук кніжку, адклаў яе ў бок і запытаў з сяброўскай фамільярнасьцю:

— Ну, а як ты жывеш усё-ткі, Макрына, га? Так, наогул...

Яна зірнула на яго з лёгкім задзіўленьнем.

— Добра жыву... Працую, вучуся...

— Ну, а як... з Андрэем у вас... га?..

— З Андрэем? (Яна трошку падумала). Андрэю некалі... Мы рэдка бачымся з ім—толькі ноччу, ды й то не заўсёды... А так у нас... што-ж, ён мяне любіць, а я... ня ведаю ўжо, ці можна любіць яшчэ мацней, як я яго...

Потым яна зрабіла ўпэўнена-сур'ёзную міну і дадала з праканалай важнасьцю:

— Гэта-ж не заўсёды так будзе. Вось толькі кончыцца вайна, установіцца наша ўлада—тады паспакайнее, ня будзе хапаньня такога. Тады й жыць будзе лягчэй...

Лясьніцкі ўсьміхнуўся і пачаў парадкаваць свае рэчы. А кончыўшы, без асаблівай далікатнасьці напамянуў:

— Некалі ў нас быў добры звычай: калі прыяжджаюць госьці, дык частаваць іх чым-небудзь.

Макрына перш схапянулася, а потым (успомніўшы мусіць) утупілася і густа пачырванела.

— Няма нічога. Сёньня якраз прыходзіў Андрэй з нейкімі двума—паелі ўсё-чыста.

Лясьніцкі ўспомніў, што ў чамадане ў яго ёсьць два селядцы. Ён весела лэпнуў яе па руцэ.

— Селядца хочаш?

— Ой, як хачу!.. У нас селядцоў не даюць—гэта толькі ў войску. У нас цяпер сачыўку даюць і тараны.

Яны пачалі даставаць селядцы—ладзіць сабе вячэру.

Андрэй прышоў блізка што а дванаццатай гадзіне. Ён прынёс туга набіты портфэль і атмосфэру бязьлітасна-напорнай занятасьці. Здавалася, што з прыходам яго ўсё, што было ў пакоі, прыняло заўзята-руплівы выраз, усё засьпяшалася некуды, затурбавалася. Але не цяжарыла гэтая атмосфэра, не гняла сваёй напружанасьцю. Тут адчувалася нейкая імклівая лёгкасьць—хацелася нешта рабіць, але рабіць з жвавым разгонам, з вясёлай энэргіяй.

Андрэй прывітаўся з Лясьніцкім, потым патрымаў у раздум'і над сталом портфэль і, нарэшце, з адчайнай рашучасьцю кінуў яго.

— Адкладзём на дзень... Ня буду ўжо працаваць сёньня... Будзем гутарыць...

Макрына зірнула на яго гарачым радасным поглядам. А Лясьніцкі сур'ёзна і працавіта заўважыў:

— Я буду гаварыць з табой па справе, а таму ты ўсё роўна ня страціш гэтага вечару.

Андрэй засьмяяўся.

Яны сядзелі гадзіны да трэцяй, і Лясьніцкі апавядаў усё аб сваіх вандраваньнях, аб пярэстым жыцьці сваім, поўным нечакана-яскравых прыгод і небясьпекі. Андрэй слухаў з сваёй нязьменнай—тонкай і мяккай усьмешкай, а Макрына—тая гатова была праглынуць Лясьніцкага шырока-раскрытымі, поўнымі захапленьня вачмі. Аднак разам з тым яна не забывалася ўсё-ткі шчыльна туліцца да свайго Андрэя, абнімаць яго і пяшчотна гладзіць яго вялікія дужыя рукі.

Аб справе гаварылі мала. Але тое, аб чым тут Лясьніцкі даведаўся, так узрушыла яго сваёй нечаканасьцю, што ён доўга ня мог заснуць, апанаваны дзікім наплывам ліхаманкавых думак.

Вёрст за сорак ад гораду, у непраходных нетрах лясоў мае прытулак вялікая моцная банда, якая робіць налёты ня толькі на вёскі, а нават на валасныя цэнтры. На чале гэтай банды стаіць атаман Воліч, а па ўсіх прыметах гэты атаман Воліч ёсьць ня хто іншы, як Карл Іванавіч Шэмпель.

Так расказаў Андрэй. І потым дадаў яшчэ, чамусьці ўпарта гледзячы ў вочы Лясьніцкаму:

— А ў нас у выканкоме служыць яго пляменьніца— Раіса Андрэеўна Янава; ты, здаецца, знаеш яе. Мы прынялі яе праз біржу на тэхнічную канцылярскую працу. Толькі нешта яна дужа благенькая стала...

— А што з ёй?

— Хто яе ведае. Да ты ўбачыш сам яе—будзеш-жа ў выканкоме.

Андрэй, мусіць, проста ня ведаў, што больш сказаць пра Раісу, а Лясьніцкаму чамусьці здалося, што ён ведае нешта, ды ня хоча сказаць. Нават здалося, што й погляд яго стаў нейкі хмура-раскіданы, быццам дужа прыкра яму гаварыць пра гэта і нецярпліва чакае ён новае тэмы. І вось успомнілася Лясьніцкаму тая сустрэча Андрэя з Раісай на станцыі і тыя дзіўныя словы яго—„сьцеражыся яе, як жанчыны“. Ці тут ёсьць нешта глыбока-таемнае, ці проста глупства якое? Заманулася Лясьніцкаму запытаць цяпер у Андрэя пра гэта—моцна захацелася, ня ўсуцерп проста стала—але прышлося ўстрымацца, бо неяк было аб гэтым гаварыць пры Макрыне.

Вось і пайшлі тады блізка што на ўсю ноч сумненьні ды разважаньні. Змучылі зусім, змардавалі.

Назаўтрага Лясьніцкі гадзіне к другой абладзіў свае пільнейшыя справы і пайшоў у выканком. Там тож была ў яго справа, але ён ведаў, што сёньня ўжо позна будзе яе вырашаць—ішоў за другім, хацеў усё-ткі пабачыць Раісу.

У першым—халодна-высокім і раскошным пакоі шумліва цёрся рознапёры натоўп народу. Тут ня відаць было ніводнага супрацоўніка—толькі ў кутку, ля вакна, нейкі старэнькі майстра шчыра поркаўся над пісьмовай машынкай. Лясьніцкі ўлічыў яго за аднаго з мясцовых працаўнікоў і падышоў да яго, каб запытаць, як прайсьці ў выканком.

— Слухайце... Скажэце, калі ласка...

І раптам убачыў Лясьніцкі вострыя, хітравата-лісьлівыя вочы, маленечкі зморшчаны твар, нэрвова-дрыжачыя старчыя вусны. Ён падумаў адразу, што гэта нейкая містыфікацыя, і ў замяшаньні ня ведаў, як абыйсьціся: ці сьмяяцца, ці клікаць міліцыянэра, ці яшчэ што-небудзь рабіць. Але Матрунін—жывы сапраўдны Матрунін—глядзеў на яго зусім сур'ёзна і сьмела, ківаў галавой і гаварыў з нейкай злоснай пакорай:

— Не пазналі, таварыш? Выбачайце, гэта я і ёсьць, так-так... Матрунін, таварыш Матрунін... А вы сталі важным такім, станавітым... хе-хе... Камісарам служыце, таварыш, га?.. А я вось майструю патроху... так-так... Вы не глядзіце, гэта не абы-якая работа... Сьлесар, думаеце, гэта зробіць? Хе-хе... Такіх майстраў у нас на ўвесь горад—два... так-так... Гэта, ведаеце, ня так профэсія, як мастацтва, аматарства... Што-ж, трэба, таварыш, чым-небудзь займацца...

Ён уздыхнуў і хацеў усьміхнуцца з жартліва-лагодненькім жалем (што-ж, такая пара—мы ўсе разумеем і ня крыўдзімся), але вышла едка і кісла—зморшчыўся стары ў недалужнай злосьці, а не засьмяяўся.

Лясьніцкі запытаў для прылікі:

— Ці сустракалі каго з той нашай кампаніі—помніце?

Стары ажывіўся.

— Так-так... сустракаў некаторых... Вашага таварыша неяк сустрэў быў—мы доўга з ім гаманілі, і многа разумных рэчаў ён мне сказаў... Гэта—глыбокі філёзофскі розум і шчырая лятуценная душа... Я з такой радасьцю ўспамінаў сваё юнацтва, калі глядзеў на яго... Але што-ж... Цяпер цяжка такому быць, цяпер век жорсткага практыцызму... Паёк...

Лясьніцкі ледзь прыметна ўсьміхнууся.

— І паёк, які трэба зарабіць...

— Так-так, таварыш... Хто не працуе, той ня есьць... Вось і працуем, і зарабляем...

Ён узяўся за сваю машынку. Лясьніцкі, узрадаваны магчымасьцю адарвацца ад гэтае гутаркі, запытаў у яго, дзе канцылярыя выканкому, і разьвітаўся.

Яго ахінуў сумятлівы лёскат машынак і тлумны хор пасьпешных службовых размоў. Ён ня пытаўся ні ў кога, дзе працуе Раіса, а абхадзіў па парадку ўсе памяшканьні выканкому. На яго ніхто не зьвяртаў увагі—кожны быў цалком заняты сваімі справамі.

Раісу ён знайшоў у вялікім пакоі, дзе сядзела блізка дзесяці супрацоўнікаў і супрацоўніц. Ён прайшоў каля самага яе стала--яна бязуважна ўзьняла на яго стомлены погляд і зноў узялася пісаць. Тады ён адышоўся да бліжэйшага вакна, узяў там нейкую старую газэціну і, зрабіўшы від, што чытае, пачаў разглядаць Раісу.

Яна сапраўды страшэнна зьмянілася. Твар яе і цяпер яшчэ быў прыгожы, але ня было ў ім той нявымоўна-жывой адухоўленасьці, якая рабіла хараство яго асабліва яскравым і дзіўна-прывабным. Цяпер яе твар быў пакрыты хваравітай цьмянасьцю, рысы яго здаваліся залішне выразнымі, рэзкімі. Яна была прыгожая, але ў ёй ня было ўжо той вострай задорнай чароўнасьці, якая некалі так моцна захапіла Лясьніцкага. І яшчэ (Лясьніцкі, заўважыўшы гэта, здрыгануўся ў нейкай незразумелай жудасьці) па твары яе—рэдка зусім, ледзь прыметна—расплылася шызая павучынная сінь, якую некалі бачыў Лясьніцкі ў твары хмурага „Карлы".

Тым часам на Лясьніцкага пачалі зьвяртаць увагу—неяк было стаяць так далей. Ён падышоў да Раісы і прывітаўся. Ён думаў, што яна страшэнна зьдзівіцца, як пазнае яго, аж яна зусім спакойна ўсьміхнулася і падала яму руку.

— Добры дзень, Васіль Данілавіч! Я глядзела на вас і не пазнала. Вы дужа пасталелі і, трэба сказаць, пахарашэлі... Вы тады зусім не такі былі, сапраўды...

Лясьніцкі інстынктыўна зірнуў на Раісу—хацеў у адказ што-небудзь сказаць пра яе, але яшчэ раз убачыў, як яна паблажэла, і замяшаўся. Раіса заўважыла гэты погляд і горка ўсьміхнулася. Тады Лясьніцкі, каб выйсьці з замяшаньня, загаварыў трафарэтна і вяла:

— Ужо больш за двух гадоў, як мы ня бачыліся. Гады накладаюць пячатку на чалавека. А год у нашу пару роўны некалькі гадам—так многа прыносіць ён новага, нечаканага зьместу.

Раіса з той-жа ўсьмешкай перапыніла яго.

— Я гэта ведаю... Я па сабе магла ў гэтым пераканацца...

Яны сказалі адзін аднаму яшчэ колькі дробных нязначных сказаў, і Лясьніцкі пачуў, што трэба ўжо йсьці, каб не замінаць ёй у працы. Яго ахапіла назольліва-прыкрае нездаволеньне (гэта сустрэча не дала яму абсолютна нічога), у ім загарэлася ўпартае жаданьне бліжэй да яе прыгледзіцца, пранікнуць хоць на момант у таямніцы яе жыцьця. Ён запытаў у Раісы, як і дзе яе можна ўбачыць. Перш, чымся адказаць, яна з скэптычнай усьмешкай зазначыла:

— Вы пэўны, што ёсьць хоць маленькая патрэба ў гэтай сустрэчы?

Ён таксама ўсьміхнуўся.

— Я не надаю гэтаму асаблівае значнасьці. Але чаму ня сустрэцца, не пагутарыць.

Раіса хвілінку падумала і адказала:

— Заходзьце ў грамадзкую сталоўку—я там палудную. А адтуль пойдзем... усё роўна, куды. Да сябе я баюся вас запрашаць, бо ў мяне цяпер няпрыгожа зусім. Я займаю ў тым доме зусім малюсенькі пакойчык...

Лясьніцкі разьвітаўся і вышаў.

ТАЯ вуліца была аблямована двумя радамі маладых пышных кляноў. Яшчэ стаялі кляны ў сваім глыбока-зялёным уборы, але ўжо насіўся над імі нявідны і нявыразны

павеў празрыстае восені. Здаецца, усё было яшчэ летняе і нават сонца ў той дзень улашчылася—акунула горад зусім гарачым праменьнем,—але ў звонкім паветры ўжо сеяўся рэдкі восенскі смутак, і хоць яшчэ не ляцела на дол жоўтае лісьце, а ўжо чуўся пах яго—тонкі і дальні. Сумна бывае на сэрцы ў такую пару—точыцца срэбным цурочкам нейкі няведамы жаль, а мо' і ня жаль зусім, а нейкае бязьмежнае шчымлівае імкненьне, і многа чаго ўспамінаецца, многа ўсплывае далёкага, перажытага.

Мабыць, пад уплывам гэтага мякка-смутнага павеву восені так упарта правяраў Лясьніцкі сваё пачуцьцё да Раісы, з такім болем шукаў у ім сьлядоў мінулае палкасьці. Гэта было дужа цяжкое адчуваньне, калі ён бачыў перад сабой жанчыну, да якой некалі меў нязвычайную любасьць, якая магла ашчасьлівіць яго аднэй сваёй ласкавай усьмешкай, калі ён цяпер глядзеў на яе, разглядаў кожную рысачку яе твару і не знаходзіў таго, што тады хвалявала яго, што рабіла яе чароўна-прывабнай, бязьмежна-патрэбнай.

Яны бесьперастаньня хадзілі па прытульнай кляновай вуліцы—яны баяліся сыйсьці з яе, бо адчувалі, што кожнае новае месца штурхне іх на непатрэбную і напэўна штучную блізкасьць. Яны хацелі сёньня гаварыць, як проста знаёмыя.

Раіса адчувала настрой Лясьніцкага, і жаночы інстынкт ёй падказваў, што цяпер усякая, нават самая няпрыметная, спроба кокецтва зробіць яе канчаткова агіднай яму. Таму яна была надзвычайна простая і патаварыску шчырая. Яна апавядала яму пра апошнія падзеі ў сваім жыцьці – гаварыла без асаблівае пачуцьцёвасьці, халаднавата-простым, часамі троху гумарыстычным тонам. Некалькі раз яна нерашуча спынялася, глядзела на яго з сумнай усьмешкай і няўцямна пыталася:

— Скажэце, Васіль Данілавіч, а нашто гэта я вам гавару?

Ён, сьмяючыся, адказваў:

— Кожны чалавек павінен некаму расказаць пра сябе. Іначай яму будзе цяжка.

Аднак яна зусім ня мела замеру раскрываць яму ўсе свае таямніцы. Таму ў словах яе ўвесь час адчувалася неда-

казанасьць, здавалася, што круціцца яна вакол аднаго—найбольш важнага і таемнага месца, у якім сходзяцца ўсе ніткі яе жыцьця, а раскрыць гэтае таемнае месца ня хоча ці, мабыць, ня можа.

Раіса расказала Лясьніцкаму, як яна апынулася ў цяперашнім становішчы.

— Мы павінны былі паехаць. І мы паехалі-б, каб ня тата. У той вечар—помніце?—як вы прыходзілі... Я-ж вас пазнала тады, Васіль Данілавіч... І я знала, зачым вы прышлі... Я тады страшэнна вас ненавідзела, так, як толькі можна ненавідзець... Дык вось, у той вечар мы чакалі тату—ён езьдзіў у адзін знаёмы маёнтак. Ужо былі заказаны білеты, ужо было складзена палавіна рэчаў (вы гэтага тады ня прымецілі?)—мы павінны былі выехаць назаўтра ўраньні. Але тата ня прыехаў тады, а праз два дні яго прывязьлі адтуль зусім хворага. Вось мы й асталіся. Як прышлі чырвоныя, у нас блізка што ўсё канфіскавалі, а што выcталася—прышлося прадаць, каб пражыць нам з татай. Ён жыў да апошняга часу са мной—толькі тыдні з два, як паехаў на вёску. Знайшоўся нейкі стары аканом яго, дык узяў да сябе... Хворы ён зусім... А цяпер я адна...

— А дзядзька?

Лясьніцкі даўно ўжо нарыхтаваў гэтае запытаньне і цяпер пільна сачыў за тым, якое ўражаньне зробіць яно на Раісу. Яна і не зварухнулася, нават ані-ні не зьмяніла тону свае гаворкі.

— Карл Іванавіч паехаў некуды ў той самы дзень, як прышлі чырвоныя.

Яна памаўчала троху і загаварыла зноў марудным стомленым голасам:

— Цяжка жыць цяпер... У вас многа страшнога, дзікага... Я ведаю, што вы на гэта маеце нейкую рацыю... Можа нават няма тут нічога страшнога... Але я не разумею, ня прывыкла... Я з дзяцінства баялася мужыкоў. Калі прыходзілі яны гурмай у маёнтак і калі тата пачынаў на іх сварыцца, мне кожны раз чамусьці ўсплывала на думку, што яны

могуць узяцца разам і забіць тату... Яно бадай што і вышла так... І вось страшна цяпер... Жывеш так, глядзіш наўкола і не разумееш, навошта ўсё гэта, хто сабе робіць лепш, а каму горш. І не разумееш, навошта сама жывеш—каму ад гэтага карысьць, а каму шкода... Дрэнна жыць цяпер...

— Ну, а далей?

— Далей?

Раіса сьперш глыбока задумалася, потым раптам абярнулася да Лясьніцкага і засьмяялася.

— Васіль Данілавіч! Гэта ўжо цэлая споведзь выходзіць, на гэта ня было ўгавору.

І зноў замоўкла. А тады пачала гаварыць сур'ёзна і задуменна:

— Вы неяк дзіўна ўрэзаліся ў маё жыцьцё. Калі я думала пра вас—мне заўсёды здавалася, што ўсё ў нас ненатуральнае. Вось цяпер я апавядаю вам, гавару рознае глупства, а нашто—сама ня ведаю... Проста—веру я вам, Васіль Данілавіч... А веру таму, што ведаю—вы любілі мяне. Гэта-ж праўда? Васіль Данілавіч, вы-ж моцна, глыбока мяне любілі? Помніце, як вы гатовы былі прыняць умовы мае? Ха-ха... Вы гатовы былі дарага заплаціць за мае пацалункі... Васіль Данілавіч! Помніце, га?..

Яна ўжо з вясёлым задорам глядзела на Лясьніцкага і ў вачох у яе загараўся зеленаваты гарэзны агоньчык. Лясьніцкі ў гэты момант убачыў у ёй яскравы цень ранейшай чароўнасьці—і ў сэрцы ў яго пыхнула іскра забытага пачуцьця. Але так было адзін толькі момант. Яна раптам абвяла і неяк палахліва стулілася—стала смутная, цьмяная... Лясьніцкі сказаў з падкрэсьленай сур'ёзнасьцю:

— Гэта праўда, Раіса Андрэеўна, што я любіў вас. І я магу адказаць вам, што любіў глыбока і моцна. Але-ж сапраўды ў нас было ўсё ненатуральнае. Вы сьмяяліся, забаўляліся—вы не маглі іначай, бо (я проста скажу) пра шчырае каханьне паненак да сялянскіх хлапцоў толькі пішацца ў казках. А я быў хлопчык яшчэ, ну і троху дурань... Таму й выходзіла так.

Яны некаторы час хадзілі моўчкі. Лясьніцкі глядзеў і слухаў, як у шэрай ласкавай мяккасьці памірае гарадзкі дзень (нейкі выпадковы шопатны ветрык пацерабіў кляны, недзе нахабна і жорстка загрымелі вітрыны). Раіса папрасіла, каб ён узяў яе пад руку і, даверліва прытуліўшыся, загаварыла нейкім нізкім, прытоеным голасам:

— Мне ня толькі, Васіль Данілавіч, гэта ваша стаіць на шляху. У мяне-б знайшлося сілы справіцца з ім—я-б прыўчыла сябе, перасіліла. Вы помніце, Васіль Данілавіч, дзядзю Міку?—Ён адчувае цяпер сябе як лепш і ня трэба... Ён асвойтаўся ўжо... (Між іншага—са мной ужо ня вітаецца, бо я яго шокірую). Але я-б ня так, я-б шчыра ўзялася... У мяне другое, Васіль Данілавіч... У мяне жыцьцё з нутра атручана... Адзін крок мне прышлося зрабіць, і я згубіла ўсё, што магла мець у жыцьці... жыцьцё згубіла... атруціла сябе... Ох, Васіль Данілавіч! Як цяжка гэта... думку цяжка насіць... Прамяняць жыцьцё на гэта... на салодкі боль, на чад... А цяпер вось страх надышоў... Ён і даўней быў у мяне... помніце? А цяпер ён зусім жыцьця не дае... Думак страшна... Гэта самая балючая рэч. Уявіце сабе, Васіль Данілавіч... Ноч. Ціха вакол, суседзі паснулі даўно. Ляжыш колькі хвілін і, здаецца, спакойна ўсё, абычайна... А потым ціхенька пачынае нешта шчаміцца ў мазгі. Я адразу ўжо чую і пачынаю змагацца, ня пускаць... А яно лезе, лезе, расьце... мне робіцца страшна, халодны пот усю аблівае. Але гэта яшчэ нішто... А вось вырасла ўжо, заняло ўсе мазгі, усю істоту пакрыла адно... Думка... страшэнная няўхільная думка. Пачынаюцца здані тады, праявы розныя—у розных абліччах і формах зьяўляецца яна... сьмерць. Звычайна я не баюся сьмерці, а вось у гэту хвіліну гатова крычаць, на сьцены кідацца, гатова з хаты ўцячы... Тады праклінаю ўвесь сьвет і да сьлёз, да балючых сьлёз шкадую сябе, сваё атручанае жыцьцё...

Раіса змоўкла і, дрыжачая, яшчэ мацней прытулілася к Лясьніцкаму. Прайшлі так моўчкі некалькі крокаў і раптам яна затурбавалася, сударгава схапіла яго за руку.

— Васіль Данілавіч... Ня кідайце сёньня мяне... Вы-ж самі выклікалі мяне на гэтую гутарку... Я баюся цяпер, я не пайду адна ў хату—я... сама ня ведаю, дзе я буду... Цэлая ноч... Слухайце, Васіль Данілавіч, глядзіце на мяне, як на хворую... Вы-ж маглі-б пасядзець каля хворай, каб вас папрасілі? Так? Я-ж хворая, цяжка хворая... Васіль Данілавіч, вы ня кінеце мяне? Мы, калі хочаце, будзем тут, на вуліцы... А потым я супакоюся...

Лясьніцкі сказаў, што ён астанецца з ёй, пакуль ёй будзе патрэбна, і яна, глыбока ўсьцешаная, сьмяялася ціхім радасным сьмехам.

Яны потым пайшлі да яе на кватэру. Лясьніцкі сам прапанаваў пайсьці, бо заўважыў, што яна дрыжыць ад вячэрняга холаду. Яна займала сапраўды зусім маленькі—поплеч з кухняй—пакойчык, у якім і мэбля была зусім прымітыўная: стол, жалезны ложак, пара крэслаў і, нейкім дзівам, невялічкая мяккая канапка. Відаць было, што яна ўжыла ўсё магчымыя спосабы, каб зрабіць у пакоі сякую-такую прытульнасьць, але ўсё роўна тут асталася карузлая, кухонная нейкая шэрасьць. Лясьніцкі, агледзеўшыся, зважна заначыў:

— Так, у вас тут няма гэтае... сьветласьці, ружовасьці... Няпрытульна ў вас...

Яна чамусьці страшэнна засаромілася.

— Я-ж вам казала, Васіль Данілавіч, што ня трэба ісьці, бо ў мяне дрэнна. Адылі сядайце цяпер ужо ды менш разглядайце... Я зараз нешта зраблю, і будзе лепш.

Яна абгарнула лямпачку чырвонай паперай—і сапраўды выгляд пакою адразу зьмяніўся. Лясьніцкаму ўспомніўся той вечар, калі ён першы раз прышоў да яе (пявуча-ружовы сьвет, мяккі, трошачку сумны аромат, рояль і яна ў празрыстым ружовым уборы—бязьмежна-дарагая, прыгожая). Ён перамог раптоўны наплыў шчымлівага смутку і з іронічнай усьмешкай сказаў:

— Цяпер трэба рояль і сумныя ціхія мэлёдыі...

Раіса парыўчата сарвала з лямпы паперку.

— Я ня хочу, каб вы ўспаміналі... Мне цяжка ад гэтага... Цяпер хай будзе ўсё іначай... каб ня злучаць адно з адным... У мяне, Васіль Данілавіч, усё-ткі жыве сваё, асабістае—яно варожае вам і мабыць... брыдкае... Але-ж вам зусім усё роўна, што мне люба, а што нялюба—я-ж бясьсільная, хворая... Што вам за наўда, калі я буду цешыць сябе тым трагічна-неўзваротным, што вы ненавідзеце, а што я люблю... У маім жыцьці былі тады сонечна-прыгожыя старонкі—пакіньце іх мне, не адбірайце, і ня лайце за гэта мяне. Я-ж хворая, недалужная... Я-ж дажываю, а ня жыву... Я нічым, нічым не магу вам пашкодзіць...

Яна зноў узрушылася—у голасе ў яе пачуліся балючыя ноткі. І вось, як наўмысьля, у гэты самы момант нехта з мэтодычнай разьмеркаванасьцю паляпаў у сьценку з суседняга пакою. Раіса насторажылася.

— Ну?

І пачуўся спакойны, адзервянелы ў сухой бязуважнасьці, голас:

— Таварыш Янава! Заўтра вам вуліцу месьці...

— Добра!

Яна гэтае „добра“ сказала нейкім нэрвова-ўзьнятым голасам і зараз-жа заплакала—цягуча і горка, як пакінуты дзяцёнак. Лясьніцкі ў замяшаньні ня ведаў, як яе суцешыць—чамусьці пачаў гаварыць аб колектыўным жыцьці, аб правах і абавязках кожнага ў колектыве, аб усіхнай роўнасьці і г. д. Яна, вядома, ня слухала яго ўгавораў і плакала. А тады раптам усхапілася (з вачэй яшчэ буйным дажджом капалі сьлёзы) і засьмяялася ў нейкай дзіка-задорнай і горкай весялосьці:

— Ха-ха! Я ўжо мяла два разы... мяла... Гэта было нават цікава... ха-ха!.. Знаёмыя зьбіраліся, глядзелі—спачувалі нават... Я ўжо прывыкла, у нас усё па чарзе—колектыў... Васіль Данілавіч! Вы думаеце—гэта мяне заб‘е? О, не... Я спакойна, зусім спакойна... У мяне ёсьць свая будучыня—добрая, сьветлая будучыня... і такая блізкая, ясная... Хочаце знаць маю будучыню? Я пакажу вам яе, Васіль Данілавіч... Вось тут яна, тут, во зараз... во...

Яна ў ліхаманкавай пасьпешнасьці расчыніла сваю касьцяную скрыначку і дастала адтуль нешта ў белай паперцы. Лясьніцкі дагадаўся адразу, што гэта атрута і зрабіў інстынктыўны рух, каб вырваць яе. Раіса заўважыла гэты рух і засьмяялася.

— Ды не, Васіль Данілавіч, не цяпер... і ня пры вас... Я чакаю некага, хто-б падзяліў са мной гэтае шчасьце... Вы думаеце, прыемна аднэй паміраць? О не! Самая цяжкое— гэта паміраць аднаму... Я пачакаю яшчэ, пажыву... Нехта знойдзецца, нехта прыдзе ка мне і згадзіцца выпіць сьмерць з аднэй чаркі са мной... Я яшчэ пачакаю...

Лясьніцкі блізка што ўсю тую ноч перабыў ў Раісы. І ўсю ноч яна мучыла яго нечакана-крутымі пераломамі свайго настрою, раптоўнымі пераходамі ад сумнай ціхасьці да нэрвова-крыклівага ўзрушэньня. І калі пад самае раньне ён пакінуў яе—зморaную і заспакоеную—калі, вышаўшы з хаты, акунуўся ў чыстую сьвежасьць халоднага золку,—яму здалося, што гэтую ноч ён перабыў у нейкай душнай больніцы, над ложкам паміраючага ў страшной агоніі чалавека.

Вышаўшы ад Раісы, ён пачуў вялікае палягчэньне.

БАТАЛЁЬН у горадзе доўга не стаяў. У адну з бліжэйшых начэй ён у поўным складзе падаўся ў той бок, дзе былі сьляды злачыннае працы банды атамана Воліча. У тую беспрасьветна-чорную і халодную ноч адцялі былі трыццаць вёрст і дайшлі да невялічкага глухога мястэчка, дзе і абсталяваўся штаб батальёну. Роты, яшчэ не даходзячы да мястэчка, збочылі з галоўнае дарогі і разышліся па асобных маршрутах, згодна загадзя складзенага пляну.

Пачалася рашучая зацятая барацьба—не барацьба нават, а нейкая напружаная гульня, у якой выйгрышы браліся не па сіле, а па хітрасьці, па здольнасьці орыентавацца, знайсьці патрэбныя хады-выхады ў глухіх бязьмежных пушчах, у непраходных дрыгвах-балотах. І чым даўжэй цягнулася гэта

тульня, чым мацней націскалі чырвоныя роты, тым глыбей і глыбей удаваўся ў чорную глуш хітры атаман Воліч з сотняй сваіх малайцоў.

Штаб батальёну ўжо пяць раз зьмяняў сваё месца— пяць раз зьмянялася абстаноўка і пяць раз зьмяняўся плян барацьбы.

Нарэшце ўдалося абкружыць банду ў Кіслым Маху—у балоцьвеным лесе, што на ўсю акругу вядомы, як самае непраходнае страшное месца. Тут сьціснулі тугім непарыўным вязьмом, пачалі наступаць—паступенна і цьвёрда.

Штаб батальёну адразу забраўся і выехаў на месца опэрацыі. Лясьніцкі з камбатам увесь час пераяжджалі ад роты да роты, сачылі за наступленьнем, аддавалі, дзе трэба, асабістыя загады і распараджэньні. Кожную ноч чакалі прарыву—кожную ноч ня спала палавіна армейцаў, пільна сачылі за здрадлівай цемрай маўклівага лесу. А ўдзень паўзьлі па балоце, пасуваліся ў глыб, усё шчытней ды шчытней сьціскалі бандытаў. Тыя ўжо сталі кідацца ад аднаго да другога краю жывога кола і ўсюды натыкаліся на жорсткія чырвонаармейскія стрэльбы.

І вось надышоў рашучы момант. Усім вядома было, што ў тую ноч зробяць бандыты апошнюю спробу прабіцца. Бо назаўтрага сьціснецца кола і астанецца адно толькі—здацца. Па батальёну быў дадзен загад—ня спаць у тую ноч ніводнаму чырвонаармейцу, быць усім напагатове, пільна сачыць за бандытамі.

Страляніна пачалася гадзіне а трэцяй начы. Бандыты падышлі былі да самага разьмяшчэньня трэцяе роты, але іх парой заўважылі і адагналі дружнымі стрэламі. Тады і яны пачалі страляніну. Так цягнулася гадзіны са дзьве. Страляніна ня мела ніякіх вынікаў, бо кулі ў большасьці застравалі ў дрэвах, не далятаючы нават да ворага. Перад раньнем зноў падыходзілі бандыты ўжо да другое роты, зноў іх парой адагналі, зноў яны з поўгадзіны адстрэльваліся, і вось пры першым ледзь прыметным зараньні пайшоў загад па батальёну—наступаць. Сьціснулася яшчэ мацней сьмяротнае

кола, яшчэ кінуліся туды ды сюды зьбянтэжаныя бандыты, паспрабавалі ўдарыць у рукапашку—і нарэшце здаліся. Ім загадалі скласьці аружжа, пастроілі па два чалавекі ў рад і пад моцнай вартай накіравалі ў бліжэйшую вёску. Частка армейцаў была пакінута пры раненых і забітых, за якімі павінны былі потым прыйсьці падводы.

Лясьніцкі прапусьціў міма сябе ўсіх палонных, спадзяючыся пазнаць сярод іх атамана. У адным бандыту—вялізным, аброслым купкаватай расьліннасьцю—здалося Лясьніцкаму нешта знаёмае, але той ня даў дужа сябе разглядаць—хмура адвярнуўся і прайшоў міма, шырока махаючы цяжкімі рукамі. Ды Лясьніцкаму й не да яго было цяпер—ён шукаў „Карлу", ён ведаў, што адразу пазнае яго—як-бы ён ні зьмяніў свой надворны выгляд.

Аднак „Карлы" ня было сярод палонных. Тады Лясьніцкі вярнуўся і пачаў пераглядаць усіх забітых і раненых. Сярод іх таксама ня было атамана. Лясьніцкі загадаў некальнкім чырвонаармейцам абыйсьці лес і пільна пашукаць, можа астаўся яшчэ дзе-небудзь забіты ці ранены. Ён чакаў іх ня менш як поўгадзіны, і, вярнуўшыся, яны далажылі яму, што нідзе нікога няма. Тады Лясьніцкі сеў на каня і паехаў на вёску.

Ён загадаў выбраць з арыштаваных некалькі чалавек—з прасьцейшых—і па адным прывесьці да яго на допыт. Яму прывялі маладога—гадоў у дваццаць—сялянскага хлапца, які страшэнна спалохаўся і ніяк ня мог знайсьці месца сваім убогаасалавелым вачам. Лясьніцкі перш распытаў у яго, хто ён, адкуль, якім парадкам трапіў у банду. Хлапец на ўсё адказваў шчыра, прычым расказаў цэлую даўгую гісторыю, як ён з простага вайсковага дэзэртыра паступенна зрабіўся бандытам. Потым Лясьніцкі запытаў у яго:

— Дзе ваш атаман?

Хлапец зразу, не задумаўшыся, адказаў:

— Ён мусіць забіт ці паранен—з намі яго няма.

— А ўчора ён быў з вамі?

— Быў.

— А ў яго памочнік які-небудзь быў?

Хлапец шырока выпяў вочы, быццам зьдзівіўся, як гэта сам камісар ды ня ведае іхніх заводцаў.

— А як-жа... Вядома, што быў... Хомка Жгут у яго быў самы першы...

— Ён тут?

— Там, у пуні сядзіць, з усімі...

Гэта самае сказалі яму і іншыя, выкліканыя на допыт, бандыты. Тады ён загадаў, каб прывялі да яго Хомку Жгута. І вось прывялі вартавыя таго самага вялізнага, купкавата аброслага бандыта, на якога яшчэ там, у лесе, зьвярнуў быў увагу Лясьніцкі. Бандыт увайшоў цяжкай нязграбнай хадою, стаў, раскірэчыўшы ногі, і ўпяў у Лясьніцкага жвавыя, поўныя насьмешлівага бляску, вочы. Адзін вартавы хацеў нешта далажыць Лясьніцкаму, дык бандыт пагардліва і рэзка яго адпіхнуў.

— Адкасьніся! Я сам раскажу... Здароў, Васіль! Як стаў камісарам, дык кінуў ужо пазнаваць старых сяброў, га? Ну, глядзі, ну... Ці пазнаў?..

Толькі цяпер пазнаў Лясьніцкі знаёмыя рысы буйнага рэзкага твару, пазнаў той даўгі грамоздны халімаўскі нос. Пад уплывам раптоўнага ўражаньня гэтай сустрэчы ён ледзьве ня кінуўся на шыю Халіму, але парой схапянуўся і ўзяў сябе ў рукі...

— Я пазнаў цябе, Халіма... Здароў... Я ня мог цябе адразу пазнаць, бо... як-жа я мог дапусьціць у думкі, што цябе тут сустрэну...

Халіма прабубнеў ні то іранічна, ні то задуменна:

— Дзіўна... нечакана... дзе-ж ты мог думаць...

Потым узьняў галаву і запытаў з наўмыснай грубасьцю:

— Ты хочаш са мной гаварыць, так? А калі не, дык чаго вілаводзіць...

— Так, хачу гаварыць...

Халіма паказаў на вартавых.

— Пры іх ты ад мяне не пачуеш ні слова.

Лясьніцкі загадаў вартавым стаць з таго боку дзьвярэй. Адзін з іх зноў памкнуўся нешта сказаць—Халіма зноў абсек яго і дасадліва растлумачыў Лясьніцкаму:

— Ён хоча сказаць, што я спрабаваў уцячы. Гэта зусім натуральна і няма чаго аб гэтым гутарыць... Ну, я слухаю...

Лясьніцкі сеў за стол і запрасіў Халіму сесьці на ўслоне. Але той астаўся стаяць, магутна і нахабна раскірэчыўшы ногі.

— Воліч уцёк?

Лясьніцкі чамусьці пачаў з гэтага, хоць у нутры было цяпер зусім іншае. Халіма каротка адказаў:

— Уцёк.

— Гэта—Карл Іванавіч Шэмпель?

— Карл Іванавіч Шэмпель.

— Ты яго памочнік?

— Памочнік.

Лясьніцкі змоўк, мяркуючы, аб чым далей гаварыць з ім. У гэты момант Халіма кінуў шпаркі настарожаны погляд у адчыненае вакно, ля якога блізка стаяў. Лясьніцкі заўважыў і ўзяўся за рэвальвэр. Халіма ні то ўсьміхнуся, ні то злосна скрывіўся і прабурчэў:

— Ведаю... застрэліш...

Лясьніцкі спакойна згадзіўся:

— Калі будзеш уцякаць, застралю.

Потым Лясьніцкі ўстаў з-за стала і ў задуменьні прайшоўся па хаце. Халіма яго пасьпяшыў:

— Будзем мо‘ гаварыць?

Лясьніцкі спыніўся і, гледзячы проста ў вочы Халіму, пачаў:

— Я вось аб чым думаў цяпер, Халіма. Я думаў аб тым, як глыбока і страшна рэволюцыя жыцьцё ўскаланула. Куды і як толькі яна не параскідала людзей!.. Ворагі зрабіліся прыяцелямі, а прыяцелі—ворагамі.

— Я ня лічу цябе сваім ворагам... Мы пакуль што робім адну з табой справу...

— Я ведаю... Ты скажаш зараз пра свой бунт, пра аднаўленьне жыцьця і г. д. А вось я дык лічу цябе сваім

ворагам, бо ты пад маркай гэтай унівэрсальнай мэсіанскай справы робіш справу Шэмпеля... А што за справы ў Шэмпеля—мы гэта ведаем... Калі табе ўсё роўна—чаму ты ня ў Чырвонай арміі, а ў бандзе памешчыка Шэмпеля?

Халіма з хвіліну падумаў.

— Чырвоная армія нясе парадак. Можа й новы—мне ўсё роўна. Дзе парадак—там гнёт, ціскі, там жыцьцё пад мерку і вагу, там няма волі, няма натуры... Кожны парадак—гэта падман, на які зьлятаюцца ўсе, хто баіцца жыцьця. Сьмерці трэба баяцца, а ня жыцьця. Вось я-б забіў цябе, каб было як, і выскачыў у гэта вакно—я зрабіў-бы таму, што баюся сьмерці, а вы мяне заб'іцё таму, што баіцеся жыцьця... Вам парадак трэба, а ня жыцьцё...

Ён спыніўся, троху падумаў і зноў пачаў:

— Вы свой бунт ужо кончылі—ваш цяпер бунт супроць бунта. Але ўсё роўна ён бунт, і таму я кажу, што мы з табой—ня ворагі... Шэмпель свайго ня возьме—іхні парадак кончыўся ўжо... Ён цяпер бунтуе супроць вашага новага парадку—таму ён таксама мой прыяцель...

Лясьніцкі з горкай насьмешкай паківаў галавой.

— Як штучна ўсё гэта, Халіма. Мне здаецца—і сам ты сур'ёзна ня верыш у гэтую сваю філёзофскую блытаніну. Ня бунт гэта, Халіма, а барацьба. І ня супроць жыцьця, а за жыцьцё, за магчымасьць жыцьця, за права на яго... Гэта барацьба двух парадкаў—у адным з гэтых парадкаў жыцьцё маё, а ў другім—Шэмпеля. Вось чаму я супроць Шэмпеля і супроць цябе, бо ты об'ектыўна—за іхні парадак, за іхнае жыцьцё...

Халіма адвёў у бок сярдзіта-задуменны погляд.

— Ваш парадак ня вечны... Ён сустрэне сваю супярэчнасьць. Гэта супярэчнасьць яго—бунт. Бунт вызваляе і ачышчае... Бунт—уваскрасеньне жывога чалавека, зварот яго да волі і жыцьця...

Ён раптам распаліўся і закрычаў:

— Я—асоба! Я—чалавек! Разумееш? Які вам клопат да мяне! Хто даў вам права ўціскаць мяне ў цесны мундзір,

калі я ў сарочцы хачу... голы хачу хадзіць... га?.. Хто даў вам права лезьці ў жыцьцё маё, дыктаваць законы і правілы?.. У мяне ёсьць закон—мая воля... Я вольным хачу быць. Я—чалавек і хачу быць чалавекам... Што вам трэба, чаго вы лезеце?..

Лясьніцкі зноў усьміхнуўся.

— Мы гэта чулі даўно-даўно... Надакучыла ўжо... Ты чытаў анархістаў?

Халіма злосна насупіўся.

— Нічога я ня чытаў. Я не сьляпы—я бачу, што робіцца ў жыцьці...

— Ты бачыш, што робіцца ў жыцьці? А ці бачыў ты, як сяляне палілі маёнткі, як выходзілі яны з віламі, з тапарамі і гналі к чортавай матары сваіх спрадвечных ворагаў—памешчыкаў? Ці бачыў ты, як гэтыя памешчыкі, вярнуўшыся за штыкамі польскіх жандараў і з іх дапамогай, палілі і руйнавалі цэлыя вёскі, сотнямі секлі сялян, забівалі, мучылі... ты гэта бачыў? А ці бачыў ты, як стыхійна зьбіралася ў партызанскія атрады сялянская моладзь, каб даць адпор ашалеламу панству? Што гэта—бунт? Хто бунтаваў тут—сяляне ці памешчыкі, га?.. Хто шукаў жыцьця, а хто баяўся яго?.. Ці заўважыў ты, што ў гэтым „бунце“ было два рэзка акрэсьленых станы і што абодвы біліся за жыцьцё—жорстка біліся, да самазабыцьця, да самаахвярнасьці...

Халіма дасадліва моршчыўся. Як кончыў Лясьніцкі, ён з едкай грымасай сказаў:

— Агітаваць мяне хочаш? Мала карысьці... Ды й ня варта—усё роўна страляць будзеце... Будзеш яшчэ пытаць што, ці можна ісьці?

— Больш нічога. Цяжка з табой гаварыць... Усё-ткі, Халіма, мне шкода цябе...

Халіма злосна ашчэрыўся.

— Глядзі за сабой.

Лясьніцкі гукнуў вартавых.

— Вядзеце. Скажэце каравульнаму начальніку, каб узяў гэтага... грамадзяніна пад асобную ўзмоцненую варту...

У той самы дзень блізка паўдня батальён падаўся ў горад. Наперадзе вялі арыштаваных бандытаў. Лясьніцкі зноў прапусьціў іх усіх міма сябе. Асобна ад іншых два чырвонаармейцы вялі Халіму. Ён зрабіў від, што не заўважыў Лясьніцкага—прайшоў міма хмуры, насуплены, шырока махаючы цяжкімі рукамі.

ЯШЧЭ зусім рана—мабыць, гадзіне а дзевятай—нехта паляпаў у нумар к Лясьніцкаму. Лясьніцкі адгукнуўся, і ўвайшла Ніна. Яна шчыра і весела прывіталася з ім, уважна азірнула яго ўсьмешлівым поглядам сваіх шэрых вачэй і загаварыла з жартлівым дакорам:

— Здаецца, сталы зусім чалавек, а няпрыгожа так рабіць. Вы-ж, Лясьніцкі, яшчэ заўчора вярнуліся ў горад і ні разу да нас не зайшліся. Вы ведаеце, як гэта завецца?

— Сьвінства?

— Так, адгадалі.

Лясьніцкі пачаў апраўдвацца.

— Папершае, у мяне ні ўчора, ні заўчора ня было ані хвілінкі вольнага часу. Падругое, сёньня я ўжо канечна меўся пайсьці да вас. І патрэцяе, хіба ня ўсё роўна, ці я-б зайшоўся да вас, ці вы прышлі да мяне?..

Ніна зрабіла від, што злуецца.

— Я прышла да вас, таварыш Лясьніцкі, па справе, во што... Між іншага, я ведаю ўжо, чым кончылася ваша опэрацыя і рада за вас. Шкода толькі, што Воліч уцёк—ён яшчэ можа нам тут нашкодзіць.

Лясьніцкі моўчкі паціснуў плячмі. Ніна на хвіліну задумалася (стала раптам сур'ёзная, нават хмурая) і потым зьвярнулася да Лясьніцкага ў сухавата-пасьпешным тоне:

— Во што, Лясьніцкі. Самае лепшае—пагаворым адразу аб справе. Я хачу бачыць Халіму. Я магла-б наладзіць гэта праз Андрэя, але мне чамусьці ня хочацца гаварыць з ім на гэтую тэму. Я рашыла зьвярнуцца да вас.

Лясьніцкі ў задуме прайшоўся па пакою.

— Я ўжо думаў аб тым, што вы захочаце з ім пабачыцца. Гэта, вядома, можна будзе наладзіць... Нават і сёньня... Але вось, Ніна, я-б хацеў пытаньне адно задаць вам... па-таварыску... вядома, калі дазволіце...

Яна ў знак згоды кіўнула галавой. Лясьніцкі гаварыў далей:

— Мне неяк раз задавала такое пытаньне адна асоба— я скажу яе словамі: ці ўпэўнены вы, што ёсьць хоць маленькая патрэба ў гэтай сустрэчы?

Ніна адразу нібы здрыганулася, потым даверліва ўзьняла на Лясьніцкага адкрыты погляд глыбока-сур'ёзных ціхіх вачэй.

— Вы добра зрабілі, што спыталі пра гэта. Вы мелі права пытаць, бо ў нас здаўна павялося быць шчырымі адзін перад адным...

Яна спынілася, быццам зьбіраючы думкі, адвяла погляд на сьветлы квадрат вакна. І загаварыла ціхім марудлівым голасам:

— Я сама многа аб гэтым думала... з самай той хвіліны, як даведалася, што яго арыштавалі. Толькі вось з поўгадзіны назад я канчаткова пастанавіла, што пайду да яго... Вы, Лясьніцкі, наўдачу, каб зразумелі мяне, бо вы мужчына, а тут якраз нешта спэцыфічна жаночае. Я ня люблю яго—гэта цьвёрда я разумею. Я нават ненавіджу яго, як свайго ворага... Я не таму іду, што чакаю нечага ад яго, што шукаю для сябе нейкага ўзвароту перажываньняў. Я іду... Слухайце, Лясьніцкі, ці траплялася вам, ідучы басаног, моцна, да сьлёз у вачох, ударыць нагу? Ці адчувалі вы тады незразумелую патрэбнасьць абярнуцца і зірнуць на тое, што дало вам гэтую боль?.. З такім прыблізна настроем я іду да яго... Я-ж так моцна аб яго ўдарылася. Я-ж любіла яго і радзіла была яго дзяцёнка... Мне трэба, Лясьніцкі, паглядзець на яго, я хачу паглядзець...

Лясьніцкі маўчаў. Ніну гэта дужа, відаць, турбавала— яна з трывожным чаканьнем лавіла яго халодна-раскіданы

погляд. Потым загаварыла зноў—у нейкім адчайным цяжкім парываньні:

— Я магу не пайсьці Лясьніцкі... Скажэце мне, каб я не пайшла, і я не пайду. Растлумачце мне, што гэта дрэнна, што гэта выяўленьне слабасьці, што гэта пашкодзіць нашай справе... Растлумачце мне, Лясьніцкі, і я не пайду—мне самой спакайней тады будзе... Ну, гаварыце!

Лясьніцкі маўчаў. Ён ня ведаў, што сказаць. Ён сам не разумеў, чаму яму няпрыемна, што Ніна пойдзе к Халіму. Гэта было нешта зусім новае—нейкае новае і, мабыць, нядобрае пачуцьцё. Ён пачынаў ня любіць Халіму.

А Ніна глядзела на яго ў напружаным чаканьні. Ён ведаў, што Ніна яго паслухае, бо для яе цяпер будзе законам голас кожнага староньняга чалавека. У незразумелым узрушэньні ён прайшоўся разы са два па пакою. Потым перадолеў сябе, рашуча падышоў да Ніны і сказаў ёй:

— Вам можна пайсьці... Я наладжу гэта і сёньня ўвечары зайдуся за вамі...

У той самы дзень гадзіне а пятай спаўдня яны пайшлі туды, дзе зьмяшчаліся арыштаваныя бандыты. Усю дарогу Ніна з звычайнай жвавасьцю гаварыла аб розных староньніх рэчах—у яе ня прыметна было ніякага хваляваньня, быццам ішла яна куды-небудзь па зусім дробнай і звычайнай справе. Адно было падазрона, што ўжо занадта многа яна гаварыла—не маўчала ніводнай хвіліны. Мабыць гэтай бясконцай гутаркай старалася яна разьвеяць сваё душэўнае ўзрушэньне.

Іх увялі ў пусты цямнявы пакой (вокны з жалезнымі кратамі пад самай стольлю), пасадзілі на адзіную драўляную лаўку і сказалі чакаць. Як вышлі праваднічыя, Лясьніцкі ўстаў і сабраўся ісьці.

— Я пачакаю вас там, на дварэ.

Але Ніна рашуча спыніла яго.

— Будзьце тут, Лясьніцкі. Я хачу бачыцца і гаварыць з ім пры вас.

Лясьніцкі астаўся. Хвілін праз пяць вывелі Халіму. Ён быў чорны і страшны—нос яго асабліва нязграбна і дзіка

вылучаўся на твары, а ў вачох гарэў хваравіты ліхаманкавы агонь. Як убачыў Лясьніцкага і Ніну, ён памкнуўся быў усьміхнуцца, але замест усьмешкі вышла ў яго нейкая дражліва-едкая грымаса. Наогул гэта грымаса цяпер вельмі часта ўсплывала на яго твар.

Ніна запрасіла яго сесьці на лаўку і, калі ён адмовіўся, настойліва паўтарыла сваё запрашаньне.

— Мне цяжка так з табой гаварыць, калі ты будзеш стаяць.

Халіма сеў. Ён сеў неяк бокам да Ніны, не глядзеў на яе, упяў у дальні куток свой цяжкі неўвароткі погляд. Ён першы пачаў гаварыць—запытаў нездаволена, груба:

— Чаго прышла?

— Прышла паглядзець на свайго першага мужа.

— А другіх у цябе многа было?

Ніна на момант замоўкла, уражаная яго грубасьцю. А тады сказала яму з ціхім дакорам:

— Ты хочаш мяне зьняважаць? Гэта—самае лёгкае. Я чакала, што ты возьмеш больш трудны і... больш сумленны напрамак...

Халіму гэта, відаць, троху дадзела. Ён сказаў ужо больш лагодна і мякка:

— Калі хочаш, дык давай пагутарым... Ты пытайся, што табе трэба...

Ніна памаўчала з хвіліну і потым запытала з ледзь чутным болем і ласкай у голасе:

— Скажы, Халіма, калі ты стаў нашым ворагам?

Халіма нездаволена паморшчыўся.

— У яго запытай (кінуў на Лясьніцкага)—ён табе скажа. Я яму ўсё расказаў...

Тады хвіліны дзьве, а мо' й больш, маўчалі. Халіма нецярпліва затурбаваў:

— Ну, што яшчэ?

— Яшчэ... Што яшчэ... Ага... Мне, вось, цяжка пытацца ў цябе—ня пэўна я ў тваёй шчырасьці. Калі хочаш, скажы—гэта будзе апошняе запытаньне: ці любіў ты мяне калі-небудзь, ці было тады паміж нас шчырае нешта, сапраўднае?..

Халіма перш панура маўчаў, потым адказаў запытаньнем:

— Дзяцёнак жыве?

Ніна ажывілася.

— А ці любіў-бы ты яго, каб ён жыў?

— Я-б з радасьцю яго задушыў... каб ня жыў без мяне, ня стаў такім... паслухмяненькім...

Ніна сказала іронічна і рэзка:

— Ня прыдзецца турбавацца... Сын наш памёр... Я ахвяравала яго на рэвалюцыю...

Пры апошніх словах Халіма неяк сударгава ўсхапіўся, зірнуў на Ніну адкрытымі трывожнымі вачмі, хацеў, мабыць, прасіць тлумачэньняў, але зараз-жа зноў увабраўся ў сябе, зноў стуліўся ў сваёй панурай хмурасьці.

— Ну, больш нічога?

— Ты не адкажаш на маё запытаньне?

Халіма маўчаў. Тады Ніна загаварыла ў нейкай напружанай пасьпешнасьці, быццам баялася, каб не пайшоў ён, не даслухаўшы гэтага самага важнага, што яна зьберагла на канчатак.

— Вось яшчэ што. Я гэта скажу табе абавязкова, я даўно хацела, каб ты гэта ведаў... Я можа і прышла сюды толькі для гэтага... Я хацела сказаць, што я цябе ненавіджу. Ты вораг мой, ты мне агідны, брыдкі... Я ненавіджу цябе з самага таго дня, як ты першы раз зрадзіў нам... Я каюся— чуеш?—я каюся, што была тваёй жонкай, я лічу гэта за ганьбу сваю—ты мяне апаганіў... Каб жыў наш сын, я-б і яго прыўчыла ненавідзець цябе—яму-б імя тваё было сымбалем усяго брыдкага, паскуднага... Во што... Во што я хацела сказаць... Цяпер усё... Больш нічога... ідзі...

Халіма з момант сядзеў яшчэ, цяжка схіліўшы галаву, потым грамоздна падняўся і моўчкі пасунуўся на сваё месца. Лясьніцкі і Ніна вышлі на вуліцу.

На двары быў вясёлы празрысты марозік—ён чыста высушыў вуліцу і пасыпаў сям-там сухую белую шэрань. На захадзе бліскуча мёрзла ірдзяная паласа—сьлед зайшоўшага ў восенскім холадзе сонца. Хацелася глыбока-глыбока на-

браць у грудзі паветра і пайсьці ў сьцюдзёную даль—паглядзець, як мерзьне тая ірдзяная паласа.

Ніна сказала, што ёй ня хочацца ў хату, і яны пайшлі ў той бок, дзе канчаецца горад, завярнулі на звонкі, прыбраны марозікам, шлях і вышлі ў сіняе поле. Яны ішлі моўчкі. Пасьля таго, што адбылося там, неяк страшна было пачынаць размову. Але не цяжарыла гэта маўчаньне, бо калі так чыста ўвосень памірае сьцюдзёнае сонца—прыемна тады і салодка маўчаць. Яны ішлі так, пакуль не зайшлі ў невялічкі—з кволых і сьціпных бярозак—лясок, а тады заўважылі, што на захадзе замест ірдзянае паласы застыгнуў ужо ледзяны пэрлямутр, а на шлях насунуліся змрочныя і сярдзітыя цені падарожных дрэў. Ніна сказала рупліва і ласкава:

— Вернемся ўжо, Лясьніцкі. Нам прайсьці трэба ня менш, як тры вярсты...

І з гэтага пачалася іхная гутарка. Гаварылі яны аб розным глупстве (прырода там, восень, вёска, Дняпро) і старанна ўнікалі ўспамінаць пра Халіму. Але мусіць думалі ўсёткі аб ім, бо, як увайшлі ў горад, неяк мімаволі і раптам пра яго загаварылі. Ніна—спакойная і бадзёрая—нечакана адкрыла:

— А ведаеце што, Лясьніцкі... Я-ткі там пад сьвежым уражаньнем залішне многа нагаварыла патэтычнага, гарачага... Мне проста шкода яго... Я гляджу цяпер на яго, як на хворага, як на калеку... Ён і сапраўды калека. Гэта толькі з першага погляду здаецца, што ў ім—суцэльнасьць нейкая, сіла... Паламаны ён чалавек, згублены для жыцьця... А я-ж, Лясьніцкі, баялася... Я не казала вам, а баялася... Я ня была ўпэўнена ў сваёй сіле, я баялася, што ён зломіць мяне—жаласьцю ці яшчэ чым... нашым, бабскім... Я ня была яшчэ ўпэўнена, што ня люблю яго... А цяпер я—вольная, зусім ўжо вольная...

Потым яна гаварыла яшчэ ў нейкім жахлівым задзіўленьні:

— Страшна як глядзець, калі чалавек сваё месца траціць... Гэта—самае горшае. Тут—канец чалавеку... Будзе біцца, кідацца, а ўсё роўна загіне, як адарваны ад дрэва сук...

Яны прышлі ў горад блізка а дзесятай гадзіне. Ім абодвым дужа не хацелася цяпер разыходзіцца—цяжка было несьці ў самоту прыкрыя ўражаньні гэтага дня. Таму Лясьніцкі з асаблівай ахвотай згадзіўся перабыць вечар у Ніны.

Андрэй з Макрынай пайшлі на нейкую вечарынку, і яны асталіся ў хаце адны. Яны выбралі сабе прытульны куточак і завялі глыбока-шчырую гутарку, пачалі адзін аднаму „спавядацца". У гэты вечар Лясьніцкі першы раз адкрыў Ніне ўсе свае таямніцы—расказаў ёй усё, што ўпотайку перажыў за гэтыя бурлівыя гады і што старанна хаваў дасюль ад погляду староньняга чалавека.

Праз тыдзень пасьля гэтага па прыгавару рэволюцыйнага трыбуналу быў расстрэлен Халіма. А на другі дзень (дзіўнае супаданьне) якраз адбылося тое жудаснае здарэньне, якое выклікала ў горадзе цэлую віхуру гутарак і разважаньняў: адначасна кончылі самагубствам, выпіўшы з аднае чаркі раствор цыяністага калія, Карл Іванавіч Шэмпель і яго пляменьніца Раіса. На стале ў іх знайшлі кароткую лякані́чную запіску:

*„У нашай сьмерці вінаваты мы самі".*

А пры далейшым дасьледаваньні гэтае справы была знойдзена ў маленькай касьцяной скрыначцы другая запіска, напісаная няцьвёрдай рукой Раісы і адрасаваная яе бацьку. Вось зьмест гэтае запіскі:

*„Даражэнькі тата!*

Мне цяжка паміраць, ведаючы, што я пакідаю цябе зусім аднаго ў такую страшную пару. Але адно пагаджае мяне з гэтай балючай думкай—гэта тое, што я пры сваім поўным бясьсільлі, пры сваёй фізычнай і духоўнай хваробе ўсё роўна не магла-б нічым дапамагчы табе. Так, даражэнькі тата, я страшэнна хворая, атручаная, паламаная. Мне сорамна пісаць табе, бо я адчуваю сябе глыбока вінаватай перад табой: я ні разу не зьвярнулася да цябе, як да бацькі, каб расказаць табе сваю трагэдыю і папрасіць дапамогі.

Ты й ня ведаў зусім, што поплеч з табой гіне твая дачка, памірае павольнай і ад гэтага асабліва жудаснай сьмерцю.

Я цяпер скажу табе ўсё-чыста, бо перад сьмерцю не выпадае хавацца... Я кахала свайго роднага дзядзьку—кахала нейкім дзікім, страшэнным каханьнем. Гэта й было прычынай маёй пагібелі. Але ён, тата, не вінават, ён рабіў сумленна і шчыра. Ён сам перасьцярог быў мяне, што ў яго гэта страшная хвароба. Я сьвядома пайшла на пагібель, я знайшла асаблівую дзікую слодыч у тым, каб ахвяраваць для каханьня сваё жыцьцё... Я ведала тады, што загіну, і ў нейкім шалёным пале кінулася ў бяздоньне. За гэты салодкі боль, за бязьмежнавострае адчуваньне самаахвярнасьці я заплаціла жыцьцём.

Татачка, даражэнькі! Даруй мне, што я ўсё гэта хавала ад цябе. Але-ж нашто было яшчэ й табе псаваць жыцьцё? Досыць аднаго... Я спрабавала лячыцца, але потым кінула, бо для таго, каб вылечыцца, трэба было або разыйсьціся з ім, або разам з ім лячыцца. Разыйсьціся я не магла, бо ён заняў занадта вялікае месца ў маім жыцьці—я толькі ім і жыла. А яму лячыцца... ён казаў, што ўжо позна...

І вось мы дайшлі да нашай мяжы. Можа, каб ня было гэтае завірухі, мы і жылі-б яшчэ, дажывалі. Можа гэта прысьпешыла наш канец. Ён цяпер хаваецца, яго шукаюць, каб зьнішчыць, каб пазбыцца ад лішняга ворага. І знойдуць, абавязкова знойдуць... Дык лепш не чакаць... лепш мы самі...

Калі табе перададуць гэты ліст, я ўжо буду закапана недзе на грамадзкіх могілках. Ты магілы мае ня шукай... І ня злуй, даражэнькі татачка, на сваю дрэнную дачку... На яго таксама ня злуй... ён не вінават—я сама паміраю, па сваёй волі... Гэта мая апошняя радасьць—памерці з ім разам. Дык ня злуй, тата... Даруй нам абодвым. Бывай..."

БАТАЛЬЁН зноў перакідалі на новае месца. Лясьніцкі выехаў з гораду за тры дні да агульнай адпраўкі, каб скарыстаць зручны выпадак і заехаць к сабе на вёску. Ён ня

быў там аж з вясны 1918 году, і цяпер нейкая неперамож-ная сіла цягнула яго хоць на момант адзін залучыць у родныя мясьціны.

У той час чыгункі, з сваёй напорна-пасьпешнай, заблытанай куламесай, сабралі былі на сабе ў асабліва згушчанай форме нэрвовае напружаньне эпохі. Акунуўшыся ў гэту стракатую куламесу людзей, мяшкоў, вінтовак, спрэчак, лаянкі, крыку, Лясьніцкі пачуў добра знаёмы вольна-ўзьняты настрой, які прыемна казытаў нутро бадзёрымі ўзмывамі, які абуджаў шчымліва-радаснае імкненьне да руху, да сьмелага поступу ў нейкую востра-сьвежую далячынь. Лясьніцкаму давала вялікую ўцеху думка аб тым, што ў гэтай заблытанай мітусьні, у гэтай людзкой завірусе ён бачыць і адчувае глыбока захаваны сэнс, нявідны, але цьвёрды жорсткі парадак. Гэта было падобна на тое, як шахматны гулец бачыць сэнс і парадак там, дзе з погляду ўсяго толькі—хаотычнае бязладзьдзе фігур.

Сумятня чыгункі захінула ад Лясьніцкага густым туманам ўсё, што перажыў ён у горадзе, і ўспаміны аб гэтых, поўных трывожнага хваляваньня днях былі зусім цьмяныя нявыразныя. Толькі ў поўнай яскравасьці яшчэ стаяла ўваччу карціна ад‘езду.

Яго праводзілі на вакзал Андрэй, Макрына і Ніна. Гэта нагадала Лясьніцкаму той момант, калі яны ў апошні раз ехалі са школы з Халімам і Славіным. Тады ня было толькі Макрыны. Андрэй і цяпер, як тады, мякка ўсьміхаўся сваёй загадкава-тонкай усьмешкай, Макрына пяшчотна тулілася да Андрэя, а Ніна... хто яе ведае, можа гэта здалося Лясьніцкаму, а можа й сапраўды яе шэрыя вочы весела і хітравата блішчэлі нечым недаказаным, сьветлым.

Лясьніцкі там, на вакзале, адвёў быў у бок Андрэя і, троху засароміўшыся, спытаў у яго.

— Скажы мне... цяпер-жа ўсё роўна... што ў вас было з гэтай... Янавай? Помніш, вы неяк сустрэліся там... на станцыі... А потым ты засьцерагаў мне... помніш?..

Андрэй засьмяяўся.

— Помню, а як-жа... Глупства... Я потым думаў аб гэтым, хацеў расказаць табе, але проста забыўся... Ну, ведаеш... бываюць часамі такія выпадкі... Адным словам—мы з ёй адзін час сустракаліся ў доктара па вэнэрычных хваробах... Што да мяне, дык тут было проста непаразуменьне: нехта сказаў мне, што мой бацька ў маладосьці хварэў на пранцы—я спалохаўся і пабег да доктара... Я быў там разы са тры і кожны раз бачыў яе... Вось і ўсё...

Гэтыя Андрэевы словы разьвеялі апошнія цені таго глухога неўразуменьня, якое некалі балюча гняло Лясьніцкага і якое было злучана з асобай Раісы.

Прыехаў Лясьніцкі на сваю станцыю а першай гадзіне спаўдня. Са станцыі,як за-звычай, прышлося ісьці пехатой Але ён быў нават здаволен гэтым, бо хацелася як найбольш паўзірацца на знаёмыя мясьціны, абудзіць у сабе адгалоскі тых далёкіх падзей і настрояў, якія злучаны з імі. Ідучы, ён бясконца пераносіўся думкамі ў мінулае—і вобразы гэтага мінулага паўставалі ў нейкай прыгожай вабнасьці, давалі шчымліва-салодкую ўцеху.

... Вось тут іх некалі чакала Макрына, як ішлі яны з Андрэем на станцыю... Тут ляжаў ён, убіўшыся ў кусьце, перажываў гарачыя хвіліны свайго душэўнага мятушэньня... Вось тут Андрэй, як таемны вяшчун, гаварыў яму аб набліжэньні вялікага страшнога пажару... А вось і луг, праз які яны ішлі тады ў самы разгар касавіцы (сонца, краскі, чырканьне кос, верашчаньне скачкоў, плакучыя чайкі, срабрыстыя жаўранкі)... За лугам—сівы, старэнькі Дняпро...

Пераваэіў той самы крывы карыкатурны Саўка—ён яшчэ больш пакарабаціўся, яшчэ больш стаў падобны на чорны дняпроўскі корч. Ён не пазнаў Лясьніцкага і глядзеў на яго з сьцеражліва-халоднай пачцівасьцю. Лясьніцкі весела крыкнуў яму:

— Дзядуля! Ці-ж вы ўнука свайго не пазналі?

Стары здрыгануўся, настарожана прыгледзіўся да Лясьніцкага, потым неяк недалужна схапіўся за парэнджу, схіліў

галаву, зморшчыўся ўвесь і засіпеў. А ці гэта плакаў ён, ці сьмяяўся—было невядома. Загаварыў-жа ён мабыць не раней, як хвіліны праз тры, дый то нельга было разабраць, ці ён пытаецца што, ці выказвае радасьць сваю, ці хоча штонебудзь ужо расказаць. Лясьніцкі наўдагад пачаў адказваць, адкуль і як ён прыехаў, ці доўга мецінь прабыць тут і г. д.

Як ужо выехалі на сярэдзіну Дняпра (у вадзе халодна і чыста адбілася яснасьць празрыстае восені), Лясьніцкі раптам успомніў пра тую дзіўную казку, якую некалі расказаў яму дзед тут, на пароме. Ён захацеў напамянуць пра яе і запытаць у дзеда, ці вышла так, як гаворыцца ў казцы. Дзед спачатку нічога не разумеў, потым, успомніўшы пра казку, захлібнуўся сваім сіпучым сьмехам і, нарэшце, уцяміў, пра што ў яго пытаецца Лясьніцкі. Тады зморшчыў твар у хітра-таемную міну і адказаў:

— Хто-ж яго, дзетка... Вось замяшалі, забаўталі... добрую кулямесу паднялі... А што сьпячэцца—яшчэ мы ня ведаем... Так... Ня будзем зараньня казаць... Прыгледзімся, прыслухаемся...

Памаўчаў троху і, саромліва засьмяяўшыся (дзіўна яму, што пра тую казку гутарка йдзе), дадаў:

— Яшчэ, чуваць, ганяюцца за Іванькавай дудкай, яшчэ зьвіняць аружжам, страляюць... А там—хто-ж яго ведае, дзетка, што будзе...

Калі Лясьніцкі сышоў з парома і падаўся далей, на вёску, ён, азірнуўшыся неяк, заўважыў, што стары Саўка старанна клыпае сьледам за ім. Лясьніцкі запытаў у яго:

— Куды вы, дзядуля, сабраліся?

Стары неяк тупа, ураз спыніўся, падумаў троху і, зморшчыўшыся ў сваёй звычайнай усьмешцы, адказаў:

— А вось пайду паслухаю, што маладзейшыя будуць гаварыць... Цябе-ж гады-на-ўрады пабачыш...

— А паром?

— Ат, нехта перавязе...

Яны пайшлі разам. Як увайшлі ў вёску, Саўка адстаў—зайшоўся за нечым у сваю хацёнку—і Лясьніцкі пайшоў да

хаты адзін. Яго не пазнавалі—гэта відаць было па тых напружана-цікавых і сур'ёзных поглядах, якія кідалі ў яго з вакон. Лясьніцкі рад быў, што яго не пазнаюць, бо лягчэй і сьмялей так было прайсьці цераз вёску.

Дома яго тож не адразу пазналі. Пётры ня было—той-бы напэўна пазнаў. А бацька дык перш з спакойнай цікавасьцю адказаў на прывітаньне, потым неяк скосу пачаў прыглядацца, і толькі тады, як Лясьніцкі ня вытрымаў і засьмяяўся,—толькі тады пачалася сумятня радаснае сустрэчы. Быццам спэцыяльна запрошаныя, зараз-жа зьявіліся і матка з Пётрам—матка пачала плакаць у качарэжніку, а Пётра нясьмела мацаў на поясе ў брата наган. Бацька спакойна і дабрадушна перабіраў бесканцовы ланцуг меркаваньняў, па якіх усё выходзіла, што сын зрабіў надзвычайна добра, прыехаўшы ўдвор. А калі Лясьніцкі зазначыў, што прыехаў толькі на два дні, бацька змоўк і ў замяшаньні ня ведаў, што далей гаварыць. Яго падмяніла матка—яна, плачучы, пачала наракаць на ліхую вайну, што не дае спакойна пажыць „дзяцёнку“ ў роднай хаце. Бацька пастаяў троху ў раздум'і і раптам з нейкай рашучай злосьцю спыніў старую:

— Ціху ты! Завяла ўжо сваю музыку... Ня чулі, падумаеш...

І з разважнай сур'ёзнасьцю запытаў у сына:

— Значыцца, зноў у войска?

— У войска.

Стары аб нечым задумаўся...

— Так... Хто яго ведае... яно й войска можа патрэбна... Зямлі вось троху забралі ў паноў... Зямлю, глядзі што, прыдзецца бараніць—наўдачу, каб так яны супакоіліся... га? Як там?.. Што там чуваць у вас?

Лясьніцкі пачаў тлумачыць бацьку, дзе і што „чуваць“, але не давялося задоўжыцца гутарцы. Не пасьпеў ён яшчэ й перакусіць з дарогі, як пачаў зьбірацца народ (ужо ўся вёска ведала, што ён прыехаў)—прышоў дзядзька Лявон, прыкандыбаў бязногі Аксэнта (старшыня сельсавету), дзед Саўка прыпоўз, і многа каго. Лясьніцкі шукаў вачмі яшчэ

аднаго—былога дэзэртыра Рыгора, але яго ўсё ня было. Нарэшце ён запытаў у Аксэнты і той растлумачыў, што Рыгор ужо два гады, як пайшоў самахоць у Чырвоную гвардыю і што з таго часу аб ім вёска нічога ня чула—мабыць загінуў дзе-небудзь. Лясьніцкі ўявіў Рыгора—яго рыжанькі, рэзкі, з саркастычнай усьмешкай твар, яго вечнае хапліва-злоснае ўзрушэньне. Чамусьці шкода стала, што не пазнаў ён, як сьлед, гэтага чалавека.

У Лясьніцкага ў хаце разгарнулася цэлая сходка. Дайшло да таго, што прышлося Аксэнту праявіць увесь свой арганізацыйны талент, каб навесьці сякі-такі парадак. Лясьніцкага засыпалі градам запытаньняў і спрэчак, ад яго з нейкім настойным правам патрабавалі адказаў і тлумачэньняў, і, трэба сказаць, яму верылі. Ён стараўся гаварыць і расказваць ня тое, што чуў дзе-небудзь або вычытаў у кнігах—ён выкладаў тое, што сам перажыў, аб чым перабалеў сваім сэрцам. Мабыць, затым і расла паміж ім і сялянамі блізкасьць, мабыць, затым яны яму й верылі. А Лясьніцкі чуў гэтую прыязную блізкасьць сялян і ад гэтага поўніўся радасна-сьвежай энэргіяй і думаў з уцехай, што цяпер няма і сьледу калішняй чорнай варожасьці, што цяпер ён свой тут, родны для ўсіх.

Гэтая гутарка цягнулася мусіць добрых гадзіны са тры. А потым Лясьніцкі доўга яшчэ гаманіў з Аксэнтам—той апавядаў яму пра розныя тутэйшыя справы. Аксэнта так сказаў пра сялян:

— Яны вераць, сяляне,—дармо што брэшуць... У іх ёсьць застава—зямля. Зямля, брат, для мужыка—аснова... А цяпер цяжкавата—дык-жа ня дурні яны, ведаюць, што не заўсёды так будзе, што й зусім добрыя часы надыйдуць... А пабрахаць—гэта яны ахвоча...

Надвячоркам хадзіў Лясьніцкі на бераг Дняпра—адпачыць хацеў ды на самоце сабраць да ладу сьвежыя думкі і ўражаньні.

Шапацелі чырвоным сваім лістападам асілкі-дубы, снавалі навокал урачыстую ціхасьць. У лісьці іх грэлася халод-

нае вячэрняе сонца, і лісьце палала ў радаснай ветласьці, і здавалася, што гэта ня золата сьмерці, а кроў жыцьця, што асілкі-дубы жывуць новай чырвонай вясной.

Лясьніцкі сеў над высокаю кручай. Дняпро перад ім разаслаў бліскуча-барвістую гладзь, якая пышна гарэла вясёлкавым розпацьветам. Там, дзе тонула ў Дняпры вячэрняе сонца, там яскрава гарэла гарачая кроў, а чым далей ад сонца, тым больш было хваравітае бледасьці й сіні, пакуль зусім не чарнеў Дняпро глухой вароненай стальлю. А за Дняпром на голым і чыстым лузе хадзілі коні—бліскучыя цацкі—і з тлумным гоманам пералятаці гракі. Там было многа прастору і многа прывабнай далёкасьці.

Дзіўны настрой апаў на Лясьніцката. На душы і ў сэрцы стала цудоўная яснасьць, як і ў гэтым чыстым восенскім вечары. І ў яснасьці той выразна адзначыўся кожны рух, кожны момант былога й сучаснага—стала так, быццам ён глядзеў у нейкую дзіўна-празрыстую глыбіню і бачыў у ёй сваё ўласнае жыцьцё—яго буйныя ўсплёскі і дробныя, ледзь прыметныя пералівы. Тады Лясьніцкі цалкам углыбіўся ў сябе, сабраў усю ўвагу і азірнуў стракатую чараду сваіх мінулых гадоў. І ўбачыў ён, як пасла́ліся там пераблытанай сеткай глухія сьцежкі-дарожкі, перапляліся пераплётам заклятым—няма ў іх, здаецца, ні канца, ні пачатку, і невядома, як разблытаць мудроны іх вузел, як раскрыць іх зачараваны круг. Па гэтых сьцежках блукаў ён і з гэтых сьцежак вышаў на роўны, шырокі шлях. На гэтым шляху многа злавеснае, чорнае небясьпекі, але ісьці па ім радасна, бо не сваёй ідзеш недалужнай сілай, а сілай дружнае грамады вялікага колектыву.

Лясьніцкі сядзеў, углыблёны ў сябе, і думаў—перабіраў драбніцы жыцьця свайго, правяраў яго няпэўны блытаны поступ. Калі-ж апаў на зямлю ліпучы вячэрні змрок і Дняпро хмура прытоіўся ў чорнай бяздоннай процьме, калі з вёскі нейкім выпадкам даляцеў сюды абрывак задорнага дзявочага сьмеху,—тады ў нутро к Лясьніцкаму аднекуль уліўся ціхі шчымлівы смутак, абудзіў чараду нявыразна-прыгожых воб-

разаў. Тады мякка запаліўся ў сэрцы агоньчык ружовае ласкі і замігцеў палахлівым сьвятлом салодкіх імкненьняў.

Гэты незразумелы смутак не пакідаў Лясьніцкага праз увесь той вечар. Мабыць, ён і зьявіўся прычынай таго, што Лясьніцкі да поўначы сядзеў за сталом і пісаў нешта пры цьмяным сьвятле маленькай газовачкі. Напісаўшы, ён уважна перачытваў, задумляўся на момант, моршчыўся, ірваў сьпісаную паперку і браўся пісаць нанова. Толькі тады, як ужо больш не асталося паперы, ён спыніў гэтую працу і стаў залепліваць у канвэрт апошнюю сьпісаную паперку.

Вось што было ў ёй напісана:

*„Дарагі таварыш Ніна!*

Неяк дужа нядобра, што мне прыходзіцца пісаць Вам пра гэта, а не гаварыць. Вінават тут выключна сёньнешні дзень, які я правёў у сваёй роднай вёсцы. Гэты дзень даў мне нямала радасьці. Мяне сяляне дужа добра сустрэлі і верылі мне. Я гаварыў з імі гадзіны тры. Мне гэтыя адносіны асабліва прыемны таму, што (помніце, я апавядаў Вам?) паміж мной і вёскай была такая дзіка-глухая сьцяна варожасьці. А цяпер я ўжо свой тут, зусім свой... Адылі гэта ня мае непасрэднага дачыненьня да таго, аб чым я пішу Вам. Сёньня надвячоркам я хадзіў на Дняпро. У мяне быў нейкі дзіўны настрой—мне выразна ўяўлялася ўсё жыцьцё маё, я разглядаў яго так, быццам стаяла яно ў мяне на далоні. Я азіраўся назад і бачыў там многа блытанага, цёмнага. А наперадзе мне ўяўляўся роўны, шырокі шлях, па якому так лёгка і радасна йсьці. Я ўяўляў сабе гэта, і мне было добра так, лёгка, здавалася, што ў жыцьці маім усё цяпер, як мае быць. А потым нейкі раптоўны смутак напамянуў мне, што яшчэ чагось не стае. Я ня ведаю, можа гэта ад вёскі, ад прыгожага ціхага вечару... Тады я ўспомніў, што калі Вы праводзілі мяне на вакзал, дык у Вашых шэрых любых вачох („любых“ старанна замазана) гарэла напамінаньне аб нечым недаказаным і патрэбным. Можа я памыліўся? Яшчэ вось што, Ніна. Часамі трэба ў жыцьці блізкі таварыш—бліжэйшы за іншых,

зусім блізкі, родны, любімы... Вось гэта мусіць па ім і смутак быў у мяне... Вы прымецілі, Ніна, што паступова ў нас з Вамі завязалася шчырая таварыская блізкасьць? Гэтая блізкасьць і дае мне права гаварыць Вам аб гэтым усім. Можна было-б і маўчаць пакуль-што, пагаварыць пры сустрэчы, але вінават у гэтым сёньнешні дзень... ды яшчэ Вашы шэрыя вочы... там, на вакзале... Таму я й пішу Вам адсюль і прапаную дагаварыцца аб тым, каб нашай дружбе і блізкасьці надаць больш пэўныя і сталыя формы... У нас наперадзе дужа многа барацьбы і працы—мо' прыдзецца і абшаснуцца часамі... Сапраўды, Ніна, будзе нам куды лепш, калі мы пойдзем разам удвух і будзем адзін аднаго падтрымліваць... Як вы думаеце?..

Напішэце мне на адрас батальёну.

Ваш *В. Лясьніцкі*".

Заляпіўшы канвэрт, Лясьніцкі яшчэ сядзеў колькі хвілін у глыбокай задуме. Патым устаў і, ідучы спаць, заспакоена прашаптаў:

— Так будзе лягчэй і мне і ёй...

(Канец)

## Кнігі таго-ж аўтара:

ПАД СОНЦАМ, апавяданьні. Выд. Белдзяржыдавецтва. 1925 г. Ст. 100. (Разышлася, выходзіць 2-ім выданьнем).

ГОЛЫ ЗЬВЕР, аповесьць. Выд. Белдзяржвыдавецтва, 1926 г. Ст. 95. Цана 35 к.

42 ДАКУМАНТЫ, апавяданьні. Выд. „Маладняка“, 1926 г. Ст. 68. Цана 30 к.

ПЕЛА ВЯСНА, апавяданьні. Выд. „Маладняка“, 1926 г. Ст. 48. Цана 25 к.

У ВІРЫ ЖЫЦЬЦЯ, апавяданьні. Выд. Белдзяржвыдавецтва, 1927 г. Ст. 225. Цана 1 р. 40 к.

## Кнігі таго ж аўтара:

ПАД СОНЦАМ, апавяданьні. Выд. Белдзяржвыдавецтва. 1925 г. Ст. 100. (Разышлася, выходзіць 2-ім выданьнем).

ГОЛЫ ЗЬВЕР, аповесьць. Выд. Белдзяржвыдавецтва, 1926 г. Ст. 95. Цана 35 к.

42 ДАКУМАНТЫ, апавяданьні. Выд. „Маладняка", 1926 г. Ст. 68. Цана 30 к.

ПЕЦЯ ВЯСНА, апавяданьні. Выд. „Маладняка", 1926 г. Ст. 48. Цана 25 к.

У ВІРЫ ЖЫЦЬЦЯ, апавяданьні. Выд. Белдзяржвыдавецтва, 1927 г. Ст. 225. Цана 1 р. 40 к.

